## 8 хвілін ± жыццё

*Ну, прыкладна так:*
*святло ад Сонца да Зямлі*
*даходзіць за восем хвілін,*
*за гэты час якраз можна*
*памыцца-пагаліцца,*
*глянуць у люстэрка,*
*і далей усё адбываецца*
*з хуткасцю святла:*
*людзі, гады́, кнігі,*
*і адзінае, што гэтаму*
*можна супрацьпаставіць —*
*гэта другое люстэрка,*
*і тады ў анфіладзе*
*адлюстраванняў, якая*
*разгортваецца таксама*
*з хуткасцю святла,*
*усё вернецца, бо ўсе*
*люстэркі насамрэч*
*задняга віду.*

*Аляксандар*
*Лукашук*

# Дзясяты паверх

Недакументальныя творы

Мінск
«Галіяфы»
2015

УДК 94(476)
ББК 84(Беи)
Л84

**Лукашук, А. М.**
Л84 Дзясяты паверх: недакументальныя творы / Аляксандар Лукашук. — Мінск : Галіяфы, 2015. — 704 с.
ISBN 978-985-7021-55-0.

Кнігу беларускага пісьменніка Аляксандра Лукашука склалі мастацкія ўспаміны, недакументальныя эсэ, літаратурныя сны і вершы на замежнай мове.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7021-55-0**

Кніга быцця

Кніга зыходу

Кніга плачу

Кніга песняў

Кніга імя

Кніга царстваў

Кніга хаосу

Кніга сноў

Кніга tattoo

# Трэцяя свечка

Першы бык быў страшна прыгожы — адліты з жывога металу і бліскучы, як антрацыт, з бязлітаснымі рагамі на крутой лобнай косці, кароткай шыяй і скульптурным торсам, перакручаным канатамі цяглiц. Праляцеўшы 60-метровую арэну секунды за тры, ён пратараніў аднаго каня, які паваліўся і прыдушуў пікадора, затым атакаваў другога вершніка. Кап'ё прабіла скуру на загрыўку, пырснула кроў, але бык упарта працягваў бадаць панцыр, што закрываў конскае бруха, аж пакуль матадор чырвоным пасам не выманіў яго за сабой на сярэдзіну рынга.

Я сядзеў каля самага бар'ера, над месцам для *toreros* — матадора і яго *cuadrilla*: трох бандэрыльераў, якія ўтыкаюць навостраныя сталёвыя сцяжкі ў карак быку, двух пікадораў, якія раз'юшваюць яго кап'ём, і мечаносца, які мяняе зброю. Быў канец красавіка, неба над Мадрыдам з раніцы вагалася паміж дажджом і снегам, нізкія хмары так безнадзейна абклалі далягляды, што падзел квіткоў на карыду «на сонцы» (дарагія) і «ў цені» (нашмат даражэйшыя) выглядаў *broma ridícula,* недарэчным жартам.

Я апрануў ўсё, што меў, кашулю, швэдар, пінжак пад куртку, закруціўся шалікам, але ўсё адно холад на бетонных трыбунах працінаў так, што ў прамежку паміж парадам, які адкрывае цырымонію, і першым боем, выйшаў у бар і папрасіў двайны віскі. Бармэн працягнуў высокі келіх — віскі быў з лёдам. Давялося ўзяць, і я вярнуўся да свайго месца каля бар'ера, што, як вядома, з'яўляецца адной з умоваў шчасця (гэтак сцвярджаў Эрнест Хэмінгуэй: «Для мяне рай быў бы вялікай арэнай для бою быкоў, дзе ў мяне два месцы каля бар'ера …»).

Сезон толькі пачынаўся, і на рынг выходзілі *novilleros* — маладыя матадоры, тры хлопцы ў залатым шытве, *traje de luces*, тонкія

і сур’ёзныя. Быкі таксама былі *novillos* — трохгодкі, але калі я пабачыў іх рогі над магутнымі тулавамі, дык зразумеў, чаму на пляцы каля арэны стаіць помнік вынаходніку пеніцыліну доктару Флемінгу, перад якім бронзавы матадор здымае сваю *montera* — двухвухі капялюш. Я прыехаў на *Plaza de Toros de Las Ventas* за пару гадзін да пачатку карыды, і калі абыходзіў плошчу вакол арэны, заўважыў на службовым двары дзве санітарныя машыны.

Трохі сагравала, што я быў у правільным месцы ў правільны час. «Бой з быком, які  найлепш глядзець упершыню — гэта *novillada*, і найлепшае месца, дзе глядзець *novillada* — гэта Мадрыд». Так Хэмінгуэй пачынае чацвёрты раздзел сваёй самай дакументальнай кнігі прозы «Смерць пасля палудня». Я патрапіў якраз на *novillada — маладыя супраць маладых.*

Калі бык у канцы *faena,* рытуальнага танца, у якім чалавек дражніў утыканага бандэрыльямі звера, амаль абдымаўся з ім і дэманстраваў халаднакроўную абыякавасць, раптам падхапіў партнера на рогі, шпурлянуў у паветра і затым кінуўся бадаць скручанае цела, выбеглі іншыя тарэра, і раз’юшаная акрываўленая паўтонная махіна пакінула ахвяру і пагналася за прывіднымі чырвонымі сцягамі. Матадору дапамаглі падняцца і падвялі якраз пад тое месца, дзе я сядзеў. Гэта быў нават не малады мужчына, а юнак, хоць і паўднёвага тыпу, там сталеюць рана, але засяроджанасць, імкненне захаваць вонкавы спакой і не паказваць боль былі занадта выразныя і выдавалі нядаўняга падлетка.

Ён вярнуўся на арэну, пакланіўся, не падымаючы вачэй, узмахнуў пунсовай мулетай і працягнуў танец, ад якога замірала сэрца, пакуль бык не засоп, не прыгнуўся і не задумаўся, атакаваць ці не, і пакуль ён чакаў, шырока расставіўшы ногі і пакачваючы цяжкай галавой, тарэра памянялі шпагу на баявы клінок, матадор выцягнуўся на дыбачках, як струна, замёр, і наступнае, што я пабачыў, быў ужо сталёвы эфес у бычыным загрыўку. Бясконцыя тры секунды нічога не адбывалася, а потым падламаліся пярэднія ногі і залітая крывёй мускулістая туша павалілася на бок. Трыбуны рассыпаліся ў апладысментах, устрапянулая белая хустка, два кані павалаклі *toro* па коле, аркестр зайграў *pasodoble.*

Здымак гэтага быка, не фінальны, а перад атакай, цяпер стаіць на вокладцы першага тому, у якім сабраныя мае дакументальныя даследванні гісторыі Беларусі. Я доўга вагаўся, як назваць той том з падарожжамі ў вельмі розныя гады беларускага XX стагоддзя — там і 1920-я, і 1930-я, і 1950-я, і 1960-я, і зусім непадобныя героі — трынаццаць амерыканцаў, які займаюцца гуманітарнай дапамогай, сталінскія чэкісты, якія балююць у вёсках і сталіцы, затым гісторыя юнака, які гераічна вяртаецца на радзіму ў разгар халоднай вайны, і на завяршэнне — жыццё ў савецкай правінцыі будучага забойцы амерыканскага прэзідэнта, няўлоўнае, як матылёк.

Але калі мой сябар, мастак кнігі і не толькі Генадзь Мацур, якому я паслаў пару фотак з карыды, раптам выбраў адну з іх на вокладку, туды стала, быццам толькі гэтага чакала, назва, якую раіў другі мой сябар, паэт гісторыі і не толькі Уладзя Арлоў: «Вяртанне нацыяналіста».

Хто б мог падумаць.

Аказалася, што менавіта дзеля гэтага я сядзеў у шэры красавіцкі дзень на арэне *Las Ventas,* марна спрабуючы сагрэцца віскі, у якім лёд не толькі не растаў, але, па-мойму, яго нават пабольшала, і ўсмоктваў кожную хвіліну карыды, як пясок імжу.

Пасля першага бою ўсё паўтарылася яшчэ пяць разоў. Кожны матадор біўся з двума быкамі, і хоць раз, але ўзлятаў у паветра, і хутка ўжо нельга было адрозніць, дзе чыя кроў. Аднак заўсёды вяртаўся на арэну. Аднаго ўрэшце рэшт вынеслі на санітарных насілках — але пасля таго, як ён усё ж закалоў свайго суперніка, і толькі потым сам апусціўся на запырсканы жоўты пясочак.

На вокладцы гэтай кнігі — яшчэ адзін са здымкаў з той карыды. Большасць знаёмых, якім я іх паказваў, паставілася да публічнай дуэлі з абавязковым лятальным канцом, мякка кажучы, няўхвальна. Я падазраю, што рэч не толькі ў тым, што ў XXI стагоддзі гуманізму стала больш, чым у XX, але і ў тым, што ён стаў трохі іншым, больш даступным і таму больш выбраным і часам самалюбным.

Хэмінгуэй называў бой быкоў адзіным відам мастацтва, дзе аўтару пагражае смерць, а ступень майстэрства вызначаецца толькі ягоным уласным гонарам. Ён не ведаў гісторыі беларускай літаратуры.

Карыда, верагодна, не мае будучыні ў форме танца са смерцю, у якой яна толькі і мае сэнс. Літаратура, магчыма, таксама не мае будучыні — так, прынамсі, казаў часам Васіль Быкаў. Але калі яна мае сэнс, дык якраз ў такой форме, дзе разам зыходзяцца усе складнікі жыцця, а ступень набліжэння да смерці вызначаецца толькі ўласным гонарам. Быкаў пісаў менавіта так.

Тое выказванне Хэмінгуэя пра шчасце мае працяг: «… два месцы каля бар'ера, ручай са стронгай паблізу, і каб б ніхто там больш не лавіў, і два прыгожыя дамы ў горадзе; у адным была б жонка і дзеці, і я б захоўваў ім вернасць і кахаў па-сапраўднаму і добра».

Калі я першы раз пабачыў гэтыя словы ў нейкім літаратурным цытатніку, трохі здзівіўся — а што з другім домам, дзеля чаго, можа быць — для пісання? Верагодна — так, аўтар, мабыць, не захацеў дагаворваць, бо цаніў эканомнасць, падтэкст, сілу маўчання, якая сама данясе чытача да прыстані прызначэння. Але потым, калі пабачыў увесь ліст 26-гадовага аўтара да сябра, таксама пісьменніка,  дык высветлілася, што ўкладальнікі падборкі цытатаў вырашылі праявіць гуманізм і паклапаціцца пра рэпутацыю нобелеўскага лаўрэата: «… а ў другім доме ў мяне было б дзевяць каханак-прыгажунь на 9 розных паверхах».

Я ўсё ж меў рацыю — сапраўды, пра пісанне.

У маім першым томе выбранага, «Вяртанні нацыяналіста» (2014), калі верыць выходным дадзеным, сабраная дакументальная проза. У гэтым, хутчэй, наадварот. Тут на дзевяці розных паверхах сабраныя дзевяць магчымых розных кніг. У падвалах і на гарышчы засталіся апавяданні, вершы, сцэнары, эсэ, артыкулы, рэпартажы і інтэрв'ю, пераклады, тэксты, напісаныя адразу на замежных мовах — «вусялякая вусячына» за апошнія сорак гадоў. Яна не ўключана ў гэты збор, так што гуманізм да чытачоў праяўлены, за што — і не толькі за гэта — трэба дзякаваць майму сябру Андрэю Федарэнку, які дапамагаў складаць і даводзіць да ладу гэты том.

Аднойчы ў царкве я спытаўся, як правільна ставіць свечкі — і атрымаў параду: адну за тых, каго любіў, другую за тых, каго любіш.

Я папрасіў тры. Трэцюю — за дзясяты паверх.

*Бацькам аўтара,*
*якія ні ў чым не вінаватыя*

## Заслужаная крытыка

... «Як ты мог напісаць такое, — сказала мне маці, —
«мяне зрабілі мае бацькі», ты наглядзеўся тэлебачання,
ты што, не мог напісаць, як людзі, — «я нарадзіўся...»
ці, калі хочаш прыгожа, напішы «мая мама нарадзіла
мяне», і што ты напісаў пра дзеда, гэта табе дзядзька
расказаў пра яго загулы, я ведаю, вы сядзелі там ля
нашага калодзежа і ён табе расказаў, канечне,
ён старэйшы за мяне, я ж дзявятае дзіцё, у яго самога
нават сын, мой пляменнік, старэйшы за мяне, ён іншае
памятае, а чаму не расказаў, як дзед адмовіўся пісацца
тутэйшым і на сходцы выйшаў і кажа, мы беларусы,
так усе і запісаліся, і радным яго абіралі, і палякі
заўсёды віталіся з ім першыя, але ты лепш напішы пра
Колю Федарука, яго арыштавалі ў 1948-м і прысудзілі
10 год лагераў за агітацыю і прапаганду, мы вучыліся
ў педвучэльні разам, ён быў разумны, прыгожы, мне
сімпатызаваў, і я ўсе гэтыя гады пра яго памятала і
ніколі больш не бачыла, ты ж гэта не пішы», і я гэта
не напісаў, як, верагодна, і шмат што яшчэ, бо што мы
насамрэч ведаем пра наша жыццё апроч таго,
што пабачылі, пачулі і прыснілі, і таму
пачынаць трэба з падушак.

## Падушкі маіх цётак

Мяне зрабілі мае бацькі, а іх — іхнія, таму правільна пачаць з каго памятаеш, з бабулі, але яшчэ трэба ўдакладніць, што гаворка пра бацькаву маці Ярыну, а не матчыну Катэрыну, і чаму так (бо Ярына дажыла аж да незалежнасці і нават чула, як я гаварыў пра гэта па радзіве, а Катэрыну адпявалі ў вясковай драўлянай царкве ўзімку, калі мне споўнілася толькі дзевяць год, і не памятаю зусім, як нёс крыж наперадзе невялікай працэсіі ўніз з царкоўнага ўзгорка, праз мост над замерзлай рэчкай і зноў угору, да выдаўбленай у сухой пясчанай зямлі магілы праваруч ад дзеда, які там адпачываў ужо дваццаць гадоў?..), ці што, напрыклад, значыць — мая? хутчэй, я — яе, як і іншыя ўнукі, якія паміж сабой звалі яе проста баба (я не мог), ёй заўсёды было 50 ці 100 гадоў, усё жыццё яна рвала зелле, давала свінням, капала бульбу, карміла ўнукаў, якіх прысылалі на лета яе дачка і чатыры сыны, хаця тут складаней, бо старэйшы сын разам з грузавіком пайшоў пад лёд пасярэдзіне Волгі, а з яго ўдавой пабраўся малодшы сын і гадаваў пляменніка як сына, і двойчы нявестка з мужам жыла спачатку ў адной хаце з бабай і дзедам, у асобным пакоі з чатырма вокнамі ў сад, там стаялі два ложкі з бліскучымі нікеляванымі шарыкамі і накрытымі кружаўнымі накідкамі падушкамі нечалавечай велічыні, якія ўзвышаліся аж да верху шафы, і такія ж волатаўскія падушкі былі ў абедзвюх бабуляў, ва ўсіх маіх цётак, ва ўсіх нашых суседак, імі ганарыліся, яны былі абавязковай часткай пасагу, але спаць на іх можна было толькі седзячы, — чаму яны былі такія вялікія? Адказ я пачуў у адным з замкаў, якімі, як грыбамі пасля дажджу, засыпаная Цэнтральная і Заходняя Еўропа, — каб не памерці ў сне, бо яшчэ Лукрэцый пісаў, што ў сне душа распадаецца на часткі і яны вылятаюць з цела, і лічылася, што калі чалавек сядзіць, душа не вылеціць, магчыма, гэтая засцярога і рабіла падушкі ў хатах маіх

бабуляў і цётак выстарчана тугімі і гладкімі, як шчака немаўляці, і вялікімі, як для каня: на паўложка, потым не заставалася месца, каб выцягнуць ногі, і спалі так, і душа не вылятала, ніхто не паміраў у ложку ў сне, і ўвогуле ніхто не паміраў.

## Сон гісторыі

Я думаю, толькі спальнымі звычкамі і можна патлумачыць, як мая бабка перажыла такую калекцыю ўладароў, якія думалі, што кіруюць яе жыццём: цара Мікалая, які пасля пачатку вайны з кайзерам Вільгельмам прымусіў яе разам з мільёнамі праваслаўных жыхароў захаду імперыі выправіцца ў бежанства ў Сібір, перажыла Часовы ўрад Керанскага, першых камісараў Леніна, начальніка Польшчы Пілсудскага, першыя саветы Сталіна, новы парадак Гітлера, другія саветы Сталіна, потым кукурузнага Хрушчова, брывастага Брэжнева, не заўважыла Андропава з Чарненкам, здзівілася таму, што стала гаварыць радзіва пры Гарбачове, але не паверыла, што можна вярнуць зямлю, якую купіў мой дзед Васыль на пачатку 1920-х, калі вярнуўся з заробкаў з Амерыкі, і з-за якой сям'ю ўнеслі ў спіс кулакоў і мусілі другі раз адправіць у Сібір летам 1941-га, ужо й дату пагрузкі ў эшалон прызначылі, але з-за каварства фюрэра, які аказаўся да таго ж вераломным, з чыгуначным рухам пачаліся перабоі, і вось вайну перажылі, а ці перажылі б ГУЛАГ — наўрад ці, ніхто з высланых раней не вярнуўся, і я не напісаў бы гэты сказ, які раней адназначна трактаваўся б як усхваленне Гітлера, і зараз, напэўна, знойдуцца такія ж чытачы, і я чамусьці падазраю, што вось яны і папаўняюць заўсёды шэрагі спецчыгуначнікаў нквд-гестапа альбо пішуць падручнікі гісторыі па дзяржзаказе, хаця насамрэч уся справа ў падушках.

## Дзве сястры — дзве мовы

«Дзе» для мяне такое ж гістарычнае сямейнае пытанне, як «чаму», маючы на ўвазе месца майго нараджэння, а не — хто з кім ці дзе што ляжыць, пра што я нічога такога не ведаю, апроч таго, што малодшая сястра бабулі Ярыны закапала ў вайну машынку «Зінгер» так, што ні немцы, ні партызаны не знайшлі, хаця нехта з суседзяў стукнуў народным мсціўцам, якія ўначы наведаліся, пératрэслі ўсё, пагражалі застрэліць, але ў выніку забралі Маёльскі фарфоравы посуд, вельмі ж патрэбны ім у лесе, і сышлі, а амерыканская машынка шые да сёння, дык вось наконт дзе: мая бабуля і яе родная малодшая сястра, жывучы ўсё жыццё ў адной вёсцы, толькі на розных яе канцах, пасля таго, як бабуля выйшла за дзеда, хоць і плакала, бо як жыць на гаспадарцы з такім, толькі мучыцца, бо дзеду адарвала тры пальцы на левай руцэ на металургічным заводзе ў Дэтройце і ён усё жыццё гаварыў пра нейкую амерыканскую пенсію, якая яму належыць, але дзеці ведалі, у якой краіне жывуць, і ўсяляк ад гэтай ідэі адхрышчваліся, аднак страхі бабчыны былі дарэмныя, рабіць ён мог усё, і дзяцей, і касіць, і сталярнічаць, і цяслярыць, і кабана забіць, і мяне любіў праэкзаменаваць пад сто грамаў у нядзелю як па ангельску лыжка? Spoon! А відэлец? Fork! A what is your name? My name is Sasha and I am from — і тут палягала праблема, бо мая бабуля і яе сястра, жывучы ў адной вёсцы, называлі суседні горад, дзе я нарадзіўся, па-рознаму, праўда, яны й сваю вёску называлі па-рознаму: першая — з трыма глыбокімі «о» — Рогозно, з націскам на другі склад, другая — з адным выразным «о», але націскам на «і» — Рогізнэ, і гэта нягледзячы на афіцыйны надпіс белымі літарамі на сінім дарожным знаку «Рагозна» на шашы міжнароднага значэння Brest-Moskva, на якую выходзіла задняя сцяна хлява.

## Дзе мяне зрабілі

Гэта я ўсё яшчэ спрабую напісаць першы сказ, патлумачыць, адкуль узяўся — з Бэрэстя, як казала бабуля, з Бярэсьця, як вымаўляла яе сястра, из Бреста, як вучылі ў школе, z Brześća nad Bugiem, як казалі нашы сваякі з Польшчы, яны яшчэ часам казалі Brześć Litewski, можна яшчэ і בריסק, што на ідышы гучыць прыкладна як «Брыск», і, канечне, from Brest-Litovsk, як удакладніць мой адказ Роберт Конквест, легендарны аўтар класічнага даследавання савецкай гісторыі «Вялікі тэрор», калі мы будзем гаварыць пра беларускую савецкую гісторыю, а мая новая сяброўка і яго шматгадовая памочніца Эмі Дэсаі не будзе верыць, што сапраўды ёсць такая краіна, адкуль я ўзяўся, і горад, падобны да мячыка ў пінг-понгу, бо ўваходзіў то ў Кіеўскую Русь, то ў польскія каралеўствы, потым у ВКЛ, зноў у Польшчу, потым у Расею, затым у БНР, далей ізноў па кругу, гэта не лічачы рускіх, мангольскіях, нямецкіх, французскіх і іншых гасцей, якія пачуваліся тут гаспадарамі, але што вы хочаце, затое ў цэнтры Еўропы, усё недалёка, хваліўся я Эмі, пакуль не пачуў яе сямейную гісторыю — індыйскае племя, якое не ўжылося з суседзямі і мусіла ратавацца аж у Афрыцы, дзе з новымі суседзямі стварыла Кенію, у тым ліку ў ложку, што, канечне, вельмі фігуральна, бо дзе ж там ложкі, з нікеляванымі шарыкамі ці без, але другая, не індыйская палова яе продкаў — Маасаі, пародзістая афрыканская гвардыя, мужчыны, створаныя для палявання, і жанчыны, створаныя для мужчынаў, — дык вось аднойчы Эмі прыйшла ў мой маленечкі офіс у Гувераўскай вежы, зняла новы піджак колеру майскай травы, які купіла напярэдадні ў гандлёвым цэнтры Стэнфардскага ўніверсітэта, паказала мне лэйбл: Made in Belarus і сказала «Хм, дык і цябе там зрабілі? Няблага ў вас робяць…»

## Таварыш Берыя не апраўдаў даверыя

Мяне зрабілі тут і тады, калі, дзякуй Богу, яшчэ не пачалі лётаць у космас і напаролі дзірак у небе, пасля чаго, як вядома, надвор'е сапсавалася назаўсёды, але тады Берасце так замяло снегам, што бацька не мог праз гурбы дабрацца да вокнаў раддома, але спачатку трэба падзякаваць Богу за выбар часу, тут, праўда, існуе маленькая праблема, як лічыць: як напісана ў паперцы, ці як вучыць, напрыклад, каталіцкая царква, г.зн. на дзевяць месяцаў раней, і, калі па максімуму, абстаноўка выглядала так: краінай з Крамля кіравалі таварышы Хрушчоў, Малянкоў і Варашылаў, бо іх таварыш, які кіраваў раней, ужо не меў праблемы з дыханнем Чэйна-Стокса, з Мінска кіраваў таварыш Паталічаў, хаця меўся кіраваць таварыш Зімянін, якія атрымаў заданне ад таварыша Берыя адрадзіць беларускую мову, але не паспеў, бо Берыя аказаўся мусаватысцкім і ангельскім шпіёнам, не выключана, што калі б яго не выкрылі і не выканалі прысуд, дык адрадзіў бы ангельскую, во б тады рванулі наперад, і менскі таварыш таварыша Берыі таварыш Цанава, арганізатар партызанскага руху і галоўны гэбіст, таксама аказаўся шпіёнам і таксама сканаў у камеры за пару месяцаў да майго нараджэння, але я яшчэ сустрэў людзей, якія з ім працавалі, і нават адведаў загарадную рэзідэнцыю пад Мінскам, дзе некалі гулялі паўліны і пасвіўся горны казёл, але той дзень, калі я пачынаўся, у энцыклапедыях выглядае вольным, хаця ў свеце адбываліся розныя рэчы, напрыклад, калі верыць розным дабл-ю, «Вялікі» Джо Тэрнэр спяваў блюз «Калі ты памятаеш», які ён дагэтуль у пінжаку, гальштуку з набрыялінінымі валасамі спявае на http://www.youtube.com.

## Не памёр

Ляснік быў далёкім сваяком, і дзед Васыль заўсёды меў на сена сваю паляну, якая хавалася ў нізіне паміж густога змешанага лесу, трава ўжо была скошаная, і мы прыехалі на двух роварах з прыкручанымі да рамы драўлянымі граблямі, каб сушыць сена — перагарнуць усе пракосы, потым скласці падсохлую траву ў купкі, выехалі на досвітку, калі было зябка, уначы быў дождж, і дзед быў у кароткім кажушку, які цяпер ляжаў пад кустом разам з сумкай са сняданкам, мы праходзілі пракос за пракосам, сонца на адгароджанай ад ветру паляне паліла ўсё мацней, было душна і хацелася піць, круціліся стракозы, у адным месцы паміж купінамі яшчэ стаяла вада, па якой гойсалі жукі-плывунцы, вада была празрыстая і відаць было кожную травінку, да дзедавага кажуха з прыпасамі ісці было далёка, я нахіліўся, прываблены чысцюткай лінзай, і выпіў некалькі прыгаршчаў, і наступнае, што памятаю — мяне круціць, дзед накрывае мяне кажухом, холадна і я прашу яшчэ нагрэбсці на мяне сена, потым мы доўга ідзем у вёску, дзед вядзе два ровары, я трымаюся за багажнік і амаль нічога не бачу, і ўвесь наступны тыдзень то правальваюся ў бяспамяцтва, то прачынаюся ад смагі, балотная ліхаманка трасе мяне, як асінавы лісцік, мясцовая лекарка ставіць недарэчны дыягназ і мне даюць лекі ад грыпу, бацькоў няма, яны паехалі да сваякоў у Польшчу, я то задыхаюся, то залажу пад вялізныя падушкі, каб сагрэцца, але аднойчы раптам прачынаюся і прашу бабулю зрабіць яечню, і яна з вялікай палёгкай уздыхае, і дзед пытаецца: саша, what is your name?

## Не там і не тады

Ці то кантрацэпцыя была не ў пашане (за што мне асабіста трэба быць удзячным), ці то планаванне сям'і было цалкам перадаверана Богу (за што мне зноў-такі трэба быць удзячным), але маці была аж дзявятым дзіцём у дзеда Пракопа і бабы Катэрыны (тут можна проста пазайздросціць), і нават яе пляменнікі былі старэйшыя за яе, і як самую малую, бацькі і сёстры песцілі яе, і яна такі не навучылася, напрыклад, рабіць парохі, якія ядуць так: хапаюць рукой з патэльні, пажадана з наліплым кавалачкам скваркі ці падсмажанай падгарэлай цыбулінкі, падкідваюць у паветра і затым усмоктваюць, праломваюць падсмажаную корачку і адчуваюць, як шарык ператвараецца ў мяккую масу бульбянога пюрэ, што выпаўзае і выпырсквае з-пад аскепкаў корачкі, а потым глыток халоднага, толькі са студні, дзе яно вісіць у жалезным закрытым цыліндры, малака з ранішняй дойкі, густога і пахкага, і папёрлі на рэчку, толькі ровар падскоквае там, дзе касматыя купкі травы амаль перакрываюць вузкую сцяжынку праз луг, і прывязаная да рамы арэхавая вуда рассякае паветра, вось якія парохі рабіла матчына сястра і мая цётка Насця, якая жыла ў палове бацькоўскай хаты, куды я прыязджаў на лета ды на Раство, жыла адна, бо мужа забралі ў войска ў 1944 і забілі пад Варшавай, разам з тысячамі такіх жа неабучаных заходнікаў, і цётка векавала адна, хоць і ведала, што муж кахаў іншую, але бацькі прымусілі яго пайсці ў больш заможную сям'ю, сама, за пустыя «палачкі» на працадні гадавала сына, які не паспеў пабачыць бацьку, а праз дваццаць год і ён загінуў пад коламі аўтобуса, калі ўначы вяртаўся са спаткання з дзеўчынай, проста на цэнтральнай гарадской плошчы, кіроўцу далі два ці тры гады, ягоныя бацькі прыходзілі і няўклюдна і страшна спрабавалі адкупіцца, а я потым чытаў вершы нябожчыка Вані, сшыткі з якімі знаходзіў на гарышчы вясковага дома:

ён чуў паэзію, але крыху недачуваў, бо неяк узімку цётка з бабуляй пайшлі ў лес секчы лазу на дровы, а ён прабегаў адзін цэлы дзень на двары, застудзіў вуха, лячылі няўмела, малы адпакутаваў, так і пакінулі, а паколькі не ладзіліся адносіны з нявесткай — жонкай старэйшага брата, дык грашылі на яе — маўляў, не пусціла малога ў хату пагрэцца, і хто ведае, можа, праз дваццаць год якраз таму ён не пачуў начны аўтобус, які раптам паехаў напрасткі праз плошчу, але ўсе здагадкі пра прычыны і наступствы — гэта здагадкі і меркаванні пра віну і адказнасць, бо нясцерпна хочацца, каб было інакш, а калі немагчыма, дык хаця б, каб было зразумела, што ж было не так, дзе пачатак, а пачатак якраз і невядомы, бо калі б калгас дапамагаў удовам, хіба пайшлі б жанчыны за пяць кіламетраў па снезе па дровы, ці калі б лекар знайшоўся талковы, ці калі б дзяўчына пакінула кавалера да раніцы, і можна працягваць да бясконца тое, што апісваецца геаметрычна бязлітаснай формулай: быў у няправільным месцы ў няправільны час, там і тады, дзе і калі нельга было быць, і на гэтым пачатак і адначасна канец прычыннага ланцужка, а далей пачынаецца post-mortem, мемуарны навабуд замест паталагаанатоміі, якая, калі цётка памерла, навукова суха засведчыла, што цела не засталося — усё згаравалася і выгарэла, было спрацаванае, выціснутае ўшчэнт на калгас, на займы, на спадарожнікі, на Гагарына і Цітова, на вадародную бомбу, на пяцігодку, на дапамогу Кубе і Анголе, толькі падушкі яшчэ доўга ўрачыста ўзвышаліся над ложкам у чыстым пакоі, хаця сама яна спала звычайна на лежаку на кухні з земляной падлогай.

## Невядомы дзед

Калі ў першую паваенную зіму ў дзеда Пракопа рэквізавалі каня на лесанарыхтоўкі, а самога не ўзялі па ўзросце, ён пашкадаваў каня, бо ведаў тых нарыхтоўшчыкаў, і паехаў сам, надарваўся, прастыў, захварэў і хутка памёр, і я пра яго ведаю толькі з расказаў: быў невысокі, але горды й зухаваты, польскае начальства яго паважала, хоць пісаўся праваслаўным беларусам, а калі прыйшлі немцы і паставілі свой штаб у нашым садзе, дык армейскі генерал сказаў яму: гер Сахарчук, у вас два дарослыя сыны, не аддавайце іх у паліцыю, гэтую вайну мы не выйграем і Саветы вернуцца, а гэта быў чэрвень 41-га, вайна для 2-й арміі Групы Цэнтр пачыналася, як і папярэднія — у Бельгіі ды Аўстрыі, салдаты вермахта пераехалі мяжу ў запламбаваных вагонах, без дагляду, спакойна дачакалі раніцы 22 чэрвеня на Берасцейскім вакзале, адчынілі дзверы і пачалі ўсталёўваць новы парадак, я не ведаю прозвішча таго нямецкага суразмоўцы майго дзеда, энцыклапедыі даюць імя толькі камандуючага групай Цэнтр фельдмаршала Фёдара фон Бока, але салдацкая парада не толькі ўратавала маіх дзядзькоў, але, канечне ж, шмат значыла і для мяне — з таўром пляменніка фашыстоўскіх паслугачоў жыццё за савецкім анкетным часам было б зусім іншае, прычым магчымыя два павароты — глухое існаванне на сацыяльным дне, ці наадварот, амбітны імпэт заслужыць давер, выслужыцца, справа тут менавіта ў імпэце, які не ведае межаў, бо мараль рэч асабістая, а абставіны — не, і калі я аднойчы спытаўся пра дзеда свайго строгага дзядзьку, які не пайшоў у паліцыю, а партызанаў у ваколіцах не было, і дзядзька ўсё жыццё працаваў на зямлі, чытаў Біблію, быў царкоўным старастам і да апошняга даглядаў нашу драўляную царкоўку і вясковыя могілкі — ці можна было дзеда назваць маральным чалавекам, ён мне адказаў няпэўна, бо й выпіты мог, і пабытыся, і на споднiцы

заглядався, але я таксама ведаю, што дзед даваў прытулак цыганам на зіму, калі ніхто больш у вёсцы не хацеў пускаць сям'ю з малымі дзецьмі на пастой, а аднойчы пасля кірмаша конь прывёз яго дадому без прытомнасці і без грошай за жарабя і карову, і назаўтра ў хату пастукаў габрэй-шынкар з мястэчка і аддаў бабулі выручку — бо Прокоп так загуляв, шчо я думаю собі, трэба грошы сховаты, всі ёго знають і любять, гезунт хайт.

## Ну, не каліграф

Розніца ва ўзросце з бабуляй Катэрынай у нас была гадоў сто, і я мучыў яе з усёй жорсткасцю недаразвітага імбецыла: уцякаў, калі яна даглядала мяне, хаваўся ў хляве, а потым прыпіраў дзверы і яна не магла выйсці, аднойчы саштурхнуў яе з вузкай кладкі ў ручай і пасля сядзеў паўдня ў чароце, баючыся вяртацца дадому, чым напалохаў яшчэ больш, і хоць забі — не ведаю чаму, бо я любіў яе зусім не менш за другую бабулю, можа, проста таму, што старэчая няўклюднасць вельмі смешная, чалавецтва заўсёды ставілася да сваіх старых без сантыменту, і я быў у той першай дзікунскай фазе свайго чалавецтва, калі прыехаў у вёску на школьныя канікулы, яшчэ не навучыўшыся як след пісаць, але ўжо навучаны асновам марксізму, раптам пабачыў абразы, на якія бабуля малілася, і закрычаў, што Бога няма, ня-ма, я зараз плюну і мне за гэта нічога не будзе, і плюнуў, акцябронак fucking, і ніхто мяне за гэта не пакараў, калі не лічыць пакараннем, што я так і не навучыўся пісаць і сам свае каракулі на другі дзень не магу разабраць, і нават замест подпісу стаўлю абы-што, аднойчы мне пазваніла сяброўка з Лондана і кажа, што на яе адрас прыйшоў мой ганарар з «БіБіСі», і я папрасіў занесці чэк у банк і атрымаць грошы, але там трэба подпіс, запярэчыла яна, а ты закрый вочы і зрабі што-небудзь правай рукой, параіў я, э-не, сказала яна, гэта подпіс майго мужа.

## Шакаладная ды іншыя смерці

Што яшчэ пра вайну — мая маці ледзь не загінула ў першы ж тыдзень новага парадку, але не ад кулі ці бомбаў, не пад гусеніцамі танкаў ці на міне, а ад шакаладу — афіцэры пяхотнай часткі Вермахта, якія паставілі палаткі ў дзедавым садзе, пачаставалі наймалодшае дзіця, 14-гадовае дзяўчо, ніколі не бачаным чорна-карычневым дзівам у траскучай срэбнай фользе, і яна з'ела ўсё, што далі, а потым яе скруціла так, што думалі — капец, але не таму, што слодыч была атручаная, а таму што ад такой колькасці тлустай какавы пачаўся заварот кішак і шчасце, што побач быў нямецкі лекар, які паспеў яе ўратаваць ад салодкай смерці, за што ад мяне як ад чалавека асабіста зацікаўленага яму вялікі дзякуй, але чамусьці я зусім не ўдзячны амаль за тое самае камсамольцам, у якіх праз пару гадоў рукі не дайшлі яе забіць, хаця й пастанавілі, бо яна ўжо настаўнічала ў вясковай школцы, і не толькі вучыла чытаць і пісаць і малых і сваіх раўналеткаў, але ў 16 гадоў была дырэктаркай, а значыць, супрацоўнічала з акупацыйнай уладай і падлягала знішчэнню, дык вось да нямецкага лекара ёсць удзячнасць, а да камсамольцаў чамусьці няма, відаць, справа ў намеры, які не менш важны за вынік, фактычна значэння без намеру няма, бо, узяць, скажам, смерць як вынік, і, нягледзячы на яго незваротную завершанасць гэты вынік можа азначаць зусім рознае нават для аднаго чалавека — памерці ў сне (маладым? старым?), у авіякатастрофе (стукнула маланка? зламаўся рухавік? падклалі бомбу?), ад рака (пасля Чарнобылю? такая спадчыннасць? позна заўважылі?), скончыць самагубствам (няшчаснае каханне? здзекі? эўтаназія?), падавіцца рыбнай косткай, стаць ахвярай маньяка, ахвяраваць сабой для выратавання іншага, атрымаць смяротны вырак у судзе, і таксама трэба ўдакладняць — за што: за словы, за справы, за прозвішча бацькоў, з-за судовай памылкі, па загадзе, і вось так нават са-

мая агульная, звычайная, самая частая (разам з нараджэннем) у свеце рэч, цалкам і незваротна завершаная, але без таго, што было перад, пасля і вакол (і не забыцца пра падушкі!) — не азначае амаль нічога.

## Прамова Маркса на магіле Энгельса

Трэба было зрабіць плакат ці насценгазету, і выкладчык чарчэння, якога ў педвучэльні, дзе вучылася маці пасля вайны, любілі і паважалі, сказаў, што няма добрай ватманскай паперы, і пра гэта нізкапаклонства перад Захадам нехта адразу паведаміў куды трэба, і больш выкладчыка ніхто не бачыў, а да маці падышоў адзін з былых вучняў, які выбіўся ў энкавэдэ, і сказаў, што ж вы, пані вучыцелька, не пішаце ў паперах, дзе працавалі ў час вайны, а? яна адказала — не вучыла б — ты б застаўся непісьменным і сядзеў бы ў калгасе, і больш яе не чапалі, верагодна, не было нагоды, бо ні ў камсамол, ні ў партыю не ўступала, за мяжу не ездзіла, і за Сталіным, і за Хрушчовым, і за Брэжневым працягвала рабіць тое, што пачала яшчэ за Гітлерам — вучыла чытаць і пісаць, але калі яшчэ сама вучылася ў інстытуце, дык падпрацоўвала ў бібліятэцы, прыйшлі два хлопцы і адзін папрасіў для канспекта прамову Маркса на магіле Энгельса, быў такі спосаб абучэння — законспектаваць працы класікаў навуковага камунізму, і яна пайшла шукаць, усё перагледзела і зусім збянтэжылася, што такую важную працу не ў стане адшукаць, і ніяк не магла сцяміць, чаму смяюцца наведнікі, пакуль адзін з іх не задаў дапаможнае пытанне — хто памёр першы, а тады ўсе ведалі, хто памёр першы, гэта цяпер ніхто не ведае, і маці ведала, але, верагодна, няцвёрда, і такім чынам выкручанае навыварат, фактычна антысавецкае пытанне застала яе знянацку, збянтэжыла і, як і належыць, з цягам часу прывяло да лагіч-

нага завяршэння: шлюбу, і праз год пасля смерці карыфея ўсіх навук — да мяне, гэта калі прытрымлівацца строга каталіцкай версіі пачатку жыцця, а не версіі загса, які аддае перавагу выразу «з'явіцца на свет» у яго наўпраставым значэнні, так што трэба дадаць яшчэ належныя дзевяць месяцаў, каб атрымаць дату на першай з мноства будучых паперак з пячаткамі, якія будуць сведчыць, хто я.

## Маніна попа

Пра снег: я, канечне, не памятаю надвор'е ў дзень свайго нараджэння, але першы снег, які я памятаю сам, здарыўся гадоў праз пяць, калі захацелася пісяць, а цямнела рана, і бегчы ў прыбіральню праз доўгі начны двор самому было страшна, я папрасіў домработніцу Маню, мы выйшлі пад зоркі, пайшлі праз пракапаную ў гурбах траншэю, якая была з мяне вышынёй ці глыбінёй, цямнела рана і зоркі аж вылушчваліся з чорна-сіняга неба, недзе недалёка завыў воўк, і Маня сказала — ой, давай тут, і мы не дабеглі да прыбіральні, а прыселі ў снежным акопе, я трымаўся рукой за яе гарачую попу, якая падалася мне вялікай і супакойваючай, было страшна, толькі цурчэлі нашы жоўтыя струменьчыкі, і падала такое ж жаўтаватае святло з вокнаў сядзібы, былога шляхецкага маёнтка, дзе цяпер месцілася школа і жылі дзве настаўніцкія сям'і — гэта была наша першая зімоўка на выспе, бо да бліжэйшага жытла было кіламетры два, тэлефона не было, дзеці прыходзілі з суседніх вёсак, часам па пяць кіламетраў пешкі, не ведаю, як яны дабіраліся, мне было шэсць гадоў і вельмі падабалася ў маёнтку, з ангельскім паркам, ручаём і плацінай, ліпавай алеяй, вялікім гарышчам, дзе на бэльках, на жалезных круках бацька падвесіў шынку — вэнджаныя свіныя сцёгны, якія пахлі дымам і іскрыліся на надрэзе, і вос-

тры нож натыкаўся на круглую белую костку, якую потым, у самым канцы, можна было абгрызці і аблізаць, а яна пахла дымам, але больш за ўсё я любіў школьную палову, дзе з першага на другі паверх укручвалася спіральная чыгунная лесвіца, неверагодная сярод палёў з цукровымі буракамі, як Эйфелева вежа, і такая ж прыгожая, такая ж прыгожая, такая ж прыгожая, а потым мы ўсталі, узяліся за рукі і пабеглі назад у цяпло і святло.

## Халодная зброя

Хвароба, якая апанавала мяне ў пяць гадоў, не надта адрознівалася ад дарослых гульняў у танкі, ракеты і падводныя лодкі, але, у адрозненне ад іх, лячылася простым і эфектыўным сродкам — скураным рамянём, на якім бацька падточваў залінгенаўскае лязо, якое праплывала па яго намыленай, у белай пене, шчацэ, пакідаючы роўную і гладкую паверхню, якую ніколі не дамагчыся ніякай электрабрытвай, як ніколі не ўдасца вырашыць праблему войнаў толькі словамі, як словамі нельга было вылечыць маю страсць калекцыянаваць перачынныя ножыкі — сцізорыкі, якая вяла мяне ў чужыя сталы, сумкі і кішэні, як інстынкт вядзе птушак у вырай, і іх не збіць з дарогі ні ветру, ні буры, ні выпрабаваннямі ядзернай бомбы, і я проста нічога не мог з сабой зрабіць, калі бачыў акуратны прыбор з гладкімі пластыкавымі бакавінамі, дзе хаваліся тонкія стальныя лёзы, які змяшчаўся ў далоні і прыемна адцягваў кішэню, мне трэба было яго мець, і арсенал са скрадзенай халоднай зброяй рос, як сілы Варшаўскага дагавора, і так працягвалася, пакуль да маіх рук, як да магніта, не прыліп швейцарскі ножык з 22 лёзамі, пілачкамі, адвёрткай, нажніцамі і лінзай, які наш сусед прывёз з вайны і, на маю бяду, цаніў больш за сваю залатую Зорку героя, можа таму, што там быў штопар, і гэты паважаны ін-

струмент быў добра вядомы ў акрузе, а я быў апошні, каму ён даваў яго паглядзець, і калі бацька, пачырванеўшы ад сораму, узяў мяне за вуха, я са слязьмі завёў яго да схованкі і на свет з'явілася кілаграмы паўтара рыштунку самай рознай формы, велічыні і грамадскай небяспекі, і надышла эра раззбраення, у якой сваю ролю адыграў і скураны, зялёны ад штодзённага націрання спецыяльным камянём для ляза, рэмень, пасля чаго я стаў нейтральным, як Швейцарыя.

## Ссылка за халадзільнік

Праз паўстагоддзя мяне зацікавіла пытанне — чаму бацьку знялі з пасады дырэктара школы-дзесяцігодкі ў вялікім сяле непадалёку ад горада, з царквой, касцёлам, сельсаветам, пуштай, ашчаднай касай, культмагам, сельмагам і гаспмагам, музеем і чайнай і паслалі ў месца, якое можна апісаць толькі амерыканскім выразам in the middle of nowhere — пасярэдзіне нічога, і там ён ужо не дырэктарстваваў, а выкладаў мову і літаратуру для васьмікласнікаў, такое было пакаранне, але за што? За справу, сказала маці, правільна яго знялі, нельга было мяняць новы халадзільнік, размеркаваны для школьнага інтэрната, на спісаны ў вайсковай частцы грузавік (выкарыстанне сродкаў не па мэтавым прызначэнні), нельга было браць на працу шафёра і афармляць яго лабарантам, бо ў штатным раскладзе школы шафёры не прадугледжаныя (службовы падлог), трэба было афармляць і здаваць дзяржаве немалы ўраджай з прышкольнай гаспадаркі, а не раздаваць настаўнікам і вучням (марнатраўства сацыялістычнай маёмасці), трэба было весці бухгалтарскі ўлік, нельга было рабіць тое, што не дазвалялася, а ён, як і іншыя мясцовыя маладыя дырэктары, не зведаў сталінскага страху, і думаў, што можа ўсё: любіў гаспадарнічаць больш, чым вучыць, любіў, як

той казаў, вырашаць пытанні, ад цэменту да шыфера, ад дроў да фарбы, і сябры такія ж былі, але былі не толькі сябры, і рэзкі, як удар біча, артыкул у мясцовай газеце называўся «Школа — не вотчына дырэктара!», так, з клічнікам, з фельетоннымі пафаснымі абразамі, са спасылкамі на акты і высновы праверак, якіх было мноства, а ён не рэагаваў і працягваў сваё самаўладдзе, і што яшчэ горш, як высветлілася, пры веданні і нават падтрымцы непасрэднага раённага начальства, начальнік райаддзела асветы ажно шэсць разоў браў слова, каб абараніць свайго найлепшага дырэктара, калі вырашаўся яго лёс, але не абараніў, бо інтрыга была і супраць загадчыка райана і нават супраць старшыні райвыканкама, і мы паехалі ў ссылку.

## Фактар кахання

Закахалася адна жанчына, імя якой мне невядома, якая даўно памерла і пра якую я пачуў выпадкова, хаця яна, як кажуць амерыканцы, была вельмі instrumental — вызначальнай у біяграфічнай гісторыі аўтара, хаця зусім не таму, што неяк дапамагла ці, наадварот, пакрыўдзіла, не — яна проста закахалася ў аднаго загадчыка крамы, а можа, ён у яе закахаўся, не ведаю, мясцовыя газеты, якія пісалі пра такія гісторыі і называлі сапраўдныя імёны, адрасы, пасады ўдзельнікаў і давалі меркаванні суседзяў і сведак, пра гэтае каханне не пісалі, хаця ў краме была вялікая растрата, але гэта не важна, важна, што яна была замужам, і яе муж працаваў таксама загадчыкам, праўда, толькі аддзела, але ў абкаме партыі, і яго з-за жонкі былі папёрлі з працы, таму што, які ж ты кіраўнік мас, калі жонкай кіраваць не можаш, а за развод выключалі з партыі, не тое што з пасады здымалі, але паколькі здымалі такія ж, як ён сам, дык адразу ж далі новую працу, балазе кіроўных пасадаў якраз тады пабольшала ўдвая,

бо Мікіта Хрушчоў узяў і падзяліў усё абласное начальства на прамысловае і на сельскае, штаты трэба было запаўняць, а тут гатовы свой чалавек, толькі жонка загуляла, а хто не п’е? Гэта прымаўка такая была, насамрэч дазвалялася і піць, і гуляць, і красці, але нельга было адначасна, трэба было выбраць нешта адно, і далі пацярпеламу мужу працу загадчыка абласнога аддзела сельскай культуры ці нечага такога, стаў ён шукаць сабе намесніка і ўзгадаў нядаўна звольненага маладога дырэктара, якога ведаў раней, і ўзяў яго на працу, і мы пераехалі ў горад.

## Далёка пойдзе

Так адказваць: цыгарэты скончыліся і кінуў, а потым дадаваць — у шостым класе, на пытанне, ці палю, стала магчымым нашмат пазней, пасля школы і нават інстытута, калі дзяцінства зацвярдзела, закрылася, закруглілася і яго стала можна раскручваць, як глобус іншай планеты, на якім відаць Верх (так называліся тарфяныя яміны за дзедавым хлявом, ля самай маскоўскай шашы, запоўненыя вадой, дзе я навучыўся плаваць), Пульву (празрыстую вёрткую рэчку, куды з Буга заходзілі вугры і дзе лавілася найсмачнейшая, калі смажаная, рыба ў свеце — каўблі, так у Ставах, мамінай вёсцы, называлі печкуроў), Граеўку (бандыцкі раён Берасця па варшаўскім баку чыгункі, дзе бацькі здымалі два прахадныя пакоі ў прыватным доме пасля пераезду ў горад, і грады выходзілі проста на рэйкі, маленькія шыбы на верандзе дробна дрыжэлі, і дом стагнаў штораз, калі праходзіў цяжкі таварны цягнік), Штаб (схованку паміж хлявом і плотам, дзе мы з сябрамі захоўвалі свае скарбы — шкляныя шарыкі, нямецкі агнямёт, патроны і заржавелыя гранаты з недалёкай крэпасці, а таксама скрыню цыгарэтаў без фільтра «Дымок», якая не даехала да групы савецкіх войскаў у Нямеччыну, бо мы яе

сцягнулі з незамкнёнага вагона і курылі, аж пакуль бацька не атрымаў кватэру і мы не пераехалі ў іншы раён, і ў шосты клас я пайшоў у новай школе), а кінуць паліць мне насамрэч сказаў трэнер, бо напачатку адносіны ў новым раёне не складваліся і давялося запісацца ў секцыю боксу, куды я добрасумленна і без асаблівых поспехаў хадзіў да дзясятага класа, аж пакуль усе мы не сабраліся ў фотаатэлье для выпускнога здымка, і калі дзяўчаты пайшлі яго забіраць, дык фотазагадчыца паглядзела на нашы твары спрактыкаваным вокам і ўсім дала кароткія забойчыя характарыстыкі, з якіх я запомніў толькі дзве — хітраватую дзеўчыну, з якой я «хадзіў», як тады казалі пра школьныя парачкі, яна абазвала «маленькай сцервай», а на маё фота сказала «далёка пойдзе», але я чамусьці ўзгадаў гэта толькі цяпер, а трэба было, калі сядзеў ва ўзятым напракат смокінгу на вячэры ў Вашынгтоне, на якую Белы дом запрашае тэлерадыёжурналістаў, і слухаў Біла Клінтана, які, як вядома, перад цыгарэтамі аддаваў перавагу цыгарам.

## Сабачая радасць

Фактычна больш-менш сур’ёзна мяне пабілі толькі аднойчы, пасля танцаў у вясковым клубе, калі я развітаўся з дзяўчынай і пайшоў па цёмнай вясковай вуліцы дадому — стаяла ціхая і густая летняя ноч, назаўтра, а дакладней, ужо сёння, трэба было ўставаць перад пятай пасвіць каровы, а на школьных вакацыях так хацелася спаць, што я нават цяпер памятаю, як цяжка на сене адарваць галаву ад падушкі, адкінуць коўдру, калі неба толькі пачынае сінець у шчылінах даху, належанае месца захоўвае цяпло, настоены водар травы не адчуваеш, бо дыхаеш гэтым кактэйлем біязёлак увесь час, а на вуліцы сівая ад расы трава: цётка падаіла ўжо карову, прыгатавала торбу з абедам,

сабаку цяжка спусціць з ланцуга, бо ён аж скача ў прадчуванні свабоды, пуга вісіць на агароджы, і я выходжу на брукаванку і жанкі ўжо выганяюць сваіх кароў з варотаў, і статак пакрысе расце — пяць, дзесяць, пятнаццаць, трыццаць чорна-белых, не-пародзістых кароў і цёлак цягнуцца па вуліцы, без маіх панукання заварочваюць за апошнюю хату і ідуць сваёй мернай хадой у бок Пяткі, ляснога ўскрайку, дзе на незааранах і незасеяных узлесках яшчэ можна папасвіцца свойскаму быдлу, і тут я цямлю, што ўчора па дарозе з танцаў трактарысты не жартавалі — электрычны ліхтарык у вочы адразу зрабіў смеху вартай усю маю гарадскую баксёрскую тэхніку, пачкі сыпаліся з усіх бакоў, аслеплены, я няўклюдна адмахваўся, але толькі раніцай адчуў, што сківіцы ледзь варушацца, жаваць не магу, не кажучы пра гузакі, якіх раўнівыя механізатары мне начаплялі ад душы, так што нават вяленую каўбасу, якую цётка паклала ў торбу, я не змог укусіць і аддаў сабаку — вось ужо хто парадаваўся, суччын сын.

## **Клёшы**

Што такое тры, давайце пяць — мне можна пяць?!! — мы бачылі ў каго тры, у каго чатыры, не кажучы пра клёш аж на пяць сантыметраў, і калі бацька сказаў гэта краўцу, да якога мы прыйшлі замаўляць штаны, здаецца, у дзявятым класе, я ледзь не задыхнуўся ад удзячнасці, што можна, што ён дае мне такую свабоду мець сапраўдны клёш, які, канечне, пашыраў не калошыну, а ўвесь свет, і свет адразу пабачыў, калі я ўвайшоў у клас у клёшы: чатыры? няўжо пяць?! І я розныя моманты з бацькам магу ўспомніць, паходы ў гарадскую лазню, калі мы жылі ў доме без выгодаў, першую паездку на мора, калі яно раптам вырвала зямлю з-пад ног і кінула мяне ў неба, сустрэчу Хрушчова на пе-

роне вакзала, абед з Шастаковічам у Белавежскай пушчы, урокі гітары, якія па яго пратэкцыі мне даваў самы знакаміты берасцейскі гітарыст на Пляцы, як называлася легендарная танцпляцоўка ў гарадскім парку, грыбы, якіх ён набіраў поўныя кошыкі, а потым сам чысціў да глыбокай ночы, шызы дым у яго кабінеце, калі ён ужо быў дырэктарам тэатра, у якім, як здані, выглядвалі абрысы рэжысёраў і актораў, блакітны джынсавы касцюм з разводамі і скуранку, якія ён прывёз мне з польскіх гастроляў — ён, канечне, ганарыўся тым, што мяне ўзялі на працу ў рэспубліканскую газету, я тады думаў, што галоўнае, як я магу пісаць, і цяпер так думаю, але галоўнае — не значыць адзінае, і калі яны з маці пад час сустрэчы з маім шэфам, крыху старэйшым за мяне, але значна мудрэйшым, пачалі казаць словы ўдзячнасці, я пачаў перабіваць, мне стала сорамна, як дзецям бывае сорамна за бацькоў перад таварышамі: я не ўмеў дзякаваць, але мой начальнік і сябар тактоўна завяршыў сітуацыю, пачаўшы хваліць маю пісаніну, але я не памятаю, каб бацька абмяркоўваў мае артыкулы, хаця, напэўна, абмяркоўваў, але памятаю, як ён паміраў у пяцьдзясят восем гадоў пасля некалькіх аперацыяў: рак, дома на ложку, і запрасілі сяброў на абед апошні раз, яны сядзелі за сталом, а ён ляжаў на канапе, смяяліся, трохі адпусціў боль, а потым вярнуўся, трэба было морфію, але не было ці не давалі з-за нейкай недарэчнай перасцярогі, маўляў, прывыкне, тупы ідыятызм, не было разумнага доктара, і я нічога не зрабіў, ён пакутаваў, здзек, і прыкрасць, і не даравацъ, і пры чым тут той bloody клёш.

## Манліхер, куля калібру 6.5

Калі па парадку, дык — казкі, казкі, «Бэмбі», потым, канечне, Ільф і Пятроў, затым перыяд замежнай фантастыкі, праўда, зусім забыўся, што ж гэта я захапіў з сабой на вішню ў бабулі, ужо ўсе цёткі, нявесткі, унукі абабралі свае вішні, потым схапіліся, што я прапаў, пачалі шукаць, клікаць, нідзе не было, нікому ў галаву не прышло паглядзець на дрэва, дзе я, нічога не чуючы і не заўважаючы, дачытваў кнігу, пабеглі на Верх, ці не ўтапіўся, на гарышча, можа там, на шашу, і ўсе дужа ўзрадаваліся, калі я злез, і хоць дагэтуль мне ўзгадваюць гэты выпадак, ніхто не папікае, што вішні адно дно закрылі, што то за кніга магла быць — Жыль Блаз? Янка Маўр? Станіслаў Лем? Менавіта так нашмат пазней, у студэнтах, неяк увечары я адкрыў адну кнігу, якую сябар прывёз з будатраду з Малдовы, выпушчаную выдавецтвам «Картя Молдовеняскэ», сто тысяч асобнікаў, цвёрдая кардонная вокладка, 633 старонкі, 2 руб. 33 кап., пачаў чытаць і ачуняў, калі за акном пачало віднець, і кароткае шчаслівае жыццё Фрэнсіса Макомбэра выбухнула ў маёй галаве, як куля калібра 6.5 з Манліхера, якую жонка ўсадзіла яму ў чэрап дзюймы на два вышэй асновы крыху збоку, што абарвала яго свет навазнойдзенай свабоды і пачала мой, я стаў чытаць усё, што напісаў аўтар, што ён раіў прачытаць, што пісалі пра яго, шукаў усіх, каго ён згадваў, і карыда ў Памплоне стала не меншай рэальнасцю, чым каровы, якіх я пасвіў кожнае лета, і калі праз сто гадоў апынуўся ў Бостане, дык паехаў у музей Кенэдзі, які набыў архіў Хэмінгуэя, але якраз тая частка была закрытая для наведнікаў — спецмерапрыемства, я ўсё ж пайшоў, тоўстая негрыцянка, якая стаяла пры ўваходзе, паглядзела са здзіўленнем і спытала, чаго мне туды трэба, я сказаў: I love Hemingway, яна глянула ў спіс, потым махнула рукой, дала нейкую брашуру і прапусціла, а там якраз перапынак на абед: посуд, сурвэткі, сэндвічы расклалі і загарадзілі

ўсе стэнды, не падысці, я ўсё ж прабіўся, пацясніў афіцыянтаў, пачаў перапісваць, што хацеў, прычым увесь час удзельнікі канферэнцыі неяк падазрона на мяне паглядалі, публіка была стракатая — мулаты, чорныя, індзейцы, жаўтаскурыя азіяткі, апроч Хэмінгуэя, мой быў там адзіны белы твар, і калі адыходзіў, негрыцянка кажа: што, ужо ідзеце, не знайшлі свайго сябра, нічога, не сумуйце, не губляйце надзею, і потым, у гатэлі, я адкрыў брашуру — гэта была канферэнцыя каляровых геяў і лесбіянак, і з таго часу я не губляю надзею.

## Карэктура і варыянты

...І калі пошта прынесла нумар «Дзеяслова» з гэтымі заўчаснымі ўспамінамі, маці занесла яго на ксеракс, заплаціла за дзясятак копіяў і паслала ўсім сваякам, перад гэтым заклеіўшы палоскамі паперы некалькі недарэчных сказаў, яна заўсёды так акуратна рабіла праўкі ў карэктурах сваіх кніг пра методыку выкладання роднай мовы, і былыя яе рэдактары дагэтуль перадаюць ёй прывітанні, а я тымчасам уведаў пра лёс Мікалая Федарука, 16 красавіка 1948-га арыштаванага за а/с агітацыю, які загінуў у лагеры за чатыры гады да майго нараджэння, і паслаў ёй звесткі, ну а калі гаварыць пра варыянты лёсу, дык Янка Купала, калі рабіў тэрміналагічны слоўнік «Практыкі і тэорыі літаратурнага мастацтва», слова «варыянт» пераклаў як «адменьнік», і хоць у 1923 годзе яго пісалі з мяккім знакам, жорсткасць гэтага перакладу насамрэч канчальная і не падлягае абскарджанню, як 58-мы артыкул сталінскага кодэкса, як любая несустрэча, непадзея, непрызнанне, бо змяніць нешта можна толькі тады, калі яно яшчэ не адбылося, а ўсё астатняе можна толькі крыху выправіць, як купалаўскі слоўнік падае «карэктуру».

*Усім, з кім аўтар выпіваў*
*у 1982 —1990 гадах, а таксама*
*перад і пасля*

## Адкрыць дужкі, закрыць дужкі

Адзін мой знаёмы, прыхільнік усебаковага падыходу, не прызнаваў традыцыйных партрэтаў прыгажунь — як на ягоны густ, у анфасах адсутнічала галоўнае — філейная частка, від ззаду. У гэтых нататках, баюся, адсутнічае від спераду. Я сапраўды працаваў у газеце ў 80-я гады, але гэтая кніжка не дакументальная справаздача, не аб'ектыўная хроніка і нават не прыватны дзённік. Тым не менш усё напісанае тут — праўда, у той ступені, у якой напісанае можа быць праўдай.

Мой самы першы артыкул у газеце, пра генеалагічнае дрэва адной беларуска-казахскай сям'і, канчаўся сярпом і молатам: маўляў, гэта самы шчаслівы герб у геральдычнай карце герояў. Карэспандэнцыя прысвячалася юбілею СССР.

Фінал апошняй публікацыі, праз восем гадоў, быў зацягнуты ў калючы дрот: «Сёння ўсё больш выразна праступаюць абрысы палітычнага, эканамічнага, нацыянальнага ГУЛАГу, у якім мы апынуліся».

У дужках паміж гэтымі двума знакамі эпохі і месяцца паказанні пра ўцёкі, пра бег па перасечанай мясцовасці, ягоныя зігзагі, павароты, пасткі, падзенні ў бруд, дрыжыкі ў каленках, перабежкі з нагнутай галавою.

Легкадумнасць сведчанняў тлумачыцца, верагодна, тым, што перабежчыку пашанцавала.

## Усюды жыццё

— На планёрку ўсім, — абходзіць кабінеты сакратарка рэдактара*.

Разам з загадчыкамі аддзелаў у рэдактарскі кабінет ідуць шараговыя карэспандэнты. За доўгім сталом — невыразны чалавек у шэрым касцюме. «Сёння ў нас чарговыя заняткі. Мне даручана паінфармаваць вас аб выніках работы ў мінулым квартале і азнаёміць з новымі патрабаваннямі», — гаворыць ён. Я пытаюся ў суседа: хто гэта?

— Цэнзура, хіба не бачыў іх кабінет на трэцім паверсе?

Бачыў дзверы — ababітыя жалезам, з двума замкамі і слядамі ад частага апячатвання, без шыльды. Прадстаўнік таямнічага ведамства бясстрасна пералічвае: у «Советской Белоруссии» было пяць «умяшанняў», у «Знамени юности» — тры, у «Звяздзе» — адно, у «Сельскай газеце» — шэсць... Цікава, якія ж дзяржаўныя тайны спрабавала выдаць самая сумная з рэспубліканскіх газет, засушаная дырэктывамі па вывазцы гною і вырошчванні лубіну?

Кніга забароненых фактаў і лічбаў у руках цэнзара ўся густа пакрэсленая, з уклейкамі й дадаткова ўпісанымі радкамі. «Нельга паказваць валавы збор збожжа ад раёна і вышэй, ураджайнасць асобных культур у цэлым па вобласці і вышэй, пакрыццё цёлак па вобласці, за выключэннем выпадкаў, калі гэтыя лічбы былі надрукаваныя раней альбо ўтрымліваюцца ў афіцыйных выступленнях», — працягвае цэнзар.

Мне ў рукі трапляла толькі адна раённая газета, якая на пачатку 80-х рэгулярна друкавала зводкі аб, м-гм, рабоце бычкоў

* Яна будзе першай, каго я сустрэну ў калідоры Дома друку пасля звальнення, і трохі з'едліва пацікавіцца, ці я часам не заблукаў. Уваход у Дом друку закрыты. На пачатку галоснасці міліцэйскі пост знялі, а потым вярнулі, там ужо новыя ахоўнікі, пасведчанне забралі, трэба прасіць, каб правялі, а прасіць не хочацца.

— Кнігу пішу пра вас, — адкажу я, і памылюся. Кніга будзе пра сябе.

па аднаўленні пагалоўя. Раёнка з'яўлялася органам райкама партыі, і стан асемянення ў раёне знаходзіўся пад непасрэдным кантролем першага сакратара.

Сакратара я пару разоў бачыў. Пагаворвалі, што ён дбае не адно пра калгасны статак. Нейкі мясцовы Ювенал склаў і расклеіў у вёсках дацзыбао:

*К нам прыехаў сакратар*
*Правяраць работу.*
*Станавіся, бабы, у рад,*
*Падстаўляйце ж...у!*

Сакратар быў вельмі незадаволены і крычаў на начальніка міліцыі. Аўтара шукалі раённыя кэдэбісты, але, здаецца, не знайшлі. Потым у раёне па руках пусцілі новую паэму, ужо пра перабудову, дзе сурова крытыкавалі Раісу Максімаўну Гарбачову і ейнага мужа. Пасля час ананімных паэм мінуў, здавалася, назаўсёды.

— У газетах цяпер такое друкуюць, што ніякіх ананімак не трэба, — рэзюмавала адна мая знаёмая з тых месцаў (і памылілася).

Што ўяўлялі сабой газеты на пачатку 80-х, забылася, як пазаўчарашняе надвор'е. Мой першы рэдактар уразіў мяне тым, што заявіў:

— Пішы смялей, рэзка. Выразаць знойдзецца каму, такіх майстроў у нас хапае.

Як высветлілася пазней, пры гэтым ён меў на ўвазе і самога сябе. Толькі-толькі пачыналася барацьба з п'янствам, і мы мусілі адгукнуцца. Адгукнуліся — падрыхтавалі спецыяльную паласу пра безалкагольны чай. Каб было цікавей, пазванілі беларускаму касманаўту, народнаму пісьменніку і члену ЦК з пытаннем, які гатунак яны любяць піць. Касманаўт у Зорным гарадку доўга не мог уцяміць, чаго ад яго хочуць, а потым адка-

заў: «Грузінскі, азэрбайджанскі і армянскі». У газеце «армянскі» быў зменены на «іншыя айчынныя гатункі». Народны пісьменнік сказаў: «Харошы». І дадаў: «Але такі не надта купіш». Дадатак скарацілі. Член ЦК катэгарычна заявіў: «Я не п’ю!» і пераззваніў рэдактару з пратэстам супраць правакацыі.

Пачаўшы працаваць у рэспубліканскай прэсе на самым пачатку 80-х, я й не падазраваў, якім калючым дротам была абнесеная газетная інфармацыйная прастора. Прычым гаворка не пра «святых кароў» — ідэалогію, палітыку, гісторыю. Цэнзарскую энцыклапедыю «неіснуючых рэчаў» складалі рэчы зусім рэальныя, нават пабытавыя. Нельга было пісаць пра заробкі спартоўцаў і колькасць хворых на сухоты, забаранялася «разгалошваць» лічбу працуючых на МАЗе альбо трактарным, дзяржаўнай тайнай з’яўляўся працэнт пакінутых дзяцей, засакрэцілі нават нешта метэаралагічнае.

З сённяшняга гледзішча тая інфармацыйная «прастора» нагадвае канцлагер. Але, як пісаў Салжаніцын, — і ў лагеры ёсць жыццё.

## Урокі «Вія»

— Што ў Вас з КГБ? — спыталі ў мяне, калі я ўладкоўваўся ў рэдакцыю.

Пытанне прагучала, як адказ — работы не відаць. Цікава, што з таго часу яно двойчы мяняла свой сэнс. Калі на пачатку 80-х пытанне азначала, што КГБ цікавіцца табой, і справы твае — дрэнь, дык потым — наадварот (новыя бізнесмены высока цанілі сувязі адстаўных чэкістаў), затым усё вярнулася на колы свае. У філалогіі гэта называецца зменай канатацыі. Народ у такіх выпадках узгадвае саву, якой усё роўна — яе аб пянёк, ці пяньком па ёй.

Падазрэнне азначала толькі адно — не наш чалавек. За чатыры гады пасля інстытута я памяняў шэсць ці сем месцаў працы, і толькі адно з іх пакінуў па ўласным жаданні, астатнія — па жаданні начальства. Раніцай я прыходзіў на работу, а мне казалі: тая супрацоўніца, замест якой вас узялі, ужо нарадзіла, выгадавала дзіця і заўтра выходзіць. Я забіраў працоўную кніжку і думаў пра загадкавы жаночы арганізм: цяжарная толькі тры месяцы як пайшла ў дэкрэт.

Можа, да рэдакцыі дайшлі нейкія не надта спрыяльныя чуткі з былых месцаў працы?.. У адной канторы намеснік дырэктара па кадрах забраў дахаты срэбную вазу з экспазіцыі, за якую я адказваў. Я так настойваў, каб ён яе вярнуў, што многія перасталі са мной вітацца. У іншым месцы мяне ўключылі ў склад інвентарнай камісіі. З глупства я пачаў задаваць пытанні, чаму замест піяніна на складзе дзве балалайкі і лыжы. Заканчвалі інвентарызацыю без мяне. Яшчэ ў адной арганізацыі супрацоўнікі валодалі спецыфічным пачуццём гумару: яны маглі гадзінамі расказваць анекдоты пра жанчын, габрэяў і Чапаева, але заставаліся абсалютна абыякавымі да жартаў пра Штырліца і Палітбюро. Дакладней, слухалі ўважліва, але не смяяліся.

Не буду сцвярджаць, што ніколі не чуў пра слаўныя органы. Пра іх чулі нават пазбаўленыя органаў слыху. Інстытут замежных моваў, які я скончыў, лічыўся запаведнікам мясцовых Джэймс Бондаў. Многія выпускнікі працягвалі адукацыю ў вышэйшай школе КГБ, што месцілася непадалёку. Мой сусед па студэнцкім інтэрнаце, які вучыўся на два курсы вышэй, патрапіў туды пасля інстытута. Пару разоў па старой памяці ён заходзіў у інтэрнат. Пра сакрэтныя заняткі нічога не расказваў, толькі аднойчы, калі мы асабліва ўдала адзначалі стыпендыю, размяк і ўвесь вечар паўтараў:

— Ніколі нікому нічога не гавары. Ты зразумеў? Нікому ніколі нічога! Налі, і цс-с-с: нічога нікому ніколі!

Я думаў, што гэтак рыхтуюць на выпадак правалу за мяжой. Але яго паслалі працаваць у сельскі раён, дзе ён так старанна стаў вывучаць настроі насельніцтва, што быў звольнены з органаў з фармулёўкай «за амаральныя паводзіны».

Калі шмат пазней прынагодна я расказваў пра гэта аднаму амерыканцу — даследчыку палітычных рэпрэсій, той страшэнна занерваваўся:

— Амаральныя паводзіны з пункту гледжання КГБ — што гэта магло быць?! Падпольная арганізацыя для барацьбы з сістэмай? Яго напэўна катавалі перад расстрэлам!

Я паспрабаваў супакоіць суразмоўцу паведамленнем, што майго знаёмага не расстралялі, ён трапіў у вар'яцкі дом.

— Трэба пачаць кампанію за вызваленне ахвяры рэжыму!

Я папрасіў пачакаць, маўляў, пакуль не час. Разжалаваны чэкіст працаваў у вар'яцкім доме санітарам, і галоўны лекар пагражаў ужо вызваліць яго і ад гэтай пасады, калі не перастане парушаць рэжым цвярозасці з хворымі.

З КГБ у мяне нічога, — чыстасардэчна адказаў я тады на пытанне ў рэдакцыі.

Магчыма, у гэтым і праблема? — выказалі здагадку ў газеце — і не памыліліся.

Нашыя з КГБ шляхі перасякліся гады два перад тым у скверы каля Купалаўскага тэатра. Мяне спыніў незнаёмы мужчына, назваў маё імя і імя па бацьку, сунуў у нос чырвоную кніжачку, у якой я не паспеў разабраць ані слова, і прапанаваў супрацоўнічаць. Пры гэтым ён сказаў, што доўга вывучаў мяне і прыйшоў да высновы, што я заслугоўваю даверу. Чэкіст дакладна ведаў сямейныя падрабязнасці, чым я займаюся на працы (я працаваў у канторы, якая займалася інтэрнацыянальнай дружбай), якія ўзаемадачыненні ў калектыве. Работа лічылася прэстыжнай сінекурай, мяне ўладкавалі туды па вялікім блаце. Праз год яна апаскудзела настолькі, што я ўзвыў. Мяне выклікалі на праў-

ленне і пачалі разбірацца, чаму я павесіў вугорскі сцяг дагары нагамі і ўвогуле не праяўляю энтузіязму.

— Я тут паміраю.

— Ты абразіў усіх нас сваім адказам! — заявіў мне потым у калідоры калега. Але тагачаснаму старшыні таварыства, быламу партызану, потым паслу ў Пакістане, мая непасрэднасць спадабалася, і мяне болей не чапалі. І вось — высокі давер аказваюць проста на вуліцы.

Суразмоўца не прыспешваў, даў час падумаць, папрасіў пазваніць.

Трэба сказаць, што чалавечная інтанацыя любой службовай асобы дзейнічала на мяне мацней за «Фаўста» Гётэ. Гэта так бянтэжыла, што я губляўся і быў гатовы зрабіць амаль усё, пра што папросяць. Адно з самых моцных эмацыйных уражанняў у жыцці засталося ад размовы з інспектарам тэхнікі бяспекі райхарчгандлю. Я чарговы раз застаўся без працы і спрабаваў уладкавацца грузчыкам у хлебную краму. Пасля медагляду трэба было прайсці інструктаж. Мне далі распісацца ў нейкай паперцы і, калі я ўжо думаў, што працэдура скончаная, інспектар раптам устаў.

— У мяне дзве асабістыя просьбы. Не лайцеся праз меру матам, прадаўшчыцы ўсё ж жанчыны. І абяцайце, — інспектар пранікліва глянуў у вочы, — ніколі не ставіць скрынкі адна на адну замест падстаўкі.

Уражаны шчымлівай інтанацыяй, я ад усёй душы абяцаў ніколі так скрынкі не ставіць. Стрымлівацца ад мату ў нашых крамах аказалася значна цяжэй.

Чэкіст таксама зачараваў тонам. Калі б ён развіў поспех і падсунуў што-небудзь падпісаць — магчыма, я б падпісаў. Але ён кінуў справу на паўдарозе — даў час на роздум. Відаць, калі ў школе КГБ ішоў семінар па вярбоўцы, будучы лавец душаў думаў, дзе б апахмяліцца. А практыку праходзіў у мінскіх рэста-

ранах, шліфуючы тэхніку спакушэння на дзяўчатах. А ў нашых рэстаранах і без спецтэхнікі няцяжка... Памятаю — хаця не, гэта іншая гісторыя, якая не мае дачынення да тэмы. Скажу толькі, што наступнай раніцай паняцці прыгожага й агіднага нярэдка мяняліся месцамі.

Так адбылося і ў гэтым выпадку. Раніцай я адчуваў сябе, як гогалеўскі семінарыст Хама Брут, які адслужыў першую ноч над трунoй цудоўнай панначкі, аднак потым плюнуў на абяцаныя чырвонцы і вырашыў уцячы назад у бурсу.

Тэлефонная размова прайшла лягчэй, чым я думаў. Гэбіст, відаць, не дапускаў і думкі, што магчымая адмова, і разгубіўся. Пачаў угаворваць, прасіць, спасылацца на тое, што ўжо начальству паведаміў, але я цвердзіў сваё — не варты даверу.

— Вы пашкадуеце, — пачуў я на заканчэнне. Павесіў трубку і выйшаў з тэлефоннай будкі.

Забягаючы далёка наперад, адзначу, што чэкіст амаль не памыліўся. Прычым я маю на ўвазе не бытавыя нязручнасці кшталту нявыезду за мяжу ці немагчымасці знайсці працу па спецыяльнасці. Гэта якраз пайшло на карысць: наблізіўся да народа і набыў новую прафесію.

Гаворка і не пра супрацоўнікаў газеты, якіх аднойчы перапужалі госці ў маім кабінеце: худы лысы археолаг, аброслы смалянoй барадой празаік і яшчэ чалавек сем (мы пісалі статут аднаго нефармальнага таварыства). Двое калег ад хвалявання пабеглі званіць у КГБ, прычым тэлефанавалі з прыёмнай рэдактара, і вестка данеслася да мяне хутчэй, чым да аператыўнага дзяжурнага.

Варты шкадавання выпадак, аб якім прадбачліва папярэджваў па тэлефоне чэкіст-вярбоўшчык, здарыўся ўжо ў іншым жыцці, па-за рамкамі гэтых нататак. Адна асоба, якая з журналістыкі перакінулася на гандаль жаночай бялізнай, відаць,

у цяжкі фізіялагічны момант свайго жыцця пачала даводзіць знаёмым, што я — капітан КГБ.

Я высветліў гэта выпадкова, калі другая знаёмая прызналася, што думала, быццам я — як мінімум маёр. Далібог, я такога не чакаў і пакрыўдзіўся да слёз. Стала пакутліва балюча за бессэнсоўна пражытыя гады. За паўтара дзесяцігоддзі з моманту першай сустрэчы з КГБ я мог дарасці да палкоўніка. Ну, дапусцім, падпалкоўніка. Але ж не капітана!

Правільна ўсё ж выказаўся пра долю Хамы Брута яго сабутэльнік рытар Тыберы Гарабец: «А я ведаю, чаму прапаў ён: таму, што пабаяўся. А калі б не баяўся, дык бы ведзьма не змагла нічога з ім зрабіць. Трэба толькі перахрысціцца і плюнуць на самы хвост ёй, дык і нічога не будзе. Я ведаю ўжо ўсё гэта. Бо ў нас у Кіеве ўсе бабы, якія сядзяць на базары, — усе ведзьмы».

Я дагэтуль не да канца разумею, як мяне — беспартыйнага, беспрацоўнага, безкватэрнага, без журналісцкага дыплома, без вопыту работы ў друку, без высокай пратэкцыі ўзялі на вакансію карэспандэнта рэспубліканскай газеты фактычна пасля некалькіх пробных публікацыяў. Думаю, мой будучы загадчык аддзела пераканаў рэдактара, што Гогаль усё ж неблагі пісьменнік.

Класік — ён і ў Мінску класік.

## Звон шклянак

Як і ўсе, каму хоць нядоўга даводзілася жыць у студэнцкім інтэрнаце, я прайшоў курс барацьбы з алкаголем шляхам яго поўнага знішчэння. Але ці то курс аказаўся закароткі (мяне выселілі з фармулёўкай «за парушэнне рэжыму» — я выпусціў асабістую насценгазету, у якой дамагаўся чыстай бялізны, гэта асобная драма), ці то зашмат часу на недарэчнасці кшталту

бібліятэк і тэатраў, але сапраўднай прафесійнай загартоўкі я не атрымаў. Ва ўсялякім выпадку журналісцкі размах застаў мяне знянацку.

— Як у цябе з ныркамі, у парадку? — заклапочана пытаўся знаёмы фатограф, калі я ўладкоўваўся ў газету. — Журналісту важна мець добрыя ныркі. Бо на Новы год — раз, потым сустрэліся першы раз у Новым годзе — два, потым дзень Савецкай Арміі і 8 сакавіка, а там майскія святы пайшлі, ды імяніны, ды пару разоў на год памрэ хто-небудзь ці народзіцца, зноў жа квартальная прэмія ці вымова, а ганарар, ці аўтар прынясе — не адмовіш жа чалавеку. Ну, і ў камандзіроўкі ездзіць будзеш...

Дадам, што апроч пералічаных, знаходзіліся іншыя прычыны, напрыклад, канец тыдня. У пятніцу па абедзе многія дзверы ў Доме друку зачыняліся, і на ўсю моц уключалася радыё — дакладная прыкмета, што працэс пайшоў. Аазіс для змучаных душаў месціўся недалёка — 20-ы гастраном на суседняй вуліцы. Тут можна было ўзяць сухога ці бутэльку гарэлкі, прыкупіць смажанай мойвы ці іншай няхітрай закускі. І усё ж самым цяжкім выпрабаваннем былі камандзіроўкі.

Неяк трэба было зрабіць паласу для святочнага нумара пра нашыя дасягненні. Паглядзелі на карту, выбралі раён на Магілёўшчыне, куды было недалёка й зручна дабірацца.

Прыехаў, адзначыўся, як належыць, у райкаме. Першы сакратар выклікаў інструктара. Той увайшоў і знерухомеў.

— Будзеце суправаджаць таварыша ў «Камінтэрн». Арганізуйце там усё.

Інструктар зрабіў паварот «на месцы-кругом» і знік. Я знайшоў яго ў кабінеце, калі ён ужо крычаў у трубку: «Кідай, чуеш, кідай усё і ехай сюды — карэспандэнта сустракаць будзем!» На мяне ён пры гэтым не звяртаў ніякай увагі. Праз паўгадзіны на плошчу перад райкамам уляцеў запылены «масквіч» сакратара калгаснага парткама.

— Можа, паабедаем? — адразу прапанаваў ён, калі ўехалі на тэрыторыю калгаса. Я цвёрда папрасіў спачатку адвезці мяне ў калгасны музей. Музей месціўся ў двухпавярховым каменным будынку і быў славуты тым, што некалі тут праездам на агітцягніку выступаў усесаюзны стараста Калінін. Да бліжэйшай чыгункі было кіламетраў дзесяць, як сюды дапаў агітцягнік, у музеі не паведамлялася. Але розных звестак пра дасягненні было багата, што мне і патрабавалася. Хвілін праз дваццаць да мяне падыйшоў сакратар парткама:

— Можа, усё ж паабедаем? Людзі хвалююцца...

Я выглянуў у суседні пакой і пабачыў чалавек пяць, якія панура чакалі адказу. Выгандляваў сабе яшчэ паўгадзіны і пачаў хутка перапісваць у нататнік патрэбныя звесткі са стэндаў. Выхаду не было, пачаставаць карэспандэнта даўно стала няпісаным законам. Прычым на мэце мелася не толькі папярэдзіць такім чынам магчымы крытычны артыкул на старонках газеты, хоць, пэўна ж, і не без таго. Наш уласны карэспандэнт па Магілёўскай вобласці праславіўся тым, што не напісаў ніводнай станоўчай нататкі з калгасу. Выпіць ніколі не адмаўляўся, але калі налівалі й падымалі тост, казаў: «А крытыкаваць вас усё роўна буду!», і хуценька куляў кілішак.

У мяне па маладосці на такое духу не хапала, і наводзіць крытыку на тых, хто частаваў, рука не падымалася. Неяк я паскардзіўся на свае цяжкасці былому калегу, які меў рэпутацыю непітушчага; яго якраз узялі працаваць у апарат ЦК.

— Калі вельмі назаляюць, ты кажы: давядзецца мяняць тэму і пісаць пра стыль вашай работы, — параіў ён.

Парада мне вельмі спадабалася. Праўда, неяк ні разу не ўдалося яе скарыстаць, сам не ведаю чаму. У адным калгасе ў Нясвіжскім раёне мне скардзіўся сакратар партарганізацыі: няма з кім выпіць! Я ледзь не падавіўся крутым яйкам, якім закусваў. Перад тым, як прысесці ў лесапаласе і наліць, мы заязд-

жалі на ферму, мехдвор, да будаўнікоў і, дальбог, гэтая праблема там аніяк не выглядала актуальнай. Хутчэй наадварот.

— Я ж не магу піць з пастухом, зразумейце, — тлумачыў арганізатар мас. — Які ж у мяне аўтарытэт будзе? Галоўны заатэхнік — баба, аграном таксама ў спадніцы. Піў раней з галоўным інжынерам, але той апусціўся, пачаў з механізатарамі паддаваць. Вось і атрымліваецца — няма з кім...

У тым музеі ў магілёўскім калгасе што мне было казаць галоўным спецыялістам, для якіх прыезд сталічнага карэспандэнта яўна быў проста падставай для легальнай, санкцыянаванай зверху выпіўкі? Што я буду пісаць пра стыль іх работы? І не зразумелі б, і пакрыўдзіліся. Ды й што б я такое напісаў — што запрашалі пачаставаць, што п'юць — вялікае адкрыццё... Я хутка завяршыў свае нататкі і засунуў нататнік глыбей у кішэню, каб не згубіць.

На трох машынах, па калдобінах разбітай вуліцы мы выскачылі за вёску, пранесліся па насыпной дарозе, уляцелі ў дуброву і затармазілі на стромкім беразе Дняпра. Панурасць з мужычкоў як ветрам здзьмула: з багажніка выцягвалі каструлю з замочаным мясам, нанізвалі яго на шампуры, даставалі з машыны прывезеныя бярозавыя дровы, распальвалі вогнішча, беражна ставілі на зямлю скрынку гарэлкі. Пра далейшае — у песні: «Рэвэ та стогнэ Дніпр шырокі, сэрдыты вітэр завыва...» Тым ветрам некуды знесла і мой толькі што куплены складны парасон, і новыя пальчаткі.

Матэрыял я потым напісаў на паласу, на лятучцы хвалілі. Праз год, калі быў у Магілёве, спытаўся ў мясцовага журналіста пра вясёлага калгаснага сакратара — дзе, што.

— Загінуў. Выклікалі некуды, бег — і пад аўтобус. Жонка засталася, дзіцё...

## Анёлы без крылаў

Неяк я выкідаў гной. Цётчына карова прастаяла зіму ў маленькім хлеўчыку і так утаптала салому, што вілы з цяжкасцю прабівалі нават верхні слой. Я пакутаваў паўдня і ачысціў толькі адзін кут. Па абедзе з фермы прыйшла цётка. Паглядзела на мае дасягненні й дала матычку: трэба было спачатку вырваць кавалак зляжалага пласту, а потым выкідаць. Праз пару гадзін хлеў быў пусты.

Здавалася, што работа ў газеце падобная да работы ў хляве. Галоўнае — пераадолець тэхналагічныя цяжкасці. Праблема праўды хвалявала не болей, чым аднайменная газета. Не было пытання, *што* пісаць, было — *як*. Задача палягала ў тым, каб расставіць словы ў найлепшым парадку, каб выбраць эпітэты, даць загаловак. Змест уяўляўся нейтральнай лексічнай масай, якая патрабавала формы — не болей.

Аддзел, дзе я пачаў працаваць, называўся «прапаганды і агітацыі» і па важнасці займаў у газеце другое месца (пасля аддзела партыйнага жыцця. Пазней мы яго ласкава называлі аддзелам партыйнай смерці). Мой непасрэдны начальнік, які ўмудрыўся за пяць гадоў сумеснай работы ні разу не даць мне адчуць, хто ў аддзеле падначалены, тлумачыў: наш — лепшы аддзел, бо пісаць можна пра што хочаш, ніякіх галіновых абмежаванняў.

Гэта была немалаважная перавага. Газетчыкі сядзелі на «вотчынах». Пра свежую рыбу пісаў загадчык аддзела саветаў, пра футбол — загадчык аддзела сацыялістычнага спаборніцтва, загадчык аддзела міжнароднага жыцця ўвогуле нічога не пісаў. Паляванне на чужых тэрыторыях успрымалася балюча-падазрона. У гэтым сэнсе аператыўнай прасторы нам хапала — амаль усё падпадала пад рубрыкі «мараль» ці «гісторыя».

Выбіралі сапраўды розныя тэмы. Праз пару месяцаў працы мяне раптам выклікалі ў Міністэрства ўнутраных спраў і

ўручылі дыплом пераможцы рэспубліканскага конкурсу «Мая міліцыя». Я ездзіў у Горадню і напісаў аб тым, як два маладыя міліцыянты затрымалі ўзброенага злачынцу, прычым біліся яны з ім на рэчцы, лёд на Нёмане ўжо крануўся, і ўсе ўтрох ледзь не патапіліся. Адзін з хлопцаў прыйшоў да мяне са сваёй дзяўчынай, мы сядзелі ў гатэльным рэстаране, і ён скардзіўся, што дастаў потым вымову за сапсаванае абмундзіраванне — фуражку ўцягнула ў палонку, мусіў адкупляць. Пра вымову ў гераічным рэпартажы я не згадваў, і мне ў міністэрстве выпісалі трыццаць рублёў прэміі мінус падаткі.

— Значыцца так, пісаць можаш, а са спецыфікай аддзела асвоішся, — рэзюмаваў рэдактар, калі пасля выпрабавальнага перыяду падпісваў загад аб прыёме на працу. — Ведаеш, што такое палітінфармацыя?

Што такое палітінфармацыя, я ведаў. Пад час вучобы ў інстытуце нас неяк пасадзілі разам, і адзін са студэнтаў пачаў чытаць уголас газету з планамі пяцігодкі. У канцы я ўстаў і выказаўся ў тым сэнсе, што й сам магу прачытаць газету, нашто марнаваць час. Праз пару дзён, пасля кансультацыі перад экзаменам па гісторыі КПСС, выкладчык, сакратар партарганізацыі факультэта раптам тыцнуў на мяне пальцам:

— Твой выпад супраць палітінфармацыяў мне стаў вядомы праз пятнаццаць хвілін. Калі б ты яшчэ сказаў, што не можаш асуджаць Салжаніцына, бо не чытаў — атрымаў бы заўтра двойку, вылецеў з інстытута і ніколі не даведаўся б, за што.

Ашаломлены, я застаўся адзін у спусцелай аўдыторыі і... заплакаў. Удар быў настолькі нечаканы й моцны, што псіхіка разрадзілася такім вось чынам. Чытаць канспекты не мела сэнсу, я сабраўся й паехаў у аэраклуб, дзе пару разоў распусціў і зноў сабраў свой парашут, асабліва карпатліва складаючы паркалёвы купал, дзелячы стропы на раўнамерныя пучкі і акуратна зацягваючы іх у петлі...

На экзамене слухаць не сталі, паставілі «добра». На радасцях мы з прыяцелем адзначылі падзею бутэлькай вугорскага рому, і я адправіўся на аэрадром. Інструктар нічога не заўважыў, самалёт падняўся на дзве тысячы метраў, і я скочыў зацяжным. Казалі, акрабатычныя фігуры, якія вырабляла маё цела, былі даволі экзатычнымі. Ахвотна веру, бо калі я паспрабаваў знайсці правую руку, каб ірвануць кальцо, дык не знайшоў. Парашут адкрыў аўтамат, які спрацоўваў ад ціску. Пад час прызямлення я да таго ж так грымнуўся, што потым пару дзён не мог ступіць на левую нагу.

Праз шмат гадоў, калі ад перамены надвор'я зноў занылі калена, я раптам задумаўся: а што тады, на кансультацыі, адбылося? Высылалі Салжаніцына, якога ў правінцыі чыталі адзінкі. Магчыма, у нейкай прыватнай гутарцы я ці субяседнік і сказалі, што не чыталі, чаго ж абмяркоўваць. Фразу таксама данеслі сакратару — ці не даваў ён такім чынам зразумець, што яму вядомае і гэтае выказванне, і трэба «нічога ніколі нікому»?..

— Не хвалюйся, навучышся, — заўважыўшы маю хвілінную збянтэжанасць, падбадзёрыў рэдактар.

І сапраўды, навучыўся... Тым больш, што вельмі хацеў навучыцца. Націск рабіў на тэхніку: уплятаў у метафару закон Бойля-Марыёта, вывуджваў каларытныя дэталі з Бракгаўза і Яфрона, чытаў тоўстыя кнігі на тэму, як пісаць. Прыкладна так, відаць, вучацца каты: якую ўзяць вяроўку, якой таўшчыні й даўжыні, як вязаць вузел, куды мацаваць свабодны канец, чым лепш намыльваць і як густа. Каму вісець — не іх праблема.

Літаратурныя схільнасці былі заўважаныя. Мяне выклікаў рэдактар. На стале ляжала падшыўка літаратурна-мастацкага выдання, раскрытая на старонцы з вершамі вядомай паэткі.

— Ты, кажуць, вершы сачыняеш?

— Трохі, для сябе...

— Даручана даць ацэнку. Містыка, упадніцтва, усё змрочна, як у царкве. Калі табе даверыць — справішся?

Я працаваў першы год. Даверлівы тон і адначасна лёгкае сумненне засталі знянацку. Рэакцыя была лёгка прадказальная. У кабінет вяртаўся з падшыўкай. Чуў я нешта цьмянае пра айчынныя літаратурныя суды — але тое было як бы за акварыумным шклом. Не мела ніякага дачынення. Да таго ж, відаць, падсвядома лічыў, што пасля адмовы супрацоўнічаць з КГБ душа выратаваная назаўсёды і, магчыма, залічаная да сонму анёлаў.

Пачаў з Пушкіна — паэта трэба судзіць паводле правілаў, ім самім усталяваных. Высветліў эстэтычныя каардынаты лірычнага свету аўтаркі. Потым суаднес з тэкстамі. Адзначыў станоўчыя рысы. Паказаў перакосы. Неапраўданыя архаізмы. Вузкасць вобразнай базы. Размытасць алюзіяў. Чужароднасць кантэксту.

Чый анёл умяшаўся, мой ці паэтчын — не ведаю. Але на наступны дзень увечары быў дадзены «адбой». Пранесла...

Зжаўцелыя старонкі доўга яшчэ валяліся ў стале як напамінак: магло й не пранесці. Неяк потым, у пошуках дакладнай рыфмы, я цікавіўся ў знаёмага мастака, дзе, на яго думку, у анёлаў крылы, за спінай ці над спінай.

— Ты падыходзіш фізіялагічна, а анёл — істота духоўная, — адказаў мастак. — Ты нічога не разумееш у анёлах.

Ды й гной я выкідаў, прызнацца, таксама па-дурному. Давялося потым яшчэ раз закідваць яго на воз, рабіць двайную работу.

Я нічога не разумеў і ў гнаі.

## Дзякуй Лермантаву

— Ты што, у бухгалтары падаўся?

Маё недаўменне выклікана дзіўным заняткам калегі: ён прыкладае лінейку да свайго артыкула, надрукаванага ў свежым нумары, нешта запісвае, потым памнажае, складае і абвяшчае вынік: 520! У ягоных руках так званая сакратарская лінейка, дзе выстаўленыя розныя шкалы для вымярэння газетнай плошчы. Артыкулы, загалоўкі, рубрыкі набіраюцца рознымі шрыфтамі, старонка машынапісу можа заняць на паласе больш ці менш месца, і адказны сакратар, які робіць макет, заўсёды прыкідвае, куды што можна ўціснуць.

Гэта мае першыя дні ў газеце, і я гляджу на лінейку з трывогай, якую заўсёды выклікае нешта невядомае, якое мусіў бы ведаць. «Петыт, боргес, нонпарэль» гучаць як «мэнэ-тэкел-фарэс» з прароцтва аб канцы свету.

Як засвоіць прамудрасць курсіваў, падкладак і вываратак, ліхтарыкаў ды іншага жаргону, каб не зняславіцца перад прафесіяналамі? Слова «гарнітура» ў мяне папераменна выклікае вобразы жаночага касцюму і набору мэблі, а кеглі, якімі вымяраюць велічыню шрыфта, цвёрда асацыююцца з дзіцячым садком. Аказваецца, мала напісаць, трэба яшчэ матэматычна дакладна вымяраць надрукаванае паводле нейкай формулы...

— Справа наша верная і перамога будзе за намі! — урачыста абвяшчае сябар і паказвае на чырвоны вымпел «Пераможцу сацспаборніцтва», які пыліцца ў кутку. — А на шляху да яе атрымаем прэмію.

Сацыялістычнае спаборніцтва ў газеце — рэч складаная, заблытаная і містычная. Адзін наш калега, спартовы журналіст, абараніў дысертацыю пра сацыялістычнае спаборніцтва ў жывёлагадоўлі і стаў кандыдатам гістарычных навук. Аднак і ён нічога не разумеў у рэдакцыйнай сістэме. Можна было не напі-

саць за квартал ні радка і заняць прызавое месца. Разгараліся жарсці, у кабінеце рэдактара ўсчыняўся гвалт, камісію прафкама патрабавалі прыцягнуць да адказнасці. Раз на год, непазбежна, як Фенікс з попелу, узнікала ідэя памяняць умовы, і тады пачыналі збіраць прапановы.

— Скасаваць надбаўку за «круглыя сталы» — на іх нажываецца аддзел прапаганды! — бушаваў загадчык аддзела саветаў.

— У святле апошняй пастановы палітычна няправільна адмяняць балы за рэйды па пісьму! — ішоў у атаку загадчык аддзела пісьмаў.

— За планавую дысцыпліну даваць 10 балаў! — настойваў адказны сакратар.

Усе выступалі за спрашчэнне сістэмы падлікаў, але кожныя наступныя ўмовы атрымліваліся чамусьці больш складанымі. Апошняя турнірная табліца, якую я памятаю, налічвала каля двух дзясяткаў паказчыкаў, улік вёўся да дзясятых бала. Здабываліся яны так: кожныя сто газетных радкоў давалі адзін бал, прычым больш чым свае цаніліся аўтарскія выступленні, г.зн. падрыхтаваныя ў аддзеле да друку матэрыялы іншых аўтараў. Далей пачыналася сістэма стымулаў. Скажам, у раздзеле «за дзейснасць і рэзананс публікацыяў» кожнае надрукаванае рэагаванне прыносіла адзін бал, падборка водгукаў чытачоў на выступленні — тры балы.

Калі не хапала радкоў, каб пристойна выглядаць на фоне іншых, нас заўсёды выручаў Лермантаў, у якога мы асабліва любілі верш і вядомы раманс «Выхожу один я на дорогу».

— Ну што, «и звезда с звездою говорит»? — напалову сцвярджальна пытаўся калега, і мы пачыналі званіць знаёмым у розныя раёны.

— Пеця, ты ж, канечне, чытаў артыкул у мінулым месяцы па нашым аддзеле пад назвай «Веды ў масы»? А, ты не выпісаў на гэты год. Але нічога, мы тут водгук падрыхтавалі, ты ж не

супраць падпісаць? Давай адрас, ганарару якраз на бутэльку хопіць!

І Пецевы водгукі прыносілі нам жаданыя балы.

Былі ў нас жалезныя кадры, якіх і папярэджваць не трэба было. Але часам даводзілася панервавацца. Матэрыял ішоў у нумар, а мы ніяк не маглі папярэдзіць яго «аўтара», які ні сном ні духам не ведаў пра сваё выступленне ў газеце. Тэарэтычна мог быць скандал, але неяк праносіла.

Увогуле, пісаць за іншых не тое што дапускалася — патрабавалася, за такія артыкулы хвалілі. Лічылася, што трэба дапамагчы выкласці думкі рабочаму ці калгасніку, міліцыянеру. Асабліва востра такая патрэба ўзнікала перад святамі й юбілеямі, і з нагоды якой-небудзь пастановы.

Аднойчы, пасля чарговых бясчынстваў ізраільскай ваеншчыны, мяне паслалі па водгук у камуністычную будучыню — рэспубліканскі інтэрнат персанальных пенсіянераў. Непадалёку ад сталіцы, ва ўтульных карпусах дажывалі свой век тыя, хто ў свой час добра такі абрэзаў век іншым: удзельнікі грамадзянскай вайны, чонаўцы, палымяныя арганізатары калгасаў і раскулачвання, камісары індустрыялізацыі. У дадатак да поўнага пансіёну ім выдавалі прадуктовыя заказы, так што дзеці і ўнукі раз на тыдзень гарантавана прыязджалі ў адведкі. Персанальныя пенсіянеры мелі такі звадлівы характар, што мясцовы персанал баяўся красці сухую каўбасу. Дзяды жылі бурным грамадскім жыццём — глядзелі праграму «Час», абмяркоўвалі маральнае аблічча адзін аднаго, скардзіліся ў партыйныя органы.

Адзін з іх, як былы член кампартыі Палесціны і габрэй, вырашыў абурыцца агрэсіяй Тэль-Авіву. Ён патэлефанаваў у ЦК, а адтуль пазванілі ў рэдакцыю. Запісаўшы водпаведзь акупантам Заходняга берагу Іардану, я пацікавіўся, што дзед-габрэй рабіў у арабскай кампартыі. Аказалася, на пачатку 20-х гадоў ён адправіўся на заробкі ў Польшчу, потым перабраўся ў Палесціну,

якая была пад ангельскім пратэктаратам, там за ўдзел у дэманстрацыях патрапіў у турму, яго абмянялі на нейкіх палонных і вярнулі ў Савецкі Саюз. Тут залічылі партстаж, ён скончыў Камуністычны інстытут журналістыкі і паехаў працаваць рэдактарам «Бірабіджанскай зоркі».

— Дык Вы журналіст — самі маглі ўсё напісаць, — здзівіўся я.

— Не мог, — стары паказаў скручаныя вузлом рукі. І паскардзіўся, што, калі арыштавалі ў 1937-м, следчы ўкладаў яму паміж пальцаў алавік і, націскаючы мацней і мацней, прапаноўваў прызнанне на выбар: польскі, ангельскі альбо палесцінскі шпіён.

— І што Вы выбралі?

— Я сказаў: партыю падманваць не буду. Запісалі — японскі...

Журналісты недалюблівалі падобныя заданні, і час ад часу пачынаўся крык: чаму мы мусім працаваць за некага, аўтар сам не можа нічога сказаць... Рэдактар на скаргі не рэагаваў і звыкла пытаўся, калі патрэбны матэрыял будзе гатовы. Адзін калега, карэспандэнт цэнтральнай газеты, на пытанне, як у іх з такімі матэрыяламі, адказваў:

— Вельмі добра. Я пішу, аўтар падпісвае, ніхто не чытае. А з ганарарам па-мужчынску — напалам за выняткам партузносаў. Партыю падманваць нельга!

Неяк я, рыхтуючы падобную публікацыю, перастараўся: яе заўважылі, і так пачалася бурная палітычная кар'ера аднаго агіднага тыпа, які неўзабаве стаў доктарам філасофіі, а потым стаў збіраць ураджай з нівы парламентарызму.

Падманваць, відаць, нельга нікога — гэтай глыбокай выснoвай скончу ўспамін пра сацыялістычнае спаборніцтва.

# Кенгуру

## Частка I

Усё цячэ, але што мяняецца? Яшчэ да работы ў газеце я падазраваў, што ўласцівыя мне маральная нястойкасць і палітычная беспрынцыпнасць звязаны з колькасцю выпітага, але нейкім незразумелым чынам. Простую залежнасць не ўдавалася вывесці, нягледзячы на рэгулярныя спробы адшукаць ісціну.

Мой аднакурснік, які працаваў настаўнікам на Віцебшчыне (і быў надзейнай мёртвай душой, што прыносіла нам балы ў газетным сацспаборніцтве), хваліўся парадкамі ў сябе ў школе. Калі памёр генсек Чарненка, падзею вырашылі адзначыць у калектыве. У спартовай зале сабралі жалобны стол, дырэктар адкрыў сход. З прамовай выступіў мой знаёмы — ён лічыўся прапагандыстам, за што яму ў дадатак да нямецкай мовы далі права выкладаць красленне і музыку (у сельскіх школах настаўнікі за нагрузку б'юцца).

Стоячы, выпілі за памін душы нястомнага барацьбіта за мір, вернага ленінца, выдатнага дзеяча сусветнага камуністычнага і міжнароднага рабочага руху. Пасля паднялі тост за мір увогуле, потым за вернасць курсу. Затым за камуністычны рух і асобна за рабочы.

— Потым выпілі за жанчын, фізік збегаў па магнітафон і да раніцы танцавалі пад Высоцкага, — завяршыў расказ аднакурснік.

У дадзеным выпадку мела месца эвалюцыя: савецкае мерапрыемства плаўна перацякло ў антысавецкае. Але бывала й іначай. Калі Сталіну даклалі, што аўдыторыя літаратурнага вечара ўстала, каб вітаць Ганну Ахматаву апладысментамі, ён спытаў: «Хто арганізаваў уставанне?» Пытанне, як і ўсё сталінскае, было геніяльнае. Гэта адчулася асабліва выразна пасля таго, як ад-

нойчы я асабіста арганізаваў уставанне і авацыю Брэжневу Леаніду Ільічу (ён тады яшчэ лічыўся жывым).

Здарылася гэта ў горадзе, які быў некалі сталіцай княства, меў слаўную контррэвалюцыйную гісторыю, а потым ператварыўся ў звычайны райцэнтар з макароннай фабрыкай, камбінатам бытавога абслугоўвання, цукровым і піўным заводамі. Прычым уставанне праходзіла не на піўзаводзе, а ў гарадскім палацы культуры. Праўда, перад гэтым была экскурсія на піўзавод.

— Раней казалі: піва няма, толькі тутэйшае. А цяпер наадварот, — хваліўся патрыёт-інструктар гаркама. Пасля дэгустацыі некалькіх гатункаў мясцовай вытворчасці гэтае цьмянае сцверджанне было цяжка аспрэчыць.

У горад я патрапіў у якасці суправаджэння пры аташэ ў справах культуры пасольства Кубы ў СССР. Неяк сакратар мясцовага гаркама наведаў востраў Свабоды. Пасля турпаездкі раён быў абвешчаны пабрацімам астраўной правінцыі, дзе, нягледзячы на перамогу рэвалюцыі, па-ранейшаму добра рос цукровы трыснёг. З яго ў беларускім гарадку рабілі жоўты цукар, які мясцовыя жыхары адмаўляліся купляць. З часу гістарычнай турпаездкі ў дадатак да ўласных святаў у горадзе бурна адзначалі чырвоныя дні кубінскага календара. Якраз у такі дзень напярэдадні Новага года горад упершыню рыхтаваўся да сустрэчы карыбскага абарыгена.

Аташэ скончыў савецкі ўніверсітэт і не патрабаваў перакладчыка, з Масквы ў Мінск дабраўся самастойна. Далей, аднак, паводле дыпламатычнага статусу, ён чамусьці не мог ехаць адзін (як высветлілася пазней, засцярога была нялішняя).

На раённай мяжы нашу «Волгу» перапынілі машыны ДАІ. Гэта быў эскорт, высланы з райцэнтра. З-за недахопу жыццёвага досведу я не змог своечасова ацаніць усю сур'ёзнасць бу-

дучых выпрабаванняў, што й прывяло потым да інцыдэнту з авацыяй.

Спачатку нас завезлі ў паказальна-ўзорную вучэльню, дзе рыхтавалі механізатараў шырокага профілю і аператараў машыннага даення (так у дакладах тады называлі трактарыстаў і даярак). Пасля агляду тэхнікі, пакоя працоўнай славы і дошкі гонару дырэктар запрасіў перакусіць з дарогі. Было ранавата, мы нядаўна снедалі, але сказаць, што стол узбуджаў апетыт — нічога не сказаць. У бронзавым баршчы раставалі айсбергі смятаны, вулканам дымілася вараная бульба, пупышкі на марынаваных гурках нагадвалі дзявочыя грудкі. Як ракеты на пускавых пляцоўках, чакалі каманды запацелыя бутэлькі «Сталічнай».

— Яму можна свініну? — ціха пытаўся дырэктар. І паспешліва дадаваў: — На чыстым масле!

Старт на арбіту інтэрнацыянальнай дружбы быў дадзены. Калі мы прыехалі ў гаркам, нас ужо выглядала знерваваная сакратарка па ідэалогіі.

— Графік, аміго, графік! Павінна быць рэвалюцыйная дысцыпліна! У нас шмат спраў!

Аднак перад тым, як пазнаёміць са спісам мерапрыемстваў, яна прапанавала ўшанаваць гістарычны момант. Стрэліла шампанскае, зазвінелі бакалы, на закуску былі выстаўленыя шакаладныя цукеркі і апельсіны. У планах значылася наведванне краязнаўчага музея, азнаямленне з вытворчасцю на піўзаводзе, візіт у прыгарадны калгас і ўрачысты мітынг у палацы культуры.

— Але спачатку — абед, таварышы чакаюць!

Мясцовы рэстаран сустрэў вывескай «Спецмерапрыемства». Здалёк здалося, што на ўсю даўжыню банкетнай залы выцягнуты слуцкі пояс: геаметрыя халодных закусак, ікорніц з маслам і графінаў з морсам паўтарала «ўзор радзімы васілька», з якім мы знаёміліся гадзіну назад у сельгасвучэльні. З той роз-

ніцай, што тутэйшы ўзор стракацеў усімі колерамі вясёлкі: каньячна-гарэлачныя вырабы і настойкі годна сімвалізавалі моц дружбы савецкіх народаў. Па марачных вінах можна было вывучаць геаграфію краіны.

Члены бюро райкама і іншае мясцовае начальства, мяркуючы па нервовай паспешнасці, з якой паціскаліся рукі, даўно прагнулі практычнага вывучэння. Культурны аташэ прафесійна ацаніў сытуацыю і ўзяў курс на поўны парытэт і раўнапраўе бакоў.

З надзвычайнай вытрымкай кар'ернага дыпламата ён не прапусціў ніводнай перамены страваў: пасля асятрыны, паштэту і рыбнага рулету пакаштаваў ружовую паляндвіцу, малочную вяндліну і вэнджаны язык. За булёнам з прафітролямі наступіла чарга ягнячых адбіўных і запечанага ў цесце карпа, якога падалі з лімоннымі долькамі й гішпанскімі маслінамі замест вачэй. Дранікі з чырвонай ікрой былі прадстаўленыя як узор нацыянальнай кухні, і таму не паспытаць іх было немагчыма.

Колькасць тостаў не саступала колькасці страваў. На дэсерт прынеслі брусніцы ў мёдзе, арэхі ў цукровай пудры і па кавалку цяжкога пірага, які сачыўся ў страснай знямозе быць неадкладна з'едзеным.

Падняцца пасля такога стала азначала парушыць законы прыроды. Грузная сакратарка ўспырхнула, як сінічка. Члены бюро прыхапілі па яблыку. Пасланец карыбскага вострава не дапіў толькі каву, якую падалі ў шклянках з падстаканнікамі. У машыне я прасіў вадзіцеля рэзка не паварочваць — баяўся расплёскаць усё выпітае.

— Кава, — мармытаў кубінец, — павінна быць чатыры разы вельмі: вельмі гарачая, вельмі моцная, вельмі чорная і вельмі мала!

— У нас так робяць піражкі з мясам, — пагаджаўся вадзіцель.

Наведванне музея прайшло ў паўсне. Зноў пілі шампанскае, прычым сакратарка высыпала цукеркі з дзвюх вазачак сабе ў сумку. Візіт на піўзавод працверазіў, але дзіўна паўплываў на вестыбулярны апарат: пры поўнай яснасці мыслення ногі не падпарадкоўваліся камандам цэнтральнай нервовай сістэмы.

Зімні дзень кароткі, і калі мы ўехалі на тэрыторыю калгаса, на небе ўжо прарэзаліся першыя зоркі.

— Што вы будзеце рабіць на ферме? — задаў філасофскае пытанне вадзіцель і заявіў, што ў Савецкім Саюзе й на Кубе каровы аднолькавыя, а ноччу яшчэ дарога назад. Сакратарка спрабавала запярэчыць, але культурны аташэ назваў вадзіцеля сапраўдным марксістам і ў выніку кароткай дыскусіі мы пракаціліся па цэнтральнай вуліцы, развярнуліся каля заснежанага помніка й накіраваліся да хаты старшыні.

У той вечар я ўведаў, што выразы «дым стаіць каромыслам» і «стол ломіцца ад страваў» зусім не гіпербалы, а тэхнічна дакладнае апісанне бытавых фізічных працэсаў. У хаце варылі, парылі й смажылі з раніцы. У клубах пары мільгалі цені, бразгацелі чыгуны, нешта злосна шыпела й курчылася ў печы. Лысы, як калена, гаспадар правёў у светлы пакой, які амаль увесь займала канструкцыя, падобная да аэраплана братоў Райт. Аднак узляцець яму не было суджана ні пры якіх абставінах. Нясучыя плоскасці зверху выглядалі як літара «Н», у якой сярэдняя злучальная рысачка прарэзала правую вертыкаль і вытыркнулася далёка ўбок.

Эфект этажэркі дасягаўся шматслойнай структурай дапаможных плоскасцяў, якія ўтваралі рознай формы сподачкі, пляскатыя й глыбокія талеркі, салатніцы, соўсніцы, місы, працвіні й тазы, што грувасціліся адны над аднымі. Гарэлачныя галоўкі пункцірна выступалі над верхнім слоем посуду й нагадвалі алюміневыя заклёпкі на фюзеляжы.

— Гэта толькі закускі, — паспяшаўся супакоіць старшыня, пасвойму прачытаўшы выраз на маім змененым твары. — Гарачае будзе потым. Спецыяльна для госця зайца ўпалявалі. Фаршаваныя зайцы на Кубе ёсць? — звярнуўся ён да культурнага аташэ.

— Зайцаў на Кубе няма, ёсць кракадзілы — цвёрда адказаў той. — Але Фідэль і партыя не адступяць.

Праўленне калгаса азвалася ўхвальным гулам. Аперацыя рассадкі прайшла паспяхова, калі не лічыць пары сінякоў ад сутыкненняў з цэбрамі заінелага халадцу. Заціснуты паміж парторгам і перадавой цялятніцай з ордэнам Леніна на грудзях, я мог назіраць толькі фрагмент дыспазіцыі. Салёныя грузды хаваліся за марынаванымі баравікамі й смажанымі рыжыкамі. Каля шаткаванай капусты з журавінамі пунсавелі бачкавыя памідоры з наліплым смародавым лістом. Праз халмы сальцісону выступала крывянка і крупяніца, побач з напластаваным кумпяком ласніліся вэнджаныя, сушаныя, печаныя кілбасы хатняга прыгатавання. Дзве бабкі — з бульбы й морквы, яйкі з сечаным селядцом, лустачкі свежага сала, галубцы, дэфіцытныя шпроты, нешта падобнае на авечы сыр...

Пабачыўшы, што мая талерка пустая, суседка спытала, ці каштаваў я калі кішкі з цялячай пячонкай і прызналася, што сама гатавала. Пячонку яна ўзбівае ў ступцы, крышыць булку, улівае густой смятанкі, потым дадае таўчонага гарэху, маярану, смажанай цыбулі, па правілах добра б уліць конаўку чырвонага віна, але ж з мужыком дома хіба тое віно дастаіць, разбівае чатыры жаўткі, варыць у булёне, кішкі абмывае халоднай вадой і смажыць на масле.

Я набраўся духу, заплюшчыў вочы, пакаштаваў і выказаўся ў тым сэнсе, што ордэн ёй далі правільна, але не за тое. Мне паабяцалі даць пячонкі з сабой — усё роўна падзёж на ферме такі, што... Тым часам на супрацьлеглым баку стала ішла свецкая гутарка на міжнародныя тэмы.

— Хрэну вазьміце, хрэн на Кубе ёсць? — ветліва цікавіўся старшыня.

— Хрэн на Кубе ёсць, толькі салодкі, — адказваў асавелы госць.

— Жывуць жа людзі, — уздыхала мая суседка.

— Не перажывай, Сцяпанаўна, знойдзем табе салодкі! — абяцаў парторг. Раптам дзверы расчыніліся, заверашчаў прыбіты кот, і ў пакоі пацямнела. На вялізным падносе ў зараслях пятрушкі й кропу, абкладзены маркоўнымі зорачкамі й бураком, пакрыты бура-залацістай корачкай узвышаўся гатовы да скачка кенгуру.

## Кенгуру

### Частка II

За апошнія гады мне давялося там-сям пабываць і тое-сёе пакаштаваць. У партовай рыбнай лаўцы ў Александрыі я еў смажаную на грылі рыбу-меч, у парыскім паднябесным рэстаране «Ciel de Paris» смакаваў паштэт з гусінай пячонкі, у лонданскім «Wheeler's », найлепшым марскім рэстаране ў свеце, глытаў свежыя фін-дэ-клеры і яшчэ тры віды вустрыц, назваў якіх не помню. Бязлітасна халодным зімнім днём апякаўся цыбульным супам у ірландскім рэстаране на Манхэтане, мой нож уваходзіў як у масла ў далікатнейшую выразку з аргентынскага высакагорнага быка ў рэстаране «Maredo», від на пляжы Рыа-дэ-Жанэйра з дваццатага паверха гатэля «Caesar Park» не мог адцягнуць вочы ад дэсерту з трох тузінаў трапічных фруктаў. У пяцізоркавым замку «Fuschl» на поўначы Аўстрыі гатавалі неверагоднае сядло ягняці, у Чыкага я сядзеў за столікам першай у свеце

«Pizza Hut», у Венецыі ўзламваў інквізытарскім ключом панцыр амара з вусамі, як у Сальвадора Далі.

Калі ў самым гурманскім мюнхенскім рэстаране «Gourmet» (19 з паловай пунктаў з дваццаці магчымых у класіфікацыі Gault et Millau) каля нашага століка пачалі гатаваць соус для замоўленага голуба, японская пара здымала працэс відэакамерай, пакуль не скончылася батарэйка. Пад час аднаго з прыездаў у Антверпен мае сябры паклікалі свайго знаёмага, шэф-повара адзінага на той час у Бельгіі трохзоркавага рэстарана (паводле класіфікацыі Michelin). Ён з'явіўся з дзвюма скрынямі інструментаў, адных нажоў налічвалася штук васямнаццаць, і гатаваў нам вячэру — гэта было, як бы Пол Макартні прыйшоў да вас у кватэру і заспяваў «Yesterday».

Але нідзе й ніколі я не перажываў такога ўзрушэння, як у вясковай хаце старшыні калгаса, калі на стол уздзвіглі смажанага кенгуру. Тое, што ўнесеная жывёліна належала да атраду сумчатых, а не дробных грызуноў, у мяне не выклікала ніякага сумневу.

— Раз, два, тры, чатыры, пяць, выйшаў зайчык пагуляць! — праспявала сакратарка па ідэалогіі.

— Піф-паф, ой-ёй-ёй, памірае зайчык мой! — падхапіў парторг.

— Патрыя о муэртэ — радзіма альбо смерць! — крыкнуў кубінец і ўсадзіў відэлец у фаршаванага монстра. Мяне замуціла, і я выскачыў на марознае паветра.

Далей падзеі развіваліся так: недзе праз гадзіну сумеснымі з вадзіцелем намаганнямі і пры ідэалагічнай падтрымцы райкамаўскай сакратаркі мы вырвалі аташэ з застолля, бо катастрафічна пазніліся на ўрачысты мітынг. Да райцэнтра было кіламетраў дзесяць. Ехалі ўжо з чвэрць гадзіны, як вадзіцель раптам пабялеў і пачаў рэзка тармазіць: упоперак дарогі стаяла ма-

шына і нехта махаў. Па накатаным снезе «Волгу» развярнула і бокам пасунула на людзей, якія чамусьці рушылі да нас.

Калі мы выскачылі з аўтамабіля, знаёмыя галасы старшыні і парторга сустрэлі нас дружным воклічам: «На пасашок!» У гэтым месцы праходзіла мяжа калгаса, і гаспадары не маглі адпусціць госця без аглаблёвай.

На капот узгрувасцілі скрыню з прыпасамі, забулькаў каньяк, усе чокнуліся й выпілі. Я прыгубіў і шукаў, як бы незаўважна выліць рэшту ў снег, калі быў схоплены на месцы злачынства.

— Ты камуніст? — спытаў парторг.

— Камсамолец.

— Тым болей. Што скажа камарад аташа?

— Вэнсэрэмас — мы пераможам! — нечакана адгукнуўся той.

— Пі,— падвёў рысу парторг.

Горш ужо не будзе, падумаў я, і пад пільным наглядам інтэрнацыянальнай кампаніі ўліў у сябе шклянку. Пасля ўсіх udараў дня каньяк быццам не падзейнічаў. Выпілі па другой і па трэцяй. Стала шумна, горача, нікуды не трэба было спяшацца. Навокал то крычалі ў вуха, то ўвогуле знікалі. Хвілінная стрэлка на гадзінніку скакала, як кенгуру.

Калі наша «Волга» падкаціла да палаца культуры, грамадскасць даўно ўжо спрабавала разбегчыся, але вопытныя арганізатары зачынілі дзверы. Мы распрануліся ў кабінеце дырэктара, аташэ асвяжыўся шампанскім, сакратарка зноў высыпала сабе ў сумку цукеркі, і нас правялі ў прэзідыум. Госця віталі ад імя горада і раёна, кубінец выступіў у адказ, прычым, як мне здалося, па-гішпанску, але зразумела: «Манкада», «Гуантанама», «Плая Хірон», «мучачас», «мачэтэ», «Чэ», як тады называлі рэвалюцыйнага бандыта Чэ Гевару... Пасля да мікрафона па чарзе выходзілі прадстаўнікі грамадскасці з залы і прадстаўнікі прэзідыуму, якія зачытвалі амаль аднолькавыя тэксты і паўтаралі

тыя ж самыя вызначэнні. Я перастаў слухаць і страціў кантроль за зменай прамоўцаў, пакуль раптам не высветлілася, што сам стаю за трыбунай і прамаўляю — без паперкі.

— Узняўшыся на вышыню, дзе ніколі не ступала нага чалавека, а цяпер развіваецца навукова-тэхнічны прагрэс і супрацоўніцтва дзеля міру ў цэлым свеце, у імя й на карысць свабадалюбных сіл і народаў, якія цвёрда сталі на шлях карэнных духоўных і сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў ва ўсіх сферах жыцця і дзейнасці, скіраванай на далейшае ўмацаванне, паглыбленне і пашырэнне...

Фраза набухала, як цеста, у якое перадалі драджджэй, перавальвалася цераз край і валачылася сырымі бясформнымі камякамі. Безнадзейна згубіўшы назоўнік і ўсё больш вязнучы ў багне дадатковых сказаў, я вывярнуў на свабодную яшчэ прастору азначэнняў і пусціў серыю прыметнікаў:

— ... правераных гісторыяй і вытрымаўшых выпрабаванні часу непарушных братэрскіх повязяў трывалай усебаковай савецка-кубінскай і кубінска-савецкай дружбы, прысвечанай...

Мяне цягнула ў пастку, як труса ўцягвае ўдаў. Абраны сінтаксіс бязлітасна патрабаваў новага пад'ёму, а падымацца ўжо не было куды. Амаль не было. Грудзі напоўніліся паветрам:

— ...Генеральнаму сакратару Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза Старшыні прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР асабіста Леаніду Ільічу Брэжневу!

Яшчэ на пачатку шматступеннага тытулу генсека я адчуў лёгкае, як калыханне малекулаў, падвышэнне напружання ў прэзідыуме й імклівае падзенне тонусу ў зале — аўдыторыя мярцвела на вачах. Кожнае вымаўленае слова, быццам адстраляная ступень ракеты-носьбіта, выводзіла інтанацыю на ўсё большую вышыню. Адпрацаваныя часткі з медна-ўрачыстым гудам праносіліся па шматжыльным мікрафонным дроце і з дынамікаў абрыналіся на галовы слухачоў.

На канцы трынаццацічленнага дапаўнення паўза на долю секунды для пераводу дыхання дала такі акцэнт акалічнасці спосабу дзеяння «АСАБІСТА», што я ледзь устаяў на нагах.

У грозна-львіным лянівым рыку мой раптоўна левітанаўскі голас, як расплаўлены метал, стаў заліваць любоўна вылепленыя языком, паднябеннем і губамі формы імені ў давальным склоне: чырвоным золатам налілося й зазвінела «ЛЕАНІДУ...», напоўнілася і ўрачыста ўзялося застываць «ІЛЫЧУ...»

Нечакана сутаргава пачала скарачацца дыяфрагма. Рэшткі пазбаўленага кіслароду паветра рвануліся ў трахею, страсянулі правіслыя галасавыя звязкі й сухім парахавым выбухам ударылі па мікрафону:

«БРЭ...»

Наступнае

«Ж»

без галоснага за сабою страціўшы звонкую жорсткасць, бясшумным вожыкам падкацілася да нэйтральна-невыразнага

«НЕ...»

і, як шматтонную глыбінную бомбу, напружаннем усіх унутраных органаў я выштурхнуў у дынамікі гулка-воўчае

«ВУ-ууу!..»

Дзве тонкія стальныя іголкі пранізалі абедзве лапаткі ў тым месцы, дзе ў анёлаў растуць крылы. Далоні разышліся й сышліся ў безгучным хлапку, потым другім. Святло з лямпаў слаілася й лускамі ападала ў залу. Я апладзіраваў імені, якое толькі што вывергла сябе з мяне. Я апладзіраваў адзін.

Адчай, роспач і сум панавалі навокал. Незямная горыч якойсьці канчальнай страты напоўніла сэрца. Нешта безмежна дарагое й безабароннае пакідала мяне назаўсёды, непапраўна й беззваротна.

Я не чуў выбуху воплескаў, не бачыў, як устаў прэзідыум і падымалася зала, не помню, як развіталіся й выехалі з горада. Гэта было ў іншай прасторы, у іншую эпоху, у іншым жыцці.

У тым жыцці мы вярталіся ў Мінск далёка запоўнач. На заднім сядзенні час ад часу ванітавала аташэ. Вадзіцель круціў настройку прыёмніка. «I said something wrong...» — ціха спявалі «Бітлз».

У гэтым новым жыцці я баяўся толькі аднаго: што мяне болей ніколі не апячэ невыносна церпкі незямны боль там, дзе ў анёлаў растуць крылы — боль, без якога, мне падалося тады, няма розніцы паміж жыццём і смерцю.

## Інквізітар К-цга раёна

— Вы праваслаўны? Не лезце ў гэтую гісторыю!

Думаю, гэта была самая нечаканая парада, якую карэспандэнт рэспубліканскай газеты мог пачуць у райкаме партыі. Крыху перадгісторыі: неяк пра мяне напісалі ў кніжцы. На пачатку 1980-х у Мінску праходзіла ўсесаюзная канфэрэнцыя, прысвечаная ваеннай ці, дакладней, антываеннай літаратуры. Адзін вядомы беларускі празаік у сваёй прамове спаслаўся на мой артыкул пра лёс брацкай магілы на Берасцейшчыне і заявіў, што так вось трэба пісаць.*

Мая публікацыя была наскрозь літаратурная: назву «Трава забыцця» я запазычыў у Валянціна Катаева, у тэксце ненавязліва цытаваўся Ўладзімір Высоцкі, фразы кшталту «каб жыць, трэба жаць» нагадвалі філасофскую лірыку беларускіх паэтаў.

Выступ празаіка на канферэнцыі надрукавалі ў кніжцы, я ім тайна цешыўся, пакуль мяне не выклікалі да начальства.

— Што гэта значыць?

---

* Віктар Казько ў кнізе «Литература о войне и проблемы века», 1986.

На стале ляжалі канверты з адзнакай «Урадавы»; на бланках ззяў герб СССР, у тэкстах узгадвалася маё прозвішча з патрабаваннем прыняць меры. Цяжка было ўявіць назвы больш розныя й далёкія ад звычайнага кола адрасатаў рэспубліканскай газеты на нацыянальнай мове — усесаюзныя міністэрствы вугальнай прамысловасці, фінансаў, грамадзянскай авіяцыі, чамусьці паўночнамарскі ваенны флот. Адправіцеляў аб'ядноўвала тое, што іх начальнікі з'яўляліся членамі ЦК КПСС. Апроч таго, па фельд'егерскай пошце асобнае ўказанне разабрацца — за подпісам самога генсека Чарненкі — накіравалі з Масквы ў Берасцейскі абкам.

Паштовую лавіну выклікалі лісты з Берасцейшчыны ў абарону мясцовага жыхара, чыё прозвішча нават не згадвалася ў публікацыі. Між тым, сапраўды, гісторыя з брацкай магілай атрымала розгалас дзякуючы ягоным пошукам імёнаў салдат, якія загінулі пры вызваленні вёскі.

Справа там адбылася тыповая для ўсёй Беларусі: спачатку забітых пахавалі там, дзе яны загінулі. Потым прыйшоў загад парэшткі звозіць у магілы раённага маштабу і ставіць адзін помнік на ўсіх. Частку магілы раскапалі, косткі закінулі ў скрыню для райцэнтра, а рэшту прысыпалі пяском. На месцы зэканомленай магілы пабудавалі танцпляцоўку, потым яна згніла, і на парослай пустазеллем пустэчы пасвіліся гусі ды грэбліся куры.

Праз некалькі дзесяцігодздзяў абвясцілі «ўсесаюзны ленінскі паход па месцах баявой славы», і піянеры пайшлі высвятляць імёны тых, каго дзяржава ўвесь гэты час лічыла «прапаўшымі без вестак». Дзяржаве так было зручней: не трэба плаціць пенсіі ўдовам і дзецям, траціцца на ўшанаванне, сваякі не абцяжарвалі перапоўненую транспартную сістэму паездкамі на магілы родных.

Да «ленінскага паходу» далучыўся мясцовы жыхар. Напісаў «наверх» пра магілу, адтуль, відаць, спусцілі дырэктыву, і мяс-

цовыя ўлады мусілі выграбці смецце і паставіць агароджу. Калі я прыехаў у тую вёску, меры, як кажуць, ужо былі прынятыя. Мяне цікавіў маральны канфлікт: «Травой забыцця парасла не магіла, а сэрцы вяскоўцаў», — да такога агранамічнага прысуду зводзіўся пафас аўтарскай пазіцыі.

Змучаных, затурканых, запалоханых людзей, якія пасля вайны яшчэ доўга жылі без пашпартоў, фактычна прыгонных, я заклікаў разам з зацытаваным савецкай прэсай чэшскім антыфашыстам Фучыкам баяцца абыякавых, «бо гэта з іх маўклівай згоды робяцца ўсе злачынствы». Традыцыя такая была, заклікаць да адказнасці не злачынцаў, а некага іншага...

Пасля публікацыі выглядала, што меры, як звычайна, прынялі й да парушальніка спакою. Яго абаронцы спасылаліся на газету й прасілі дапамогі ў членаў ЦК КПСС, а тыя пераслалі просьбы ў рэдакцыю. Я выехаў на месца.

— А, вы да інквізітара, — сказалі мне на пошце, дзе распытваў адрас. — Хату лёгка пазнаеце — саломай крытая...

Счарнелая хатка ўрасла ў зямлю па вокны. На стук ніхто не адазваўся, я штурхануў дзверы і ўвайшоў. Над галавой — шэрае неба, праз раскіданую страху ў пакой спускаюцца сняжынкі й нехаця растаюць на земляной падлозе — канец лютага, адліга. Сагнутая бабка каля разваленай печы абірае бульбу.

— Там ён...

У суседнім, два на два метры пакойчыку месціцца ложак і застаецца яшчэ вузкі праход. Пад ватняй коўдрай ляжыць чалавек гадоў сарака і чытае касамольскую газету «Знамя юности». Над ім паліца, застаўленая папкамі з надпісамі «пракуратура», «аблвыканкам», «ваенкамат», «ЦК КПСС», «патрыярхія» ды іншымі. Ён складвае газету, правярае маё пасведчанне, развязвае тасёмкі. На коўдры раскладаюцца копіі зваротаў у розныя інстанцыі, падшытыя адказы — узорная канцылярыя. Паміж

бланкаў з друкаванымі адказамі ўстановаў трапляюцца лісты ад энтузіястаў паходу па былую славу.

«Вы — сапраўдны савецкі чалавек, — піша кіраўніца камсамольскага клуба «Пошук» з Валгаграда. — Мы ўважліва вывучаем Ваш вопыт патрыятычнай работы. Думаю, што абаронцы дома Паўлава залічылі б Вас у свае шэрагі».

Гэтыя лісты, перапісаныя каліграфічным почыркам, таксама рассылаюцца, як дадаткі, у інстанцыі. Апафеоз справаводства — цяжкі том пад назвай «Метрычная кніга». У такіх настаяцелі царкоўных прыходаў запісваюць хрышчэнні, шлюбы й пахаванні сваёй паствы. У кнізе пазначаны даты адпраўлення й атрымання карэспандэнцыі і час рэагавання. ЦК КПСС прыняў пастанову, паводле якой усе інстанцыі павінны адказваць на лісты працоўных на працягу месяца, тлумачыць ён, але тэрмін часта парушаецца, бюракратызм і цяганіна яшчэ не зжытыя...

— Усюды мёртвыя, і тут пад намі мёртвыя, уся зямля на нябожчыках, не чапай! — урываецца ў пакойчык бабка з нажом у руках. Неабабраная бульбіна шлёпаецца на ліст, сын акуратна распраўляе скамечаны аркуш. З ягоных белых мяккіх далоняў я пераводжу вочы на счарнелыя траскія рукі старой, потым на разбураны комін над галавой. Ён заўважае позірк.

— Калі Бог не ўзводзіць дом, дарэмна працуюць будаўнікі яго, — ціхмяна гучыць радок з песні ўзыходжання Саламона.

Яго абвінавачваюць у дармаедстве, ужо прыязджала міліцыя, але ён уцёк праз вакно. Не працуе па ідэйных матывах. Пасля школы вучыўся ў духоўнай акадэміі, працаваў дыяканам у мясцовых цэрквах. Але з бацюшкамі не ўжыўся, у святары не рукапакладзены і ад служэння адлучаны — за прапаганду й агітацыю за асабістае вучэнне. У раёне мае сваю групу падтрымкі, пару дзясяткаў актывістак (якія й рассылалі лісты ў абарону).

Час ад часу яны збіраюцца, ідуць у царкву, туды не пускаюць, ён пачынае прамаўляць на цвінтары. Усчынаюцца бойкі паміж

яго камандай і прыхільніцамі афіцыйнага святара. Апошні раз дасталося й яму — артадаксальныя верніцы за ногі цягнулі з царквы, галава скакала па прыступках, ён цярпліва глядзеў у неба.

— Заб'юць цябе і памрэш,— крычыць матка. Двума пальцамі сын моўчкі дастае левае вока. Старая сціхае. У маладосці яна шыла й выкалала малому зрэнку. Адзінокая кабета ўспрыняла калецтва як знак выбранасці сына, яго незямнога прызначэння. З таго часу хлопчык ніколі нічога не зрабіў уласнымі рукамі. Працавала ў калгасе й на гаспадарцы толькі маці, у сына была свая планіда. Цяпер, калі матчынай пенсіі хапае толькі на хлеб, яго падкармліваюць паслядоўніцы. Адна цётка, пакуль муж быў у ад'ездзе, прадала карову, і грошы аддала духоўнаму правадыру. Муж вярнуўся, пабіў жонку і ганяўся за былым царкоўным служкам.

— Ён жа што зрабіў: купіў радыё з магнітафонам, паназапісваў казанняў і развесіў абвесткі, што будзе багаслужба на розных мовах, — расказваў старшыня сельсавета. — А якраз 1 Мая. Бачу, на слупе магнітафон. Палез здымаць — слуп дзёгцем абмазаны, а я ў новым касцюме, — барвавеў ад злосці старшыня.

Разлічваць на спагаду аднавокаму прароку не даводзілася, але і ўзяць яго было нялёгка. Ён умела манеўраваў невялікімі сіламі верных паплечніц, вёў актыўную перапіску з рознымі афіцыйнымі ўстановамі, абыйшоў усе кабінеты раённай улады, заваліў заявамі суд і пракуратуру, ездзіў некуды пад Львоў, да раскольнікаў. Пасля гэтага ў райкам партыі звяртаўся мясцовы бацюшка і прасіў не дапусціць ерасі і новых боек.

— У гэтай справе чорт нагу зломіць, — скардзіліся ў райкаме. — Зараз па лініі абкама праверка, трэба адказ у Маскву рыхтаваць. А раён па малаку мінусуе, першага на бюро выклікаюць...

Пра танцпляцоўку на магіле пры гэтым не гаварылі. Мой знаёмы, стары берасцейскі журналіст, паспрабаваў нешта сказаць пра жорсткасць майго падыходу, але я не зразумеў.

Дакладней, зразумеў па-свойму, праз Дастаеўскага. «Накармі, тады й патрабуй ад іх цнотаў!» — вось што чулася мне ў папроку. Быццам спраўдзілася прадказанне Вялікага Інквізітара, думаў я: «пройдуць вякі, і чалавецтва абвесціць вуснамі сваёй прамудрасці й навукі, што злачынства няма, а, значыць, няма й граху, а ёсць толькі галодныя». Правільна думаў, але не дадумваў да канца. Тыя, хто дадумваў, у газетах не працавалі...

Дабро і зло куляліся ў гэтай гісторыі, як клоўны на арэне. Гледачы раптам апыналіся ў адной клетцы са звярамі. Усё залежала ад пункту гледжання. А таксама — ад сілы зроку...

Ніякая мараль не выціскалася. Пасля гутаркі з «інквізітарам», які так і не падняўся з ложка, я адправіўся ў райцэнтр. Там, калі хадзіў з канторы ў кантору, раптам падалося, што за мной сочаць. Падумаў, што вар'яцею ад усяго пачутага. Зайшоў за вугал, пастаяў і выглянуў.

Як падстрэлены кажан, у сандалях і чорным балоневым плашчы, абледзянелы брук зігзагам перасякаў адстаўны дыякан. Бліснула вока, затрашчала рукаво, узвіўся алмазны пыл — і пустата, толькі вараннё ірванулася над царкоўнымі купаламі...

Як ён дабраўся да райцэнтра адначасна са мной — дагэтуль не разумею.

Таксама не разумею, як ніхто не заўважыў памылку ў самым фінале артыкула, яго кульмінацыі: наконт абыякавых папярэджваў не чэх Фучык, як я напісаў, а паляк Ясенскі. Юліюсу Фучыку належыць сапраўды класычны «Рэпартаж з пятлёй на шыі».

Падсвядомасць?..

## Дыханне жабы

У кабінет зайшла прыбіральшчыца.

— Паслухайце, гэта Вы соль увесь час рассыпаеце?

— Што? Якую соль?

— Пад дзвярыма. Я раніцай ужо некалькі разоў вымятала.

Я паціснуў плячыма. З бабулькай мы былі ў прыязных адносінах: працавала яна карпатліва, умудралася нават неяк выцірацьпыл і не парушыць беспарадак на маім заваленым паперамі стале. На святы мы дарылі ёй шакаладкі для ўнукаў, у шафе заўсёды пакідалі пустыя бутэлькі, што было неблагім дадаткам да пенсіі.

— Дык гэта не ваша соль?

— Не.

Прыбіральшчыца ўважліва паглядзела на мяне.

— Сярод Вашых нядобразычліўцаў ёсць чарнявая дама гадоў сарака?

Я ўтаропіўся ў старую. Пасля вар'яцкіх пытанняў і недарэчных адказаў, дзікіх супастаўленняў і безглуздых тлумачэнняў высветлілася наступнае. Соль пад дзвярыма з'яўлялася кожны раз пасля візітаў загадкавай дамы. Што гэта за дама, я здагадваўся: мой фельетон пра яе подзвігі на ніве камуністычнага выхавання, надрукаваны ў газеце, чыталі па «Свабодзе», на рэдакцыю ціснулі, маўляў, публікацыя памылковая.

Дама была хвацкая: я выказаў сумненне ў мэтадах, якімі яна ўсталёўвала ў калектыве «сацыялістычную народнасць». Дама, ласкава ўсміхаючыся, на маіх вачах пазваніла ў ЦК і прашчабятала: «Мікалай Іваныч, вось тут карэспандэнт адвяргае сацыялістычную народнасць. Актуальна, канечне, я так яму й казала, так і скажу, да сустрэчы, Мікалай Іваныч...»

Пасля публікацыі ад мяне вымагалі прабачэння, я супраціўляўся. З соллю, як растлумачыла прыбіральшчыца, было звычайнае чарадзейства: злыя людзі хацелі сурочыць.

— Вось што: я ведаю адну жанчыну, якая пашэпча і адвядзе ад вас насланнё.

Я адмовіўся. І, магчыма, дарма: мяне добра-такі пацягалі на выхаваўчыя гутаркі ў ЦК. Пасля іх чамусьці блыталіся накірункі метро: замест рэдакцыі заўсёды прыязджаў на вакзал. Я потым пытаўся ў прыбіральшчыцы, ці яе знаёмая магла абараніць ад ЦК.

— Ад начнога нетрымання мачы яна напэўна дапамагае, а наконт цакі трэба запытацца.

Праз пару дзён у мяне на стале ляжаў рэцэпт: блізка да роту паднесці вялікую жабу і падыхаць на яе. Ад гэтага сэрца жабы пачынае біцца хутка-хутка, і адразу палягчэе. Сурокі пераходзяць на жабу. Яна скочыць два-тры разы і здохне.

Толькі любоў да ўсяго жывога ўстрымала мяне ад ахвярапрынашэння земнаводнага: чаму адны бяззубыя мусяць расплочвацца за іншых?.. Да таго ж сярод жаб бываюць царэўны.

Духоўнае ў нас заўсёды рашуча пераважала над матэрыяльным. Два разы на год газета друкавала артыкулы, прысвечаныя пачатку й заканчэнню вучобы ў сістэме палітасветы.

Дапісаўшы да гэтага месца, я надоўга задумаўся. З тае прычыны, што зараз ніхто не памятае, што гэта такое, а тады, здавалася, не было на свеце важнейшай справы, чым заняткі прапагандыстаў, палітінфарматараў і агітатараў, метадычныя семінары, спецкурсы, наглядная агітацыя й тэхнічныя сродкі навучання, агітмашыны, пераносныя стэнды й іншая парафернатія «ідэалагічнага забеспячэння».

Дзеля гэтага забеспячэння спынялі камбайны, раней выключалі станкі, не адчынялі пасля абедзеннага перапынку крамы — веды несліся ў масы, каб ператварыцца ў дзеянні, г.зн. праца-

ваць больш і лепш, але за тую ж зарплату. І пры гэтым не задаваць пытанняў. Хаця тэарэтычна пытанні заахвочваліся, бо лічылася, што прапагандыст змог зацікавіць слухачоў, ускалыхнуць, абудзіць да творчай думкі. Асабліва важным лічылася не пазбягаць вострых пытанняў.

На Берасцейскім электрамеханічным заводзе пасля лекцыі пра міжнароднае становішча адна слухачка, маладая дзяўчына, спыталася, калі ж скончыцца вайна ў Афганістане. Яе хлопец перастаў пісаць...

— Таварыш правільна ставіць пытанне, — адзначыў прапагандыст. І прызнаў: — Недахопы ў рабоце нашай пошты яшчэ ёсць.

На пачатку 80-х было афіцыйна ўведзена свята — Дзень прапагандыста, якое адзначалася ў апошнюю суботу жніўня, напярэдадні навучальнага года. Лепшым надавалі ганаровыя званні «Заслужаны прапагандыст», уручалі ўзнагароды — настольны знак і ганаровую грамату, а таксама падпіскі на дэфіцытныя кніжкі. У абласных цэнтрах праводзіліся злёты і семінары, на якіх прапагандысты ў асноўным выкарыстоўвалі час для закупаў усяго таго, чаго ў раёне днём з агнём не знойдзеш, а таксама для беспрабуднага п’янства й ідэалагічна бяспечных заляцанняў.

— Я на курсы заўсёды пасылаю камсамолак і маладых настаўніц, — тлумачыў мне за бутэлькай падбор дэлегацыі загадчык парткабінета аднаго райкама. — І ў абкаме задаволеныя, і ім заахвочванне: з кім яна пераспіць у вясковай школе? Моладзь даўно паўцякала...

Раён лічыўся перадавым у справе партвучобы, і загадчык часта дзяліўся вопытам у друку. Сексуальную падаплёку прапаганды й агітацыі пры гэтым не згадваў.

Уся рэспубліка была густа пакрытая сеткай школ маладога камуніста, гурткамі палітасветы, семінарамі навуковага ка-

мунізму і ўніверсітэтамі марксізму-ленінізму. Наведванне было абавязковым, і выкруціцца амаль нікому не ўдавалася.

Час ад часу ідэалагічнае начальства запускала нейкую ініцыятыву, і тады патрабавалася яе апісваць. Адной з такіх прыдумак стаў адзіны палітдзень. Калі знойдзецца вар'ят, які захоча пагартаць усесаюзныя часопісы «Партийная жизнь», «Коммунист», «Политическое самообразование», «Агитатор» першай паловы 80-х гадоў, у яго застракаціць у вачах ад гэтага тэрміну.

«Адзіны палітдзень» азначаў, што ў гэты дзень начальства дружна сустракалася з народам і натхняла апошні на новыя працоўныя подзвігі. Тэмы рэспубліканскага палітдня вызначалі ў ЦК, абкамы й райкамы прыдумлялі свае ўласныя замарочкі. Усе рэспубліканскія газеты мусілі паводле графіка надрукаваць артыкулы ў дапамогу прапагандыстам, а тыя потым — разбавіць мясцовымі прыкладамі й пераказаць.

Прыклады былі розныя: хто працуе ў лік будучай пяцігодкі, хто патрапіў у выцвярэзнік (часам прозвішчы супадалі). І народ, і начальства па магчымасці ўхіляліся ад такіх дэсантаў, але часцей усё ж даводзілася выконваць урок.

Неяк у Пінскім раёне мяне павезлі на такое мерапрыемства ў калгасны клуб. Справа была зімой, а сёмай раніцы стаяла яшчэ цемра, хоць вочы выкалі. І дакладчыкі — раённы пракурор ды старшыня райвыканкама, і калгаснае начальства абралі гэты час, бо ён найменш замінаў працы. У халодны з ночы клуб нагналі больш за сотню механізатараў, сядзелі ў кажухах, ды й пракурор не стаў здымаць форменнага шыняля. Тады якраз зноў пачалі барацьбу з непрацоўнымі даходамі і, распавёўшы пра складанае міжнароднае становішча, пракурор тлумачыў новыя правілы, паводле якіх патрабавалася ламаць цяпліцы й ганяць бабулек з кветкамі.

Народ слухаў уважліва — пінчукі славіліся сваімі гуркамі, амаль у кожнага на гародзе стаяў парнік.

— Пытанне маю, — падняўся адзін паляшук. — Як з волшэбныкамы будэ — заборонять, чы як?

Я падумаў, што не зразумеў, і перапытаў у суседа: з кім? З волшэбныкамы, адказаў сусед.

— Ніякіх выключэнняў. Калі не зарэгіструюцца й не будуць плаціць падаткі, будзем прыцягваць. Для інвалідаў вайны прадугледжаныя льготы.

Ашаломлены дыялогам, я толькі на наступны дзень у рэдакцыі раёнкі ўведаў, што калгасны дзязька і прадстаўнік Феміды пад чараўнікамі мелі на ўвазе знахараў — бабак-шаптух. Казалі, што ў глухіх вёсках яшчэ заставаліся шаманы. Раённая медыцына вядома якая, да таго ж не наездзішся да тых лекараў, а гэтыя заўсёды пад бокам. І дапамагаюць не горш за камсамолак з дыпломам фельчарскіх курсаў. Загнаць знахараў у падпольле лёгка, але як прыцісне — і сам пракурор прыедзе на паклон, растлумачылі калегі*.

Палессе славілася цудамі: мясцовыя паслядоўнікі паганскіх багоў «вадзілі куста», вучоныя знаходзілі тут рэшткі зараастрызму, у Моталі шылі кажухі. Там, паміж асушаных балот, я пабачыў цуд інкарнацыі агітатара. Расказвалі, сам ідэалагічны загадчык з ЦК, грозны й безлітасны шэф усёй прэсы, начальнік

---

* Пройдзе пару гадоў, і я прачытаю ў былой сваёй газеце наступны тэкст:
«Як паведамлялася ўжо, мінскі экстрасенс В.І.К-ў па дамоўленасці з рэдакцыяй зарадзіў увесь тыраж газеты за 17 кастрычніка. З тых пісьмаў, што паступілі ў рэдакцыю, відаць, што многія адчулі пэўнае ўздзеянне. Вось што, напрыклад, паведаміла жыхарка Наваполацка Кацярына Фёдараўна П-ва: «У мяне павялічана шчытападобная залоза. Зрабілі аперацыю, але карысці мала. Не дапамаглі і лекі. І калі я прачытала газету за 17 кастрычніка, то нечакана залоза зменшылася, спыніліся болі ў сэрцы. Прапаную яшчэ раз паўтарыць эксперымент». Жыхар Лунінецкага раёна, які папрасіў, каб мы не паведамлялі яго прозвішча, напісаў: «Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС рэзка пагоршылася здароўе. Цяжка стала дыхаць, а потым у мяне з’явілася бранхіяльная астма. Ніякія лекі не дапамагалі, апрача гарманальных, якія крыху аблягчалі пакуты. І вось я прачытаў артыкул у газеце за 17 кастрычніка. Нейкі ўнутраны голас мне падказаў: «Не трэба больш прымаць пілюлі». І не прымаю, але адчуваю сябе добра. Прашу паказаць маё пісьмо экстрасенсу. Магчыма, ён зноў пагадзіцца зарадзіць тыраж газеты?»

партвучобы і камандзір нагляднай агітацыі грэбліва крывіўся, гледзячы на рапарты аб колькасці праведзеных гутарак, і гучна заяўляў:

— Я ніколі не бачыў жывога агітатара.

Ці азначала гэта, што ён бачыў мёртвых агітатараў, дакладна невядома. У адзін з прыездаў у Пінск мне паабяцалі паказаць агітгутарку. Агітатар — даяр, з гонарам паведамілі ў райкаме.

«Газік» да фермы пад'ехаць не змог, і ў «чырвоны куток» мы з інструктаркай прабіраліся праз завалы гною. Чырвонымі куткамі ці ленінскімі пакоямі называліся спецыяльныя месцы для адпраўлення рытуалаў — лекцыяў, палітінфармацыяў, падвядзення вынікаў сацспаборніцтва ды іншых магічных дзеянняў. Патрабавалася мець іх на кожнай ферме, у кожным цэху дзеля таго, каб паказваць правяраючым. Ленінскі пакой на той ферме меў асаблівасць: якраз на ўзроўні жывата праз дзверы праходзіла труба малакаправода. Каб увайсці ці выйсці, даводзілася нізка прыгінацца; загадчык фермы, высокі тоўсты дзядзька, упоўз амаль на карачках.

Калі ўсе расселіся, наперад выпхнулі хлопца ў вайсковай форме — ён толькі вярнуўся з войска і на работу хадзіў у салдацкіх чаравіках і гімнасцёрцы.

УМінскпрыбылакубінскаяпартыйнаўрадаваядэлегацыяначалесастаршынёмурадурэспублікікубараулемкастраўаэрапорцедэлегацыюсустракаўсакратарцэкакапэбэдземянцейдэлегацыяўсклалакветкідапомнікаперамогі, — на адным дыханні, драўляным заціснутым голасам, утаропіўшыся ў ногі, адрапартаваў учарашні выдатнік баявой і палітычнай падрыхтоўкі і, зрабіўшы крок назад, схаваўся за спінамі даярак. Сюжэт пра Кастра дні два перад тым паказвалі па тэлебачанні.

— Наш госць спяшаецца, сёння абыдземся без пытанняў, — падвяла вынікі інструктарка. Па дарозе назад яна махнула рукой:

— Ведаю я іх пытанні. Чаму цукру даюць па кілаграму на чалавека, дзе мыла падзелася. Дзе я ім мыла вазьму — нам, думаеце, даюць? Так, што дастанеш...

У разгар мыльнага крызісу я патрапіў у Маскву на дачу кандыдата ў члены Палітбюро, сакратара ЦК КПСС — выхадца з Беларусі: той пагадзіўся адказаць на пытанні газеты, звязаныя з адной гісторыяй сталінскіх часоў. Калі я развітваўся з гаспадаром, яго жонка ўручыла мне невялікі, прыгожа загорнуты пакунак. Усярэдзіне аказаліся тры кавалачкі туалетнага мыла. Мой маскоўскі сябар, тэатральны рэжысёр, у якога я спыніўся, рагатаў, як агаломшаны:

— Дажыліся бальшавікі, мыла дораць. А тытуню табе не далі, солі не адсыпалі?!

І сурочыў — неўзабаве пачаліся «тытунёвыя бунты», знікла зубная паста. Калі сябар супакоіўся, дык спытаў, ці не ахвярую я пачак палітбюроўскага мыла — у мэтах беспартыйнай гігіены й санітарыі, як ён выказаўся. Давялося дзяліцца. Праўда, даярка ці механізатар, нават з партбілетам, пасля рабочага дня пахлі зусім не так, як пасля дня ў райкамаўскім кабінеце ці ў рэпетыцыйнай зале.

Каб ствараць хаця б ілюзію дзейнасці, трэба было нешта рабіць. І райкамаўцы рабілі, праклінаючы прыезд карэспандэнта, дзеля якога даводзілася даваць прадстаўленне. Калі ў газеце з'яўляўся крытычны артыкул, яны шчыра не разумелі й крыўдзіліся.

У адным раёне на Віцебшчыне новы сакратар, былы дырэктар саўгаса, пагнаў увесь склад райкама на буракі й сенакос, прычым не наглядаць, а палоць дзялкі. Гэта было найлепшае выкарыстанне прафесійных атэістаў, лектараў і ідэолагаў, хаця, канечне, калгаснікам ненамнога палягчэла. Але калі я напісаў пра сакратарку па ідэалогіі, якая замест тэарэтычнага забеспячэння

нарыхтоўкі кармоў сама выйшла ў поле, тая страшэнна абурылася й паехала скардзіцца спачатку ў абкам, потым у Мінск:

— Ён абразіў мяне як жанчыну,— заявіла госця рэдактару. — Напісаў пра мазалі на маіх руках!

Першая ледзі раёна была некалі настаўніцай, родам з вясковай сям'і. У сваім райкаме яна перажыла некалькіх першых сакратароў, вызначалася моцным характарам і ўладарнасцю. Жонкі мясцовай эліты — пракурора, судздзі, дырэктара фабрыкі — таксама працавалі на сваіх гародах, але не афішавалі.

Калі пра гэтую драму пачуў адзін мінскі тэатральны крытык, мой добры знаёмы, ён заўважыў, што разносныя артыкулы пра ідэалагічную работу вядуць да няправільнай мэты. У выніку гэтая работа будзе паляпшацца, недахопы будуць выпраўляцца, а значыць, людзей будуць дурыць яшчэ лепш. А трэба хваліць, тады дасягалася б звышзадача — развальваць сістэму. Пра развал, сказаць праўду, асабліва тады не думалася. Але, далібог, ніякае самаўдасканаленне пасля крытыкі сістэме не пагражала, тут маё сумленне чыстае.

Уся стройная шматпавярховая структура прапаганды й агітацыі існавала на паперы і ў ідэалагічна заклапочаных мазгах выбраных функцыянэраў. У эканоміцы эфект ад школаў маладога рацыяналізатара й гурткоў палітасветы сапраўды можна вымераць — мільёнамі змарнаваных працоўных гадзін.

А ў ідэалогіі... На Мінскім заводзе шасцерняў мяне завялі да лепшага прапагандыста, чыё імя качавала, як прыклад, з дакладу ў даклад. Мажная кабета з размаляваным тварам сядзела ў запушчаным цёмным пакоі, які аддзяляла ад цэха тонкая металічная перагародка. За сценкай раўлі станкі, час ад часу нешта бухала, са скрыгатам цягнулі жалеза па жалезе.

— Дзе вы праводзіце заняткі? — пракрычаў я.

— Што? Кажыце гучней!

Пасля паўторнага пытання прапагандыстка крыкнула ў адказ:

— Тут!

## Усё ж такі Ленін...

Быў такі папулярны анекдот: Брэжневу прынеслі запіс падслуханай тэлефоннай размовы, у якой яго называлі такой самай сволаччу і бандытам, як Ленін, Сталін і Маа Цзэдун. Генсек загадаў зрабіць копіі і раздаць усім членам ЦК.

— А што рабіць з аўтарам?

— Не чапаць. Усё ж з Леніным параўнаў...

Самы вядомы ў свеце псеўданім задавальняў самыя разбэшчаныя патрэбы і служыў супрацьлеглым мэтам. Вярнуцца да «ленінскіх нормаў» абяцалі лідары перабудовы ў Крамлі. Захаваць «чысціню ленінскага сцягу» патрабавала Ніна Андрэева з Ленінграда. Аднавіць «ленінскую нацыянальную палітыку» заклікалі дэмакраты ў Мінску. А перад гэтым мы таксама ішлі «правільным ленінскім курсам» — такі транспарант вісеў перад універсамам у Серабранцы, дзе я здымаў кватэру.

Па дарозе ў Дом друку аўтобус праязджаў праз раёны трактарнага і маторнага заводаў, прыпыняўся каля прахадных завода шасцерняў, электратэхнічнага, аўтаматычных ліній, потым злева заставаўся гіпсавы завод, справа маргарынавы, і далей ішлі могілкі. Імя нябожчыка адсутнічала толькі на апошнім аб'екце. Логікі не было.

Вясной і восенню, у дзень ленінскага нараджэння і на ўгодкі рэвалюцыі, газеты рыхтавалі спецыяльныя святочныя нумары. Мы раўніва параўноўвалі сваю прадукцыю з выпускамі калегаў і адзінадушна вырашалі, што наша лепшая. Гэта нагадвала яшчэ адзін анекдот: член палітбюро ў ложы Бальшога тэатра тлума-

чыць жонцы: гэтая балерына каханка Раманава, тая Пельшэ... Жонка патрабуе паказаць, да каго ходзіць сам муж. Той паказвае.

— Наша лепш.

Набліжаўся грандыёзны юбілей — 70-годдзе Вялікага Кастрычніка. Мы вырашылі пераплюнуць усе выданні й закаціць цыкл публікацыяў. Быў распрацаваны план. У загалоўкі вынеслі запаветы правадыра: «На справе вызваліць жанчыну», «Вырываць паўторна і нястомна пустазелле бюракратызму», «Дысцыпліна не з неба звальваецца». Пасля загалоўкаў ішло кароткае тлумачэнне тэмы: «Аб гісторыі й сучасным стане гэтай задачы» — так злавесна расшыфроўвалася ленінская фраза «Сацыялізм ёсць знішчэнне класаў».

З газетнымі планамі звычайна атрымлівалася тое ж самае, што з планамі партыі. Ніводзін артыкул з запланаваных не быў надрукаваны. Замест іх ветрам надзьмула іншых, не менш рэвалюцыйных. Нават рэдактар, член ЦК, круціў носам, але не рашаўся скарачаць пугі, як называлі ў газеце вялікія матэрыялы, нашпігаваныя ленінскімі цытатамі. Прычым лічылася палітычнай памылкай адступаць ад кананічнага тэксту перакладу на беларускую мову паводле 4-га выдання збору твораў. Загалоўкі кшталту «Гвозд цякучага моманту» прыгвазджалі чытачоў намёртва.

Па меры набліжэння юбілею мы мусілі займаць усё больш глыбокую абарону. У рэдакцыю цугам ішлі дацэнты, краязнаўцы, аспіранты й персанальныя пенсіянеры. Кожны хацеў унесці свой уклад у ленініяну. Адзін заўзяты даследчык дваццаць гадоў спрабаваў даказаць, што Ленін быў у Беларусі. Ён вывучыў расклад руху дарэвалюцыйнай чыгункі, працягласць стаянак на прыпынках, тыпы вагонаў і кошты квіткоў, паслугі насільшчыкаў і цэны ў буфетах. Наклаў інфармацыю на замежныя вандроўкі правадыра, унёс папраўку на нечалавечую сціпласць, і

вывеў, што Ленін ехаў праз Беларусь, але ноччу. Прычым апошняя акалічнасць з'яўлялася прадметам асаблівага гонару.

— Я сустракаўся са старымі бальшавікамі, — гаварыў ён у якасці апошняга аргументу. Ягоныя даследаванні пераслалі на экспертызу ў Маскву, і праз пару гадоў з інстытута марксізму-ленінізму прыйшоў адказ, што выказанае сцвярджэнне не ўяўляецца неверагодным. Пасля тонкай палітычнай барацьбы было вырашана павесіць мэмарыяльную дошку, але не ў Мінску, а ў Берасці. Слова «ноччу» з тэксту выкінулі. На берасцейскім вакзале дошка вісіць і дагэтуль (калі не ўкралі на медны лом). Ледзь не забыўся: перад тым, як аддацца краязнаўчай дзейнасці, энтузіяст дваццаць гадоў прасядзеў у лагерах на Калыме. Там, палярнай ноччу, і адбыліся сустрэчы са старымі бальшавікамі.

Некаторыя канверты з юбілейнай пошты можна было не адкрываць — мы пазнавалі аўтараў па почырку. Але кожны ліст рэгістраваўся і, каб спісаць яго ў архіў, паводле правілаў трэба было даць адказ.

Майстэрства адказу грунтавалася на вялікім практычным досведзе і было даведзена да афарыстычнасці: «Мы ўважліва прачыталі ваш допіс. На жаль, рэдакцыя не змагла своечасова яго выкарыстаць». Ці такі: «Дзякуй за ўвагу да газеты. Вашыя меркаванні сталі прадметам нашага абмеркавання і будуць улічаныя пры перспектыўным планаванні». Адступленні ад класічных тэкстаў хавалі ў сабе пагрозу, у чым я пераканаўся асабіста.

Ліст прыйшоў з Ніжняга Ноўгарада, які тады называўся Горкі. Палкоўнік запасу Чабурашкін (прозвішча сапраўднае), член ВКП(б) з 1935 года, наведаў з тургрупай Горкі Ленінскія і дзяліўся сваімі ўражаннямі ад паездкі. Я вырашыў, што маю справу з халтуршчыкам усесаюзнага маштабу, які рассылае свае допісы па ўсіх рэдакцыях у разліку на перадʼюбілейны попыт і

адпаведны ганарар. І напісаў нешта накшталт таго, што інфармацыя не зацікавіла.

Мінуў месяц. Знаёмая рэгістратарка аддала мне другі ліст ад Чабурашкіна, хаця на гэты раз на канверце стаяла пазнака «рэдактару асабіста ў рукі». Палкоўнік абураўся адказам, кваліфікаваў яго як «грамадзянскую блізарукасць» і выказваў цвёрдую надзею, што ўспаміны будуць надрукаваныя. Я напісаў другі адказ, у якім неабачліва характарызаваў нататку палкоўніка як нудную, адарваную ад сучаснасці і заключаў, што надрукаваць не зможам.

Удар з берагоў Волгі не прымусіў чакаць. Счацвёраны залп быў нацэлены ў Мінскі райкам, гаркам, абкам і ЦК партыі. Палкоўнік абвінавачваў рэдактара ў палітычнай слепаце і дакладваў, што ў газеце дзейнічае вораг (прозвішча пазначалася). У партыйных установах старых бальшавікоў не любілі і ўсе лісты пераслалі ў рэдакцыю.

Для падрыхтоўкі трэцяга адказу я пайшоў у бібліятэку. У выніку росшукаў было вырашана перамагчы праціўніка на яго ж тэрыторыі. Патрабаванні да ленінскай тэматыкі на старонках газеты такія высокія, пісаў я, што другасны пераказ турыстычнай брашуры (былі пазначаныя старонкі, з якіх палкоўнік чэрпаў натхненне) будзе знявагай як для чытачоў, гэтак і для памяці правадыра.

— Калі ваш карэспандэнт яшчэ працуе ў газеце, — пачынаў Чабурашкін новы ліст з малаверагоднага, на яго думку, дапушчэння, — дык яго зацікавіць той факт, што ўсе ягоныя бюракратычна-грэблівыя па форме і класава-варожыя па сутнасці адпіскі цяпер вывучаюць у ЦК КПСС і Камітэце дзяржаўнай бяспекі СССР. Партыя не дазволіць здзекавацца над кадрамі з паўвекавым стажам. Ленін жыў, Ленін жыве, Ленін будзе жыць. Ганарар прашу выслаць на ўказаны адрас.

Ад далейшай перапіскі я быў адхілены, але эпісталярная вайна цягнулася яшчэ некалькі гадоў. Наступалі зацішшы, пасля палкоўнік, відаць, натыкаўся сярод сваіх папераў на адрас газеты і зноў ішоў на пошту. Потым у маладзёжнай газеце я пабачыў знаёмае мультфільмавае прозвішча пад аповедам пра візіт у маўзалей. Як правільна сцвярджае Беларуская савецкая энцыклапедыя, том 6, старонка 319: «Хто за Леніным ідзе, той нідзе не прападзе».

Ленін часам ставіў у тупік самых спрактыкаваных ленінцаў. У мяне захавалася пара сырых газетных палосаў, якія чытаюць дзяжурныя па нумары — вылоўліваюць памылкі, робяць скарачэнні, уносяць папраўкі. Адну такую паласу за люты 1989 года я не выкінуў, бо яна мела каштоўны аўтограф ідэалагічнага загадчыка з ЦК. Той асабіста правяраў, як будзе асвятляцца апазіцыйны мітынг на стадыёне «Дынама». Пад загалоўкам «Эмоцыі — дрэнны дарадца» наладчыца МАЗа асудзіла нацыяналістычны сцяг, ідэі сумнеўных эканамістаў і нефармалаў, якія ірваліся да ўлады. Загадчыку гэтага падалося мала, і ён размашыста дапісаў: «І наогул, навошта Мінскі гарвыканкам даў дазвол на такое пустое мітынгаванне».

Але больш цікавым быў іншы пакрэмзаны «водгук працоўных». Інжынер з трактарнага завода падводзіў пад крытыку марксісцкую базу:

«У.І.Ленін у цяжкія гады царскай рэакцыі звяртаўся да працоўных праз газеты, названыя простымі і зразумелымі словамі «Правда», «Искра», «Рабочая правда», «Рабочий путь». У нашых жа пісьменнікаў у роднай беларускай мове не знайшлося слова для назвы гісторыка-асветніцкага таварыства, і давялося яго пазычыць з царкоўнага лексікону сярэдніх вякоў — «Мартыралёг».

Мяркуючы па крэсленнях, гэты пасаж выклікаў цяжкі роздум ідэолага: што менавіта хацеў сказаць хітравумны інжынер?

Якую думку спрабаваў працягнуць? Ці не намякае, што ўмовы «царскай рэакцыі», у якіх вёў змаганне Ільіч, падобныя на цяперашні час? Ці не атаясамлівае задачы, якія стаялі перад «іскраўцамі», з мэтамі нефармалаў? Адкуль нездаровая цікавасць да царкоўнай гісторыі? Загадчык рэзка, злева направа, перакрэсліў абзац.

І задумаўся зноў. Па ўсім відаць, таварыш вывучаў гісторыю бальшавіцкага партыйнага друку. Правільна адзначае прастату і зразумеласць як аснаватворныя рысы ленінскага вучэння аб рабоце ў масах. Па-пралетарску, без цырымоніяў высмейвае й ставіць на месца недарэчных інтэлігентаў-пісьменнікаў. Ідэолаг аднавіў перакрэсленае.

Потым задумаўся яшчэ раз. Ленін звяртаўся да масаў са Швейцарыі, Францыі й Англіі. Усе пералічаныя газеты былі, па сутнасці, адным выданнем, якое мяняла назву. Нефармалы могуць успрыняць гэта як падказку, і з падтрымкай антысавецкіх эмігранцкіх цэнтраў пераняць тактыку. Няясная роля рэлігіі. Калі нефармалы прыслухаюцца да крытыкі й пойдуць на зблíжэнне з сучаснымі царкоўнікамі — каму гэта будзе выгадна? Невыпадкова мусіруецца тэорыя пакаяння, якую той-сёй хацеў бы навязаць грамадскасці й партыі. А тое, што ў беларускай мове не знайшлося адпаведнага слова — ці той гэта папрок, які патрэбны зараз? Нашто выпінаць яшчэ раз стан мовы, які зрабілі сваім сцягам нацыяналісты? Злашчасны абзац быў зноў перакрэслены справа налева.

Урэшце рэшт надрукавалі: «Усё ж такі Ленін...»

Праўда, і Леніну не ўсё дазвалялася. Мы паразітавалі на модных апошніх працах і лістах спаралізаванага правадыра. У адной з публікацыяў прыводзіліся ягоныя словы пра памылку — маўляў, трэба прызнаць памылковасць нашага погляду на нешта, не памятаю што. Рэдактар абзац выкрэсліў і растлумачыў:

— Усё ж такі Ленін...

## Канцэрт для прэзідэнта

### Частка I

Першага жывога прэзідэнта я сустрэў яшчэ пры савецкай уладзе. Ён нават прыслаў мне ліст, дзе пісаў, што сустрэча надоўга запала яму ў памяць. Мне яна таксама запала, хаця з іншай прычыны. Канечне, зараз гэтай публікі гаць гаці, але тады любы прэзідэнт быў экзотыкай. На пачатку 70-х Мінск наведаў Ніксан: праезд перакрылі, да вокнаў не падыходзь, адны спецыяльна абвучаныя сцяжкамі махалі. Мой сябар хацеў перайсці вуліцу, дык потым у нашым інстытуце замежных моваў яго дапытвалі: з якой мэтай спрабаваў уступіць у сувязь з амерыканскім прэзідэнтам? З сапраўдным прэзідэнтам сапраўднай дзяржавы я пазнаёміўся пад час сваёй самай першай паездкі за мяжу.

Выехаць выйшла з дапамогай таго самага аднакурсніка, які спрабаваў уступіць у несанкцыяваную сувязь з Ніксанам: ён працаваў перакладчыкам у бюро маладзёжнага турызму «Спадарожнік». Тэлефонная размова была кароткай: гарыць пуцёўка ў камсамольскую спецтургрупу, прынясеш грошы да абеду — твая.

Пасля заканчэння інстытута я працаваў ужо некалькі гадоў, але яшчэ ні разу не быў за мяжой. Пуцёўка каштавала 426 рублёў — тры месячныя зарплаты. На яе пайшлі грошы, адкладзеныя на мэблю (усё роўна свая кватэра ў бліжэйшыя гады не пагражала). Прыстаўка «спец» да назвы тургрупы азначала, як высветлілася, што я быў адзіны, хто плаціў за паездку. Астатнія ехалі на казённы кошт.

Паездка была на невялікі востраў у Міжземным моры. Паводле Гамера, менавіта на ім падарожнікі па залатое руно на чале

з Адысеем сустрэліся з Цырцэяй, якая ператварыла іх у свінняў. Гамер, як высветлілася, добра ведаў мясціны, пра якія пісаў.

Аснову групы складаў народны ансамбль песні й танцаў аднаго з мінскіх заводаў. Рабочых у ансамблі не было ніводнага, калі не лічыць кіраўніка, які ў працоўнай кніжцы лічыўся фрэзероўшчыкам. Ансамбль выступаў перад кіраўніцтвам завода на савецкія святы, а таксама бесперапынна ўдзельнічаў у конкурсах, аглядах і справаздачных канцэртах, якія разрослая бюракратыя прафесійнай самадзейнасці наладжвала ў неверагоднай колькасці. На аглядах важныя цёткі з упраўленняў культуры прысвойвалі званні «народных» вымуштраваным на механічных рэпетыцыях удзельнікам мастацкай самадзейнасці.

Званне «народны ансамбль» азначала прызнанне заслуг кіраўніка, большую зарплату. Але самае галоўнае — адкрывала дарогу да паездак за мяжу. «Кароль Лір» блякне перад інтрыгамі, змовамі й здрадамі, слязамі, адзюльтэрамі й клятвамі ў вернасці, якімі суправаджалася барацьба за месцы ў групе. Такі ансамбль і склаў дваццаць з трыццаці ўдзельнікаў паездкі.

Астатнія месцы размеркаваліся паміж супрацоўнікамі абкама і райкама партыі, ЦК камсамола і таварыства «Веды». Яны лічыліся прапагандыстамі. Меркавалася, што ансамбль будзе танцаваць, а прапагандысты — адкрываць вочы астраўной грамадскасці на міралюбны знешні курс партыі і ўраду. Таму ім пуцёўкі выдалі бясплатна. Апроч мяне, у групе быў толькі адзін турыст, які не танцаваў і не меўся чытаць лекцыяў. Ён сказаў, што працуе зборшчыкам на заводзе «Гарызонт». Калі на інструктажы абменьваліся тэлефонамі, ён таксама даў свой рабочы нумар.

— Здорава, у вас тэлефон на канвееры! — не стрымаў я здзіўлення. Ён толькі ўсміхнуўся. Канвеер, выглядала, быў зусім у іншым месцы. Яму, як я зразумеў, аплацілі не толькі пуцёўку, але яшчэ й выпісалі камандзіровачныя ў адпаведнасці са званнем.

Перакладчыца чакала нас у Маскве — гэтае бясплатнае месца належала сталічнай камсамольскай мафіі. Кабета аказалася баявая, ангельскай мовай валодала ў межах, неабходных для закупкі магнітафонаў. Паколькі ў анкеце я пазначыў, што скончыў інстытут замежных моваў, дык усю паездку працаваць давялося аднаму мне.

Востраў сустрэў нас халодным ветрам і штормам — стаяў травень, да адкрыцця сезону заставаўся яшчэ месяц. Мы былі адзіныя ў невялікім сціплым гатэлі, які, як высветлілася, належаў той самай фірме, што арганізавала тур. Фірма мела выключнае права на савецкіх турыстаў, бо належала сакратару мясцовай кампартыі. У мяне, аднак, склалася ўражанне, што ўзаемасувязь была адваротная: кіраўнік фірмы стаў сакратаром кампартыі, каб атрымаць даходны бізнес. Для савецкіх турыстаў паняцця «сезон-не-сезон» не існавала, публіка была запалоханая й непатрабавальная і, зрабіўшы падарункі начальству, можна было забяспечыць станоўчы водгук і няблага зарабіць.

У астраўной кампартыі налічвалася чалавек сто трыццаць, яна лічылася баявым атрадам міжнароднага камуністычнага руху, генеральнага сакратара запрашалі на нарады і з'езды ў Маскву. Інструктары міжнароднага аддзела ЦК, у сваю чаргу, рэгулярна каталіся пазагараць на востраў, праўда, у адрозненне ад турыстаў — у сезон.

Відаць, справы йшлі добра, бо кіраўнік фірмы ад імя кампартыі запрасіў усю турґрупу ў кінатэатр.

— Як з ідэйнага боку карціна, ці не антыкамуністычная? — праявіў пільнасць кіраўнік турґрупы. Сакратар кампартыі запэўніў, што ў яго кінатэатры (аказалася, што гэтая ўстанова таксама належала яму) антыкамуністычныя карціны не йдуць. Тым не менш вопытны кіраўнік сабраў прапагандыстаў, папярэдзіў аб магчымых правакацыях і заклікаў да пільнасці й адпору.

Фільм называўся «Секс-машына». Гэта было першае кіно такога кшталту ў маім жыцці: дагэтуль самым эратычным фільмам, які я бачыў, быў «Андрэй Рублёў»: там у сцэне «ноч на Купалле» мільгалі голыя постаці. Кінавопыт астатняй групы, магчыма, за выключэннем прапагандыстаў, быў ідэнтычны з маім, аднак ніхто гэтага не паказваў. У перакладчыцы ў гэты дзень, як звычайна, балела горла, і ў пустым кінатэатры ўся група расселася вакол мяне.

Калі потым кіраўнік групы пісаў справаздачу аб паездцы, ён адзначыў прагляд фільма, прысвечанага эканамічнаму крызісу, крытыцы рэлігійна-буржуазнай маралі і экалагічным праблемам Захаду, вырашэнне якіх падштурхоўваецца толькі прыкладам Савецкага Саюза.

Падзеі ў фільме разгортваліся ў Рыме часоў татальнага энергетычнага крызісу: няма бензіну, электрычнасці, на гарадскія вуліцы вярнуліся коні й карэты.

— Драпежнае вынішчэнне рэсурсаў, адсутнічае планавая эканоміка, няма сістэмы маральна-матэрыяльнага заахвочвання энергазберажэння, — адкамэнтаваў пачатак адзін з прапагандыстаў.

У фільме дзейнічаў прафесар-маньяк, які шукаў спосабы здабычы электрычнасці з сексуальнай энэргіі. У навуковых мэтах на лабараторны стол кладліся асістэнты з асістэнткамі, на іх чаплялі датчыкі, шматколерныя драты цягнуліся да трансфарматараў, вымяральнікаў сілы й частаты току. Па камандзе прафесара эксперыментатары пачыналі эксперыментаваць. Заўважыўшы рэзкае павышэнне ўвагі турыстаў да падзеяў на экране, актыўны прапагандыст вырашыў даць відовішчу класавую ацэнку.

— Звычайная эксплуатацыя чалавека чалавекам, як заўсёды пры капіталізме, — растлумачыў ён.

— А пры сацыялізме? — спытаўся нехта нябачны ў цемры.

— А пры сацыялізме — наадварот! — парыраваў прапагандыст.

Непасрэдны працэс вытворчасці сексуальнай энэргіі на экране не паказвалі. Рэжысёр пайшоў шляхам сублімацыі: у самыя пікантныя моманты камера пераязджала на вымяральную апаратуру, і глядач мусіў сам здагадвацца, што азначае адхіленне стрэлкі вольтметра на пяць ці дзесяць дзяленняў.

Тым часам эксперыментатары на экране дабіваліся ўсё большых і большых поспехаў: запальвалі лямпачкі, уключалі халадзільнікі й электрапліты, а адна пара з асабліва высокім каэфіцыентам карыснага дзеяння спаліла пыласос, загнала на дах хуткасны ліфт, а потым запусціла электрацягнік. Такое народнагаспадарчае выкарыстанне распусты не магло не выклікаць шчырай ухвалы з боку прапагандыстаў:

— Умеюць жа з усякай трасцы зрабіць карысць! Як японцы з кары!

Эпахальная перадача савецкага карэспандэнта з Японіі пра тое, як, купіўшы савецкі лес, японцы выкарыстоўваюць яго на 102%, бо перапрацоўваюць нават кару, за якую не плацяць, глыбока запала ў душы савецкіх тэлегледачоў. Прычым не ў тым сэнсе, што, маўляў, нам бы так рабіць, а — прыдуркі ўсё ж гэтыя японцы!

У фільме згадваўся і Савецкі Саюз: калі італьянская ўрадавая камісія абмяркоўвала вынаходства прафесара, супраць выступіў прадстаўнік Ватыкану: падобнае выкарыстанне граху супярэчыць вучэнню царквы.

— Вы, святы айцец, яшчэ пра бязгрэшнае зачацце скажыце! — узвіўся міністр абароны. — А калі гэта першымі зробяць саветы?..

І кардынал здаўся.

— Ну, як вам, таварышы, фільм? — пацікавіўся кіраўнік пасля сеанса.

— А, так сабе: самыя цікавыя моманты не паказалі, — адказаў адзін з танцораў.

У справаздачы потым кіраўнік напісаў: «Буржуазная цэнзура выклікала адмоўную ацэнку моладзі, якая прадэманстравала здаровыя класавыя інстынкты».

З інстынктамі ў групе сапраўды ўсё было ў парадку: думаю, калектыўна выпрацаванай энергіі хапіла б для асвятлення ўсяго невялікага вострава.

## Канцэрт для прэзідэнта

Частка II

Турысцкія аб’екты мы паглядзелі за першыя пару дзён і пачалі рыхтавацца да канцэрта. Сакратар кампартыі прадставіў залу свайго кінатэатра (уваход, дарэчы, быў платны нават для камуністаў, так што свае 102% сакратар зарабіў). Напярэдадні прадстаўлення нам абвясцілі, што на канцэрт прыйдзе сам прэзідэнт краіны.

Паводле савецкіх мерак, краіна была несур’ёзная, тысячаў трыста жыхароў. Але слова «прэзідэнт» несла нейкі магічны сэнс, нешта невядомае, небяспечнае, правакацыйнае. Не зважаючы на астраўны нейтралітэт, ад яго патыхала блокамі НАТА, СЕАТА і СЕНТА адначасова, балістычнымі ракетамі, авіяносцамі й атамнымі падводнымі лодкамі. Калі афіцыйная перакладчыца пачула пра прэзідэнцкі візіт, дык заявіла, што ў яе няма вопыту выступлення на сцэне і захварэла.

— А ў цябе ёсць вопыт? — пацікавіўся кіраўнік групы.

Сцэнічны вопыт у мяне быў. Асабліва запомнілася святкаванне пяцігоддзя інстытуцкага хору. Я патрапіў у харысты з

прычыны штаноў: кантынгент у інстытуце быў дзявочы, хлопцаў катастрафічна не хапала. Мяне злавілі ў калідоры й паставілі ў апошні шэраг, дзе я прастаяў тры гады. Рэпэртуар быў з ухілам у містыку: «Ленин — это весны цветенье», «Вечно живой Ильич».

Кантроль за наведваннем вёўся жорстка, як у дысбаце: пераклічкі на пачатку рэпетыцый і ў канцы, дакладныя рэктару, раздача ці, адпаведна, пазбаўленне стыпендыі альбо месца ў інтэрнаце. Што толькі я ні рабіў, каб вырвацца з пасткі: прыносіў лісты з аэраклуба, што ў мяне трэніровачныя зборы, запісаўся на дзяжурствы ў народную дружыну, нават аднойчы заспяваў на канцэрце. У кіраўніка пачаліся канвульсіі, але дзяўчатыальты зараўлі й заглушылі мой пратэст.

Рэванш адбыўся на святкаванні пяцігадовага юбілею хору. Пасля канцэрта, які я вёў у якасці канферансье, была п’янка ў грымуборных. Прафсаюзнае начальства, кіраўнікі іншых мастацкіх калектываў, эліта хору — стараста й яе намеснікі, салісты, пара камсамольскіх функцыянераў падымалі тосты, закусвалі, а потым нехта прапанаваў заспяваць што-небудзь «для душы». Нечакана для сябе я апярэдзіў усіх з прыпеўкай:

> «*Пароход плывёт прямо к пристани,*
> *Будем рыбу кормить коммунистами!*»

Я абсалютна не быў злосным дысідэнтам, амаль нічога не ведаў пра слаўную гісторыю КПСС, — проста словы спадабаліся. Магчыма, гэта была эстэтычная рэакцыя на наш замагільны рэпертуар. Прычым праспяваў няблага, у сэнсе — гучна. Кіраўнік хору потым адзначаў: «Першы раз не сфальшывіў, але лепш бы памаўчаў». Мяне выратавала рэпутацыя несур’ёзнага чалавека (я друкаваў гумарыстычныя апавяданні ў маладзёжнай газеце) і статус канферансье, якому дазволена несці абы што. Так ці йна-

чай, але больш на рэпетыцыі я не з'яўляўся і на сцэне не выступаў.

І вось пасля доўгага перапынку я зноў выйшаў на сцэну.

Рэпэртуар ансамбля насіў падкрэслена інтэрнацыянальны характар і ўключаў танцы народаў СССР, ад рытуальных скокаў аленяводаў да аварскай лезгінкі. На пачатку я прывітаў гледачоў ад імя артыстаў з Мінска, а потым па ходзе канцэрта прадстаўляў нумары. Апошняй ішла «Калінка», якую выконвалі на біс. Публіка добра ведала гэты нумар, які паказвалі ўсе танцоры з Савецкага Саюза.

Пасля канцэрта нас з кіраўніком групы, да якога далучыліся й прапагандысты, паклікалі ў фае, падвялі да нейкага старога і прадставілі:

— Пан прэзідэнт, гэта госці з Расеі.

Я ўдакладніў, што мы з Беларусі; усе па чарзе паціснулі стараму руку. Вакол сабраўся натоўп, ахоўнік прэзідэнта насцярожана паглядваў па баках. Пасля кампліментаў канцэрту прэзідэнт раптам спытаўся:

— Скажыце, а чым вы, беларусы, адрозніваецеся ад расейцаў?

На гэтае пытанне мне давялося адказваць якраз напярэдадні. Я заблудзіўся ў партовым раёне й павярнуў на вуліцу, якая прывабіла ілюмінацыяй — амаль на кожным будынку свяціліся чырвоныя лямпы. За мяжой я быў упершыню і таму не адразу ўсвядоміў, куды патрапіў. Мне памахала спачатку мулатка гадоў дваццаці пяці, я памахаў у адказ, але не спыніўся. Потым падышла смуглявая парачка сямнаццацігадовых. Калі я з цяжкасцю выслізнуў з іхных абдымкаў, перада мною стаялі два даволі сур'ёзныя тыпы з татуіроўкамі. Тыпаў цікавіла, што канкрэтна я хачу.

Я прызнаўся, што хачу дадому.

— Куды-куды?

Як вядома, «Беларусь» у літаральным перакладзе на ангельскую гучыць як «Белая Русь».

— Глядзі ты, аказваецца, расейцы, як амерыканцы, бываюць чорныя й белыя, — зрабілі вывад незнаёмцы. І прапанавалі: — Не хочаш чорную — бяры белую.

Нягледзячы на рэльефную мускулатуру партовых грузчыкаў і пэўную цікавасць прапановы, я праявіў адвагу і маральную стойкасць. Спешна, пад абразлівыя выкрыкі пакідаючы раён чырвоных ліхтароў, я саграваўся думкай, што на маім месцы так зрабіў бы кожны, каму абмянялі валюты толькі на 30 рублёў.

І вось — сам прэзідэнт задае тое ж пытанне, што й партовыя сутэнёры: хто такія беларусы. Мне стукнула ў галаву пацешыць старога сваёй гісторыяй, я пачаў пераказваць дыялог ля публічнага дома — і закашляўся: прэзідэнт быў не белы. Праўда, ён быў і не чорны, а нейкага туманна-бруснічнага колеру з іскрой, як фрак Чычыкава. Не выключаю, што ад хвалявання мне мроілася.

— Уайт Раша — Белая Русь ты мая! — нечакана ўмяшаўся актыўны прапагандыст, той самы, які тлумачыў, што пры капіталізме чалавек эксплуатуе чалавека, а пры сацыялізме — наадварот.

— О, белыя рускія, я ведаю, — ажывіўся прэзідэнт. І патлумачыў народу, які тоўпіўся навокал: — Яны змагаліся за цара!

Астравіцяне загулі, прапагандыст ахнуў, кіраўнік аслупянеў. З падобнай трактоўкай сваёй нацыянальнай прыналежнасці я сустракаўся за мяжой потым не раз. Але тады гэта здарылася ўпершыню, прагучала зусім нечакана, да таго ж — з вуснаў прэзідэнта.

— А мы вось змагаліся супраць ангельскай кароны, — сказаў прэзідэнт. (Востраў толькі пару гадоў як выйшаў з-пад брытанскага пратэктарату.)

— Ты яму перакладзі, што й мы супраць манархіі, — захваляваўся прапагандыст. — Аляксандра II забіў беларус Ігнат Грынявіцкі. А ў Мінскім раёне ёсць калгас імя Войкава — ён расстрэльваў царскую сям’ю!

У інстытуце нас вучылі, што прафесія перакладчыка — гэта прафесія невідзімкі. Ты — сродак, медыум, аўтаматычны трансфарматар слоў суразмоўцаў, і не можаш ацэньваць і рэдагаваць выказванні. Пры сінхронным перакладзе розум добрага перакладчыка заняты адэкватнай граматычна-лексічнай камунікацыяй тэксту, а не цэнзурай. Я перакладаў як аўтамат.

— Аднак як члены брытанскай Садружнасці нацыяў, мы й надалей уважаем каралеву Лізавету за свайго манарха, — разгублена прызнаўся прэзідэнт.

— У нас гэтае пытанне вырашанае канчаткова! — пахваліўся прапагандыст. — Перадавікам уручаем пераходны прыз Войкава...

Апошнюю фразу сказаць па-ангельску вельмі няпроста. Шмат пазней я папрасіў перакласці гэты выраз знаёмага амерыканца, выпускніка факультэта масавых камунікацыяў Нью-Ёрскага ўніверсітэта, які свабодна гаварыў на шасці еўрапейскіх мовах. На працягу гадзіны ён задаваў пытанні, што такое перадавік, вытворчасць, пераходны прыз, што менавіта зрабіў Войкаў. Для перадачы пяці простых і зразумелых любому савецкаму чалавеку слоў лепшаму выпускніку курсу, чыя дыпломная праца дагэтуль захоўваецца ва ўніверсітэцкай бібліятэцы, спатрэбілася трыццаць лексічных адзінак ангельскай мовы.

Прывяду адваротны даслоўны пераклад: «Кожны месяц наёмнаму працаўніку, чыя прадукцыйнасць у дадзеным вытворчым падраздзяленні ў дадзены перыяд пераўзыйшла прадукцыйнасць усіх астатніх, уручаецца ў часовае валоданне прыз на вызначаны абмежаваны тэрмін за лепшае забойства цара».

Не выключаю, што ў маім перакладзе таксама прагучала нешта падобнае.

— Не можа быць! — ахнуў на гэты раз прэзідэнт.

— Можа! — радасна запэўніў прапагандыст. — Усе нашыя турысты — перадавікі!

Прэзідэнт падаўся назад. Пад пінжаком целаахоўніка выпнулася нешта вуглаватае. Кіраўнік групы, які дагэтуль ашаломлена назіраў за ходам ідэалагічнай дуэлі, раптам прысеў, быццам збіраўся станцаваць «Яблычка», і схапіўся за сэрца. Пачалася беганіна, прэзідэнт пачакаў, пакуль з'явіліся лекары, і хутка развітаўся. У гатэлі кіраўнік адразу адкрыў чамадан, дастаў бутэльку гарэлкі, наліў і выпіў, потым наліў зноў.

— Гэта была загадзя спланаваная правакацыя, — апраўдваўся на экстранным сходзе групы актывіст прапаганды й агітацыі. — Таварышы, калі зноў давядзецца пачуць падобнае пытанне, трэба казаць: мы не белыя, мы — чырвоныя.

— Ты каго маеш на ўвазе? — шэптам спытаўся кіраўнік, які ад перанесеных хваляванняў і гарэлкі збарвянеў; яго й без таго пунсовая шыя налілася крывёю. Перажыты стрэс патрабаваў разрадкі, і ён з размаху ўрэзаў кулаком па стале: — Ты не чырвоны, тваю маць! Ты дурны!..

Прапагандыст спачатку пабялеў, затым пачырванеў, як рак, потым пазелянеў. Да бел-чырвона-белага сцягу заставалася яшчэ дзесяць гадоў, да прэзідэнцкага чырвона-зялёнага й таго болей. Хаця не, чырвона-зялёны з белым арнаментам існаваў якраз тады, так што колеравая гама ідэалагічна была цалкам вытрыманая. Кіраўнік і мне параіў зрабіць выснову з таго, што адбылося.

Адна выснова, па-мойму, ляжала на паверхні: для перадачы рэаліяў развітога сацыялізму мова Шэкспіра й Байрана недастаткова развітая.

Оруэла я тады яшчэ не чытаў.

## Трэці ліст

Трэба нешта даваць у нумар, а нічога няма — жнівень, мёртвы сэзон, палова рэдакцыі ў адпачынку. Падвёў аўтар, які не прынес абяцаны артыкул, а з сакратарыята ўжо двойчы прыходзілі... У мяне на стале толькі два дохлыя лісты, якія, значна скараціўшы, з нацяжкай можна даць пад рубрыкай «нашы ідэалы». Але для падборкі трэба хаця б тры лісты. Зноў зазірнуў адказны сакратар. Што ж, калі гара не йдзе да Магамета... Праз паўгадзіны здаю ў набор трэці ліст.

«ФОРМА — НЕ ФАРМАЛЬНАСЦЬ.

... Экскурсія скончылася, і разам з унукам, які прыехаў на канікулы, мы ішлі па Брэсцкай крэпасці. Паліла ліпеньскае сонца, і цішына толькі падкрэслівала ўрачыстасць мемарыялу. Унук маўчаў, я таксама нічога не гаварыў.

Раптам цішыню ўзарвала бойкая музыка. Пад вярбой, на беразе рэчкі загарала і гуляла ў карты група юнакоў. Побач магнітафон. Прыцягвалі ўвагу акуратна складзеныя джынсы і майкі: этыкеткамі наверх, каб ні ў каго не засталося сумнення, дзе яны зробленыя. Маю заўвагу ўспрынялі ў штыкі: «Мы цябе не чапаем, праходзь далей». Тут унук заўважыў майку з кідкім надпісам і пераклаў з англійскай: «Лос-Анджэлес запрашае на Алімпіяду». Пачаў сароміць хлопцаў, у адказ пачуў брыдкаслоўе. Толькі з'яўленне чалавека ў міліцэйскай форме прымусіла «адпачываючых» рэціравацца. Але настрой быў сапсаваны. І не толькі настрой — былі абражаныя лепшыя, самыя дарагія пачуцці...

Ператвараць святую зямлю крэпасці ў пляж — яўная прыкмета маральнага захворвання. І як не звязаць яго з «фірменнай формай» юнакоў... У модзе знаходзіць адлюстраванне не

толькі зразумелае жаданне выглядаць прыгожа і сучасна, яна можа стаць і чыста знешняй формай самасцвярджэння. Апрануў модную, з замежнай атрыбутыкай рэч — вось ужо і вылучаешся. Але паляванне за імпартным ярлыком стымулюе аднабокае, стратнае задавальненне патрэбнасцяў, збядняе ўнутраны свет чалавека, яно можа прывесці да маральнага падзення. Калі чалавечае «я» атаясамліваецца з замежнай наклейкай, узнікае пагроза ідэйнага перараджэння, асіміляцыі з больш шырокім колам каштоўнасцяў, якія гэтая наклейка сімвалізуе. Хваробу трэба папярэджваць, нельга чакаць, пакуль антыграмадскія ўчынкі падпадуць пад параграф крымінальнага кодэксу. Фармаванне ўсебакова развітай, высокамаральнай, высокаідэйнай асобы прадугледжвае і развіццё сапраўды разумных патрэбнасцяў».

З гэтым тэкстам мне прамая дарога да псіхіятра: сам, без усялякага прымусу й выгады напісаў амаль адваротнае таму, што адчуваў. Патлумачу «амаль»: неяк я ледзь не патрапіў пад артыкул 201, частка 2, Крымінальнага кодэкса «Хуліганства» (ад аднаго да пяці гадоў пазбаўлення волі). Я тады працаваў экскурсаводам і аднойчы амаль не пабіўся з палякамі, якія гандлявалі калготкамі ў Хатыні. Прычым тамтэйшая міліцыя стала на бок замежных турыстаў, якія, відаць, падаравалі патрулю па пары жаночых трусікаў з секс-шопу.

Каментаваць фінальны пераход ад пляжа да здрады радзіме — толькі псаваць уражанне. Праўда, гэта цяпер пасаж чытаецца як чыстая пародыя, а, напрыклад, у часы пракурора Вышынскага такая логіка знаходзіла працяг у жыцці. Я ўжыў яе пры Чарненку, у самым канцы слаўнай эпохі, калі падобныя высновы адно казыталі сэрцы ветэранаў НКВД і абуджалі светлую настальгію па Калыме.

Больш-менш зразумелы творчы механізм стварэння тэксту ліста. Тут ёсць момант тэатральнай гульні: аўтар пераўвасаб-

ляецца ў героя, у гэтым выпадку ва ўзорна-паказальнага савецкага чалавека, і імітуе правільную рэакцыю на прапанаваныя абставіны. Так, прыкладам, Булгакаў — адначасна і Воланд, і Майстар, і Маргарыта. Ці больш адэкватная паралель: драматург Шатроў гаворыць як Ленін і Троцкі. Хоць не, паміж гэтымі персанажамі розніца невялікая. Возьмем казку пра Чырвоны Каптурок: Шарль Перо разам і воўк, і ягоны абед, і хірургічная брыгада па вызваленні праглынутых легкадумных асобаў.

Паводле жанру нашыя газеты ад казак не надта адрозніваліся. Партыйныя пастановы й рэпартажы з палёў суадносіліся з рэальнасцю як фальклорны Іван-дурань з ягонымі шматлікімі братамі па долі ў жыцці. Вось некалькі загалоўкаў з таго самага нумара газеты, дзе змешчаны мае фантазіі: «Пагавары са мною, поле», «Цвярозасць — норма жыцця», «Больш тавараў для народа». На апошняй паласе пад загалоўкам «Сонца свяціла кожнаму» друкаваліся ўрыўкі з ваенна-патрыятычнага рамана «Памерці заўсёды паспееш».

І усё ж, усё ж, усё ж... Пры ўсім падабенстве, газета — не літаратурны твор, прынамсі, у дзень выхаду ў свет. Перадавы артыкул у тым нумары нездарма называўся «Каб слова стала справай». Калі ў выпадку тавараў для народа гэтае пажаданне прыводзіла да адваротнага выніку, г.зн. тавары ўвогуле пачыналі існаваць выключна на словах, дык у сферы саміх слоў, г.зн. ідэалогіі, магла ўзнікнуць справа.

У папярэдні гістарычны адрэзак, гадоў за дзесяць да таго, у нашым інстытуце разбіралі на камсамольскім сходзе пяцікурсніка. Ён выдаў сябе за француcкага турыста Эжэна Пацье і добра пагуляў у рэстаране за кошт двух мужыкоў, якім надта карцела бліжэй пазнаёміцца. Пасля трэцяй бутэлькі актор не справіўся з роляй, гледачы пакрыўдзіліся й выклікалі міліцыю. На сходзе пацярпелы апраўдваўся тым, што Пацье — аўтар «Інтэрнацыянала». Я быў адзіны, хто галасаваў супраць выключэння неба-

ракі з камсамола і настойваў на прыняцці мер да падкіх на іншаземцаў сабутэльнікаў. Прапанова не прайшла: паводле чутак, абодва мелі дачыненне да КГБ і такім чынам спрабавалі завербаваць француза. Праўда, часы былі ўжо вегетарыянскія, ілжэпаэту ўсё ж выдалі дыплом і паслалі працаваць у глухую вёску, адкуль да бліжэйшай мяжы тры дні скачы — не даскачаш.

Вернемся да публікацыі: чаму менавіта я асабіста напісаў тое, што напісаў — вось дзе пытанне. Крэпасць для мяне, як і для ўсіх берасцейскіх падлеткаў, была не помнікам, а месцам, дзе мы лазілі па сутарэннях, палілі вогнішчы й распівалі бутэльку таннага віна. У мяне ў кладоўцы была прыхаваная пара вінтовак, нямецкі агнямёт, іржавыя гранаты. Калі аднакласнік прыцягваў у школу снарад, падымаўся шум, і пачыналася кампанія ўсеагульнага раззбраення. Потым арсеналы аднаўляліся.

А з джынсамі ўвогуле быў звязаны трыумф у святле рампы. На пачатку 70-х бацька прывёз з Польшчы джынсавы касцюм. Тым летам са студэнцкім будатрадам я працаваў у Малдове, і неяк нас завезлі на спектакаль кішынёўскага опернага тэатра. Сезон закрываўся, і мне, відаць, з прычыны моднай вопраткі даручылі падзякаваць артыстам ад імя студэнцтва.

Ці то кішынёўская «Кармэн» так падзейнічала, ці малдаўскага віна перад спектаклем было замнога, але, праспаўшы два апошнія акты, на сцэне я чамусьці загаварыў па-ангельску.

Эфэкт быў ашаламляльны. Жывому ангельцу зала апладзіравала разы ў два болей, чым салістам. Са сцэны я спускаўся з абярэмкам ружаў. Публіка пачціва расступалася. Нахабныя будатрадаўцы бессаромна раздавалі тлумачэнні: прыбыў з Лондана, сын лорда, працуе з намі. У аўтобус прыбег адміністратар, крычаў на мяне «сэр!», браў адрас і абяцаў прыехаць на гастролі з «харошым малдаўскім сувенірам». Я сачыў за газетамі — так і не прыехаў, God damn it.

І вось з такім джынсавым досведам я напісаў тое, што напісаў. Чаму атрымалася варыяцыя менавіта на тэму: «Сегодня носит Адидас, а завтра Родину продаст»? Прычым у галаву не прыйшло раскрытыкаваць, напрыклад, павязкі, якімі прыкрываюць саромныя месцы ў Цэнтральнай Афрыцы ці ў джунглях Амазонкі. Выкрыў нізкапаклонства перад Захадам.

Зрэшты, чаму Захад, зразумець няцяжка. Але чаму выкрыць? Хацелася б ведаць, каму падаць рахунак. Хто канкрэтна вінаваты, што я такі савецкі.

Сям'я? Бацька, якому я аднойчы паказаў сваё школьнае сачыненне на падобную патрыятычную тэму, паглядзеў на мяне са здзіўленнем і нічога не сказаў. Маці, нягледзячы на ўсе прапановы, не ўступіла ў партыю й не атрымала званне прафесара, як належала б пасля дзясятка кніжак. Калі прынялі ў піянеры, і я прыляцеў дадому ашалелы ад шчасця, яна так холадна праігнаравала шчанячую радасць ад новага ашыйніка, і крыўда запомнілася на гады.

Вуліца? Падваротня была апалітычная (натацыі ў дзіцячым пакоі міліцыі не лічацца). Царква адпадае, застаецца школа? Што ж, калі адкінуць курэнне ў смярдзючых прыбіральнях і кашмары кантрольных па алгебры...

Шэкспіраўскія страсці перапаўнялі нашы падручнікі й чытанкі. Юныя героі пускалі пад адхон эшалоны, дастаўлялі данясенні й лавілі бандытаў. Піянеры-сябры памежнікаў затрымлівалі шпіёнаў, юннаты гадавалі свінню-рэкардыстку, юныя тэхнікі збіралі тэлевізары, сябры лесу тушылі пажары. Было незразумела, што рабілі дарослыя.

Гісторыі для пазакласнага чытання дзейнічалі як наркотыкі. У трэцім класе я марыў, каб мяне забілі прасам. Менавіта так загінула піянерка з хрэстаматыі, якая ўступіла ў барацьбу з бацькамі-вернікамі. Я моцна шкадаваў, што мае бацькі не сектанты-

фанатыкі. Ідэалагічныя ўстаноўкі перажываліся як рэлігійны досвед. Хацелася подзвігаў.

Само па сабе жаданне натуральнае — яшчэ чэхаўскія «Хлопчыкі» збіраліся да індзейцаў у Паўночную Амерыку. Праўда, яны не збіраліся замест амерыканскага падняць там сцяг расейскай імперыі. Мы ж прымяраліся, і зорна-паласатая налепка на задніцы азначала, што перадавыя варожыя сілы перайшлі свяшчэнныя рубяжы.

У прафесійным ідэалагічным асяродку, якім была газета, даўнія рэфлексы абвастрыліся. Трэба было засведчыць лаяльнасць — хаця б таму, што я адчуваў сябе недастаткова лаяльным. Быць сьвяцейшым за Папу Рымскага асабліва няпроста ў Ватыкане. Я стараўся. Прычым увесь час адбывалася напружаная ўнутраная барацьба. Нізкапаклонства лезла з усіх дзірак. У фінскіх чаравіках я адчуваў сябе лепш, чым у тым, што выпускала аб'яднанне «Бальшавік». Бюстгальтары фабрыкі «Камсамолка», на маю думку, сціралі розніцу паміж камсамолкамі і членамі партыі з дарэвалюцыйным стажам. Змест літаральна бунтаваў супраць формы.

Кульмінацыяй стаў выпадак з турэцкай валізкай са скуразамяняльніка. На ёй было аж два варожыя сцягі — амерыканскі і брытанскі. Я ехаў з Берасця ў Мінск у адным купэ з маёрам і палкоўнікам, якія вярталіся з ГДР, дзе тады стаялі савецкія войскі. Час ад часу яны кідалі пільныя позіркі на яркую валізку. «Няхай толькі зачэпяць, — унутрана заводзіўся я. — Я ім адкажу!»

План быў такі: зрэзаць іх гісторыяй пра Машэрава. У музеі вайны адкрылі ягоны стэнд, і пры аглядзе я заўважыў, што кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС глядзеў на свет праз французскія акуляры! І нічога, лінія не сказілася.

Між тым напружанне нарастала. Афіцэры ўсё больш падазрона касавурыліся на валізку, у якой стукаліся адна аб адну

дрэнна запакаваныя бутэлькі. Я рыхтаваўся да адпору і перабіраў аргументы. Маёр павярнуўся:

— Паслухай, што там у цябе булькае — не гэта самае? — І патлумачыў: — Закусі хапае, а вось паддача скончылася. А пасля ўчарашняга трэба...

Праз пяць хвілінаў на стале бразгацелі пустыя шклянкі й палкоўнік падсоўваў бутэрброд:

— Налягай, каўбаса нямецкая, не наша дзярмо, не саромейся.

Я саромеўся, але закусваў.

## Пік формы

З раніцы ў рэдакцыі пахла валакардынам.

— Схавайся, — параіла сакратарка, — я скажу, што захварэў.

Нечаканы эфект даў даволі сціплы сінтаксічны знак — двукоссе. Фільм мінскага рэжысёра, майго добрага знаёмага, пра другога знаёмага, беларускага літаратара, які жыў у Маскве, заваяваў першы прыз на міжнародным фестывалі. У стужцы фігуравалі беларускія кіраўнікі. Я напісаў кароткую рэцэнзію, у якой адзін прыметнік узяў у двукоссе. Канкрэтна — ахарактарызаваў аднаго з персанажаў як надзейнага.

Рэч была ў тым, што ў ананімнай паэме, якая толькі з’явілася, высокі ідэалагічны начальнік быў ахарактарызаваны наступным чынам:

*«Ён надзейны, як бязмен,*
*час ідзе, а ён бяз змен».*

Рэдакцыйнае начальства паэму яшчэ не чытала і варожае двукоссе прапусціла. У калідорах улады публікацыю расшыфравалі, з аднаго боку, як дыверсію, з другога — як шматхадовую

камбінацыю ў барацьбе адной часткі апарату супраць другой. Як спробу публічна скампраметаваць лідара адной з груп.

Мяне вырашылі перакінуць на футбол. Але ў выніку раздробленасці сіл праціўніка й іх міжусобіцы паперы з пастановай недзе згубіліся, і я так ніводнага радка пра спартовыя рэкорды не напісаў.

Трэба адзначыць, што падобныя напружанні час ад часу ўспыхвалі ў рэдакцыі, але звычайна канчаліся даволі мірна. Адзін калега напісаў ананімку на другога. Аўтара знайшлі па шрыфту яго друкарскай машынкі. Хацелі разабраць на сходзе, але рэдактар забараніў — каб не псаваць маральна-палітычны клімат. Другога калегу злавілі на плагіяце — пасля гэтага ён пайшоў на падвышэнне ў ЦК.

Неяк, на пачатку перабудовы, я ўступіў у адно нефармальнае аб'яднанне. Устаноўчы сход праходзіў на ўскраіне Мінска ў рабочым інтэрнаце. Мяне абралі скарбнікам. Пасля сходу я варочаўся ўсю ноч. З грашыма ў мяне заўсёды была поўная неразбяруха. Зарплата гублялася ў кішэнях. Мяне палохалі думкі пра ведамасці, збор складак, аплату квіткоў. Перад вачыма стаяў прывід рэвізійнай камісіі.

Як высветлілася, не спаць трэба было з іншае прычыны. У гэты ж вечар навіна стала вядомая ЦК. Адтуль кінуліся шукаць газетнага парторга, але той пайшоў у лазню. Паслалі ганца. Гэта было дзіўнае рашэнне, бо я, напрыклад, ніколі не бачыў, каб нехта браў партбілет у парылку. Як адрозніць голага беспартыйнага ад голага камуніста, няхай сабе й сакратара партбюро?

Потым я задаваў гэтае пытанне розным людзям з розных краінаў. Адказы адлюстроўвалі разнастайны жыццёвы досвед і бязмежную сілу чалавечай думкі.

— У голага камуніста злева на грудзях павінна быць характэрнае пачырваненне ў форме партбілета. Ступень пачырванення залежыць ад стажу. Ад частага адзінадушнага галасавання пра-

вая рука цягнецца ўверх, як у эсэсаўца, — дзяліўся бачаннем скульптар-рэаліст.

— Сапраўдныя камуністы не ходзяць у лазню, бо яны чыстыя перад партыяй, — выказала здагадку адна амерыканка-спецыялістка па былым СССР.

— Я лёгка магу адрозніць голую камуністку ад голага беспартыйнага, — заявіў, не даслухаўшы, знаёмы грузін.

— Спераду ці ззаду? — дзелавіта ўдакладняла колішняя камсамольская актывістка.

Адна францужанка прапанавала заспяваць «Вставай, проклятьем заклейменный...» — маўляў, тады ўсе партыйныя ўстануць. Наіўная парыжанка не здагадвалася, што на з'ездах круцілі фанаграму, і словы партыйнага гімна ніхто не ведаў.

— Элементарна! — фыркнула масквічка, выпадковая суседка ў купэ. — Розніца ёсць нават паміж проста членам і членам партбюро, не кажучы пра члена палітбюро! Ведаеце, што я маю на ўвазе?

Я пасяшаўся заверыць, што тлумачэнне цалкам членападзельнае. Велізарная частка адказаў дэманстравала надзвычайную дасведчанасць насельніцтва ў тайнах камасутры і прозе Адама Глобуса. Адзіным выключэннем стала былая дысідэнтка, якая прызналася, што ніколі не бачыла голага камуніста.

Не ведаю як, але тады сакратара знайшлі. Відаць, усё ж існавалі нейкія сакрэтныя прыкметы. У выніку сакратар недапарыўся і чамусьці абвінаваціў у гэтым мяне. У газеце правялі разбор учынку. Маю пасаду скарбніка адзін член рэдкалегіі пракамэнтаваў па-марксісцку дзелавіта:

— Ключавое звяно. Кантроль над фінансавымі патокамі. Быццё вызначае свядомасць. А твая свядомасць вядома якая. Дый быццё...

Верагодна, ён меў на ўвазе п'янку ў кабінеце напярэдадні, калі давялося карыстацца посудам, што застаўся з папярэдняга разу

(там, сапраўды, завялося жыццё). Логіка другога члена была такая: ты будзеш праводзіць нефармальную лінію. А што ж атрымаецца, калі кожны запішацца куды-небудзь?..

— Запішыся, — кісла параіў я.

— Я — член таварыства цвярозасці! — горда адказаў калега. Гэта сарвала ўсё мерапрыемства. Справа ў тым, што такое таварыства ў газеце існавала, але членства было тайным. Усе адмаўляліся, што ўступілі. Пад агульныя кпіны самавыкрыты цвярозеннік усвядоміў памылку і пачаў жорсткую перапалку з астатнімі. Пра мяне забыліся — паставілі «на від» і адпусцілі.

Я пытаўся потым, што значыць гэтая формула. Які від маецца на ўвазе? Від чаго — майго ўчынку, каб я бачыў і больш падобнага не ўчыняў? Мяне паставілі на від — каб усе мяне бачылі й рабілі высновы, ці мне паставілі від, як ставяць голас — дзеля пашырэння і ўдакладнення кругагляду? Якія віды ў гэтай сувязі мела начальства?

— Значыць, не разумееш? — задумліва цікавіўся сакратар, калі мы разам пайшлі ў саўну на другі дзень. І прапанаваў: — Заменім на вымову, як больш даходлівую форму. Паддай-ка пару!

Потым на гэтую тэму са мной гутарылі ў ЦК.

— Раней я ведаў, што з табой рабіць, — уголас дзяліўся роздумам загадчык сектара друку. — Цябе б проста звольнілі. А зараз...

Ён з сумам аглядаў сцены, столь, паперы на стале, але адказу не знаходзіў. Магчыма, ён думаў пра тое, што можна было рабіць у такіх выпадках яшчэ раней. Тады падыходзілі нефармальна. Ставілі зусім не на від...

Завяршу гэты незвязаны пералік складаных узаемаадносінаў формы й зместу ў газеце наступным выпадкам, які меў месца ў кабінеце рэдактара. Да нас прывялі філосафа — спецыяліста па барацьбе з іншапланецянамі. Тады іх называлі жыда-масонамі. Праз паўгадзіны пасля пачатку даклада калегі сталі падазрона

паглядваць адзін на аднаго. Члены ложы, як вынікала з даклада, валодалі надзвычайным каварствам маскіроўкі. Больш чым іншыя, з гэтага пункту гледжання выклікала падазрэнне адна асоба з сакратарыята: бялявая, родам з вёскі, сваякоў за межамі калгаса няма. Калі гаварыла па-расейску, чуўся моцны акцэнт. Гарэлку закусвала цукеркамі й салам. Віртуозна валодала ненарматыўнай лексыкай.

Загадчык аддзела сельскай гаспадаркі цягнуў на магістра. Раней я думаў, што ён англійскі шпіён. Такое ўражанне пакідалі выступленні на нарадах і лятучках. Не ў тым сэнсе, што ён, як Маргарэт Тэтчэр, заклікаў да прыватызацыі й пагражаў Фальклендам. Проста ў вуснай мове загадчык карыстаўся ангельскай граматыкай. Гэта значыць, не прызнаваў склонаў, абыходзіўся без канчаткаў і падзелу на роды. Вымаўленне выдавала ўраджэнца паўднёвага Ёркшыру. У пісьмовай мове ягоныя артыкулы таксама адназначна паказвалі на краіну, дзе пішуць Манчэстэр, а чытаюць Ліверпуль.

Тым часам напружанне на сходзе ў кабінеце рэдактара нарастала. Філосаф цытаваў сакрэтныя пратаколы й выказванні, прыводзіў прыклады з жыцця. Калі высветлілася, што ордэн дзейнічае праз жонак, народ павярнуўся да мяне з калегам. Жонкі ў абодвух былі чарнявыя, а калега да таго ж ведаў, дзе ставіць націск у слове «трыпціх». Яго зламаны ў дзяцінстве нос мог быць прадметам зайздрасці любога сіяніста. У ізраільскім пасольстве візу далі б за адзін нос. Для маскіроўкі ён насіў праваслаўны крыж.

У мяне сітуацыя была не лепшай. Я любіў каляровыя гальштукі і неяк на прафсаюзным сходзе выказаў пажаданне, каб у прыбіральні было мыла.

— Можа, цябе й газета не задавальняе? — абурыўся старшыня прафкама. Тады мяне падтрымала наша медычная аглядальніца, якая пачала гаварыць пра рак прамой кішкі і канцэрагены

ў друкарскай фарбе. Зараз маўчала нават яна. Відаць, узгадала забойцаў у белых халатах.

Між тым лекцыя працягвалася. Гаворка йшла пра лёс тых, хто замінае жыда-масонам. Яны гадамі не могуць абараніць дысертацыю (у рэдакцыі быў такі бедалага), іх спойваюць (адказны сакратар не выходзіў з запою другі тыдзень), ім не даюць павышэння па службе й дачных участкаў (усе дружна засмуціліся). У Вялікай ложы — прэм'ер-міністры, банкіры, нобелеўскія лаўрэаты і асобныя двойчы Героі Сацпрацы. Яны разбураюць храмы, паварочваюць рэкі й збіраюцца засыпаць Суэцкі канал.

— Гэта ж якая тэхніка ў ложах! — застагнаў загадчык аддзела меліярацыі. — Ее б на Палессе...

Ад тайнай агрэсіі, злавесных планаў і сусветных змоваў філосаф перайшоў да наяўных фактаў. На стол лёг стос сакрэтных фатаграфій. Пад'езды ў новым сталічным мікрараёне былі аформленыя пад стылізаваны сямісвечнік. Вечаровая газета змясціла навагоднюю рэкламу з шасцікутнымі сняжынкамі. Развязкі на акруговай дарозе нагадвалі масонскі трохкутнік.

У прамоўцы перасохла ў горле й ён наліў вады ў крышталёвую шклянку шклозавода «Нёман». Паднёс да губ і рэдакцыя знерухомела. На дне ўпрыгожанай геаметрычнай разьбой шклянкі ззяла ўсімі шасцю варожымі промнямі зорка Давіда.

Цар Іудзеі правіў баль на сходзе артадаксальных атэістаў. Яшчэ імгненне і, здавалася, грымнуць грозныя радкі з Псалтыра: «Не маўчы, Божа, бо непрыяцелі Твае супраць люду Твайго хітруюць каварна. Зрабі ім як Мадыяму, як Сысару, як Явіну ля цур'я Кішона, што знішчаныя ў Ендоры, сталі гноем зямлі...»

Магільную цішыню парушыла маладзенькая карэктарка. Не зводзячы зачараванага позірку са шклянкі, яна спытала:

— Скажыце, а жанчын прымаюць у масонскую ложу?

«І хай скажа ўвесь народ: амінь! Алілуя!..» Філосафу капалі валакардын. Карэктарка плакала ў прыбіральні. Ненадзейную

прадукцыю бярозаўскага шклозавода схавалі глыбока ў шафу. Так форма перамагла змест.

Ці наадварот.

## Хочацца ў партыю

Хацелася ў партыю.

Усе навокал плацілі партузносы, засядалі на закрытых сходах, плялі інтрыгі пры выбарах бюро. Сакратара партарганізацыі баяўся рэдактар. На партканферэнцыях прадавалі дэфіцытныя кніжкі з сасіскамі. Камуністы сядзелі ў прэзідыумах і ўручалі адзін аднаму пераходныя сцягі. Бландынкі выбіралі партыйных. У партыі было добра. Аднак у партыю не бралі.

— Пасадаў і кватэраў на ўсіх не напасешся, — каментавала беспартыйная цешча.

Я жыў ужо ў кааператыўнай кватэры і выконваў абавязкі загадчыка аддзела з аднаго чалавека. Сітуацыя была абсурднай. Не маючы партбілета, я хваліў адныя парткамітэты за правільную работу, крытыкаваў іншыя за няправільную й тлумачыў, як працаваць па-новаму. Сакратары райкамаў асабіста налівалі гарэлку.

Абкамы рабілі справаздачы аб прынятых мерах. Прафесары з вышэйшай партшколы прыніжана прасілі надрукаваць іх артыкулы. Сляпы вёў відушчых.

Кажуць, слаўная гісторыя КПБ ужо ведала адзін такі выпадак: у пасляваенным хаосе кіраваць райкамам паставілі беспартыйнага. Той некалькі гадоў праводзіў лінію, пакуль не высветлілася, што ў першага сакратара няма партбілета.

— Калі прызначалі, не пыталіся, — апраўдваўся ён. Справу спусцілі на тармазах, бо ў агалосцы ніхто не быў зацікаўлены.

— У цябе два буйныя недахопы, — тлумачыў мне знаёмы з гаркама партыі. — Першы — ты працуеш у газеце. Значыць, інтэлігент, а парадак такі: на трох рабочых прымаць аднаго нерабочага. А гэтых алкашоў волакам у партыю не зацягнеш, яны лепш піва вып'юць за ўзносы. Другі твой недахоп — ты беспартыйны.

— Гэта як? — губляўся я.

— Глядзі дыялектычна, — вучыў інструктар.

Партыйную дыялектыку я вывучаў на практыцы.

Адзін мой опус пра слаўнае мінулае аддалі на рэцэнзію ў інстытут гісторыі партыі. Потым запусцілі ў аддзел аргпартработы ЦК, пасля памочніку першага сакратара, а затым рукапіс патрапіў да ідэалагічнага загадчыка. Праз пару месяцаў мне было загадана з'явіцца на гутарку а 9-й гадзіне. Што прыкладна чакала, я здагадваўся. Тыдні тры перад тым з'явіўся артыкул «Не магу паступіцца прынцыпамі», які настойліва раілі перадрукаваць рэспубліканскім газетам.

У мяне з прынцыпамі было заўсёды не надта, а ў гэтым выпадку ўвогуле дрэнна. На прыём я йшоў без усялякага настрою. Інструктары выскоквалі з гэтага кабінета з мікраінфарктамі. Рэдактараў выносілі без пасадаў. Расказвалі, там двойчы пачыналіся заўчасныя роды.

Загадчыка не было. Сакратар-машыністка патлумачыла, што ён «на пятым паверсе» (там сядзелі сакратары ЦК), і прапанавала пачытаць свежыя газеты. Я разгарнуў «Правду»: на ўсю паласу быў змешчаны вялізны артыкул. Стаў чытаць і пачаў падскокваць на крэсле: адна частка партыі давала ў хвост і ў грыву другой, ленінградскага хіміка разбіралі на перыядычныя элементы! Сакратарка глядзела на мяне як на вар'ята. Настрой змяніўся на 180 градусаў. Я з нецярпеннем чакаў гутаркі.

Загадчык прыйшоў задумліва-пануры. На яго стале ляжаў другі экзэмпляр газеты, пакрэслены яшчэ больш густа, чым

мой рукапіс. Дыскусія прайшла без натхнення. Беспрынцыповы артыкул друкавалі ў некалькіх нумарах, лісты чытачоў завалілі ўвесь стол.

Між тым я ўсё больш адчуваў сябе ізгоем. Мяне запрасілі на работу ў папулярную ўсесаюзную маладзёжную газету, але беспартыйнага ўзяць адмовіліся. Пасля выклікалі ў Маскву на гутарку да рэдактара самага перабудовачнага штотыднёвіка — прапанавалі быць іх уласным карэспандэнтам.

— Рыхтуйся, станеш нацыянальным героем, — паблажліва ляпаў той па плячы.

Без партбілета героем стаць не ўдалося.

Партыя перабудоўвалася без мяне. Знаёмых дысідэнтаў аднаўлялі ў шэрагах. Рэвалюцыйнае паскарэнне праносілася міма. Калегі змаўкалі пры маім з'яўленні. У сталоўцы ніхто не пускаў без чаргі. Нават брунеткі пачалі паглядаць з недаверам. Чаша цярпення перапоўнілася, калі мяне аштрафавалі ў аўтобусе.

— Ваш білет, — запатрабаваў кантралёр.

— Няма, — мусіў прызнацца я.

Некаторыя ўжо рыхтаваліся выйсці з партыі, а я яшчэ не ўступіў. Так працягвацца не магло. Дапамог выпадак. Сяброўка майго суседа загадвала мясным аддзелам у гастраноме каля райкама. Неяк мы былі разам на дні нараджэння, і яна гулліва пацікавілася, чаму я не п'ю.

— Беспартыйны, — махнуў рукой знаёмы, — што з яго ўзяць.

— Якія, блін, праблемы, — сказала загадчыца мяснога аддзела. — Давай, на фіг, тэлефон.

Праз тыдзень мне сказалі напісаць аўтабіяграфію, запоўніць анкеты, узяць рэкамендацыі, сфатаграфавацца і падаць заяву. Пачаўся працэс прыёму.

Тут будзе дарэчы адступленне. Аднойчы я патрапіў у далікатную сітуацыю. Другі мой сусед, праваслаўны святар, запрасіў

прыехаць да яго ў царкву й дапамагчы з перакладам — чакалі амерыканцаў. Справа была на Каляды, у царкве не было дзе стаць, і дэлегацыю правялі на кліpac.

Духоўныя спевы, залатое шытво на філонах і епітрахілях, салодкі пах ерусалімскага ладану з панікадзіла, сама працяглая і ўрачыстая служба ў перапоўненым храме так падзейнічалі на аднаго з членаў дэлегацыі, што той папрасіўся да споведзі. Пры гэтым высветлілася, што ён католік і не спавядаўся ўжо гадоў трыццаць. Святар і грэшнік схіліліся над аналоем — і не зразумелі адзін аднаго. Паклікалі мяне, я пачаў перакладаць, і стала млосна: адкрываліся бездані, да якіх трэцім можа набліжацца толькі Бог.

Прыкладна такая ж млосць ахапіла мяне, калі атрымаў апытальнік для аўтабіяграфіі. Форма ўяўляла сабой найвышэйшае дасягненне калектыўнага партыйнага розуму. У Амерыцы, відаць, такую запаўняе кандыдат у дырэктары ЦРУ. Гэты дакумент варты, каб прывесці яго цалкам на мове арыгінала.

## АВТОБИОГРАФИЯ

Я, фамилия (для женщин в скобках — девичья фамилия), имя и отчество, родился (число, месяц и год рождения) в (деревня, село, район, город, область по современному административному делению), национальность, социальное происхождение.
Отец, фамилия, имя, отчество, год и место рождения, национальность, партийность, образование, должность и место работы. Проживает вместе с матерью (если отдельно — указать адрес).
Мать, фамилия (в скобках девичья фамилия), имя, отчество, должность и место работы. Проживает вместе с отцом (если отдельно — указать адрес).

Если родители на пенсии — указать последнее место работы и должность. Если умерли — указать когда, последнее место работы, где захоронены.
О родителях — указать где были и чем занимались во время Великой Отечественной войны.
Семейное положение. Жена (муж), фамилия, имя, отчество (в скобках девичья фамилия), год и место рождения, национальность, партийность, образование, должность и место работы.
Дети: имена и возраст.
Если дети взрослые, то указать фамилию (для женщин в скобках — девичья фамилия), имя, отчество, год и место рождения, национальность, партийность, образование, должность и место работы, домашний адрес.
Братья и сестры. Указать отдельно каждого: фамилия (для женщин в скобках — девичья фамилия), имя, отчество, год и место рождения, национальность, партийность, образование, должность и место работы, домашний адрес.
Родственники жены (мужа). Указать отдельно каждого: фамилия (для женщин в скобках — девичья фамилия), имя, отчество, год и место рождения, национальность, партийность, образование, должность и место работы, домашний адрес.
О родителях жены (мужа) дополнительно — где были и чем занимались во время Великой Отечественной войны.
Когда и что окончил — школа, ПТУ, техникум и т.д., какую получил специальность и квалификацию по образованию. Время и место вступления в ВЛКСМ, № комсомольского билета.
Трудовая деятельность в хронологической последовательности (должность и место работы), с указанием причин перехода.
Служба в Советской Армии (когда и в какой части). Участие в боях по защите Родины (когда, где). Правительственные награды (когда, кем, за что и чем награжден).

Последнее место работы и должность. Участие в общественной работе, в выборных органах.
Привлекался ли к ответственности дисциплинарной, партийной и судебной (когда, кем, за что, какие взыскания имел или имеет).
Привлекались ли к суду родственники (кто, когда, за что, вид наказания).
Был ли за границей (когда, где, причины).
Были и есть ли родственники за границей (где, причины).

Незразумела, як з такой анкетай партыя магла праваліцца, рассыпацца і развеяцца па ветры. Праўда, некаторыя памылкова лічылі, што якраз з прычыны падобных анкет авангард і ляснуўся.

Гэта тэорыя. А на практыцы сваякі за мяжой у мяне былі. Больш таго, я мог за мяжой нарадзіцца і ўступіць, напрыклад, у капіталістычную партыю ЗША. Пасля першай сусветнай мой дзед з братам паехалі на заробкі ў Амерыку. Брат там ажаніўся, нараджаў дачок, якія шлюць паштоўкі з Бостана і Нью-Ёрка.

У самым канцы 80-х, калі памякчэла, я выбраўся да іх у госці. Наведаў таксама Вермонт, даехаў да Кэвендыша, дзе жыў Салжаніцын. Сфатаграфаваўся побач з сур'ёзнай аб'явай на дзвярах мясцовай крамы: «Мы не даем даведак пра Аляксандра Салжаніцына. Не пытайцеся — страляем». З мясцовай пошты паслаў картку ў Мінск сябру, дэпутату парламента: маўляў, разам з нобелеўскім лаўрэатам дыхаю вольным паветрам Кэвендыша, чаго й табе жадаю.

Паштоўка ідзе дагэтуль. Я потым эксперыментаваў: з Венэцыі, Рыа-дэ-Жанейра, Бруселя пасылаў яму на адрас Вярхоўнага Савета эратычныя паштоўкі — усе даходзілі. А прысвечаная дыхальным практыкаванням у Вермонце не дайшла.

Пасля Амерыкі я паехаў у вёску да бабулі. Там адбылося наступнае. Бабуля пайшла ў краму і пахвалілася загадчыцы, асобе ў акрузе высокапаважанай, што ўнук вярнуўся з Амерыкі.

— Я думала, твой унук разумны, — адрэагавала загадчыца, — а ён, аказваецца, дурань.

— Вось што людзі пра цябе гавораць, — са шкадаваннем гледзячы на мяне, сказала бабця.

— Але ж і дзед вярнуўся, — спрабаваў бараніцца я.

— Дзеда выслалі, — заўважыла на гэта бабця.

Дзед сапраўды пацярпеў як дысідэнт. Зямляк з суседняй вёскі, з якім яны працавалі на металургічным заводзе ў Чыкага, падбіў яго запісацца ў прафсаюз. Прафсаюз аказаўся філіяй кампартыі. Імперыялістам гэта не спадабалася, дзеда й яшчэ пару сотняў такіх, як ён, выгналі з работы, пагрузілі на параход і адправілі далей ад берагоў Амерыкі, у Савецкую Расію. Па дарозе ў родную вёску дзед мусіў наведаць Сібір, чым быў вельмі незадаволены.

Пра амерыканскі ваяж у сям'і лішні раз не згадвалі. Але калі гаворка ўсчыналася, у дзеда былі тры галоўныя моманты: колькі касцюмаў ён мог купіць за першую зарплату, затым ішоў доўгі ідэаматычны выраз на адрас земляка й вывад, які адрасаваўся ўнукам:

— Ніколі не ўступайце ў партыю!

З васьмі ўнукаў маральным вырадкам аказаўся я адзін. Я пайшоў па слядах дзеда, і справа скончылася гэтаксама, як і ў яго: давялося развітацца з работай.

Праз тры гады пасля ўступлення партыйны сход выключаў мяне з перадавых шэрагаў. Да заканчэння эпохі розуму, гонару й сумлення заставаўся яшчэ год — у наступным жніўні быў путч. Калі пад крык старшыні сходу, у якім няможна было разабраць слоў, не пазнаючы твараў людзей, з якімі працаваў восем гадоў, я апошні раз выходзіў з рэдактарскага кабінета, мяне не-

шта кальнула ў лапаткі й падалося, што аднойчы, у нейкім іншым жыцці, я ўжо адчуваў гэты пранізліва-пяшчотны незямны анёльскі боль.

Боль перад свабодай.

*Усім, хто вучыў аўтара*
*адрозніваць пустату ад пустэчы*

# Здох

Джордж Оруэл хацеў назваць свой раман спачатку «1980», потым — «1982», і толькі з тэхнічных меркаванняў змяніў на «1984». Шкада, лепш усё ж было б «1982» — прынамсі, для мяне (якраз тады я пачаў працаваць у газеце).

Гэта быў год смерці Брэжнева і пачатак серыяла крамлёўскіх пахаванняў, калі ўвесь СССР задыхаў па праслаўленым метадзе Чэйна-Стокса: спачатку павярхоўныя і рэдкія ўдых-выдых — і раз, і два, і тры — робяцца больш частымі і глыбокімі — і чатыры, і пяць-шэсць-сем! — і паўза, паўза, паўза і зноў раз-два-тры. Імёны брытанскіх лекараў 19-га стагоддзя ўвайшлі ў кожны савецкі дом з урадавага бюлетэня аб здароўі Сталіна, пазначанага 2-й гадзінай ночы 5 сакавіка 1953 года, калі пацыент, верагодна, ўжо ўзяў апошнюю паўзу ці, дакладней, яна ўзяла яго. Сама мова вымагае тут лагічны дзеяслоў, які напэўна ацанілі б аўтары «перыядычнага дыхання» — здох.

А аўтар тэрміна «двудумства» напэўна ацаніў бы яшчэ адно моўнае прадбачанне з таго прэс-рэліза: «хворы знаходзіцца ў сапарозным стане». Дзяржаўныя медыкі ў дужках тлумачылі, што гэта стан «глыбока несвядомы» (чым не

характарыстыка тутэйшасці). Але больш карэктнае вызначэнне — цяжкая небяспечная санлівасць.

Як у сне, пачаў я ў 1982-м працу ў галоўнай рэспубліканскай газеце на нацыянальнай мове. Потым, праз гады, затаіўшы дыханне, перачытаў яе яшчэ раз. І занудзіўся, і развесяліўся, здзівіўся і жахнуўся, засмяяўся і засумаваў, потым удыхнуў-выдыхнуў і атрымаўся дакументальны раман-цытата, у якім сам я не напісаў ані слова.

## Студзень

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

Новы год ужо дзесяць гадзін ідзе па неабсяжнай савецкай зямлі.

Адзначу толькі: аб тым, што стала свінаркай — не шкадую.

Студзень — сярэдзіна зімы.

Паслухаеш прэзідэнта Р.Рэйгана, пачытаеш яго прамову і задумаешся ў здзіўленні.

Муза Коласа не толькі ўслаўляючая, але і лечачая, бічуючая і нават гнеўная, калі гэта неабходна.

З натхненнем удзельнікі сходу выбралі ганаровы прэзідыум у саставе Палітбюро ЦК КПСС на чале з таварышам Л.І.Брэжневым.

А патрэбнасць у кармах забяспечана толькі на палавіну.

З пачуццём трывогі адкрываюць у гэтыя дні многія амерыканцы свае паштовыя скрынкі.

Сацыялізм аддае перавагу калектыўным формам задавальнення патрэбнасцей, якія ў большай ступені забяспечваюць роўнасць людзей.

А потым самі ж і здзіўляемся, як мог падлетак павесіць у двары кошку, забіць сабаку і яго крывёю напісаць на сцяне пра каханне Вовы і Люды.

Фабрыка мяса ў страі.

У абедзены перапынак тут «забываюць» выключаць электрасвятло.

Здабытчыкі забойчай зброі, о, ненавіснікі святла! Дай волю іхняй страшнай мроі — і спаляць свет яны да тла.

Работнікі мяснога цэха пастаянна трымаюць арыенцір на выдатныя паказчыкі даглядчыцы буйной рагатай жывёлы Ніны Фёдараўны Грыгор'евай.

Хоць бы таму, што Эльбрус беларускай паэзіі не двухгаловы, а трохгаловы: да кагорты самых слынных далучаецца Максім Багдановіч.

Магчыма, хто-небудзь скажа, што не так лёгка заўважыць цэглу ў возе пад саломаю.

Газета «Жэньмінь Жыбао» штомесячна выдае каля 200 матэрыялаў, якія змяшчаюць прамыя нападкі на нашу краіну, яе ўнутраную і знешнюю палітыку.

Падманваюць сябе тыя, хто лічаць дабрату і чуласць непатрэбнымі.

План — закон!

З народам Кампучыі — салідарныя.

Сёння кожны з нас мае больш чым сто толькі выхадных і святочных дзён у годзе.

М.А.Суслаў доўгі час пакутваў агульным атэрасклерозам з пераважным паражэннем сасудаў сэрца і мозгу, які развіўся на фоне цукровага дыябету, перанёс інфаркт міакарда.

Чаму ж тады жывёлагадоўчае памяшканне апынулася літаральна ў аварыйным стане: дагэтуль дзіравы дах, незашклёныя вокны, у некалькіх месцах прагніла столь.

Кожны раз, калі бюджэт Пентагона ўзрастае на адзін мільярд долараў, ў краіне знікае 1.300 рабочых месцаў для неграў.

Трэба зрабіць усё неабходнае, каб сённяшнія мінусы былі ліквідаваныя і сталі заўтрашнімі плюсамі, а зрывы ў рабоце — упэўненым узыходжаннем да новых вяршынь.

Залп гарматнага салюту прагучаў сёння ў сувязі з 18-й гадавінай рэвалюцыі на Занзібары.

Сучасны хлебароб не толькі працавіты, але і адукаваны, грамадска-актыўны чалавек, наватар.

«Успамінамі» таварыша Л.І.Брэжнева адкрываюць першы нумар часопісы «Полымя», «Нёман», «Маладосць».

А тым часам выхад жарабят ад ста кабыл складае толькі 27.

І камсамольскае сэрца ў грудзях!

## Люты

Горача любіце Савецкую Радзіму!

Бывае, на жаль, і так: едзе чалавек на сваіх «Жыгулях» прасёлкам, бачыць — поле капусты.

Непадалёку ад цэнтра горада ўпаў у раку Патамак рэйсавы пасажырскі самалёт, а праз гадзіну ў вашынгтонскім метро здарылася аварыя, якая таксама прывяла да чалавечых ахвяр.

Вабіць чытачоў насценгазета «Будаўнік».

Пройдзе пэўны час, і пад Мінскам заб'ецца, запульсуе атамнае сэрца, і ў нашы кватэры прыйдзе цяпло мірнага атама.

А што, па-вашаму, важней, уборка бульбы ці палітычная вучоба камуністаў?

Як хораша і мудра гаварылася на дваццаць шостым з'ездзе нашай партыі аб галоўным, што цэментуе наша савецкае грамадства — аб высокай годнасці паняцця савецкі чалавек.

Люты — месяц кантрастаў.

Вучоныя назвалі абсалютна «неабгрунтаванымі і лжывымі» абвінавачанні адміністрацыі ЗША ў адрас Савецкага Саюза, якія датычаць нібыта меўшага месца прымянення ім хімічнай зброі ў Афганістане.

На час зімоўкі жывёлаводы забяспечаны гарачым харчаваннем.

Як павысіць якасць лекцыйнай прапаганды, яе эфектыўнасць?

Каб звярнуць направа, падайцеся на левую лыжу, а правую падыміце над снегам і надайце ёй жаданы кірунак.

Усё жыццё В.С.Гунбін быў там, куды накіроўвала партыя.

Важнай крыніцай папаўнення і ўзбагачэння словатворчасці Купалы была руская мова, якую ён добра ведаў.

Цяпер жа нас, меліяратараў, любоўна называюць «урачавацелямі зямлі».

Сям-там неапраўдана марудзяць з ачысткай і праверкай насення шматгадовых траў.

А вось чаму ў сям'і «заводзіцца» так званы «ўчарашні» хлеб, хацелася б ведаць.

Чарговая аварыя адбылася на чыгунцы Тазара, якая звязвае Танзанію і Замбію і пабудавана з дапамогай КНР.

Растуць надоі і прывагі.

Так, савецкі чалавек славіцца сваёй працай.

У амерыканскіх цэрквах каля алтароў прадаюць не проста латарэі, кока-колу, жавальную гумку, але і ігральныя карты.

Славяць сям'ю працоўную.

У слесараў-наладчыкаў адзін клопат — не дапусціць, каб заплылі жыжкай электраматоры, вось і збіваюць яны сякерамі наледзі.

Новае жыццё на Палессі набылі быліны пра Ілью Мурамца і Дабрыню Нікіціча, Каваля-Вярнідуба, якія сталі граміць гітлераўскіх чужынцаў.

Ад кожнага кілаграма кармоў — найбольшую аддачу.

З такім падыходам вядзецца ў нашым інстытуце даследванне на тэму «Сацыялістычны рэалізм — заканамернасць развіцця беларускай літаратуры».

Лепшыя старонкі аповесці В.Жуковіча сведчаць пра тое, што аўтар умее не толькі бачыць сваё, але і па-свойму.

Працяглым, хваравітым стаў працэс укаранення ратацыйнага разца з прагрэсіўнай формай рэжучага элемента і ахаладжэннем вузла вярчэння.

## Сакавік

Энергічна змагайцеся за ўмацаванне дысцыпліны, эканомію і беражлівасць!

Была ў нашай вёсцы лазня, ды развалілася.

Свабоду намібійскаму народу!

Вяртаюцца на Радзіму афганскія грамадзяне, якія пакінулі яе пад уздзеяннем ілжывай прапаганды ворагаў красавіцкай рэвалюцыі.

Спыніць гонку ўзбраенняў.

Арганізатары нядаўняга масавага марафону ў Нью-Йорку паведамілі, што пад час яго правядзення былі згублены і ўкрадзены рэчы на дзясяткі тысяч долараў.

Тройчы пераходзіла Вольга Мікалаеўна ў адстаючыя калектывы, згуртоўвала іх, выводзіла ў перадавыя.

Скажу шчыра, у нашым магазіне ніводзін пакупнік ніколі не забывае разлічыцца за куплены тавар.

Кітай не грэбуе метадамі.

І ляцім мы з каханымі поруч з новай песняй да новых вяршынь, да святла неразведаных зораў, да глыбінь неспазнаных душы.

Але не ўсе яшчэ творчыя калектывы дастаткова глыбока прадумалі напрамкі сваёй прапагандысцкай дзейнасці.

У Алжырскай Народнай Дэмакратычнай Рэспубліцы паспяхова ажыццяўляюцца планы электрыфікацыі краіны.

Мінулым летам, напрыклад, у многіх газетах ішла размова толькі пра колькасць нарыхтаваных кармоў, а аб якасці ўпаміналася мімаходам, як бы між іншым.

У мэтах прадухілення такіх беспарадкаў у Гданьску ўзмоцнены меры ваеннага становішча.

Крыніцы струменяць з глыбіняў.

Сапраўдным рэквіемам па антынароднай унутрыэканамічнай палітыцы адмінстрацыі Рэйгана прагучалі чарговыя вынікі апытання грамадскай думкі.

Павышаць актыўнасць дазорных.

Эканоміка Японіі ў 1981 годзе заставалася ў стане застою.

За парушэнні правіл савецкага гандлю, продаж тавараў з нагрузкай, несвоечасовую падачу заявак загадчыцы магазіна В.Няфёдавай аб'яўлена вымова.

Кожны чацвёрты — камуніст, кожны трэці — камсамолец.

Іх прывяла на лаву падсудных нязмерная прага ўзбагачэння, прыватнаўласніцкія інстынкты, імкненне даць грамадству менш, а сабе ўрваць больш.

Тэма партыі ў творчасці А.Звонака неадлучная ад тэмы Леніна.

Бясчынствы працягваюцца.

Па колькасці студэнтаў на 10 тысяч жыхароў БССР апярэджвае такія развітыя капіталістычныя краіны, як Вялікабрытанія, ФРГ, Францыя, Японія і іншыя.

Я не бачыў жахаў Вялікай Айчыннай вайны, працаваў у геалагічных партыях і экспедыцыях Сібіры.

Захапіўшыся ўдалай рыбнай лоўляй, яны не прыкмецілі, што за імі назіраў жыхар вёскі Латвічы, грамадскі інспектар па ахове прыроды.

Няма дзе купіць звычайную ватоўку.

У прадмове да п'есы А.Макаёнак выказаў бясспрэчную думку аб тым, што «стварэнне новага чалавека, чалавека камуністыч-

нага грамадства, пачынаецца з малога — з ветлівасці, шанавання старэйшых, павагі калектыўных інтарэсаў і гэтак далей».

Савецкія жанчыны — актыўныя будаўнікі камунізму.

М.А.Савіцкі супраць народжанай ідэалогіяй імперыялізму тэндэнцыі да пераацэнкі каштоўнасцей.

Памідор-велікан.

## Красавік

Давайце рашучы адпор агрэсіўным падкопам імперыялізму, мілітарызму і рэваншызму!

Што горш: калі аўтобуснага маршруту зусім няма ці калі ён ёсць, але транспарт ходзіць абы-як?

Сустракаюцца яшчэ выпадкі, калі людзі чамусьці не ставяць сваіх прозвішчаў пад пісьмамі ў рэдакцыі газет.

Нахабнасць імперыялізму янкі.

Паміж хрысціянамі і атэістамі ў Савецкім Саюзе праяўляецца іх карэннае адзінства як савецкага народа.

Сёння зноў па ўсёй Англіі паралізаван чыгуначны рух.

Мы вырашылі атрымаць за год не менш 90 тон ялавічыны. Амерыканскі курс на нарошчване ўзбраенняў не сустракае падтрымкі ўрада Сенегала.

М.Лужанін, малюючы вобразы камуністаў, умее ўвасобіць у слове жывыя рысы гэтых звычайных і ў той жа час незвычайных людзей.

Вясна выдалася надзвычай няўстойлівая.

У рэпертуары хору шэраг беларускіх народных песень, такіх як «А ў цёмным лесе сава кугіча» і «А я ў печы не паліла».

Цяпер няма ніякага парушэння ваеннай раўнавагі паміж ЗША і СССР, але калі яно і існуе, то толькі на карысць Захаду.

Кожны савецкі грамадзянін, гаворачы ленінскімі словамі, мае магчымасць навучыцца вялікай рускай мове.

Цяперашняя пяцігодка, як падкрэсліў таварыш Л.І.Брэжнеў, у значнай меры павінна стаць пяцігодкай кармоў.

Мінск намнога апярэдзіў па насаджэннях такія буйныя сталіцы, як Лондан і Парыж.

Адкуль цяпер сярпы ўзяліся? З гербоў хіба што і сцягоў.

Заўважана, што вазоны яшчэ і дысцыплінуюць рабочых: побач з кветкамі не пабачыш абыякава кінутай рэчы, тым больш недакурка.

Праўда, піва не боршч, за дзве гадзіны яго не зварыш.

Адбыўся сумесны адкрыты партыйны сход ордэна Дружбы народаў Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР і Саюза пісьменнікаў Беларусі з парадкам дня: «Клопаты партыі абавязваюць» (да дзясятай гадавіны з дня прыняцця пастановы ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы»).

Раней у поле выязджай — важкі будзе ўраджай.

У ЗША ўзмацняецца нездавальненне дзейнасцю Р.Рэйгана на пасадзе прэзідэнта.

Для мяне самым натхняючым і значным дакументам часу стаў ленінскі план манументальнай прапаганды.

Ці не прыкра і балюча падчас назіраць, як некаторыя нашы і бязвусыя юнакі, і сівыя дзядулі фарсяць у майках, блузах з намаляванымі замежнымі сцягамі, партрэтамі адыёзных палітычных дзеячаў?

Спінай да партнёра.

Больш чым у семдзесят разоў узрасло за апошнія тры дзесяцігоддзі спажыванне ўгнаенняў у Індыі.

Будзем працаваць па-ўдарнаму, з агеньчыкам, сумленна.

Вось па гэтым тэлефоне — яго з цікавасцю разглядае генеральны дырэктар аб'яднання «Гомсельмаш» М.І.Афанасьеў — Ленін званіў у Мінск, цікавіўся патрэбамі беларусаў, дапамагаў і справай, і добрым словам.

Удасканальваць кантроль і праверку выканання.

Сярод тых, хто абараняецца ў самыя кароткія тэрміны, як правіла, грамадскія актывісты.

Больш тавараў для народа.

Леанід Ільіч клаўся пасля адбою, як і ўсе, а калі казарма сціхала, уставаў, апранаўся і ішоў у канцылярыю рыхтавацца да палітзаняткаў.

## Травень

Павялічвайце вытворчасць і продаж дзяржаве мяса, малака, яек, воўны і іншай прадукцыі!

Мінскі цырк шэфствуе над хлебаробамі саўгаса «Гайна» Лагойскага раёна.

Мне ёсць што расказаць людзям.

Перш-наперш, забараніць ірваць на тэрыторыі ўсё, што расце, а таксама ставіць у пакоях букеты з палявых і лясных кветак, зялёных галінак.

Канферэнцыю па кнізе Л.І.Брэжнева правёў райком партыі ў калгасе імя Жданава.

Ды і якая можа быць прадукцыйнасць працы, калі ён працуе на трактары з шасці гадзін раніцы да трох гадзін ночы?

Увесь наш лад жыцця накіраваны на тое, каб заўсёды перамагала, брала верх чыстае, светлае, справядлівае.

Падцягнем увесь працоўны фронт, разгорнем агульнае наступленне.

Вядома, што праціўнікі сацыялізму імкнуцца замаўчаць або прынізіць поспехі нашай сельскай гаспадаркі.

У радзе раёнаў маюць месца перабоі ў гандлі харчовымі таварамі.

Замкнешся, пакрыўдзішся на калектыў — шмат што згубіш, прыслухаешся да меркаванняў таварышаў, пойдзеш насустрач ім — станеш лепшым, багацейшым.

Уначы рыхтавалі глебу, а з надыходам світання закладвалі насенне ў глебу.

Усё, што вырашчана — зберагчы.

Выдумкі кітайскай прапаганды.

Вопытнейшы механізатар ведае па мінуламу году, што здробненае сена, вільготнасць якога не перавышае трыццаць працэнтаў, захоўваецца не горш чым сухая маса, калі правільна закласці яго ў траншэю.

Сталі вядомыя жудасныя па сваёй жорсткасці і цынізму планы ўрада Вялікабрытаніі аб насільным забіцці цяжка параненых людзей, якія перажывуць ядзерную катастрофу.

Тут усе бяруць прыклад з дэпутата раённага савета майстра жывёлагадоўлі першага класа племзавода «Зарэчча» М.Ф.Дзехцяровай.

А ў ФРГ ужо бетануюць пляцоўкі, прызначаныя для «першынгаў».

Немалы ўрон наносіць нашай агульнай справе і п'янства.

Узброеныя сілы Дэмакратычнай Рэспублікі Афганістан разгромілі ў апошнія дні некалькі ўзброеных банд, засланых у краіну з-за рубяжа.

Графік правафланговых.

Саюз пісьменнікаў БССР распрацаваў шэраг мерапрыемстваў, накіраваных на больш актыўны ўдзел пісьменнікаў у агульнанароднай барацьбе за ажыццяўленне Харчовай праграмы СССР.

Нядаўна 500 лепшых выпускнікоў прафтэхвучылішчаў Беларусі, як і ў ранейшыя гады, паехалі ў Казахстан.

Шырыцца спаборніцтва.

У полацкіх кафэ «Юнацтва» і рэстаране «Дзвіна» наведвальнікам прапаноўвалі да ўсіх мясных страў адзін гарнір — рыс з маласольным агурком.

Па-грамадзянску поклічна і страсна.

Продаж дзяцей канадскіх індзейцаў у Злучаныя Штаты вядзецца з размахам і пастаўлены на салідную аснову.

Трымаюць букет, як правіла, у левай руцэ.

Павышаць эфектыўнасць угнаенняў.

Варта пабачыць — і сэрца
Б’ецца пачуццем адным:
Бачыць і знае ўсё Ленін, —
«Праўда» ляжыць перад ім.

Каб пяскі радзілі.

## Чэрвень

Радзіма чакае ад вас больш нафты, газу, вугалю, электраэнергіі!

З уступленнем савецкага грамадства ў стадыю развітога сацыялізму на парадак дня стала пытанне: ці з'яўляецца развіты сацыялізм ступенню, якая непасрэдна падводзіць грамадства да вышэйшай фазы камунізму, або паміж ім і камунізмам ёсць яшчэ нейкая ступень?

У гэтым годзе першы месяц лета не парадаваў, насуперак чаканню, цяплом.

Хлеб — наша сённяшняя магутнасць і наша трывалая будучыня!

На справе ж, як паказаў М.Таль, чорных чакаюць адны непрыемнасці.

У Літве даведаліся пра гэту цяжкасць беларускіх таварышаў і вырашылі падзяліцца з імі запасамі дэфіцытнага шпагату.

Што такое ізраільская вакуумная бомба?

Нарэшце, падкаваў блыху: у мікраскоп відаць залатыя падкоўкі, прыбітыя да ножак стальнымі цвічкамі.

Дома ў мяне стаіць каляровы тэлевізар — узнагарода за прызавое месца ў абласным спаборніцтве камбайнёраў.

Сэм новай зброяй над усёй зямлёй размахвае бы востраю касой.

М.Кірылаў «Партрэт работніцы 2-га калійнага камбіната Лукашэнка Ніны», В.Лук'янаў «Маладзёжная брыгада», А.Рыбчынскі «Салігорск. Аўтастанцыя», М.Абразоў «Ідзе прадукцыя», У. Напрэенка «На Светлагорскім цэлюлозна-кардонным камбінаце».

Напэўна, і цяпер, пры недахопе тыпавых сховішчаў, варта было выкарыстаць прыпяцкія вадаёмы як сховішчы для засоленых агуркоў і памідораў.

Зусім інакш вырашаюцца гэтыя пытанні ў буржуазным грамадстве.

У Святланы Савіцкай у першай палове дня праводзілася даследванне адчувальнасці вестыбулярнага апарату і функцыянальнай актыўнасці галаўнога мозгу.

Пасварыла суседзяў гарэлка.

Расісцкі рэжым ПАР працягвае несамавітыя палітычныя і дыпламатычнья манеўры.

Падраду ў вёсцы — шырокую дарогу.

У мяне ў руках папулярны ва ўсім свеце кубік Рубіка.

«Варта ўсіх адзінокіх старых на заметку ўзяць», адзначыў для сябе сакратар парткома.

Цяжка знайсці чалавека, які не любіў бы збіраць грыбы.

Тут асабліва нецярпімыя заарганізаванасць, параднасць, самалюбаванне, пустазвонства.

Высакародны парыў на рэкорд, у пэўнай ступені абумоўлены ўмовамі сацыялістычнага спаборніцтва, у даны момант патрабаваў дадатковай душэўнай настройкі.

Я не хачу і больш не буду мецъ спраў з такім Ізраілем.

Фашысцкія малойчыкі — прэч з Вялікабрытаніі!

Была дэталёва прадумана каларыстычная партытура спектакля: сучасныя персанажы былі знятыя пераважна ў блакітным колеры, станоўчыя героі купалаўскай паэмы — у белым, адмоўныя — у чырвона-чорным.

Пройдзе час і, магчыма, Беларусь будуць называць краем гэтай цудоўнай ягады — парэчкі.

Што гэта? — наўмысная дэзінфармацыя ўдзельнікаў рэйду ці няведанне сітуацыі, якая склалася з рамонтам машын?

Заходні свет балансіруе на грані эканамічнай катастрофы, параўнальнай з «вялікай дэпрэсіяй» 30-х гадоў.

Хворых паважаць трэба, а не толькі шкадаваць.

У правільнасці гэтага крылатага выразу сотні барысаўчан змаглі пераканацца самі, пабываўшы на Радзіме лётчыка-касманаўта Ўладзіміра Кавалёнка.

Што такое сон?

## Ліпень

Пераканана, страсна нясіце ідэі партыі ў масы!

Тазікі маюцца поўнасцю згодна з нормамі, нават у запасе.

Камуніст Крыцкі добра ведаў, што ў парткоме заўсёды ўважліва выслухаюць.

На этапе развітога сацыялізму практычна павінна быць вырашана задача забеспячэння рацыянальнага спажывання насельніцтвам асноўных прадуктаў харчавання ў адпаведнасці з патрабаваннямі навукі.

У ліпені выпадае асадкаў больш, чым калі-небудзь.

Маю машыну загружалі вёдрамі амаль чатыры гадзіны.

Прычым, маральныя стымулы патрабуюць да сябе павышанай увагі, бо ў сённяшніх умовах менавіта яны становяцца галоўнай пабуджальнай сілай для кроку наперад.

Своечасовай і эфектыўнай мерай з'явілася стварэнне ў сістэме партыйнай вучобы школ маладых камуністаў, навуковага камунізму, ідэалагічнага актыву.

У чэрвені з правераных намі 293 пар школьных хромавых туфляў з ганаровым пяцівугольнікам забракавана 90, альбо 30,7 працэнта.

Аднак праз тры-чатыры дні становішча значна палепшылася, усе замежныя судэнты хутка асвоілі тэхніку ўборкі бульбы і пачалі перавыконваць заданне.

У горадзе Хамхыне адбыўся 6-ы пленум ЦК ППК, на якім былі абмеркаваны пытанні павелічэння вытворчасці каляровых металаў.

Героі рамана «Васількі» Аляксея Кулакоўскага сапраўды, калі пакарыстацца словамі са Справаздачнага даклада ЦК КПСС XXVI з'езда партыі, жывуць «жыццём, напоўненым напружанай працай, настойлівай барацьбой за перамогу справядлівасці і дабра».

Аказалася, што за 24 гадзіны рыбы мяняюць стан рухомасці на спакой да сарака разоў, жабы — да дваццаці.

Завершана збудаванне мемарыяла на Малой зямлі.

Палітбюро ЦК ПАРП выказала ўдзячнасць работнікам грамадзянскай міліцыі, службы бяспекі, добраахвотнага рэзерву грамадзянскай міліцыі за рашучыя, але ў той жа час стрыманыя дзеянні па аднаўленні парадку.

Забыліся, на жаль, спецыялісты пра тое, што можна выпякаць смачныя піражкі з капустай і яйкамі.

Цыкл палотнаў Леаніда Шчамялёва з'яўляецца прыкладам удала знойдзенай раўнавагі паміж агульным і асаблівым

Падтрымана ініцыятыва дэпутатаў Саратаўскай вобласці аб разгортванні ўсесаюзнага паходу пад дэвізам «Усё вырашчанае — захаваць».

Перад тым, як вывесці камбайны ў поле, іх трэба належным чынам падрыхтаваць.

Чыгун-двухпудавік патрэбны, каб нагрэць ваду, а ліпавыя начоўкі — каб залезці ў іх ды папялёхацца.

Праверце, ці добры ў вас зрок, ці бачыце вы побач з сярэдняй зоркай ручкі каўша (Міцарам) — нияркую зорачку — Алькар.

Нават такое нас зацікавіла: колькі тона карняпладоў бярэ з зямлі розных рэчываў.

Партыйнае жыццё: стыль дыктуе час.

Акрамя таго, пруткі барабана механізатар пераплёў дротам дыяметрам 2-2,3 міліметра, а бакавіны і засцерагальныя шчыткі камбайна, паміж элеватарам і корпусам яго, ушчыльніў прагумаванымі пасамі.

Не знае зямля вартых подзвігу Партыі сплаваў металу, апроч сэрцаў людскіх, апроч песні, і я сэрца з песняй кладу ля яе п'едэстала.

А вось пра тое, каб рабіць добрую цэглу, чамусьці не клапоцяцца.

Каму гайку вытачыць, каму ўтулку паднавіць, а то і цэлы болт зрабіць — усяго не пералічыш, з чым звяртаюцца людзі да токара В.Ф.Кучаравенкі.

Гэта ж вялікі цуд, што нарадзіўся і жыву менавіта я, а не хтонебудзь іншы.

Напрыклад, замест таго, каб закручваць гайкі мацавання ў шафе згодна з тэхналогіяй спецыяльным гайкавёртам, можна проста грукнуць па ёй малатком, заправіць сілай, як гэта практыкаваў сталяр М.Д.Самахвал.

«Свабодная Еўропа» і «Свабода» утрымліваюцца на сродкі ЦРУ і дастаткова зарэкамендавалі сябе як апаганшчыкі міжнароднага радыёэфіра.

Бітум, якім заліты дахі, растае пад сонцам і сцякае ў вадасцёкавыя трубы, але чаму ён растае, хоць забіце — не скажу.

## Жнівень

Паўней забяспечвайце патрэбнасці народнай гаспадаркі і насельніцтва ў хімічных прадуктах і матэрыялах!

Ведаеце, у нас многа жанчын.

Між вуліц ташкенцкіх, шырокіх і вузкіх, адной даў імя і пясняр беларускі.

Паказ в'етнамскіх фільмаў пачаўся ў гарадах і вёсках Беларусі.

Даверлівымі і прастадушнымі ўступаюць Адам і Ева Ю.Траяна і Л.Бржазоўскай на шлях пазнання свету і ўсіх гэтых каварных штукарстваў Д'ябла і нават самога Бога.

На кожны гектар унеслі па цэнтнеру аміячнай салетры і хлорыстага кальцыю, а каб не пашкодзіць пасевы, рабілі гэта ўручную.

Сутычка Новіка ў выкананні Леаніда Рахленкі з саноўным мешчанінам Прозаравым перарастала ў сутычку светапоглядаў, спрэчку жыццёвых пазіцый — таго, чым партыя магутная, з тым, што з нашымі партыйнымі прынцыпамі несумяшчальнае.

А ў нядзелю і суботу і ў звычайны дзень любы — ногі ў рукі і ў грыбы.

Убраць бульбу своечасова, без страт.

Смолін прызнаўся на судзе, што кожны раз, едучы працаваць у вёску, мае магчымасці весці сябе бескантрольна, без лішняй апекі сям'і, суседзяў, таварышаў па рабоце можа «выпіць гарэлкі ці віна».

Выкапаць клубні хутчэй і лепш — такая сёння стаіць задача.

А не так даўно калектыў прыклаў нямала намаганняў, каб яна выстаяла пад напорыстым націскам сектанцкіх актывістаў, якія ўцягнулі ў свае сеткі яе бацькоў.

Кожны чацвёрты з іх — актыўны ўдзельнік Усесаюзнага фестывалю мастацкай самадзейнасці.

Не забылі мы і такое хлебаробскае правіла: хутчэй і лепш сажнеш — больш збярэш.

Калі перайсці на мову жорсткай прозы, то гэта — непрасыхаючая лужына папалам са смеццезвалкай.

Тры з палавінай гады кіравання кансерватараў сталі катастрофай для Англіі.

Высокая актыўнасць савецкіх танкістаў знаходзіць сваё пераканаўчае выражэнне ў сацыялістычным спаборніцтве.

Мне хацелася паказаць, — дзяліўся паэт з чытачамі «Коммуниста Белоруссии» ідэйнай задумай сваёй паэмы, — як у чалавеку увасабляецца сам час, у які ён жыве і дзейнічае, хацелася раскрыць адзінства чалавека і часу, сілу Праметэевага агню непаўторнай рэвалюцыйнай эпохі, якую ўбіралі ў сябе канкрэтныя гістарычныя асобы, што ўзвалілі на свае плечы цяжкую ношу вестуноў пралетарскага гуманізму, інтэрнацыянальнага братэрства, высокіх, камуністычных ідэалаў і з гонарам данеслі яе да перамогі.

Я — кіргіз, вялікае краіны, партыі вялікай нашай сын.

Работніца цокалевачнага цэха Р.І.Рубель ад імя жанчын-маці запатрабавала неадкладнага і поўнага вываду ізраільскіх войск з тэрыторыі Лівана.

Сталовая разлічаная на адначасовае абслугоўванне 50 чалавек, а відэльцаў і лыжак — па 30.

Злавесныя змовы супраць Індыі.

Нашу асаблівую трывогу выклікае недастатковы, а то і проста слабы прыток пісьменніцкіх імён у сферу дзейнасці па імені Публіцыстыка.

У 25 гадоў ён ужо мае чатыры судзімасці.

Надзейную сувязь паміж рознымі галінамі народнай гаспадаркі забяспечваюць аўтамабілісты рэспублікі.

Наш народ цяжка запалохаць атамнай, вадароднай, нейтроннай бомбай, а таксама ракетай «MX», якую прэзідэнт ЗША рашыў прыняць на ўзбраенне.

Мне, сельскаму працаўніку, найбольш запомніліся такія словы гэтага дакумента: «Уся краіна працуе цяпер над выкананнем Харчовай праграмы».

На жаль, у раёне ёсць нямала населеных пунктаў, якія вясной і восенню з-за бездарожжа адрэзаны ад райцэнтра.

Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя прынесла в'етнамскаму народу святло марксізму-ленінізму.

Ніколі, верце, не забуду таго дня, калі Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР мне было прысвоена ганаровае званне маці-гераіні.

Няўжо зімой каровы Шклоўшчыны зноў будуць мець паўпустыя кармушкі?

## Верасень

Актыўна ўдзельнічайце ў кіраванні справамі дзяржавы і грамадства!

У Івянец, да Дзяржынскага.

Знянацку застала сяўба азімых хлебаробаў саўгаса «Магілёўскі».

Гвінейская Народная Рэвалюцыйная Рэспубліка выступае за раўнапраўнае супрацоўніцтва паміж дзяржавамі з featureрознымі сацыяльнымі сістэмамі.

Але яшчэ больш здзівіў ход Каспарава канявой пешкай.

Паспяхова вядуць барацьбу з крадзяжамі сацыялістычнай уласнасці, п'яніцамі, самагоншчыкамі, хуліганамі дружыннікі саўгаса «Рассвет» Мінскага раёна.

Мы — калектывісты.

Уручаючы Вам, дарагі Леанід Ільіч Брэжнеў, ордэн «Рэвалюцыі 14 кастрычніка», мы тым самым аддаем даніну павагі ўсім савецкім камуністам, усім працоўным Савецкага Саюза, запэўніваем іх у нашай вернасці йеменска-савецкай дружбе.

А калі не пашанцуе — крышы на здароўе капусту, ласуйся яблыкамі і грушамі — латарэя без пройгрышу!

Найбольш варожыя элементы былі рассеяны пры дапамозе вадамётных установак.

Незайздросны лёс яблыка.

Хавайце запалкі ў надзейнае месца, недаступнае для дзяцей.

Пад гукі ракетна-ядзернай пентагонаўскай шарманкі заакіянскія імперыялісты хацелі б прымусіць танцаваць увесь свет.

Васіль Кандратавіч карыстаецца вялікім аўтарытэтам у калектыве, служыць прыкладам для моладзі.

Яны ўпарта адмаўляюцца акуратна зрываць яблыкі з дрэў, пакаваць іх у скрынкі і адпраўляць на захоўванне.

Непахісная перамога сацыялістычнай ідэалогіі.

Пярвічная партыйная арганізацыя «Полымя», рэдкалегія, усе творчыя і тэхнічныя супрацоўнікі рэдакцыі, выконваючы пастанову Цэнтральнага Камітэта КПСС «Аб творчых сувязях літаратурна-мастацкіх часопісаў з практыкай камуністычнага будаўніцтва» зробяць усё, каб на старонках нашага выдання знайшлі пастаянную прапіску творы, якія б смела ішлі ў жыццё на самыя баявыя рубяжы, пільна, на высокім ідэйным і мастацкім узроўні даследвалі і паказвалі веліч нашых здзяйсненняў, праблемы палітычныя, эканамічныя, духоўныя.

Летась, напрыклад, усе калгасы і саўгасы рэспублікі рэалізавалі 48,6 тоны рыбы — у некалькі разоў менш, чым прадугледжвалася планам.

Катэгарычна забаронена перавозіць людзей у трактарных прычэпах.

Калі, аднак, арганізатары беспарадкаў не зробяць высноў з папярэдняга вопыту, то кіраўніцтва ПАР не спыніцца перад прымяненнем мер, неабходных для аховы парадку.

Паглыбляецца крызіс у тэкстыльнай прамысловасці Японіі.

Вачам сваім не веру: аказваецца, што гэта не паперкі, а дзесяцірублёвыя купюры.

Савецкае грамадства — самае адукаванае ў свеце.

Торф — на службу чалавеку.

Вялікія далягляды адкрывае пастанова ЦК КПСС, Савета міністраў СССР «Аб дадатковых мерах па паляпшэнню аховы здароўя насельніцтва».

Якасць цэглы ў заняпадзе.

Па вытворчасці станкоў на тысячу чалавек наша рэспубліка перагнала ЗША і іншыя развітыя капіталістычныя краіны.

Мэрлін Манро была забіта агентамі ЦРУ.

Трэба фарсіраваць тэмпы ўборкі бульбы, павялічыць іх на касьбе насеннікаў бабовых траў, у самыя сціслыя тэрміны завяршыць сяўбу, больш эфектыўна весці ўздым зябліва.

Усё можа салдат.

## Кастрычнік

Актыўна ўдзельнічайце ва ўсенародным руху за эканомію і беражлівасць!

Калі дзяўчына пахне нікацінам густа, яна напамінае мне маліну з дустам.

Вайну я ўспамінаю заўсёды, калі думаю аб міры.

Палюбіў цябе, Туркменія!

Умовы надвор'я гэтага года спрыяльнымі не назавеш.

Чаму, гаварыў таварыш Л.І.Брэжнеў, некаторыя члены партыі не паказваюць прыклад у працы, умення дамагацца добрых вынікаў у рабоце?

Кінастужкі рэжысёра Віктара Дашука — гэта дыялог паміж мастаком і жыццём.

На Гродзеншчыне, скажам, пастаянна праводзяцца спецыяльныя месячнікі, тыдні, дні і рэйсы міру.

Новыя вышыні.

Выключна вострa стаіць пытанне захавання народнага дабра.

Менавіта імкненне да новых вышынь у працы натхніла дваццаць вадзіцеляў закончыць зменную сярэднюю школу.

Антынародная ўнутраная і знешняя палітыка адміністрацыі Р.Рэйгана прывяла да значнага падзення папулярнасці кіруючай рэспубліканскай партыі.

Магчыма, хто-небудзь падумае, што атрымліваючы параўнальна нядрэнны ўраджай бульбы — больш як 150 цэнтнераў з гектара, — мы на самай справе карысталіся асаблівымі ўмовамі надвор'я.

Скажу свае словы і зорам і нівам, табе, горды бусел, табе, сенажаць, на сцежках Айчыны я тым і шчаслівы, што ёсць мне каму свае словы сказаць.

Таварыш Брэжнеў пабываў каля помніка Кіраву.

Асаблівую цікавасць выклікаў у мяне раздзел «Прапагандыст і пяцігодка».

Дазвольце сардэчна вітаць Вас ад імя ветэранаў грамадзянскай і Вялікай Айчынай войнаў і паднесці ў дар гэты меч, як сімвал міру, у знак удзячнасці Камуністычнай партыі і асабіста Вам за нястомную барацьбу, якую Вы вядзеце за захаванне міру на зямлі.

Паўторная копка паказала, што на кожным квадратным метры ў калгасе XVIII партз'езд Брагінскага раёна засталося яшчэ па 30 клубняў.

Піянер, ты будзь гатоў падтрымаць сваіх братоў!

Перад тым, як уключыць праходчы шчыт, Шастапалаў па-гагарынску сказаў: «Паехалі!»

Усё большую папулярнасць набываюць у горадзе агітпляцоўкі.

У Чэхаславакіі прынята перспектыўная праграма ўдасканалення работы гандлёвай сеткі.

Сэканомлена сыравіны і паліва на многія мільёны донгаў.

Практыка паказала, што, калі пасеяна дастаткова траў, можна забяспечыць грамадскі статак кармамі.

Ведае ён і аб тым, што сотні рабочых «Джэнерал мотарс» ужываюць наркотыкі толькі для таго, каб справіцца з шалёным тэмпам работы.

Ідэалагічнай рабоце — актуальны змест і сучасныя формы.

Барацьбу думкі, вучэнне аб перамозе працоўнага класа над прыгнятальнікамі дзед Талаш атаясамліваў з вобразам чалавека на кані і са зброяй, як гэта было прынята ў скульптурным мастацтве мінулага.

Удвая больш мінулагодняга назапасілі кармоў для грамадскага статка працаўнікі калгаса «Абарона» Добрушскага раёна.

Цяжкае становішча склалася ў сталеліцейнай прамысловасці ФРГ.

Чалавек хоча быць сярод людзей і пасля работы, і мы імкнемся, каб гэта патрэбнасць задавальнялася не ў рэлігійнай абшчыне.

Ты, Фіма, проста шчаслівчык, што жывеш у СССР, у прыгожым горадзе Мінску, і іграеш у аркестры.

## Лістапад

Чула адносцеся да патрэб і запатрабаванняў савецкіх людзей!

Мы, жыхары пятага паверха, асабліва чакалі рамонту даху.

Камандзірам часцей выслаць лінейных і вывесці войскі на парад па зацверджанаму разліку, ва ўстаноўлены час.

Усюды, куды ні кінь вокам, чорныя ад бруду сцены, горы нявывезенага гною, рассыпаныя і перамешаныя ў праходах кармы.

Нам ясны задачы, акрэслены мэты, наперад скірован наш зрок; мы ленінскай дружбай народаў сагрэты, мы — новыя людзі вялікай планеты, — дык цвёрдым жа будзь ты, наш крок!

Дырэктар саўгаса «Шлях Ільіча» груба, нетактоўна паводзіць сябе з падначаленымі.

Са значнымі стратамі пачалі зімоўку ў калгасах і саўгасах Слуцкага, Уздзенскага, Пухавіцкага, Дзяржынскага, Валожынскага, Барысаўскага, Глускага, Смаргонскага, Светлагорскага, Ушацкага, Бешанковіцкага, Брэсцкага, Жабінкоўскага і іншых раёнаў.

Пры паталага-анатамічным даследванні дыягназ цалкам пацвердзіўся.

У гэты ж час спыніць на пяць мінут работу ўсіх прадпрыемстваў і арганізацый па ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюза за выключэннем прадпрыемстваў бесперапыннай вытворчасці; зрабіць на працягу трох мінут салют гудкамі на фабрыках, заводах, чыгунках, на суднах марскога і рачнога флоту.

Краіна ў горы, у горы бязмежным... зямныя вядомы нам вартасці. І мы над труною таварыша Брэжнева клянёмся ў вернасці Партыі.

Чытаю-перачытваю кнігу Ф.М.Янкоўскага «І за гарою пакланюся» і ціха радуюся.

Але пабываўшы на палях Буда-Каашлёўскага, Жлобінскага, Чачэрскага раёнаў, міжволі думаеш: няўжо тутэйшыя гаспадарнікі забылі, што спрыяльнае надвор'е не будзе стаяць да новага года?

На 6,2 працэнта выраслі цэны ў Швейцарыі.

Светлую памяць Леаніда Ільіча Брэжнева ўшанавалі патрыярх усяе Русі Пімен і іншыя прадстаўнікі вышэйшага духавенства Рускай праваслаўнай царквы.

На год раней намечанага тэрміну завершана будаўніцтва ангара на аэрадроме Ферыхедзь.

Наша ўпэўненасць заснавана на рашэнні нечарговага Пленума ЦК КПСС, на якім Генеральным сакратаром ЦК нашай партыі аднагалосна выбраны верны саратнік Л.І.Брэжнева — Юрый Уладзіміравіч Андропаў.

За шкуры жывёл, забітых на жывёлазабойчых пунктах, выплачваецца надбаўка ў размеры 7 працэнтаў кошту скуры, а кішэчная сыравіна аплачваецца па цане 1 гатунку.

Труну з целам памершага павольна апускаюць у магілу.

Ды вось бяда — кармацэха ў нас няма.

Як падкрэсліў таварыш Ю.У.Андропаў, цяпер пытанне аб эканоміі матэрыяльных рэсурсаў павінна разглядацца па-новаму, а не так, што «сэканоміў добра, не сэканоміў — таксама абыдзецца».

Дынама (Мн) — 47; Дынама (К) — 46; Спартак — 41.

Правільна падкрэсліваецца думка, што публіцысты-газетчыкі павінны дасканала валодаць майстэрствам сінтэзіравання намінатыўных («лагічых») і экспрэсіўных магчымасцей мовы.

Сцяг Леніна ў надзейных руках.

Дзясяткі выпускнікоў Клімавіцкага зааветтэхнікума, напрыклад, уладкаваліся куды папала: кандуктарам на аўтобус, буфетчыцай у сталовую і г.д.

Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі. Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Савет Міністраў Беларускай ССР. Іван Шамякін, народны пісьменнік БССР, Герой Сацыялістычнай працы. Саюз журналістаў БССР. Максім Танк, народны паэт БССР, Герой Сацыялістычнай Працы. Магілёўскія хімікі, віцебскія швейнікі, докшыцкія хлебаробы, мінскія станкабудаўнікі. А.Карпаў, першы сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР. Д.Жмуроўскі, прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У.І.Леніна. Саюз пісьменнікаў БССР. Г.Макарава, Л.Рахленка, З.Стома, В.Тарасаў — народныя артысты СССР. Саюз мастакоў БССР.

У апошнія месяцы бягучага года эканамічны рост у ЗША, Канадзе і Заходняй Еўропе будзе роўны нулю.

Выйшла ў свет трэцяе выданне кнігі «У.І.Ленін аб Вялікай Кастрычніцкай сацыялістьчнай рэвалюцыі».

Больш чым у два разы выраслі у гэтым годзе цэны ў Мексіцы.

Трактар будучага.

Тыя, хто дрэнна рыхтаваўся да зімы, папярэджаны.

## Снежань

Змагайцеся супраць імперыялізму, неакаланіялізму і гегеманізму, за мір і бяспеку!

Без трывалага маральнага багажу немагчымы футбаліст высокага класа.

Не сакрэт, што атмасферныя працэсы сёлета мелі даволі няроўны характар.

Аднадушна адабраем.

Некаторыя работнікі прамысловых прадпрыемстваў, іншых арганізацый, устаноў не супраць у рабочы час наведацца ў цырульню, магазін, пральню, а то і ў кіно.

Суд Варшаўскай ваеннай акругі, разгледзеўшы пры адсутнасці падсуднага справу былога пасла ПНР у Японіі З.Руража, прызнаў яго вінаватым у здрадзе Радзіме.

Кожная працоўная мінута, кожны дзень нашага жыцця павінны быць напоўнены глыбокім сэнсам.

Нярэдка можна пачуць, як на поўны голас у некаторых калектывах абменьваюцца ўражаннямі ад учарашняй п'янкі.

Многае трэба будзе зрабіць для далейшага паляпшэння якасці малака.

Калі б кожнага мы памянулі мінутай маўчання, то яно працягвалася б больш чым 38 гадоў.

Беражлівасць — рыса камуністычная.

Няма ніводнага прыкладу, каб гультай дажыў да паважанага ўзросту.

Уяўляецца таксама неабходным загадзя, да надыходу халадоў, запоўніць аконныя і дзвярныя праёмы, г.зн. уцяпліць будынак і стварыць спрыяльныя ўмовы для работы ўнутры памяшкання з першых дзён студзеня.

Сёння — дзень правоў чалавека.

Падлікі вучоных паказваюць, што на асваенне галактычных прастораў такім шляхам магло б спатрэбіцца каля 10 млн. гадоў.

Як адчуваеш сябе, бульба?

На жаль, яшчэ сустракаюцца людзі, якія маюць няправільнае ўяўленне аб магчымасцях грамадзянскай абароны.

Знешні плацёжны баланс Народнай Рэспублікі Конга зведзен у 1981 годзе са станоўчым сальда у суме 12,9 мільярда афрыканскіх франкаў.

Мы чамусьці апошнім часам неяк надта ж сарамяжліва ў сваёй гаворцы пра літаратуру ўжываем слова «ідэал».

У сям'і адзінай.

І не на страшным судзе, як пагражала пасажырка аўтобуса, а на нашым савецкім — сапраўды сумленным і справядлівым.

Зімоўку ў калгасе разглядаюць як магчымасць пераўзысці раней дасягнутыя вынікі.

Ворагі афганскага народа — амерыканскія імперыялісты, пекінскія гегеманісты і мясцовая рэакцыя рыхтуюуць і засылаюць у нашу краіну забойцаў і грабежнікаў.

А які сардэчны чалавек наш Іван Рыгоравіч!

Выпалі выйгрышы: Баян «Тула 202», 10 рублёў, 15 рублёў, самавар, дыван, пакрывала шматколернае, скараварка, 5 рублёў, электрафен «Сюпрыз», коўдра жакардавая, электракафемолка, 5 рублёў, 5 рублёў, 15 рублёў, 5 рублёў, камплект пасцельнай бялізны, электрабрытва «Харкаў».

Неспакойнае сэрца камуніста.

Наперадзе — яшчэ больш цяжкія для радавых амерыканцаў часы.

З'яднала навекі Вялікая Русь.

Летась у гэты час мы надойвалі ад каровы ў сярэднім тры кілаграмы малака ў суткі, а сёлета аж на цэлы кілаграм менш.

З Новым годам, таварышы!

## Калі што якое

У перакладзе з адной паважанай мовы «зкімбы» азначае «чаму б не напісаць пра сяброў». Бо што толку чакаць радасную ці сумную нагоду, да таго ж невядома, хто будзе пісаць першым. Прынцып такі: з кім бы, калі што якое, хацеў апынуцца на выспе. Ці ў турме. Ці ў Венецыі.

Аказалася, з некаторымі па ўсіх гэтых адрасах — «зымбы». У перакладзе — як дома.

## Саша Б.

— Малады чалавек, я бываў шмат дзе і шмат з кім за сталом, але скажу — з такім прафесіяналізмам і годнасцю даўно не сустракаўся.

Мой сябар Аляксандр Б. атрымаў гэты камплімент у сярэдзіне 70-х у Мінскім матэлі, дзе, пасля заканчэння інʼяза, працаваў метрдатэлем у рэстаране. За сталом сядзела група замежнікаў, узнікла нейкая праблема, і Саша яе вырашыў. Звычайная сітуацыя — незвычайны быў чалавек, які даў яму такую ацэнку. Гэта быў перакладчык, як і Саша, — але перакладчыкам ён быў у Сталіна, удзельнічаў у перамовах Рыбентропа з Молатавым, перакладаў савецкаму паслу Дэканозаву на сустрэчах з Гітлерам, шмат дзесяцігоддзяў працаваў у Міністэрстве замежных справаў СССР.

Валянцін Беражкоў, а так звалі дыпламата, бачыў Сашу некалькі хвілінаў — але вось сказаў тое, што сказаў, і падарыў сваю кнігу.

Мы пазнаёміліся ў канцы 70-х у гатэлі «Юность» на Мінскім моры, дзе я, таксама пасля інʼяза, працаваў экскурсаводам, а Саша — адміністратарам. Ён і яго жонка былі самымі незвычайнымі людзьмі, якіх я дагэтуль сустракаў. Размовы з імі дзейнічалі, як наркотык. Мы гаварылі пра старажытных філосафаў, Біблію і Пікаса, пра савецкую ўладу і Дастаеўскага, фільмы Таркоўскага і таямніцы фатаграфіі.

Выключна сціплы і ненавязлівы, ён быў непахісны ў сваіх перакананнях і паводзінах. Выглядаў, як баксёр лёгкай вагі, яшчэ ў школе яго запрасілі гуляць у моладзевы састаў футбольнага клуба «Дынама», але спартовая карʼера не зацікавіла. У войску на яго спачатку, як на ўсіх навабранцаў, былі наехалі, але пасля першага футбольнага матчу ён стаў непахісным аўтарытэтам.

Саша быў класічным дысідэнтам па духу — выбіраў працу, каб як найменей сустракацца з калектыўнымі абавязкамі, сходамі, палітінфармацыямі, грамадскімі нагрузкамі. Ён працаваў 24 гадзіны за стойкай адміністратара, каб трое наступных сутак быць дома. Займаўся фатаграфіяй, і я спрабаваў пісаць тэксты да яго здымкаў, а ён рабіць здымкі да маіх тэкстаў.

Мяне вабіла журналістыка, падабаліся імпрэсіі паэтычнага кшталту, а Саша здымаў. Некаторыя мае тэксты з ягонымі фоткамі, напрыклад, пра школу-інтэрнат для адораных дзяцей імя Ахрэмчыка, перадрукоўвалі нават у Аўстраліі. Але бальшыня нашых паходаў у рэдакцыі сканчалася іначай.

У «Физкультурнику Белоруссии» нам замовілі нататку пра водны спорт. Хадзілі ў Інстытут фізкультуры, я размаўляў з плаўчыхамі, трэнерамі, фізіёлагамі, а Саша здымаў. У выніку тэкст нагадваў «Лаліту» Набокава, а ў газеце з'яўлялася фота з пашыраным подпісам.

У часопісе «Беларусь» нам вярнулі слайды і нарыс пра экзістэнцыйны стан госця сталіцы (назіранні за садомам і гаморай, у якія ператвараўся гатэль «Юность» пад час заезду камсамольскіх актывістаў) з парадай перадаць усё гэта ў міліцыю.

У «Вячэрнім Мінску» прапанавалі напісаць пра перадавіка. Я тады ўжо працаваў на электратэхнічным заводзе і прыняў параду ўсур'ёз. Нарыс пачынаўся так: «Я не ведаю ворагаў майстра трансфарматарнага ўчастка № 2. Спадзяюся, гэта вартыя ворагі». Ну і гэтак далей. Фотаздымкі і тэкст нам са страхам вярнулі, непераканаўча патлумачыўшы, што для газеты гэта занадта добра.

Я мяняў працы, але працягваў ездзіць да Сашы, глядзець новыя здымкі, слухаць, спрачацца. Але сустрэчы рабіліся больш рэдкімі — агульныя знаёмыя з'язджалі ў эміграцыю, мяняліся адрасы і час.

Апошні раз я бачыў Сашу ў самым канцы 80-х. Ён зайшоў у рэдакцыю газеты, ветліва, з прыемнай усмешкай, слухаў мае захопленыя аповеды пра галоснасць, адкрыццё сталінскіх злачынстваў, пра інтэрв'ю «Свабодзе» і, як мне здалося, занадта стрымана спытаўся — нават не спытаўся, а неяк даў зразумець, што аптымізмам маім цешыцца, але не зусім падзяляе.

Саша з жонкай, такой самай інтэлектуальнай самотніцай і фатографам, як і ён, купілі хату ў вёсцы і зусім абмежавалі свае кантакты са светам.

Больш я яго ніколі не бачыў. Дзве рэчы ў яго былі абсалютныя — сціпласць і годнасць.

## Сяргей С.

У «Пастцы» Агаты Крысці, якая ішла на сцэне магілёўскага драмтэатра, Сярожа іграў...

Не памятаю.

Бо пасля спектакля п'янка, на якой мы пазнаёміліся, працякала так бурна, што на наступны дзень я прачнуўся апоўдні ў незнаёмым месцы з даволі няпэўным уяўленнем пра тое, што адбывалася напярэдадні. Памятаю толькі, што чыталі вершы, спрачаліся пра магілёўскага «Гамлета», а я чамусьці абзываў Леаніда Ільіча Брэжнева словамі, якія ніяк не пасавалі да звання «генеральны сакратар». Гэта быў канец 70-х, багема была фрондай, і я, верагодна, не хацеў адстаць.

Потым Сярожа напісаў мне ліст, я адказаў — і наша сяброўства толькі ўмацавалася, калі група акцёраў разам з бліскучым рэжысёрам Юрыем Мірoненкам пераехала ў Мінск у Тэатр юнага гледача. Фантастычная прэм'ера «Бэмбі», якая ўзарвала тэатральны свет, сядзенне ў рэстаранчыку Дома акцёра, знакамітым «Мутным воку» аж да прасвятлення чакры і адкрыцця трэцяга

і наступных вокаў, начныя паходы па сябрах — аднойчы раніцай у сваёй аднапакаёвай кватэры я прачнуўся і пабачыў, што на падлозе, крэслах, пад сталом спіць ледзь не палова трупы...

Потым Міроненку забілі, Сярожа з'ехаў у Адэсу, адтуль у Маскву і пачаў працаваць разам з феерычным рэжысёрам Раманам Вікцюком, ставіць свае спектаклі на розных сцэнах. Я прыязджаў на яго прэм'еры, знаёміўся з новым колам яго акцёраў, драматургаў, мастакоў, паэтаў, мы ездзілі да яго знаёмых у госці, і яны рабіліся маімі сябрамі.

Аднойчы, на пачатку знаёмства, я паказаў яму п'есу, якую пісаў пра свае прыгоды ў інстытуце, што ледзь не скончыліся выключэннем. Пачатак яму спадабаўся, я натхнёна пачаў расказваць, як яе можна паставіць, вось такі ход...

— Ход?!! — Сярожу аж перакасіла ад прымітыўнага, чужога ягонай эстэтыцы, вульгарнага панятку — і як часта бывае, менавіта гэтая эмацыйная дробязь раптам прасвятліла мазгі і дапамагла ўсвядоміць каштоўнасць зусім іншага светаўспрыняцця.

У разгар галоснасці я прыехаў у Маскву, каб узяць інтэрв'ю ў былога проста сакратара ЦК КПСС Міхаіла Зімяніна. Спыніўся ў Сярожы, ён меў тады пакой у камуналцы на Кутузаўскім праспекце, насупраць дома, дзе была кватэра Брэжнева. Адтуль мяне і забрала спецыяльная «Волга», якая вазіла гасцей на дачы крамлёўскай наменклатуры. Пасля інтэрв'ю, у якім гаспадар расказваў пра свае размовы з камуністам Берыя і крытыкаваў беспартыйнага спевака Высоцкага, яго жонка ўручыла мне невялікі падарунак. У пакоі ў Сярожы разгарнулі — усярэдзіне было тры кавалкі туалетнага мыла. Якраз тады буяў мыльны крызіс, гэта быў страшэнны дэфіцыт.

— Усё, — рэзюмаваў мой сябра. — Раз ужо мыла дораць — усё, капец.

І праўда. Неўзабаве ляснула партыя, потым СССР, нас закруціла так, што я апынуўся ў Мюнхене, потым у Празе, а ён стаў галоўным рэжысёрам недзе пад Масквой, потым у Новасібірску, потым зноў вярнуўся ў Маскву...

Мы не бачыліся гадоў дзесяць. Я яго вельмі любіў і люблю.

Хоць адзін кавалак мыла ён у мяне тады забраў.

## Аляксандр У.

Аднойчы раніцай, пасля неспакойнага сну, я прачнуўся і пабачыў, што ператварыўся з чалавека ў журналіста. Метамарфоза здзейснілася дзякуючы Аляксандру У.

Пра рэпартажы я марыў яшчэ ў школе, але гэтая прафесія падавалася такой завоблачнай, што паступаць на журфак не адважыўся. Праўда, пад час вучобы ў ін'язе схадзіў ва ўніверсітэт, спісаў назвы падручнікаў, паводле якіх вучылі будучых майстроў пяра і мікрафона, узяў у бібліятэцы і тайна заканспектаваў.

Трохі друкаваўся, пачаўшы ў знакамітым літаратурным клубе «Пятница» у «Знамени юности», рабіў перадачы для радыё, мяняў працы, і аднойчы знаёмая журналістка сказала, што ў «Звяздзе» яе знаёмыя шукаюць карэспандэнта.

Сустрэліся. Саша паслухаў, паглядзеў газетныя выразкі і даў першае заданне — напісаць пра чалавека ў экстрэмальнай сітуацыі. Я паехаў дадому ў Брэст, знайшоў сітуацыю і чалавека, напісаў тэкст, які Саша скараціў удвая ці ўтрая і надрукаваў. Пасля яшчэ пары публікацыяў вырашыў, што можна паказаць мяне галоўнаму рэдактару.

Я надзеў польскі вельветавы касцюм-тройку канарэечнага колеру, югаслаўскую шоўкавую кашулю з балгарскім вязаным

гальштукам, гэдээраўскія шкарпэткі з лайкрай, бліскучыя жоўтыя чаравікі, зробленыя ў Чэхаславакіі, і з’явіўся ў Дом друку.

Саша адразу зарыентаваўся і сказаў, што рэдактар прыняць у той дзень не зможа. І што наступны раз лепш, відаць, прыйсці не ў касцюме.

Як яму ўдалося пераканаць начальства ўзяць у штат чалавека без спецыяльнай адукацыі, без мінскай прапіскі, без партбілета, без вопыту працы ў друку, без блату, які да таго ж апранаецца як фарцоўшчык — я дагэтуль не разумею. Можа таму, што для Аркадзя Апанасавіча Тоўсціка Саша, на той час самы малады і самы таленавіты супрацоўнік, ужо тады быў аўтарытэтам — што шмат гаворыць і пра рэдактара.

Без касцюма я прапрацаваў у газеце восем гадоў, і дагэтуль, калі рэдагую тэксты, успамінаю Сашавы ўрокі скарачэнняў, расстаноўкі абзацаў, выбару загалоўкаў, таямніцы вёрсткі. А таксама — яго ўнікальны дар вынаходзіць рубрыкі і думаць цыкламі, за ідэяй бачыць серыю ці нават кнігу. Нічога больш істотнага ў гэтай справе з таго часу я не ўведаў.

Ужо ў 1991-м, калі я працаваў у выдавецтве «Беларусь», мы дамовіліся, што ён зробіць кнігу інтэрв’ю «Іншадумцы» — з тымі, хто тады ў Беларусі спрыяў пераменам. Кніга выйшла з прадмовай Васіля Быкава, выдавецтва вылучыла яе на Дзяржаўную прэмію, і Саша стаў лаўрэатам.

А адкрывала цыкл самае першае інтэрв’ю, якое Саша зрабіў са мной — у 80-я я ўдзельнічаў у розных нефармальных аб’яднаннях і акцыях, і мая галава прыцягнула дастаткова громаў і маланак, каб лічыць, што яна «думае іначай».

Але, магчыма, зашмат іначай: галоўны рэдактар выдавецтва палічыў, што сярод сур’ёзных загалоўкаў тыпу «Перамога дэмакратыі непазбежная, як смерць» не выпадае адкрываць кнігу гутаркай, якая называлася «І абавязкова — прыгожыя жанчыны!..» І дыктатарскай рукой, нягледзячы на супраціў аўтара і

пярэчанні прынцыповых рэдактараў, бязлітасна выкінуў шчыраванні з гатовага макета.

«Абідна, панімаеш», як казаў адзін герой папулярнага фільма, тым больш, што галоўным рэдактарам быў я сам.

Але без касцюма сапраўды лепш. І не толькі прачынацца раніцай.

## Сяргей Н.

Калі на Беларусь нападуць рускія, яны, як некалі немцы крычалі «Іван, здавайся!», будуць крычаць «Сяргей, здавайся!».

На іх месцы, як кажа адзін мой знаёмы святар, я не надта б на гэта разлічваў.

(Гэтак знаёмыя журналісткі прыехалі ў Прагу, і іх пасялілі разам у шыкоўных апартаментах са шклянымі сценамі, але без фіранак. Яны занепакоіліся — ой, мы будзем пераапранацца, а ўсе будуць глядзець. Святар іх супакоіў: «На вашым месцы я б не надта на гэта разлічваў»).

Сяргеяў, якія не здаюцца, на момант, калі я пішу гэтыя радкі, у рэдакцыі працуе чацвёра: Сяргей А., Сяргей Д., Сяргей Ш. І, канечне, Сяргей Н.

Дэпутат незалежнасці, апошняга Вярхоўнага Савета БССР і першага парламента Рэспублікі Беларусь, каардынатар легендарнай апазіцыі БНФ, чалавек, які даў выспятка (літаральна) расійскаму палітычнаму клоўну Жырыноўскаму, адзін з кіраўнікоў Рады БНР, бліскучы журналіст...

Мы пазнаёміліся ў канцы 80-х, я паспрабаваў узяць яго на працу ў газету, але яго бацька, тады ўплывовы сакратар абкама, адмовіўся закінуць за яго слова начальству і дапамагчы з мінскай прапіскай, і нічога з маіх намаганняў не выйшла.

Сяргей неяк уладкаваўся ў «Вожык», тут абвясцілі выбары — і яго вылучылі кандыдатам у дэпутаты ў Віцебску, дзе добра ведалі пра яго паспяховае змаганне супраць будаўніцтва АЭС. У Мінску таксама праходзілі сходы, і ў Доме друку супрацоўнікі тузіна рэдакцыяў вылучылі кандыдатам мяне. Сяргей старшынстваваў, але хоць ён і кажа цяпер, што ўсе пратаколы афармілі правільна, таварышы з райкама і райвыканкама, а потым пракуратуры патлумачылі акруговай камісіі, што гэта не так. У выніку ён стаў выступаць і галасаваць у Вярхоўным Савеце, а ў мяне ўтварылася шмат вольнага часу, і я стаў здымаць пра яго кіно.

І тут я проста надрукую фрагмент са сцэнарнай заяўкі на фільм «Дэпутаты», напісанай два дзесяцігоддзі таму, у перадапошні год Савецкага Саюза:

«...Улада разбэшчвае. Новая ўлада разбэшчвае па-новаму? Упершыню за многія дзесяцігоддзі ненаменклатурнае пакаленне ў палітыцы: Віктар Ганчар, Сяргей Навумчык, Іван Герасюк, Валеры Курдзюкоў...

...Пакуль ніхто не ведае, як складуцца іх лёсы заўтра. Але яны ўжо ёсць, адбыліся, іх не выкрасліць з гісторыі перабудовы. Пачаўшы амаль аднолькава, з апазіцыі, крытычнага, часам яраснага адмаўлення сістэмы, павёўшы сваім прыкладам іншых, яны непазбежна працягнуць рух па розных траекторыях, аддаляючыся адзін ад аднаго, далёка адыходзячы ад заяўленых шляхоў і мэтаў, і нават, магчыма, у перспектыве — здрадзіўшы ім і сабе.

...Для Сяргея палітыка — адзіна магчымы шанец стаць свабодным у свабоднай краіне. У сярэднявечным ідэалагічным канцлагеры, якім адчуваецца яму навакольны свет, сказаць слова праўды публічна — ужо бунт, ужо паўстанне, ужо палітыка. Яго парламенцкую дзейнасць лепш за ўсё характарызуюць словы Васіля Быкава: «Сяргей з тых, для каго думка начальства нічога

ў параўнанні з інтарэсамі народа, якія ён адстойвае, нярэдка ідучы на злом галавы, напралом...»

...Па абледзянелым у ілжы снезе крутых палітычных вяршыняў і бяздонных цяснін ён нясецца без гарналыжных галсаў, не скідваючы, а безразважна нарошчваючы хуткасць і сілу найкарацейшага руху да мэты. Яго шчырасць апякае, як вадкі азот, ён можа не мець рацыі, але яго маналогі, пытанні, рэплікі, эмацыйныя выбухі ля мікрафона — не гульня, не імітацыя, а само жыццё, якое згарае, і іншага — няма.

...Кальцо адзінададзенага жыцця свайго кідаюць яны адважна ў грамападобны кіпень царскай гарэлкі — палітыкі, і не загіне толькі золата».

Мэту золатаздабычы тлумачыў апошні сказ сцэнарнай заяўкі: «Наша задача — заўважыць і захаваць яго, прыдасца на будучае пахмелле».

Не ўпэўнены, што прадыктавала такую прадбачлівасць — глыбокае вывучэнне трох крыніцаў і трох састаўных частак марксізму ці непасрэдны досвед той раніцы, калі трэба было здаваць заяўку.

У кінастужку, якую мы з рэжысёрам Юрам Гарулёвым пачалі здымаць летам 1991-га, патрапіў і не прадугледжаны сцэнарам путч, і супраціў яму, які ўзначаліла парламенцкая апазіцыя, і ўздым «Пагоні» і бел-чырвона-белага сцяга на Дом урада.

У выніку фільм выйшаў пра пакаленне беларускіх палітыкаў, якое аказалася не толькі новым, але і адзіным.

А ад пахмелля лепш за ўсё дапамагаюць аповеды Сяргея пра 1991 і іншыя гады. Царская гарэлка.

## Сяргей Д.

Усе Сяргеі, якіх я ведаю, непадобныя адзін да аднаго, але некаторыя непадобныя больш за іншых.

Усё змяшалася ў разбоўтанай імперыі зла, і мне нечакана прапанавалі працу адразу ў трох цэнтральных выданнях: у часопісе «Огонёк», «Комсомольской правде» і «Известиях», уласным карэспандэнтам па Беларусі. Пасада — лепш не бывае. Прачнуўся, тапкі надзеў — і на працы, як казаў адзін калега. Сваё начальства далёка, мясцовае баіцца, рабі што хочаш — казка.

І тут Сяргей Д. пачынае выдаваць газету «Свабода» і просіць што-небудзь напісаць у першы нумар. Вясна 1990-га, у Беларусі Вандэя, баль цемрашальства, сталінскае крыло кампартыі і КГБ сцягваюць сілы для будучага путчу і складаюць спісы інтэрніраваных. А Сяргей у гэты момант запускае газету з назвай «Свабода» і шукае аўтараў.

А ад мяне чакаюць артыкула ў маскоўскай рэдакцыі. Але прапанова Сяргея падаецца больш цікавай, я прапускаю ўсе тэрміны, не адказваю на званкі з Масквы і пішу нататку ў жанры дыялога з самім сабой, якую надрукуе «Свабода».

Загаловак быў з сэксапаталогіі — «Прыапізм», падзагаловак крыху швейны: «Абрэжам гузікі на галіфэ».

Скарыстаюся момантам і надрукую цяпер другі раз.

«Сон: падыходзіць Берыя і пытаецца: што тут у вас адбываецца? Лаўрэнцій Паўлавіч, мы толькі цяпер даведаліся, што пяцьдзясят гадоў назад адбывалася. А што цяпер — гадоў праз пяцьдзясят уведаем...

— Са Сталіна сталі смяяцца. Чалавецтва са смехам развітваецца са сваім мінулым.

— Маркс спрошчвае. Мы рэдка развітваемся з мінулым са смехам. Не часцей, чым з болем, крыўдай, агідай. Самая частая

эмоцыя — адсутнасць эмоцый. Абыякавасць — такі ж самы рухаючы фактар гісторыі, як інтарэс і сэкс.

— Але ці здольнае чалавецтва ўвогуле развітацца са сваім мінулым?

— Хіба манкурты — чалавекі? Мы не развіталіся яшчэ з племянным ладам. У пік развітога сацыялізму вучоны-этнограф па волі савецкага правасуддзя трапіў у лагер і вёў там назіранні. Сістэма ўзаемаадносінаў, іерархія каштоўнасцяў, табу, забабоны ўчарашніх будаўнікоў камунізму адпавядалі першабытнаабшчынным.

— Мінулае пры сацыялізме не мінае?

— Яно не мінае ніколі. Гэтую ісціну кожны зведвае на ўласнай скуры адразу пасля з'яўлення на свет, калі сталёвая іголка прапорвае эпітэлій, і нам упырскваюць бацылы воспы, палачкі Коха і што там яшчэ. Так праяўляецца памяць чалавецтва пра пандэміі, якія спусташалі царствы і каралеўствы.

— Імунітэт альбо смерць — вызначае доза і якасць вакцыны. Якая патрабуецца сёння, каб засцерагчыся ад захворвання на сталінізм?

— Абстрактнае пытанне. Прышчэпкі робяць здаровым, а наша кроў перанасычаная прынцыпамі, якімі нельга паступіцца, мэтамі, якія апраўдваюць любыя сродкі, імунадэфіцытам дабрыні, культуры, маральнасці...

— Чакаць абнаўлення крыві? Але ў 1960-я ўжо чакалі: прыйдзе новае пакаленне, не рабы, і тады... Прыйшлі 70-я — і сталінізм пачаў адраджацца.

— У 1970-я якраз не прыйшло да ўлады новае пакаленне. Мы ператварыліся ў смярдзючы пролежань пад азадкамі верных ленінцаў першароднага сталінскага гарту: кар'еры Брэжнева і Суслава стартавалі якраз у 1937 годзе. А вядома, што, чаму і як усплывала наверх у 1937-м.

— Зараз тых няма, а маладых сталінцаў вунь колькі плавае наверсе.

— Гэта нармальна. У арганізме ўвесь час жывуць вірусы ўсякай халеры, і Сталін з намі, бо ён у нас. Мы робім іншым тое, што не хацелі, каб рабілі нам, і па замкнёным коле зло вяртаецца ўзрослым і магутным. Усе нашыя ворагі — смяротныя, барацьба непрымірымая, а дзеля перамогі за цаной не пастаім. Каб спыніць разгон зла і разамкнуць кола, ёсць толькі адзін сродак — «палюбіць ворагаў сваіх».

— Гэта маральны падыход — і таму безнадзейны. Колькі існуе чалавецтва, чалавек лепшы не становіцца.

— А чалавецтва?

— Праблема сталінізму — перш за ўсё палітычная, і вырашаць яе трэба палітычнымі сродкамі.

— Аддзяляць палітыку ад маральнасці — гэта і ёсць сталінізм.

— Пакуль мы спрачаемся, яны...

— Зноў: мы — яны, вораг — сябар!.. Мы — гэта яны. Гэта дыктуе спосабы любві. Яна павінна быць цывілізаваная хаця б настолькі, наколькі гэта даступна партнёру. Таму для пачатку ёсць прапанова расшпіліць ці, каб было ім больш зразумела, абрэзаць гузікі на сталінскім галіфэ, каб семя яго змагло аб'яднацца ў партыю і афіцыйна зарэгістраваць яе, пладзіць свае газеты, часопісы, кнігі, праводзіць мітынгі, дэманстрацыі, паказальныя суды...

— Усё гэта яны маюць і робяць цяпер, толькі ў зашпіленых штанах пад выглядам сакратароў абкамаў, ветэранаў, афганцаў, інтэррухаў і ўсякіх іншых жансаветаў.

— Дапаможам ім агаліцца, і такі стрыптыз не пахісне грамадскую мараль, бо ўсе іх органы зататуіраваныя партрэтамі генералісімуса, а гэты сэкс наўрад ужо зацікавіць многіх. Свабоднае адзенне — самая антысталінская форма. У дэмакратычных гра-

мадствах гэта даўно зразумелі. У ФРГ дзейнічаюць неанацысты, у ЗША — камуністы.

— І што?

— Прыапізм. Так у медыцынскай энцыклапедыі называецца працяглая паталагічная эрэкцыя пры адсутнасці сэксуальнай цягі, палавы акт пры гэтым адбываецца без аргазму і эякуляцыі. Апісаны выпадкі прыапізму псіхічнага паходжання адначасова ў групы асоб.

— Дзіўна, чаму гэты тэрмін дагэтуль не ўключаны ў гістарычныя энцыклапедыі. Без яго ўвогуле немагчыма растлумачыць шэраг айчынных паняццяў, з'яваў і асобаў.

— Дапаможам прыапістам!»

У выніку пасільнага аказання гэтай дапамогі я патрапіў не ў Маскву, а на «Свабоду», праўда, у Мюнхене.

Потым Сяргей рэдагаваў некалькіх маіх кніжак, але адносіны аўтара і рэдактара — рэч інтымная, і я не збіраюся тут выцягваць на свет залітыя чарніламі, абгарэлыя як пасля ўдару маланкі, перасыпаныя радыеактыўным попелам, раздзёртыя на шмаццё прасціны, на якіх нараджаецца кніга. Скажу толькі адно: калі б ён рэдагаваў гэты тэкст, дык нават я б зразумеў, дзе ў сказе пра проста непадобных Сяргеяў і Сяргеяў, непадобных больш за іншых, сканчаецца Талстой і пачынаецца Оруэл.

Яго рэдактарскі ўплыў часам сягае далёка за межы тэксту. І гэта не пустая гіпербала. Мянялі пашпарты, і па-англійску я сваё імя мог запісаць «Alexander», але ўспомніў Сяргея і вырашыў даць максімальна беларускі варыянт, які б ухваліў рэдактар: «Aliaksandar». Так у мяне цяпер ва ўсіх дакументах і запісана, і гэтая версія ставіць у тупік не толькі Google.

Я працаваў дырэктарам «Радыё Свабодны Афганістан», прылятаю ў Кабул, праходжу павольны, як вярблюджы караван, кантроль, памежнік глядзіць на мяне, потым у пашпарт, потым

зноў на мяне і ў пашпарт, кліча начальніка, той таксама глядзіць і раптам расплываецца ва ўсмешцы:

— Алі! Праходзьце, Алі-джан!

А ў аэрапорце ў Вашынгтоне тое самае, толькі з дакладнасцю наадварот:

— Алі?.. Прайдзіце з намі...

І я пачынаю расказваць пра Сяргеяў, якія ўсе непадобныя адзін да аднаго, але некаторыя, далібог, непадобныя больш за іншых.

## Валянцін Ж.

Прыйшоў у госці Валік і загаварыў па-руску. Я здзівіўся, а ён кажа:

— Баюся забыцца.

Праблемы з памяццю ў маладых людзей у Мінску ў канцы 80-х калі былі, дык цалкам дыяметральныя.

За некалькі гадоў сумеснай газетнай працы ў адным кабінеце я не чуў, каб з наведнікамі ці па тэлефоне ён размаўляў па-руску. Ён не быў палітычным ці прафесійным беларусам — не ўваходзіў у суполкі, партыі, рухі, не пісаў вершы ці раманы, сябраваў пераважна з суседзямі ў інтэрнаце для будаўнікоў, куды яго дзеля сталічнай прапіскі ўладкавала рэдакцыя.

У адрозненне ад мяне, ён быў сапраўдны журналіст: з чырвоным дыпломам скончыў універсітэт, і яго адразу ўзялі на працу ў Дом друку.

Я нядаўна прачытаў кніжку аднаго псіхолага, дзе ён расказвае пра надзвычай цяжкі пералёт: самалёт кідала, трэсла, пасажыры маліліся, плакалі, ванітавалі, толькі яго сусед, зусім малады хлопец, сядзеў абсалютна спакойны і з цікавасцю глядзеў па баках. Калі селі, псіхолаг з павагай кажа — ну і палёцік,

праўда? А той крыху сарамліва пытаецца: скажыце, а гэта ўвесь час так у самалётах? Я першы раз ляцеў, дык не ведаю...

Здавалася, што Валік Ж. быў адзіны чалавек у краіне, які не ведаў, што бывае іначай. Друкавацца ён пачаў яшчэ ў школе, у якую са сваёй гарадзенскай вёскі штодня выходжваў шэсць кіламетраў у адзін бок і потым назад. У школе матэматыку, біялогію, астраномію выкладалі так, як усе гаварылі навокал. Яго друкавалі ў раённай газеце, у абласной, рэспубліканскай, а ўсесаюзная «Пионерская правда» ўзнагародзіла яго пуцёўкай у Артэк. Аднак у Крым паехаў сын сакратара райкама партыі.

Неяк у школе яго дачцэ далі заданне напісаць сачыненне на тэму «Чаму я хачу ўступіць у піянеры». Яна напісала, чаму ніколі не ўступіць:

— бо ведае пра Катынь і прадзеда, які загінуў у форме польскага войска,

— бо бабуля расказвала, як уступалі ў калгас,

— бо замест бацькі ў Артэк паехаў піянер — сын сакратара райкама.

Самае цікавае, што сачыненне атрымала дзясятку, найвышэйшую адзнаку. Праўда — яна і ў піянераў праўда.

У 90-я Валік стаў адным з самых паважаных беларускіх журналістаў, затым перайшоў з дзяржаўнай прэсы ў прыватную, працаваў намеснікам рэдактара ўплывовага дзелавога штотыднёвіка, які выходзіў па-руску. Мы працягвалі сустракацца, калі я прыязджаў у Мінск, ён запрасіў мяне ў хросныя да сваёй першай дачкі, якая потым не ўступіць у піянеры, а я праспаў — яны грукалі-грукалі ў дзверы, і паехалі ў касцёл без мяне. Я не чуў, і дагэтуль мне сорамна, і не толькі за гэта.

На пачатку новага стагоддзя я прапанаваў яму зноў працаваць разам — узначаліць карпункт радыё. Валік падзякваў і адмовіўся. Я званіў, угаворваў, мяне вельмі прыцягваў яго прафесіяналізм, надзейнасць, уменне працаваць з людзьмі. Умовы

былі добрыя, мова беларуская, нашы асабістыя адносіны — лепш не бывае. Але ён казаў, што не можа кінуць газету, бо абяцаў там працаваць, і хоць не супраць, але мае свае абавязацельствы, шкадуе, але не можа. Я нічога не разумеў.

Мяне мучыла гэтая загадка, я перабіраў усе варыянты, нічога не знаходзіў, зноў званіў, ён зноў адмаўляўся — пакуль аднойчы ўначы я не прачнуўся ад ашаламляльнай здагадкі:

Валік — агент КДБ. Яго нейкім чынам, прымусам ці як, завербавалі, і цяпер ён свядома адмаўляецца ад прапановы працаваць разам, каб не даносіць на мяне.

І я заплакаў. Ад нечаканасці, ад роспачы, ад бяссілля, ад злосці, ад нянавісці да тых, хто вырабіў такое над маім сябрам. (Вось і цяпер — пішу, і слёзы выступілі. Сентыментальныя нататкі.)

Поўная ступень майго ідыятызму высветлілася, на шчасце, даволі хутка: рэдакцыя той газеты дапамагла яму купіць кватэру, і за гэта ён сапраўды мусіў адпрацаваць пэўную колькасць гадоў.

Ён проста казаў праўду, як тады з рускай мовай.

Проста праўду.

Проста.

## Генадзь М.

Пасля віскі галава не баліць.

Кожны раз гэтае філасофскае назіранне Генадзь М. робіць з інтанацыяй: неверагодна, але магчыма і, значыць, неабходна. Гэта мінімум на адзін узровень вышэй за Гегеля, які лічыў рэчаіснасцю проста адзінства існасці і існавання, якое стала непасрэдным.

Непасрэдна мы пазнаёміліся ў выдавецтве «Беларусь», куды дырэктар, Валеры Дубоўскі, запрасіў мяне на пасаду галоўнага рэдактара (пасля звальнення з газеты я быў беспрацоўным). Дубоўскі быў смелы і энергічны менеджар, любіў рызыкаваць, заключаў неверагодныя кантракты з нечаканымі партнёрамі, ваяваў з начальствам, рабіў рэформы, спрыяў моладзі, і Гена быў галоўным мастаком.

Але паколькі гучна гаварыць ён не ўмее, дык я даволі доўга думаў, што галоўныя ў мастацкім аддзеле зусім іншыя людзі. З Генавай існасцю разабраўся толькі пад час путчу ў жніўні 1991-га, калі ён дапамог зрабіць спачатку ўлёткі, а потым адразу паставіў свой подпіс пад патрабаваннем прыбраць партарганізацыю з выдавецтва.

Пазней я ўведаў, што Гена быў ад пачатку ў легендарнай «Майстроўні», усё жыццё гаворыць па-беларуску і займаецца самым бесперспектыўным відам мастацтва — каліграфіяй. Што гэты від самы бесперпектыўны, я думаў да таго часу, пакуль яго працамі не сталі адкрываць міжнародныя выставы і здымаць на тэлебачанні.

Ён аформіў сотні кніг, альбомаў, атрымаў кучу ўзнагародаў, і віртуоз беларускай мовы Рыгор Барадулін прысвяціў яму верш, які назваў на ўсякі выпадак па-лацінску: «Mater atrium necessitas».

*Маці ўсіх мастацтваў — неабходнасць.*
*Неабходна рупіцца,*
*Каб жыць.*
*Неабходнасць змусіць верагоднасць*
*Да задумы плён прываражыць.*

Atrium насамрэч не мастацтва, а вынаходства, але, як трапна адзначае народны паэт, змусіць верагоднасць, калі неабходна, Гена сапраўды можа.

Шматразовы лаўрэат і сябра розных сумнеўных арганізацый не толькі паэт, але яшчэ і празаік Уладзімер Арлоў зайшоў яшчэ далей: на адкрыцці персанальнай выставы каліграфіі заявіў, што толькі Генадзь ведае, якая літара беларускага алфавіта — самая эратычная. Дык Гена інтэрв'ю дагэтуль дае.

Ёсць яшчэ адна галіна, дзе ён мае аўтарытэт ад Улан-Батара да некаторых запаветных мясцінаў лідскага Панямоння ўключна. І гэта не каліграфія.

Паплылі мы з Генам неяк па Нёмане на лодцы. Як людзі разумовай працы, плылі ўніз па цячэнні, дзе кіламетраў праз дзесяць, на спецыяльна абсталяванай для культурнага адпачынку пляцоўцы пад дубам, на беразе нас мусіў чакаць гаспадар лодкі з ужо гатовай юшкай.

Гаспадара звалі Юрам, і напярэдадні ўвечары, калі мы адзначалі пачатак адпачынку ў яго сядзібе пляшкай віскі, ён расказаў пра экзістэнцыйны выпадак са свайго жыцця. Паляцеў зімой на адпачынак у Егіпет, у Хургаду, і тур быў — «усё ўключана». Юра вярнуўся як прыстукнуты:

— Не магу зразумець іх бізнес. Я там на адным віскі ўсю паездку адбіў. У чым сэнс?..

Гена спытаўся, ці закусваў ён. Дык усё ж уключана, сказаў Юра.

— Віскі не закусваюць, — сказаў Гена.

Ад такога ўдару па здаровым сэнсе Юра крыху ачомаўся толькі калі ўведаў, што Гена — мастак і ў Егіпце ніколі не быў. Але ачомаўся не надоўга — бо высветлілася, што Гена быў у Манголіі. Там выпіў мангольскага віскі ў бары ў гатэлі і пайшоў у нумар, а потым узгадаў, што шапку забыўся. Вяртаецца — усё разгромлена, мэбля паламаная, люстэрка разбітае, і галаўнога ўбору няма. Не ўпэўнены, праўда, ці ў такой паслядоўнасці ўсё адбывалася. Але змусіў верагоднасць — і неабходнае знайшлося.

У выніку Юра Гену моцна запаважаў і далей размовы пра верагоднае вёў выключна з ім. А са мной гаварыў толькі пры неабходнасці, напрыклад, калі не было рэшты са ста тысяч: вазьмі яйкамі. Навошта мне яек на 95 тысяч — але аказалася, што столькі каштуе адно яйка, праўда, страўсінае.

Дык каб скончыць пра юшку, якая пачалася з прабачэнняў: меліся сядзець пад дубам, а давялося пад сасной. Якраз перад намі тапельца вылавілі, прыехала міліцыя, цела паклалі на стол для культурнага адпачынку.

— Я падумаў — там няёмка будзе, ты ж, Генадзь, мастак, — казаў Юра. І тлумачыў: — Ён яшчэ зімой патапіўся, ніякага віду.

Гена не пярэчыў. Тым больш, што шапку не вылавілі.

А яйка гэтае потым у Мінску чатыры чалавекі электрадрэллю свідравалі, і яечню тыдзень даесці не маглі.

Тут ужо нават Гена не здолеў верагоднасць змусіць. Не закуска гэта для віскі. Існасць не тая.

## Уладзя А.

— Слухай, Алесь, — кажа Уладзя.

І далей трэба не слухаць, а запісваць, бо заставацца адзіным слухачом было б дзеяннем антылітаратурным, хоць і прадугледжаным некаторымі артыкуламі крымінальнага кодэкса.

Словамі, канечне, усё не перадаць, як справядліва гаворыцца ў адной рэкламе інтымных паслугаў.

Вырашылі мы неяк з Уладзем А. і Генадзем М. праінспектаваць беларускія этнічныя землі, а канкрэтна Смаленск. Гаварылі ўсюды па-беларуску, але, як высветлілася, там справа не ў гэтым.

На ўваходзе ў Свята-Успенскі сабор са знакамітым абразам Адзігітрыя стаіць чорная «Волга» з не менш знакамітым нумарам «00-07» — аказалася, належыць мясцоваму епіскапу.

— І якое ў яго званне, генерал? — цікавіцца Уладзя ў служкі, і мы хутка апынаемся на ганку.

Пайшлі ў мастацкі музей — аказваецца, гэта не музей, а зноў культавы будынак, проста шыльду не паспелі зняць. Ідзе рамонт, за якім даглядае маладая манашка з мабільным тэлефонам у руках. Расказвае пра цяжкасці паслушэнства ў недабудаваным манастыры, які суседнічае з цагляным шматпавярховым домам з пустымі аканіцамі.

— Называецца той дом «Смерць камунізму», — тлумачыць яна. — За Саветамі хацелі пабудаваць, каб быў вышэйшы за царкву, але ніяк не маглі скончыць. Бог не даў. Збіраюцца там алкашы ды наркаманы. Наколюцца, а потым падаюць з даху. Раніцай выйдзеш на ганак — труп ляжыць. Нядобрапрыстойна.

Тут Уладзя кажа: можна пытанне задаць? І задае:

— А можна вас пацалаваць?

Адказ мы чуем яшчэ на ганку.

Мастацкая галерэя на цэнтральнай смаленскай вуліцы ўжо закрываецца, але ўважліва агледзеўшы трох візіцёраў, гаспадыня, дама ў скураных штанах, срэбных бранзалетках і бурштынавых пацерках адчыняе дзверы. Праз паўгадзіны мы ўжо адкаркоўваем віно ў яе кабінеце, потым з’яўляюцца яшчэ дзве сяброўкі, дама чытае вершы, сяброўкі вось-вось заспяваюць, і надыходзіць час выбару — альбо ўцякаць, альбо далей праводзіць этнічную інспекцыю. Выбіраем першае, але аказваецца, што дзверы ўжо замкнёныя.

І тут на Уладзю находзіць натхненне, і ён чытае свой верш пра Заратустру і дзеўчыну, якую ціскаў за наваполацкай школай № 2, і якая потым ці то ўтапілася, ці то замуж выйшла. Верш сканчаецца наступнай высновай:

*Можа вось гэта: адны паміраюць зарана,*
*Ну, а другія запозна... адкрыецца рана*
*Ў памяці соннай знячэўку: філосаф засраны!*
*Як яе клікалі? Аня, Ганулечка, Ганна!*

— Дзеля рыфмы чалавека не пашкадуе, — тлумачыць полацкае ніцшэанства Гена. І мы ўжо на ганку.

У цягніку па дарозе назад, у вагоне-рэстаране, пасля таго, як спустошаны ўвесь чыгуначны запас чылійскага, аўстралійскага і паўднёваафрыканскага віна (гэта толькі гучыць рамантычна, было ў іх усяго тры бутэлькі), адкрываюцца дзверы і заходзяць беларускія спецназаўцы ці амапаўцы — чатыры байцы ў чорнай форме, кожны пад сто кіло, і сядаюць за суседні столік. Гэта іх аўтастоп — ад Оршы да Мінска.

Уладзя паведамляе ім навіну:

— Жыве Беларусь!

— Жыве, — пасля паўзы пацвярджаюць двое з квартэта.

І мы зноў на ганку. Чырвонае ўсё адно скончылася.

## Вячаслаў Р.

Слава Р. — чалавек-шампанскае. Хоць, калі ўзяць у яго аналіз крыві ў любой еўрапейскай сталіцы, дык гэты будзе аналіз піва.

У Празе яго ведаюць усе бармены на Вінаградах, дыск-жакеі на дыскатэках, гардэробшчыцы ў саўнах. Адзінае, што ён, бліскучы тэатральны крытык, кандыдат мастацтвазнаўца, былы сябра рэпертуарнай калегіі Мінкульта і супрацоўнік Акадэміі навук, ніколі не робіць у Празе — не ходзіць у тэатр.

Верагодна, таму, што спекталі, якія граюцца ў барах начной Прагі, даюць магчымасць праявіцца яго першай прафесіі — акцёра, якім ён пачынаў у Тэатры юнага гледача.

Не ведаю, ці граў ён катоў у ботах альбо без, але дар трагіка, безумоўна, прысутнічае ў яго драматычных сутыкненнях з былымі савецкімі грамадзянамі. І горш за ўсіх дастаецца пэўнаму тыпу, які ён называе «рюскі».

Слава выбухае, як батарэя шампанскага, эмоцыі б'юць у столь, аргументы рыкашэцяць аб сцены, келіхі зносіць са сталоў, пена валіць праз форткі на вуліцы, і ўсе прыгінаюцца, каб не зачапіла асколкамі.

Аднойчы ў яго зазваніў мабільны тэлефон — кватэру затапіла, спрацавала сігналізацыя, і мінская міліцыя, якая прыехала па трывозе, зрабіла кантрольны званок перад тым, як ламаць дзверы. Пэўная нязручнасць палягала ў тым, што Слава ў гэты момант стаяў на беразе Адрыятычнага мора ў плаўках і збіраўся даць нырца. (Так расказвае Гена, які быў побач, і хоць я ніколі не бачыў, каб у моры плавалі з тэлефонам, у гэтым выпадку веру.)

Кошт роўмінга ў Італіі, пакуль ён вёў перамовы з аховай, перавысіў кошт новых дзвярэй. Але асноўны ўдар на сябе прыняў у той дзень бюджэт невялікага гатэля, дзе віно да вячэры падавалася па прынцыпе «ўсё ўключана». Больш туды нікога з Беларусі не селяць.

Ён быў у складзе першай рады Фонду Сораса ў Беларусі, у ліку першага набору выкладчыкаў коласаўскага ліцэя ў Мінску, першым з аўтараў «Свабоды» выдаў тры кнігі сваіх перадачаў, потым стаў здымаць кіно, пасля чаго яго занесла аж у Галівуд. Што ён зробіць наступнае, не ведаю — можа, прыедзе ў Прагу і сходзіць на спектакль.

Слава, тут у тэатральных буфетах ёсць разліўное піва. Праздрой.

Двакрат!

## Ян Б. і Стэфан Б.

«Прысвячаецца чалавеку, які навучыў мяне, як жыць у СССР», — так падпісаў мне сваю першую кнігу мой бельгійскі сябар Стэфан.

Я нават не паспеў паслаць гэты надпіс у які-небудзь камітэт, дзе за розныя заслугі даюць, напрыклад, права на бясплатны праезд, як СССР ляснуў, і ўся мая навука пайшла кату пад хвост. Цяпер ужо, баюся, не ацэняць мае заслугі кантралёры нават у тым адзіным месцы, дзе правільна прачыталі б маё прозвішча, як надрукавана ў кнізе: Sasja Loekasjoek.

Калі ёсць у Еўропе краіна больш загадкавая і недарэчная за Беларусь, дык гэта Бельгія. Там мала што дзве дзяржаўныя мовы, дык яшчэ й ніводная з іх не бельгійская, мала што насельніцтва, як у Беларусі, але бельгійцам па нацынальнасці можа лічыцца толькі адзін чалавек, дый той — кароль, мала што ў Бруселі паставілі еўрапейскі рэкорд жыцця без начальства (больш за год не маглі абраць урад), але пры гэтым першым прэзідэнтам Еўразвязу стаў грамадзянін Бельгіі.

Такім чынам, нічога дзіўнага, што ў сярэдзіне 80-х Ян і Стэфан з Антверпена паехалі ў Мінск вывучаць рускую мову і спадарожную навуку піць усё, што еўрапейцу смерць, а журналістам здарова.

У выніку абодва сталі тэлезоркамі і свяцілі з Масквы, Вашынгтона і Пекіна, Мінска, Бялграда і Кабула, з усіх куткоў СССР ад пачатку галоснасці да сённяшніх дыктатураў. Я дапамагаў ім са здымкамі на розных дэманстрацыях, мітынгах, блакадах і іншых палігонах дэмакратыі, а таксама ў згаданай вышэй спадарожнай навуцы.

Усё гэта адбывалася да інтэрнэту, калі працягласць жыцця журналісцкага слова ў эфіры можна было адэкватна апісаць лексікай яшчэ старажытнага Рыма — verba volant.

А scripta, адпаведна, manent — і намовіць Стэфана пісаць кнігу было не так і цяжка, тым больш, што застольнае кола супадала з прафесійным.

У загаловак была вынесеная магічная формула, якая вырашала ўсе нашыя праблемы ў чыгуначных касах, аэрапортах, рэстаранах, тэатрах, гатэлях і іншых месцах, дзе чалавек сустракаўся з савецкай уладай: «Нельга але можна».

Загаловак сам быў сваёй ілюстрацыяй: ад адсутнасці коскі розум за розум заходзіў не толькі ў карэктараў і не толькі ў Беларусі. Фламандская мова, на якой пісаў аўтар, таксама супраціўлялася як магла, але аказалася бяссільнай перад праўдай жыцця — кніга там выйшла пад назвай «Niets is mogelijk alles kan».

Замест далейшых лінгвістычных даведак я дам тут сваю прадмову да мінскага выдання, якую з уласцівым мне лаканізмам назваў «Калі нельга»:

«Ззаду рознакаляровае рознагалоссе Брусельскага аэрапорту, роў турбінаў, ледзяное сонца ў ілюмінатары, і ашалелыя шасі ўжо рэжуць бетон якой-небудзь новай сталіцы, і пачынаецца праца — горкі прысмак, калі цэнтральная рэдакцыя спачатку не верыць твайму прадчуванню, што ў Пекіне вось-вось нешта адбудзецца, і ты адлятаеш з Кітая за некалькі гадзінаў да пабоішча на Цянь-ан-мыне, потым пралом у Берлінскай сцяне, аксамітная рэвалюцыя ў Празе, расстрэл Чаўшэску, сарваны голас аператара ў разгромленай Віленскай тэлевежы, лёгкі халадок ля сэрца, калі танкі ідуць па маскоўскай маставой на цябе і Яна, ці калі сербская артылерыя б’е па Сараеве, адкуль ты вядзеш чарговы рэпартаж пра чарговае перамір’е, і зноў Масква, Ерэван, Талін, ашалелая шкала дазіметра на радыеактыўным полі пад Магілёвам, гонкі са знятым матэрыялам у студыю, ліхаманкавы, да секунды дакладны мантаж, а потым вясёлая шчодрасць, і шаблі, і шампанскае, і піва, і лікер д’Антверп, і канечне,

гарэлка — з усяго гэтага зроблена твая кніга, але не толькі з гэтага, бо ты журналіст, і гэтая прафесія не проста частка твайго жыцця, а ўсё жыццё.

Твая Бельгія — найлепшае ў свеце каралеўства, і з каралём мы сябруем, прынамсі, кожны трэці ці пяты тост п'ем за яго здароўе, і гэта ўжо немалая лічба, і Ягоная Вялікасць, калі ўведае, чым-небудзь нас узнагародзіць, хоць мы п'ем зусім не дзеля манаршай ласкі, а таму што чаму не, калі сустрэліся.

Першая сустрэча адбылася ў Маскве, у гатэлі «Расія» (які тады яшчэ стаяў на Краснай плошчы), ты і Мікі прывезлі мне запросіны ў Антверпен ад Яна, гэта было пасля землятрусу ў Арменіі, які гэта быў год — канечне, 1988, і я расказваў пра свае два тыдні ў Ленінакане, прасякнутыя салодкім трупным смуродам, які расцякаўся з-пад руінаў панэльных дамоў, і высветлілася, што ты таксама там быў, і мы зноў узялі гарэлкі ў буфеце для інтурыстаў, а потым яшчэ раз, і яшчэ, і па шляху на вакзал перад Крамлём, дакладна насупраць цэнтральнай літары «Н» у імені на барвовым маўзалеі, я спыніўся, не ў сіле трываць, і апаганіў памяць правадыра сусветнага пралетарыяту, прыгаворваючы з палёгкай «Вось вам за Ленінакан, за Сталінакан, за Брэжнеўакан»; партыя ў той час была яшчэ ў сіле і вяла бурную барацьбу за цвярозасць — норму жыцця, і калі б міліцыя апынулася паблізу, справа не скончылася б, як для Матыюса Руста, вызваленнем «з меркаванняў гуманізму», але ўначы неяк мярзотна пахаладала, і сяржанты, верагодна, таксама недзе грэліся чым-небудзь вадкім.

Трагедыя журналістыкі ў тым, што яна нараджаецца, каб памерці, яе творы жывуць адзін дзень, адну гадзіну і менш, бо каму трэба ўчарашнія навіны, пытаўся я гасцей у рэстаране «Максім Горкі» ў цэнтры Антверпена на прэзентацыі тваёй кнігі, і гэтыя развагі ветліва слухалі хлопцы з выдавецтва «Крытак», якія выпусцілі кнігу як маланку, за два месяцы, дзясяткі жур-

налістаў, дыпламаты, і твая маці, і ваш старэйшы сябар Гіда, гаспадар дома, дзе вы з Янам жылі, і наша знаёмая афіцыянтка Таня, бельгійка з рускай арыстакратычнай сям'і, якая працавала ў гэтым дзіўным месцы «а-ля рюс», і адзін нелегал з Мінска, які мыў там посуд, толькі Яна, нашага найлепшага сябра, не было з намі, бо ў Маскве ішоў чарговы з'езд і трэба было рабіць рэпартажы пра лёс дэмакратыі, але Мікі і твой першы сын Ганэс былі, а кніга для мужчыны тое самае, што дзіця для жанчыны, пераконваў я Мікі, але яна моўчкі ўсміхалася і слухала сябе, дакладней, Мілана, які спазніўся на прэзентацыю і нарадзіўся, калі дадрукоўвалі трэці ці чацвёрты наклад гэтай кнігі, але пакуль шум у літаратурнай рэстарацыі, падобнай да булгакаўскага «Грыбаедава», нарастаў, нейкі кавалер навязліва цікавіўся, ці не выдадуць у Белай Русі яго белагвардзейскія мемуары, Таня падносіла гарэлку ў запацелых шкаліках і піла з намі, і белагвардзеец піў, і ўсе пілі, і раптам з балалайкай у руках чортам выскачыў русафіл-гаспадар «Максіма Горкага», ірвануў струны і на поўныя грудзі закаціў: «Оч-чи чёрные, очен к-красные!..», і мы ледзь не памерлі на месцы ад смеху.

У Мінску адзін ідыёт, загадчык аддзела ЦК, заявіў, што я ездзіў у Бельгію «па інструкцыі», і з таго часу любую высакародную вадкасць мы называлі інструкцыяй; пра інструктаж ніколі не забываліся, але больш за ўсё я запомніў першы прыезд у ваш з Янам і Гіда дом, дзе на ўсіх трох паверхах, на сталах, паліцах, падваконні стаялі пустыя бутэлькі, кардонныя ўпакоўкі з-пад віскі, а пад лесвіцай ляжала піўная бочачка, і мая жонка ціха пыталася, куды мы патрапілі, а проста ў доме напярэдадні была традыцыйная жнівеньская вечарынка, на якую прыйшло пад сотню гасцей, і на наступны год была такая ж вечарына, і зноў прыйшла сотня гасцей, я зноў на ёй быў, але не было ўжо цябе, бо ты вёў рэпартажы з Вільні, і мы падключылі тэлефон да дынаміка, каб ты мог чокнуцца адразу з усімі, але, здаецца, у цябе

не было тады настрою чокацца, а потым ён з’явіўся праз паўгода апоўначы, калі ты пазваніў у Мінск і сказаў, што кніга, якую мы так доўга абмяркоўвалі, закончаная, я схадзіў на кухню, дастаў з лядоўні шампанскае, і мы выпілі ў Антверпене і Мінску адначасна — і вось яна ў вас у руках, кніга майго сябра Стэфана Бломарта, журналіста, якога дома нават дзеці пазнаюць на вуліцах, і хоць у Рэспубліцы Беларусь яна выйшла ў шэсць разоў марудней, чым у Каралеўстве Бельгія, я ўпэўнены, што кніга не састарэла, бо напісана чалавекам, які любіць што піша і, спадзяюся, аўтар стане і вашым сябрам таксама і, пры нагодзе, праінструктуйцеся за яго здароўе, каб і надалей яму шанцавала пры ўзлётах, пасадках, артабстрэлах, путчах, рэвалюцыях — адным словам, там, дзе быць нельга, але трэба і, значыць — можна».

Так я скончыў прадмову з пяці сказаў да той першай кнігі Стэфана, якая тычыцца і Яна.

Потым яны казалі, што такіх доўгіх сказаў ніколі ў жыцці не бачылі — пакуль дачытаеш, вочы робяцца «очен красныя».

А свае кніжкі я падпісваю ім так: бельгійскім сябрам, якія навучылі мяне, як жыць у Еўропе.

Зрэшты, прыкладна так можна падпісваць усім, каго тут згадваў.

Нават карацей, толькі трэба дзеяслоў незакончанага трывання — якія вучаць, як жыць.

І трываць, канечне.

## Лётнае надвор'е

Усё тут напісанае — праўда. У той ступені,
у якой напісанае можа быць праўдай.

Верагодна, таму замест поўных прозвішчаў
у загалоўках толькі літары.

Не партрэты, а толькі траекторыя, толькі след палёту, які працягваецца. Непрадказальнага нават задняй датай, як палёт анёлаў, ці менш містычна — як палёт матылька, чые крыльцы, як сцвярджаюць, могуць выклікаць ураган і змяніць жыцці, лёсы, гісторыю.

З гэтым ураганам аўтару аказалася па
дарозе. Пашанцавала з траекторыяй.

# Далібог, так і было

Пазваніў мне Джордж Буш і кажа: «Прывітанне, Аляксандар, як справы?», я кажу добра, вось толькі хвалююся трохі, ён кажа: «Што так?», я кажу, ну, разумееце, мяне як папярэдзілі, што вы будзеце званіць, я пайшоў да свайго шэфа па параду, ён усё ж з вамі сустракаўся, і пытаюся, як гаварыць з прэзідэнтам ЗША, хоць і былым, а ён кажа — не бяры да галавы, прэзідэнт вельмі просты ў зносінах, перадай яму маё прывітанне і не называй яго Барак, і ўсё будзе добра. «Талковы ваш шэф, — сказаў Буш, — таму мы яго і трымаем у Еўропе».

Гэта праўдзівая гісторыя, і праўдзівы дыялог, які адбыўся ў самым канцы 2010 года, і калі я потым пераказаў яго свайму шэфу, той чамусьці спачатку памаўчаў, а потым кажа, калі ты раптам будзеш гаварыць з Абамам, называй яго як хочаш, хоць Хусэйнам, толькі не перадавай ад мяне нічога. Я кажу, дамовіліся. А паколькі з тымі людзьмі, сустрэчы з якімі я тут узгадваю, ніякай такой дамовы не было, дык я напісаў усё, як было насамрэч, усю праўду, наколькі напісанае можа быць праўдай.

## Янка Брыль, чалавек дажджу*

За празрыстую прозу, за чыстыя сінкопы мініяцюраў, за шчырасць, ад якой выступалі слёзы і хацелася чытаць уголас і дарыць яго кнігі малазнаёмым людзям, палюбіў я яшчэ ў студэнтах Янку Брыля, і калі паўстала пытанне — загіне Беларусь і чарнобылем парасце ці не, куды было кідацца па паратунак, як не да яго?

Лета 1979 года было спякотнае, сухое, сонца паліла так, быццам рыхтавала абмежаваны кантынгент да выканання інтэрнацыянальнага доўгу, як будзе называцца вайна ў Афганістане, але яна пачнецца толькі ў снежні, а ў чэрвені стала ясна: заданні чацвёртага вырашальнага года 10-й пяцігодкі па вытворчасці мяса-малочнай прадукцыі рэспубліка правальвае са страшнай сілай. Першая касавіца была мізэрная, другі ўкос выгараў, кукуруза, лубін і іншыя грубыя і сакавітыя кормы, якім напаўнялі сіласныя ямы, пасохлі на корані, а чым карміць скаціну? Галава ў кіраўніцтва БССР балела, канечне, за калгаснае быдла, свойскае ніколі не прападзе, і тады двойчы герой і першы сакратар Машэраў Пётр Міронавіч аддаў загад: усе на фронт!

Паводле спрадвечнай завядзёнкі, ад родных ніў у інстытутах, канторах, установах культуры і адукацыі на корманарыхтоўку былі ўзяты ўсе хадзячыя шарагоўцы разумовай працы.

Патрапіў і я. Усё было як заўсёды, і не пра гэта гаворка. А пра тое, што нарыхтоўваць загадалі не траву з няўдобіц — густую цімафееўку з поймаў рэчак, сакавітую асаку з балотных купінаў, нават не мясісты чарот з азёрных берагоў, а галінкі. Нарыхтоўкай галінкавага корму называлася аперацыя па абломванні бярозавых косаў, лазовых пруткоў і яловых лапак.

* Пісьменнік, 1917—2006.

Вярнуўшыся праз паўмесяца з лесапавалу (бярозы заломвалі так, як варварскае войска гвалціць захоплены горад, секлі і кідалі паміраць), я пазваніў у міністэрства сельскай гаспадаркі і спытаўся, колькі ў БССР галоў буйной рагатай жывёлы.

Ну, не проста спытаўся, а сказаў, што быццам званю з рэдакцыі газеты. Проста са мной размаўляць бы не сталі, не такі я быў наіўны. Пасля пазваніў у нейкі навуковы інстытут, каб уведаць, колькі кармавых адзінак патрабуе адна рагатая галава на стойлавы перыяд. У іншым НДІ ўдакладніў, колькі галінак патрабуецца на адну кармавую адзінку. Затым у міністэрстве лясной гаспадаркі ўведаў структуру беларускага лесу ў разрэзе ліставых і хваёвых пародаў, гушчыню пасадкі на гектар, стан спеласці і вегетацыйны перыяд.

Што было потым, лёгка здагадацца: памножыў, склаў, памножыў, падзяліў, памножыў, яшчэ раз памножыў — і апынуўся ў частцы Афрыкі з сыпучай назвай Сахара. Там не тое што каровы — вярблюды акалелі б.

Трэба было ратаваць Бацькаўшчыну — але як? І калі выпадкова пабачыў мажную фігуру Янкі Брыля ў фае тэатральнай залы мінскага Дома афіцэраў, не раздумваючы кінуўся да яго. Што ён падумаў пасля майго ўсхваляванага маналога, я не ведаю і сёння — мяне ўратаваў званок, пачынаўся спектакль.

Гастраляваў маскоўскі Тэатр на Таганцы, давалі «Гамлета», якога іграў Уладзімір Высоцкі — людзі яшчэ хадзілі паміж крэслаў, усаджваліся, перагаворваліся, а ён ужо сядзеў на падлозе ў глыбіні сцэны ля знакамітай вяровачнай кулісы з гітарай у руках і ціха перабіраў струны, каб пасля ўдарыць чорным крылом, і ўзляцець у неба, і ўпасці, як адстраляная гільза на зямлю, сухую, пыльную і гарачую.

У антракце я аддаў Брылю паперку са сваімі разлікамі, ён абяцаў зрабіць даведку. Я думаў, ён адразу пазвоніць Машэраву, і пытанне — быць ці не быць беларускаму лесу — будзе

імгненна вырашана, бо не можа ж Машэраў не паслухацца Брыля, праўда?

Роўна праз год не стала Высоцкага, яшчэ праз некалькі месяцаў Машэрава. Брыль перажыў абодвух на чвэрць стагоддзя. Мы з ім шмат разоў пасля сустракаліся, пра пачатак знаёмства ён згадваў са сваёй знакамітай недагаворанай усмешкай, і я не перапытваў, ці званіў ён тады ў цэка і што яму адказалі, бо гэта не важна, таму што наіўнае маё перакананне таго лета, што існуе адказ на пытанне «быць ці не быць», было не такое ўжо беспадстаўнае.

Ноччу пасля спектакля пайшоў дождж.

## Арсені Таркоўскі, чалавек адлюстравання*

*Все разошлись. На прощанье осталась*
*Оторопь жёлтой листвы за окном...*

*Вот и лето прошло,*
*Словно и не бывало.*

*И это снилось мне, и это снится мне,*
*И это мне ещё когда-нибудь приснится...*

*Снег с вишнёвых упал ветвей.*
*Скоро тучи дыхнут метелью.*
*И не нужно душе моей*
*То, что прежде ей было целью...*

Левай рукой трэба пераключыць клавіятуру з рускай на беларускую і прымусіць правую паставіць кропку. Бо іначай не

* Паэт, 1907—1989.

спыніцца, і замест успаміну пра Таркоўскага далей будуць адны яго цытаты, цыклы, цэлыя зборнікі. Што, напэўна, лепш, хоць і не да месца. Але гэта не тычыцца апошняга чатырохрадкоўя — яно належыць не толькі Арсенію Таркоўскаму.

У сярэдзіне 70-х, ужо не памятаю дзе, чаму, як, але прачытаў і, як пад гіпнозам, стаў красці з бібліятэк яго кнігі, якія немагчыма было купіць (яго жонка мяне потым суцяшала — «ва ўсіх сяброў Арсенія кнігі крадзеныя»), ездзіць да яго ў Перадзелкіна пад Масквой, у розныя дамы творчасці, дзе яны жылі ў маленькіх пакоях, але на ўсім гатовым, вазіць свае вершы, знаёміцца там з людзьмі, якія яго любілі, чытаць тое, што ён раіў, слухаць яго голас, успаміны пра Маякоўскага, Ахматаву, чый партрэт з подпісам заўсёды стаяў у пакоі, а вось партрэта сына Андрэя, знакамітага кінарэжысёра, не было, і аднойчы ён пацалаваў мяне на развітанне, а потым я ўведаў, што ён быў апошнім каханнем Марыны Цвятаевай, вось як праз войны, самагубствы і вершы часам даходзяць дотыкі:

*Когда судьба по следу шла за нами,*
*Как сумасшедший с бритвою в руке.*

Дзесяцігоддзямі яго не друкавалі, і ён жыў з перакладаў, пераважна ўсходніх акынаў («Ох, восточные переводы, как болит от вас голова!»), і я аднойчы спытаўся, ці перакладаў ён з беларускай, і ён сказаў так, Багушэвіча, «Маю дудку» і «Смык» (у 1953-м).

Больш, зачараваны магіяй яго ўласнай паэзіі, я не распытваў — і дарма. У 1989-м у каталогу Цэнтральнага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва ў Маскве я сустрэў яго імя як перакладчыка Уладзіміра Хадыкі, бліскучага паэта расстралянага пакалення беларускай літаратуры. Я займаўся гісторыяй рэпрэсій і ведаў, што ў Хадыкі не было кнігі ў перакладзе на рус-

кую. Выпісаў шыфр, аформіў замову — і са сховішча прынеслі падрыхтаваны да друку набор рускай кнігі Хадыкі. Чатыры вершы пераклаў Таркоўскі. Дата на рукапісе — 1932. Менавіта тады Таркоўскі пачынаў займацца перакладамі — гэта былі яго самыя першыя спробы.

Далей уключыўся палітычны каляндар: у 1933-м у Мінску Хадыку пачынаюць разбіраць за дэкадэнцтва, фармалізм, агнастыцызм, буржуазны нацыяналізм, біялагізм і абарону кулацтва, на рукапісе з’яўляецца рэзалюцыя — друкаваць немэтазгодна. Затым палітычнае галавакружэнне запускаюць у адваротны бок, і ў 1935-м у Хадыкі ў Мінску выходзіць новая кніга, і ў студзені 1936-га на перакладах у Маскве з'яўляецца рэзалюцыя «у набор». Але ордэр на арышт апярэджвае друкарню, а глыба вапняку на шахце ГУЛАГа ставіць кропку ў біяграфіі аўтара.

Больш Таркоўскі да сучаснай беларускай паэзіі не вярнуўся. Аўтараў усходніх эпасаў ужо нельга было арыштаваць, а пераклад кніг рассыпаць.

Выпадак з Хадыкам, аднак, паўтарыўся, амаль як у люстэрку. У 1949-м Таркоўскаму далі юначыя вершы Сталіна, каб пераклаў да юбілею — але кнігу таксама не выдалі, аўтар не дазволіў. Думаю, не з-за густу ці сціпласці, а з-за звярынага інстынкту, бо з’явіўся б канкурэнт — вобраз яшчэ аднаго Сталіна, сентыментальнага пастушка, маладзейшага, наіўнага, дапускалася б эвалюцыя і разбуралася непагрэшная прырода яго ўлады, таму і пра бацьку ніколі не згадваў, і маці трымаў далёка і пад аховай, і жонку ці то прыстрэліў, ці то давёў да самагубства. У люстэрку тыран можа быць толькі сам.

Тры з чатырох перакладзеных Таркоўскім вершаў Хадыкі вядомыя, уключаны ў зборнік 1986 года.*

---

* «На ўзвеях дзён». 1986. Пераклады апублікаваны ў альманаху «Братэрства», 1990, стар. 277—282.

Арыгінал аднаго я так і не здолеў знайсці ні ў прыжыццёвай перыёдыцы, ні ў зборніках. Ён вядомы толькі па-руску і толькі дзякуючы перакладчыку:

*Снег с вишнёвых упал ветвей.*

Гучыць, як пераклад з японскай. Адлюстраванне без арыгінала. У Таркоўскага ў канцы радка кропка.

Як гэта магло быць па-беларуску? Як ён да яго трапіў — аўтар паслаў па пошце, сустракаліся асабіста?..

«Один среди зеркал — в ограде отражений», так ён напіша пасля таго, як пабачыць фільм сына «Люстэрка».

Пераклад вонкава і функцыянальна, канечне, адлюстраванне арыгінала — прыкладна ў такой ступені, як пратэз — адлюстраванне нагі ці наадварот. Я доўга не ведаў, што ў Таркоўскага няма нагі: буфет у перадзелкінскім доме творчасці на другім паверсе, і мы лёгка падымаліся па лесвіцы, цалкам нароўні.

— Маша, зрабіце нам кавы і — о, маеце халву! — ён павярочваўся да мяне і весела казаў: — Хвала халве!

Кава была па-турэцку, і халва з ёй амаль рыфмавалася.

Разрыўная куля патрапіла яму вышэй калена пад Гарадком, калі ў канцы 1943-га 1-ы Прыбалтыйскі фронт вёў баі ў Віцебскай вобласці, і нага пасля ампутацыі засталася ляжаць у беларускай зямлі. Усё жыццё ён кульгаў па-беларуску. Напэўна, так нельга казаць.

На развітанне пераключу клавіятуру на яшчэ адно адлюстраванне — сваё ў ім:

*Я пил отраву терпких строк.*
*Они, как стрелы, зазубрины топорща,*
*Пробивали кожу и застревали в теле,*
*Обрастая плотью. Их вид,*
*Превосходящих птиц и опереньем,*
*И пением тетивы, мрачил рассудок,*

*Кровь дурманил. В безумьи гордом*
*Я стал натягивать струну*
*На грозный инструмент,*
*Слепым глазам поверив, что Слепому равен.*
*Но лишь ладонь поранил.*

*Я мял горячие листы ладонью раненой,*
*И больно, будто бритвы жал,*
*Сочилась кровь сквозь острые порезы,*
*И ладонь, как роза, набухала, распрямляясь,*
*Всё глубже узнавая смысел лезвий.*
*Из вен лился голубоватый сок*
*И запекался на листе горячем*
*То запятой, то точкой. А в места*
*Для слов недоставало. И выяснялось,*
*Что слишком мало вены взрезать.*
*Надо, чтобы их сердце разорвало*

Я не памятаю, які знак прыпынку паставіў тады, у 1979-м, калі паслаў яму гэтыя радкі — не клічнік, канечне, але вось пытальнік, шматкроп'е ці кропку?

Таркоўскі любіў кропку.

У паралельных люстэрках кропка ператвараецца ў шматкроп'е. Не мяняецца толькі пустата. І не адлюстроўваецца, канечне.

## Уладзімір Конан, чалавек палёту*

Культавы, як казалі ў 1970-я, фільм Андрэя Таркоўскага «Люстэрка» пачынаўся сцэнай пра савецкую журналістыку, якой яна стане праз дзесяцігоддзе: заіка пакутліва цяжка вучыцца прамаўляць. Лагафобія, страх гаварыць, лічыцца адначасна і прычынай, і наступствам заікання, а формула выхаду з зачараванага кола заўсёды адна — трэба нешта зрабіць, do it, як ясна і коратка сказалі бы па-англійску.

Свой першы круглы стол пра сталінізм у беларускім дзяржаўным друку («Звязда», 12 снежня 1987) я запомніў, як запамінаеш першы скачок з парашутам і свабодны палёт: працэс няўцямны, вынік ашаламляльны.

Я запрасіў у рэдакцыю «Звязды» трох вязняў ГУЛАГа, двух акадэмічных гісторыкаў, аднаго філосафа-сталініста і аднаго філосафа-дэмакрата, доктара навук Уладзіміра Конана. Прафесійныя гісторыкі ў апошнюю хвіліну адмовіліся, спаслаўшыся на нераспрацаванасць тэмы, адзін вязень не даехаў з правінцыі, астатнія з’явіліся — і такой гутаркі, якая адбылася ў вялікім рэдактарскім кабінеце, тыя сцены не чулі раней ніколі.

Удзел Конана і яго выказванні аказаліся самымі радыкальнымі — у сэнсе, найбольш дакладнымі ў ацэнках і вызначэнні кантэксту, чым нават у былых сталінскіх ахвяраў. Ён казаў бязлітасныя словы пра святыя рэчы — і казаў са звычайнай інтанацыяй, амаль усмешкай, як гавораць пра даўно вядомае, якое не падлягае сумненню, аспрэчванню, інтэрпрэтацыі. Гэты спакой і ўпэўненасць грунтаваліся на гранітным падмурку ведаў і вышыні палёту веры, якая дазваляла бачыць сапраўдны маштаб людзей і рэчаў. Як і Васіль Быкаў, ён узвышаўся над сучаснасцю і задаваў ёй гістарычныя каардынаты.

---

* Філосаф, 1934—2011.

Ужо ў іншую эпоху ён шчыра здзівіўся, калі ў нейкім інтэрв'ю яго спыталі, што ён думае пра кіраўніка дзяржавы: чаму я мушу пра яго думаць, я думаю пра Хрыста.

Ён прыняў на сябе ўдар ідэалагічнай машыны ў Беларусі на пачатку 1980-х, калі яго аспірант, Алег Бембель, напісаў працу «Родная мова і маральна-эстэтычны прагрэс». Гэта было фантастычнае даследаванне: апытанні пра беларускую мову ў мінскіх кафэ і Акадэміі навук, сярод пісьменнікаў і настаўнікаў, выпадковых знаёмых і блізкіх сяброў. Свае каментары далучылі Алесь Адамовіч і Уладзімір Караткевіч, кніга выйшла ў Лондане — раней за такое расстрэльвалі. І аўтара, і навуковага кіраўніка.

Але пачыналася перабудова, і нават у Беларусі аўтара даследавання проста выключылі з партыі, і ён пачаў звыклую і працяглую барацьбу за справядлівасць — аднаўленне ў шэрагах, і гэтая фантасмагорыя тады ўспрымалася як трагедыя. Потым гэтыя два жанры памяняліся месцамі: спачатку ён стаў больш вядомы як паэт, а затым адмовіўся ад свайго імя на карысць чужога, перабраўся ў манастыр, адкуль час ад часу выпускае хрысціянскія вершы па-беларуску, якія ставяць у тупік царкоўныя ўлады, як некалі ставілі свецкія.

Конан атрымаў сваю долю непрыемнасцяў, яго цкавалі, прапрацоўвалі, нечага пазбаўлялі, але, здавалася, ён не бачыў гэтыя цені жыцця, бо глядзеў на святло паэзіі, як называлася яго кніга пра Максіма Багдановіча. Спакойна і паслядоўна ён рыхтаваў адну за адной фундаментальныя працы пра нацыянальную культуру, фальклор, адраджэнне як формулу для знямелых народаў, якія зноў вучыліся еўрапейскай мове.

Ён істотна дапамог мне з падрыхтоўкай доследаў пра сталінізм у Беларусі. У шматгадовай палеміцы, якую часам сам-насам даводзілася весці з акадэмікамі — прыхільнікамі вегетарыянскай версіі падзеяў, мне надзвычай важна было ведаць, што побач ёсць чалавек, які за адлюстраваннямі ў крывых люстэрках

бачыць сапраўднае мінулае і які дапаможа не заблукаць у лабірынтах фактаў, аргументаў і цытатаў.

З поглядам наперад у Конана таксама заўсёды ўсё было ў парадку: «У скрушныя перыяды трэба не падаць духам, а ўзмацняцца. Так што ў гэтым сэнсе я бачу перспектывы беларускай культуры і беларускага жыцця».

Ён не ўдакладніў, што рабіць у спрыяльныя перыяды — магчыма, таму, што іх амаль не было. Зрэшты, формула Конана таксама падыдзе — не падаць.

Працягваць палёт.

## Алесь Адамовіч, чалавек дзеяння*

«Алесю ад Алеся» — так некалі падпісаў мне сваю кнігу Адамовіч. Не скажу, каб мы шмат сустракаліся, кожны раз гэта было з нагоды нейкай справы: чарнобыльскі мітынг у Мінску, на які ён прывёз маскоўскага акадэміка, першае пасяджэнне рады «Мемарыяла» ў Маскве, на якім ён папрасіў мяне выступіць і расказаць, што робіцца ў гэтай справе ў Беларусі, паездкі з ім на публічныя дыспуты, апошняе ў яго жыцці інтэрв'ю, позні вечарам у пустым ужо будынку Інстытута кіно ў Маскве, на якое я прыйшоў з адной гадзіннай касетай, а размова зацягнулася на некалькі гадзін.

На тым першым пасяджэнні рады «Мемарыяла», у якую народным галасаваннем абралі і Адамовіча, і Быкава, і Салжаніцына, беларускія кінадакументалісты здымалі фільм. Ён мусіў называцца «Алесь Адамовіч. Назіранне» — ідэя была, што вось быццам гэбэ сочыць за пісьменнікам, яго жыццём, справамі.

* Пісьменнік, 1927—1994.

Потым «Сустрэчны зыск», як стала называцца гэтая стужка Аркадзя Рудэрмана і Юрыя Хашчавацкага, атрымала Гран-пры ленінградскага кінафестывалю. Злыя языкі кажуць, што якраз за эпізод гэтага пасяджэння «Мемарыяла», на якім я быў: там Еўтушэнка зачытаў і пракаментаваў зварот Салжаніцына, які прыслаў тэлеграму з Вермонта, цэнзура яго прамову запатрабавала выразаць. Фільм паказвалі на фестывалі, і Аркадзь Рудэрман зайшоў у будку да кінамеханіка і проста адключыў гук, пакуль Еўтушэнка размахваў рукамі. Потым ён выйшаў на сцэну і патлумачыў, што відэашэраг — сядзіць паэт і адкрывае і закрывае рот — цэнзары не забаранялі. Журы і публіка ўзарваліся, і стужка ўзяла галоўны прыз.

Я, наадварот, пацярпеў: напісаў у сваёй газеце кароткую рэцэнзію і ўзяў адно, досыць бяскрыўднае слова ў двукоссе — «надзейны». Справа была ў тым, што ў фільме фігуравала беларускае партыйнае начальства, і пра адну з самых адыёзных фігур, лютага ворага Адамовіча, хадзіла ананімная паэма, якая характарызавала гэтага дзеяча наступным чынам: «Ён надзейны, як безмен, час ідзе, а ён без змен». Мяне часова адхілілі ад працы і пастанавілі перавесці ў аддзел спорту. «Хай уведае Алесь — як не просяць, дык не лезь!», як раіла тая ж паэма Адамовічу.

Дык каб не зацягваць (падзеі Адамовічавага жыцця, ад партызанкі да кропельніцы, усе ў яго кнігах), як Алесь Алесю, напішу зараз тое, чаго ў яго кнігах няма.

У 1987-м Алесь Адамовіч зыходзіць з Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР, але не едзе ў Маскву, куды яго запрасілі на пасаду дырэктара Інстытута кіно, а застаецца ў Мінску. Ездзіць па Чарнобыльскай зоне, патрабуе з саюзнага бюджэту сродкі на адсяленне, забяспечвае масіўную гуманітарную дапамогу з-за мяжы, прывозіць у зону дактароў і экспертаў з усяго свету. У 1988-м публікуе артыкул у «ЛіМе», які выкрывае партыйную карумпаванасць у чарнобыльскіх справах і ўзначальвае рух за

справядлівасць, які аб’ядноўвае ўсіх пацярпелых ад радыяцыі, экалагічны, антыкамуністычны і моладзевы рухі, кааператараў і фермераў. Улады ў разгубленасці: быццам наменклатура — член-карэспандэнт Акадэміі навук, але не член партыі, на аўтара рускамоўных раманаў не клеіцца ярлык нацыяналіста, на суаўтара «Я з вогненнай вёскі» і партызана не прычэпіш абвінавачанне ў калабарацыі, у Маскве яго падтрымліваюць сябры ад Венічкі Ерафеева да акадэміка Сахарава, ён рэгулярна выступае па ўсесаюзным тэлебачанні, яго запрашае Гарбачоў, з ім раіцца Ельцын, і да таго ж не п’е. Вясной 1989-га мясцовае начальства фальсіфікуе бюлетэні, і ён не праходзіць на выбарах у народныя дэпутаты СССР, але вясной наступнага года з аглушальнай перавагай абіраецца ў Вярхоўны Савет 12-га склікання ад выбарчай акругі Глуша Бабруйскага раёна, і становіцца віцэ-спікерам. Пад час путчу 1991-га ўзначальвае супраціў, займае пасаду спікера. Кампартыя застаецца пад забаронай, праводзяцца люстрацыі спецслужбаў, пасля рэферэндуму Вярхоўны Савет распускаецца, праходзяць новыя выбары, дэпутаты ўхваляюць канстытуцыю, дзе прэзідэнта абірае парламент, і ў 1994-м першым прэзідэнтам Рэспублікі Беларусі становіцца Алесь Адамовіч.

Усё астатняе — проста гісторыя. Такая, напрыклад, як у Чэхіі.

## Аркадзь Рудэрман, чалавек тэатра*

Ужо шмат гадоў, седзячы на ранішніх нарадах з рэдактарамі з двух тузінаў еўрапейскіх і азіяцкіх краінаў за вялікім авальным сталом, слухаючы іх навіны пра выбары і выбухі, на паўзмроку ўвагі і свядомасці ў мяне раптам выплыве сонечная ўсмешка чалавека, якога даўно няма ў жывых і пра якога прысутныя, занятыя сваімі войнамі, тэрактамі і дыктатурамі, ніколі не чулі — але яны сядзяць менавіта так менавіта з-за яго. І Вацлаў Гавэл, і амерыканскія сенатары, і замежныя міністры і іншыя высокія госці Радыё Свабода сядзелі так, як пастанавіў гэты «беларускі савецкі кінарэжысёр», як падаюць энцыклапедыі Аркадзя Рудэрмана.

Маё прозвішча павінна было значыцца ў цітрах аднаго ягонага фільма, які некалі стаў вядомы на ўвесь СССР. Падыходзіў да канца 1987 год, і ў адказ на настойлівыя напамінкі майго патрабавальнага рэдактара з «Беларусьфільма» Іры Дзям’янавай я напісаў сцэнарную заяўку пад назвай «Прафесія — чыноўнік», дзе абяцаў разабрацца з «механізмам тармажэння», як тады называлі канвульсіі савецкай імперыі. Лічылася, што галоўны тормаз на шляху рэформаў — бюракратызм, і наша задача з рэжысёрам была — знайсці і паказаць. Найбольш знакаміты фільм Аркадзя на той момант быў яго сумесны з Юрам Хашчавацкім «Сустрэчны зыск» — стужка, прысвечаная Алесю Адамовічу і яго супрацьстаянню са сталіністамі, я таксама займаўся гэтай тэмай, і мы сімпатызавалі адзін аднаму.

Я здаў заяўку і ў студзені ўпершыню ў жыцці паехаў у санаторый — рэдакцыя маёй газеты дала наменклатурную пуцёўку ў Юрмалу. Як аказалася, гэта быў і апошні раз, да таго ж няпоўны: Іра патэлефанавала, што заяўку ўключылі ў план, трэба тэрмі-

---

* Кінарэжысёр, 1950—1992.

нова здаваць сцэнар, рэжысёр чакае. Я знаходзіў нейкія фантасмагарычныя гісторыі пра цыганоў, вынаходнікаў, інвалідаў, шматдзетныя сем'і, кватэрныя абмены і прыносіў Аркадзю, мы сядзелі гадзінамі на яго маленькай кухні і круцілі сюжэты то так, то гэтак, і яны ўсе былі жудасныя і беспрасветныя, але яго не задавальнялі — можа, таму, што былі звычайныя, у сэнсе — гэта было штодзённая жыццё, так жылі ўсе людзі, іх лёс ад іх не залежаў.

Я думаў, што яму не хапае фарбаў, хоць колер крыві сустракаўся, але насамрэч яму не хапала тэатра. Я не расказаў тады яму, што пад уздзеяннем заяўкі напісаў заяву аб адмове ад медычна-санаторных прывілеяў і занёс у лечкамісію — там мне спалохана ціснулі руку і казалі, што такога яшчэ ніколі не было. Ішоў трэці год перабудовы. Пасля высветлілася, што і пасля таксама не было. Не ведаю, ці гэта цягнула на камедыю.

Тэатр знайшоў яго сам — здаецца, Іра расказала пра суд сваёй знаёмай, Ірыны Шэлянковай, рэдактара Беларускай савецкай энцыклапедыі, якую звольнілі быццам за артыкул пра Марка Шагала. Яна запратэставала супраць адыёзнага тэксту («не наш мастак»), пачаўся канфлікт з начальствам, і справа разглядалася ў судзе.

Я прыйшоў у суд разам са здымачнай групай і там, перад уваходам у залу, сказаў Аркадзю, што сыходжу з фільма. Прычына была выключна асабістая — галоўны антыгерой стужкі, вакол якога яна ўся будзе пабудавана, аказаўся даўнім добрым знаёмым маіх бацькоў. Дапамагаў ён і мне, калі з-за непрыемнасцяў за занадта доўгі язык я не мог нідзе знайсці працу. Аркадзь спачатку ўгаворваў, але зразумеў, да таго ж ужо ўключыўся азарт і трэба было ісці да канца.

Фільм «Тэатр часоў галоснасці і перабудовы» узарваў не толькі Беларусь, стужку арыштоўвалі, рэжысёра вінавацілі ў правакацыі, знаходзілі папулярны тады жыдамасонскі падтэкст, я ха_

дзіў на сходы і дзе мог выступаў у абарону, але фільму ўжо не трэба былі абаронцы, ён стаў атрымліваць прызы на кінафестывалях, пачалася сапраўдная слава Аркадзя.

Мы час ад часу сустракаліся на кінастудыі і ў Доме кіно, на прэм'ерах яго і маіх стужак, якія мы здымалі з Міхаілам Жданоўскім і Юрам Гарулёвым. Памятаю, неяк я спытаўся парады, як можна зняць фільм пра беларускую сталініяну (якраз скончыў даследаванне пра падарункі працоўных на 70-годдзе правадыра), і ён даў дакладны і бліскучы адказ — канечне, мультфільм. Адночы з яго жонкай, Галяй Красоткінай, я рабіў перадачу на беларускім тэлебачанні, ужо не памятаю, пра што, але мы селі не побач, як вядучыя рабілі звычайна, а праз даўгі стол, які задэкаравалі розным фантастычным рэквізітам, камеры паставілі адна супраць адной, і гэта стварыла атмасферу гульні і дуэлі — адчуваецца моцная рука рэжысёра, казаў Аркадзь, які лёгка радаваўся не толькі сваім удачам.

Фармальна Аркадзь ніколі не працаваў у тэатры — але можна сказаць, што тэатр быў тайнай мовай яго жыцця, і калі ён паступіў у Беларускі палітэх, і калі ўладкаваўся рэжысёрам на тэлебачанне, і калі кіраваў дзявочай агітбрыгадай на тонкасуконным камбінаце, і калі вывучыў кінарэжысуру ў Ленінградзе. Ён усюды шукаў драматургію, і калі яе не хапала, ствараў яе сам (у тым ліку ў сваім прыватным жыцці). У гэтым сэнсе правакацыя сапраўды мела месца ў яго эстэтыцы як пастаноўка пытання — але не як адказ. Адказ павінен быў быць рэальным і сапраўдным. Гэта выводзіла з сябе апанентаў і заваёўвала гледачоў.

«Страшная смерць чакала беларускага рэжысёра Аркадзя Рудэрмана...» — так пачынаецца адзін з артыкулаў, які расказвае пра аўтакатастрофу ў Таджыкістане, дзе Аркадзь разам з мінскімі сябрамі Юрам Хашчавацкім і Юрам Гарулёвым здымаў сваю 23-ю кінастужку. Цяжкая камера, якую ён трымаў на кале-

нях, пасля лабавога сутыкнення ўвайшла ў яго ўсімі сваімі лінзамі, корпусам і батарэямі — кіно ўзарвала яго цела і вызваліла душу ў апошні раз.

Не памятаю, ці навіна выклікала слёзы — напэўна, не, было б непрафесійна. Быў канец верасня 1992-га, я працаваў ужо ў Мюнхене, у аналітычным інстытуце Радыё Свабода. Юліян Паніч, некалі звышпапулярны савецкі кінаакцёр, а тады супрацоўнік Рускай службы, прапанаваў зрабіць перадачу. Апошнія фільмы Аркадзя тады ўжо добра ведалі за мяжой. Я пісаў тэкст, запісваў галасы з Беларусі, Масквы, Нямеччыны, Ізраіля як у тумане. Пасля эфіру Паніч знайшоў мяне і падарыў сваю кнігу «Галіч на Свабодзе», выпушчаную ў памяць свайго сябра, легендарнага барда, чые песні-п'есы былі падобныя да апошніх фільмаў Аркадзя.

Праз паўтара дзясятка гадоў, калі я на просьбу новага прэзідэнта радыё выконваў абавязкі галоўнага рэдактара, мне трэба было неяк рэфармаваць нашыя нарады, якія ператварыліся ў доўгія пералікі ўчорашніх падзеяў у двух дзясятках краінаў. Усё начальства сядзела на чале стала і задавала пытанні, усе астатнія сядзелі па перыметры і па чарзе дакладалі свае навіны. Я раптам узгадаў тую даўнюю ўхвальную рэпліку Аркадзя, перасадзіў прэзідэнта на супрацьлеглы канец, увёў жорсткае абмежаванне часу, утварылася два полюсы, узнікла напружанне, рытм, і паўгадзінныя нарады сталі падобныя на міні-спектаклі.

Пасля мяне змяніліся ўжо два галоўныя рэдактары і два прэзідэнты, але ўдзельнікі нашых нарадаў у Празе па-ранейшаму сядзяць так, як іх пасадзіў Аркадзь Рудэрман.

І я таксама.

## Віталь Скалабан, чалавек-амфібія*

З хітраватай мужыцкай усмешкай, з прыжмуранымі вачыма, нейкай прыхаванай тайнай, якая так і просіцца на язык...

Апошні раз з Віталем Скалабанам мы бачыліся за год да смерці, летам 2011. Ён выйшаў з архіва і чакаў мяне на лавачцы каля Нацыянальнай бібліятэкі. Дзьмуў вецер і сляпіла сонца, і я не адразу пазнаў яго ў светлай кашулі з кароткімі рукавамі, якая шчыльна аблягала яго магутныя плечы і шырокую прысадзістую фігуру, падобную на яго моцнае вясёлае прозвішча: Ска-ла-бан.

Найлепшы знаўца Нацыянальнага архіва, асабліва той часткі, якая раней называлася Архівам ЦК КПБ, Скалабан найперш уражваў дзвюма рысамі. Яму была ўласцівая інтэлектуальная цікаўнасць, дзіцячая шчырая радасць ад кожнай знаходкі, кожнага адкрытага факта нацыянальнай гісторыі мінулага стагоддзя. І другая рыса — гэта гатовасць дапамагчы ў пошуку іншым.

Многія архівісты хварэюць на «сіндром скупога рыцара», які сцеражэ скарбы і нікога да іх не падпускае. Скалабан таксама са скрухай аддаваў знаходкі ў іншыя рукі. Але гэта было шкадаванне бацькі, які аддае хоць і ў добрыя рукі, але сваю дачку і потым сочыць за яе далейшым лёсам.

Так, на прэзентацыі маёй кнігі «Прыгоды АРА ў Беларусі» пад час выступу на сцэне Дома літаратара ён падарыў мне фота аднаго з галоўных герояў. Я шукаў яго два гады і ўжо адчаяўся, а ён не забыўся, і цяпер яно ўвайшло ў другое выданне кнігі.

Нягледзячы на пасады і афіцыйны статус, голас Віталя Скалабана гучаў на хвалях «Свабоды» ў перадачах «Вострая брама», «Беларуская Атлянтыда», «Вольная студыя». За апошнія чвэрць

---

* Архівіст, 1947—2011.

стагоддзя Скалабан дапамог многім дзясяткам даследнікаў, у тым ліку і мне, у пошуках гісторыі, схаванай у пыльных тэчках з пастановамі сталінскіх камітэтаў, рэзалюцыямі інквізітарскіх «троек», у расстрэльных спісах і слёзных лістах, якія прасілі літасці і атрымлівалі адказ у Курапатах...

У тую апошнюю сустрэчу мне трэба была яго парада. Я думаў пра перавыданне сваіх кніг, напісаных пасля архіўных росшукаў у 80-90 гады мінулага стагоддзя, і сумняваўся — ці варта. Вырасла новае пакаленне даследнікаў, якія напэўна ўдакладнілі, паглыбілі, паправілі мае доследы сталінізму.

«На жаль, гэтыя тэмы цяпер амаль не даследуюць, — сказаў Скалабан. — А Вашы кнігі ляжаць на маім стале. Я карыстаюся імі як даведнікамі. Нічога папраўляць там не трэба».

Гэта была такая нечаканая ацэнка, што я разгубіўся і, па-мойму, не здолеў падзякаваць як след і не сказаў суразмоўцу, як сам цаню яго кнігі, публікацыі, выступы.

Як шукальнік скарбаў у бяздонным акіяне мінулага, ён даваў нырца і апускаўся на глыбіні, куды мала хто сягаў, пераадольваў страшэнны ціск сучаснасці, гатовай раздушыць любога занадта цікаўнага смельчака, здабываў і выносіў на сонца золата фактаў, якія не трацяць ў цане, які б шторм не бушаваў на паверхні.

Рыхтуючы тыя свае тэксты да перавыдання, я ўсё ж тое-сёе падправіў і дапоўніў — у тым ліку з дапамогай знаходак архівіста, які выглядаў, як магутны вадалаз, але меў лёгкую душу легендарнага Іскандэра, чалавека, які жыў у дзвюх стыхіях адначасна, мінулым і цяперашнім.

Цяпер да іх дадалася трэцяя — гісторыя.

## Уладзімір Кармілкін, чалавек хронікі*

Валодзя Кармілкін, няштатны загадчык гаспадаркі ў сядзібе БНФ і нястомны фатограф Адраджэння, самы дзіўны прапаршчык у гісторыі незалежнасці, худы, як шчэпка, з нязводнымі карамелькамі ў кішэні, верны, прыязны і заўсёды рады сустрэчы, як сабака (я перакананы, што параўнанне чалавека з сабакам — камплімент чалавеку, а не сабаку, для мужчыны, прынамсі), кожнага разу, калі бачыліся, дарыў мне свае аддрукаваныя глянцавыя чорна-белыя фоткі. Нейкім загадкавым чынам ён аказваўся там, дзе я выступаў ці браў інтэрв'ю, ці падпісваў кнігу — і цяпер тыя падзеі, цэлыя кавалкі свайго жыцця я памятаю толькі таму, што побач быў Кармілкін, і памятаю так, як ён іх убачыў, і не памятаю, што ж там было яшчэ і хто застаўся за кадрам.

Кармілкін быў чорнарабочым летапісання — здымаў усё і ўсіх, не зважаючы на значнасць падзеі ці асобы, чым мог і як умеў. У выніку па колькасці ўнікальных фота яго архіў не саступае самым прызнаным прафесіяналам, і ніводная хроніка 90-х не будзе поўнай без яго даробку. Я расказаў пра Кармілкіна архівістам Гувераўскага інстытута вайны, рэвалюцыі і міру, дзе быў стыпендыятам, і ў 2001 годзе, пасля вяртання з Каліфорніі, пачаў з ім гаворку аб перадачы яго калекцыі ў гэтае самае вялікае ў вольным свеце сховішча дакументаў з тэрыторыі былога СССР.

Паведамленне пра яго смерць наступным летам заспела мяне ў Італіі, і цяжкае бліскучае мора пад абрывам у Генуі, і белыя ветразі, на якія я глядзеў, калі начытваў для вечаровага выпуску навінаў развітальнае слова, стваралі пейзаж, які больш пасаваў бы якому-небудзь мічману, але няма розніцы ў званні паміж

* Фатограф, 1934—2002.

прапаршчыкам і мічманам, і я потым не здзівіўся, калі адна слухачка з Італіі прыслала мне спачуванне.

На яго гранітным помніку выбіты надпіс: «Летапісец вольнай Беларусі». Яго калекцыя засталася ў Мінску, але не знікла, як я баяўся, а паволі ператвараецца ў лічбы і займае сваё месца ў космасе інтэрнэту.

Калі ў сядзібе БНФ на Варвашэні адбывалася прэзентацыя кнігі Уладзі Арлова «Імёны Свабоды», усе выступоўцы згадвалі, што сярод герояў беларускай гісторыі ў кнізе ёсць і партрэт Кармілкіна, і адразу ў зале нешта адбывалася, быццам тэмпература падвышалася на пару градусаў і хваля лагоднага брызу накрывала аўдыторыю, і ўсе міжволі ўсміхаліся, нават тыя, хто Валодзю не ведалі, як, напрыклад, крыху падобны да Кармілкіна беларускамоўны пасол марской дзяржавы Швецыі Стэфан Эрыксан, які, канечне, узяў бы яго на працу фатографам у сваю амбасаду, але яе закрылі.

## Вера Рыч, чалавек танца*

Вера скінула туфлі — яна ніколі не любіла абутак, вопратку, якіяміналі рухацца, — зрэшты, яна не любіла нічога, што замінала свабодзе, якую яна выбрала сама для сябе — свабодна маліцца, спяваць, чытаць, перакладаць, гаварыць, думаць, любіць па-беларуску — ці гэта свабода выбрала яе, калі аднойчы разам з маці яна зазірнула на сціплае набажэнства ў маленькай царкве, схаванай у лонданскім раёне Фінчлі, і не змагла не вярнуцца, бо адчула, што гэта яе месца ў свеце — і калі яна ўпершыню прыехала ў Беларусь у 1990-м ці 1991-м, і пасялілася ў нас дома, мы мелі шчасце два тыдні ашаламляцца, інaчай і не скажаш, яе фантастычнай эрудыцыяй, ад моманту, калі сядалі

* Перакладчыца, 1936—2009.

за сняданак, да позняй ночы, калі яна вольна ўзлягала на канапу пасля доўгага дня сустрэчаў, вершаў і танцаў — а той танец быў у Доме літаратара, пасля банкета, калі зайграла музыка, і яна пайшла ў скокі з Адамам Мальдзісам, а потым з іншымі, мяняючы партнёраў, спяваючы і смеючыся ад шчасця — адзін туфель яна зашпурнула некуды так, што мы потым так і не знайшлі, што ніяк не паўплывала на агульны настрой, толькі таксіст ніяк не мог зразумець, на якой мове спявае і смяецца басаногая пасажырка — завершанасць яе цікавіла толькі ў тэкстах — як агонь, як вада, назвала яна першую кнігу сваіх беларускіх перакладаў і стала неўязной у краіну сваіх паэтаў, але краіна ўсё ж прыйшла да яе — і калі праз дзесяць год пасля яе першага дэсанта ў Беларусь мы на радыё захацелі выдаць кнігу «Верш на Свабоду» па-англійску, канечне, першы званок быў у Лондан — і яна, якая ведала, здаецца, усё, проста засыпала рэдактараў Валянціну Аксак і Аляксандру Макавік такімі шчаслівымі пытаннямі пра метафарычныя тонкасці беларускіх паэтаў, пра якія, баюся, тыя і самі не падазравалі — бо яна прызнавала толькі паўнату дакладнасці, і таму калі перакладала «Пінскую шляхту», здолела падарыць сваёй першай роднай мове мілае беларускае пажаданне «Хрэн табе ў вочы!» — уяўляеце, як цяжка дадаць новы арыгінальны сакавіты выраз да мовы піратаў і шэкспіраў, і я ўжо чуў, як яго ўжываюць ангельцы — і тады, летам 2008-га, я бачыў яе апошні раз, на прэм'еры-чытанні гэтай п'есы, пасля мы паехалі ў Фінчлі, у беларускую бібліятэку да айца Аляксандра Надсана, і ў мяне не было дробных грошай на квіток, і яна пазычыла тры фунты, якіх я не паспеў аддаць, прабач, Вера, я куплю за іх чаго-небудзь моцнага, запрашу сяброў і мы разам падзякуем за пачастунак, які ніякі не апошні, бо ўсе, каму дарагая беларуская паэзія і свабода, ведаюць, што разам яны перакладаюцца як вера, няважна, з вялікай ці малой літары, бо чытаецца і чуецца заўсёды з вялікай.

## Іосіф Бродскі, чалавек імперыі*

Ад Бродскага я пачуў толькі адно беларускае слова — «не трэба». Дакладней, гэтак ён спрабаваў сказаць па-ўкраінску, а напісаў «не треба».

Год быў 1994, не памятаю, вясна ці восень, але ў Нью-Ёрку было горача, і народ на вечарыну Бродскага ў мясцовым універсітэце прыходзіў у летняй лёгкай вопратцы, велізарны амфітэатр паціху запаўняўся, разам з англійскай гучала руская мова, але вечарыну адкрываў амерыканскі прафесар, Бродскі гаварыў, а потым чытаў вершы таксама па-англійску, і калі перайшлі да пытанняў, першай была просьба пачытаць па-руску.

Бродскі адмовіўся:

— Мы на тэрыторыі амерыканскага кампуса, мяне запрасілі выступіць перад амерыканцамі, трэба паважаць гаспадароў.

Але эмігранцкая публіка настойвала, прасіла, хацела пачуць паэта «на мове арыгінала» (хаця англійскія вершы Бродскага былі якраз не перакладамі, а арыгінальнымі творамі — не толькі празаічныя эсэ, але і паэзію ён пачаў пісаць па-англійску).

І Бродскі пагадзіўся — адзін верш. І сказаў, што прачытае новы твор, які яму самому падабаецца. Паэтам заўсёды падабаюцца апошнія вершы, пакуль яшчэ распаленыя зычныя і галосныя зацвердзяваюць у літой форме радка, уздыбленага акцэнтамі і націскамі, які здзіўляе самога аўтара эпітэтамі, назоўнікамі і рыфмамі.

Назва — «На независимость Украины». Класічная традыцыя, блізкая Бродскаму, ён не раз ёй карыстаўся раней. Але Украіна ўжо была незалежнай тры гады, калі расійскі выгнаннік напісаў:

---

* Паэт, 1940—1996.

*Скажем им, звонкой матерью паузы медля строго:*
*скатертью вам, хохлы, и рушником дорога!*

Нобелеўскі лаўрэат 1987 года ўзгадаў і любімы адрас, куды па народнай традыцыі ўсіх пасылаюць, калі што не так:

*Ступайте от нас в жупане, не говоря — в мундире,*
*по адресу на три буквы, на все четыре стороны.*

Званне «Амерыканскі паэт-лаўрэат», які ўсталяваў Кангрэс ЗША і якім Бродскі быў уганараваны ў 1991-м, мае задачу спрыяць папулярызацыі паэзіі ў краіне (Бродскі прапанаваў прадаваць зборнікі паэзіі ў супермаркетах), добра што не геапалітыкі, а то бы Магілёў змыла:

*Прощевайте, хохлы, пожили вместе — хватит!*
*Плюнуть, что ли, в Днипро, может, он вспять покатит.*

Нацыянальнасць людзі мастацтва часам лічаць фундамнтальнай, асноватворнай рысай (Васіль Быкаў: «Я — беларускі пісьменнік»), часам у дачыненні да іх ужываюцца некалькі характарыстык адначасна (Марк Шагал — габрэйскі, рускі, беларускі, французскі....), але Іосіфа Бродскага, здаецца, ніхто не называў кацапам апроч яго самога:

*Не нам, кацапам, их обвинять в измене.*
*Сами под образами семьдесят лет в Рязани*
*с залитыми глазами жили, как при Тарзане.*

Гэтая бязлітасная — не самакрытыка і не самаіронія, а халодная, пазбаўленая сантыментаў, як справаздача паталагаанатама, канстатацыя быццам прызнавала, што гэта быў труп менавіта імперыі, якая развалілася па швах, па сценках турэмнай кладкі, і гэта прымірала разнастайную аўдыторыю з самой сабой — аж

пакуль, як удар атрутнага хваста гіганцкага скарпіёна, не паласнулі па зале заключныя радкі:

*С Богом, орлы, казаки, гетманы, вертухаи!*
*Только когда придёт и вам помирать, бугаи,*
*будете вы хрипеть, царапая край матраса,*
*строчки из Александра, а не брехню Тараса.*

Апладысменты, доўгія, злева, справа, знізу. Пасля — зноў пытанні, і вядучы заўважыў маю паднятую руку. Я гаварыў па-англійску, і пытанне было пра здольнасць пісьменніка ствараць на замежнай мове, чаму такіх прыкладаў мала і чаму гэта выключна на англійскай (Бродскі ў адказ гаварыў пра фінансавыя акалічнасці), але спачатку я пракаментаваў верш:

— Вы сказалі, што гэты верш падабаецца Вам самому. Я назаву імя яшчэ аднаго чалавека, якому ён таксама, напэўна, вельмі падабаецца, — Уладзімір Жырыноўскі.

Зала выбухнула — як аказалася, у публіцы было шмат украінцаў, і не толькі ўкраінцаў, апладысменты лавінай каціліся на сцэну з трыбунаў амфітэатра, паэт Сяржук Сокалаў-Воюш, з якім мы прыйшлі на імпрэзу, ледзь не кінуў у Нобелеўскага лаўрэата свой дыктафон, і калі хваля сціхла, Бродскі сказаў нешта кшталту, што ён не ў адказе за ўсякую свалату, якой падабаюцца яго вершы.

*А что до слезы из глаза —*
*нет на неё указа, ждать до другого раза.*

Тры рэчы на развітанне.

Пасля вечарыны Бродскі падпісаў мне кнігу «Холмы» — і яна цяпер стаіць на маёй паліцы разам з вершамі Максіма і Янкі.

Апошнім словам у вершы муза Бродскага паставіла ўсё ж не Пушкіна, а Шаўчэнку.

Бродскі прачытаў «не треба», як напісаў, з рускімі мяккімі «н» і «р» . Па-ўкраінску пішацца так, а чытаецца — «нэ трэба».

Цвёрда.

## Валянцін Тарас, чалавек выдыху*

Хто: інтэлігент, пісьменнік, журналіст, партызан, дысідэнт, беларус, габрэй, еўрапеец, лацінаамерыканец, філосаф.

Які: таленавіты, мудры, шчыры, стрыманы, смелы, цвёрды, іранічны, бліскучы, лёгкі, малады.

Што любіў: пісаць вершы, перакладаць прозу, успамінаць стары Мінск, спрачацца пра літаратуру, сустракацца з сябрамі, дапамагаць іншым.

Чаго хацеў: свабоды для нацыянальнай культуры, свабоды для будучага пакалення, свабоды для Беларусі.

Што змог: стаць свабодным.

Як: Васіль Быкаў называў яго «Валя» — зусім не па-быкаўску, не стрымана, з дыстанцыяй, а як выдых на люстэрка, каб потым лепш пабачыць сябе самога, блізка-блізка, цёпла-цёпла, светла-светла.

## Паўлюк Урбан, чалавек рукапісу**

— Ну вось, зноў нарабілі памылак, глядзі! — Паўлюк азартна працягвае свае нататкі, якія вядзе гадамі, слухаючы эфір «Свабоды».

Кожнага разу на працягу больш чым пятнаццаці гадоў, калі я завітваю ў яго дом на ўскрайку Мюнхена, назіраю адну і тую ж

* Паэт, 1930—2009.

** Гісторык, 1924—2011.

карціну: на століку ў цэнтры пакоя стос новых кніг, два кароткахвалевыя прымачы, старая друкарская машынка, часопісы, лісты. Гаспадар слухае радыё штодня, робіць запісы і не прапускае магчымасці пакпіць з моўных вольнасцяў, але ў цэлым ухваляе.

— Ну вось, глядзі, што прыйшло! — на новую літаратуру, як і на падтрымку навуковых даследаванняў у Беларусі, ён ахвярue палову пенсіі. На стале ляжаць таўсценныя фаліянты з гісторыяй Еўропы і старажытнага свету на розных мовах, з закладкамі, аўтарскімі пазнакамі на дзясятках старонак — важна, няясна, спрэчна, недарэчна.

— Ну, гэта мы зараз удакладнім! — у Паўлюка няма камп’ютара, затое ёсць бібліятэка, якая займае цокальны паверх, поўная кніг, большасці з якіх няма ў інтэрнэце. Даваенныя энцыклапедыі, падшыўкі, сотні кніг па-беларуску, руску, польску, нямецку, рэдкія выданні — паветра пахне акадэмічнай мудрасцю. На паліцы і дзве яго кнігі, «У святле гістарычных фактаў» — адказ савецкаму акадэміку Абэцэдарскаму на яго публікацыю пра быццам «неабвержныя» факты ўсеагульнага паходжання з рускіх, і «Старажытныя ліцьвіны», адказ беларусам пра паходжанне беларусаў. Трэцяя кніга, пра гісторыю імёнаў, пакуль у рукапісе.

— Зноў запрашаюць, але не паеду! — Паўлюк — зацяты дамасед. Запросіны на канферэнцыі з цягам часу яму перасталі прысылаць, на беларускія святы яго запрашаюць рэгулярна, але ўжо гадоў дзесяць ён перамагае самых настойлівых і нікуды не выязджае.

— Янка напісаў, Ірка званіла, Ларыса заходзіла. — Гэтыя трое — яго найбліжэйшае кола зносінаў з навакольным светам, якое не мяняецца з года ў год. Найстарэйшы, яшчэ з часоў паваеннай працы на шахтах у Англіі, сябра Янка Запруднік, жыве ў Амерыцы і акуратна шле лісты, дачка Ірына, якой ён гана-

рыцца больш за свае кнігі, падарожнічае па свеце і рэгулярна звоніць, Ларыса Верас, з якой яны ажаніліся, калі разам працавалі на «Свабодзе», нягледзячы на тое, што ў іх даўно ўжо сваё асобнае жыццё, прыходзіць у адведкі.

— Назбіраў грыбоў і ўсе выкінуў — радыяцыя! — расказвае Паўлюк, ён любіць самоту і цішыню, да цяжкай аперацыі штодня гуляў па лесе, але апошнія пару гадоў ужо не рызыкуе выбірацца далёка.

— Куды я паеду, чаго?! Мне вось кнігі прыйшлі, рукапіс скончыць трэба! — кажа як заўсёды ўпарты Паўлюк і так і застаецца ў сваёй хаце на ўскрайку Мюнхена, дзе пад вокнамі квітнеюць ружы, пахне сасна, зелянее яблыня, і ён разгортвае старонкі, запраўляе белы аркуш у друкарку, уключае лямпу і піша, піша, піша...

Напісаў. Засталося.

## Віталь Тарас, чалавек удыху*

Апошні ліст ад Віталя Тараса я атрымаў у дзень, калі споўнілася б 80 гадоў ягонаму бацьку, бліскучаму і смеламу літаратару і чалавеку, і я надрукаваў свае ўражанні ад нашага знаёмства.

Сын пісаў:

Дзякуй, Аляксандар, за добрыя словы пра бацьку!

Усё праўда.

Так надарылася, што мы сёння пілі за яго ў маёй маці, акурат пад фотаздымкам, на якім мой бацька разам з Вашай жонкай Святланай у Празе.

Яшчэ раз шчыры дзякуй,

*Віталь*

---

* Журналіст, 1956—2011.

Віталь стаў першым журналістам з Беларусі, якога я як дырэктар Беларускай службы запрасіў на працу ў Прагу. Потым з Мінска мы рэгулярна запрашалі журналістаў папрацаваць у галоўнай рэдакцыі, каманда ўвесь час абнаўлялася і абнаўляецца, але ён быў першы. І калі мы сабралі і выставілі на сайце ўсе публікацыі, праграмы, перадачы, якія стварыў Віталь на «Свабодзе», узнікла адчуванне, што там схавана некалькі кніг — інтэлектуальныя пошукі еўрапейскай ідэнтычнасці, даследаванні таталітарызму і сакрэтных службаў, дылемы свабоды і культуры.

У яго перадачах гучалі галасы Васіля Быкава і Далай-ламы, музыка Альфрэда Шнітке і Пітэра Габрыэла, меркаванні колішніх вязняў турмы КДБ і маладых філосафаў.

Перадусім яго цікавіў маральны погляд на рэчы, якія звычайна адрынаюць маральны інструментар — палітыка, нацыянальная дзяржава, глабалізацыя, ядзерная энергетыка. Ён шукаў чалавечае вымярэнне гісторыі, ведаючы, што насамрэч маральнасць не патрабуе рацыянальных тлумачэнняў — гэта рацыянальныя рэчы мусяць праходзіць іспыт маральнасцю.

Віталь працаваў у эфіры 22 чэрвеня 2003 года — менавіта з яго вуснаў у той дзень Беларусь уведала пра смерць Васіля Быкава. Сам Віталь потым казаў, што гэта быў найважнейшы жывы эфір, які ён адкрываў.

Яго сціплая ўсмешка, стрыманая інтанацыя, адкрытая для іншых меркаванняў, заўсёдная прыстойнасць і нябачная ўпартая сіла супраціву хаосу жыцця стварала вакол яго светлую аўру. Я ніколі не чуў ад яго скаргаў і нараканняў на лёс. Толькі ён і блізкія людзі, маці і жонка з сынам ведаюць, чаго гэта каштавала.

Апошняя наша сустрэча адбылася пад час прэзентацыі кнігі «Як?» Сяргея Дубаўца — ён быў яе рэдактарам, аўтарам пасляслоўя і, ужо невылечна хворы, прыйшоў і выступаў у перапоўненай залі мінскай філармоніі. Яму доўга і цёпла пляскалі.

Яго заўсёды вабіла небяспечная формула «тут і цяпер», якая патрабавала затрымаць жыццё на ўдыху і шукаць адказу аж да стуку ў вісках, да закіпання крыві, да сардэчнай сутаргі.

Знайшоў, там і тады.

## Уладзя Каткоўскі, чалавек.org*

Мы называлі яго Валодзечкам. Ён быў самым маладым супрацоўнікам Беларускай службы, калі пачаў працаваць вэбмайстрам у 2004 годзе.

За тры дні да свайго 30-годдзя, у сонечны дзень 15 чэрвеня 2006-га, Уладзя і яго жонка Янада, адзіная грамадзянка Албаніі з бездакорнай беларускай мовай, патрапілі ў аўтамабільную катастрофу ў цэнтры Прагі.

Жонка страціла нагу, Уладзя з таго часу знаходзіўся ў коме.

Пасля амаль года барацьбы лекараў за яго жыццё, бацькоўскай штодзённай шматгадзіннай вахты Уладзя памёр.

Ён быў бліскучы вэб-майстар, блогер, энтузіяст беларускага інтэрнэту. Гэта Уладзя дамогся, каб самы вядомы ў свеце пошукавік Google запрацаваў і па-беларуску.

Галоўны плён яго працы — сайт svaboda.org, а кульмінацыяй стаў сакавік 2006 года, час прэзідэнцкіх выбараў і масавых пратэстаў, час першай Плошчы — у той месяц сайт «Свабоды» наведала чвэрць мільёна чалавек, і тады гэта быў адметны рэкорд. Ён падтрымліваў працу сайта «Мартыралога Беларусі», дзе друкаваліся імёны ахвяраў рэпрэсіяў.

Яго нікі rydel23 і BR23 былі добра вядомыя ў беларускай інтэрнэт-супольнасці, а таксама сярод англамоўных карыстальнікаў, якія цікавяцца Беларуссю.

---

* Вэб-майстар, 1976—2006.

У 2006 Уладзя атрымаў Гран-пры конкурсу беларускіх кантэнт-праектаў, якія праводзіў партал TUT.BY, — першым месцам былі адзначаныя ягоны блог і сайт.

Ён ведаў пра ўзнагароду, але не паспеў атрымаць.

Відаць, можна было б напісаць, што Уладзя быў беларускім нацыяналістам, настолькі шчыра жыў ён усімі беларускімі справамі і апантана ён займаўся ўлюбёнай справай, не лічачы гадзіны, выхадныя дні, вольны час. Гэтаксама правільна назваць Уладзю беларускім еўрапейцам ці амерыканцам, які пасля заканчэння ліцэя пры БДУ два гады вывучаў фізіку ва ўніверсітэце, пасля год вучыўся ў Амерыцы, затым вывучаў праграмаванне і журналістыку ў Амерыканскім універсітэце ў Благоеўградзе (Балгарыя), дзе сустрэў сваю будучую жонку Янаду Рапо, якая цяпер па-беларуску гаворыць як на роднай альбанскай. Пасля заканчэння працаваў у Будапешце, Франкфурце-на-Майне, Празе. З такімі, як Уладзя, звязаная будучыня свабоднай Беларусі ў Еўропе.

Апошні год, калі Уладзя ляжаў у коме ў адным са шпіталёў Прагі, заўсёды побач з ім былі бацькі, Ірына і Леанід, мужныя і глыбока інтэлігентныя людзі, эталон паводзінаў у такой трагічнай сітуацыі. Ніхто не ведаў, ці ўспрымае Уладзімір навакольны свет. Але калі ўспрымаў, гэта быў беларускі свет. Праз яго навушнікі гучалі перадачы «Свабоды» ў запісе, бацькі раздрукоўвалі навіны з сайта svaboda.org і чыталі ўголас, ля ложка заўсёды былі кнігі «Бібліятэкі Свабоды».

Народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін прысвяціў быў Уладзю такія радкі:

*Каткоўскі — рупны web-мастак,*
*Умее зрушана, нязмушана*
*Сайт па-крывіцку ўбачыць так,*
*Што сайт рашуча збеларушвае*

*Ўсіх праз дапытны інтэрнэт,*
*Каму баліць крывіцкі свет.*

Цяпер яны на яго помніку на невялікіх акуратных могілках у Мінску. Гэта першы помнік у Беларусі, а можа і ў свеце, на якім выбіта не толькі імя, але і нік інтэрнэт-карыстальніка, бронзавая фігура на барэльефе схілілася над камп'ютарам, у правай руцэ мыш, левая рука працягнута да манітора, ці то на нешта паказвае, ці развітваецца, і вэб-майстар вось-вось адляціць туды, дзе анёлы ткуць сваю сусветную павуціну:

www.www.www.www.www.www.www.www.www

## Сяргей Цімохаў, чалавек джаза*

У верасні 2012-га, на апошнім дні нараджэння, Сяргей расказваў пра свой прызыў у войска на пачатку 80-х, ужо пасля інстытута.

Пачуўшы беларускую, афіцэр у ваенкамаце збялеў ад нянавісці, пачаў крычаць, што навучыць яго любіць радзіму, што бедныя яго бацькі і што ў арміі яго згнояць. Цімохаў устаў і цвёрда папрасіў спыніць абразы. Сказаў, што яго бацькі жывуць у вёсцы і ім ганарацца, і ім ёсць чым ганарыцца — бо ён добры сын, і сам дасягнуў усяго, вывучыўся, выдатна скончыў інстытут.

Пагрозы працягвалі сыпацца. Цімохаў напісаў заяву — яе падпісалі яшчэ некалькі чалавек — і занёс ваенкаму. Той толькі ўздыхнуў і сказаў, што гэта не першая скарга — пра пачвару ў пагонах, аказваецца, усе ўсё ведалі.

---

* Мастак, 1960—2012.

Калі праз год Сяргей прыехаў у адпачынак з Чорнага мора, дзе служыў, і зайшоў у ваенкамат, каб стаць на ўлік, дык уведаў, што вырадка ўжо звольнілі.

Ён расказваў гэту гісторыю, седзячы за святочным сталом, з прыемнай усмешкай, і бачна было, як жыва ўспомнілася тое выпрабаванне і тое, што не змаўчаў, і як файна скончылася.

Насамрэч, канечне, не скончылася, і незалежнасць яшчэ маладая, і вырадкаў хапае ўсякіх, з пагонамі і без. Ды толькі Сяргею было заўсёды чым ганарыцца, а ім не, і ніколі не будзе.

Ён быў шчаслівы на сяброў — і ў мастацкай вучэльні, і ў інстытуце, і ў «Майстроўні», і ў Беларусі, і ў Польшчы, і ў Нямеччыне, і ў Чэхіі. Ён быў блізкім сябрам майго блізкага сябра, таксама мастака, які апекаваўся ім у яго апошнія месяцы так, як дай Бог усім — і было таксама шчасцем для сяброў ведаць Ціму, Цёму, Сярогу, Сержука.

Які Сяргей сам быў шчаслівы, найлепш, верагодна, ведаюць дачка і сын, жонка Рыта, усе трое, як і ён, мастакі. Але яго карціны — творы чалавека, які напэўна ведаў, што такое шчасце.

Калі яго жывапіс можна параўнаць з арганнай музыкай, дык графіка была джазам, але не толькі, бо яшчэ і танцам, і вінам, і каханнем, і я неяк сказаў яму, што Цімохаў мне падабаецца больш за Мадзільяні і больш за Пікаса, і ён засмяяўся, а я казаў сур'ёзна, і чым больш я гляджу цяпер на эратычныя лініі, якія пачынаюцца там, дзе спыніўся Бацічэлі, на золата і бронзу, якія, у адрозненне ад Клімта, ён расціраў на аркушы далонню, на тонкія абрысы часу, спыненага ў вечнасці, тым менш разумею гэты цуд, ад якога немагчыма адвесці вочы, хіба толькі для таго, каб змахнуць слязу.

## Роберт Конквест, чалавек травы*

Мякка кажучы, не самая лепшая ідэя — пытацца аўтара самага знакамітага ў свеце даследавання савецкага таталітарызму, якое вывучаюць ва ўсіх прыстойных універсітэтах, паэта, якога перакладаў сам Рыгор Барадулін, чалавека, уганараванага за словы, якія ён напісаў на паперы, найвышэйшымі дзяржаўнымі ўзнагародамі ЗША, Вялікабрытаніі, Польшчы, Эстоніі, Украіны — я мог бы, вядома, працягваць характарыстыкі, нават згадаць тут пра пяць жонак Конквеста, — але ўжо са сказанага ясна, што задаваць такому суразмоўцу пры першай сустрэчы першае пытанне пра правілы хаджэння па газонах — не самая лепшая ідэя.

Я задаваў і іншыя пытанні — што было б, калі б Ленін пражыў яшчэ дзесяць год, ці не памыліўся яго любімы Оруэл з прыродай таталітарызму, чаму, на яго думку, Беларусь завязла ў багне савецкага мінулага — але напачатку спытаўся пра траву.

Гэта быў першы мой тыдзень у Гувераўскім інстытуце, куды я прыляцеў як першы стыпендыят ад Радыё Свабода. Канец жніўня, навучальны год пачынаецца толькі праз месяц, Стэнфардскі ўніверсітэцкі гарадок пусты. Гарадок — гэта так называецца, насамрэч хутчэй раён, які раскінуўся на сотнях гектараў, які прарэзваюць асфальтавыя дарогі, веласіпедныя дарожкі, акуратныя алеі, тратуары, выкладзеныя бетоннай пліткай, а паабапал зелянее, нягледзячы на каліфарнійскае сонца, сакавітая трава, якую паліваюць тайныя водаправоды.

Па такой траве хочацца хадзіць не толькі таму, што напраcткі бліжэй, але таму, што на ёй хочацца валяцца, рабіць пікнікі, гуляць у мяч ці фрысбі — але кампус пусты, хто яго ведае, як тут

* Гісторык, нар. 1917.

прынята, у Амерыцы нават піва п’юць з пакетаў, каб не арыштавалі.

На кніжнай паліцы ў заваленым паперамі, часопісамі, гранкамі офісе Конквеста недзе стаяць кнігі Алеся Адамовіча, пераклады Васіля Быкава — імёны гэтых двух беларусаў гаспадар добра ведае, гэтаксама, як імёны Чарвякова, Галадзеда, Шаранговіча, Панамарэнкі, Цанавы, і мы пра іх яшчэ з ім пагаворым, але пазней.

Галоўная праблема, якая цікавіла Конквеста на пачатку XXI стагоддзя, была скажоная рэальнасць: якім чынам нараджаецца адчужэнне і інтэлектуальная агіда да рэальных фактаў жыцця, якая выяўляецца як негатыўныя ўтопіі (капіталізм дрэнны, глабалізм дрэнны, дэмакратыя дрэнная) і спалучаецца з нецярпімасцю і перакананасцю ва ўласнай праваце. Ён не ідэалізаваў Захад — наадварот, падкрэсліваў, што дзве самыя разбуральныя ідэалогіі XX стагоддзя былі параджэннем заходняй культуры. Але рэалістычны погляд дазваляе бачыць насамрэч вартае і ведаць яму цану сярод акіяна прыкрасцяў, несправядлівасцяў і іншай недасканаласці свабоды.

Конквест уступіў у брытанскую кампартыю дваццацігадовым, у 1937-м, выйшаў у 1948-м, жахнуўшыся ад пабачанага ў Балгарыі і іншых сацыялістычных рэжымах. Ён стаў вывучаць гісторыю і вельмі хутка пераканаўся, што адкрытыя сталінскія працэсы, выкрыццём якіх ганарыўся Хрушчоў, — кропля ў моры злачынстваў калектывізацыі, галадамору і генацыду. Ад пачатку 1960-х Конквест ужо ўпэўнена пісаў пра распад СССР як пра нешта непазбежнае і немінучае: рэжым радыкальна супярэчыць законам рэальнасці, і яго канец — толькі пытанне часу. Калі пасля 1991-га ўзбуяла ўбогая хімера — маўляў, ніхто не прадказваў такога канца, усё магло быць інакш, ён апублікаваў падборку са сваіх кніг за два з паловай дзесяцігоддзі, якія са спакойнай перакананасцю даводзілі, чаму, калі і як гэта адбу-

дзецца. Бо гісторыя — навука. Іначай, як казаў адзін герой Дастаеўскага, які ж я капітан, калі Бога няма.

Конквест не часта запрашаў наведнікаў у свой кабінет, аддаючы перавагу засяроджанай працы ў цішы. Ад яго офіса да адведзенай мне даследчыцкай келлі ў Гувераўскай вежы было метраў дзвесце, але я не бачыў нават будынка: акно не мылі з мінулага дажджу, гады прыкладна тры, як удакладніла супрацоўніца з суседняга кабінета. На другі дзень я знайшоў анучу, набраў вады, залез на падаконнік і стаў мыць шыбы.

Аказалася, што гэта было самым правільным крокам, які адкрыў мне дзверы ў замкнёны свет нобелеўскіх лаўрэатаў, прэзідэнцкіх дарадцаў, былых і будучых дзяржаўных сакратароў і, самае галоўнае, іх сакратарак. Верагодна, лічылася, што чалавек, які сам мые свае вокны, варты даверу.

Мая суседка па калідоры аказалася шматгадовай памочніцай Конквеста, яе імя стаіць у прысвячэннях у ягоных кнігах, ён згадвае Эмі Дэсаі ва ўступах і заключэннях, г. зн. самых інтымных месцах кнігі, якія аўтар піша для самога сябе.

Яна і завяла мяне да Конквеста. На яго радзіме, у Вялікабрытаніі, ён быў вядомы перш за ўсё як дарадца Маргарэт Тэтчэр у справах СССР, яна пра яго цёпла піша ў сваіх мемуарах, і я спытаўся — што ж такога мог гісторык парадзіць прэм'ер-міністру ў 1979-м, годзе пачатку афганскай вайны, што не маглі штатныя палітычныя кансультанты, аналітыкі, міністры і дыпламаты.

— Гэта проста. Ва ўсіх справах з савецкім кіраўніцтвам трэба памятаць, што яны выглядаюць, як мы, апранаюцца, як мы, гавораць, як мы, — але яны не такія, як мы. Словы гучаць аднолькава, але ў іх яны азначаюць зусім не тое, што думаем мы.

Тэтчэр неяк адразу ўспрыняла і зразумела, што ён сказаў — і разам з Рэйганам жалезнай рукой узяла за горла і трымала крамлёўскую братву, якая спрабавала па звычцы размахваць кулачкамі.

Раз на тыдзень той амерыканскай восенню я рабіў перадачу для радыё, якая называлася «Лісты з Каліфорніі», і музычнай тэмай была, канечне, непазбежная балада Eagles пра гатэль, у які можна пасяліцца, але немагчыма выпісацца. Страшнаватая метафара таго, што часам адбываецца пры сутыкненні ілюзіі з рэальнасцю. Адзін з «Лістоў» быў прысвечаны Конквесту, а паколькі ён падарыў мне сваю кнігу паэзіі, дык я зрабіў падрадкоўнік верша, у назве якога было слова «рэалізм», праўда, «сацыялістычны», і паслаў Рыгору Барадуліну, які пераклаў:

*Бясплоднае й паліраванае*
*Паветра бразгоча ў затаі*
*Над палітычным горадам;*
*Барабаны, статуі,*
*Арганізацыя адсутнасці*
*Любое любові.*

«Арганізацыя адсутнасці любові» — геніяльнае, па-мойму, вызначанне сацыялізму і мноства іншых «ізмаў».

Вось, бадай, і ўсё. Пошта зрэдзьчас прыносіць мне падпісаную ім кнігу, я перадаю прывітанні праз сваю сяброўку Эмі, паштоўкі ад якой працягваюць рэгулярна прыходзіць у Прагу, і калі мне ў розных месцах пры розных абставінах час ад часу робяць заўвагі, каб я не хадзіў па траве, я адказваю фразай рэаліста Конквеста:

— Я не думаю, што Бог стварыў мяне дзеля таго, каб я хадзіў па бетонных плітах.

## Эдвард Тэлер, чалавек бомбы*

Эдвард Тэлер, бацька амерыканскай вадароднай бомбы, дарадца прэзідэнтаў ЗША і фігура нон-грата сярод левых фізікаў і сусветнай прагрэсіўнай грамадскасці, у адказ на маю просьбу аб сустрэчы выцер губы сурвэткай (мы сядзелі побач на ўрачыстым абедзе ў Гувераўскім інстытуце), павярнуўся ўсім корпусам, утаропіў у мяне свой мегатонны погляд і спытаўся, як я стаўлюся да распаду СССР.

Я ўхваліў. Тады будзем размаўляць, сказаў ястраб халоднай вайны, і калі мы з сынам прыйшлі да яго ў офіс (я спытаўся, ці магу прывесці сына, які тады вучыўся ў школе ў Пала Альта, і Тэлера, здаецца, гэта ўзрадавала больш, чым гутарка з яшчэ адным журналістам), на стале ляжала падрыхтаванае яго фота, якое ён падпісаў для сына на памяць (не было тады яшчэ мабільных тэлефонаў з камерамі, цяжка паверыць — але не было).

Гутарылі пра бомбу і зброю новага пакалення (я пытаўся, чаму нельга пачакаць і пераскочыць праз пакаленне, гэта ж колькі грошай зэканоміцца, а ён адказваў у тым сэнсе, што дзе б мы тут усе прысутныя былі, каб пераскочылі праз пакаленне нашы бацькі, што выклікала недарэчную весялосць у майго сына); гаварылі пра Андрэя Сахарава, яшчэ аднаго бацьку вадароднай бомбы (бомба адна, а бацькі два, і гэта яшчэ больш развесяліла майго сына), і Тэлер крыху раўніва зазначыў, што пад час сустрэчы з акадэмікам не пагадзіўся з нейкімі ягонымі поглядамі, здаецца, на чарнобыльскі рэактар; Тэлер ведаў Эйнштэйна і Фермі, Бора і Гейзенберга і разам з Апенгеймерам удзельнічаў у Манхэтанскім праекце, і калі стваральнікі першай атамнай бомбы спалохаліся, што ланцуговая рэакцыя як пачнецца, дык ніколі не скончыцца і паглыне ўсю планету, менавіта ён зрабіў

* Фізік, 1908—2003.

разлікі, якія даказалі адваротнае (у гэтым месцы сын ажывіўся і спытаўся, а што, калі б памыліўся, і Тэлера відавочна зачапіў не канец свету, а тое, што нехта лічыць, што ён мог памыліцца, і сітуацыю ўратаваў мой любімы фізічны эфект назіральніка, які, як вядома, азначае, што нават электроны змяняюць свае арбіты, калі на іх глядзець, не кажучы ўжо, калі наступіць ім на нагу, і не важна, што да некага ў школу прыходзіў сам Стыў Джобс); якраз у разгары была прэзідэнцкая кампаніія 2000 года, і Тэлер расказваў, як быў дарадцам у Рональда Рэйгана, і калі той перадаваў пасаду свайму віцэ, Бушу-старэйшаму, дык сабраў дарадцаў на вячэру і сказаў — дзякуй, наш час сканчаецца, у новага прэзідэнта будзе свая каманда, і пасля гэтага Тэлер ужо ніколі не быў у Белым доме, хоць і запрашалі, бо трэба саступаць дарогу (кожны раз, калі я бачу на фотаздымках у сацыяльных сетках сына з новай незнаёмай асобай жаночага полу, я чамусьці ўзгадваю тую каліфарнійскую гутарку, хоць і папярэднія сяброўкі не знікаюць, магчыма, гэта нейкі новы фізічны эфект, калі нешта ўжо ёсць, дык не знікае).

Незадоўга перад нашай сустрэчай у Тэлера памерла жонка, ён раніцай пабачыў, што не дыхае, а ўвечары быў нейкі выступ, які ён не адмяніў, вось такі пазбаўлены сантыментаў звышчалавек, і пра гэта цяпер заўсёды згадваюць, калі пішуць пра Тэлера, і ніхто не ведае, што калі напрыканцы сустрэчы ён прапанаваў задаць якое-небудзь пытанне майму сыну, і той не вельмі, на маю думку, удала скарыстаў магчымасць і задаў прадказальнае пытанне, якое напэўна задавалі мільён разоў, пра найбольшае дасягненне, Тэлер звыкла адказаў, што вось зрабіў вадародную бомбу для сваёй краіны і так унёс свой уклад у папярэджанне трэцяй Сусветнай вайны, няблага, а? І сын сказаў, што тады выходзіць, што ён больш ганарыцца не тым, што зрабіў, а тым, што не адбылося, і Тэлер наступіў мне на нагу і пагадзіўся.

## Мілтан Фрыдман, чалавек гігіены*

З Нобелеўскім лаўрэатам і самым уплывовым эканамістам XX стагоддзя Мілтанам Фрыдманам я, верагодна, сустракаўся двойчы.

Прынамсі, каля Дома калгасніка, двухпавярховай гасцініцы адмыслова для працаўнікоў палёў і фермаў на вуліцы Камсамольскай, 3 у Берасці, я бываў шмат разоў, калі ўцякаў з урокаў і кіраваўся ў суседні кінатэатр на дзённы сеанс. Там я ўпершыню мог пабачыцца з аўтарам асноватворных працаў эканамічнай тэорыі мінулага стагоддзя «Капіталізм і свабода», «Свабода выбару», дзякуючы якім Маргарэт Тэтчэр, напрыклад, радыкальна вылечыла захопленую прафсаюзамі гаспадарку злучанага каралеўства, Эстонія з беднай савецкай правінцыі ператварылася ў «Балтыйскага тыгра», а Чыкагская школа эканомікі дагэтуль выклікае зубоўны скрыгат у прыхільнікаў калгасаў на ўсіх кантынентах.

У 1966 годзе Фрыдман з жонкай Розай выбраліся ў аўтобуснае падарожжа з Польшчы ў СССР. На Варшаўскім мосце (чаму так называецца гэтая пабудова праз Буг, якая знаходзіцца за дзве сотні кіламетраў ад польскай сталіцы і фактычна ў гарадской рысе Берасця, — паняцця не маю. Прапаную пераназваць, напрыклад, у мост Фрыдмана) аўтобус заглух.

Памежнікі захоўвалі ўзброены нейтралітэт, навокал была нічыйная паласа, бліжэйшая прыватная аўтамайстэрня знаходзілася ў Даніі, і пасажыры пачалі пхаць свой каўчэг праз геаграфічную дзірку, дзе не працаваў рухавік унутранага згарання і законы эканомікі, затое дзейнічаў другі закон Ньютана, паводле якога, каб прыдаць нейкаму целу паскарэнне, трэба прыкласці да яго сілу, і тады паскарэнне будзе наўпрост прапарцыйна ёй і

---

* Эканаміст, 1912—2006.

наадварот — масе аўтобуса з усімі валізкамі, сумкамі і схаванай кантрабандай.

На савецкім баку запрацавалі законы інтурыста, аўтобус падчапілі да трактара і разам з гасцямі дапёрлі да адзінага месца, адкуль можна было спешна выкінуць на вуліцу розных камандзіровачных гаспадароў сваёй краіны і свайго лёсу, як тады называліся будаўнікі камунізму.

Усё гэта я ўведаў ад самога Фрыдмана толькі праз траціну стагоддзя, пад час гутаркі ў яго офісе ў Стэнфардскім універсітэце, дзе спрабаваў задаваць яму пытанні, адказы на якія, як мне падавалася, будуць важныя для слухачоў і чытачоў у Беларусі. Што для каго важна, як вядома, насамрэч амаль невядома, і таму раю самім пачытаць Фрыдмана, і тое толькі таму, што гэта менш саманадзейна, чым друкаваць тут нашу гутарку пра эканоміку, свабоду ды іншыя пацеры чыстага розуму.

Але пра адну рэч усё ж не магу не сказаць, бо з ёй, не выключана, звязаны лёсы мільёнаў — ды што там, мільярдаў! — людзей ва ўсім свеце. І падазраю, што ведаю яе толькі я.

У Доме калгасніка адбылося наступнае: калі Фрыдманы зайшлі ў свой нумар, у ім не аказалася туалета. Ложак быў, тумбачка стаяла, лямпачка гарэла — але запрацавалі законы прыроды, і трэба было ў прыбіральню. Роза Фрыдман рамантычна ўспамінала, што муж адшукаў яе, як паляўнічыя-героі раманаў Фенімора Купера — па паху. Далей усё адбывалася, як у рамане Оруэла ці фільме Хічкока: зайшоў і аслупянеў. Усе чатыры кабінкі былі без дзвярэй. Усе былі занятыя. У кожнай чыталі газету.

Фрыдман ведаў пра камуністычную прапаганду, пра абавязковыя палітінфармацыі, пра прамыванне мазгоў. Але каб так паўсюдна, да такой ступені, з такой анатамічнай глыбінёй!.. Аднак у стан поўнага шоку, як ён прызнаўся праз дзесяцігоддзі, яго ўвяло не гэта.

Тут трэба нагадаць, што найважнейшым дасягненнем свайго жыцця Фрыдман, які быў дарадцам Ніксана і Рэйгана, называў не адкрыты ім закон манетызацыі ці тэорыю спажывання, стагфляцыю і іншыя нобелеўскія прыбамбасы, а адмену абавязковага прызыву ў амерыканскае войска.

Дык вось: у берасцейскай прыбіральні госці Дома калгасніка спраўлялі вялікую патрэбу седзячы на ўнітазе арлом.

— Мяне як ударыла, — расказваў Фрыдман. — Ядзерная звышдзяржава паставіла ўнітазы, а карыстацца імі не ўмеюць. Разумееце, што гэта значыла?..

Што гэта значыць сёння, паводле Вікіпедыі, выглядае так: у Беларусі на кожную тысячу чалавек прыпадае амаль 50 ваеннаабавязаных, а ў ЗША ў сем разоў меней, а зарплату за пагоны атрымліваюць адпаведна 7,6 і 4,6.

Афіцыйна лічыцца, што ЗША перайшлі на добраахвотнае войска, бо Фрыдман давёў, што абавязковы прызыў парушае свабоду выбару маладых людзей і такім чынам шкодны для ўсяго грамадства ва ўсіх сферах, уключна з вайсковай. Амерыканскае войска лічыцца самым моцным у свеце.

Цяпер вы ведаеце, чаму насамрэч. Фрыдман не зразумеў відавочнага: беларусы выбіралі позу арла, бо яна нашмат больш гігіенічная, чым сядаць на голы стульчак голым самі ведаеце чым.

Свабода выбару, як часам бывае, не адрознівалася ад яе адсутнасці.

А вось наадварот бывают толькі супадзенні.

## Вацлаў Гавэл, чалавек свабоды*

Пад час нашай першай сустрэчы, калі Гавэл быў яшчэ прэзідэнтам, па-англійску ён гаварыў прыкладна як я па-чэшску, а па-чэшску я гаварыў як два маіх калегі па-нямецку: паехалі ў Берлін, засядзеліся ў бары і калі да цягніка засталося 20 хвілін, кінуліся на вуліцу па таксі. Вадзіцель аказаўся іранец, па-англійску не разумеў, яны крычалі, што спазняюцца, паказвалі на гадзіннік, нарэшце знайшлі карту, ткнулі пальцам на Bahnhof, паляцелі, і тут той, што сядзеў ззаду, раптам з-за стрэсу ўзгадаў тры словы са школьнай праграмы, крануў таксіста за плячо і на чыстай нямецкай спытаўся «Wie viele minuten noch zu fahren?» Таксіст збялеў, даў па тармазах, стаў здымаць гадзіннік і даставаць выручку, бо вырашыў, што нарваўся на нямецкую шпану, а жыццё даражэй.

Адным словам, з Гаўлам па-чэшску я амаль не гаварыў. Першае інтэрв'ю я вёў па-англійску і перакладаў яго памочнік, а потым, калі ён ужо стаў «грамадзянін Гавэл» (менавіта так пачынаўся ліст Гаўла на радыё, датаваны снежнем 2011: «Як грамадзянін, які даўно сочыць за палітычнай сітуацыяй у Беларусі...» Падобна пачыналася Нобелеўская лекцыя Бродскага: «Як прыватная асоба...»), інтэрв'ю рабіў па-беларуску з дапамогай сваіх калег, якія вывучылі чэшскую так, што іх прымалі за славачак (беларуская бліжэй да славацкай).

Часам ён сам запрашаў на гутарку, часцей я званіў са сваімі просьбамі — і ніколі не было адчування дыстанцыі, недасяжнасці, нечага надзвычайнага. Я нават аднойчы спытаўся, чаму ён так апякуецца Беларуссю, можа, ёсць нейкая дзяўчына, і на стужцы ў мяне застаўся яго смех, спачатку ледзь чутны, ціхі,

* Дысідэнт, 1936—2011.

асцярожны, а потым усё больш адкрыты смех шматгадовага курца, які лёгка пераходзіць у кашаль.

Неяк сядзелі мы з калегамі ў пражскай кавярні «Krásný Ztráty» і адзначалі дзень народзінаў Васіля Быкава, ужо другі раз без імянінніка, які спачываў пад фінскім валуном на мінскіх могілках. Нехта сказаў, што ў суседняй зале — канферэнцыя, і там Вацлаў Гавэл. Вырашылі запрасіць — Гавэл ведаў Быкава, дапамагаў з пераездам, іх афіцыйная сустрэча ў Пражскім Градзе адбывалася ў верасні 2001-га, праз некалькі гадзінаў пасля тэрарыстычнага нападу на Нью-Ёрк, калі ўвага прэзідэнтаў усіх краінаў-сяброў НАТА, і не толькі іх, была занята зусім не літаратурай. Перадалі запросіны праз ахоўніка. Гавэл прыйшоў, усміхаўся, сам казаў мала, больш слухаў нашу чэхаславацкую мову, потым развітаўся, пакінуўшы адчуванне двайнога свята.

У 2008 годзе ў Вашынгтоне я патрапіў на сустрэчу са знакамітымі дысідэнтамі з розных краінаў, якую ў бібліятэцы Кангрэса ладзіў Нацыянальны фонд у падтрымку дэмакратыі. Гаўлу давалі нейкую ўзнагароду, і там я ўпершыню пачуў, як ён прамаўляў па-англійску. Гэта было, як з таксістам у Берліне, але яшчэ больш мяне ўразіла, што ён казаў пра сябе і іншых хартыстаў — дзіўнаватыя былі людзі, насілі доўгія валасы, слухалі андэграўнд, некаторыя мелі своеасаблівае ўяўленне пра гігіену і на прыём у заходнія амбасады маглі прыйсці адразу пасля змены ў качагарцы і выступалі так, што не адрозніць было, хто дысідэнт, хто шызафрэнік, тым больш, што часам гэта спалучалася. Міжнародныя дысідэнты смяяліся, бо пазнавалі ў гэтым апісанні сябе і сваіх сяброў. Гавэл ні з чаго ў жыцці не рабіў трагедыі, можа, таму, што трагедыі ў жыцці хапае і без нашых намаганняў.

Апошні раз я гаварыў з ім напярэдадні Новага 2011 года: мы рыхтавалі перадачу «Галасы салідарнасці», і я папрасіў яго прачытаць паўтара дзясятка імёнаў людзей, арыштаваных у

Мінску пасля прэзідэнцкіх выбараў. Я падумаў, што Гаўлам будзе правільна скончыць спіс, які налічваў больш за сямсот чалавек, і дыктаваў яму прозвішчы на «я»: Язерскі Сяргей, Якабчук Антон, Януковіч Алена...

Ён старанна паўтараў, часам некалькі разоў, пакуль не дасягалася больш-менш прыстойнае гучанне. Потым стаў распытваць пра Плошчу, дзе яго пасланне прачытала Наталля Каляда са Свабоднага тэатра, пра сваіх знаёмых — ці на волі, і прасіў перадаваць ім прывітанне. Я пасля перадаваў і адчуваў сябе, як Санта Клаўс, які раздае падарункі, даражэйшыя за свае скарбы.

Яго здароўе пагаршалася, усё часцей яго імя ў навінах сустракалася ў адным радку з назвамі шпіталяў, і калі я пазваніў перад Новым 2012 годам, каб папрасіць напісаць Каляднае прывітанне васьмі беларускім палітзняволеным, яго сакратар не быў нават упэўнены, ці зможа перадаць просьбу.

Аднак потым перазваніў і сказаў, што прывітанне будзе, толькі вось аўтар хварэе і не здолее сам прачытаць для эфіру. У чацвер, 15 снежня, электронная пошта прынесла зварот Гаўла, які пачынаўся словамі «Milý příteli...» У нядзелю, 18-га, мы скасавалі ўсю падрыхтаваную раней праграму, і ў жывым эфіры я чытаў гэты ліст. Гавэл не дажыў на новага года трынаццаць дзён. Потым яго памочнік, Марцін Вілдак, сказаў мне, што той зварот да беларускіх палітвязняў быў апошнім тэкстам, які Гавэл напісаў у сваім жыцці. Ён сканчаўся словамі «Přeji Vám vše dobré a svobodu Vaší zemi» — «Жадаю Вам усяго добрага і свабоды Вашай краіне».

Пажаданне, якое дагэтуль не страціла сваёй, як кажуць, актуальнасці.

Гавэл, напэўна б, усміхнуўся з гэтай маёй няўклюднай заўвагі і дадаў бы што-небудзь па-чэшску, кшталту «Držim palce», і я падумаў бы, што чамусьці трэба патрымаць суразмоўцу за

пальцы, а той бы спачатку здзівіўся, але не як іранскі таксіст, а трошкі, і патлумачыў бы, што палец па-чэшску — толькі вялікі (астатнія мілагучна называюцца «prst»), і вялікія пальцы складаюць і трымаюць у кулаку, што гэты выраз прыйшоў ад цэзараў і гладыятарскіх баёў, але азначае не апошні выбар — смерць ці жыццё, а надзею: будзем спадзявацца, будзем трымаць пальцы, пакуль надзея не спраўдзіцца. Гавэл ведаў напэўна, бо яго надзеі для яго краіны спраўдзіліся.

Звычайная справа. Проста трэба правільна трымаць пальцы.

## Васіль Быкаў, чалавек стагоддзя*

Чалавек слова, чалавек каменя, чалавек крыжа, чалавек праўды, чалавек маўчання, чалавек цярпення, чалавек зямлі, чалавек вайны, чалавек мёртвых, чалавек жывых, чалавек цяпла, чалавек прыцемку, чалавек туману, чалавек світання, чалавек годнасці, чалавек сціпласці, чалавек разумення, чалавек сяброўства, чалавек веры, чалавек стрыманасці, чалавек песімізму, чалавек горычы, чалавек паўзы, чалавек цвёрдасці, чалавек слабасці, чалавек супраціву, чалавек шанцавання, чалавек росту, чалавек глыбіні, чалавек адчаю, чалавек узыходжання, чалавек моцы, чалавек выбару, чалавек дарогі, чалавек дому, чалавек радзімы, чалавек свету, чалавек дэмакратыі, чалавек фронту, чалавек незалежнасці, чалавек сумлення, чалавек рэалізму, чалавек згушчанасці, чалавек прадчування, чалавек прарыву, чалавек трагізму, чалавек ад'езду, чалавек вяртання, чалавек вышыні, чалавек страты, чалавек болю, чалавек засцярогі, чалавек непазбежнасці, чалавек сцюжы, чалавек сцяны, чалавек вызвалення, чалавек волі, чалавек сумневу, чалавек ко-

---

* Беларус, 1924—2003.

раня, чалавек пакуты, чалавек скрыжавання, чалавек стрыжня, чалавек нематы, чалавек адзіноты, чалавек упартасці, чалавек знака, чалавек неабходнасці, чалавек трыумфу, чалавек бяды, чалавек стойкасці, чалавек выкуплення, чалавек пераасэнсавання, чалавек цішыні, чалавек музыкі, чалавек меры, чалавек развітання, чалавек паразы, чалавек адраджэння, чалавек перамогі.

# «Калісь глядзеў на сонца я...»

Ценю не бывае ад сонца — персанажы гэтых нататтак настолькі яркія ў сваіх сферах і ў сваім часе, што калі блізка да іх знаходзіцца, яны запаўняюць усё навокал сваім ззяннем. Іх цяжка разгледзець зблізку. Яны ўцягваюць у сваю арбіту. Яны могуць апячы і спапяліць.

Ценю не бывае ад карыкатуры — двухмернага партрэта не чалавека, а свайго ўспрыняцця асобы і яе дзеянняў, зведзенага да мінімуму і таму несправядлівага, як любы профіль несправядлівы ў адносінах да анфаса. Не кажучы ўжо пра выкраслены аб'ём, рух, колер.

І ценю не бывае ад пустаты.

Усе супадзенні з рэальнымі асобамі,
канечне, выпадковыя і наўмысныя.

## Чалавек без галавы

Без галавы ў тым сэнсе, што насамрэч ён — рука. Пытанне толькі — чыя ці чаго. Бога? Ягонага апанента? Гісторыі? Лёсу? Акалічнасцяў? Выпадку?

Версія мая такая: усё жыццё ён апынаецца ў тым месцы і ў той час, дзе сусвет стварае самога сабе і робіць гэта праз яго. Каб прыбраць недарэчную прычыннасць (быццам ён неяк па сваёй волі і выбару апынаецца «там» і «тады»), скажу яшчэ раз тое самае, толькі ўдакладню: сусвет ствараецца праз чалавека без галавы, калі той знаходзіцца ў стане рэзанансу.

Не ведаю, тут супадзенне ці нешта іншае, але ён фізік і ўсё жыццё займаецца менавіта рэзанансам — электронным, ядзерным, парамагнітным.

Гэты феномен — рэзкае ўзрастанне амплітуды змушаных ваганняў, калі частата ўздзеяння звонку супадае з унутранай частатой — з'яўляецца сэрцам любой падзеі, ад музыкі да вайны. Гісторыю сістэмы, народа, чалавецтва можна ўявіць у выглядзе ўніверсальнай крывой рэзанансу.

Звычайная лінейная сітуацыя без дай прычыны становіцца на дыбкі, потым кідаецца назад, каб паўтарыцца пры новым збліжэнні частотаў.

Не ўсё так проста ў гісторыі, вядома,— але і рэзананс не простая рэч. Асабліва, калі ведаць, што частата альфа-рытму чалавечага мозгу, 7,83 Гц, супадае з асноўнай частатой рэзанансу Шумана, як называюць электрамагнітныя хвалі, што ахутваюць ўсю зямлю. Існуе версія, што пры абсалютным супадзенні частотаў мозгу і планеты і пачынаюць праяўляцца надзвычайныя здольнасці: яснабачанне, тэлекінез, ацаленне хворых і падобныя з'явы, аж да вынікаў некаторых дэмакратычных выбараў уключна.

Чалавеку без галавы шанцуе — нават калі не шанцуе — менавіта ў выглядзе рэзанансу.

У дзяцінстве ён становіцца сынам ворага, але прыходзяць новыя ворагі, і ён аўтаматычна становіцца сынам ахвяры. Эфект інтэрферэнцыі — адзін рэзананс супраць другога.

Пасля вайны, за тое самае, за што яго бацька патрапіў у лагер у Сібіры, ён патрапляе ў казачны лагер у Крыме — за публікацыі ў газетах.

*Скамячу, як снежку,*
*Радасць я сваю*
*І шпурну з усмешкай*
*Сённяшняму дню.*

Гэты бацькаў даваенны верш пералятае праз ГУЛАГ, каб выклікаць яшчэ больш аптымістычны эфект у сыне: «Хрушчоўская адліга зрабіла мяне яшчэ больш савецкім, а бацька ўмацаваў ва мне пачуццё гонару за нашу вялікую сацыялістычную радзіму». Так ён адчуе 1950-я.

Верш можна прачытаць як трагедыю. Скамячаная радасць кідаецца ў жэрала канцлагернай печы.

Праз паўстагоддзя ён назаве такіх, як бацька, «аблуднымі авечкамі»: «Я нярэдка задумваюся над ашаламляльнай сілай утапічных ідэяў. Ці верылі ў іх тыя, хто ідэі тыя праводзіў у жыццё?» Двойчы пракруціцца на шарніры «тыя -тыя». Ты. Я. Ты. Я.

У яго выпадку рэч будзе зусім не ў сіле філасофскіх ідэяў. Ідэі і маральныя чыннікі — не фізічныя катэгорыі. Кілаграм і ампер не ёсць характарыстыкамі дабра і зла. Ідэалы не мераюць джоўлямі.

Чалавек без галавы працуе на заводзе. Ён не цырымоніцца з малапісьменнымі рацыяналізатарамі і выклікае гнеў начальства — за непавагу да рабочай творчасці. За ноч паляпшае заводскую схему сінхроннага дэтэктара, і яго прызнаюць за свайго ветэраны радыётэхнікі. Контур хістання чыста прафесійны — ён яшчэ не ведае, што лірыка ёсць часткай фізікі.

Ён класічны рамантык эпохі НТР, калі фізіка — самая цікавая прафесія ў свеце, за якую даюць Нобелеўскія прэміі і званні тройчы герояў сацыялістычнай працы, дзе лабараторныя жарты выдаюцца кнігамі, а панядзелкі пачынаюцца ў суботу. Ён яшчэ не ведае, што Богам быць цяжка.

Яму, сыну беларускага паэта і польскай пісьменніцы, даюць даручэнне вучыць рускай мове наіўнага амерыканца, які шукае шчасця ў сацыялістычным выраі. Бо ён фізік і чытае навуковыя часопісы па-англійску.

Калі ягоны недарэка-вучань заб’е самага моцнага чалавека ў свеце, ён не паверыць. І не пабачыць самога сабе ў гістарычнай падзеі, якая выклікала рэзананс ва ўсім свеце.

Прозвішча фізіка-настаўніка забойца запіша ў свой блакнот і яно назаўсёды будзе зафіксавана ў наасферы, якая клубіцца вакол забойства. Якім чынам паўплывалі ўрокі на вучня, прыспешылі ці, наадварот, запаволіў настаўнік расчараванне, паглыбіў комплекс месіі, які паспрабуе змяніць ходу гісторыі з дапамогай снайперскай вінтоўкі, —дакладна і неабвержна вядома толькі асабістая прысутнасць чалавека без галавы і ў гэтым землятрусе мінулага стагоддзя.

Дзесяцігоддзі ён не будзе нават узгадваць пра сваё знаёмства з забойцам — рэзанатар ніяк не звязаны з рэхам.

Чалавек без галавы аднойчы зробіць тое, што зможа зрабіць толькі чалавек яго прыроды — ён прыдумае, як адчуць магчымасць рэзанансу. Фактычна — будучыню, якая пакуль не сталася. Такая міні-машына часу, часу і прасторы, сілы ў дзеянні. Напрыклад, як знаходзіць таемную радыёстанцыю, нават калі яна адключана. Такога прыбора не было нават у Оруэла ў «1984».

Вынаходніцтва засакрэцяць і наступныя дзесяцігоддзі на вайсковых заводах будуць вырабляць апаратуру для спецслужбаў менавіта па яго чарцяжах — можна толькі здагадвацца, якія наступствы гэта мела для тых, хто хаваў, і для тых, хто шукаў. І пра-

цягвае мець. Калі праз паўстагоддзя ён выпадкова апынецца на ваенным заводзе за Уралам, дык са здзіўленнем пабачыць, што яго прыбор па-ранейшаму вырабляюць — яшчэ б! Але здзівіцца ён не таму, што не ведаў (практычныя людзі да вынаходцаў заўсёды ставіліся з недаверам), і не таму, што яму за гэта нічога не плацілі (гэта норма), не таму, што з гэтай апаратурай рабілі з іншымі людзьмі ці, наадварот, не рабілі, напрыклад, у медыцыне (гэта не яго клопат), а таму, што ён даўно ўжо прыдумаў, як палепшыць прыбор. І без секунды роздуму пад агаломшанымі поглядамі адразу на дошцы намалюе новую, больш дасканалую схему — карыстайцеся!

Чалавек без галавы будзе ісці на Красную плошчу ў Маскве, калі там прызямліцца спартовая «Сесна» з нямецкім маладзёнам. Ён зноў апынаецца там і тады, дзе сусвет уваходзіць у стан рэзанансу. Кіно, скажа яму ашалелы міліцыянт перад маўзалеем. Гісторыя, ведаем мы.

Акажацца, што гэта толькі размінка — яго сапраўды гістарычныя рэзанансы яшчэ наперадзе.

На сяброўскай вечарыне, паміж закусак і кілішкаў сябры скажуць — а чаму б некаму з нас — табе — самому не стаць у цэнтры пераменаў. Зрэзаніравала. З мандатам народнага дэпутатата ён увойдзе ў сярэдзіну турбіннай залі, адкуль стагоддзямі генеравалася палітычная энергія імперыі. І будзе не надта ўражаны — можа таму, што ў Крамлі тады хапала і іншых рэзанатараў, і нават галоўныя не маглі справіцца з інтэрферэнцыяй, якая ўзмацнялася і нарастала, аж да самага путчу ў жніўні 1991-га.

Рэзанансам яго закіне на вяршыню ўлады на яго радзіме (менавіта закіне — сам ён не дамагаўся, не інтрыгаваў, не імкнуўся). Як заўсёды, ён не пабачыць і не адчуе нічога гістарычнага ў гэтай змене — чыста фізічны эфект — і адпаведна будзе сябе паводзіць, рэагуючы на вонкавыя ўздзеянні найбольш энергетычна слушным спосабам. Ні сіла ўласнага інтарэсу, ні ідэалогія, ні амбіцыі, ні

інстынкт самазахавання не гралі ролі. Энергія не існуе ў будучыні, яна, як і свет, ёсць толькі цяпер, яна сама будучыня, і таму «заўтра» ў штодзённай дзейнасці для яго не існавала як фактару.

Ён не быў палітыкам, ён быў рэзанансным контурам. Яго цікавіла энергія — і таму ён арганізаваў нараду ў пушчы з галоўнымі кіраўнікамі энергіі суседніх краінаў. Каб дамовіцца, як размеркаваць энергію (канкрэтную, газ-нафта-электрычнасць), нічога больш. Але і не менш — і калі адзін з іх сказаў, што сістэма неэфектыўная, не працуе, трэба новая схема, ён замкнуў сетку: першы з трох галоўных удзельнікаў сказаў — так.

«— Ці не пагодзіцеся вы паставіць свой подпіс пад такім сказам: СССР як геапалітычная рэальнасць спыняе сваё існаванне?..

Я не стаў чакаць, пакуль хтосьці выкажацца, і сказаў суха:

— Я падпішу.

Следам усе прысутныя пацвердзілі».

Сетка замкнулася, гістарычны ток пацёк па новай схеме.

У мемуарах, ужо ведаючы, што насамрэч гэта быў гістарычны момант, ён паспрабуе неяк надаць яму адметнасць, але не здолее выціснуць з сябе нічога мацнейшага за невыразнае азначэнне «суха».

Але менавіта ён тады стварыў контур і ўмовы сустрэчы, і ягонае «так» стала рэзанатарам. (Гэта не метафара — вось як напісана пра прыход да гэтага ж рашэння, аб расійскім суверэнітэце, у палітычнай біяграфіі другога ўдзельніка той сустрэчы, першага расійскага прэзідэнта: «Ён патрапіў у такт татальнаму грамадзкаму рэзанансу».)

Гэты момант — адключэнне ад апарата штучнага дыхання самага страшнага ў гісторыі чалавецтва монстра, які так паспяхова ўдаваў на самага прывабнага — чалавек без галавы ўспрыняў як электрык, які дзелавіта адлучыў рубільнік, каб памяняць струхнелую праводку ў хаце.

Тут я хачу нагадаць, што гэта двухмерны партрэт, і таму сюды не дадаюцца асабістыя, прафесійныя ці маральныя ацэнкі, альбо які ён таленавіты вынаходнік, навуковец, выкладчык, які натуральны, без пыхі, нягледзячы на сваю міжнародную вядомасць, суразмоўца, які эмацыйны, але не зламысны і не злапамятны чалавек, шчыры сябар, як заўсёды гаворыць што думае, і гэты пералік пазітыўных рысаў можна доўжыць — у асабістым сэнсе ён заўсёды выклікаў у мяне, і не ў мяне аднаго, толькі прыязныя пачуцці.

Адзін сусветна вядомы амерыканскі пісьменнік, які напісаў некалі, магчыма, самы выдатны палітычны партрэт амерыканскага прэзідэнта, якога забіў колішні вучань чалавека без галавы, а потым і партрэт забойцы, сустракаўся з ім на пачатку 1990-х і пасля казаў мне, што атрымаў цалкам прыемнае ўражанне — «вельмі харошы чалавек». І дадаў — «але ў палітыку ён прыйшоў запозна».

Магчыма, пісьменнік адчуў набліжэнне гэтак званага «катастрафічнага рэзанансу», калі пачынаецца самаразбурэнне.

Чалавек без галавы дыстанцынаваўся ад апазіцыі, бо яе частата не адпавядала ягонаму светаадчуванню, і не стаў сваім для ўлады, бо яшчэ больш не супадаў з ёй па контуры.

Гісторыя запаволіла хаду, і ён увайшоў у самы энергазберагаючы стан: эвалюцыя і згода. Мантра, закляцце, праграма, план, расклад, рэакцыі, рэзалюцыі — згода. Энергетычны статус-кво, які забяспечваецца максімальным напружаннем поля і мінімальным цячэннем току.

Яго два апошнія рэзанансныя чыны вызначылі параметры гісторыі яго народа таксама на дзесяцігоддзі.

Першы — апошняя хваля магчымых перамен, якая пасля палітычнага цунамі яшчэ накатвала на краіну, выклікала ягоны імпеданс, як на мове фізікі рэзанансу называецца комплексны поўны супраціў. Рэферэндум пра датэрміновую змену ўлады не адбыўся, бо ён не замкнуў сетку. Бясконцая паўза перад галасаваннем, якую

ён трымаў і не замыкаў паўгода, паглынула паўмільённую энергію сабраных подпісаў. За гэты час мінулае агледзелася, ачомалася і праглынула будучыню як удаў труса.

Чаму так адбылося, існуюць розныя версіі, палітычныя, асабовыя, міжнародныя. Чалавека без галавы папракаюць здрадай дэмакратыі, але ў асабістым плане гэта несправядліва, ён ад пачатку рашуча выступаў супраць і дзейнічаў адпаведна. Яму закідаюць невыкананне канстытуцыйных абавязкаў — ён сапраўды мог давесці справу да хуткага галасавання, але тактычнае прамаруджванне, строга кажучы, не з'яўляецца канстытуцыйным крыміналам. Ініцыятараў рэферэндуму вінавацяць, што яны ўвайшлі з ім у канфрантацыю замест супрацы, не здабылі іншых саюзнікаў, захапіліся легалістычнай аблудай, паддаўшыся самі на сваю рыторыку аб праватвой дзяржаве, быццам рэвалюцыі вырашаюцца літарай закону...

Калі падысці да гэтай з'явы як рэзананснай, дык цалкам магчыма, што на частаце дэмакратычных пераменаў — г.зн. стварэння новай будучыні ў першую чаргу для палітычнай эліты, утварэння новага перыяду нестабільнасці і няпэўнасці для выбаршчыкаў — ужо цяжка было нешта зрабіць. Гэтая частата, якая выбухнула ў жніўні-верасні папярэдняга года, імкліва згасала, і ўгору ішла зусім іншая амплітуда: рэваншу, асабістага выжывання, злоснай раздражнёнасці і абуранасці ўсіх усімі.

Не знітаванае нацыянальнымі скрэпамі грамадства распадалася на элементарныя часцінкі, якія трымалі разам толькі першасныя сацыяльныя пачуцці — выжыванне, помста, ірацыянальная вера ў збаўцу. Адказная эліта вяла геройскае змаганне супраць мінулага і за будучыню, але была занадта малалікая і слабая, каб перамагчы ў вайне на два франты, якая да таго ж была грамадзянскай. (Найбліжэйшыя гістарычныя аналогіі тут — люты-кастрычнік 1917-га, а таксама сакавік і наступныя месяцы 1918-га.)

І наступны чын чалавека без галавы аказаўся максімальна эфектыўным з пункту гледжання рэзанансу: ён стварыў контур для гэтай цёмнай энергіі, асабіста ўручыўшы наймацнейшую на той момант рэзанансную частату — барацьбу з карупцыяй, г.зн. за справядлівасць і супраць начальства, у рукі самаму бесцырымоннаму і таму цалкам свабоднаму ад абмежаванняў чалавеку. Ударнай хваляй змяло і старую, і новую генерацыю, у тым ліку і самога чалавека без галавы.

Новы рэзанатар пастараўся, каб асобаў з падобнымі якасцямі паблізу больш не было, а апараты рэзанансу — выбарчыя, электронныя і сілавыя — узяў у свае рукі.

Чалавек без галавы не адчуў ніякай адказнасці і нават не згадвае пра гэтыя два гістарычныя чыны ва ўспамінах. Адсутнасць рэфлексіі пра гэтыя дзве катастрафічныя падзеі ў палітычнай аўтабіяграфіі ўражваюць нават больш, чым калі б ён паспрабаваў неяк апраўдвацца, абвінавачваць ці тлумачыцца. І сведчаць толькі пра адно: рэзананс не асабістая рэч, узмацняльнік не вінаваты ў прычынах і наступствах, проста працуе формула.

З'явы рэзанансу могуць выклікаць паразітныя шумы, скажэнні сігналу і незваротныя разбурэнні. Увядзіце танкі, сказаў ён неяк суседняй краіне ў раздражненні, і танкі былі ўведзены, праўда, у іншую суседнюю краіну. Магчыма, ён проста адчуў, як той ягоны прыбор, яшчэ не пасланы сігнал, але трохі недачуў, ці проста ў нас гэта яшчэ наперадзе.

І хто ведае, можа, мы яшчэ не пачулі яго апошняе рэха — менавіта рэха, водгулле, водгук, а не слова. Бо слова немагчыма сказаць без галавы.

## Чалавек без мяккага знака

У першым стагоддзі ён быў бы на тайнай вячэры з Хрыстом, у XIX яго б павесілі разам з Каліноўскім, у XX ён меў шанец стаць прэзідэнтам, але апынуўся ў выгнанні — ярасны агонь праўды і любві да таго, што ён называе Patria, Gloria Patria, гарыць у яго душы, асляпляльна яркі і небяспечны, як любы агонь.

Мы пазнаёміліся ў другой палове 1980-х. Агульнай справай быў клопат пра памяць і ахвяраў мінулага, і неўзабаве мы сядзелі ў маім рэдакцыйным кабінеце ў Доме друку і пісалі статут аднаго нефармальнага аб'яднання (аксюмаран, канечне, — але так непрыгожа нараджаецца любая свабода). Збіраліся пасля працы, і я купіў нешта паесці, прапанаваў чай, але ён катэгарычна адмовіўся — толькі справа. Калі адзін з удзельнікаў нашага пасяджэння, паважаны стары пісьменнік, прапанаваў пісаць статут афіцыйным правапісам, каб зарэгістравалі — ён узарваўся, і мы ўсе разгубіліся ад нечакана яраснага выбуху, у якім «вы тут нічога не разумееце» было хіба самым мяккім выказваннем.

Ён сапраўды разумеў больш і адчуваў вастрэй, бо ўсё жыццё прысвяціў Patria, прыўкраснай і пакрыўджанай, і пазіцыя абаронцы абараняла яго ад заўвагаў і шмат што яму даравалася, што не даравалася б іншым. Ён быў аскет, ніколі не звяртаў увагу на матэрыяльнае, задавальняўся мінімумам, і гэта таксама выклікала безумоўную павагу, але і стварала дыстанцыю — усе так не маглі, не хацелі, і адчувалі нейкую вінаватасць.

Ён мог быць надзвычай абаяльным, але і надзвычай рэзкім. Пасля нейкай бурнай і балючай спрэчкі на нашым пасяджэнні мы групай ішлі ў метро, і яго даўні сябра, мастак, супакойваў мяне — не крыўдуй, у яго такі характар — катэгарычны, чорна-белы, пякучы. Мяне гэта непрыемна дзівіла, але агульны маштаб, безумоўна, уражваў, і не толькі мяне. Самыя паважаныя людзі бачылі

ў яго асобе гістарычны шанец і падтрымлівалі як і чым маглі, бо гістарычнага часу амаль ужо не заставалася.

Можа, рэч і была ў гэтым маштабе, і я падазраю, што для яго справа заўсёды была не ў людзях, а ў самой справе, мэце, ідэале, хоць чаго вартыя нашыя справы, калі яны не для людзей.

Аднойчы яго выклікалі ў пракуратуру, ён катэгарычна заявіў, што пойдзе толькі з карэспандэнтам (быў час «галоснасці»), і пасля доўгіх пратэстаў і ўзгадненняў у кабінет генеральнага пракурора дапусцілі і мяне. Аказалася, што выклікалі яго не арыштоўваць, а правесці «тлумачальную работу». Справа была ў адным з паспяховых маладых лідараў, якога ён падтрымліваў — а яго падтрымка тады шмат што значыла, і пракурорскія начальнікі спярша намякалі, маўляў, вы ўсяго не ведаеце, не варты гэты чалавек вашай мэты, ёсць да яго пытанні ў сферы маралі, вы ж за маральных людзей у палітыцы, і ён спярша маўчаў, потым стаў пагаджацца, што, сапраўды, за маральных, але ўпэўнены ў гэтым чалавеку, і тады пракурор дастаў крымінальную справу і працягнуў яму — а вы самі пачытайце, садом і гамора.

Не бяры, не адкрывай, не глядзі — я не крыкнуў толькі таму, што быў упэўнены, што не возьме, такі відавочны быў гэты прыём тайнай паліцыі, бо справа тут не ў тым, на каго яны збіраюць і даюць кампрамат, а ў тым, хто бярэ. Ён узяў.

Усё гэта дробязі і, хутчэй за ўсё, не вызначальныя ў той багне, якая потым зацягнула ўсіх. Бо было — і гэта факт — шмат куды большых і важных, нават гістарычных прапановаў, здабыткаў, здзяйсненняў, рашучасці, настойлівасці, стойкасці, але яны ўсе тычыліся мэты, задачы, ідэала, а не чалавека. Хто ведае, можа якраз таму яны аказаліся недаўгавечныя і зноў вярнуліся ў катэгорыю ідэалаў, мэтаў, задачаў?

Адзін мой блізкі знаёмы так падпаў пад яго магію, што я нават напісаў яму ліст, які, падумаўшы, не адправіў, таму зараз працытую, як было:

«Ты заўважыў, як самыя дакладныя ў словах людзі, паэты і пісьменнікі, сталі карыстацца царкоўнай лексікай, калі спрабавалі асэнсаваць яго з'яву: апостал, прарок? Як самая першая арганізацыя, якую ён стварыў і ўзначаліў, таксама атрымала рэлігійную назву — мартыралог? Што ён ператварае ўсё, да чаго дакранаецца, у царкву — культуру, палітыку, мову, а ў царкве можна толькі верыць, і нельга нічога ставіць пад сумнеў? Такая царква ў наш час можа існаваць кароткі час, далей яна непазбежна ператворыца ў секту, і ўсе, хто не з ім, стануць супраць яго — так ён гэта будзе ацэньваць. Мне часам здаецца, што для яго не існуе арганікі, жывога самастойнага развіцця і павагі да яго, а толькі прадвызначаныя каноны і формы…»

Далей там ішло пра розныя нееўклідавыя геаметрыі, непазбежны канфлікт сродкаў і мэтаў з яго непазбежным вынікам для ўсіх, хто паблізу, ды іншыя дзіцячыя слёзы.

Аднойчы я разгарнуў апазіцыйную газету і пабачыў ягоны артыкул пра мяне, дакладней, пра маю працу — хвосткі і нечаканы, як удар мокрай анучай. Я спачатку не зразумеў — усе свае кпіны, заўвагі, крыўды ён мог сто разоў выказаць напрасткі, мы былі на «ты», дастаткова блізкія для такой размовы, нагодаў і магчымасцяў хапала. Толькі потым я здагадаўся, дзе памыляюся — блізкасць ёсць раўнавагай, якая прызнае незалежнасць і ўзаемапавагу бакоў. Чорна-белыя фоты без ценяў называюць кантраснымі, а кантраст служыць адной мэце — паказаць іншасць, адрозненне. Насамрэч, артыкул мог быць яшчэ больш безапеляцыйны, ён, верагодна, нават стрымліваўся. Кажучы фотамовай, у яго быў надзвычай высокі «тангенс вугла нахілу лінейнага ўчастка характэрнай крывой светадчувальнага матэрыялу», як на гэтай мове тлумачыцца каэфіцыент кантрасту. Магчыма, на нейкай іншай мове гэта яшчэ называецца прынцыповасцю.

Адзінае, што можна сказаць з дакладнасцю — гэтая іншая мова была і не мовай палітыкі, і не мовай палітыка. Хутчэй, гэта была

мова генерала, цэзара, правадыра, які не зважае на рэальнасць, бо хоча яе змяніць, і ягонае войска мае адзін выбар і адну вартасць — ісці куды ён загадвае альбо памерці.

Адзін наш агульны знаёмы, просты прыемны дзядзька, адстаўны вайсковец, які хадзіў за ім як цень і фатаграфаваў усё для гісторыі, спраўляў свой сціплы юбілей, і прышлі ўсе, у тым ліку пісьменнік-класік, знакаміты паэт, вядомы мастак — а ягоны кумір не прыйшоў. Ён расказваў мне гэта праз пару гадоў, і калі ягоную крыўду можна было назваць дзіцячай, дык толькі таму, што ён быў як вялікае дзіця. Як тлумачэнне, можна сказаць, што кумір і свае дні народзінаў і юбілеі ніяк не адзначаў, працаваў над выступамі, партыйнымі дакументамі і рэзалюцыямі. Не ведаю, ці азначае гэта, што можна крыўдзіць дзяцей.

Калі паразы на вайне за Patria сталі зліваецца ў адзін беспераpынны разгром, ён пазбегнуў палону і ўцёк пад абарону іншай улады. Такія ўчынкі такіх асобаў заўсёды дзеляць і сяброў, і грамадства на дзве супрацьлеглыя групы, якія хутка зводзяць аргументы да двух антонімаў: здрада і герой.

Сам ён не лічыў гэта ні першым, ні другім, а проста працягам змагання. Ягонае войска яшчэ некалькі гадоў захоўвала яму вернасць і выконвала загады, спадзеючыся на вяртанне, а гвардыя толькі ўмацавалася ў сваёй адданасці.

Мы часам сустракаліся, гады ў рады, часам нешта рабілі сумеснае для Patria, усё было ветліва, не больш (а больш, дарэчы, часцей за ўсё і не трэба). Дыстанцыя захоўвалася, дыстанцыя ўвогуле карысная рэч.

А потым памерла яго маці, якая гадавала яго адна ў галодныя калгасныя гады, бо бацька загінуў на вайне, ніколі не выйшла замуж, і на пенсію ён забраў яе да сябе ў сталіцу, і яны жылі разам у адной кватэры, і ён з'ехаў у вымушанае выгнанне не развітаўшыся з ёй, бо не змог. Калі яна памерла, ён не прыехаў на пахаванне.

Не судзіце, ды не судзімыя будзеце — так, зразумела… Пагатоў у такой справе і ў такіх абставінах. І ў такой ролі, якая сама выбірае свае ахвяры, і выключэнняў няма нават для яе выканаўцаў.

У размове адна аўтарытэтная для мяне асоба заўважыла, што ўсё ж ён меў паважную прычыну не ехаць на пахаванне.

— Якую?

Яна не адказала, можа таму, што адна прычына — магчымы арышт, магчымыя непрыемнасці — была быццам відавочная і, значыць, мне вядомая, але чамусьці непераканаўчая, а другая — працяг дзейнасці — не надта пераканаўчая для яе самой. Тэхнічныя прычыны — час, грошы, сямейныя абставіны і да таго падобнае абмяркоўваць у такіх выпадках не выпадае. Няма сэнсу спрачацца, калі адзін бок лічыць, што ёсць каштоўнасці больш важныя за ўласную свабоду і жыццё, а другі не.

Але вось што адбываецца, калі выканаўца цэнтральнай ролі сутыкаецца з цэнтральным прынцыпам гуманізму, хрысціянства, чалавечнасці — не рабі іншым таго, чаго не хочаш, каб рабілі табе: гэты прынцып адключаецца, як колер у фотаапараце. Рэальнасць застаецца нязменнай і цалкам пазнавальнай, але дзейнічае толькі адзін крытэр, які выяўляе толькі адрозненні.

Забарона судзіць у прынцыпе несумяшчальная з роляй лідара, які не можа не выносіць і не ажыццяўляць прысуды. Ён гэта рабіў спачатку бязлітасна, дакладна аддзяляючы святло ад цемры і хлусню ад дабра, потым проста дакладна, аддзяляючы тактыку ад стратэгіі, а затым, калі апынуўся ў ледзяным космасе выгнання, проста бязлітасна: людзі выходзілі пад дубінкі, іх кідалі ў турмы, яны трымалі галадоўкі, іх выключалі з універсітэтаў, штрафавалі, яны ўдзельнічалі ў безнадзейных акцыях і гублялі працу, з іх здзекаваліся і яны з’язджалі ў эміграцыю, але калі яны не былі ў яго войску, яны не вартыя былі ніводнага яго добрага слова. Ім не было месца ў яго Patria, і не было Gloria, нават калі за сваё мінулае яны плацілі жыццём.

Patria ператварылася ў Partia. А партыяй даўно ўжо быў ён сам.

Тая акалічнасць, што ўсё свае вердыкты ён выносіў гледзячы збоку, з адлегласці, для яго не мела ніякага значэння — ён не адчуваў ніякага дыскамфорту, маральны аспект быў адключаны, як адключаны колер на чорна-белым здымку.

Увогуле, забарона судзіць у літаральным сэнсе невыканальная — гэта хутчэй перасцярога, напамінак і, канечне ж, канечне, гэта сказана не пра нас саміх, гэта нам — пра іншых. А саміх сябе судзіць і можна, і трэба, і заўсёды ёсць за што. На пытанне пра зробленыя памылкі ён раздражнёна адказваў, што іх не было, усё рабілася правільна, колькі можна тлумачыць відавочнае, і гэтае пытанне больш не сталі яму задаваць.

Gloria Patria — слава Радзіме — насамрэч парафраза хрысціянскага гімна Gloria Patri — «Слава Айцу, і Сыну, і Святому Духу».

З пункту гледжання канону — блюзнерства.

## Чалавек без мовы

Спакуса была непераадольная: мяняўся час і хацелася дзеяння і раптам з'явіўся ён і загаварыў на мове, пра якую я нават не думаў, што гэта мова.

Так казалы мойе своякы в дэрэвні, так говорылы мойі дэрэвэньскі товарышы, з якымы літом мы ходылы на рыбу, в ліс, пасты коровы. Взымку я прыежджав на канікулы: сніг лэжав гурбамы, в ночным нэбі горілы зоркы, і мы з хлопцямы й дэвчатамы грукалы в двэры і співалы колядку: тёткы давалы хто сушоных яблык і груш-дычок, хто ковбасу, хто цукеркі.

У гістарычна-кампаратыўнай лінгвістыцы вядомы спіс Сводэша — сто базавых словаў, якімі вымяраюць блізкасць моваў. Колькасць лексічных супадзенняў і фанетычных адрозненняў была такая, што вызначыць, да якой мовы наша гаворка бліжэй,

было немагчыма. Тым больш, што гаворак было столькі, што, каб уратаваць усіх, патрабаваўся спіс Шындлера.

«Была мэнэ маты бэрэзовым прутом…» Гэтую ды іншыя падобныя песні я чуў на ўсіх вяселлях і хрысцінах. Пад час вайны нашу мясцовасць запісалі за гэбітскамісарыятам Украіны, і выкладанне ў школках было па ўкраінскіх падручніках. Мая маці ў 14 гадоў стала настаўніцай у такой школцы, і нейкія камсамольцы яе меліся застрэліць. Але не за ўкраінскую мову, а за калабарацыю.

Лінгвісты, вядома, адразу адзначаць, што тут галоўнае: тэрыторыя. Рэчкі, хмызнякі, балоты — *Поліссе*. Так, як мы *говорылы*, ніхто не пісаў, не было стандарту, яшчэ адна галачка для графы «дыялект» — тут ніколі не было ўласнай дзяржавы ці аўтаноміі, і апошняе — так *говорыты* было непрэстыжна. Дзярэўня, адно слова.

Ідэя была такая: у нас свая мова, свае інтарэсы, свая будучыня — давайце! А і сапраўды: чаму не? Чаму не надрукаваць вершы, напісаныя па-нашаму? Надрукавалі. Чаму б не выдаць газету? Сталі выдаваць. Чаму б не дамагчыся нейкага афіцыйнага статуса? Сталі дамагацца.

І аказалася, што гэта трэба рабіць ізноў праз калабарацыю.

Ішла вайна часоў, мёртвыя і закатаваныя паўставалі з расстрэльных ямаў і паўночнай мерзлаты, арыштаваныя ў спецсховах галасы вырываліся на волю, з-за мяжы, як чароды птушак, вярталіся на радзіму кнігі і словы. Атмасферу раздзіралі белыя маланкі пераменаў і зацвілая дрыгва адступала і разыходзілася — як высветліцца, каб сысціся і закрыць дарогу зноў. Але тады гэта яшчэ ніхто не ведаў, ды й магло быць іначай, і канечне, пэўна і бясспрэчна, магло, магло, магло.

Ён шукаў хаўруснікаў дзе мог — і знаходзіў, у часопісах, сярод пісьменнікаў, наменклатурных і не, у рэдакцыях. Прывабная ідэя зямляцтва на парозе свабоды абяцала і матэрыяльныя выгоды, і

начальнікі будаўнічых трэстаў, намеснікі міністраў спакушаліся на гук роднай гаворкі, як пераспелыя ўдовы, і абяцалі, падпісвалі, давалі.

Для мяне, апроч жывой радасці самога сяброўскага руху, гэта была грань большага цуду, да якога належалі ўсе кнігі, усе паэты, усе мовы, уся гісторыя — адна з граняў, якая не адмяняла іншыя, як і іншыя не павінны былі адмяняць яе.

Але як заўсёды ў часе пераменаў, у кожнага аказаліся свае шляхі і мэты, учорашнія саюзнікі назаўтра станавіліся апанентамі. Здарылася тое, што здараецца кожны раз, калі сітуацыя ўжо новая, а мова старая. Не хапала слоў, сказаў, сінтаксісу. З геаметрыяй Лабачэўскага спрабавалі разабрацца мовай Еўкліда. І калі нічога не выйшла, адказ сталі шукаць у правілах дарожнага руху: здрада і ганьба.

Адзін з лідараў другой апазіцыйнай плыні раптам пабачыў небяспеку для галоўнай мэты пераменаў і распачаў ваенныя дзеянні. У адказ чалавек без мовы кінуўся па дапамогу да ягоных ворагаў, якія, аднак, таксама былі ворагамі ўсіх пераменаў і свабодаў.

Так рабілі тады многія, найперш у палітыцы, двухвымернай, як маньяк з нажом каля горла. Тактыка перамагала стратэгію, як меліярацыя балоты, і з тым самым вынікам. Раздзёртыя бульдозерамі і экскаватарамі рэчышчы рэчак ператварыліся ў акуратныя, як брацкія магілы, канавы, поплавы сталі імшарамі, а потым палямі, над якімі неўзабаве забуялі ніколі тут нябачаныя раней пылавыя буры.

Спіс Сводэша ператварыўся ў спіс Шындлера, у якім першае месца заняла нявыкрутка.

*На двэры воду ліла, на пальцях ходыла, шчоб маты нэ почула, шчоб нэ сварыла..*

Нявыкрутка — тыповая сітуацыя пад акупацыяй, ва ўмовах, якія не залежаць ад самога чалавека. Але хоць чалавек не выбірае акалічнасці, усё ж часам выбірае, ці заставацца чалавекам.

Нявыкрутка не ёсць звычайным сутыкненнем тактыкі са стратэгіяй, а, хутчэй, мэты са сродкамі, гэта заўсёды маральная сітуацыя, і вось там якраз-такі ёсць выйсце — крок назад ці за межы круга.

*А маты нэ спала, всэ чысто чула, тай мэнэ нэ сварыла, сама такой була…*

Нашы дарогі разышліся, ды й усё навокал памянялася. Праз паўтара дзясяткі гадоў мы выпадкова сустрэліся за мяжой на чыгуначным вакзале — я некага праводзіў, ён таксама быў у тым купэ.

Мы прыязна павіталіся, і пасля некалькіх малазначных фраз ён раптам спытаўся — нават не спытаўся, а сцвярджальна сказаў: «Што, хацеў бы забыцца пра ўсё, быццам і не было нічога ніколі, так?..»

Спачатку я шчыра здзівіўся і запярэчыў, але ён глядзеў з такім іранічным перакананнем, упэўненасцю, з такой вядомай мне праватой, што я адразу астыў і амаль не адчуў прыкрасці.

## Чалавек без 1 %

Ён быў старэйшы, прыязны, абаяльны, таварыскі — быў заўсёды гатовы дапамагчы (калі гэта не каштавала шмат, але далібог — і гэта насамрэч нямала), разумеў хады і выхады (нейкія блізкія сапраўды разумеў), адчуваў жаданні і слабасці іншых (у каго іх няма), можа, і недаацэньваў моцныя бакі, але ўрэшце псіхолаг быў нядрэнны, і гэтага хапала, каб дамагацца свайго.

Але паколькі пры гэтым не меў абсалютна ніводнага маральнага бар'ера, а кан'юнктуру адчуваў скурай, нутром, пазногцямі, дык быў перакананы, што абраны, адрозны, разумнейшы і мае больш правоў на ўсё лепшае: грошы, пасады, званні, будучыню. У тых, хто меў уладу, не саромеўся прасіць і выпрошваў, тых,

хто мог быць канкурэнтам, спрабаваў падкупіць, а калі не ўдавалася, знішчыць, з астатніх фармаваў групы падтрымкі.

Лепш за ўсё яму ўдавалася з жанчынамі: старэйшыя раставалі ад яго закаханасці, маладзейшыя ад упэўненасці. Аднойчы я пабачыў, як ён стаяў у кабінеце начальніцкай дамы — безабаронны, тонкі, з векавым сумам у вачах і задуменна-задуменна глядзеў у вакно — а яна глядзела на яго з захапленнем. Практыкантак ён мог ушчыкнуць за мяккае месца і, калі адразу не атрымліваў поўху ў адказ, пасля хваліўся, што атрымліваў усё іншае.

Напачатку яму ўдавалася шмат што. Ён лёгка пачаў кар'еру і хутка атрымаў узнагароду за крытыку крытыкаў свайго начальства. Потым перабраўся ў супрацьлеглы лагер і там неўзабаве таксама атрымаў узнагароду за крытыку крытыкі крытыкі. Затым, нягледзячы на пэўны супраціў прасторы, прасачыўся на больш даходнае месца, каб займацца тым, супраць чаго некалі выступаў, а потым ухваляў.

Кватэры, паездкі за мяжу, ганарары ў той час залежалі не столькі ад працы і яе вынікаў, колькі ад прыступкі на іерархічнай лесвіцы і ад пратэкцыі. Я назіраў за ім са змешанымі пачуццямі. З захапленнем ад яго спрыту, з лёгкай агідай, з адчуваннем небяспекі.

Яго падвяло пачуццё меры, дакладней, ягоная адсутнасць. Арганізацыя, дзе ён працаваў, перажывала перамены, адбывалася змена пакаленняў, і ён вырашыў, што настаў ягоны час. Ён паспрыяў, каб магчымага канкурэнта на пасаду перавялі ў правінцыю, заручыўся падтрымкай уплывовых асобаў, і трэба было толькі дачакацца, каб пасада сама ўпала яму ў рукі, але ён не вытрымаў. Рыхтаваўся чарговы выпуск нейкага даведніка, знаёмыя, якія там працавалі, спыталіся, як яго прадставіць, і ён назваў доўгачаканую пасаду і нумар тэлефона, якія, паводле ягоных разлікаў, да выхаду тома ў свет ужо мусілі належаць яму.

Даведнік выйшаў і яго паклалі на стол начальству, якое хоць бачыла многае, але з такім не сустракалася. Ён бажыўся, што не мае да публікацыі ніякага дачынення, што ні сном ні духам не ведае і нават не здагадваецца, як так сталася, і гэта таксама было без меры.

Змена пакаленняў усё ж адбылася, але іншая асоба ўзначаліла яго арганізацыю. Ён паспрабаваў з ёй зблізіцца, але тая на збліжэнне не пайшла, тады паспрабаваў арганізаваць перава-рот, сабраць подпісы пакрыўджаных новым начальствам, і з гэ-тага таксама нічога не выйшла.

Ён перастаў разумець, што адбываецца, чаму перастала шан-цаваць, чаму лёс такі несправядлівы.

Ён не прапаў, вядома. Арганізацыяў шмат, ён мае веды, сувязі, ягоная абаяльнасць крыху падвяла, але не знікла, большасць людзей не трымае зла доўга і ўвогуле ў большасці, як вядома, па-мяць кароткая, што не так і дрэнна. Можна сказаць, што сёння ў яго ўсё няблага — новы дом, новая праца, новая сям'я, яго за-прашаюць на розныя канферэнцыі і сустрэчы. Не першага ўз-роўню, але час ад часу ён можа сказаць, што выступаў у адным месцы, запрашалі ў другое, рыхтуецца да трэцяга.

Адзінае пытанне, якое бянтэжыць, — ці мог ён свае немалыя таленты рэалізаваць у нешта большае, слушнае, істотнае, чым манеўры вакол самога сабе?

Я адказу не ведаю. Але калі паспрабаваць уявіць, што гэта магло б стацца, дык мушу прызнаць, што адзінае, што ба-чыцца — гэта тое, што й было, толькі з плюсам. З тым плюсам, які не антонім мінуса (са зменай такога мінуса на плюс усё ясна, я б не стаў і пісаць яшчэ адну гісторыю пра Саўла-Паўла), а з плюсам, які азначае — больш. Мне здаецца, што ва ўсіх сваіх справах ён чамусці не даходзіў да канца і таму не мог узняцца ў іх на вышэйшую ступень. Атрута выходзіла разбаўленая і не забівала, а толькі выклікала пякучку, яго гарантыі дапамогі

сканчаліся для тых, хто спакусіўся, стратамі, святло пераставала даваць цень, калі побач з'яўляліся больш яркія крыніцы, шматгадовыя знаёмствы заставаліся сувязямі і не перарасталі ў сяброўства.

Не хапала пачуцця меры, той меры, якую трэба пераўзыходзіць, каб збыліся мары.

Ну, а чаму не хапала?..

Магчымы адказ — я памыляюся. Не таму, што не ведаю ўсяго (гэтага ніхто не ведае), а таму, што пераацэньваю тое, што сам жа па звычцы называю «немалымі талентамі».

Талент сам па сабе рэч зусім не малая — той арыгінальны старажытнагрэцкі талент ужо набліжаецца да мільёна сённяшніх даляраў. Але справа не ў метафары, а ў самой з'яве, якая, як і ўсе іншыя рухомыя рэчы, на маю думку, апісваецца формулай $E=mc^2$.

Забаўна, вядома, што сам геніяльны аўтар гэтай формулы так ніводнага разу і не здолеў яе даказаць, што, па-мойму, сведчыць пра яе непагрэшную прыроду. Бо што такое хуткасць святла ў квадраце, як не нашая памяць і нашая фантазія, як не здольнасць уявіць што, дзе, калі і як заўгодна — і зрабіць, стварыць новую рэальнасць?..

Аднойчы ён вырашыў пашукаць шчасця ў іншай сферы: звярнуўся па салідны грант па вельмі салідным адрасе, які гарантаваў доўгае і выгоднае існаванне ў прэстыжнай міжнароднай ролі. Ён ведаў гэта і ў заяўцы напісаў, што яго праца на прапанаваную ім тэму, якой ён асабіста цікавіўся і займаўся ўжо шмат гадоў, будзе самай унікальнай, бо ніхто нідзе яшчэ гэта не даследаваў. Нейкі клерк, які прымаў заяўкі, набраў назву ў Google, і выскачыла некалькі дзясяткаў кніг, манаграфій, артыкулаў. Калі аўтар заяўкі працаваў з гэтай тэмай шмат гадоў, пісаў клерк у сваім заключэнні, дык незразумела, чаму ён не ведае

пра іншыя публікацыі. Калі ведае, дык незразумела, чаму такое піша, што насамрэч было даволі зразумела.

Лічыцца, што талент — гэта той 1 %, да якога трэба дадаць 99 % працы, каб атрымаць генія. Мне часам здаецца, што насамрэч да таленту нічога нельга дадаць — гэта асабістая ядзерная рэакцыя, ён адначасна рэч і рух, шлях і мэта, здольнасць, якая існуе толькі ў сваёй рэалізацыі, той самы квадрат, у які трэба ўвесці С, памножыць на М, каб атрымаць Е. Іншымі словамі, якраз у гэтым 1 % і закладзены сілы на астатнія 99 %.

Не хапіла 1 %.

## Чалавек без радзімы

Талент як дар ствараць прыгожае — рэч капрызлівая, як салавей, які можа спяваць толькі на волі і толькі ў сваёй стыхіі. Яшчэ птушка гэтая адрозніваецца ад графаманства пачуццём меры. Але гэта — апошняя прафесійная мяжа, перад ёй ёсць прастора руху, дзе аматарскія спробы выглядаюць цалкам прывабна і натхняльна.

Ён ляпіў скульптуры і маляваў карціны для сябе і сваіх сяброўаднадумцаў. Пра герояў, пра войны і ваяроў, пра прыўкраснае мінулае, пра цяперашнюю барацьбу, ахвярнасць і аддадзенасць, пра вернасць ідэалам і ідэям.

Роля мастака пераменаў у вачах многіх супадала з роляй лідара і надавала вагу яго меркаванням і ацэнкам, якімі б банальнымі ці прымітыўнымі яны ні былі. Наадварот — банальнасць прымушала шукаць там глыбіні, успрымаць іх як рэзюме, сканцэнтраваны вынік ведаў, роздумаў, спробаў — усяго таго, што называецца праўдзівай ісцінай і сапраўднай праўдай.

А потым ён знік. Аказалася — з’ехаў, дзеці засталіся з жонкай, а ён апынуўся за мяжой. І там пачаў маляваць партрэты старой

эміграцыі пад нацыянальнымі сцягамі і гербамі, і эміграцыя зайшлася ў шчырым захапленні, бо пачула і пабачыла апраўданне свайго лёсу, сваіх высілкаў, сваіх募мараў. Яго прынялі ў сябры самай аўтарытэтнай і паважанай арганізацыі ў выгнанні — гэта пацвердзіла і замацавала рэпутацыю.

Чужую мову ён вучыць не стаў і патлумачыў гэта нават не мастацкай сваволяй, а прынцыпамі — не хоча здраджваць. Не хоча здраджваць сваёй мове, сваёй культуры, сваёй радзіме.

Таксама прынцыпова паставіўся да сваёй новай краіны: намаляваў яе не як ідэал свабоды, не паратунак для мільёнаў, не пераможцу ў супрацьстаянні, якая вызваліла і яго радзіму, а — як дракона. Чужына. П'е кроў напрасткі з сэрца, выпальвае вочы, мучыць смагай і смогам. Гэта было прыгожа, хоць і не зусім ясна: калі ўжо так невыносна, можна ж вярнуцца, навошта так пакутваць ад чужой атруты?

Патлумачыць усё метафарай, герменеўтыкай і логікай мастацкага жанру не выпадала, бо менавіта гэтаксама і гэтае самае ён казаў у інтэрв'ю, сяброўскіх размовах і публічных выступах — упэўнена, з пачуццём годнасці і тым «смиреніемъ», якое (вось ужо дзе царкоўнаславянская ўгадала) «паче гордыни».

Жыццё не спынялася, мяняліся краіны і гарады, адбываліся такія-сякія перамены, але нязменным заставаліся дзве рэчы: ён працягваў гаварыць пра жыццё і барацьбу на радзіме як пра адзіна годны выбар і працягваў жыць за мяжой.

Адзін час мы працавалі побач, і мне, дарэчы, падабалася яго сяброўскасць, зацятасць, заангажаванасць, апантанасць. Аднак патрабаванні да прафесіі хутка мяняліся, проста ўстаўляць сцягі і рыцараў на кані ў архітэктурныя праекты было недастаткова, вучыцца і мяняцца ён не хацеў і не мог.

Аднойчы ён узяўся распісаць царкоўную залу, і ў якасці персанажаў біблейскіх сюжэтаў змясціў сваю новую сям'ю. Размова па выніках выйшла непрыемная, яго прымусілі вярнуць аванс.

Адзін з кіраўнікоў дыяспары потым расказваў, што яму было так няёмка ў гэтай ролі з чалавекам, якога ён паважаў за былую творчасць і стараўся не зважаць на іншае, што ён казаў неабходныя словы, гледзячы ўбок. А потым чалавек без радзімы ўпэўнена пераказваў іншым, што, маўляў, той настолькі быў няшчыры, што нават не мог глядзець яму ў вочы. Што некаму магло быць няёмка і сорамна за яго самога, не магло прыйсці яму ў галаву.

Я зраблю тут адно адступленне: неяк мяне запрасіў у госці адзін чалавек, з якім мы пазнаёміліся на паэтычнай вечарыне. Ён удзельнічаў у дыскусіі, як і я, і запрасіў прадоўжыць гутарку. У невялікай кватэры, дзе ён жыў, нягледзячы на салідны ўзрост, разам з бацькамі, праз прахадны пакой мы праціснуліся ў ягоны пакойчык, дзе нічога не было, апроч кніжнай паліцы і тахты. Ён запрасіў мяне сесці, сам стаў у дзвярах і сказаў, што пачытае свае вершы. Замест кніг на паліцах ляжалі стосы агульных сшыткаў, па 96 аркушаў, удвая больш старонак, папера ў клетачку — я ў такіх вёў канспекты ў інстытуце, хапала на год. Ён разгарнуў сшытак і пачаў чытаць. Я не памятаю, пра што ён чытаў, памятаю толькі, што гэта быў чатырохстопны ямб, у якім пасля трох катрэнаў ішло рыфмаванае двухрадкоўе. Наступныя тысячу ці колькі гадзінаў я знаходзіўся ў паўкаматозным стане — анегінская страфа ў руках графамана дзейнічала як псіхатропная зброя, я страціў не толькі адчуванне часу, але і сілы, і волю, і толькі пагроза разрыву мачавога пузыра ўратавала мяне ад канчатковай пагібелі.

Маніі непадобныя адна да адной, і гэтая гісторыя прыгадалася мне тут толькі таму, што па вялікім рахунку нікога не выпадае вінаваціць у сваім адчуванні сораму і бездапаможнасці перад дурным густам і тупой настойлівасцю, апроч сябе самога.

Звонку магло падацца, што чалавек без радзімы проста жыве як пяе — непрактычна, не звяртаючы ўвагі на хлеб штодзённы, у свеце сваіх перакананняў, мрояў, ілюзіяў, якія для большасці з нас не менш важкія за рэальнасць.

Зблізку, аднак, былі бачныя кошты, якімі гэта аплочвалася. Не маючы неабходнасці працаваць, ён стаў удзельнікам расколу ў замежным асяродку: выбарчыя пасады, грошы, маёмасць, старыя рахункі і прэтэнзіі, групоўкі, нянавісць і марнасць запанавалі ў паветры. Ён выйшаў з аднаго хаўруса, далучыўся да другога, стварыў трэці… Раптам пачаліся суды за нейкія даўнія парушэнні мясцовых правілаў, і суд спустошыў небагатую скарбніцу самай паважанай арганізацыі замежжа. Грошы гэтыя, замест дапамогі пацярпелым за радзіму на радзіме, пайшлі на аплату чужых штрафаў на чужыне...

У яго абарону варта сказаць вось што: па-першае, спрэчкі, звады і расколы ў дыяспары былі спрадвеку, палітычныя, рэлігійныя, культурніцкія, нават правапісныя. На тое ёсць дзве прычыны. Адна — у эміграцыі разам апынаюцца людзі, якія дома ніколі б не мелі справы адно з адным, бо не мелі б нічога агульнага, настолькі розныя іх паходжанне, адукацыя, выхаванне, светапогляд. І агульных каштоўнасцяў — любові да месца нараджэння і нянавісці да яго новых гаспадароў — ва ўмовах свабоднага мірнага жыцця замала, каб утрымаць цэнтрабежную сілу асабістых амбіцый і памкненняў. Ды і любіць кожны сваё, і ненавідзяць за рознае. І прыватнае жыццё працягваецца і расцягвае агульныя адносіны ў бакі.

Па-другое, верагодна, трэба адрозніваць мастака і чалавека, спевака і песню. Мастак мае права напісаць вобраз Радзімы, спустошанай агрэсарамі, а чалавек, што ж, чалавек істота слабая і, верагодна, каб есці, мае права пайсці распісваць нацыянальны рэстаран акупантаў велічнымі ўсходнімі матывамі. Верагодна…

Але было яшчэ трэцяе — барацьба з ворагамі, якія выдаюць сябе за сяброў. Шукаць у сваім асяродку злыдняў і агентаў — не яго прыдумка, гэта не рэдкасць. Такая падазронасць — у чалавечай прыродзе, яна досыць камфортная, бо апраўдвае сваю няздольнасць, паразы, слабасці. Гэта яе тлумачыць. Але — і гэта над-

звычай істотнае але — не апраўдвае. Наадварот. Такая пільная падазронасць і ёсць выкананнем задачы спецслужбаў усіх часоў — скампраметаваць, пасварыць, аслабіць і зліквідаваць.

Змагацца з гэтай пошасцю — агаворам, кампраметацыяй з-за спіны, бруднай хваляй падазронасці — напрасткі амаль немагчыма і амаль не мае сэнсу. Найлепшы адказ — не даць ёй перашкодзіць рабіць справу, у якую верыш, не даць ёй перамагчы. Гэта калі робіш такую справу.

Расколы ў замежным асяродку працягваліся, і лічбы ў судовых зысках там ужо даўно перавысілі колькасць людзей, якія перасталі вітацца адно з адным.

Гэта было прыкра, але нянова, і калі што і вымушала судзіць, дык ён сам, яго карціны. І ягоныя заявы — вяртаюся, і не вярнуўся, еду на дэманстрацыю, на выбары, на пратэсты, і не ехаў, буду абараняць, і не абараняў. І, вядома, дзеянні на месцы — суды, пагрозы, абразы.

Аднойчы ён усё ж прыехаў, і былыя сябры зрабілі выставу, якая абуджала пачуцці страчанага часу, чыстай веры, звонкай надзеі. Такая сіла мастацтва, і яно яшчэ жыло ў ім — да вечара таго дня, калі ён паабяцаў, што пойдзе маляваць на могілкі, дзе ляжалі тысячы ахвяраў.

Ужо некалькі месяцаў валанцёры адстойвалі магілы ад руйнавання, жылі ў намёце, мерзлі зімнімі начамі. Іх палілі, збівалі, але яны неслі вахту, гэта былі маладыя героі, такія, як ён сам некалі.

— Я прыйду маляваць групавы партрэт абаронцаў каля вогнішча, — паабяцаў ён публічна.

І не прыйшоў.

І патлумачыў чаму: бо высветлілася, што там уначы, магчыма, будзе толькі адзін чалавек, што ж там маляваць.

А я думаю — за тую нястворную начную карціну для аднаго можна было б дараваць усё, усё. Якое марнаванне дару і часу. Як шкада.

## Чалавек без мінулага

Ён загараецца, калі гаворка заходзіць пра тое, чаго ўжо няма.

І тут палягае галоўная праблема — што такое «няма». Калі каханы чалавек пакінуў вас — ці значыць гэта, што каханне больш няма? А калі вы кахаеце?..

Верагодна, тое ж самае і з часам, з гісторыяй, з памяццю.

Аднойчы па радыё я пачуў верш на інаўгурацыю амерыканскага прэзідэнта — трохі няёмкі момант калектыўнай псіхікі, чытанне паэзіі на замову, і ўсе мусяць слухаць. Прэзідэнт выйграў новы тэрмін, і паэт адчуў у гэтай перамозе трагедыю: ты ўзыходзіш на другую вяршыню, а трэцяй няма. Што потым, як, навошта?...

Так бывае не толькі з прэзідэнтамі. У алімпійскага чэмпіёна самая яркая падзея назаўжды будзе ў маладосці. Пасля ўздыму на Джамалунгму застаюцца толькі колькасныя рэчы — іншыя сямітысячнікі, новыя схілы, без кіслароду, з грузам, на адной назе — варыяцыі, якія застануцца толькі варыяцыямі. Галоўнае ў жыцці здарылася, калі жыццё толькі пачалося.

Што рабіць з такім мінулым, з гэтай драмай сплылага часу, яго зместу, яго формаў, яго касмічнай, як лона маці, паўнаты?

Насамрэч гэта фарс. У параўнанні са смерцю любімага чалавека. У параўнанні з хваробай дзіцяці. У параўнанні са здароўем бацькоў. У параўнанні з голадам, гвалтам, турмой. У параўнанні са здрадай.

Але гэта пэўна не фарс для самога чалавека, які жыве мінулым.

Для яго мінулае не мінула, яно жыве і перажываецца, яно бяздоннае, як пустата, невычэрпнае, як атамнае ядро, зменлівае, як надвор'е.

У цэнтры ўспамінаў чалавека без мінулага — тэктанічны землятрус, які выклікаў цунамі, якое перасунула горы і гарады і

змяніла ландшафт. Ён быў там, ляцеў на той самай хвалі і ў тым самым накірунку, спяваў і адчуваў сябе яе рухальнай сілай. І яго мінулае гэта пацвярджае, як чароўнае паслухмянае люстэрка: так, так, ты на свеце лепш за ўсіх.

Але як можа адлюстроўвацца тое, чаго ўжо няма?

У яго мінулым час ад часу пачынаюцца новыя бітвы, толькі перамогаў і здрадаў становіцца з кожным годам больш, і яны робяцца ўсё больш бліскучымі, адпаліраваныя часам, як шкельцы бутэлек на акіянскім пляжы.

Ён разглядае іх, гуляецца з імі, выкладвае іх у арнаменты, спрабуе скласці ў сасуд і налівае туды віна, п'е і п'янее.

Гэта не кпіны, а спроба разабрацца. Мы ўсе мяняемся, нават калі робім усё, каб не мяняцца. Асабліва, калі робім усё. І ва ўсіх нас мінулае сёння не такое, як учора. Але — амаль безнадзейнае пытанне — у якой ступені, дзе мяжа, за якой усё жыццё ператвараецца ў амальгаму адлюстраванняў? Калі ветэран ператвараецца ў мемуарыста, што робіцца з рэальнай вайной і яе ахвярамі і героямі? Ці не меншае зло тут — чыста мастацкая проза, якая, прынамсі, нікога не падманвае, бо стварае сваю рэальнасць? (Не зло як зло, а, надварот, зразумела, дар.)

Паразамі ці перамогамі падзеі мінулага робяцца толькі з часам. Тое, што мы бачым цяпер, насамрэч мы яшчэ не можам бачыць. Бо яшчэ не адбылася будучыня, якая зробіць бачным цяперашняе. Узяць хрэстаматыйныя прыклады — Напалеон у Маскве, Гітлер у Парыжы. Што гэта ў выніку — перамогі? Паразы? Ці проста часткі аднаго гістарычнага кола, якія не маюць самастойнага значэння і вызначэння, пакуль не зроблены поўны абарот?

У мінулым чалавека без мінулага перамогі сапраўды ззялі больш, бо гэта былі перамогі, якія вялі ў накірунку большай справядлівасці, большага плёну, большага дабра.

Так тады лічылася. Пасля энтропія амаль з'ела іх.

І тут я выкажу самы безнадзейны аргумент на карысць чалавека без мінулага, якім, верагодна, лепш бы завяршыць гэты эскіз, настолькі ён неабвержны: у будучыні ўсё можа вярнуцца. І няважна, дачакаемся мы асабіста гэтай будучыні ці не. Колькі мільёнаў памерла, не ведаючы, як скончыцца вайна, ці разваліцца імперыя, уваскрэсне ці не фараон.

Я не ведаю, што можна гэтаму запярэчыць. І ці трэба ўвогуле. І як без такога аргумента можна жыць увогуле. І калі я не прызнаю тут сваю поўную паразу, дык толькі таму, што сам так думаю і спадзяюся.

Невялікая няяснасць палягае ў дзвюх дэталях — ці сапраўды няважна, ці дачакаемся, і што такое чаканне і яго наступствы.

Мінулае — мінулае толькі ў адным, умоўным, каляндарным вымярэнні. Астатняе — каштоўнасці, прынцыпы, пачуцці, узаемадзеянні любові, нянавісці, гандлю, падарожжаў, пахаванняў, вяселляў, народзінаў — яны не страчваюць значэнне, калі мецьпамяць. Чалавек без памяці — не чалавек. Але калі чалавек — толькі памяць?

Наш агульны сябар неяк сказаў — як нам усім пашанцавала, што ён такі! Што ён збірае, захоўвае і мае ўсё мінулае пад рукой — бо без яго проста б знікла, проста адсутнічала б, як ненапісаны тэкст на белым аркушы.

І гэта — пагаджуся і не буду аспрэчваць — безумоўная цывілізацыйная каштоўнасць. Гэта стварэнне культуры, павелічэнне ведаў, паляпшэнне нораваў — высакародны, патрэбны, удзячны занятак. Папракаць у гэтым чалавека — усё роўна што папракаць у абмежаванасці, напрыклад, лекара, які ў вольны час чытае не Шэкспіра, а медыцынскія часопісы. Да якога лекара вы пойдзеце — з хатняй бібліятэкай санетаў ці навуковых манаграфій?

Ну, а калі з лекара мог выйсці не яшчэ адзін вырэзчык апендыцытаў, а Чэхаў? Калі з адваката мог выйсці не суддзя, а прэзідэнт Лінкальн? Хоць — каму які дар...

Дарэчы, паэт, які адчуў драму паўторнага прэзідэнцтва, памыліўся — яго герой пасля зыходу не толькі застаецца самым папулярным з жывых на гэты момант амерыканскіх прэзідэнтаў і ўплывовым палітыкам, не толькі стаў мільярдэрам і сусветным філантропам, але можа яшчэ паспытае новую небывалую ролю — мужа прэзідэнта, «першага спадара». І гэта не выключэнне — другая і трэцяя кар'еры не рэдкасць, як зусім не рэдкасць другі ці трэці шлюб, змена краіны і грамадзянства, нават полу…

Не выключэнне, але, верагодна, і не правіла.

Уільяму Фолкнеру належаць часта цытаваныя словы — мінулае не памірае, яно нават не мінулае.

Гэта так і не так, бо ёсць розныя тыпы мінулага. Квантавая механіка ведае рэчы, якія маюць пачатак і канец, але не маюць гісторыі — скачок, і новая якасць. Калі мінулае як мінак, што перайшоў вуліцу, дык яно мінае, і можна ехаць далей. Калі машына збівае пешахода, дык ўсё, што было ў яго жыцці перад гэтым, не проста мінае, а быццам ужо ніколі не існавала. Быццам? Ці ўсё ж не існавала, перастала быць мінулым? Адзін адказ ведаюць вернікі, іншы — бібліятэкары і архівісты, трэці — паліцыя, чацвёрты — дзеці. Мінуласцяў становіцца столькі, колькі памяцяў, жывых і на паперы, у камені, у дыгітальных значках.

Адзін паэт пасля перажытага ім стагоддзе таму землятрусу і цунамі, якое змыла яго краіну, яго культуру, яго жыццё, прыйшоў да радыкальнай высновы: нічога апроч мінулага няма. Чалавек без мінулага ўзвёў гэтую максіму ў абсалют: не толькі нічога няма апроч мінулага, але і не будзе.

Гэта не зусім недарэчна. Так бывае са стратамі, большымі за нас саміх — тымі, што апісваюцца горкім, як вулканічны попел, і безнадзейным, як застылыя лава, словам «гора».

Але калі мінулае і памяць зліваюцца ў адно, памяць становіцца мінулым. І мінулым становіцца сам чалавек. І ў гэты момант ён становіцца чалавекам без мінулага.

## Чалавек без кнігі

Якая нікчэмнасць, сказала мая спадарожніца пасля сустрэчы з ім. Ён толькі што падпісаў ёй сваю кнігу, у якой назваў яе «богападобнай». Мы выходзілі з манастыра, падбегла служка з суровым выразам твару і выхапіла шаль, які выдалі напракат на ўваходзе.

Сонца стаяла над галавой, калі мы ўваходзілі на гэты адзін з самых знакамітых манастырскіх падворкаў краіны, дзе была прызначаная сустрэча з нашым агульным знаёмым, які пасля вірлівага сталічнага жыцця памяняў спакусы свету на вабноты келлі.

Было горача, нават у галоўным храме не было чым дыхаць. На сценах віселі таблічкі «Не курыць». Калі я падышоў бліжэй, пабачыў, што насамрэч таблічкі забаранялі размаўляць: «разговаривающим в храме посылаются скорби». Я налічыў восем такіх пагрозлівых папярэджанняў, якія нагадвалі армейскае «разговорчики в строю!». Нідзе навідавоку не было словаў пра любоў ці дараванне, пра вечнае жыццё ці прасвятленне, пра міласэрнасць ці веру. Што ж так гучна абмяркоўваюць узбуджаныя пілігрымы, што трэба іх увесь час «одёргивать»?

Тут не гавораць, прашаптаў мне ў вуха служка, калі я задаў гэтае пытанне сваім таварышам. Скуль ён узяўся ў пустым храме, хаваўся за калонай?..

Ладную частку царквы займаў высокі цёмна-карычневы прылавак, за якім завіхаліся два прадаўцы. У правым нефе стаяла труна з целам манаха-нябожчыка — самотна, быццам частка забытай мэблі, неслі і не данеслі, бо пазванілі на трапезу.

Наш знаёмы быў... Цяжка сказаць, кім ён быў. Гуманітарый, займаўся філасофіяй, актыўнічаў на грамадскіх палетках, складаў вершы, у якіх было багата малітоўнай духоўнасці, але не было таямніцы. У сваіх папярэдніх жыццях ён меў некалькі сем'яў, дзяцей, каханак, у вялікім доме, які застаўся яму ад знакамітага бацькі-акадэміка, сустракаліся людзі багемы і палітыкі. Глыбокай

ноччу ён мог пагрукаць у дзверы да малазнаёмага чалавека з якой-небудзь петыцыяй у руках, кшталту адабраць храм у адных вернікаў і перадаць іншым, — наступнай раніцай збянтэжаныя падпісанты перазвоньваліся, каб высветліць, што гэта было, і адклікалі подпісы.

І калі ён раптам апрануў чорную расу паслушніка — многія ўспрынялі гэта не як асабісты душэўны крызіс, трагедыю ці катарсіс, а як працяг гульні ў бяскрыўднага, сімпатычнага, таварыскага блазна. Ён змяніў свецкае імя на манаскае, але пакінуў паганскі псеўданім, якім падпісваў вершы. Адны пабачылі ў гэтым працяг перарванай традыцыі духоўнай паэзіі, іншыя — свецкі запал і рыторыку. Родная дачка публічна назвала яго ідэйным правакатарам, а ягоныя выступы прапагандай.

У гэтую сустрэчу мяне цікавілі не вершы, а адна яго даўняя праца — фактычна, адзіная даследчая праца, але сапраўды ўнікальная, якая яго праславіла. Некалі ён запісваў выказванні людзей пра веру — у кавярні і тэатры, у парку і бібліятэцы, распытваў настаўнікаў, сацыёлагаў, інжынераў, цытаваў лісты геолагаў, чыгуначнікаў, падаваў вершы і выказванні пісьменнікаў. У атэістычнай краіне гэта было рызыкоўна, не заўсёды прыемна, і — патрэбна.

З акадэмічнага пункту гледжання праца была сырая, з літаратурнага — хаатычная, аднак запісаныя маналогі ўспыхвалі вясёлкай і стваралі эмацыйную панараму, супярэчлівую, але жывую, і таму не безнадзейную. У тэкстах прысутнічала маральная напружанасць, некаторыя сведчанні нават праз дзесяцігоддзі гучалі «як труба архангела, што склікае на страшны суд».

Тэма веры тады, напрыканцы 1970-х, была забароненая. Бога яшчэ не было. Рукапіс патрапіў за мяжу, і яго выдалі недзе ў Парыжы. Аўтара пакаралі — выключылі з кампартыі, не далі абараніць дысертацыю, ён пачаў доўгае змаганне за аднаўленне ў шэрагах, якое спыніла толькі смерць партыі ды распад імперыі.

Яму было тады ўжо трохі за пяцьдзясят, ён паспрабаваў вярнуцца ў навуку, але няўрымслівая натура не надта спрыяла карпатлівай рэстаўрацыі мінулага, да таго ж пачаліся суды за бацькаву вілу.

Калі суды скончыліся, ён прыняў пострыг. Я не распытваў яго пра гэты крок, ды і не ўпэўнены, што ён захацеў бы расказаць, і што расказаў бы — здаецца, усё гэта патлумачана і перατлумачана Дастаеўскім і яго імітатарамі. Калі людзі з універсітэцкім дыпломам пачынаюць распавядаць пра свой прыход да праўдзівай ісціны, ураЖанне часцей за ўсё, што яны не тлумачаць, а пераказваюць.

Ён павёў нас па манастырскім двары, які маляўніча ўздымаўся на пагорак. На бялюткіх барочных цэрквах, якія нейкім цудам спусціліся сюды з неба і вось-вось гатовыя былі ўзляцець ізноў, віселі жалезныя замкі. Доўга шукалі ключы — навошта замыкаць, тым больш на абнесенай мурам тэрыторыі, дзе на ўваходзе стаіць будка вартаўніка, фактычна падвоенае кола аховы?..

Каб лукавы хвастом не махнуў, адказаў ён. (Лукавы ўсё ж хвастом паблізу махнуў, ці нават капытом стукнуў — такой смярдзючай, з лужынай пасярэдзіне прыбіральні для паломнікаў я не бачыў нават на аўтобусных прыпынках у райцэнтрах за савецкім часам.)

Мы папярэдне дамаўляліся аб сустрэчы, у яго быў мабільны тэлефон. Ён не толькі чакаў нас, але і рыхтаваўся — прачнуўся вельмі рана і напісаў тэзісы выступу.

У пустой царкве ён падняўся на самы верх драўлянай галгофы, як называлі там стромкую лесвіцу, копію дваццаці васьмі прыступак з палаца Понція Пілата, і, заглядваючы ў нататкі, зачытаў прывітальны прысуд. «Педэральная дэманкратыя», «транскантынентальная тусоўка», «заакіянскія педафілы» і іншыя падобныя каментары пра бягучы момант рэхам адбіваліся ад векавых сценаў,

дзе на яркіх адноўленых фрэсках знакаміты падсудны нёс свой крыж, а за высокімі вокнамі ў сінім небе плыло белае сонца.

Я не быў знаёмы з ім у той час, калі ён збіраў сваю знакамітую кнігу. Гэта быў сапраўды надзвычайны чын, ён паказваў новыя старонкі сябрам і знаёмым, і ніхто не выдаў, не данёс. Прынамсі, рукапіс быў даведзены да канца, не канфіскаваны, і аддадзены на водгук самаму ўлюбёнаму і аўтарытэтнаму тады пісьменніку, куміру пакалення. Пісьменнік назваў рукапіс гатовай кнігай, агаварыўся, што мае такія-сякія заўвагі, прааналізаваў сабраныя там выказванні, некаторыя падтрымаў, з некаторымі палемізаваў, выказаўся сам, але амаль нічога не напісаў пра аўтара, не вывеў ніякай праекцыі з тэксту на яго стваральніка, як звычайна робіцца ў такіх водгуках.

У назве кнігі значыліся словы пра маральна-эстэтычны прагрэс — цяпер, праз некалькі дзесяцігоддзяў, выглядала, што ў жыцці аўтара гэты прагрэс дайшоў да поўнага завяршэння.

У гэтай самай епархіі, дзе ён заняў віднае месца і дзе сцены ў храмах былі завешаныя папярэджаннямі не балбатаць, як у пільныя 1930-я, у прытворах цэркваў можна было пабачыць лісткі жоўтай газетнай паперы з яго рыфмамі. Словы там нават не складваліся ў сказы — мова распадалася на шматкі. Дзіркі ў тэксце, прыкрытыя шматкроп'ем, і абарваныя, недагавораныя радкі нагадвалі руіны пасля бамбавання, калі няясна ўжо, дзе былі вуліцы, вежы, званіцы, і толькі клічнікі тырчэлі, як тэлеграфныя слупы з абарваным дротам. Можа, так праяўлялася кананічная гісторыя гэтых мясцінаў, якую здаўна раздзіралі, палілі, разбуралі і перапісвалі варагуючыя прыхільнікі адной і той самай веры, бязлітасныя адно да аднаго, як фарысеі да іх агульнага першапачынальніка.

У адной з цэркваў ягонай епархіі я пабачыў прышпілены да калоны пералік грахоў, якія патрабавалася ўзгадваць на споведзі. Спіс, хоць і называўся кароткім, займаў чатыры старонкі, больш за паўтара дзясяткі тысяч знакаў. Апроч традыцыйных правіннасцяў у справах і думках тут грахом лічылася есці каўбасу-крывянку,

доўга спаць, жанчынам — хадзіць па царкве пад час месячных і дакранацца да святыняў (мужчынам — «после ночной скверны»), абліваецца вадой паводле нейкага Іванова, займацца ўрынатэрапіяй, усходнімі адзінаборствамі і прафесійным спортам, чытаць гараскопы, Настрадамуса, Блавацкую, Рэрыхаў і яшчэ з паўтузіна аўтараў, слухаць эстрадную і рок-музыку, удзельнічаць у конкурсах прыгажосці, фарбавацца, купацца і загараць разам з асобамі іншага полу, насіць шорты і наведваць маўзалеі…

Быў нават грэх пад назвай «поза» (ён тлумачыўся кантэкстам — побач быў грэх здачы памяшканняў для блуду); непакорлівасць начальству была такой самай правінаю, як купляннe шафёрскіх правоў, гульні ў камп'ютары і нясціпласць у хадзе.

Дзеля чаго ён прабавіў ужо амаль траціну жыцця, апускаючыся ўсё глыбей у гэты калодзеж, якая пільніца прыціснула? Ці сапраўды стала яму невыносна пад сонцам і спадзяваўся знайсці там жывую крыніцу альбо пабачыць адтуль зорку, ці так разгулялася ўласная пустата, што ён не мог ужо даць ёй рады і спрабаваў схаваць яе ў іншай пустаце — Бог ведае…

Адзін мой сябар, знаёмы з ім даўней і лепш, напісаў мне, што не судзіў бы яго за метамарфозу. І патлумачыў, чаму: «За той уплыў, які некалі ён аказаў на мяне, на ўсё нашае літаратурнае пакаленне, я яму безапеляцыйна выбачаю ўсё мінулае, цяперашняе і будучае. Мы былі знаёмыя блізка. Ён мне прызнаваўся, што галоўны грэх у яго і спакуса — жанчыны, ад іх трэба ўцякаць. У Бога ён верыў па-сапраўднаму... Мы некалі ездзілі ў Вільню на з'езд БНФ, начавалі разам у гатэлі, многа гаварылі — пра Бога, жыццё, літаратуру. Літаральна кожнае яго слова было прасякнута дабром і мудрасцю. На другі дзень ён выйшаў на трыбуну і, ззяючы вачыма, пачаў чытаць: «Ля Кастуся, ля Гедыміна, пад небам віленскіх муроў // Мая палонная Айчына // Сабрала сход сваіх сыноў...» Мурашкі беглі па скуры».

І праз чвэрць стагоддзя ззялі ягоныя  вочы з верхняй прыступкі пілатаўскай лесвіцы, узмываў голас у акафісце славянскай «Наваросіі», крыло манаскай расы ляцела на перахоп «цёмнага духа свабоды». Ён скончыў чытаць сваю анафему і ўручыў нам пакрэмзаныя аркушы — манаскія правілы прадпісваюць выкарыстоўваць любую сустрэчу для маральнай дабрадзейнасці.

Потым замкнуў храм, паторгаў замок, схаваў ключ пад расай.

На дварэ адчуванне сораму зменшылася. Клубок чорнай пустэчы амаль знік у пасмах вечаровага сонца. На развітанне ён падпісаў мне, як і ўсім, сваю кнігу: «Богападобнаму...»

Ён, магчыма, прачытае гэты тэкст і, паводле канону, мусіць пашкадаваць мяне за маю цемру непрасвяцімую, за няздольнасць убачыць ісціну, мусіць дараваць і нават маліцца за мяне.

Не трэба, брат. А за кнігу — дзякуй.

## Чалавек без свабоды

Гэтага персанажа я ведаю даўней за іншых, што не азначае, напэўна, лепш.

Мяне ў ім раздражняе ягоная нерашучасць і ягоныя сумненні, яго эмацыйная глухата і сентыментальнасць, яго паспяховасць і шанцаванне — амаль тое ж самае, што раздражняе мяне ў сабе самім.

Аднойчы я паспрабаваў уявіць яго на месцы Сміта з «1984». Калі таго пачалі катаваць і нарэшце зрабілі тое, што мроілася яму ў начных кашмарах — запусцілі на яго пацука — ён закрычаў: зрабіце гэта ёй, майму каханню, Джуліі! Чаму такія думкі прыходзяць у галаву?..

Ён ніколі не гаварыў пра жанчын, і калі я спытаўся яго пра Оруэла, ён адказаў сваёй любімай фразай:

— Ведаеш, я не да канца давяраю сам сабе, што ж мне казаць пра іншых.

Адна ягоная сяброўка была ў школьныя гады ўзорнай вучаніцай і актывісткай, і аднойчы, калі яны абмяркоўвалі подзвіг нейкай гістарычнай гераіні, якая не выдала тайну і яе закатавалі, сказала перад усімі — а я напэўна б не вытрымала і выдала, і заплакала.

Яна стала яго першым каханнем. Нядоўгім, але ўзаемным. Дакладней, наадварот — узаемным, але нядоўгім. Ці нават так: узаемным і таму нядоўгім.

Яго каханні нагадвалі сляпога, які ідзе па вуліцы і раптам знікае, і цяжка зразумець, што адбылося, пакуль не заўважыш адкрыты люк пасярэдзіне дарогі. Па-французску ці па-англійску пра гэты стан кажуць «упасці» (*fall in love, tomber amoreux*), а на пачатку любога падзення ёсць палёт, тым больш што гравітацыя ў гэтых справах не працуе, да таго ж кожнае новае яго каханне было ўзаемным — а толькі ўзаемна гэта мае сэнс. Секс, неяк сказаў ён, мае сэнс толькі калі ўзаемна, бо іначай ён проста тавар, які можна купіць. Лепш схадзіць у спартовую залу. Праўда, ён не стаў удакладняць нічога пра час, працягласць, а ў яго гэта магло сціскацца да гадзіны і магло расцягвацца на гады. Магчыма, гэтыя рэчы не вымяраюцца часам.

Што яшчэ яго вылучала сярод маіх знаёмых? Нават не тое, што яму шанцавала, а — як. Неяк у яго ўсё складвалася як норма, як належнае, без высілкаў з яго боку. Быццам нехта ім апекаваўся і дапамагаў, і ў часы выпрабаванняў, і ў часы спакою. Пры гэтым, здаецца, ён не выклікаў нядобрай зайздрасці, збоку здавалася, што так і трэба. Ён на роўных сябраваў са знакамітымі асобамі, яго прафесійныя працы атрымлівалі прэміі, яго вылучалі на розныя пасады.

Я спытаўся яго аднойчы — а калі б ты быў цалкам свабодны — што б ты выбраў?

— Магчыма, стаў бы паэтам. Баюся, паэтам, — засмяяўся ён.

І патлумачыў: адным з тых бедалагаў, якія звар'яцелі ад музыкі ў сваёй галаве, і нідзе нікому ніяк не былі б патрэбныя, бо гэта ўсё роўна як стаць астранаўтам-самавукам — гэтыя рэчы так проста не працуюць. Але калі сур'ёзна — калі не стаў, значыць, быў недастатковы для гэтай ролі, для гэтай найвышэйшай ролі з усіх магчымых. І цела выбрала сваё.

— Цела? — здзівіўся я.

Аказалася, тут ён быў ужо цалкам сур'ёзны. Паводле ягоных словаў, усім у сваім жыцці ён абавязаны свайму целу. Як яно клапоціцца пра яго душу!!!

Напрыканцы ўніверсітэта, калі ён пісаў ужо, хадзіў у літааб'яднанні, праседжваў ночы за вершамі з новымі знаёмымі і марыў пра вольнае пісьменніцтва, перад ім паўстала размеркаванне ў вёску настаўнікам. І тут ягоны ўплывовы сваяк, які займаў некую важную пасаду, прапанаваў — пайдзі ў кдб. Добрая кар'ера, усе дзеці начальства туды ідуць, плацяць за званне, праца не пыльная, вывучыш мовы — будзеш ездзіць за мяжу. Ён не надта ведаў, што гэта такое, не сутыкаўся, фільмы паказвалі заліхвацкія, ну, можа, і так, чаму не, і трэба было спачатку прайсці медычны агляд, фармальнасць, ён праходзіў такія агляды ўвесь час, бо займаўся спортам, быў ва ўніверсітэцкай зборнай, ездзіў на зборы, і тут пайшоў у гэтую спецыяльную клініку, і ўсіх лекараў прайшоў, засталася апошняя кардыяграма — і там пачалося нешта няўцямнае. Зрабілі раз, потым паўторна, лекары выходзілі і заходзілі ў пакой, далі яму нейкія мікстуры, зноў слухалі, вымяралі, а потым прынеслі заключэнне — непрыдатны. Ён выйшаў на вуліцу, і зямля паплыла пад нагамі, і ён не зразумеў, што адбылося, а гэта ён узляцеў, такое радаснае шчасце раптам напоўніла яго, як гарачы газ напаўняе паветраны балон, ён ляцеў над тратуарам, над паркам, над горадам — сэрца ўратавала душу. Сэрца, само, само, без адзінага слова, зрабіла за яго выбар.

— О, маё сэрца, разумнейшае за мой розум, мацнейшае за мае біцэпсы, цвярдзейшае за мой чэлес, прыгажэйшае за мае песні, хутчэйшае за мае думкі, смялейшае за мае словы, лепшае за мяне!..

Гэтыя гісторыі з целам у яго сапраўды паўтараліся: ён меўся апынуцца ў цэнтры адной небяспечнай для сябе сітуацыі, але зламаў руку і паехаў дадому да бацькоў. Вярнуўся, калі высветлілася, што дыягназ быў памылковы, пералому не было. Падобныя выпадкі потым адбываліся зноў — шпіталізацыі, эвакуацыі, якія ўрэшце сканчаліся зменай дыягназу, нават калі яго раней пацвярджалі самыя сучасныя медычныя тэхналогіі і апараты.

На яго зрабіла вялікае ўражанне гісторыя аднаго эмігранта, ідэалістычнага юнака, які вырашыў вярнуцца на Радзіму, каб змагацца за яе свабоду, і перайшоў мяжу. Мяжа і ёсць подзвіг. Тут і цяпер.

— А што пасля тут і цяпер? — крыху іранічна спытаўся я, бо гэты штамп даўно раздражняў мяне сваёй недарэчнай паўсюднасцю.

— Далей проста нічога няма, далей не бывае, — сказаў ён. — Усё заўсёды бывае толькі тут і цяпер.

У пэўным сэнсе ён меў рацыю. Рэч была ў тым, каб напоўніцу выявіць патэнцыял сітуацыі, і тады яна станавілася новым тут і новым цяпер. Чаго не возьмеце сягоння, таго і заўтра вам не ўзяць, як пісаў паэт.

Калі ён вырашыў, што паэзія не для яго, дык сабраў свае аркушы, расклаў вогнішча на беразе гарадской рэчкі і падпаліў. Міліцэйскі патруль, які пачаў разбірацца з праваапарушэннем, з разуменнем паставіўся да паважнай літаратурнай традыцыі і абышлося без штрафу.

— Сяржант нават сказаў — а, можа, дарэмна?.. — расказваў ён праз гады.

Хутка высветлілася, што рукапісы не гараць — ён усё аднавіў па памяці. Аднак усё ж здолеў стрымаць сябе і не стаў больш па-

сылаць у рэдакцыі. Я бачыў яго слупкі, там была іскра, але быў толькі адзін спосаб уведаць, ці стала б яна полымем, аднак ён не наважыўся.

Аднойчы ён размаўляў з пенсіянерам НКВД, які насмешліва спытаўся, што б ён рабіў на яго месцы, каб патрапіў у такую сітуацыю: затрымалі чалавека, які замініраваў шпіталь, але на допыце не прызнаецца, дзе бомба. Катаваць і, магчыма, выратаваць жыцці хворых і лекараў, ці дзеля сваіх непарушных маральных прынцыпаў працягваць угаворваць?..

— І я падумаў — а сапраўды? — расказваў ён. — Што б адказаў твой Оруэл?..

Сам ён тады сказаў суразмоўцу, што не апынуўся б на яго месцы. Пры ўсёй наіўнасці адказ быў не такі ўжо і наіўны, бо хоць чалавек не выбірае акалічнасці, усё ж часам выбірае, ці заставацца чалавекам. Ды й форма, месца працы ці род заняткаў не ёсць адзінымі вызначальнымі ўмовамі, па якіх праходзіць лінія падзелу.

І ўсё ж мушу прызнаць, што яго адказ пакідаў тады адчуванне сумнення, амаль зыходу ад адказу. Можа, таму, што я сам яшчэ не разумеў, што насамрэч існуе сама мала два правільныя адказы на гэтае пытанне, для міру і для вайны, і лакмусавыя абстракцыі ніколі нічога ні пра кога пэўна не сведчаць.

Усё жыццё ў яго сапраўды заставалася доля нейкай няўпэўненасці — быццам ён заўсёды дапускаў варыянты, іншыя магчымасці. Але паколькі гэта не адштурхоўвала сяброў і не пладзіла ворагаў, дык мучыла толькі яго самога.

Я гаварыў аднойчы пра гэтую ягоную рысу з нашым агульным знаёмым, вядомым у свой час музыкам, які пайшоў у манахі. Пасля абавязковых у такой размове агаворак, тлумачэнняў і спасылак на аўтарытэты манах нечакана згадаў Оруэла і яго цэнтральнае паняцце: страх.

— Ён баіцца здрадзіць, бо здрада заўсёды не каму-небудзь, а сабе самому, так? — спытаўся я.

— Ён баіцца выбару, бо насамрэч баіцца свабоды, — сказаў манах.

Выснова гучала як прысуд. Магчыма, жорсткі, але быццам справядлівы, і наступныя яго жыцці, яго новыя тут і цяпер, адпавядалі прысуду. Так падавалася.

А як было насамрэч — я не ведаю. Але думаю цяпер, гледзячы і на сваё жыццё, што без выбару нічога не бывае, што наш прысуд быў занадта катэгарычны і, значыць, не надта справядлівы.

Насамрэч, гэта быў страх выбару не той свабоды. А хто не мае такога страху, той не зусім чалавек. Паўчалавек альбо паўбог, напалову жывы ці напалову бессмяротны, але заўсёды кентаўр ці русалка, якія не ведаюць горычы спакусы і слодычы пакаяння, цяжару браць і радасці аддаваць, розніцы паміж адсутнасцю няшчасця і шчасцем.

Не ведаю, ці сапраўды ён мог бы стаць паэтам. І што б з гэтага выбару атрымалася.

Свабода мець не адрозніваецца ад свабоды не мець. Адрозніваюцца толькі свабода быць і не быць.

І калі ёсць яшчэ суцяшэнне, дык толькі ў гэтым.

## У люстэрку

Зазірнуў адзін чалавек у люстэрка і нічога там не пабачыў. Тады спытаўся ў сяброў, што б гэта значыла?

— Ты большы за люстэрка, — сказаў першы.

— Люстэрка большае за цябе, — сказаў другі.

— Ты аслеп, — сказаў трэці.

І ўсе мелі рацыю. Хоць проста была ноч.

## Сэлфі

Калі верыць Плутарху, першы ў гісторыі аўтапартрэт належыць скульптару Фідзію, які ўключыў сябе ў кампазіцыю «Бітва амазонак» у Парфеноне, і зрабіў гэта дзве з паловай тысячы гадоў таму.

Лепш не верыць. І не толькі таму, што так, паводле розных «педыяў», рабілі ўжо сама мала на тысячу гадоў раней, за часамі фараона Эхнатона, а таму, што любы чалавек ад нараджэння толькі й займаецца тым, што ўстаўляе сябе ў розныя бітвы з амазонкамі і без, нават калі не глядзіцца ў люстэрка, не ловіць свой адбітак у вадзе, не выцягвае руку з фотаапаратам ці тэлефонам (значыць, няма сяброў, як пагрозліва тлумачыць паняцце «сэлфі» адзін слоўнік) і не націскае кнопку — асабліва, калі не націскае, бо гэта таксама выбар, усведамленне самога сябе, а значыць — аўтапартрэт.

## Аўтапартрэт на вадзе, з мастаком і яхтсменам Яўгенам, з якім мы плылі-плылі з Пінска да Турава

Усё было выдатна.

Усё было выдатна, пакуль не спатрэбілася флэшка.

Чаму яна спатрэбілася на месцы нараджэння Кірылы Тураўскага, там, дзе Арынь упадае ў Прыпынь, нібы медыум у транс, і трансвестуе ўсіх мясцовых німфетак у німфаў і дэпартуе наўпрост на Няву, бо так ідзе там гарызантальная лесвіца лёсу — чыгунка, з поўдня ў белыя ночы, праз лясы з дрыядамі, праз лугі з лімнадамі, праз палі з напеямі, стук-стук, піцербрук, але дарога ў людзі ідзе паралельна ў два бакі адначасна, і таму дружна яны вяртаюцца дадому на лета наядамі, каб распранухца, расплесці косы белыя, косы чорныя, косы рыжыя, рассмяяцца-раззмяіцца і ўляцецца ў плацкартную ваду, заслізгацца, закоўзацца, заплюскацца, запісяцца, ускіпецца, успеніцца і зазіхацецца так, што Косця-матарыст слупянеў каля штурвала, і тады капітан крычаў страшным басам права руля — лева руля, і яхта пачынала круціцца, як ваўчок, усё хутчэй, усё кручасцей і часцей, аж пакуль русалкі не зліваліся ў адно срэбнае кола, і тады Косця браў сябе за галаву і кідаў яе за борт, і вяртаўся назад нараніцу, хоць і не абавязкова на наступны дзень, з галавой пад пахай, якая спрабавала нешта патлумачыць, але не магла, ды й не трэба было, бо капітан усё разумеў і так, бо мастак і француз ганаровы горада Альбэра, мара мэрыі і мроя мэра, чысты, як арт, палескі, як пірат, які ведае, як вузлы вязаць, канцы аддаваць і не ўмее адмаўляць нерэідам, бо не ірад, а Южын, о, Южжжын, гулі яны яго ядвабнае імя, намалюйце маю душу, Южжжж, гладкую, як поўсць, бліскучую, як восць, салодкую, як млосць, я малюю толькі сваю душу, мадам, толькі сваю, маўчаў ён у адказ, і моўчкі чакалі іх мужы, браты і ка-

ханкі, пакуль яны плылі за далягляды на яго мальберце, іх кідала ў неба акіянская хваля, несла на скалы і драпала аб рыфы, іх паліла сонцам, выгінала вагінамі, залівала алеем, і калі суцішаныя і суцешаныя вярталіся яны з пяском у валасах і вільгаццю ў голасе, іх мужчыны налівалі віно, і ён не адводзіў вочы, але заўсёды насіў з сабой нож, ожж, жжах і ах, налівалі і ўпалі, і нават паліцыя ветлая, як вярба ніцая, толькі дзякавала, мерсі, месье, усё бон, што не сканчаецца, мсье, пардон і орэвуар, сье, не тое, што тутэйшыя е, чучалы-мяўчалы, сучалы-казючалы, вяртыкучалы-факучалы, паказваў ён свае шрамы-шнары, свае прабоіны, свае батальныя пейзажы на грудзях, на плячах, на баках, на ватэрлініі вось такой вышыні, вось такой ніжыні, вось такой даўжыні, і русалкі выляталі з віроў і пляскаліся з разлёту аб палубу, як лятучыя рыбы, і спявалі яго імя на свой лад карагодны Яўген праснаводны, Аўгенн акварэльны, Геннн вандравальны, пакуль уся вада не сцякала ў вусце, пакуль берагі не забываліся адно пра аднаго ў вусцішы, і толькі чыгуначныя масты недарэчнымі сашчэпкамі віселі ў паветры, бяскрыўдныя і вартыя жалю, вартыя смеху, вартыя вар'ятні, і тады мачыў ён свой пэндзаль у сіняе шкадаванне і вяртаў мора Герадоту, рэчку берагам, а русалак водарасцям, гародарасцям, садасцям, бо няма нічога смачнейшага за белы наліў, ліўны ябыл, еблы анліў, лыбны бяліў, шкада не ляжыць, а што ляжыць не шкада, што імжыць не бяда, што ім жыць як набяжыць дажджавая грамада, і ветразь выдзьмуваўся, як загулялая дзеўка, і яхту несла на бераг, як п'яны нясе лухту, як вартавы варту, як асуджаны адказнасць, і месяц танчыў на разбітых, як сэрцы, бутэльках, і світанкі змянялі стому на тэму, а капітан трымаў курс на зорку Палын, рыжую, як іржа, колкую, як пожня, вузкую, як ножны, у якія ўваходзіш, як Прыпынь у Арынь, і не выйсці, пакуль не заснеш і не прачнешся ў флэшцы, вось чаму.

Вечная памяць.

## Аўтапартрэт на зямлі, з машыністкамі, якія друкавалі-друкавалі мае нечытэльныя нават мною рукапісы

Усё было выдатна.

Усё было выдатна, пакуль не прыдумалі камп’ютары.

Іх прыдумалі, і знік электрычны грукат мірных, як марскі шум, інтымных, як салон прыгажосці і небяспечных, як грымучая змяя, машбюро, населеных дзесяціпальцавымі іншапланяцянкамі, якія маглі адначасна слухаць-курыць-гаварыць-плакаць-смяяцца-фарбавацца-задзірацца-мірыцца-купляць-прымяраць-пазычаць-ратаваць аўтараў, якія маглі пісаць, але не маглі разабраць свае каракулі-рукакалі, вось з якога калакала стваралася раней літарара, журналала і дысертала, на друкарскіх машынках, з дапамогай жрыцаў клавіятуры, прынцэсаў капіркі, царыцаў пяці экзэмпляраў, каралеваў халтуры, як называлі пазапрацоўныя замовы, левыя, як фронт мастацтваў і хлебныя, як прыпек, якраз хапала на капронавыя панчохі і калготкі, якія рваліся аб абшарпаныя вуглы фанерных крэслаў, як чарнавікі пасля правак, і ўсе яны былі трохі закаханыя ў сваіх замоўцаў, якія ведалі тайны рытму і рыфмы, але не ведалі, дзе літара П, а дзе Р у раскіданай у алфавітным беспарадку па пластыкавых бліскучых гузіках роднай мове, бо не маглі адвесці вочы ад самотнай, нефабрычнай, адмысловай, ручной працы літары Ў, якая вытыркалася сярод чарады чорна-белых аднолькавых чаек, як брыдкае качаня, і прыцягвала руку, якая ткала вар’яцкі гуд перадслова, перадверша, перадсэнсу, перадгуку, перадгруку ЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎЎ, аж пакуль карэтка не стукалася аб упор, як сэрца аб грудзі, і, каб не выскачыць, не пасылала хрыпатае папярэджанне, як баржа ў туман, ук-хр-цэпэтэжэ, адбываўся пракрут, адначасны, як службовы раман, рух у двух накірунках адразу, налева і ўверх, і ўсё

працягвалася спачатку, толькі тэкст апускаўся ўніз, як рука на каленку, і кожны новы радок набліжаў да развязкі, няпэўнай, як коска, адкрытай, як двукроп'е, кароткай, як працяжнік і непазбежнай, як кропка, і чорнае ворыва пакрывала папяровую цаліну і рэальнасць вытыркалася дыякрытычнымі знакамі, якія чапляліся за зрэнкі апострафам, гэтай коскай на другім паверсе, нават па-над другім, над міжлітарнай пустэльняй, як паветраны акрабат над арэнай, без страхоўкі, без сеткі, пад барабанны бой, які ператвараў рукапісны хаос, вонкава неадрозны ад драпінаў фанографа на воскавым валіку, у свята для вачэй, якое паводле ГОСТу 6.39-72 выглядае як старонка А4, дзе месціцца ад 29 да 31 радка ці 1860 знакаў праз два інтэрвалы, ад 38 да 41 радка і 2450 знакаў праз паўтара інтэрвала і нават 58-61 радок ці 3630 знакаў праз адзін інтэрвал, а поле злева павінна быць 35 міліметраў, справа не менш за 8, зверху 20, знізу не менш за 19, і кожны радок уключае ад 60 да 64 друкаваных знакаў з разліку 100 удараў за хвіліну на працягу 8 гадзін 12 хвілін аперацыйнага часу з улікам 3% на абслугоўванне працоўнага месца і 11% на фізкультурныя паўзы і асабістыя патрэбы, што пакідала 7 гадзін і 3 хвіліны памножыць на 100 раўняецца 42 300 удара-знакаў у дзень, а колькі ў ноч, не ведалі нават фотахронаметражысты, адказныя за адзіныя нормы часу і выпрацоўкі для ўсяго машынапісу дзяржавы, дзе ўсе друкаркі былі на ўліку і ўзоры шрыфтоў трымалі ў сейфах першых аддзелаў, бо мяжа імперыі заўсёды праходзіла там, дзе слова сутыкалася з паперай, і менавіта машыністкі былі сталкерамі нашай свабоды.

Вечная памяць.

## Аўтапартрэт у небе, з птушкай, якая вылецела з таго свету, і мы ляцелі-ляцелі разам дадому

Усё было выдатна.

Усё было выдатна, пакуль 7.12.1988 у 11:41 зямныя мускулы не вырашылі трохі размяцца і не ператварылі частку Арменіі ў друз.

Трэба было ўцякаць у бяспечнае месца, а што можа быць больш бяспечным для журналіста, над якім дома згусціліся хмары, як не паляцець у эпіцэнтар землятрусу з рэдакцыйным заданнем, якое я не выканаю, не перадам ніводнага рэпартажу, ніводнага здымка, ніводнага радка, бо буду насіць за пазухай пластыкавую літровую бутэльку з-пад кока-колы, таму што ідзе снег, а ў бутэльцы ў мяне будзе жыць каляровая птушка, хоць я сумленна стараўся, уначы адразу пасля прызямлення кінуўся ў тое, што засталося ад горада, узабраўся на гару таго, што раней было дзевяціпавярховым домам, і пачаў занатоўваць тое, што адбывалася, а не адбывалася нічога, бо французскія ратавальнікі, якія прабіваліся да заваленага жаночага голаса, наткнуліся на чыгунную ванну і не маглі даць рады, *ніўзадніўперадніўверхніўнізніўбок*, і тады я спытаўся па-французску, колькі яшчэ, і так скончылася мая рэпарцёрская праца і пачалася перакладчыцкая, бо ніхто больш вакол ні на якіх мовах не гаварыў і не разумеў, і я стаў тлумачальнікам нумар два, бо першымі і найлепшымі былі сабакі, якія ведалі мову жыцця і паказвалі, дзе капаць, але рабіць гэта трэба было нон-стоп, бо штуршкі працягваліся кожныя тры хвіліны, і праз кожныя сто штуршкоў брыгады мяняліся, на змену французам прыходзілі шведы, затым немцы, потым зноў французы, і я збіўся з ліку, бо мне замены не было, падыходзілі жыхары і на прамілы бог клікалі на суседнія руіны, прасілі ліхтары, рыдлёўкі, насілкі, пілы, дамкраты, я хадзіў з

імі, але заўсёды вяртаўся да першага дома, дзе пад раніцу голас з-пад завалу гучаў усё радзей, і калі пасля чарговых штуршкоў збоку ўнізе паміж кавалкамі арматуры адкрылася нешта накшталт лаза, туды нырнуў салдат-грузін, але не змог выцягнуць прыціснутую жалезабетоннай плітой палонную, і тады за ім папоўз французскі доктар з морфіем у шпрыцы, але хутка вярнуўся і ўзяў жгуты, скальпель і віты дрот з паліраванай сталі, які праводзяць вакол косткі і цягнуць туды-назад-туды-назад-туды-назад, пакуль не перапілуюць, бо без ампутацыі выцягнуць цела было немагчыма, а штуршкі працягваліся, лаз мог закрыцца, сэрца спыніцца, і грузін запоўз за пацыентку, хірург падпоўз да яе, а я за ім, каб перакладаць, *туды-сюды-en avant-en arrêt-туды-en avant-сюды-en arrêt,* а насамрэч трэба было ўспомніць слова *couverture,* якое выскачыла з маёй галавы і азначала *адэал*, *скажіштобізаадэалбрал*, крычаў мне грузін, бо з-за штуршкоў пліта зноў зрушылася, цела пад анестэзіяй стала вадкім, і нагу можна было павярнуць і цягнуць, толькі трэба было падсунуць коўдру — *адэал,* а я забыўся і ліхаманкава выкрыкваў сінонімы — падушка, ложак, прасціна, амур, якія перабіваліся рускім матам, грузінскай лаянкай і французскімі праклёнамі, пакуль я рыўкамі цягнуў месьё за ногі, ён — спячую прыгажуню за рукі, а генацвале паштурхоўваў ззаду, аж пакуль нехта не падхапіў за боты мяне і не выцягнуў увесь жывы ланцуг на паветра, але калі санітарная машына паімчала нашу знаходку ў шпіталь і мы ачмурэла сядзелі на зямлі, перакладчыца нумар адзін, нямецкая аўчарка, наструнілася каля дзіркі, з якой мы выпаўзлі, і коратка цяўкнула, нехта там яшчэ быў, і сапраўды нехта нешта казаў, але гэтага не магло быць, бо калі Ніна, як звалі нашу гераіню, нахілілася ў 11 гадзін 41 хвіліну над калыскай, дзе спала немаўлятка, яна толькі паспела здзівіцца, што сцяна і столь валяцца на яе адначасна, а потым была бязгучная цемра, нешта цёплае крапала ёй на руку, а потым перастала, але аўчарка не

адыходзіла ад лаза, аж пакуль адтуль раптам не выляцеў ашалелы папугайчык, яркі, як лімон на снезе, і сказаў нешта на невядомай мове, і пакуль я грэў яго між далоняў, людзі, якія назаўсёды развучыліся ўсміхацца, знайшлі пустую бутэльку з-пад колы, і ў гэтым пластыкавым выраі пасяліўся Quake, названы так другой часткай англійскага слова earthquake — землятрус, і гэтая імя хутка стала вядомым усім ратавальнікам, лекарам, перакладчыкам, колькасць якіх праз дзесяць дзён перавысіла колькасць жывых, якіх яшчэ зрэдку знаходзілі пад руінамі, і трэба было вяртацца, тым больш што Ніны там ужо не было, яе самалётам адправілі ў Маскву, дзе ёй ампутавалі адну, а потым другую нагу, а потым яшчэ руку па локаць, я пасля адведаў яе ў шпіталі, расказаў пра папугайчыка, і яна старалася ўсміхацца, але гэта было потым, а спачатку трэба было неяк выбірацца з салодкага смуроду, які выцякаў з развалін, уздымаўся ў паветра разам з дымам нябачных пажараў, бо хаваць не было дзе, не было каму, не было як, ратавальнікі пакрысе збіраліся і адляталі ў свае краіны, бо ратаваць ужо не было каго, і я выправіўся на аэрадром, дзе сядалі ваенныя транспартныя самалёты, якія перакідвалі ў зону землятрусу бульдозеры, экскаватары, краны, мяне пасадзілі ў чатырохматорны Іл-76, які вяртаўся на базу ў Літву, я быў адзін у велізарным грузавым салоне, прышпіліўся да сценкі і імгненна заснуў і прачнуўся недзе над Украінай, дакладней, мяне раскатурхаў штурман, бо Квэйк выбраўся з бутэлькі і заляцеў да экіпажа, які гуляў ў карты, пакуль аўтапілот трымаў курс, мне далі тушонкі з грэчкай і спірту, і я зноў заснуў і прачнуўся ўжо, калі ішлі на пасадку ў пурзе, бачнасць нуль, але аўтапілот ведаў сваю справу, на козліку нас с Квэйкам падкінулі да чыгуначнага прыпынку ў голым полі, праз тры гадзіны там на хвіліну спыніўся цягнік, яшчэ пра шэсць гадзін мы былі ў Мінску, яшчэ праз паўгода мы з сябрамі знялі дакументальны фільм, у якім адзін з персанажаў быў лімоннага ко-

леру, і 7.12.1991, роўна праз тры гады пасля першага штуршка, у нас дома ў адкрытай клетцы спынілася яшчэ адно сэрца і скончыўся назаўжды яшчэ адзін палёт.

Вечная памяць.

## Няяснае слова «бессмяротнасць»

Адчуванне, быццам адкрываеш велізарны рэзервуар ці раптам знаходзіш нейкую загадкавую крыніцу, альбо існуе пераход у іншае вымярэнне, і адтуль гучаць адказы на пытанні, якія ты самаўпэўнена і няўклюдна агучваеш, трымаючы ў руках мікрафон, з якім мірыцца ветлівы суразмоўца, які бачыць пэўную штучнасць таго, што адбываецца, але разумее і неабходнасць наўпраставага слова да слухача, ад імя якога і дзеля якога і адбываюцца ўсе публічныя дыялогі, пачынаючы ад Сакрата, толькі ролю Платона выконвае магнітафонная стужка ці лічбавы дыктафон, і нагоды часцей за ўсё зусім не філасофскія, а надзённыя, бо журналістыка паходзіць ад слова «jour» — дзень, і працягласць яе жыцця адпаведная, але некаторыя дні аказваюцца даўжэй за некаторыя гады, кароткія адказы глыбей за раманы, і запісаныя гутаркі становяцца захаваным часам, з якога складаецца тое, што па звычцы, калі гавораць пра жыццё, называюць няясным словам «бессмяротнасць».

## «Я хацеў стаць капітанам рачнога парахода»*

*1993*

***Бог — мэта жыцця — каханне — анёлы — лёс — цуд — характар — смерць — шчасце***

— Ваша любімае выслоўе?

— Ну, можа і не любімае, але некалі я вынайшаў такі афарызм, гэта асабіста мой, які гучыць так: «Шкодна жыць доўга».

— Што вы цэніце ў людзях?

— Чалавечнасць.

— А што цэніце ў мужчынах?

— Тое, што і ў людзях.

— Што цэніце ў жанчынах?

— Тое, што ў людзях.

— Ці верыце вы ў каханне з першага погляду?

— Можа быць, а можа й не быць. Можа быць з першага, а можа быць і з другога погляду.

— Ваша стаўленне да шлюбу?

— Выдатнае, натуральна. Шлюб прадаўжае жыццё.

— Ці маеце вы мэту ў гэтым жыцці?

— Як у старога габрэя: дажыць да суботы.

— Ці ёсць у вас анёл-ахоўнік?

— Некалькі разоў я меў магчымасць пераканацца, што ёсць. Як ён выглядае, як ён завецца — я не ведаю. Але напэўна ёсць, таму што іншых момантаў свайго жыцця я не магу растлумачыць, як толькі ўмяшаннем, заступніцтвам іменна анёла-ахоўніка.

— Вашыя адносіны да Бога?

* ВБ адказвае на пытанні «анкеты Дастаеўскага».

— Я думаю, што Бог ёсць, і хацелася б у гэта верыць.

— Ці здараліся з вамі цуды?

— Так, здараліся.

— Ваш любімы ўспамін?

— Цяжка мне тут знайсці любімы ўспамін… Памяць больш падсоўвае ўспаміны, якія даволі нелюбімыя.

— Галоўная рыса вашага характару?

— Ну, гэта павінен вызначаць не я. Можа быць, мая жонка лепш вызначыць.

— Што б вы хацелі памяняць у сабе?

— Вельмі шмат што хацеў бы змяніць, вельмі шмат. Куды менш я хацеў бы пакінуць тое, што мяне задавальняе. Больш хацеў бы змяніць.

— Кім бы вы хацелі стаць, каб не сталі..?

— Некалі, яшчэ ў школьныя гады, можа быць, у пятай ці шостай класе, я вельмі хацеў стаць капітанам рачнога парахода. Так я сябе ўяўляў прыгожа на мосціку, каля штурвала, паміж цудоўнымі берагамі, на якіх квітнеюць кветкі, ходзяць людзі, і я плыву па рацэ... З таго часу ўсё перамяшалася. У тым ліку і мае жаданні.

— Што такое лёс?

— Гэтага я не ведаю. Я не ўпэўнены, што існуе лёс, таму што каб існаваў лёс, дык некаторыя дробязі жыцця не ўплывалі б так на тое самае канкрэтнае жыццё чалавека. Бо калі мы паглядзім і на сваё жыццё, і на жыццё сваіх блізкіх, то мы бачым, як яно крута, гэтае жыццё, мяняецца пад уздзеяннем ну нейкай абсалютнай драбязы! Скажам, ён і яна, ну і ёсць вядомыя ў гісторыі выпадкі, любілі адно аднаго, дамовіліся сустрэцца на вакзале а такой-та гадзіне ў такі-та дзень, каб звязаць сваё жыццё. Але пасля нешта такое атрымалася, што яны не сустрэліся, і іх жыццё разышлося назаўжды. Як так, няўжо гэта непаразуменне ў часе, у хвіліне — магло ўсё змяніць?

— Ці былі ў вас падарункі лёсу?

— Былі некаторыя. Былі, праўда. Мала, але было.

— Што такое шчасце?

— Шчасце, мне думаецца, тое, што такім уяўляецца, хоць зусім неабавязкова яму быць сапраўдным шчасцем. Але калі чалавеку здаецца, што гэта яго шчасце — то, значыць, яно для гэтага чалавека і з'яўляецца вось іменна тым, чым яму ўяўляецца.

— Тое, што вы зрабілі, — ці застанецца?

— Наўрад ці.

— Якая гістарычная падзея паўплывала на вас як асабістае здарэнне?

— Ну, тут колькі заўгодна. На нас уплывае ўсё. І вайна, і мір, і, скажам, XX, XXII з'езд, і пачатак перабудовы, і крушэнне СССР, і стварэнне Беларусі — усё гэта, канечне, на кожнага з нас, у тым ліку і на мяне, уплывае як асабістая з'ява.

— У якую гістарычную эпоху вы хацелі б жыць?

— Можа быць, у якой-небудзь з будучых, хаця я не ўпэўнены ў гэтым, што там будзе тое, што мне хацелася б.

— Як вы ацэньваеце наш час?

— Вельмі кепска. Я лічу, што вельмі правільна ацаніў некалі Бунін, назваўшы адзін свой твор дзённікавы «Окаянные дни». Ну, для Буніна гэта былі «окаянные дни», а для нас, здаецца, наступае тое, што можам назваць «окаянные годы».

— Вашыя адносіны да смерці?

— Смерць — натуральная з'ява, таму, я думаю, што і адносіны да яе павінны быць таксама натуральныя.

— Якой смерцю вы хацелі б памерці?

— Раптоўнай.

— Ці былі ў вашым жыцці людзі, якія зрабілі на вас вялікі ўплыў?

— Былі, натуральна.

— Ці маеце вы сябра на ўсё жыццё?
— Хацелася б, каб быў на ўсё жыццё...

## «Галоўнае — падняцца з кален»

*Жнівень 1993*

***Путч-91 — Пазняк — Гарбачоў — Гарун — Ластоўскі — Геніюш — закон аб мовах — Расія — наменклатура — інтэлігенцыя — рэлігія — правы нацыі — правы чалавека***

— Нядаўна мінула другая гадавіна жнівеньскага камуністычнага путчу. Адразу пасля яго правалу рэзка актывізаваліся палітычныя працэсы ў рэспубліках, у тым ліку ў Беларусі. Было некалькі грунтоўных намаганняў дзеля пабудовы дзяржаўнага суверэнітэту. Ці не ўпершыню пасля Аляксандра Чарвякова быў абраны старшыня Вярхоўнага Савета, які гаворыць па-беларуску, была прыпыненая дзейнасць кампартыі. Чаму, на вашую думку, працэс пераменаў пасля жнівеньскага штуршка стаў заціхаць, пайшоў некуды назад і ўбок? Што і хто вінаваты?
— Уся справа ў тым, што гэтая актывізацыя адбывалася не ў выніку пэўных унутраных працэсаў, а выключна пад уздзеяннем знешніх абставінаў, у дадзеным выпадку — няўдачы маскоўскага путчу. Камуністычная наменклатура тады спалохалася, а яна, як правільна некалі зазначыў Зянон Пазняк, толькі ў стане спалоху і можа прыняць добрае рашэнне. Але гэты спалох паволі мінуў — «дэмакраты» аказаліся зусім лагодныя, нікога ў Беларусі не арыштавалі, «палявання на ведзьмаў» не дапусцілі, і камуністычны Вярхоўны Савет ды ўрад хутка зразумелі, што «прадзешавілі», што дарма паддаліся дружнаму напору жменькі

апазіцыянераў Народнага Фронту. З таго часу Вярхоўны Савет і ўрад пачалі працаваць на рэстаўрацыю. І калі гэтай рэстаўрацыі дагэтуль не адбылося цалкам, дык за гэта трэба дзякаваць зноў той жа жменьцы апазіцыі БНФ, якая сваёй (я б сказаў, гераічнай) дзейнасцю сарвала многія спробы такога кшталту і ў Вярхоўным Савеце, і ва ўрадзе. Ну, і яшчэ трэба мець на ўвазе некаторую палітычную няпэўнасць у Маскве, ад якой памкненні нашага кіраўніцтва залежаць болей, чым ад чаго-небудзь іншага.

— Што з таго, што ўпусцілі дэмакратычныя сілы, своечасова не здолелі зрабіць, вам уяўляецца найвялікшай стратай? Чаму?

— Аб тым надта добра сказаў прэзідэнт Ельцын. Забараніўшы кампартыю, трэба было прызначыць новыя выбары ў Вярхоўны Савет і мясцовыя органы ўлады. Канечне, ва ўмовах Беларусі гэта няшмат дало б, але ўсё ж ад улады былі б адхіленыя самыя зацятыя камуністы, цвёрдакаменная, сталінскага тыпу наменклатура, якая дзясяткі год звыкла ўладарыла ў Беларусі.

— Адно вельмі канкрэтнае пытанне аб нядаўнім мінулым. На пачатку перабудовы вы, як і многія іншыя дзеячы культуры, як той жа Сахараў, падтрымлівалі Міхаіла Гарбачова. Ды і Гарбачоў, здаецца, прыхільна ставіўся да вас. Калі мясцовыя партыйныя прышыбеевы пачалі шалёнае цкаванне вас, Алеся Адамовіча, Гарбачоў запрасіў вас у паездку ў Амерыку, пасля чаго мясцовая Вандэя мусіла прыкусіць свой брыдкі язычок. Аднак была, мне здаецца, і нейкая недагаворанасць, адчужанасць у вашым стаўленні да Гарбачова. Ці так гэта? Як вы ацэньваеце першага і апошняга прэзідэнта СССР сёння, калі з'явіўся ўжо пэўны гістарычны фон і магчымасць для параўнання з цяперашнімі лідарамі?

— Вядома, на пачатку перабудовы шмат якія дэмакратычна настроеныя грамадзяне вельмі падтрымлівалі Гарбачова, ягоныя сапраўды эпахальныя ініцыятывы ў галіне раззбраення і міжнароднай палітыкі. І праўда, ён дамогся амаль немагчы-

мага: адхіліў ядзерную катастрофу, на парозе якой стаяў свет, дамогся палітычнай разрадкі паміж Усходам і Захадам, аб'яднаў Нямеччыну. Але ўнутры былога Саюза... Тут ён застаўся традыцыйным генсекам партыі камуністаў — адна толькі ягоная прыхільнасць да сацыялістычнага выбару гаворыць пра ўсё астатняе. Тут нашая згода з ім і канчалася.

Зрэшты, аб ролі Гарбачова ў нашай гісторыі вельмі добра напісаў Алесь Адамовіч у сваёй паліталагічнай працы, якая была надрукаваная ў нашых часопісах. Трэба разумець, што Гарбачоў як палітычная асоба дваякі — таксама, як дваякі быў Хрушчоў ды іншыя малыя і вялікія рэфарматары камунізму. Галоўная іх вартасць, мабыць, у іх рэфарматарскай наіўнасці, калі мець на ўвазе, што камунізм ніякай рэфармацыі не паддаецца. Таксама, як і вытворная ад яго эканоміка. Яго можна толькі або прыняць як безумоўную дадзенасць, альбо адкінуць дарэшты. Адаптаваць яго да якой-небудзь іншай сацыяльнай сістэмы нельга, аб тым сведчыць увесь даволі працяглы вопыт у абыходжанні з гэтай палітычнай з'явай. І калі некаторыя людзі дзеляць ягоных прыхільнікаў на камуністаў і бальшавікоў, на памяркоўных марксістаў-палітэканомаў і радыкальных трацкістаў-рэвалюцыянераў, дык тым самым упадаюць у схаластыку: вялікай розніцы паміж гэтымі разнастайнасцямі няма. На практыцы класічнае ўвасабленне камунізму — гэта гвалт, кроў, татальны чэкізм, хіба часам прыкрытыя страката расфарбаваным камуфляжам, як у сучасных вайскоўцаў.

— Апроч параўнання ў часе, мы параўноўваем сябе і ў прасторы. Нашыя паўночныя суседзі, тры балтыйскія дзяржавы, ужо фактычна вярнуліся ў Еўропу; многія на Захадзе не сумняваюцца ў Еўрапейскай будучыні Украіны. Вы не раз гаварылі аб унікальным шанцы, які атрымала воляй гісторыі Беларусь для свайго адраджэння. Ці не ўпушчаны ўжо і гэты нацыянальны шанец Беларусі, як быў ён вырваны і з рук адраджэн-

цаў у 1918 годзе? Якія варункі і нацыянальныя рысы, на вашую думку, могуць стаць вызначальнымі ў лёсе Беларусі і беларусаў у агляднай будучыні?

— Як могуць бачыць мінчукі, над будынкам Вярхоўнага Савета Беларусі лунае бел-чырвона-белы сцяг, а пад ім нязрушна камянее выява старога сярпаста-малаткастага герба БССР. У тым мне бачыцца красамоўны сымбаль няпэўнасці нашага часу, яго палітычнай амбівалентнасці. Здаецца, што Беларусь нерухома завісла ў часе і прасторы паміж дзвюма несумяшчальнымі стыхіямі — усясветнай дэмакратычнай і імперскай таталітарнай. Пра палітычныя памкненні кіраўніцтва я ўжо ўсё сказаў; што ж датычыць народа, дык ён цяпер у разгубленасці. З аднаго боку, ён разумее, што вяртанне ў камуністычную казарму — дужа непрыемная справа. Але ў казарме, як вядома, кормяць. А што рабіць на рынку без грошай, без тавару, сярод зграі прыезджых і сваіх жулікаў, п’янчуг і хуліганаў? Можна і галаву страціць — тым больш, што нашыя кіраўнікі амаль нічога не робяць, каб павылавіць тых жулікаў, забяспечыць хоць які парадак на тым рынку-базары. А тут яшчэ камуністычная прапаганда кожны дзень трубіць, што ўсё тое — вынік Віскулёў, развалу Саюза, што будзе яшчэ горш. І сапраўды гэтае «горш» спраўджваецца з кожным месяцам. Ужо няма бензіну, цэны жахаюць сваім няспынным ростам, бандыты сталі смялейшыя за міліцыянераў. Расія пагражае зусім адключыць газ і не даць сыравіны, за якія, зрэшты, нам няма чым плаціць, бо фінансавая сістэма разваленая дарэшты. І людзі пачынаюць думаць: на якога д’ябла тая суверэннасць, калі з ёй няма як жыць? Лепш назад — хоць у казарму, хоць у турму. У стойла. Канечне, там было кепска, але, калі рахмана сябе паводзіць, не злаваць начальства (асабліва маскоўскае), дык, можа, яшчэ не дадуць памерці ад голаду і сцюжы. Гэта Пазняк даказвае, што ўсё тое — вынік камуністычнага бяспраўя. А людзі схільныя бачыць прычыну

сваёй непрытульнасці ў дэмакратах. І сапраўды, мы назіраем цяпер надзвычайную блытаніну прычынаў і наступстваў, якою з пэўнай выгадай для сябе карыстаюцца тыя ж камуністы — ва ўладзе і каля яе.

— Беларусь і Расія. Як вы ацэньваеце цяперашнія стасункі паміж дзвюма дзяржавамі? Якой вам бачыцца рэальная перспектыва дачыненняў? Ці згодныя вы з меркаваннем, што паўнавартасны суверэнітэт — справа багатых краінаў, і Беларусь, як і многія былыя савецкія рэспублікі, эканамічна асуджаная на ролю «меншай сястры»?

— Роля Расіі ў нашай гісторыі добра вядомая. Тут усё амаль на паверхні. Каб тое зразумець, вялікіх намаганняў не трэба. Кажуць, што іншых дачыненняў, чым тыя, што стагоддзі былі між Беларуссю і Расіяй, і не магло быць, ужо хоць бы з рознасці патэнцыялаў вялікай і малой нацыі. Увогуле гэта правільна: вялікі не роўня малому, бедны багатаму не таварыш. Не толькі камуністычная ідэалогія, але і імперская сацыялістычная эканоміка была пабудаваная такім хітрым чынам, што частка яе магла функцыянаваць толькі ў сістэме цэлага. Вядома, што за гады сталінскіх ды іншых пяцігодак беларуская прамысловасць была пераўтвораная ў так званую «адвёртачную» вытворчасць, у зборачны цэх імперскага ВПК. Напрыклад, калі ў Мінску рабілі балты, дык гайкі ў іх наразалі на Урале (такі быў прынцып сацыялістычнай кааперацыі), а пасля гэты болт з навінчанай гайкай везлі ва Украіну, дзе яны выкарыстоўваліся на зборцы ракетаў, або касмічных апаратаў, або танкаў, або авіяносцаў, або славутых «калашнікавых», якімі цяпер узброена паўсвету — і кожнае трэцяе забойства на Зямлі робіцца менавіта гэтай зброяй. Але вось гнаць паўнапаточныя праграмы ракетна-ядзернага ўзбраення стала немагчыма, і наша родная прамысловасць аблілася слязьмі; спыняюцца заводы, звальняюцца высокапрафесійныя спецыялісты, няма грошай, няма камплектных, пе-

ракрылі газ і бензін. Гвалт, крах эканомікі! Таму хутчэй назад, у Саюз, у сістэму калектыўнай бяспекі, да «старэйшага брата» з яго імперскай псіхалогіяй. Але ці патрэбныя гэтыя меншыя браты старэйшаму брату? Во яшчэ ў чым пытанне. Мабыць, будуць патрэбныя, калі ўзновіцца ранейшая, імперская ідэалогія, калі па старых праграмах запрацуе магільшчык Расіі — яе ВПК, калі з'явіцца патрэба ў яго зборачных цэхах у Беларусі, калі беларускія хлопцы пойдуць абараняць імперскія інтарэсы Расіі ў Сярэдняй Азіі ды іншых рэгіёнах свету. І зусім не патрэбныя, калі Беларусь пакончыць з імперскімі амбіцыямі і стане нарэшце на сапраўды дэмакратычны шлях развіцця. Значыць, на маю думку, наш суверэнітэт па-ранейшаму ў значнай меры знаходзіцца ў руках «старэйшага брата». Але ў хаце «старэйшага брата» пануе вялікае бязладдзе і няпэўнасць. І гэтая няпэўнасць перакідваецца на настроі тых, хто вырашае народны лёс у органах улады Беларусі. І яны нервуюцца, а часам і дапускаюць паслабкі, як у выпадку з беларускай сымболікай. Іначай ужо даўно б усё было іначай. Як, скажам, у краінах Балтыі, як у Еўропе, як і ва ўсім свеце, дзе не ступала нага сацыялізму і пануе прыватная ўласнасць.

— Што значыць для нас, для лёсу Беларусі сучасны гістарычны кантэкст, у якім выяўляецца трагічнасць нашай эпохі: этнічныя войны, экалагічныя крызісы, спаўзанне ў галечу цэлых краінаў, няздольнасць міжнароднай супольнасці даць рады гэтым выклікам часу? Ці згодныя вы з меркаваннем, што свет забыўся ўжо ўрокі і жахі дзвюх сусветных войнаў, і гэта можа дорага каштаваць усім?

— Як вядома, гісторыя — пераважна крыважэрная драпежная ведзьма, рэдка які народ карыстаецца яе дабрынёй. А так — войны, голад, мор... Асабліва жахлівая доля выпадае тым народам, якія з розных прычынаў спазняюцца на свой рэй, упускаюць свой шанец. Беларусь, несумненна, спазнілася. Можа, і не

па сваёй віне, а можа, і сама ў тым вінаватая. Не толькі страціла дзяржаўнасць, але нават і згубіла ўласную гістарычную назву. Што ўжо казаць пра іншае. З таго ўсё і пачалося. Цяпер, вядома, не меней жахліва: цяпер шанец яе ў гэтым сэнсе стаў яшчэ меншы. Свет зрабіўся больш жорсткі, вольных месцаў у ім няма — ні ў прасторы, ні ў палітыцы, ні ў эканоміцы. Усе нішы занятыя. Добра, калі б былі занятыя памяркоўнымі стварэннямі, а то пераважна — не тымі. Што рабіць спазнелым беларусам? Я не хачу прарочыць, але прадчуванні мае змрочныя, і я толькі хачу, каб яны не спраўдзіліся.

— Ці дзейсная цяпер спадчына адраджэнцаў «расстралянага пакалення»? Які ўплыў іх працаў на сябе вы маглі б згадаць сёння? Ці магчыма вярнуцца да ідэяў тых адраджэнцаў у практычным аспекце, альбо двойчы ў адну і тую ж раку ўжо не ўвайсці, жыццё вымагае шукаць іншых ідэяў і спосабаў пабудовы Беларусі?

— Як гэта было прынята ў гады бальшавіцкай дыктатуры, пра дзейнасць беларускіх адраджэнцаў амаль нічога нідзе не пісалася. А ў тым, што часам прарывалася ў друку, была толькі ацэнка — гэткая сумесь кляцьбы ды лаянкі. І толькі за мяжой высілкамі беларускай дыяспары што-нішто збіралася, захоўвалася, і ў часе маіх некаторых замежных паездак з'яўлялася магчымасць пазнаёміцца з пэўнымі творамі «расстралянага пакалення». Памятаю, спярша гэта быў зборнічак паэзіі Алеся Гаруна, некаторыя творы Ластоўскага, вершы Купалы пачатку 1920-х гадоў. Пра трагічныя і гераічныя вобразы дзеячаў БНР на эміграцыі я пачуў ад Ларысы Геніюш, яе мужа Івана Пятровіча. Першае, і, можа, самае вялікае ўражанне ад таго — здзіўленне трагічнасці лёсу гэтых людзей, безагляднасці іх гераізму ў барацьбе за растаптаную ідэю беларушчыны. Іншыя з раней вядомых паўсталі ў новым абліччы — як, напрыклад, Янка Купала, паэзію якога літаратуразнаўцы нам заўжды трактавалі як

апалогію камуны, шчаслівае савецкай долі (славуты ляўкоўскі цыкл). А напраўду ягоная палітычная паэзія пачатку 1920-х гадоў — гэта трагічныя гімны беларускасці, набат трывогі, болю і безвыходнасці. Не, як бы там ні гаварылі і камуністы, і дэмакраты-згоднікі, перад беларускай інтэлігенцыяй, яе творчым цэхам стаіць усё тая ж ранейшая мэта, вышэй за якую няма і, мабыць, не будзе, пакуль ідэя адраджэнцаў не будзе ажыццёўленая. За гэтай ідэяй — лёс і гісторыя самага занядбанага народа ў Еўропе, да якога мы маем гонар ці няшчасце належаць.

— Некалькі гадоў таму вы досыць песімістычна выказваліся пра «Закон аб мовах». Як вы ацэньваеце цяпер працэс беларусізацыі альбо «дэрусіфікацыі» і яго перспектывы?

— Праблема беларускай мовы ці не з ліку вечных беларускіх праблемаў, і, вядома, яна баліць у сэрцах беларусаў болей за іншыя. Асабліва ў сэрцах пісьменнікаў. І калі высілкамі беларускіх інтэлігентаў (найперш пісьменнікаў і мастакоў) яна была некалі рубам пастаўленая перад маскоўскім кіраўніцтвам (тым жа Гарбачовым), мінскае кіраўніцтва пачало імітаваць (менавіта імітаваць) нейкія меры, каб улагодзіць найбольш няўрымслівых нацыяналістаў. Пачалі распрацоўваць «Закон аб мовах». Прызнаюся, спачатку і я тую імітацыю ўважаў за сур’ёзную справу, браў у ёй удзел аж да моманту прыняцця на Вярхоўным Савеце пастановы «Аб увядзенні ў дзеянне «Закону аб мовах». Менавіта з тае пастановы стала відавочна, што ніякага зруху ў праблеме мовы гэты хітры закон не зробіць, што ўсё тое па меншай меры несур’ёзна, для адводу вачэй, ніхто гэтага закону выконваць не будзе, ды і створаны ён не для выканання. На жаль, таго не зразумелі (ці не захацелі зразумець) некаторыя камуністычныя руплiўцы беларускасці, якія на поўным сур’ёзе ўключыліся ў тую гульню і гуляюць у яе дагэтуль. Вынікаў ад яе ні на грош. Праўда, упершыню ў гісторыі беларускага Вярхоўнага Савета па-беларуску загаварыў яго старшыня (хоць ён і дагэтуль гава-

рыў па-беларуску), але з уплывовых кіраўнікоў дзяржавы ніхто болей. Камуністы распачалі шалёную вайну з нацыянальнай мовай, за «равноправие русскоязычия», і, баюся, што недалёкі той час, калі камуністычная большасць Вярхоўнага Савета на парадак дня чарговай сесіі паставіць пытанне аб «дэбеларусізацыі». Аб скасаванні нават беларускай дзяржаўнай сымболікі яна ўжо ставіць.

— Газета «Наша Ніва» нядаўна прапанавала разглядаць беларускую гісторыю апошніх стагоддзяў праз прызму паняцця «акупацыя» і яго вытворных («калабарант», «калонія», «марыянетка») — з аднаго боку і змагання з акупантамі — з другога. Цяпер у Беларусі няма знешняга акупанта. Чаму ж тады натуральнае права на нацыянальнае адраджэнне, на свабоду даводзіцца адстойваць цяжкімі высілкамі нямногіх?

— Падлегласць, несамастойнасць сталі другой натурай пэўнай часткі беларускага грамадства, якая цяпер, у новых сацыяльна-палітычных умовах, выявіла сваю поўную няздольнасць не толькі да развіцця, але і да існавання без апекі «старэйшага брата». Я ўжо не кажу пра камуністаў ды іхнюю наменклатуру — варта зірнуць на некаторых з тых, хто ўважае сябе за дэмакратаў. Адмаўляючы палітыку БНФ, якую яны лічаць памылковай і празмерна радыкальнай, бо яна можа раззлаваць таго ж «старэйшага брата», яны паклалі ў аснову свае палітыкі прынцып «нацыянальнай згоды», які на справе ёсць згодаю з камуністамі — былымі і новымі. Напрыклад, «Славянскі сабор», «Полісе», пісьменніцкае згуртаванне баталістаў і марыністаў. Ці во яшчэ так званы «Народны рух Беларусі», які ладзіць цяпер свой кангрэс і ў сваім кіраўніцтве складаецца спрэс з перафарбаваных камуністаў. Мне думаецца, што не зважаючы на дэмакратычныя назовы, сутнасць гэтых згуртаванняў — замаскаваная ці адкрытая калабарацыя з тымі праімперскімі сіламі, якія даўно таемна, а цяпер ужо і адкрыта павялі курс на ліквi-

дацыю беларускай дзяржаўнасці і распачалі падрыхтоўку да рэстаўрацыі БССР у складзе СССР. Калі менавіта гэта мець на ўвазе, тады робяцца зразумелымі шмат якія дзяржаўныя захады ў Беларусі — ад непрыняцця новага дзяржаўнага гімна да нафтавага крызу — усё гэта добра распрацаваныя меры ў кірунку вялікай імперыі, на гэты раз у складзе БССР і РСФСР. На маю думку, аднак, смешная будзе гэтая імперыя, і наўрад ці яе створаць праімперскія сілы Расіі нават і з дапамогай беларускіх калабарантаў. Але, вядома, крыві народам яны здольныя напсаваць нямала, у тым ліку і беларускаму народу.

— У Беларусі, як і ў суседзяў, зорка партгасактыву яшчэ не згасла. У чым, па-вашаму, спецыфіка наменклатуры ў Беларусі, ці можна спадзявацца, напрыклад, на карысць ад яе гаспадарчай, адміністрацыйнай дасведчанасці? Ці чакаеце вы радыкальных пераменаў у расстаноўцы палітычных сілаў пасля новых выбараў у парламент?

— Зорка партгасактыву — гэта рэшта ад міфу пра КПСС, ад яе збанкрутаванай, марксісцкай сакральнасці. Не ў стане прэтэндаваць на ранейшую татальную бязгрэшнасць, камуністы спрабуюць цяпер зберагчы міф аб высокай прафесійнасці яе спяцоў, або хочуць нанова стварыць імідж прафесіяналаў у рынкавай эканоміцы. Якія яны рынкавыя прафесіяналы, мы нешта не бачым, але мы добра бачылі, як яны гаспадарылі ў сацыялістычнай сфэры, як ведалі адно — трубіць пра сацыялістычнае спаборніцтва, якое шырылася і шырылася. Тое мы назіралі дзясяткі гадоў, і цяпер толькі дурань ці злыдзень можа паверыць, што іхныя эканамічныя здольнасці нечага вартыя. Нічога яны не ўмелі і не разумелі ў сацыялізме, не ўмеюць і не хочуць разумець — у капіталізме. Апроч хіба забеспячэння чыста шкурных інтарэсаў — кар'еры, выгодаў, прывілеяў, якія дасягаюцца, як вядома, не так здольнасцямі рабіць, як здольнасцю дагадзіць. Тут яны сапраўды майстры — дагаджаць. І гэта ва ўсіх галінах

народнага жыцця — ідэалогіі, гаспадарцы, культуры, войску, судах, у карных і ва ўсіх іншых органах. Новыя выбары, якія ўсё ж некалі будуць, — цяпер галаўны боль нацыянальнай дэмакратыі. Мусіць, ад іх будзе залежаць усё ў найбліжэйшай будучыні Беларусі. Сапраўды, каго выбіраць? І як выбіраць? Пры цяперашняй палітычнай апатыі грамадства вельмі нават магчыма, што да салодкага пірага ўлады пралезуць не самыя лепшыя, а як і раней, — самыя нахабныя, бессаромныя, хцівыя, усё тыя ж камуністы, хіба што адаптаваныя да новых умоваў, але з ранейшымі мэтамі. Ну, але што рабіць — чаго вартыя, тое і маем.

— На пачатку пазбаўлення ад таталітарызму многія асаблівыя надзеі ўскладаліся на вяртанне да Бога, на адраджэнне рэлігіі — як у плане практычнай маралі, так і ў вырашэнні глабальных пытанняў жыцця і смерці. Як вы цяпер ацанілі б тыя спадзяванні і рэальную ролю царквы ў грамадстве?

— Канечне, гэта выдатна — вяртанне народу яго традыцыйнай рэлігіі, зварот да хоць якой-небудзь духоўнасці ў нашым спрэс бездухоўным, матэрыяльным свеце. Баюся толькі, што ва ўмовах посттаталітарнага грамадства гэтае вяртанне не дасць таго плёну, на які можна было б разлічваць. Мусіць, як і ў іншых сферах жыцця, у рэлігіі патрэбная непарыўная сувязь часоў; выпаданне з гісторыі пэўнага (і вялікага) прамежку, вядома ж, не на карысць нават і такой магутнай тысячагадовай традыцыі, якой з'яўляецца хрысціянства. Новыя пакаленні не маюць магчымасці пераняць ад бацькоў і дзядоў веру і дагмат царквы, ім трэба дайсці да іх самахоць, з уласнай патрэбы, а час для таго не самы спрыяльны. Зноў жа, нельга не ўлічыць старой праблемы двухканфесійнасці ў Беларусі, праваслаўнага рускамоўя. Ды і агульнавядомая сервільнасць пэўнай (і вялікай) часткі царкоўнага кліру ў форме супрацоўніцтва не толькі з партыйнымі органамі... Усё тое не робіць простай і лёгкай праблемы вяртання

**але Ваш тэлефон маўчыць. Мой тэлефон тутэйшы: 0049-33-746-699-31. Вельмі прашу, Саша, паведаміць яго сп. Елене Корці, да якой я таксама чамусь не магу дазваніцца. Мы тут да 1 мая.**

**Сардэчнае вітанне Сяргею Навумчыку, без пакетаў якога мне тут сумнавата...**

**Са шчырасцю і вітаннем да ўсіх,**

**Васіль Быкаў.**

У канцы сакавіка Быкаў прыехаў у Прагу на святкаванне Дня Волі 25 сакавіка. Прыездам апекавалася чэшская праваабарончая арганізацыя «Людзі ў бядзе» — яе супрацоўнік нават паехаў у Франкфурт, узяў пашпарт В.У., завёз яго ў чэшскую амбасаду ў Боне і разам з Быкавым прыехаў у Прагу. Тыдзень Быкава быў надзвычай насычаным: сустрэчы ў чэшскім парламэнце, са студэнтамі, з грамадскасцю, з удзельнікамі святкавання ўгодкаў БНР, якія прыехалі з дзясятка краінаў свету. У Беларусі святкаванне было жорстка разагнанае, Быкаў выказаў сваё стаўленне да падзеяў у эфіры. В.У. разам са старшынёй Рады БНР Івонкай Сурвілай і сенатарам Уладзімірам Румлам пасадзілі «Дрэва дэмакратыі» на адным з астравоў на Влтаве.

У В.У. была сустрэча з кіраўніцтвам чэшскага ПЭН-цэнтра, на якую мы пайшлі разам. Размова была вельмі падобная да тых, што адбываюцца і ў Мінску: цяжка друкавацца, страчваецца цікавасць да літаратуры, маскульт перамагае. Гэта пацвярджала адчуванні самога В.У., які ахвотна ўдзельнічаў у гутарцы. Калі мы вярталіся на радыё па Вацлаўскай плошчы, я прапанаваў Быкаву зазірнуць у кніжную краму: багацце чэшскай і перакладной літаратуры ашаламляла і неяк не вязалася да скаргаў былых дысідэнтаў. Правільна кажуць, што ўсё пазнаецца ў па-

раўнанні, падсумаваў В.У., але ягоны погляд на культурны працэс застаўся нязменным.

У гэты прыезд мы ў рэдакцыі папрасілі В.У. выбраць і запісаць для нашага архіва ўрыўкі з ягоных аповесцяў. Ён сам адабраў і запісаў чатыры фрагменты з «Альпійскай балады», «Мёртвым не баліць», «Сотнікава», «Знака бяды»*.

У гэты ж прыезд мы з В.У. хадзілі ў госці да перакладчыцы яго твораў на італьянскую мову Элены Корці, жонкі тагачаснага дырэктара Рускай службы Свабоды Марыё Корці. Гаспадыня прыгатавала сапраўдную «пасту», гаспадар адкаркаваў нейкае спецыяльнае віно, і ўвесь вечар гаворка пра літаратуру перамяжалася кулінарнымі адступленнямі. Быкаў, які ўвогуле быў непатрабавальны ў ежы, любіў італьянскую кухню, хваліў і гаспадыню, і віно. Той самай вясной, калі ягоная кніга выйдзе, В.У. разам з жонкай паедзе ў Рым, пасля ў Мілан, будуць інтэрв'ю ў друку і сустрэчы з чытачамі.

Пошта прыносіла новыя бандэролі з Нямеччыны, і ў эфіры гучалі новыя тэксты Быкава: «Труп», «На балотнай сцяжыне», «Кароткая песня», «Велікоднае яйка». Нягледзячы на тое, што я званіў і прасіў прысылаць новыя творы, ён кожны раз рабіў далікатную прыпіску, што калі не зацікавіць, тады не чытайце.

Памятаю, мяне моцна ўразіла аповесць «Маладая і прыгожая» — у ёй рамантычны Быкаў часоў «Жураўлінага крыку» спалучаўся з класічнай трагедыйнасцю «Сотнікава», і ўсё гэта нагадвала лепшыя прыпавесці. Уражаны, я пазваніў яму адразу па атрыманні. Быкаў, як любы аўтар, чакаў рэакцыю на свае творы, хаця і ніколі не выказваўся з гэтай нагоды. Мне падалося, што аўтар крыху «перапісаў» аповесць — яна сканчалася на паўтары старонкі раней, і я сказаў пра гэта таксама. Быкаў

* Упершыню яны прагучалі ў эфіры а 10-й вечара 22 чэрвеня 2003-га, праз паўтары гадзіны пасля смерці В.У.

выслухаў, быццам пагадзіўся, пасля перапісаў і прыслаў іншы варыянт — але свой.

Летам 2000-га Быкаў узяў удзел у нашай штодзённай гадавой перадачы «Галасы стагоддзя» — ягоны ўспамін пра пачатак вайны прагучаў 22 чэрвеня. Тады ж я папрасіў яго напісаць прадмову да яшчэ адной нашай «вялікай» перадачы — «Слоўніка Свабоды». Быкаў яе добра ведаў, эсэ на тэму знакавых для мінулага стагоддзя словаў штодня выходзілі ў эфір ў 1999 годзе. Часопіс «Архэ» рыхтаваў выдаць перадачу асобным выпускам. Я сабраў і паслаў у Франкфурт пакет з інфармацыяй пра гісторыю радыё, пра ўмовы і расклад вяшчання, ацэнкі слухачоў. Прадмова Быкава была ягоным першым вялікім тэкстам, прысвечаным Радыё Свабода, — і заканчвалася нечакана:

**«Свабода», «Свабодная Еўропа» даўно сталі надзейнымі апірышчамі сучаснай еўрапейскай дэмакратыі. Вядома, як высока ацаніў іх прэзідэнт Эстоніі Ленарт Мэры, вылучыўшы на Нобелеўскую прэмію. Беларусы горача падтрымліваюць яго ініцыятыву і будуць шчыра віншаваць нашую «Свабоду», калі тая ініцыятыва спраўдзіцца. «Свабода» таго заслугоўвае.**

Наступны ліст прыйшоў з Франкфурта-на-Майне.

*17 ліпеня 2001.*

**Шаноўны Аляксандр Міхайлавіч,**

**Пасылаю абяцаны твор — вялікае (адносна, вядома) апавяданне. Можа, гэта і не тое, што трэба, але такое атрымалася. Чытайце, рашайце. Заўтра еду ў Кёльн, на «Нямецкую**

**Хвалю», дзе штосьці прыдзецца вяшчаць. Да таго ж — на расійскай мове, такія ўмовы-дамовы. Прывітанне свабодным хлопцам, і дзяўчаткам — таксама.**
**З прывітаннем**

**Васіль Быкаў.**

У верасні Быкаў быў у Празе. На другую палову дня 11 верасня была прызначана сустрэча з прэзідэнтам Гаўлам. Раніцай ад udараў тэрарыстаў загінулі тысячы людзей у Амерыцы. Я запісаў кароткую гутарку з В.У. з гэтай нагоды, пасля ён пайшоў на сустрэчу ў прэзідэнцкі палац на Пражскі Град, і ў наступныя дні, да вяртання ў Франкфурт, мы запісалі яшчэ некалькі перадачаў.
У наступным лісце В.У. пазначыў дату адметным чынам:

*2 лістапада. Дзяды.*

**Шаноўны Аляксандар Міхайлавіч,**

**Пасылаю абяцаны твор. Але адначасна абяцаю новы, цікавейшы. А яшчэ хацеў бы парэкамэндаваць аповеды Барыса Кіта, якія я канчаю апрацоўваць. Там сапраўды шмат цікавага. Са згоды Барыса Уладзіміравіча тыя можна было б Вам выслаць напрыканцы года. Патэлефануйце яму.**
**Усяго найлепшага. З прывітаннем да ўсіх**

**Васіль Быкаў.**

Мяне ўразіў сам факт быкаўскай працы над чужымі ўспамінамі*. Мы настойліва працягвалі агітаваць В.У. пісаць свае ўспаміны. Ён уважліва слухаў перадачы нашай новай рубрыкі «Сучасныя мемуары», часам каментаваў пачутае. У нашай просьбе быццам і не адмаўляў, але нічога пэўнага і не абяцаў.

На пачатку новага 2002 года я рабіў тэлефоннае інтэрв'ю пра мемуарную літаратуру і напрыканцы гутаркі, пад запіс, спытаўся, ці працуе В.У. над сваімі ўспамінамі. І Быкаў раптам пацвердзіў:

«Я мушу прадоўжыць, наколькі мне гэта будзе дадзена. Я хачу напісаць. Мажа быць, не пра ўсё стагоддзе, не пра ўсё жыццё, а хоць бы пра ўласны вопыт пры канцы ХХ стагоддзя».

На гэты момант кніга, верагодна, была амаль закончана. Пасля некалькіх тэлефонных размоваў пошта прынесла невялічкі пакунак.

*19 сакавіка 2002.*

**Шаноўны Аляксандр Міхайлавіч,**

**Як і дамаўляліся, пасылаю дыскету з успамінамі. Але я дужа няўпэўнены, што перапісалася. Можа, Вы там праверыце. Калі ж не, тады буду друкаваць на прынтэры. Гэта каля 300 стар.**

**Патэлефануйце калі ласка.**

**З прывітаннем**

**Васіль Быкаў.**

---

* Кніга «Дыялёгі з барысам Кітом...» была выдадзеная ў 2003.

Тэлефанаваць давялося з не надта прыемнай звесткай — дыскета пустая, нічога не запісалася. Пасля некалькіх спробаў В.У. зрабіў як заўсёды: аддрукаваў увесь тэкст, запакаваў, пайшоў на пошту, і праз некалькі дзён аб’ёмісты рукапіс пад загалоўкам «Мае ўспаміны» прыйшоў у рэдакцыю.

Я быў першым чытачом (пасля Ірыны Міхайлаўны, зразумела), і адразу стала ясна, што трэба пераконваць аўтара начытаць успаміны самому. Усе мастацкія творы Быкава ў эфіры гучалі ў выкананні журналістаў «Свабоды», сам ён быў неахвочы да дыктарскай працы. Ды й па тэлефоне такія запісы не робяцца, патрабуецца студыйная якасць гуку. Толькі аднойчы, здаецца, у перадачы паводле інтэрв’ю Алеся Адамовіча з В.У. ён пагадзіўся начытаць кароткія фрагменты свайго тэксту, якія былі ўмантаваныя ў праграму.

Спярша В.У. спрабаваў адмовіцца, прапаноўваў, каб і ўспаміны начытаў хто-небудзь іншы, але я стаяў на сваім, прыводзіў розныя аргументы, і ўрэшце аўтар пагадзіўся. Тым часам сам працягваў працаваць з тэкстам, шукаў іншую назву, дасылаў нейкія ўстаўкі, папраўкі.

*17 красавіка 2002.*

**Дарагі Саша,**

**Я нічога болей у рукапісу перарабляць не буду, апроч старонкі 208, якую дасылаю ў новай рэдакцыі. Вельмі прашу замяніць яе на гэтую, а старую выкінуць.**

**Наконт дакументаў на Прагу:**

**— замовіў даведку ў паліцыі, якую дашлюць пад канец месяца;**

**— замовіў даведку з банку, якую таксама чакаю;**

**— зрабіў ксэракс пашпартоў.**
**Як усё збяру, дашлю. Толькі куды?***
**З прывітаннем**

**Васіль Быкаў.**

Гэта апошні ліст В.У., які ў мяне захаваўся. У новай рэдакцыі падаваўся эпізод з лістом супраць Салжаніцына, пад якім без згоды аўтара быў пастаўлены быкаўскі подпіс. Змены ў тэксце насамрэч былі нязначныя, але, верагодна, В.У. хацелася быць як мага больш дакладным у гэтым эпізодзе.

У красавіку 2003-га я атрымаю ад Быкава ў падарунак яго апошнюю ў жыцці кнігу, «Доўгую дарогу дадому», з подпісам «з удзячнасцю за ініцыяванне ў напісанні — тое, што з гэтага атрымалася». Я сапраўды час ад часу дапытваўся Быкава пра мемуары, але такія аўтары не ўспамінаюць на замову. Сярод быкаўскіх кніг у маёй калекцыі ёсць яшчэ дзве з падобнымі подпісамі. У 1991-м, калі я працаваў галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларусь», мы заснавалі серыю публіцыстыкі «Плошча свабоды», і я ўгаварыў В.У. сабраць свае тэксты часоў перабудовы разам. Кніга называлася «На крыжах» (1992), і аўтар падпісаў яе мне як «хроснаму бацьку гэтай невялічкай (а труднай) кніжкі». Кнігу прыпавесцяў «Пахаджане» (Бібліятэка «Вострая Брама», 1999) ён падпісаў мне як «першаму транслятару шмат якіх твораў гэтай кніжкі» — прыпавесці гучалі па радыё. Астатнія подпісы — такія авансы, якія трэба апраўдваць да канца жыцця.

Быкаў быў шчодры ў подпісах.

---

* Пераездам Быкавых на стала з Нямеччыны ў Прагу непасрэдна займаліся чэшскі фонд «Людзі ў бядзе» і Сяргей Навумчык.

## 6.22

У чэрвені 2002 нам удалося арганізаваць прыезд Быкава з жонкай на тыдзень у Прагу на запіс успамінаў. Мы вырашылі ўзяць для эфіру пасляваенны перыяд, прыкладна палову кнігі. В.У. на нашу просьбу крыху скараціў тэкст, разбіў яго на 40 частак.

Ён гучаў у эфіры, яго можна паслухаць на сайце Свабоды, запіс у 2010-м быў выдадзены асобна на дыску, да якога я напісаў уступ:

### Як стрэл у сэрца, адзіны

«Доўгая дарога дадому» стала апошняй кнігай Быкава — бліскучае стратэгічнае планаванне творчага шляху і яго класічнае завяршэнне. З той розніцай, што аўтар нічога не планаваў, доўга адкладаў аўтабіяграфію, якую скончыў за год да смерці і толькі пасля нашых настойлівых угавораў у чэрвені 2002 пагадзіўся прыехаць у Прагу, каб зрабіць запіс.

Штодня ён прыходзіў у студыю, сядаў перад мікрафонам, і пачыналася магія чытання, паўзаў і акцэнтаў, крыху напружанага дыхання, шоргату перагорнутага аркушу, глытка вады…

І, канечне, непаўторнага і незабыўнага, стрыманага, як боль па незваротнай страце, і адзінага, як стрэл у сэрца, быкаўскага голасу, які цяпер заўсёды будзе вяртаць нас у час, дзе ён жыве».

Шэсць гадзін дваццаць дзве хвіліны чытае аўтар свае ўспаміны. Гэтую лічбы, 6 і 22, мы пабачылі, ўжо калі падрыхтавалі дыск. Гэта таксама галоўныя лічбы жыцця аўтара: 22.6.1941 пачалася вайна, якая вызначыла яго лёс і творчасць, і гэтымі ж лічбамі пазначаны ягоны апошні дзень на гэтай зямлі — 22.6.2003.

## Ці меў Быкаў пачуццё гумару?

Гэта няправільнае пытанне (усё адно як пытацца, ці ўмеў ездзіць на ровары Леў Талстой) — не ў гэтым справа. Ён меў усе пачуцці, не ўсе толькі лічыў вартым заўсёды выказваць і дэманстраваць. Побач з ім ніколі не адчувалася нейкая забарона на жарт, іронію, нават анекдот, як гэта часам бывае з некаторымі важнымі персонамі.

У адным з лістоў да мяне ён пісаў пра стыль Салтыкова-Шчадрына як найбольш прыдатны для нашага часу, цаніў досціпы Рыгора Барадуліна і сарказм Алеся Адамовіча, мог і сам прынагодна адпусціць рэпліку, якая пераводзіла сцверджанне суразмоўцы ў абсурд. Яго першае апавяданне было надрукавана ў сатырычным часопісе «Вожык», і першая кніжка выйшла ў бібліятэцы «Вожыка» — зборнік фельетонаў і сатыры «Ход канём».

Але ягоная зорка павяла яго ў іншыя вымярэнні, дзе не было месца лёгкім парадоксам, вясёлым кпінам, змяшчэнню рэальнасці і пераходу напружанага чакання ў нішто, як вызначаў смешнае Кант, — але заўсёды было месца для цёплай прыязнай стрыманай быкаўскай усмешкі.

## Гарвардскі дыплом

... Дзясяты пад’езд дома на Танкавай, я знаходжу ў паўцемры паштовую скрынку і апускаю рукапіс. Па-мойму, другі экзэмпляр, першы — у рэдакцыі. Канец 80-х, кніжку рыхтуе часопіс «Маладосць», першапачатковая назва «Сталін цэліцца ў нас», здаецца, ужо замененая на «Здзек». Але рэдакцыя баіцца, што без аўтарытэтнай прадмовы надрукаваць не ўдасца. Праз два дні Васіль Уладзіміравіч тэлефануе: забраць тэкст з класічным быкаўскім загалоўкам «Кроў і праклён». Вось тады я ўпершыню хіба і пабачыў яго зблізку.

Я працаваў у той час у газеце «Звязда» і шмат пісаў пра сталінскія рэпрэсіі. Збіраць матэрыялы на гэтую тэму я пачаў раней, сустракаўся з вязнямі ГУЛАГа, дзецьмі рэпрэсаваных, запісваў іх успаміны. Абвешчаная галоснасць дала магчымасць пачаць друкаваць гэтыя аповеды, праводзіць круглыя сталы, а афіцыйны статус журналіста прыадчыніў дзверы ў архівы. Тое, што не ўдавалася апублікаваць у сваёй газеце (Алесь Адамовіч прыпячатаў той час тэрмінам «Вандэя»), я друкаваў у тыднёвіку «Літаратура і мастацтва», у літаратурных часопісах. Быкава заўсёды прыцягвала тэма злачынстваў нядаўняга мінулага (калектывізацыя ў «Знаку бяды» не меншае зло за вайну), ён быў надзвычай уважлівым чытачом, і гэтым, верагодна, тлумачыцца хуткасць напісання прадмовы да зборніка незнаёмага асабіста аўтара.

(Што тычыцца зместу, дык патлумачыць, чаму ён назваў тую маю працу «подзвігам», можна хіба толькі тым, што так, як у рамане Быкаў напісаў пра даваеннае жыццё Сцепаніды і Петрука, у мяне было напісана на мове здабытых з архіваў дакументаў. Відаць, адбыўся моцны душэўны і мастацкі рэзананс, які і спрычыніўся і да высокіх словаў, і да далейшых вельмі прыязных адносінаў.)

Разам з прадмовай ён падараваў мне свой новы раман «Кар'ер», які толькі выйшаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура», з вельмі патрабавальным надпісам:

**«Аляксандру Лукашуку з сардэчнай удзячнасцю за ягоную прыхільнасць да Праўды. Васіль Быкаў. 16.03.88.»**

Гадоў праз пятнаццаць у Празе мы гулялі па Градчанах, у парку ля прэзідэнцкага палаца, дзе некалі хадзіў у садоўніках беларускі першадрукар. Калі пару гадоў перад тым на Градчанах адкрывалі помнік Скарыну, прыехала афіцыйная беларуская дэлегацыя, маршыраваў прэзідэнцкі аркестр, выступаў мэр. Разам з групай пражскіх беларусаў за цырымоніяй назіралі старыя чэшскія дысідэнты з «Хартыі-77», якія трымалі плакаты і час ад часу голасна патрабавалі вызваліць беларускіх палітвязняў. Потым адзін з іх нахіліўся да мяне і спытаў, якое яшчэ патрабаванне было б дарэчы. Я сказаў пра свабоду прэсы. Дысідэнты набралі паветра і дружна выгукнулі:

— Свабоду ціску ў Беларусі!

Чаго-чаго, а ціску беларускі друк (па-чэшску — tisk) зведаў больш чым дастаткова... Быкаў слухаў аповед, усміхаўся, быў цудоўны цёплы дзень, па алеях гуляла шмат людзей, квітнеў бэз, духмяны водар ішоў ад нейкіх жоўтых кветак. Некалі, гадоў ужо дзесяць таму, я спытаўся, што яго больш за ўсё радуе.

— Прырода.

Дакладней будзе сказаць, што прырода расчароўвала яго менш за ўсё іншае. Калі Быкавы пераехалі ў Прагу і з дапамогай чэшскай арганізацыі «Людзі ў бядзе» шукалі сталую кватэру, дык выглядала, што канчатковы выбар не надта зручнага памяшкання, які зрабіў В.У., быў абумоўлены перш за ўсё жывапісным паркам па суседстве, у дзвюх хвілінах хады. Гаўлічкавы Сады — другі па велічыні парк у Празе, са сваімі вінаградніками на схілах стромкіх пагоркаў, ручаём, экзатычнымі дрэвамі,

цяністымі алеямі. Быкаў любіў гуляць у гэтым парку і часта ўзгадваў яго.

Мы загаварылі пра літаратуру, і я спытаўся пра жанр прадмовы і яго адметнасці.

— Пісаў, а як жа, — усміхнуўся Быкаў. — Вось некалі напісаў аднаму журналісту для кніжкі «Здзек»...

— Ну, а аднаму генералу? Здаецца, міліцэйскі дэтэктыў — зусім не Ваш жанр...

— Шмат пісаў, прасілі, — лаканічна адказаў Васіль Уладзіміравіч.

Быкаў выказаўся аб прадмове як аб характарыстыцы — часцей за ўсё фармальная, але часам патрэбная, каб дапамагчы аўтару. На вайне жанру прадмовы адпавядала артпадрыхтоўка перад атакай, калі артылерыя падаўляла агнявыя цэнтры праціўніка і давала шанцы пяхоце ўзяць яе вышыні, праклятыя і крывавыя. Калі рыхтаваўся да друку апошні прыжыццёвы збор твораў (1992 — 1994), ён перагледзеў і ўключыў у 6-ы том толькі чатыры прадмовы. Уступнае слова да артыкула Зянона Пазняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты — дарога смерці», што зрабіла магчымым саму публікацыю, прадмову да кнігі Пазняка «Сапраўднае аблічча», уступ да кнігі Аляксандра Уліцёнка «Іншадумцы», якія я, тагачасны галоўны рэдактар выдавецтва «Беларусь», папрасіў яго напісаць, і прадмову да майго «Здзеку».

Відаць, апошняе ўступнае слова напісанае ім для кнігі афарызмаў журналіста радыё «Свабода» Сяргея Абламейкі ў сакавіку 2003 года. А за два месяцы да таго Васіль Уладзіміравіч паставіў подпіс пад адной прадмовай, калі можна так расцягнуць паняцце жанру, для аўтара гэтых радкоў. Я падаваў дакументы на стажыроўку ў Гарвардскі ўніверсітэт — патрэбная была рэкамендацыя. Пасля пералічэння традыцыйных у такіх паперах заслуг у тэксце згадваліся і словы з той самай першай прадмовы, з якой некалі пачалося нашае знаёмства. Ад тых сло-

ваў захоплівае дух — мне падавалася і падаецца, што Быкаў быў занадта шчодры ў сваіх ацэнках, прынамсі, да мяне.

У Гарвард я не паехаў, засталася копія ліста на бланку Беларускага ПЭН-цэнтра за подпісам Васіля Быкава.

Даражэйшая за любы ўніверсітэцкі дыплом у свеце.

## Правільная гарэлка

Дома ў Быкавых гасцей заўсёды сустракалі гасцінна. Калі я прыязджаў у Мінск з Мюнхена, а пасля з Прагі, абавязкова заходзіў у знаёмы чырвоны цагляны дом, падымаўся на дзявяты паверх, і заўсёды гасцінныя гаспадары частавалі, і мы з Васілём Уладзіміравічам выпівалі па кілішку. Часам каньяк, часцей гарэлку. На гатунак я не звяртаў увагі, захоплены магчымасцю пагаварыць з гаспадаром, задаць яму пытанні — пераважна пра літаратуру. Аднойчы, у канцы 90-х, Быкаў прыехаў у Прагу, мы стаялі побач на нейкім прыёме з налітымі кілішкамі, я здзівіў Васіля Уладзіміравіча пытаннем, а што такое меніск?

Рэч у тым, што бліскучы расійскі пісьменнік Венедзікт Ерафееў, аўтар фантастычнай алкагольнай паэмы «Москва — Петушки», у адным інтэрв'ю расставіў сучасных пісьменнікаў паводле прынцыпу «каму колькі наліў бы, калі б тыя зайшлі ў госці». Бялову ні кроплі, Астаф'еву 15 грамаў, Распуціну —100.

«Васілю Быкаву — цэлую шклянку з меніскам. А тым больш Адамовічу. А больш і няма каму», — сказаў Ерафееў. Цікава, што ў першай публікацыі ў «Литературной газете» ў студзені 1990 года замест гэтага абзаца была толькі адна фраза: «А з сучаснікаў адчуваю духоўную блізкасць з магутным беларусам Васілём Быкавым».

Праз пару гадоў быў надрукаваны поўны тэкст інтэрв'ю, які мяне і збянтэжыў. Я заўсёды думаў, што меніск — гэта нешта, што выскоквае ў футбалістаў у калене. Пры чым тут гарэлка? Быкаў засмяяўся і кажа:

— Меніск — гэта выпукласць лінзы, гэта я яшчэ з артылерыйскай вучэльні памятаю, калі прыцэлы вывучалі. А яшчэ гэта паверхневае нацяжэнне вадкасці, наліць з меніскам — значыць наліць з горкай.

З таго часу я стаў пільна сачыць, якому гатунку аддае перавагу Быкаў: «Smirnoff», «Absolut», «Finlandia»... Логіка мая тут такая: Ерафееў, безумоўны аўтарытэт што да алкаголю, найвышэйшымі аўтарытэтамі для сябе лічыць Быкава і Алеся Адамовіча. Адамовіч, як вядома, не піў, а Быкаў наліў мне, напрыклад, «Smirnoff», значыць, якая найлепшая гарэлка?

Правільна. Тая, якую налівае Быкаў.

## Арыстоцель, Кант, Гегель і Быкаў

У Быкава дзве кнігі, да якіх можна паспрабаваць дадаць прыметнік «вясёлыя» — самая першая і самая апошняя.

У 1960-м у «Бібліятэцы Вожыка» выйшаў зборнічак апавяданняў «Ход канём». Шэсць тэкстаў на сарака з нечым старонках — як практыкаванне, першы падыход да штангі, калі аўтар лёгка бярэ квазілітаратурную вагу і сыходзіць, каб ніколі не вяртацца.

Кніжка высмейвае начальніцкую пыху, бюракратызм, звадніцкі характар хворых, выйгрыш у латарэю па-амерыканску, парадкі ў арцелі «Вострыя шпількі» — усё, што ў 1950-я можна было высмейваць, падстаў любое газетнае прозвішча, і будзе амаль тое самае. Гумар палягае ў пэўнай абсурднасці сюжэта і

яго завяршэння: вынік не такі, як чакалі героі (так вучыў Арыстоцель: прырода смеху — памылка і бясшкодная агіда, а задача — спрыяць сур'ёзнаму).

Самае літаратурнае там — радок унутранага маналогу як пародыя на пародыю з чэхаўскай «Чайкі»: «Браточкі, сакратары, начальнікі, старшыні, што ж гэта робіцца?..» («Люди, львы, орлы и куропатки, рогатые олени, гуси, пауки…») Самае ўражвальнае — наклад, 23 438 экзэмпляраў. Самае смешнае — радок з характарыстыкі «маладога беларускага празаіка», як рэдакцыя прадстаўляе аўтара: «Прымаў актыўны ўдзел у Вялікай Айчыннай вайне».

У апошняй кнізе, «Доўгая дарога дадому» (2002), быкаўскі трагічны погляд на свет і на сябе дапаўняецца іранічным. Ён прыводзіць анекдоты, якія расказвае сябрам, а яны яму: пра бамжа, які наймаецца на акіянскі лайнер, яму адмаўляюць і ён заяўляе — пашанцавала вам, а то б я вам, падлам, напрацаваў; знаёмы балгарын расказвае ўніверсальны анекдот пра трох прэзідэнтаў, амерыканскага, нямецкага і савецкага, якія гінуць у авіякатастрофе, і задае пытанне, які народ больш гараваць будзе (адказ — балгарскі, бо прэзідэнт Жыўкаў не ляцеў разам); пра партызана, які не заўважыў, што вайна скончылася і пускае эшалоны пад адхон…

Іранічнымі высновамі завяршаюцца аповеды пра творчыя справы: фільм можа зняць і дурань, але дурань ніколі не здасць. Пра два тыпа рэжысёраў: адны ўсё выціскаюць з аўтара сцэнара, другія выкідаюць сцэнар у сметніцу і здымаюць што хочуць — але што лепш, невядома, бо вынік аднолькавы.

Пра назвы твораў — у «Новым мире» гэта пытанне палітыкі, а там, дзе палітыка, дарма шукаць густ і логіку. З гэтай жа серыі: раман ад Бога, а рэдактар — ад д'ябла.

Пра свае дэпутацтвы: калі абіралі ў абласны савет, дык пілі ў жыце, у аўсе, у кукурузе, у бураках — прычым шампанскае. У

вярхоўны беларускі выбіралі зімой, дык скрынкі з віном ставілі на снег, спачатку пілі за партыю, потым расказвалі анекдоты, і наконт вынікаў не было ніякіх сумневаў.

Увогуле, пра напой весялосці і ператварэння напружанасці ў нішто (вызначэнне гумару па Канту) у Быкава шмат выказванняў: забаранілі пастаўляць віно ў Парыж і ўсё ляснула — гэтак пра прычыну Вялікай французскай рэвалюцыі. Калі б ён піў, цаны б яму не было — так сябры кажуць пра Алеся Адамовіча. Той, хто добра выпіў, заўсёды меў алібі — пра замежнае падарожжа з Аляксандрам Твардоўскім, які адразу лёг спаць у цягніку. Добра, што мясцовы «сучок» не ідзе на экспарт — заўсёды ёсць што выпіць, не тое, што каньяк «Пліска», які не змаглі купіць нават у Сафіі. Нават калі яму прывозяць першую надрукаваную кнігу аповесцяў, ён піша, што прывезлі і армянскі каньяк — і гэта зрабіла амаль шчаслівым.

Ці гісторыя з ідэяй «Мёртвым не баліць»: зайшоў у «ЛіМ» пагаварыць, быў адзін рэдактар Нічыпар Пашкевіч, які выказаў поўны антаганізм да ўсіх поглядаў і думак аўтара, апроч адной — пайсці разам у рэстаран і выпіць. Там Быкаў пераказаў эпізод з акружэннем пад Кіраваградам, а Пашкевіч заявіў, што гэта амаль гатовая аповесць. Аўтар і напісаў (Гегель тут абвяргае Канта — нішто ператварылася ў нешта).

Ці яшчэ адна іранічная трактоўка сітуацыі: адбіваўся ад графамана і параіў паслаць вершы ў «Праўду», бо гарадзенская газета занадтна малая для яго таленту. Той праз нейкі час прыходзіць — на першай паласе «Праўды» ягоны верш. Не ведаў пасля, куды хавацца ад аўтара, які пісаў да кожнай даты.

Чаму некаторыя адрасаваныя яму лісты не даходзілі: органы адразу падшывалі арыгіналы ў справу, бо бераглі пальцы машыністак.

Як Станіслаў Шушкевіч стаў дэпутататам — бо прозвішча пачыналася на літару з канца алфавіта, усіх ранейшых кандыдатаў закрычалі-засвісталі, а пакуль да «Ш» дайшло, стаміліся.

Прыклады можна працягнуць, але, як напісана ў «Доўгай дарозе дадому», каўбаса павінна быў доўгай, а прамова кароткай. Амаль вызначэнне ўсмешкі паводле Быкава.

## Любімая піца

Мы сядзім у пражскай кватэры Быкавых, і Васіль Уладзіміравіч расказвае пра інтэрв'ю самай масавай нямецкай газеце «Більд», якое ён даваў, калі жыў у Франкфурце. Карэспандэнт доўга распытваў пра сітуацыю ў Беларусі, стан мовы, літаратурны працэс, гаварылі пра новую Еўропу і экзістэнцыялізм, давалі палітычныя прагнозы. Пры канцы размовы журналіст пацікавіўся, што пісьменніку падабаецца з нямецкай кухні, як увогуле ён тут харчуецца.

— Я яму кажу: «Люблю піцу. Вось амаль штодня і гатую».

— А якую? — загарэўся той.

— Піца-пеперoні.

— А якой фірмы?

— «Доктар Откер», іншыя.

— А як гатуеце?

— Купляю замарожаную, потым у мікрахвалёўку. Праз 15 хвілін гатовая.

Пасля тузіна падобных пытанняў і ўдакладненняў госць развітаўся. Праз колькі дзён выходзіць газета. На першай старонцы вялікі каляровы здымак: стаіць і ўсміхаецца Быкаў з піцай у руках. Побач інтэрв'ю, у якім ні слова пра экзістэнцыялізм, сацрэалізм і білінгвізм, затое ўсе кулінарныя падрабязнасці прыгатавання піцы ў хатніх умовах.

Так, пад смех слухачоў, расказваў гэтую гісторыю сам Васіль Уладзіміравіч. Насамрэч, у газеце на здымку ён трымае свае дзве выдадзеныя ў Нямеччыне кнігі, і ў тэксце гаворка не толькі пра італьянскую кухню, і нават зусім не пра кухню.

Напрыканцы траўня пасля працы я ехаў да Быкавых у адведкі і згадаў гэтую гісторыю. Спыніўся па дарозе ля італьянскага рэстарана і замовіў піцу-пеперöні на вынас. Праз дваццаць хвілінаў кардонка з гарачай піцай стаяла на стале. Васіль Уладзіміравіч шчыра ўзрадаваўся і адразу сеў за стол. Ірына Міхайлаўна адмовілася ад сваёй долі і з цёплай усмешкай глядзела, як Васіль Уладзіміравіч каштаваў свой, паводле «Більда», улюбёны прадукт.

Гэта быў апошні раз, калі я бачыў Быкава, — праз два дні ён з жонкай адляцеў з Прагі ў Мінск.

## Дзве ўсмешкі

Праз некалькі дзён пасля пахавання Быкава я зноў быў у ягонай кватэры, і мілая Ірына Міхайлаўна, абяскроўленая непапраўным горам, але вонкава спакойная і прыязная, як заўсёды, разбірала пісьмовы стол і прапанавала нешта на памяць. Гальштук, які Быкаў купіў у Нямеччыне, ягоная лінза, з якой добра было разбіраць дробны шрыфт на леках, фотаздымкі ў двух экзэмплярах. У канверце ляжаў здымак: малады Быкаў і малады Салжаніцын. Злева Быкаў у цёмнай кашулі, побач сядзіць Салжаніцын у белай, абодва аўтары «Нового мира» без гальштукаў радасна глядзяць адзін на аднаго і, здаецца, зараз галасна рассмяюцца. Рэдкая абаяльнасцю быкаўская ўсмешка, на рэдкасць вясёлы выраз твару ягонага калегі.

У той жа шуфлядзе — пажоўклая выразка з «Правды» з асуджэннем Сахарава і Салжаніцына, сярод подпісаў — «В. Быкаў». Некаторыя імёны падкрэсленыя.

У 60-я і на пачатку 70-х Быкаў слаў Салжаніцыну віншаванні з днём нараджэння, атрымліваў ад яго запросіны на ўручэнне Нобелеўскай прэміі, якое мела адбыцца ў Маскве, Быкаў і Адамовіч былі адзінымі беларускімі літаратарамі, што паставілі свае подпісы пад салжаніцынскім лістом да з'езда пісьменнікаў.

За гады знаёмства я зрабіў з Быкавым мноства інтэрв'ю. Пераважна па тэлефоне, часам у студыі ці ў яго дома. Яны ўключаныя ў кнігу «Быкаў на «Свабодзе». Але гутарка пра подпіс у кнігу не трапіла, бо не гучала ў эфіры. Мы сядзелі ў тым самым ягоным кабінеце за нізкім столікам, напалову заваленым кнігамі, альбомамі, новымі часопісамі, і я спытаўся пра подпіс. Запісу на стужку я не вёў і таму прыводжу адказ, як запомніў тады і запісаў.

... Быкаў некалькі дзён быў у паездках, удзельнічаў у сустрэчах са слухачамі па лініі бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў. Пад час чарговай сустрэчы на заводзе ў Магілёве раптам падышоў нейкі чалавек і перадаў, што Быкава тэрмінова просяць у абкам партыі да «вяртушкі» — так называлі начальніцкія тэлефоны спецсувязі. Званілі з ЦК КПСС — пільны клопат, яго ўжо другі дзень шукаюць, рыхтуецца важная публікацыя, і патрэбны ягоны подпіс. Быкаў сказаў, што не чытаў, падпісаць таго не зможа і паклаў трубку. Праз паўгадзіны пачалася галоўная савецкая тэлепраграма «Время» — у паведамленні пра ліст-асуджэнне Сахарава-Салжаніцына сярод падпісантаў было прачытана прозвішча Быкава.

Быкаў пазваніў у Маскву даўняму знаёмаму пісьменніку Сяргею Залыгіну, чыё імя таксама стаяла пад лістом. Той папрасіў Быкава тэрмінова прыехаць. Доўга думалі, што рабіць, каму скардзіцца. Знайшлі тэлефон дачы Мсціслава Растраповіча, дзе

быццам жыў Салжаніцын, але нумар не адказваў, маўчаў тэлефон будучай жонкі пісьменніка. Магчыма, трэба было пайсці да замежных карэспандэнтаў, але Залыгін, як больш спрактыкаваны масквіч, гэтай ідэі не падтрымаў. Быкаў напісаў ліст у ЦК КПСС, сам занёс яго на прахадную і аддаў. Ніякага адказу ён ніколі не атрымаў і ніколі не меў больш магчымасці пагаварыць з Салжаніцыным, якога неўзабаве выслалі.

— Майго подпісу пад гэтым лістом няма, — сказаў мне тады Быкаў.

Я напісаў ліст Сяргею Залыгіну, які ў той час быў ужо рэдактарам «Нового мира». Праз пару тыдняў прыйшоў адказ на афіцыйным бланку часопіса.

«Калі б Вы пабачылі арыгінал таго дакумента, дык уведалі б, што майго подпісу там няма», — пісаў Залыгін.

Гэтую гісторыю я тады ж, у 1989 годзе, пераказаў у газеце «Літаратура і мастацтва». У тым самым годзе на з'ездзе народных дэпутатаў СССР Быкаў расказаў гісторыю свайго подпісу Андрэю Сахараву — паспеў расказаць, бо той самай ночы Сахараў памёр.

Быкаў вярнуўся да гісторыі з подпісам падрабязна, ва ўсіх дэталях у сваёй апошняй кнізе «Доўгая дарога дадому». Там прыводзіцца парада сяброў, якія раілі не апраўдвацца, — каму трэба, усё зразумеюць. Такую параду Быкаў ужо аднойчы атрымліваў — пасля публікацыі «Мёртвым не баліць». Нядаўна сярод папераў Ірына Міхайлаўна знайшла тэлеграму з «Нового мира». 8 кастрычніка 1969 года ў 17:10 тэлеграма адпраўлена з Масквы, у 19:11 атрымана ў Горадні. Я папрасіў дазволу перапісаць тэкст:

«Дорогой Василий Владимирович надеемся что вы не смущены новой попыткой обрушить на вас волну несправедливых упреков тчк будьте тверды тчк все минется правда останется обнимаем вас Твардовский Кондратович Хитров».

Адносіны Быкава і Салжаніцына, напачатку вельмі прыязныя, ужо не аднавіліся, і не толькі з прычыны сфальшаванага подпісу.

Але гэта было пазней. Я аддаў чорна-белы фотаздымак, знойдзены ў стале Быкава, на павелічэнне.

Ён цяпер вісіць у мяне на сцяне — радасныя, маладыя, прыгожыя твары з незабыўнай усмешкай, — напэўна, так тады, у 60-я гады мінулага стагоддзя, усміхалася сама свабода.

Частка 4

# Без слоў




Малюнак В. Быкава. Злева направа — В. Б., Святлана Лукашук, Ірына Быкава, Аляксандар Лукашук.
Падворак Льва, Градчаны, Прага. 2003 г.

## Белы дзень

Адляцеў метраў на дзесяць, завіс над дарогай на вышыні метры тры, каб не перашкаджаць машынам, глянуў на сябе і трох сваіх суразмоўцаў за столікам вулічнага кафэ і пачаў працаваць.

Прыбраў: аб’ём — выпукласці, шары, калоны, плоскасці; матэрыял — камень, дрэва, пластык, метал, цела; колер — блакітны, зялёны, залаты, карычневы; рэшту — гук, вагу, цені;

Пакінуў: час — поўдзень, пару года — вясна, частку свету — Еўропа;

Падкрэсліў: рысы — мужчынскасць, жаноцкасць, узрост, характары;

Уключыў: рух — лінейны злева направа, кругавы па коле справа налева;

Дадаў: стыль — празрыстасць, яснасць, лёгкасць, спакой.

І тут якраз фыркнула белай пенай кававарка над капучына, ён хуценька вярнуў на месца ўсё, што прыбраў, пазначыў марку замоўленага марожанага — Algida, паставіў дату — 26/IV, аказаўся Чарнобыльскі дзень, але ён не стаў больш нічога мяняць, проста не паставіў год, тым больш, што гэта быў яго апошні тут.

*Усім, хто чытае аўтарскія прадмовы,*
*бо такіх людзей больш няма*

# Дайце палятаць

Гулялі неяк мы з Васілём Быкавым па Праскім Градзе, гатычным замку на левым беразе Влтавы, рэзідэнцыі каралёў і прэзідэнтаў і месцам паломніцтва турысцкіх ордаў.

Не з параднага боку, які глядзіць на горад, а з супрацьлеглага, па каралеўскім садзе, пад платанамі і яварамі, паміж азаліяў ды іншых рададэндронаў, дзе перспектыву вянчае арачная галерэя летняга палаца, а справа, над стромкай цяснінай, узлятае ў неба шматступенны сабор Святога Віта.

Гулялі па тых самых сотках, дзе садоўнікам працаваў бацька беларускага кнігадруку. Помнік яму з недарэчным гусіным пяром у правай руцэ стаіць за пару сотняў метраў. Пяро гэтае некалькі разоў адломвалі, што я асабіста не ўхваляю, але разумею — чалавек праславіўся якраз тым, што замяніў пяро на друкарскі варштат. Ужо лепш было б саму вадаплаўную птушку яму ў рукі даць, за пяць вякоў не адну чараду беларускіх гусей ўратаваў ад негуманннага абыходжання з боку сяброў Саюза пісьменнікаў.

У такіх размовах з Быкавым дайшлі мы да канца саду, павярнулі назад — і я спытаўся пра жанр прадмоваў (якраз пакутваў над адной для чарговага выдання

«Бібліятэкі Свабоды»). Быкаў мне некалі напісаў прадмову для першай кніжкі і нават уключыў яе ў 6 том прыжыццёвага збору твораў.

Быкаў заступіўся за скульптара — Скарына ж таксама пісаў прадмовы, так? Але ж не набіраў іх адразу на варштаце, спачатку быў рукапіс, а чым ён пісаў?..

Тут я сабраў свае ўступныя словы да кніг «Бібліятэкі Свабоды». Як пішуцца прадмовы, няблага патлумачана ў самай гусінай беларускай песні:

*Ой, ляцелі гусі з броду,*
*Скалацілі ў рэчцы воду.*

Спачатку выклічнік, здзіўлены, як стварэнне свету з нічога, і спалоханы, як першы пацалунак у цемры: «Ой!» Гэта значыць, радыё вырашыла кнігі друкаваць. І слухачы войкнулі, і начальства. Але позна, бо ўжо кіно: ляцяць! Г. зн., працэс пайшоў. Нават паляцеў.

Затым санітарна-эпідэмічная заўвага: вада скалацілася, замуцілася, колькасць узважаных часцінак на літр перавысіла норму. Вось і задача: палічыць, высветліць і патлумачыць як, што і навошта. Можа, і самі зразумеем.

Ідэальная даўжыня прадмовы таксама задаецца песняй:

*Пакуль вода чыста стала,*
*Я з Раманам пастаяла.*

Ідэальная, бо дае магчымасць выбраць працягласць: ці то пакуль $H_2O$ адстаіцца, ці то пакуль дзеўка з хлопцам настаіцца. Свабода!

Далей — змест, які не сніў нават Зігмунд Фрэйд:

*Як стаў Раман жартаваці,*
*Ваду з вёдзер выліваці.*

Не сніў, канечне, бо насамрэч гэта проста апісанне працы рэдактара. Спадзяюся, вы паверылі.

Прапусцім далейшы тэхналагічны працэс, ён амаль не змяніўся з часоў Скарыны. Як, дарэчы, і вынік:

*Цяпер, мама, прызнаюся,*
*Што з Раманам кахаюся!*

Усе прадмовы пішуцца гусіным пяром.

## Мова свабоды

«Верш на Свабоду». Кніга паэзіі. 2002.

*Самую першую кнігу «Бібліятэкі Свабоды» склалі 365 твораў 365 паэтаў. Напісаныя слухачамі радыё, яны гучалі ў эфіры штодня ўвесь 2001 год. Сярод аўтараў былі нобелеўскія лаўрэаты і паэты-выгнаннікі, самаму маладому 10 гадоў, найстарэйшаму — 92. Валянціна Аксак, якая апекавалася паэтамі і праграмай, рыхтавала гэтую кнігу разам з Аляксандрай Макавік. Затым да іх далучылася незабыўная Вера Рыч з Лондана і гэты збор выйшаў у бліскучым ангельскім перакладзе. Камертон «Бібліятэкі».*

Гэтую кнігу можна чытаць пад музыку — рэкамендуем Джузэпе Вердзі, арыю з оперы «Набука», — яна гучала на хвалях беларускай «Свабоды» ўвесь 2001 год да апошняга снежаньскага вечара: «Ты пяеш — і з табой маё сэрца пяе, о Свабода!..»

«Freedom House» — міжнародная арганізацыя «Дом Свабоды» — у 2001 годзе аднесла Беларусь да несвабодных краінаў свету, адзіную з усёй Еўропы на пачатку XXI стагоддзя. І ўсё ж тады, прынамсі, пабольшала паэтычнай свабоды. 365 галасоў, новы верш штодня, напісаны спецыяльна для Радыё Свабода, — неверагодная авантура, якая не мае аналагаў і па сілах толькі паэтам.

Магутныя перадатчыкі пасылалі электрамагнітны сігнал у неба, ён адбіваўся ад іонасферы і вяртаўся на беларускую зямлю, каб ізноў узмыць у нябёсы і з хуткасцю святла вярнуцца, і ў любым месцы — на дарозе, у хаце, ля возера, у Курапатах можна было ўключыць радыё і пачуць магічную вібрацыю — адчуванні, здагадкі, сцверджанні й пытанні пра галоўную рэч, якая адзіная робіць чалавека годным суразмоўцам Бога.

У 2001 годзе свабода гаварыла па-беларуску.

Гэта была народная перадача, варта паглядзець на геаграфію, на гарады, мястэчкі і вёскі, дзе думалі пра свабоду, марылі, шукалі рыфмы і рытмы. Самаму юнаму аўтару, Святаяне, было дзесяць гадоў, найстарэйшаму, Максіму Лужаніну, амаль у дзесяць разоў болей. Верш на свабоду напісалі нобелеўскія лаўрэаты Чэслаў Мілаш і Віслава Шымборска, пачаткоўцы і ўганараваныя нацыянальныя паэты, акадэмікі й выгнаннікі з чатырох дзясяткаў краінаў, пяці кантынентаў.

Рэдактар праграмы Валянціна Аксак не прачытала ў эфіры свайго верша — невядома, ці ўвогуле яна пісала ўвесь год, пакуль рыхтавала анталогію: перапісвалася з паэтамі, званіла, шукала, перачытвала дасланую тысячу вершаў, адмаўляла і запрашала, сустракала, прыводзіла, усаджвала перад мікрафонам. Уся праграма і гэтая кніга былі б немагчымыя без Валянціны Аксак, і калі перадача скончылася, яна нарэшце напісала свой верш — эпілог, які можа быць эпіграфам:

*Свабода*
*як серафім з шасцю крыламі:*
*двума ён*
*вочы свае захінае, каб Бога не бачыць,*
*бо не варты небнае звышнасці;*
*яшчэ двума шчытна*
*ногі свае атуляе,*
*каб Бог не бачыў*
*ягонай зямное існасці;*
*трэцяю ж параю крылаў*
*увесь час трапеча над намі,*
*утвараючы мройлівы дым,*
*праз які мы яго*
*ніколі не бачым.*

Свабода — гэта мова, на якой Бог гаворыць з чалавекам, а чалавек з Богам. У кнізе, што вы трымаеце ў руках, — фрагменты гэтай размовы.

## Жывыя ў Курапатах

«Дарога праз Курапаты». Кніга рэпартажу. 2002.

*Гэта гісторыя безагляднай абароны месца масавых пахаванняў ахвяраў камунізму у час будаўніцтва Мінскай кальцавой дарогі. Унікальны ў гісторыі журналістыкі дакумент штодзённага рэпартажу з аднаго месца на працягу васьмі месяцаў. Звычайныя героі.*

…Пазванілі з Мінска — праз Курапаты пачынаюць прабіваць дарогу. Я папрасіў неадкладна паслаць туды карэспандэнта, і ў вечаровым эфіры 20 верасня прагучаў рэпартаж.

Мы не ведалі, што гэта толькі пачатак, што паўстане ўнікальная кругласутачная вахта, што нажы бульдозера будуць бурыць крыжы, што згарыць намёт, што нашыя магнітафоны будуць замярзаць пры мінус 20 градусах, а валанцёры будуць абараняць Курапаты, як абараняюць гонар ці Радзіму — без тлумачэнняў, рацыянальных падставаў, пошуку сродкаў і надзеі на перамогу.

«Свабода» была ў Курапатах, бо іх спрабавалі парушыць. Не, знішчыць — пасля адкрыцця Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва месца сталінскіх расстрэлаў увайшло ў гісторыю, як Хатынь і Чарнобыль, назаўсёды. Паскудства на могілках абражала не мёртвых, а жывых.

На беларускай «Свабодзе» яшчэ не было такога выпадку, каб штодня больш за восем месяцаў запар весці рэпартаж з аднаго месца. Так б'юць у звон — размерана, у адно і тое ж месца, і пругкі

метал працінае паветра працяжнымі ўсхліпамі. Так кайлом на рудніках высякаюць мёрзлую руду — у адну кропку, зноў і зноў, пакуль не надколецца глыба. У нас былі мікрафон, сярэднія і кароткія хвалі. І слухачы. У тым ліку — у Курапатах.

З дзённіка валанцёраў: «24 сакавіка 2002 году. 19 гадзіна. ...Праслухалі першы рэпартаж Радыё Свабода, з якога даведаліся пра тое, што сапраўды адбывалася ў цэнтры. Чулі крыкі й шум пры затрыманні, даведаліся пра сапраўдную колькасць затрыманых, больш за семдзесят. Мы ў шоку... Калі рэпартажы скончыліся, выйшлі паліць ды ўбачылі, як у наш бок рухаецца «ментавоз». Усталі ў ланцуг, перагарадзілі дарогу. Пасля нядоўгай размовы «мянты» развярнуліся ды з’ехалі. Адразу ж напілілі й усталявалі 13 слупкоў поперак дарогі на ўездзе ва ўрочышча з поля. Па радыё чулі, што барысаўскія апазіцыянеры зранку паставілі крыж, які паваліліі вандалы сёння ўначы. Гэта змагары. Хвала ім...»

Ганна Соусь перадала больш за дзвесце рэпартажаў з Курапатаў і была ўганараваная прэміяй Алеся Адамовіча, якою Беларускі ПЭН-цэнтр адзначае найлепшую журналісцкую працу года. Там таксама працавалі Альгерд Невяроўскі ды іншыя нашыя калегі.

Але героі гэтай кнігі — не журналісты, а сама падзея і яе ўдзельнікі — валанцёры, людзі, якія прыносілі харчы, прывозілі дровы, ладзілі талокі, рабілі археалагічныя экспертызы, вялі перамовы з будаўнікамі, адпраўлялі набажэнствы, — каля паўтысячы імёнаў згадана ў гэтых рэпартажах. Яшчэ больш, верагодна, не згадана.

Мяжа ў Курапатах праходзіць не паміж мёртвымі й жывымі, а паміж памяццю і хлуснёй, паміж учора і заўтра, і заўсёды — паміж катамі і ахвярамі.

Абаронцы адваявалі ў дарогі нашу годнасць.

## З Быкавым

«Быкаў на Свабодзе». Збор выступаў у эфіры. 2004. 2005.

*Двума выданнямі выйшла гэтая ўнікальная калекцыя інтэрв'ю, выступаў беларускага класіка на Свабодзе ў 1991–2003 гадах. Другая кніга, якую рыхтаваў Сяргей Навумчык, дапоўненая лістамі, малюнкамі, фота і ўспамінамі. Брама скарбаў.*

...Быкаў смяецца ў трубку і кажа: «Ну, калі я вам яшчэ не надакучыў, калі ласка — прышлю». Праз пару дзён пошта прыносіць цяжкі канверт з новай прыпавесцю, у лісце абавязковая прыпіска: «Прывітанне свабодным хлопцам, і дзяўчаткам — таксама.»

У 1965-м супрацоўнікі радыё выдалі ў Мюнхене аповесць «Мёртвым не баліць». І вось мы зноў выдаём кнігу Быкава. Шмат гадоў нашыя слухачы першыя знаёміліся з яго новымі творамі, а таксама меркаваннямі, ацэнкамі й прагнозамі. Пераважна гэта былі невясёлыя прагнозы, але Быкаў не пагаджаўся, што гэта песімізм. Свечка надзеі ніколі не гасла ў ягоных выступах. І ў рэдакцыйных сценах ён запомніўся заўсёды з прыязнай цёплай усмешкай, — мы спадзяёмся, ён пачуваў сябе на «Свабодзе» добра і лёгка, сярод сяброў.

Апошнія месяцы мы мелі шчасце сустракацца часцей — у прагулках па Празе, на імпрэзах, у вулічных кавярнях, дома. І ў шпіталі. За тоўстымі сценамі «Свабода» лавілася дрэнна, мы прынеслі яму магнітафон, і ён атрымліваў навіны з Беларусі ў запісе. Быкаў слухаў «Свабоду» даўно, але пасля таго, як жыццё ў Мінску стала нясцерпным і пачаўся апошні вандроўны перыяд ягонай творчасці, ён не расставаўся з кароткахвалевым прымачом.

Мы рабілі праграму, ведаючы, што яе будзе слухаць Быкаў.

Мы так і будзем рабіць надалей, Васіль Уладзіміравіч.

## Вельмі паветраныя пацалункі

Рыгор Барадулін. «Дуліна ад Барадуліна». 2004.

*Гэтае выданне аўтар, самы чароўны і вясёлы беларускі паэт, назваў сваёй самай раскаванай кнігай. Яе склалі показкі, эпіграмы, міні-оды «Свабодзе» ды іншыя бессаромныя жэсты, у т. л. эсэ «Як беларусы сексам займаюцца». Бо праўды не заглушыш.*

Шаноўныя чытачкі й іншыя маральна няўстойлівыя асобы!

Праявіце ўстойлівасць і не чытайце ў гэтай кнізе старонкі 178–189!

Дарагія бацькі непаўналетніх! Хавайце гэтую кнігу ў недаступным для дзяцей месцы да дасягнення паўналецця!

Бедныя інтэрнэт-залежныя! Не распаўсюджвайце ва ўсясветным сеціве адно згаданыя дванаццаць старонак!

Паважаныя астатнія грамадзяне! Не чытайце гэтыя старонкі ўголас у грамадскім транспарце, са сцэны, у час дажынак і іншых масавых гулянняў!

Непадкупныя пракуроры й суддзі! Не вырывайце вышэйзгаданыя старонкі з кантэксту й не судзіце сувора тых, хто ўсё ж будзе чытаць іх уголас!

Вельмішаноўныя чытачы старонак 5–254! Віншуем вас з новай сустрэчай са свабодным паэтам і паэтам свабоды!

Раней Рыгор Барадулін даваў «Свабодзе» сур'ёзныя інтэрв'ю, пасля чытаў ля мікрафона мілагучныя вершы й пераклады, затым пачаў пісаць эсэ на грамадска значныя (с. 160–177) і агульначалавечыя тэмы (с. 178–189). Але за вясной прыйшло лета 2004 года, і дзядзька Рыгор штодня стаў круціць дуліны ў эфіры старым і новым сябрам і знаёмцам, а пасля агледзеўся й на адным дыханні паслаў яшчэ паўсотні паветраных пацалункаў

журналістам і слухачам «Свабоды». Мы былі аслупянелі й вось выдалі кнігу — а што рабіць?

Паэты, як вядома, не даюць пацалункаў без узаемнай любові, у якой мы распісваемся — без дулі ў кішэні.

## Звон Вострай Брамы

Сяргей Дубавец. «Вострая Брама». 2005.

*Гэта легендарная перадача з Вільні з надзвычай адданай аўдыторыяй штотыдзень гадамі стварала феерыю беларускага культурнага кантэксту на мяжы стагоддзяў. Гістарычны і культурніцкі фэст нацыянальнай душы.*

У Вострай Браме звону няма.

Але хто мае прымач, чуе «Вострую Браму» — кожны тыдзень, у нядзелю ўвечары, у Беларусі й Сібіры, Амерыцы і Аўстраліі слухачы ловяць акорды Брамса, якія адкрываюць перадачу.

У паўвекавой гісторыі «Свабоды» «Вострая Брама» стварае прэцэдэнт — маратон аднаго аўтара, які мае паўгадзіны эфіру і свой погляд на свет. Гэта свет, дзе мінулае яшчэ не мінула, дзе сапраўднасць шукае сваё аблічча, дзе самыя простыя рэчы выглядаюць няпэўнымі, бо адсутнічаюць каардынаты нормы.

«Вострая Брама» аднаўляе кантэкст — нацыянальны, еўрапейскі, агульначалавечы.

«Вострая Брама» робіцца ў Вільні — з любога іншага месца рабілася б іншая перадача. Віленскі погляд дае адчуванне, якой была і якой можа стаць беларуская Беларусь.

Калі ў сэрцы трывога і жах за радзіму, першым, што ўспомніў паэт, стала Вострая Брама.

На пераломе стагоддзяў Сяргей Дубавец вяртае Вострую Браму ў Беларусь.

## Бліскавіца ў дыяменце

Вячаслаў Ракіцкі. «Беларуская Атлянтыда». 2006.

*Кніга, у якой суседзяць Бог, секс, магія, сны, гарэлка, інтрыгі, бойкі, улада — жыццё і смерць па-беларуску і па-еўрапейску. Так, як аўтар і яго госці, пра айчынную гісторыю яшчэ не гаварыў ніхто. Не адарвацца.*

Вайна за ўкрадзенае мінулае пачалася на хвалях «Свабоды» ў самы першы дзень беларускага эфіру, 20 траўня 1954 года.

Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Янка Запруднік, Паўла Ўрбан, Уладзімір Дудзіцкі, Уладзімір Цвірка, Масей Сяднёў, Вітаўт Кіпель... Эстафету гістарычнай зоркі «Свабоды» 1970-1980-х гадоў, Язэпа Барэйкі, перанялі ў другой палове 1990-х два ягоныя маладыя слухачы — Вінцук Вячорка й Вячаслаў Ракіцкі. Іхняя перадача «Неабжытая спадчына» гучала да канца XX стагоддзя. Новае тысячагоддзе пачала перадача «Беларуская Атлантыда».

Адзін з раздзелаў кнігі называецца «Настальгія па страчаным моры». Міфы й рэаліі еўрапейскай нацыі, якія адкрыліся ў глыбіні мінуўшчыны Вячаславу Ракіцкаму й ягоным спадарожнікам, агаломшваюць, як агаломшвае чалавека першая ў жыцці сустрэча з морам.

Людзі — рыцары, будаўнікі, фальшываманетчыкі, чараўнікі, магнаты…

Норавы — забавы, сварі, бойкі, авантуры, секс...

Ежа — клёцкі, селядзец, гарэлка, гарбата, сыр...

Ваколіцы — лабірынты, мястэчкі, муры, балоты...

Дзяржава — харугвы, канстытуцыі, інтрыгі, войны, калоніі...

Сусвет — Бог, чорт, рай, пекла, белая магія...

Бясконцы далягляд, велізарнае неба, бяздонныя глыбіні, рух хваляў часу й нясцерпнае ззянне кожнай самай малой пясчынкі

як выбух бліскавіцы ўсярэдзіне дыяменту. І — свойская мяккая хваля, якая люляе й цягне за сабой.

Так пра айчынную гісторыю яшчэ не гаварылі.

## Безразважнасць і рашучасць

«Плошча». Кніга рэпартажу. 2006.

*Хроніка масавых пратэстаў сакавіка 2006 года, калі ў адказ на абвешчаныя вынікі прэзідэнцкіх выбараў у цэнтры Мінска паўстаў намётавы лагер. Кругласутачныя рэпартажы, каляровыя фота, званкі на «Свабоду» — нацыянальная акустыка мінскага цуду.*

За тры дні да прэзідэнцкіх выбараў, у пятніцу 17 сакавіка, мне пазванілі з Лондана, з міжнароднай рэдакцыі тэлекампаніі Сі-Эн-Эн, з просьбай — раніцай 20 сакавіка ў жывым эфіры пракаментаваць вынікі. Назаўтра я адлятаў з Прагі ў Мінск, і мяне папрасілі прыслаць тэзісы, што прыкладна буду гаварыць. У той самы дзень я паслаў кароткі электронны допіс у Лондан, які пачынаўся так: «Паводле афіцыйных вынікаў, 82% галасоў атрымаў дзеючы...»

Калегі, верагодна, ацанілі прагноз, і на наступным тыдні я быў у эфіры Сі-Эн-Эн з тузін разоў — але мы амаль не гаварылі пра галасаванне. Вынікі не былі нечаканасцю. Абвешчаная лічба не магла быць меншай за папярэднюю. Нечаканасцю стала Плошча.

Плошча, а не прэзідэнцкія выбары, дамінавала на экранах сусветных тэлеканалаў, на першых палосах вядучых еўрапейскіх і амерыканскіх газетаў, у радыёэфіры й інтэрнэце.

«Тэрыторыя свабоды», «Бітва за Беларусь», «Плошча дэмакратыі», «Тысячы пратэстуюць», «Краіна ў краіне» — дзясяткі падобных загалоўкаў, рэпартажаў, інтэрв'ю й фота з Мінску сведчылі пра іншы

выбар. «Апоўначы яны занялі частку Беларусі, каля 50 квадратных ярдаў. Гэта была краіна ў краіне. Яны танчылі на яе халодных камянях. Яны раздавалі гарбату. Яны казалі, што не здадуцца. Калі трэба, казалі яны, мы будзем стаяць гады». Карэспандэнт «Нью-Ёрк Таймс», які перадаў гэтыя радкі ў рэдакцыю ў апошні дзень перад разгромам лагера, пісаў: «Пакуль рана казаць, гэта безразважнасць ці рашучасць». Праўда, потым ён дадаваў: «Пра іх рашучасць сведчыць тое, што амаль усе на Плошчы не толькі даюць сваё імя для публікацыі, але настойваюць, каб яго запісалі, ведаючы, што ўлады пабачаць іх».

Тыя імёны, твары на фотаздымках, галасы з Плошчы, якія бесперапынна з'яўляліся ў эфіры й інтэрнэце «Свабоды», трэба дапоўніць сотнямі затрыманых, арыштаваных людзей, якія апынуліся за кратамі турмаў па ўсёй Беларусі й не змаглі прыехаць у Мінск. Адмяняліся аўтобусныя маршруты, не прадавалі квіткі на цягнікі, прыватныя машыны спынялі на выездзе на сталічныя трасы. Улады прыраўнялі мірны пратэст да тэрарызму, настаўнікі палохалі дзяцей і бацькоў, студэнтаў папярэдзілі пра выключэнні, замежнікам адмаўлялі ў візах ці касавалі іх на мяжы. Афіцыйныя медыі гэтай вясны некалі будуць вывучаць, як цяпер вывучаюць савецкую прэсу 1930-х гадоў.

Першы намёт на зледзянелым бруку паўстаў у панядзелак, 20 сакавіка, у 19:30; у чацвер, 24 сакавіка, у 3:25 аўтазакі з абаронцамі накіраваліся да турмы. Чатыры ночы й тры дні, 80 гадзінаў, амаль 5000 хвілінаў свабоды.

Увесь гэты час разам з дзясяткамі журналістаў на Плошчы былі карэспандэнты «Свабоды». А таксама — нашыя слухачы, іхні голас гучыць у гэтай кнізе.

Плошча стала галоўнай падзеяй вясны-2006. Пакуль рана казаць пра ўсе вынікі. Але Плошча застанецца вясной для тых, хто быў на ёй — і хто яе бачыў.

## Як Вінцэсь М. разваліў Савецкі С.

Вінцэсь Мудроў. «Альбом сямейны». 2007.

*Аўтар спрабуе на гук, на смак, на дотык страшныя, смешныя, забытыя словы савецкага часу, ад палёту Гагарына да выбуху ў Чарнобылі. Плюс феерычная рэакцыя слухачоў. Іскры сыплюцца.*

Першы водгук на перадачу Вінцэся Мудрова «Летні альбом» прыйшоў з Вашынгтона. Мне пераслалі скаргу пільнага слухача, які абураўся: да чаго скацілася «Свабода», калі такое даюць у эфір! Аўтар патрабаваў ужыць меры й падпісаўся: «Патрыёт Беларусі».

Сярод сотні страшных, смешных і забытых словаў, якія складаюць гэтую кнігу, слова «патрыёт» няма. Але ці мала чаго там няма — напрыклад, такіх жыццёва важных словаў нягрэцкага паходжання, як «данос», «панос» і «засос». А, дарэчы, шкада: як без апошняга апісаць барацьбу за мір паміж таварышам Брэжневым і іншымі таварышамі, якіх спачатку баяліся, з якіх потым смяяліся й на якіх цяпер забыліся?

Мы баімся, смяемся й забываем — чым не формула жыцця, калі б жыццё само гэтак часта не смяялася з тых, хто спрабуе звесці яго да формулы. Калі ў чэрвені 2006-га перадача выйшла ў эфір, мы думалі, яна скончыцца ў жніўні. І памыліліся двойчы — апошнія, восеньскія старонкі былі перагорнутыя ажно ў лістападзе, а сам альбом з сезоннага стаў сямейным.

Альбом не давалі закрыць слухачы, якія паставіліся да новай перадачы хаця й патрабавальна («Патрабуем працягу!»), але некрытычна (адзін апалагет нават заявіў: «Хоць бы дзень пажыць у гэтым «Альбоме»!» Верагодна, ён не быў патрыётам.).

Некалі французскі філосаф Агюст Рэнан зазначыў, што найлепшы сродак падкрэсліць важнасць якой-небудзь падзеі ці

з'явы — прыбраць яе й паказаць, чым свет зрабіўся б без яе. Вінцэсь Мудроў зрабіў адваротнае — ён вярнуў рэчы, без якіх свет існуе.

Сусветная літаратура вяртання, якую цьмяна імянуюць то рэалізмам, то мадэрнізмам, займаецца адной справай — пошукамі страчанага часу. Марсель Пруст знаходзіў яго праз смак піражнага мадлен, Мудроў — праз цукеркі падушачкі, Джэймс Джойс аднаўляў ва «Улісе» плынь свядомасці аднаго дня, Мудроў свядома перaслухоўвае плыўкі гук з разблытаных магнітафонных стужак, 10-гадовы Леў Талстой прачынаецца жнівеньскім ранкам у ложку «Дзяцінства», 10-гадовы Мудроў — у «Ложку з панцырнай сеткай». Яны абодва не хочуць уставаць, толькі над першым гайдаецца абразок анёла, а другі думае, як скруціць бліскучыя стальныя шарыкі з нікеляванай спінкі панцырнага ложка.

Дыстанцыя — неабходная функцыя бачання. Пытанне, аднак, у яе велічыні й ягонай сіле. Некаму не хапае жыцця, каб пабачыць, што яно прайшло ў люстраным пакоі з крывымі сценкамі. Нехта прымае за рэальнасць ружовы туман. А нехта, нават народжаны ў турме, чуе гукі іншай музыкі, вычытвае сваё ў газетных абрыўках, смяецца з таго, чым ганарацца астатнія, і раптам бачыць самога сябе — каб ужо ніколі не забыцца.

І аказваецца не цаглінай у маналітнай сцяне, і сцяна не вытрымлівае.

## Любіць вушамі

«Начная чытанка». 100 аўтараў. Дыск. 2007, 2009.

*Два гады штотыдзень літаратары чыталі свае творы ў начным эфіры Свабоды. Залаты аўдыёархіў новай беларускай літаратуры. Заслухаецеся.*

*«А хто там ідзе... »*
*«Толькі ў сэрцы трывожным пачую... »*
*«Магутны Божа... »*

Мы ніколі не чулі гэтых геніяльных радкоў у аўтарскім выкананні. Мы не ведаем інтанацыі першага чытання Янкі Купалы, не чулі дыхання Максіма Багдановіча, нам незнаёмы спеўны рытм Наталлі Арсенневай.

Цуд нараджэння першага гуку, слова, радка, цуд гарачай крыві, якая пульсуе у кожным дыху, захоўвае толькі голас аўтара.

Радыё — гэта голас.

«Начная Свабода» выпраўляе загану мінулых стагоддзяў.

«Начная чытанка» — наш падарунак тым, хто ўмее любіць вушамі.

Цяпер гэта можна рабіць не толькі ўначы.

## Энцыклапедыя любові

Уладзімер Арлоў. «Імёны Свабоды». 2007.

*Гэтая кніга гістарычных партрэтаў можа служыць дапаможнікам для будаўніцтва мемарыялаў, напісання раманаў, здымання фільмаў, абароны дысертацыяў, змены назваў плошчаў ды інш. Таксама выйшаў дапоўнены аўдыёварыянт на дыску. Нацыянальны пантэон.*

Гэта не дапаможнік у перайменаванні беларускіх вуліцаў, плошчаў і гарадоў, хоць, безумоўна, гэтыя імёны заменяць на шыльдах прозвішчы камуністычных вампіраў і імперскіх пярэваратняў.

Гэта не храналагічны даведнік, хоць на хвалях «Свабоды» ад 1 студзеня 2006-га да 25 сакавіка 2007-га прагучалі сотні імёнаў, абраных аўтарам з нацыянальнага пантэону XVIII–XXI стагоддзяў (далёка не ўсіх удалося згадаць у эфіры, тым больш змясціць пад адной вокладкай).

Гэта не манаграфія, хоць тут уводзіцца новая перыядызацыя нацыянальна-вызвольнага руху, распрацаваныя крытэры, зробленая класіфікацыя.

Гэта не дакументальна-архіўнае даследаванне, хоць даты, месцы і падзеі выверапыя, а многія факты знойдзеныя і апублікаваныя ўпершыню.

Гэта не мастацкая проза і не гістарычная эсэістыка, хоць кожны раздзел чытаецца як маланка і ўражвае як раман.

Гэта не кніга мёртвых, хоць яе складаюць лёсы людзей, якіх ужо няма сярод жывых.

Гэта аўтарская энцыклапедыя любові да радзімы, волі й незалежнасці.

Гэта імёны, якія будуць жыць, пакуль жыве Беларусь.

Гэта вянок нашай свабоды.

## Яе азімут

Івонка Сурвіла. «Дарога». 2008.

*Жыццёвая дарога аўтара пачалася ў Стоўбцах і вяла праз Капенгаген, Парыж, Мадрыд, Атаву да Беларусі — ад «члена сям'і ворага народу» да старшыні Рады БНР. Прыгожая кніга прыгожага чалавека.*

Прадмова да гэтых успамінаў прагучала ў эфіры 20 траўня 1954 года, у самы першы дзень вяшчання Радыё Свабода («Вызваленне»): «У тапаграфіі кут, мераны ўправа ад магнетнай поўначы, завецца азімутам. Азімут паказвае нам напрамак простага маршу да мэты. Змераны на карце кут досыць добра запамятаць, — пасля, гледзячы на стрэлку компаса, можна ўдзень і ўночы ісці проста да мэты».

Акурат пра гэтыя, яшчэ ненапісаныя ўспаміны гаварылася ў той гістарычнай перадачы: «Мы, беларускія эмігранты, маем свой змераны і добра запамятаны азімут ад месца нашага прабывання да нашай мэты — Беларусі. І гэты азімут мы завём азімутам сэрца».

Гэтыя ўспаміны мелі на ўвазе іх аўтары, першыя супрацоўнікі «Свабоды», калі тлумачылі: «Залежна ад нашага месца, лічбы азімуту мяняюцца: і так, азімут з Аўстраліі іншы, чым з Англіі, а яшчэ іншы з Канады, але мэта застаецца адна і тая самая — дарагі, родны, паняволены наш край».

Прызнанне з гэтых успамінаў прагучала на кароткіх хвалях за паўстагоддзя да іх напісання: «Вольны, дэмакратычны свет прыняў нас наогул добра і даў усе правы вольных і паўнавартасных людзей. Але не асабістага дабрабыту мы тут шукаем, набіваючы ногі па ўсіх дарогах і бездарожжах чужога свету. Мы — як нашыя птушкі ў выраі: гнёздаў не ўём — павароту чакаем».

Надзея і спадзяванне гэтых успамінаў заставаліся нязменныя з моманту першага вяшчання: «Дык дай нам, Божа, каб наша слова дайшло да вас цераз усе запоры і барыкады, каб яно, дайшоўшы, знайшло ў вашых сэрцах пажаданы водгук!»

І непарушная заставалася вера: «Хоць ноч і зіма лютуюць над нашым краем, мы верым у вясну і светлы дзень».

Сёмы старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла, якая ніколі не жыла ў незалежнай Беларусі, нарадзілася пад польскім панаваннем, перажыла савецкую акупацыю, пакінула радзіму ў час гітлераўскай, але яе дарога заўсёды была вольная, і дарога вяла да Беларусі і была яе Беларуссю, і цяпер яна запрашае ўсіх з сабой у памятныя мясціны свайго доўгага падарожжа.

Азімут не памяняўся.

## На плошчы без слоў

Пётра Садоўскі. «Мой шыбалет». 2008.

*Гэтыя сучасныя мемуары дэпутата незалежнасці і першага амбасадара Беларусі ў Нямеччыне сталі першымі беларускімі ўспамінамі пра шлях ад Фрэйда да Майсея. Філалагічны вырай.*

Словы зніклі тады і там, калі і дзе яны былі неабходныя як ніколі і як нідзе.

Тады, у жніўні 1991-га, яго выступу на плошчы чакалі тысячы людзей, з якіх у гэтыя імгненні назаўсёды спаўзала грамадзянства калоніі і яны станавіліся грамадзянамі Беларусі.

Плошча таксама скідала аброць імя злоснага карліка, які тырчэў пад вокнамі Дома ўрада, і набывала горды назоў Незалежнасці.

Час, пра які ён марыў, у які верыў і які набліжаў, пераставаў быць чарадой дзён і гадзінаў і на вачах рабіўся найноўшай гісторыяй Еўропы.

Ззаду быў здохлы путч, вакол былі шчаслівыя сябры, перад ім быў мікрафон — але не было словаў, яго найвялікшага скарбу, які ён збіраў і вывучаў усё жыццё, ведаў іх найменшыя таямніцы і старажытныя радаводы, іх мясцовыя норавы і заморскае сваяцтва, іх званарную цвёрдасць і салодкую мяккасць.

І тады ён заспяваў — як герой «Трох дарожанек» Янкі Купалы, які абраў дарогу не на Ўсход і не на Захад, а тую, што вяла «ў родну межаньку»:

*І запеў жаўнер*
*Той прыгожанькі:*
*Гэй, гэй, гэй-гэй!*
*А ў бары, у бары*
*Тры дарожанькі...*

А свае словы потым вярнуліся. Яны і склалі гэтую кнігу.

## На экзамене па гісторыі. 2109 год

«Адзін дзень палітвязьня». Зборнік. 2009. 2011.

*Партрэты герояў нашага часу — беларускіх палітзняволеных выйшлі дзвюма кнігамі пад рэдактурай Ганны Соўсь. У першай расказвалася пра тых, хто сядзеў ад 1995 да 2009 года, у другой — ад 2009 да 2012-га. Нельга забыць.*

— Пра што кніга «Адзін дзень палітвязьня»?
— Пра свабоду і яе герояў ці ахвяраў, каму як.
— Як яны самі зваліся?
— Людзьмі.
— За што іх пазбавілі волі?
— За праўду.
— Чаму іх пазбавілі волі?

— Каб запалохаць астатніх.

— Чаму былі пазбаўленыя менавіта яны?

— Бо не баяліся.

— Колькі іх?

— У кнізе — 41. Былі за кратамі — тысячы.

— Як доўга?

— Героі кнігі разам амаль 20 000 дзён і начэй, больш за 53 гады. За кожны год незалежнасці краіны — тры гады турмы. Як на вайне.

— Што яны страцілі?

— Свабоду быць з блізкімі, рабіць сваю справу, падарожнічаць, спрачацца, гараваць, святкаваць — жыць, як хацелі б.

— Чаго яны дамагліся?

— Нянавісці ворагаў. Пагарды ўлады. Абыякавасці бальшыні суайчыннікаў...

— І гэта ўсё?

— Яшчэ — павагі паплечнікаў, захаплення сяброў, веры моладзі. Міжнароднай увагі, салідарнасці і дапамогі. Імяннога радка ў гісторыі краіны.

— І ўсё ж — ці варта было?

...А гэтае пытанне ўжо не да іх.

## Свабода без акцэнту

Юры Дракахруст. «Акцэнты Свабоды». 2009.

*Аўтар штотыднёвай перадачы «Праскі акцэнт» абмяркоўвае з айчыннымі і замежнымі экспертамі і палітыкамі парадоксы нацыі і дзяржаўнасці, аўтарытарызм і дэмакратыю, геапалітыку і палітэканомію паміж Усходам і Захадам. Дасканалая падрыхтоўка, шматвымерны аналіз, непахісныя каштоўнасці, без чаго немагчыма назваць рэчы сваімі імёнамі. Інтэлектуальная карыда.*

Некалі я спытаўся ў Яна Новака-Езяраньскага, легендарнага калегу (ў час Другой сусветнай вайны — бясстрашны сувязны ўрада Польшчы ў выгнанні ў Лондане і партызанкі на радзіме, потым — шматгадовы дырэктар Польскай службы Радыё Свабодная Еўропа), што б ён — са сваім досведам працы ў час надзвычайнага становішча і Салідарнасці, палітычных забойстваў і інтэрнавання тысячаў актывістаў, агоніі камуністычнага рэжыму і першага кампрамісу ўлады і апазіцыі, вызвалення сваёй краіны ад імперскай удушкі з усходу і адкрыцця сакрэтных архіваў — параіў Беларускай Свабодзе?

««Круглыя сталы», — адказаў ён. — Рабіце гутаркі за круглым сталом, на любыя тэмы, з левымі, правымі, з уладай, з апазіцыяй, з тымі, хто за рынкавую эканоміку і хто супраць яе, хто сніць сны аб эсэсэсэрыі і хто ненавідзіць імперыю. Бо сам жанр «круглага стала» — часам большы ўрок дэмакратыі, чым самыя аналітычныя аргументы і гарачыя клятвы ў вернасці ёй...»

Першая перадача «Праскі акцэнт» выйшла ў эфір у першую нядзелю пасля пераезду Радыё Свабода з Мюнхена ў Прагу ў траўні 1995 года. З таго часу сотні беларускіх палітыкаў і пісьменнікаў, палітвязняў і прадстаўнікоў улады, удзельнікаў падзеяў і экспертаў з Амерыкі і Украіны, Нямеччыны і Расеі, Літвы і Канады штотыдня спрачаліся і шукалі адказы на пытанні Радыё Свабода.

Юры Дракахруст, які правёў большасць «Акцэнтаў» з Прагі, кажа, што сама гутарка, якімі б ні былі складанымі пытанні і аўтарытэтнымі госці, — не самае цяжкае. Бо вядоўца праводзіць гадзіны на тэлефоне, каб знайсці суразмоўцаў, акрэсліць праблему, узгадніць прымальны для ўсіх час запісу, і калі ўсё быццам дамоўленае — у людзей мяняюцца планы, іх могуць арыштаваць ці яны могуць забыцца, раптам сядае батарэйка мабільнага тэлефона ці здараецца нешта, што вымагае тэрмінова змяніць тэму і шукаць іншых удзельнікаў.

Юры памыляецца. Не толькі таму, што перадача ні разу не сарвалася. Але і таму, што вядоўца перш за ўсё — інтэлектуальны лідар дыскусіі і аб'ектыўны рэферы, зацікаўлены ўдзельнік і талерантны гаспадар, крыху актор і заўсёды рэжысёр радыёспектакля. І калі спектакль удаецца, тады паўгадзіны спрэчак пралятаюць як адна хвіліна. І дзякуй інтэрнэту — там заўсёды ёсць месца для аргументаў і фактаў, якія не ўпісаліся ў жорсткі фармат эфіру.

Гэтыя перадачы маглі б скласці ўжо некалькі важкіх тамоў. Дагэтуль пад імем аўтара ў бібліятэчных каталогах зарэгістравана толькі адно выданне: «Лакальна-глабальны нормавы прынцып для палёў алгебраічных лічбаў». (Так называлася дысертацыя маладога кандыдата матэматычных навук, будучага журналіста і аналітыка, аднаго з заснавальнікаў «Мартыралогу Беларусі» і БНФ, ад 2000 года — супрацоўніка Свабоды.)

Гутаркі, адабраныя аўтарам для выдання, адбыліся ў 2001–2009-м гадах. Але гэтая кніга — не пра мінулае, бо калі б усе адказы можна было адшукаць у мінулым, дык светам кіравалі б гісторыкі і бібліятэкары.

Не ўсе аргументы суразмоўцаў Юрыя Дракахруста вытрымалі б праверку строгім матэматычным аналізам. Але яны вытрымліваюць выпрабаванне жанрам. Дыскусія — гэта мова дэмакратыі, якую скалечанае дзесяцігоддзямі несвабоды грамадства вучыць як замежную, шукаючы і блытаючы словы, не разумеючы іх сэнсаў, успрымаючы іншы пункт гледзішча як здраду, а апанента — як ворага.

Гісторыя дый сучаснасць таксама сведчаць, што гэтую мову спрабуюць імітаваць і выкарыстоўваць для цалкам супрацьлеглых мэтаў. Часам адзінае, што адрознівае сапраўднага носьбіта мовы ад імітатара — гэта акцэнт.

Акцэнт Свабоды.

## Як дубавець?

Сяргей Дубавец. «Як? Азбука паводзінаў». 2009.

*Мадэлі сучаснай этыкі ад «А» да «Я» аўтар сабраў у практычную энцыклапедыю: як бараніцца і як галасаваць, як даравацъ, як сябраваць, як хітраваць... І як любіць. Для тых, хто сам шукае адказы.*

Як як Дубавец? Напрыклад, так:

Б — падлеткам прачытаць Шэкспіра па-беларуску і захапіцца мовай так, каб потым друкаваць на ёй падпольную літаратуру на абсталяванні Мінскага аператыўнага палка Унутраных войскаў СССР.

NGO — за царом Гарохам, калі яшчэ ніхто не ведаў слова «NGO», стварыць з нефармальнымі беларусамі сапраўдную «Майстроўню» і зусім не местачковых «Тутэйшых».

В — стаць мінскім віленчуком, абараняць летувіскі парламент ад савецкіх танкаў і атрымаць медаль «За адвагу».

Г — знайсці ў нацыянальнай гісторыі найлепшае імя для газеты — «Свабода», год выдаваць яе і потым перадаць сябру, каб яна стала самым масавым незалежным выданнем незалежнай Беларусі.

НН — адрадзіць затым «Нашу Ніву» так, што яе маглі б лічыць сваёй заснавальнік і рэдактар Аляксандар Уласаў, аўтар Янка Купала, стваральнікі БНР браты Луцкевічы.

П — пайсці да паэта, які пасля верша пра аднаго вусатага знаўцы паэзіі паміраў у турме КДБ у сухой галадоўцы, і вярнуць яго да жыцця.

Р — паглядзець на айчынную літаратуру, як французскія імпрэсіяністы на Лондан, і паказаць тое, чаго не хацелі бачыць іншыя — ружовы туман.

С — дзевяць гадоў штотыдня выходзіць у эфір «Свабоды» з новай праграмай «Вострая Брама», якая адразу стала культам ягонай асобы.

Ь — выйсці на суд за беларускую мову і перамагчы.

Ц — здавацца заўсёды цвёрдым, без нерваў, адчаю, трывогі і страху, аддаваць іншым свае ідэі й праекты, радавацца за іх поспех і не спяшацца з асуджэннем, памыляцца і папраўляцца, мець правільных ворагаў і невядомых прыхільнікаў і не ведаць, што гэта і азначае — быць лідарам пакалення.

? — у 50 гадоў напісаць кнігу, якая замест дубовых запытаў «хто вінаваты?» і «што рабіць?» задасць магічнае і музычнае, такое неістотнае і такое біблійнае, галоўнае для свабоды, вайны і кахання пытанне — «як?».

І адказаць як чалавек, які любіць: так, як ты хочаш.

Так, як ты можаш.

Так, як найлепш.

## Quis es? Quis sum?

Міхась Скобла. «Вольная студыя». 2009.

*Вольныя гутаркі пра свабоду думаць, ствараць і памятаць у сучаснай Беларусі, выбраныя старонкі дзесяцігадовага радыёцыклу аўтарскіх штонядзельных дыялогаў з выдатнымі сучаснікамі. Даробак аўтара на ніве нацыянальнай культуры не змесціцца і пад дзясятак вокладак — і тут толькі вяршыня аднаго айсберга.*

Каб зрабіць найлепшую ў свеце кнігу беларускіх гутарак пачатку XXI стагоддзя, трэба:

— нарадзіцца ў цэнтры Еўропы ў другой палове XX (бо калі раней — вы й вашы героі скончыце ў ГУЛагу ці на вайне, а калі пазней — без вас пройдзе свята змагання за волю і незалежнасць);

— атрымаць асалоду ад агульначалавечай спадчыны, але жыць сваёй мовай, сваёй культурай і сваёй гісторыяй (хоць вы й вашы героі ад гэтага не станеце валадарамі жыцця тут і цяпер);

— штотыдзень ужо другое дзесяцігоддзе, гледзячы суразмоўцу ў вочы, пытацца, казаць і пісаць так, як насамрэч бачыце, разумееце і думаеце (і быць гатовым выпіць цыкуту, якую тут умеюць выраблаць не раўнуючы як у старажытнасці), бо толькі ў гутарцы свабодных людзей адказ на вечнае пытанне:

Quis es? Хто ты? можа стаць адказам на вечны пошук:

Quis sum? Хто я?

## Рэстаўратары выраю

Вячаслаў Ракіцкі. «Беларуская Атлянтыда». Кніга другая. 2010.

*Другі том «Атлянтыды» прысвечаны міфам і брэндам каланізаванай нацыі — так на сухой мове палітаналізу можна, відаць, назваць гарачыя, як кіпень, і балючыя, як стромкі, думкі і спрэчкі пра чужое і наша, пра сябе і сваё.*

Вячаслаў Ракіцкі з сябрамі робяць справу, якой немагчыма зрабіць: яны вычэрпваюць мора чужых міфаў, бліскучае, цяжкае і слізкае, як ртуць, і такое ж небяспечнае.

Яны глядзяць назад і бачаць не мінулае, а таемнае і прышлае.

Яны адчыняюць куфар з фамільным срэбрам, а там манеты краіны, якой няма на мапе.

Яны выцягваюць са студні ваду, якая нараджае адно ненатольную смагу.

Яны здымаюць слой за слоем тынкоўку ў пошуках фрэскі, якой майстра не паспеў напісаць, хаця меўся і мог.

Яны ваююць з ценямі, кожны з якіх мае доўгі нож, што пакідае шрамы, і так ствараецца новы рукапіс і летапіс.

Як прысохлы бінт з раны, яны зрываюць з гісторыі прасякнутыя сваёй крывёю чужыя сцягі, і так паўстаюць іх харугвы.

І разыходзіцца мора на два бакі, і йдуць яны сваёй грамадой агромністай па вуліцах беларускай Атлантыды, дзе ляціць Пагоня, дзе старыя багі яшчэ маладыя, дзе ахвяры недарэмныя, а слава вечная, як памяць, салодкая, як сляза, і блізкая, як вырай.

Яны не азіраюцца. За імі!

## Хор бардаў

«Барды Свабоды». 100 аўтараў. Дыск. 2010, 2011.

*Штотыдзень на працягу двух гадоў на запросіны Змітра Бартосіка людзі з гітарамі прыходзілі ў студыю «Свабоды» і стваралі ўнікальны беларускі мелас — на дыску 500 (паўтысячы) песень і гутарак з асамі шасціструннай паэзіі. Неверагодна, але атрымалася. А гэтую прадмову на дыску я нават наспяваў, калі так можна назваць маю няўклюдную спробу рэпу.*

Ім нечага не хапае.

Тэлевізар абрыд, радыё не радуе, кіно не коціць, інтэрнэт завіс — яны не хочуць шукаць кампраміс.

Але ў іх ёсць словы.

Вершы пішуцца пра сябе і сяброў, пра разгадкі сноў, пра выбар і выбары, пра кроў на бруку — але не для друку.

Яны выбіраюць гітару.

Ім усё роўна — канцэрт для двух ці для тысячаў дзвюх, на лясной паляне ці на гарышчы, іх дні і ночы не пустая тара — калі ў руках гітара.

Кароткія хвалі не для арый.

Яны спяваюць балады і зонгі, рамансы і рэп, шансон і фольк, але не оды.

Так становяцца бардам свабоды.

Музыка іх ад мовы.

Штотыдзень і цэлы год яны йдуць у студыю і бяруць акорд без цэнзара і без дырыжора.

Так нараджаецца свабода хору.

## Дачка Сталіна выбрала яе голас

Галіна Руднік. «Птушкі пералётныя». 2011.

*Ветэран Свабоды ўспамінае сваё даваеннае дзяцінства ў Бабруйску, НКВД, арышт бацькоў, потым юнацтва ў нямецкіх лагерах уцекачоў, Амерыку і ўсё астатняе жыццё — з Радыё Свабода. Першапачатковая назва кнігі «Дачка Сталіна выбрала мой голас» — аўтар чытала ў эфіры ўспаміны Святланы Алілуевай, якая ўцякла на Захад. Бязлітасная, як заўсёды, іронія лёсу.*

У восем гадоў Галіна зайздросціла толькі дзвюм дзяўчатам у свеце: дачцэ Сталіна Святлане і аднакласніцы, маці якой працавала прыбіральніцай у мінскім НКВД. Галіна была пэўная, што, у адрозненне ад яе, вось у іх ніколі мамы не адбяруць.

Калі праз тры дзесяцігоддзі дачка Сталіна перадала свае ўспаміны для чытання на Радыё Свабода, ёй далі паслухаць пробныя запісы дзвюх радыйных супрацоўніц: першы быў зроблены дачкой расейскага спевака Фёдара Шаляпіна Тацянай, другі — дачкой ворагаў савецкага народа Галінай Ганчарэнка. Яе бацька-

вайсковец быў расстраляны ў 1937-м, маці праз год адпраўлена ў канцлагер з безнадзейнай назвай «Суха-бязводнае», ад дзіцячага дома НКВД уратавала любімая цётка Барбара, забраўшы з Бабруйска ў Мінск. Там яна паспрабавала скончыць жыццё самагубствам — у сакавіку лягла на зямлю і доўга ляжала, а потым цудам выжыла пасля страшэннага запалення лёгкіх.

Астатнія выжыванні таксама былі цудамі і зліваліся ў адну лінію лёсу: у час першай бамбёжкі Мінска нямецкая бомба вырые вялізную варонку за дзесяць крокаў ад ямы ў гародзе, дзе яны хаваліся з цёткай, потым іх драўляны дом ацалее ў пажары, яны не сканаюць ад голаду ў першую ваенную зіму, іх не заб'юць ні немцы, ні партызаны, ні раз'юшаны сусед-крымінальнік, чыя сякера назаўсёды пакіне засечку на дзвярах у іхнім пакойчыку, а калі эвакуацыйны цягнік падарвецца на міне, іх вагон застанецца на рэйках, у райху яна згубіць і знойдзе цёцю, перажыве агонію гітлераўскага рэжыму ў Берліне і абхітрыць савецкіх загоншчыкаў у ГУЛаг, што шнырылі па лагерах для перамешчаных асобаў, пераплыве Атлантыку і пачне новае жыццё ў Амерыцы.

І ўсюды будзе працаваць і вучыцца па дваццаць гадзінаў у суткі, а таксама спяваць, танчыць, смяяцца, нягледзячы ні на што, пакуль не вернецца ў Еўропу, каб працаваць на Радыё Свабода ад пачатку заснавання Беларускай службы ў 1954-м аж да краху савецкай імперыі, які яна назаве галоўным вынікам сваёй працы.

І дачка самага крывавага тырана ў гісторыі чалавецтва не знойдзе лепшага голасу, які б данёс яе словы да мільёнаў слухачоў за жалезнай заслонай, чым голас беларускай дзяўчыны з Бабруйска.

У гэтай кнізе — яе XX стагоддзе.

Словы цуду.

Голас Галіны.

## Навагодняя малітва па-беларуску

«Галасы салідарнасці». Дыск. 2011.

*Сусветныя лідары чытаюць імёны арыштаваных удзельнікаў мінскіх пратэстаў пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010-га. Сусветнае рэха.*

Я ніколі не думаў, што буду вучыць беларускаму вымаўленню амерыканскага прэзідэнта, а ён старанна будзе паўтараць «кан-ды-да-тыў-прэ-зі-дэн-ты-бе-ла-ру-сі». Як ніхто з сямідзесяці чатырох удзельнікаў гэтай самай неверагоднай перадачы Радыё Свабода за ўсю гісторыю яго існавання не думаў, што ў цэнтры Еўропы напрыканцы 2010 года можна за адну ноч арыштаваць сем афіцыйных прэтэндэнтаў на найвышэйшую пасаду краіны і больш за сямсот іх мірных прыхільнікаў.

Самае галоўнае слова для чалавека — ягонае імя. Так пабудаваная пошукавая сістэма цывілізацыі, так яна працуе ўсюды, ад запісу ў пасведчанні аб нараджэнні да запісу ў пасведчанні кандыдата ў прэзідэнты Беларусі, ад пераклічкі ў турэмнай камеры да радка памінальнай малітвы.

Ніводнаму з удзельнікаў «Галасоў салідарнасці» з трох кантынентаў не трэба было доўга тлумачыць, чаму мы просім іх прачытаць дзесяць імёнаў невядомых ім людзей — міністры і паэты, філосафы і святары, мастакі і кінарэжысёры, кангрэсмены і рок-музыкі, былыя прэзідэнты, кіраўнікі ўрадаў у ноч на Новы 2011 год гаварылі па-беларуску, і супраць гэтых словаў былі бяссільныя шчыты і дубінкі, краты і турэмныя муры, генералы і іхні галоўнакамандуючы.

Гэтыя імёны і прозвішчы ў ноч на Новы 2011 год чуваць былі ў любым месцы зямной кулі. Гэты кароткі акустычны сігнал

пра сем сотняў сярод сямі мільярдаў зямлянаў азначаў толькі адно — пра вас не забыліся, вы былі, вы ёсць.

Не больш.

І не менш.

## 101-ы адрас

Вячаслаў Ракіцкі. «Сто адрасоў Свабоды». 2011.

*З глыбіняў вякоў аўтар «Беларускай Атлянтыды» вярнуўся ў XX стагоддзе і зрабіў экскурсію па мясцінах, дзе цягам найноўшай гісторыі ў Беларусі перамагала свабода. Не можа не ўразіць.*

Увесну 2009-га мы сядзелі за круглым сталом у тэлестудыі Радыё Свабода ў Празе і абмяркоўвалі галоўныя тэмы тыдня, у ліку якіх быў ліст на бланку ЖРЭА з патрабаваннем да арандатараў вызваліць памяшканне на мінскай вуліцы Варвашэні, 8, дзе пад бел-чырвона-белымі сцягамі над уваходам месцілася сядзіба БНФ, верагодна, самае свабоднае беларускае месца за ўвесь час існавання незалежнай Рэспублікі Беларусі, і я спытаўся ва ўдзельніка той перадачы Вячаслава Ракіцкага — ці павесяць там калі-небудзь мемарыяльную шыльду і дзе яшчэ, з пункту гледжання сучаснай гісторыі, варта было б павесіць, — і вось праз два гады карпатлівых пошукаў, працяглых спрэчак і нечаканых удакладненняў вы трымаеце ў руках ягоны адказ на гэтае пытанне.

Адказ поўны, але спіс не завершаны. Вы самі можаце яго працягнуць.

І 101-ы адрас — гэта тое месца, дзе вы цяпер разгарнулі гэтую кнігу.

## Го-ца-ца

Лявон Волькі. «Саўка ды Грышка. 100 песняў». Дыск. 2011, 2012.

*Два гады запар пісаць штотыдзень новую песню ад імя двух персанажаў і спяваць адразу двума галасамі ў сатырычным дуэце — няма словаў, каб выказаць захапленне талентам і драйвам, можна толькі слухаць, смяяцца і падпавяць. Хто мае вушы — пачуе.*

У 1910-м Янка Купала напісаў верш «Дудар»:

*А кемкую меў ён натуру, —*
*Спанатрыў, дзе праўду шукаці,*
*У тахт беларусавай думцы*
*Патрапіў запеці, зайграці.*

У 2010-м Лявон Вольскі заспяваў двума галасамі, ніводзін з якіх не быў ягоным:

*Калі засмяецца, бывала,*
*То хоць за бакі ты бярыся;*
*Калі ж і разжаліцца сумам,*
*Дык хоць ты з слязою жаніся.*

Розніца паміж Саўкам ды Грышкам на «Свабодзе» як паміж тым, што чалавек мае, і тым, што хоча. Паміж тым, што ёсць і магло б быць. Хоць адлегласць ад Саўкі да Грышкі не меншая, чым ад Грышкі да Саўкі, але гэта не розніца паміж магчымым і немагчымым, чорным і белым, мёртвым і жывым.

Як у знакамітым купалавым запісе песні:

*Вы сабе дуйце сваё гоцаца,*
*Го-ца-ца-ца, го-ца-ца-ца, сваё гоцаца.*
*Толькі пачнеце з другога канца,*
*Го-ца-ца-ца, го-ца-ца-ца, сваё гоцаца.*

Трэці голас, які заўсёды прысутнічае у кожнай песні — голас аўтара, які ачышчае штодзённыя штампы палітычнай трасянкі да застольнай інтанацыі, дае дыстыляцыю формулаў апазіцыі і ўлады і стварае пародыю пародыі — гоцаца.

*Умеў ён прынадна настроіць*
*Тон ёмкі ў дудзе-самагудзе,*
*Што нам і цяпер яна грае,*
*І вечна канца ёй не будзе.*

Што агульнага ў «Саўцы да Грышцы» Лявона Вольскга і ў ядзерным выбуху?

Пачуў — позна! Цяпер увесь час слухаць будзеце, го-ца-ца!

## Usie vyzdaraviejem

Альгерд Бахарэвіч. «Малая медычныя энцыклапедыя Бахарэвіча». 2011.

*Гэтае антынавуковае выданне для дактароў-самавучак, як безадказна аўтар вызначае жанр сваіх эсэ на тэму свабоды і цела, ўжо ўзнагароджвалася і перакладалася, і хоць пакуль не ўключана ў спіс абавязковага чытання для студэнтаў-медыкаў, яны яго чытаюць. Смех і слёзы.*

М-М-Э… — так неразвітая гартань малпы, як пісаў нямецкі прыматолаг Фр. Энгельс, марудна, але няўхільна перастваралася шляхам мадуляцыі (дыялектыка прыроды!), каб дзяліць гукі на члены: Бах! Арэві! Ча!

Губы размыкаюцца арганным выбухам, які запаўняе гатычныя скляпенні нёба, пралятае верхнім рэгістрам і абрынаецца

ў вільготныя альвеолы, каб прапішчаць і чмокнуць, як прыдушаны звярок: смерць.

Бахарэвіч ведае, дзе ў целе жыве душа. З гэтымі ведамі ён мог бы працаваць прарокам, але не любіць, калі б'юць камянямі, начальнікам турмы, але ўсе падапечныя разбягуцца, вартаўніком на могілках, але хто ж прызначыць. Таму ён займаецца тым, што лічыць, колькі дэманаў можа змясціцца на вастрыні пікселя: літара — пёрка, радок — крыло, эсэ — адзінка лятальнасці: эўтаназія.

Яго не цікавіць двухвымерны рэалізм здароўя. Медыцына для яго — пачуццё, хвароба — сутыкненне арганізму з часам, цела — гісторыя тэксту.

Маркіз дэ Гарод, доктар лекарскіх навук, прапісваў сваім пацыентам вуаерызм замест традыцыйнага экзарцызму («Чытанне пісання кнігі на сайце svaboda.org як шокавая тэрапія», Bacharevič Studies, 22.01.2010 18:03 — 08.10.2010 21:16). Многія выжылі.

Паказнік імёнаў гэтай энцыклапедыі сам з'яўляецца энцыклапедыяй. Няпоўнай, але дастатковай.

Happy end ужо напісаны.

## Страла Адысея

Уладзімер Арлоў. «Пакуль ляціць страла». 2012.

*Сто адказаў аднаго з самых любімых беларускіх пісьменнікаў на пытанні чытачоў і чытачак у час іх частых сустрэчаў. Дасціпна, глыбока, дакладна — раз за разам страла патрапляе ў цэль. Класічны, як Адысей, і чароўны, як сірэна, Арлоў.*

Ἄνδρα μοι ἔννεπε, Μοῦσα, πολύτροπον, ὃς μάλα πολλὰ...

*Гамер*

Пра мужа мне раскажы, Муза, які жыве ў дарозе
Ад часу, калі сцяг яго любы чырвоны на белым
Барбар на стужкі ірваў і смяяўся, і паэт у гісторыку
Даў клятву: ніколі не адмовіць нікому, хто кліча і хоча
Пачуць з першых вуснаў праўду пра ўсё, што было
На зямлі гэтай, пра герояў і юдаў яе, пра нядолю і славу,
Пра каханне і здраду, балі і бітвы, перамогі і страты,
Якія не страчаны конча, а ёсць вечным скарбам,
Нашай казной невычэрпнай, пакуль мы шануем і помнім,
І келіх, і меч і пяро ўздымаем, бо ўсё гэта ёсць,
Бо было, а, значыць, і будзе, і мова, і сцяг, і пасад
Між народаў, і тое вяселле апошняе, калі Радзіма,
Як Пенелопа, дасць лук жаніхам і той, хто нацягне
Цяціву, мусіць пацэліць стралой праз тузін калец,
І першае з іх — гэта гонар, другое — адвага,
Трэцяе — мужнасць, чацвертае — годнасць,
Пятае — цвёрдасць, а шостае — мудрасць,
Сёмае — гэта цярплівасць, а восьмае — хітрасць,
Дзявятае — шчырасць, дзясятае ёсць справядлівасць,
І адзінаццатае — вернасць сабе, й таямнічае самае
Дванаццатае — любоў узаемная, якая была, ёсць і будзе
На берагах Дзвіны, пад званамі Сафіі, у келлі Еўфрасінні
За часам чумы і ў снах імператара, на дзікіх палях
І паромах Ла-Манша, у кавярнях Вільні і гасподах Прагі,
На хвалях свабоды, у ложках каханак і нетрах радаводу
Імёнаў, якія змяніліся і якія ніколі не зменяцца,
Пакуль ляціць страла кучаравага полацкага Адысея.

## Аватар М.

Сяргей Дубавец. «Майстроўня». 2012.

*Аўтар разам з жонкай, паэткай Тацянай Сапач аднавіў сваю маладосць і, бадай, самую шчаслівую беларускую супольнасць, якая насуперак усялякай логіцы ўзнікла ў дашчэнту зрусіфікаваным Мінску ў 1980-м і дала парасткі незалежнасці краіны. Тацяна адляцела ў іншы свет праз тыдзень пасля таго, як іх апошняя перадача выйшла ў эфір. Беларускі аватар.*

Майстроўня дала аватар свабоды, які цяпер заўсёды будзе на мапе Беларусі, разам з выспай філаматаў і філарэтаў, вулканам Каліноўскага, морам Нашай Нівы, гарамі БНР, далінамі Грамады і ТБШ, крыніцамі СБП, садамі мастакоў, музыкаў і паэтаў, якія выраслі ў нежывых, як на Месяцы, пустынях русіфікацыі і дэспатыі і ператваралі мёртвы ландшафт у родны кут.

Майстроўня стала аватарам пакалення:

М — мова
А — айчына
Й — вырай
С — свята
Т — талака
Р — рашучасць
О — націск
Ў — адметнасць
Н— наша
Я — мы

Майстроўня была аватарам, увасабленнем цуду на зямлі.

А рэшта — проста гісторыя.

## Амаль

Альгерд Бахарэвіч. «Гамбургскі рахунак Бахарэвіча». 2012.

*Паўсотні па-новаму прачытаных, пабачаных, адчутых імёнаў беларускай літаратуры выклікалі ў каго катаклізм, у каго катарсіс, а ў каго неверагоднае жаданне разгарнуць старыя кнігі, каб пераканацца, што некаторыя рэчы не маюць адносінаў да часу, бо з'яўляюцца вечнымі.*

У беларускай літаратуры, як і ў кожнага беларуса, дзве душы. Адна жывая, а другая вечная. Усё астатняе — не літаратура.

Арыстоцель так тлумачыў розніцу паміж гісторыкам і паэтам: першы апісвае тое, што адбылося, другі — што магло адбыцца. Насамрэч розніцы амаль няма.

Бахарэвіча цікавіць тое амаль, што паміж імі. Тое, што Купала называў — «сляды магчымасці магчымай».

Нобелеўскую прэмію ў год, калі Беларусь стала незалежнай, атрымала паўднёваафрыканская раманістка Надзін Гардымер, якая лічыла, што пісаць варта толькі пасмяротна. Так, быццам абмежаванні інтэлектуальнай моды, грамадскай думкі, самацэнзуры не існуюць.

Героі гэтай кнігі, якія нарадзіліся і жылі ў Беларусі ў апошнія паўтара стагоддзя, так не пісалі амаль ніколі. Суцяшэннем можа служыць хіба тое, што так амаль ніколі не пісаў ніхто ў свеце.

Але чытаюць літаратуру толькі так. Літаратура і ёсць гэтае амаль.

Пытанне, што лягчэй — пісаць ці чытаць, гучыць недарэчна. Амаль недарэчна, бо, канечне, чытачы, як і пісьменнікі, бываюць таленавітыя і не. І каб толькі гэта...

У «Гамбурскім рахунку» аўтар ператвараецца ў чытача і зноў у пісьменніка і сам становіцца адным са сваіх герояў. І ад яго не залежыць ужо нічога. Амаль нічога.

Жыццё занадта кароткае, каб чытаць добрыя кнігі, чытаць варта толькі выдатныя. Агрэсіўнасць гэтага труізму выкупляе ягоная ўпэўненасць у патрэбе чытання, якая, на шчасце, амаль ні на чым не грунтуецца.

На шчасце — бо нароўні з цэнзурай, абезгалоўленнем аўтараў і паленнем кніг стаіць прымус іх чытання. Амаль нароўні, бо адбіць жаданне чытаць — амаль такое ж злачынства, як беспадстаўнае пазбаўленне волі. І хоць некаторыя шэдэўры з'явіліся на свет у турме, колькі не змагло з'явіцца!

Творы свабодных аўтараў прыходзяць да ўсіх, але застаюцца толькі з тымі, хто шукае свабоды. І тады тэксты раптам пачынаюць адкрываць свае трэція і наступныя вымярэнні, жывыя становяцца яшчэ больш жывымі, а вечныя вечнымі, што магло быць і што было мяняюцца месцамі, каб так застацца назаўсёды, г.зн. да наступнага чытача і да наступнага разу.

Так, як у гэтай кнізе, пра белліт яшчэ не пісалі.

Амаль ніхто.

Амаль нідзе.

Амаль ніколі.

А больш амаль і не трэба.

## Слова слова

«Слоўнік Свабоды». 2012.

*Гэта 35-я назва на кніжнай палічцы Свабоды, але яе можна лічыць першым выданнем — спецыяльны выпуск часопіса «Arche» апярэдзіў «Бібліятэку» на паўтара года. Той нумар часопіса (6, 2000) выкарыстоўваўся на ўніверсітэцкіх занятках, пра яго пісалі ў дысертацыях у Беларусі і за мяжой, і сёння ён — бібліяграфічная рэдкасць.*

За пару тыдняў да смерці Алеся Адамовіча мы гаварылі з ім пра словы.

На месцы таталітарнай шклаваты, дзе слова глухла і мерла, ужо было разрэджанае паветра, і словы насіла ветрам, як апалую лістоту, цудоўную і бескарысную. Навошта ён піша цяпер?

— А навошта «Свабода» кожны дзень выходзіць у эфір?..

«Каб не забыцца хаця б пра некаторыя словы», — толькі і знайшлося ў адказ.

Спадзяюся, дасціпны аўтар «Вандэі» ацаніў бы ідэю «Слоўніка» і паўдзельнічаў у яго стварэнні.

Восенню 1998-га раптам адчулася, што стагоддзе на сконе. У Лондане тэрмінова дабудоўвалі Палац тысячагоддзя, прадбачлівыя нью-ёркцы спешна рэзервавалі столікі ў рэстаранах на год наперад, хітрыя кампутарнікі дурылі галовы ўсяму свету страшнымі нулямі, якія быццам перакінуць чалавецтва ў 1900 год. Мы на «Свабодзе» вырашылі, што нішто агульналюдскае нам не чужое, і пастанавілі зрабіць свой унёсак у агульную сумятню.

Тэрміналагічныя баталіі, спрэчкі з акадэмічнымі слоўнікамі і афіцыйнымі энцыклапедыямі, апеляцыі да Насовіча, Ластоўскага і Станкевіча складаюць улюбёны занятак любой групы пісьменных беларусаў за мяжой колькасцю, большай за два чалавекі. У

Празе такіх было крыху больш, і моўных ідэяў, якія генераваліся з раніцы за кавай, а ўвечары за півам, хапіла б на ўсе папярэднія стагоддзі таксама. Не адставалі і слухачы. Бясспрэчнае лідэрства трымала прапанова перайменаваць краіну.

Здаецца, Сяргей Шупа першым выказаў памылковую думку, быццам рамкі аднаго слова здольныя ўтрымаць ядравую энергію народных філолагаў у мірным рэчышчы. У выніку гэтай неабачлівасці і нарадзіўся «Слоўнік Свабоды», першы з трох нашых праектаў беларускага fin de siècle (другі — «Галасы стагоддзя» — гучаў штодня ў 2000 годзе, трыяду ў 2001-м завяршыла перадача «Верш на Свабоду»).

1 студзеня 1999 года прагучала слова «Бог»; 31 снежня — слова «Слова». Адна старая кніжка сцвярджае, што гэта тоесныя рэчы.

Праграмы кшталту «Слова дня» досыць папулярныя ў тэлевіктарынах, іх можна пачуць праз радыё, прачытаць у інтэрнэце. Як правіла, яны носяць лінгвістычны характар і маюць на мэце пашырэнне моўных навыкаў. Ідэя нашага слоўніка — у падзагалоўку: «XX стагоддзе ў беларускай мове».

Гадавая штодзённая перадача паводле тэхналогіі падобная да пчалінага вулля. Паэты, настаўнікі, святары, празаікі, філосафы, гісторыкі, археолагі, барды, перакладчыкі, мастакі, журналісты, беларусы, габрэі, расейцы, украінцы, цыганы, палякі, палітычныя ўцекачы, асобы без грамадзянства, дацэнты, дырэктары, беспрацоўныя, вернікі, агностыкі, атэісты, судзімыя і не, сябры партыяў, беспартыйныя, 20-ці і 70-дзесяцігадовыя, аптымісты, рэалісты, натуральныя бландынкі, фарбаваныя брунеткі і нават двое цалкам лысых аўтараў дзень пры дні, не зважаючы на надвор'е, настрой і перашкоды на тэлефоннай лініі, поўнілі чым Бог даў моўныя соты «Свабоды».

Не ўсе ячэйкі запоўненыя да краёў. Часам да эфіру заставалася гадзіна, а слова не прыходзіла. Часам мы мелі некалькі варыянтаў аднаго слова. Некаторыя словы былі блізка, але спырхвалі,

пакідаючы на мікрафоне толькі крохкі пылок сэнсу; іншыя прагучалі глуха і невыразна; яшчэ больш ўвогуле не патрапілі ў спіс. Нярэдка смак аддае горыччу — але ў каго павернецца язык назваць салодкім беларускае жыццё XX стагоддзя?

Тэкст вызначае кантэкст. «Слоўнік» завяршаў гадзіну жорсткага інфармацыйнага эфіру. Перад гэтым гучалі рэпартажы з дэманстрацыяў, мітынгаў, судоў, паведамленні пра галадоўкі, страйкі, звальненні, збіцці.

З праграмы зніклі інтэрв'ю Генадзя Карпенкі, заявы Юрыя Захаранкі, тлумачэнні Віктара Ганчара — замест іх пачалі гаварыць маці і жонкі. Ці ўдовы? Словы вытанчыліся да свайго ценю. Кожны пенсіянер атрымліваў мільёны, але ніхто не стаў мільянерам; раскалолася найбуйнейшае імя апазіцыі — бэнээф; 21 ліпеня страціла сэнс слова «прэзідэнт».

У апошні дзень года мы прачыталі ў эфіры ўсе 365 словаў запар, гэта заняло менш за шэсць хвілінаў — секунда на слова. Чэшскі гукааператар пытаўся, адкуль мы так добра ведаем гісторыю яго шматпакутнай радзімы. Нельга жыць ва Усходняй Еўропе і не быць крыху нападпітку, няўлад адказвалі мы.

Кожны выпуск «Слоўніка» пачынаўся фразай «слова на дзень, для памяці і для роздуму».

Не ведаю, што да гэтага можна дадаць.

## Яго віна

Валер Каліноўскі. «Справа Бяляцкага». 2012.

*Сем дзён ішоў палітычны працэс над героем беларускага праваабарончага руху Алесем Бяляцкім, сем начэй паміж судовымі пасяджэннямі аўтар удакладняў свае нататкі з залы суда, каб стварыць раман-рэпартаж пра чалавека, якога адны параўноўваюць з Вацлавам Гаўлам, другія мяркуюць, што ён павінен сядзець у турме, а трэція не бачаць у гэтым супярэчнасці.*

Першым чытачом некаторых радкоў гэтай кнігі быў турэмны цэнзар.

«Я заўсёды любіў і зараз люблю глядзець на неба…» Гэта радок з ліста героя аўтару кнігі — з турмы на свабоду. З бабруйскай турмы на Радыё Свабода.

Лісты пісаліся ад рукі — і не толькі з-за кратаў, дзе ў героя не было кампутара. Аўтар таксама выводзіў літары асадкай і не надта стараўся, каб яны былі чытэльныя, — наадварот, імкнуўся зрабіць іх неразборлівымі для чужога халоднага вока.

Забаронена пісаць пра ўнутраныя парадкі (як жывеш), прозвішчы (хто мае ўладу над тваім жыццём), дзяржтаямніцы (колькі ахоўнікаў на аднаго зэка). Забароны глядзець на неба, здаецца, няма.

«Так шмат у ім колераў і адценняў неперадавальных…»

Паэзія не абавязкова павінна быць з рыфмамі. Як і судовы прысуд не абавязкова вызначае віну, а чалавек у турме — не абавязкова злачынец.

«Жалезныя дзверы і ваконныя краты густа захіснутыя жалезнымі гарызантальнымі палоскамі, якія тут ласкава называюць «раснічкамі», за імі ў шчыліны праглядаецца распілаванае бяздоннае вераснёўскае неба і белыя ватныя аблокі. Колькі разоў

ужо, стоячы ля вакна і ўглядаючыся ў заманлівую сінечу неба, я паўтараў сам сабе: “Вось воблака, сяду і ў свет палячу!”»

Хто мае права на беларускае неба над беларускай зямлёй?

«Ну, а неба ж над намі — вольнае!»

Усё сваё жыццё ён стараецца зраўняць у правах зямлю з небам.

«Вось і зараз гляджу…»

Сапраўдная віна Алеся Бяляцкага.

## Быццам

Алег Груздзіловіч. «Хто ўзарваў менскае мэтро?» 2013.

*Скрупулёзны аналіз беспрэцэдэнтна адкрытага, маштабнага і падрабязнага судовага працэсу над двума абвінавачанымі ў тэракце, якіх расстралялі, але сумненні ў іх віне засталіся. Пракуратура вынесла папярэджанне аўтару за падрыў даверу да судовай сістэмы. Ну-ну. Кніга не толькі для пасажыраў.*

У тэракце ў мінскім метро загінулі пятнаццаць чалавек.

Незваротная страта, непапраўнае гора, нязбыўны боль.

Двух абвінавачаных расстралялі.

Лягчэй нікому не стала — грамадства раскалолася, як рака ў крыгаход.

Гэта быў самы адкрыты і самы падрабязны суд такога маштабу за ўсю гісторыю Беларусі, з беспрэцэдэнтным удзелам пацярпелых, замежных і айчынных экспертаў, аператыўнымі рэпартажамі і такой колькасцю каментароў у інтэрнэце, якая засведчыла, што свабода грамадскай думкі існуе, нягледзячы на ўсе забароны.

Суду не паверылі, і гэта расплата за гады няспынных арыштаў грамадзянаў быццам за лаянку, быццам за супрацiў, быццам за малую патрэбу, быццам за мітынг, быццам за падаткі, быццам за што заўгодна.

Калі няма даверу, нічога нельга выключыць.

Калі нічога нельга выключыць, усё можна паставіць пад сумнеў.

Калі ўсё можна паставіць пад сумнеў, няма мяжы паміж чорным і белым.

Калі няма мяжы паміж чорным і белым, дабра не адрозніць ад зла.

Калі дабра не адрозніць ад зла, знікае розніца паміж законам і загадам.

Калі знікае розніца паміж законам і загадам, справядлівасці не шукаюць у судзе.

Калі справядлівасці не шукаюць у судзе, узрываюць метро.

Неабавязкова ўзрываюць, неабавязкова метро — але вінаватых шукаюць заўсёды пад знакам «быццам».

Гэтая кніга — пра розніцу паміж «быццам» і «насамрэч».

Бо розніца — ёсць.

## Ювенал, удакладнены

Юры Бандажэўскі. «Турма і здароўе». 2013.

*Гэтыя парады доктара медыцыны грунтуюцца на досведзе палітвязня і адрасаваныя ўсім, хто не хоча здавацца самым цяжкім абставінам — як адзін у трох абліччах аўтар гэтай кнігі.*

Неяк перадалі скаргу аднаго палітзэка, які выйшаў на волю: уключыў «Свабоду», а там гаварылі не пра палітвязняў.

Беларускую «Свабоду» слухаюць за кратамі, каб пачуць галасы маці, дзяцей, жонак і каханых. Уключаюць, каб даведацца пра навіны з турмаў і калоніяў і пра акцыі міжнароднай салідарнасці. Каб атрымаць прывітанні ад прэзідэнтаў, міністраў, паэтаў, філосафаў, музыкаў з усяго свету. Слухаюць не толькі зэкі, але і ахоўнікі, не толькі палітычныя, але і «эканамічныя», «бытавыя», людзі, якія з розных прычынаў апынуліся ў бядзе і якія не страцілі надзеі.

Перадача «Свабода ў турмах» нарадзілася пасля Плошчы 2010-га.

Яе слухаюць таксама дзеля таго, каб пачуць парады пра здароўе. Парады лекара, які абараніў доктарскую дысертацыю ў 31 год, стаў самым маладым прафесарам і рэктарам медінстытута ў Беларусі, узначаліў даследаванні чарнобыльскіх захворванняў і быў арыштаваны ў 1999 годзе па даносе аб дзяржаўным перавароце, які афармілі як хабар.

За першы месяц арышту Юры Бандажэўскі страціў 20 кілаграмаў вагі. За шэсць гадоў за кратамі тры разы быў на мяжы жыцця і смерці і перанёс тры аперацыі. Дадому вярнуўся фізічна і духоўна больш моцным, чым раней. І з большым разуменнем, што такое медыцына, здароўе і чалавек.

Дзве тысячы гадоў таму рымскі паэт-этык Ювенал вучыў маліцца за здаровы розум у здаровым целе:

*Orandum est ut sit mens sana in corpore sano.*

Бо не цела, а дух напачатку ўсяго:

*Моцы духу прасі, якому не страшная смерць,*
*Які не зважае на колькасць гадоў,*
*Прыродай адмераных,*
*І стойкі ў выпрабаваннях любых,*
*Не гневіцца і не прагне нічога,*

*І ставіць пакуты Геркулесавай працы вышэй*
*За Венеру, фэсты й пярыны Сарданапала.*

Усё адносна, і параўнанне з асірыйскім царом, які збаёдаў сваю ўладу ў раскошы і пацехах плоці, не такое ўжо й недарэчнае для жыцця некаторых зэкаў да турмы. Але пасля...

Гэтая кніга — інструкцыя для духу, які не ведае страху смерці і прагне свабоды.

Нічога не змянілася, усё ўдакладнілася.

## Закаханы ў мову

Юрась Бушлякоў. «Жывая мова». 2013.

*Практычныя парады, як правільна і прыгожа гаварыць па-беларуску. Кніга любові.*

Пісаць жывую кнігу — такое самае шчасце, як кахаць і быць каханым.

Юрась любоўна ўдасканальваў свой тэкст да апошніх дзён жыцця: удакладняў фармулёўкі, шукаў лепшыя прыклады, імкнуўся да празрыстасці, лагічнасці, нарматыўнасці, якая дасягальная бадай толькі ў матэматыцы.

Гэтае імкненне ператварала яго моўныя парады ў дыяменты.

Кароткія гутаркі ў эфіры — як вымаўляць, дзе ставіць націск, якое слова выбраць, як будаваць фразу — перліны жанру педагагічнага эсэ: прыязныя, стрыманыя, нічога лішняга. Упэўненая ацэнка, цвёрды філалагічны грунт, канкрэтная парада. І — цеплыня аўтарскага дыхання.

Кожнае эсэ — як пацалунак. «Ці памятаем мы пра дзяўчат і дзяўчатак?» — гэтак пачынаецца размова пра множны лік гэтых

назоўнікаў, затым ідзе прызнанне з прыхаванай усмешкай: «На жаль, не заўжды і не кожны», і сканчаецца эсэ гэтак жа прыгожа: «дзяўчынка чытае часопіс для дзяўчатак, дзяўчына ідзе насустрач дзяўчатам».

«У мінулым стагоддзі ўеліся ў беларускую мову калькаваныя формы дзеепрыметнікаў — і ніяк дасюль не звядуцца», — як пра кляшча, які ўеўся, ці яшчэ якіх крывасмокаў, піша так Юрась пра спадчыну сталінскіх рэформаў мовы і прапануе хірургічна дакладнае выйсце: не «чакаемы» вынік, а — чаканы.

«Слова апоўначы ў нас любяць — і гэта добра. Трэба толькі ставіць яго на сваім месцы», — раіць аўтар тым, хто блытае гэтае прыслоўе часу з назоўнікам поўнач. Блытае «на жаль і на дзіва», трошкі паказвае свае эмоцыі аўтар. Але гэта — уся ацэначнасць, далей стваральная частка — што, чаму, як. «Глядзець як вока, пільнаваць як вока сваё», — нагадвае ён беларускія адпаведнікі царкоўнаславянскаму «беречь как зеницу ока» (замест калькі «як зрэнку вока»).

Як вока сваё глядзеў Юрась мову. Бездакорна гучаў у эфіры, надаючы інтэлігентную моўную абалонку сухім навінам, прадстаўляючы драматычныя рэпартажы, задаючы пытанні суразмоўцам.

Далікатна папраўляў чужыя памылкі, уважліва выслухоўваў аргументы апанентаў, не настойваў на сваёй манаполіі, але адстойваў сваё бачанне.

І, галоўнае, пісаў і гаварыў па-беларуску як жыў, як дыхаў, як кахаў.

Узаемна.

## MCMXCI

Сяргей Навумчык. «Дзевяноста першы». 2013.

*Кніга пра тое, як дзякуючы спрыяльным абставінам і насуперак абставінам неспрыяльным у 1991 годзе была здабытая незалежнасць Беларусі. Такую фармулёўку даў сам аўтар, а я дадам: такую кнігу мог напісаць толькі чалавек-архіў, чалавек-памяць, чалавек-вера і чалавек вернасці ўсяму, на што паклаў сваё жыццё.*

«У, сука, апяць пашол да мікрафона!» — шыпелі, шалелі і курчыліся наменклатурныя дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР, калі Сяргей Навумчык браў слова. Ён і яго паплечнікі бралі яго, як штангіст бярэ вагу, вырываючы з ланцугоў зямнога прыцягнення чыгунны цяжар, ніколі раней не ўзняты над галавой чалавека, калі сэрца выбухам выкідвае кроў у жылы, дыханне спыняецца на выдыху, мускулы ўзрываюцца і ўсё жыццё ператвараецца ў энергію, каб адарваць, узняць і трымаць.

Пасля Курапатаў, Хатыні і Чарнобыля незалежнасць Беларусі выглядала як цуд, які мае нябеснае паходжанне. Але як зерне ўродзіць толькі на апрацаванай глебе, як авіялайнер можа сесці толькі на падрыхтаваны аэрадром, гэтак і цуды звальваюцца толькі туды, дзе іх чакаюць, рыхтуюць і гатовыя прыняць.

Груз гісторыі небяспечны і пад сілу нямногім. Дэпутаты апазіцыі ў Вярхоўным Савеце 12-га склікання ў 1991 годзе зрабілі больш, чым маглі. Зрэшты, гісторыя робіцца толькі так.

Вышыні прыцягваюць маланкі, дзікі вецер палітыкі не адрознівае колераў, і асабістыя лёсы дэпутатаў незалежнасці падобныя да лёсаў іх папярэднікаў, хоць, на шчасце, не паўтараюць іх.

Яны зрабілі ўсё, каб трэцяе ў XX стагоддзі, пасля 1918 і 1919, нараджэнне Беларусі як нацыянальнай дзяржавы стала апошнім. Таму год незалежнасці — 1991 — варта пазначаць так, як пазна-

чаюцца ў гісторыі Еўропы тысячагоддзі і вякі, рымскімі лічбамі: MCMXCI.

Гэтыя лічбы, паводле правіла, не могуць паўтарацца больш за тры разы.

У гэтай сістэме няма знака толькі для адной лічбы — нуля.

І не будзе.

## Беражыце пальцы

Альгерд Бахарэвіч. «Каляндар Бахарэвіча». 2014.

*366 эсэ пра падзеі, асобы і факты гісторыі, якія трэба ведаць, каб адчуць сябе часткай чалавецтва. Не слаба, а? Рэкамендуецца для любога ўзросту, пажыццёвых зняволенняў і палётаў на Марс.*

Пасля сканчэння часу на зямлі душы чытачоў, як вядома, трапляюць на экзамен па беларускай літаратуры ў чысцец. Прагульваў урокі белліта — глыні кіпячай смалы, пісала ў Фэйсбуку на роднай мове — калі ласка, амброзія-марозія. Але нацыя хранічных троечнікаў думае праскочыць на шармака. Ну-ну.

Канечне, не звяры там працуюць, і надзея ёсць. Вы нават трымаеце яе ў руках.

*Calendarium* па-лацінску азначае даўгавую кнігу — трэба ўносіць працэнты за пазыку.

Альгерд Бахарэвіч уносіць працэнты за ўсіх, каму вырываюць зуб з анестэзіяй, бо піша пра яе вынаходніка (хто забыўся — Горас Уэлс, чый партрэт мусіць вісець ва ўсіх стаматалагічных кабінетах свету). Хоць ніхто з сотні расстраляных не вернецца з праклятай мінскай ночы на 30 кастрычніка 1937, ад яго некралога па Савецкім Саюзе адтайвае вечная мерзлата ГУЛагу; ён згадвае фантаста

Айзека Азімава не за тое, што зямляк і аўтар бестселераў, а за тое, што той ведаў, дзе кнопка, якая ўключае ў чалавеку чалавека.

Матэрыял, з якога зроблены гэты каляндар, называцца вечная памяць. Нарэзаную на 365 порцый, яе падаюць з адмыслова прыгатаванымі ілюстрацыямі. Таямнічая DeLez, чый бязлітасны пэндзаль працуе на адваротным баку дабра і часу, ператварае нават непісьменных грэшнікаў у экзарсістаў, і так яны ўваходзяць у выратавальнае кола, вузкае, як змяя, і мудрае, як яе бойфрэнд.

Юльянскі каляндар стварыў Гай Юлі Цэзар, Грыгарыянскі — Папа рымскі Грыгор 13, Ісламскі — прарок Мухамед, старажытнагрэцкі — Салон. Нават па гамбургскім рахунку аўтар у неблагой кампаніі. Кітайскі каляндар вынайшлі, напэўна, кітайцы, але каму канкрэтна належыць капірайт, маўчаць не толькі медычныя энцыклапедыі, якія любіць пісаць Бахарэвіч. Будзем лічыць, што народ.

Гэты каляндар — таксама народны, у тым сэнсе, што яго можна вешаць як люстраны шар у дыскатэках і рэстаранах — там гуляе з агнём Нерон, апрануты як зорка беларускай эстрады, там адкрываецца першая грамадская прыбіральня ў Еўропе (хоць у Лондане, але гэта пра Мінск — «У горадзе, які прэтэндуе на тое, каб звацца адной з еўрапейскіх сталіцаў, мусіць быць мала паліцэйскіх і шмат грамадскіх прыбіральняў»), там імператар адмаўляецца ад статуса бога, і не важна, што ён японскі — важна, што адмаўляецца. Багі, з веданнем справы паведамляе аўтар, любяць гуляць у словы.

Калі гэты люстраны шар бразнуць аб падогу, ён узарвецца і разляціцца на 172 366 цацкі (столькі ў ім словаў) — гуляйцеся, толькі беражыце пальцы. Яны патрэбныя, каб трымаць і гартаць каляндар і, магчыма, стварыць сваю асабістую даўгавую кнігу — кожны мае права на вечнасць.

І калі на апошнім экзамене на чалавечнасць анёлы спытаюць, а ці ведаеце вы?.. — вы будзеце ведаць.

## На жаль, на шчасце

«Жыцьцё пасля раку»( пад рэд. Ганны Соўсь). 2014.

*Дваццаць два героі кнігі «Жыцьцё пасьля раку» атрымалі анкалагічны дыягназ, адмовіліся ўспрымаць яго як прысуд і перамаглі. І падзяліліся рэцэптам перамогі.*

На жаль, гэтая кніга будзе рабіцца больш папулярнай з цягам часу, бо з ростам працягласці жыцця і якасці дыягностыкі колькасць анкалагічных пацыентаў у свеце будзе толькі расці.

На шчасце, досвед, які сабраны ў гэтым першым у Беларусі эвангеллі жыцця пасля раку, сведчыць пра магчымасць такога жыцця.

На жаль, боль і пакуты саміх пацыентаў ствараюць новую рэальнасць, якую цяжка зразумець і адчуць звонку.

На шчасце, галасы суразмоўцаў у гэтай кнізе гучаць ясна, шчыра і пераканаўча.

На жаль, роспач, адчай і слабасць, якія часам апаноўваюць людзей пасля анкалагічнага дыягназу, не спрыяюць вылячэнню.

На шчасце, удзельнікі гэтай кнігі самі ёсць пераможным аргументам у няспыннай вайне чалавецтва супраць заўчаснай смерці.

На жаль, табу, якімі мы ратуемся ад незразумелага, таемнага і фатальнага, ёсць часткай нашай культуры, гісторыі, быцця.

На шчасце, мы можам мяняцца і мяняць жыццё — так, як гэта робяць героі гэтай кнігі.

Бо рабіць гэта могуць толькі героі.

## Без варажбы

Юры Дракахруст. «Сем худых гадоў» . 2014.

*У гэтым зборы паліталагічных блогаў ураджаю 2008-2014 гадоў аўтар палемізуе з бязлітаснай, як гладыятарскія баі, рэальнасцю. Форум, які не адрозніваецца ад Калізея.*

Жанр гэтай кнігі Юры Дракахруст вызначыў як «будучыня ў мінулым». Не менш дакладнай будзе і адваротная формула, мінулае ў будучыні, якое аўтар шукаў у беларускай будзённасці апошніх сямі гадоў.

Класічнае вызначэнне жанру гэтай кнігі — палеміка. Гэта асвечаны традыцыяй еўрапейскай крытычнай думкі пошук не кансэнсуса ці перамогі, а ісціны, калі ініцыятыва ў выбары тэмы, навязванне свайго сцэнару, месца і часу спрэчкі завяршаецца доказным, як тэарэма, і нечаканым, як гіпотэза, аргументам.

Нобелеўскі лаўрэат фізік Нільс Бор, які цытуецца ў кнізе, казаў, што эксперт — гэта чалавек, які зрабіў усе магчымыя памылкі ў нейкай вузкай галіне ведаў.

Юры Дракахруст — не эксперт. Не толькі таму, што галіны яго ведаў пры ўсім жаданні не назавеш вузкімі, ад алгебры і французскай палітычнай думкі да беларуска-расейскага *schadenfreude* і ўкраінскай трагедыі, якая разгортвалася адначасна з напісаннем першай часткі гэтай кнігі.

Мы маем справу з унікальным выпадкам эксперыментальнай паліталогіі, калі кожнае даследаванне завяршаецца бязлітасным поглядам у люстэрка рэальнасці. Гэта можна зрабіць толькі калі падзеі вычарпалі сваю непасрэдную логіку і формы мінулага становяцца бачнымі. Так пішуцца энцыклапедыі, бібліі і іншыя практычныя дапаможнікі.

Кожны блог у кнізе сканчаецца постскрыптумам «Хто меў рацыю»: 21 раз аўтар, 8 апаненты, у 34 выпадках вынік яшчэ невядомы ці невядома, што лічыць вынікам.

Нільс Бор выказаў гіпотэзу «дадатковых велічыняў» у дачыненні да пазнання жывых арганізмаў і сістэм: чым больш дакладна вымяраецца адна з іх, тым больш няпэўнай становіцца другая.

Аўтар «Сямі худых гадоў» выпрабоўвае рэчаіснасць на цэласнасць як назіральнік, які рухаецца разам з падзеямі і таму можа ігнараваць прынцып няпэўнасці. Ён не абвяргае Бора, а ідзе далей за яго. Яго дадатковыя велічыні ўключаюць у сябе не толькі ідэі, але і інтарэсы, не толькі людзей, але і структуры, не толькі прэцэдэнты, але і гісторыю.

Як вымярэнні ўплываюць на месцазнаходжанне электронаў, так і напісаныя тэксты ўплываюць на тых, хто чытае, хто выбірае і каго выбіраюць. А таксама — на таго, хто піша.

І тады з-пад клавіятуры матэматыка паводле адукацыі («матэматык не той, хто любіць матэматыку, а хто ўмее рашаць задачы»), алгебраіста паводле спецыялізацыі («нуль роўны нулю»), аналітыка паводле прызвання («вайна і скачок і вынік эвалюцыі»), палітолага паводле рэпутацыі («вар'яцтва часам самая рацыянальная палітыка») раптам з'яўляюцца вызначэнні сына паэта паводле нараджэння:

«Гісторыю немагчыма спланаваць», «Няма ніякіх братоў, ёсць толькі трафеі», «Ніколі не азначае ніколі» і, як прызнанне рэлятыўнасці даступнага інструментарыя, самаіранічнае тлумачэнне алагічнай сітуацыі: «Сапраўды чорт варожыць».

Галоўнае тут — «варожыць». Варажыць — не толькі адгадваць будучыню ці мінулае, не толькі здагадвацца і прадказваць, але і, як вучаць слоўнікі, па-майстэрску, падобна чараўніку, працаваць над нечым. Напрыклад, над гэтай кнігай.

## Жыве musculus zygomaticus major!

«(НЕ):вясёлыя карцінкі». 2014

*У гэтым альбоме таямнічая мастачка ДэЛёз танчыць з загадкавым паэтам ДаСлёз — камічная опера жыцця. Лішніх кветкоў хопіць на ўсіх.*

Мы, Бібліятэка Свабоды,

— прызнаючы, што радасці, задавальнення і шчасця не бывае зашмат,

— адзначаючы, што прыматолагі адносяць пачатак усмешкі на 30 мільёнаў гадоў назад,

— беручы пад увагу, што *musculus zygomaticus major,* адказны за падцягванне вугалкоў губ уверх і ўбакі, скарачаецца ў Беларусі не так часта, як хацелася б,

— дапускаючы, што гэта выклікана не толькі пераменлівым надвор'ем, працай грамадскага транспарту, мясцовай дыетай і адсутнасцю выхаду да мора,

— канстатуючы, што суседзяў і начальства не выбіраюць, а даюцца яны за грахі нашы,

— маючы на мэце ўзняць усё, што апускаецца, пашырыць усё, што звужаецца, павялічыць усё, што памяншаецца, а таксама ўзмацніць, паглыбіць і палепшыць усё астатняе, бо мы за мір,

Пастанаўляем:

— неадкладна падвысіць тонус *musculus zygomaticus major* злева, дзеля чаго выбраць з дзвюх тысячаў карцінак на сайце svaboda.org такія, ад якіх гэты мускул пачне скарачацца-расцягвацца аж да левага вуха,

— неадкладна падвысіць тонус *musculus zygomaticus major* справа, дзеля чаго напісаць вершы такія, ад якіх гэты мускул пачне скарачацца-расцягвацца аж да правага вуха,

— ускласці выкананне гэтай пастановы на візуальнага фітнес-трэнера ДэЛез і аральнага фітнес-трэнера ДасЛёз,

— дзеля папярэджання масавых вывіхаў сківіцы ў наступныя 30 мільёнаў гадоў абмежаваць колькасць асобнікаў альбома, але нічым не абмяжоўваць яго аўтараў, рэдактараў, выдаўцоў, чытачоў і гледачоў.

І будзе нам тое, чаго не бывае зашмат.

## Але і аднак

Аляксандар Лукашук. «След матылька. Освальд у Менску». 2011.

*Не па парадку, бо прадмовы як такой у кнізе няма, там адразу тэкст, які ў лепшым выпадку падпадае пад жанр «замест».*

А класічная прадмова насамрэч была! Аднак беларускія буржуазныя нацыяналісты ў асобе рэдактараў знялі, бо ў беларускай мове слова «прагулка» няма, і паколькі аўтар ніколі не спрачаецца з беларускімі буржуазнымі нацыяналістамі, дык быў пагадзіўся. Не спасылацца ж было на сапраўдных членаў АН БССР Я. Коласа, К. Крапіву і члена-карэспандэнта П. Глебку, пад рэдакцыяй якіх у 1953 годзе «Дзяржаўнае выдавецтва замежных і нацыянальных слоўнікаў» (было і такое за Сталіным!) выпусціла накладам 50 000 асобнікаў (і таму быў ён у нас дома) «Русско-белорусский словарь», дзе на старонцы 527 прыводзіцца куча гуллівых словаў, ад прагулу да пагулянкі, у т.л. ёсць там і прагулка, бо, як вынікае з акадэмічнай прадмовы, хоць гэтае слова, верагодна, і не прызнавалі «беларускія буржуазныя нацыяналісты … каб адарваць беларускі народ ад вялікага рускага народа», але было і але: «Але беларускі народ, верны дружбе народаў, ахоўваў чысціню сваёй мовы».

Але на ўсялякае але ёсць свой аднак.

Аднак, як не менш справядліва гаворыцца ў прадмове і як указвае ў ёй жа таварыш І.В.Сталін, «Аднак слоўны склад мовы мяняецца не як надбудова, не шляхам адмены старога і пабудовы новага, а шляхам папаўнення слоўніка новымі словамі» — хто хоча ведаць, што гэта значыць, няхай прагугліць працу »Марксізм і пытанні моваэнаўства». Дадам толькі, што рэдкалегія прызнавала, што, нягледзячы на перамогу Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, у слоўніку магчымы асобныя хібы і недахопы, і нават у канец тома ўклееены спіс заўважаных адзінаццаці абдрукоўвак, хоць трохі крыва, але моцна, і нават сёння, больш чым праз паўстагоддзя, ён адкрыў мне вочы, што слова «саюз» на 643 старонцы, у левым слупку ў 13 радку зверху, трэба чытаць як «злучнік», можа, вось так: «Савецкі Злучнік», «Злучнікавая Дзяржава», «Злучнік Пісьменнікаў», што значна ўсё праясняе, што б ні казалі некаторыя ветэрынары.

Дык хоць у гэтым зборніку, вынесшы ўпершыню ў гісторыі нацыянальнай лістаратуры — для адводу рэдактарскіх вачэй, ясна — супрацоўны і пабочны злучнікі ў загаловак, надрукую тут забаронены тэкст праўдзівай прадмовы , бо, як вядома, калі хочацца, але нельга, дык трэба.

## Ода жанру

Прагулка як падарожжа з самім сабой, без тэлефона, плэера і навігатара.

Прагулка як прафесія гультая, з прадуманым выбарам часу, маршруту, вопраткі, абутку, капелюша і кія.

Прагулка як медычнае прадпісанне хворым на такую колькасць дыягназаў, што пералік іх запатрабуе асобнай кнігі.

Прагулка як маленькая даследчая экспедыцыя, кампактная і пасільная, незалежная і дэмакратычная, лёгкадумная і чыстая, як экалогія, хаця так нельга казаць, што пацвердзіць любы рэдактар, і лепш не спрачацца, а паправіцца — як эхалогія, і ўдакладніць — як рэхазнаўства, навука, якой няма нават у Вікіпедыі.

Прагулка адзінае, што аб'ядноўвае чалавека і ката.

Прагулка як стыль жыцця з той розніцай, што жыццё ніколі не бывае прагулкай, бо бываюць прагулкі, з якіх не вяртаюцца.

Прагулка як Google, які шукае самога сябе ў сябе самім і знаходзіць такую безліч спасылак, што трэба імгнена наліць і неадкладна выпіць не закусваючы, бо ніякай закускі ўсё адно не хопіць.

Самы знакаміты беларускі верш XX стагоддзя пачынаецца з пытання, якое задаюць на прагулцы: «А хто там ідзе?»

Прагулка як прагулянка, кажа мой сябар пісьменнік Уладзя, і тут адразу іншыя павароты, альтанкі і келіхі з шампанскім, якое, як нагадвае мой сябар мастак Генадзь, нельга мяшаць з гарэлкай, каб потым не было пакутліва балюча, як любіць удакладніць мой сябар журналіст Сяргей, хаця колькі таго жыцця, як падсумоўвае мой сябар мастацтвазнаўца Слава, і лепш прамаўчаць, што з гэтай нагоды кажуць жонкі і сяброўкі.

Прагулка як выбар, і вынік, і жанр.

Як свабода.

# Viva biblia!

Нельга быць беларусам, жыць у Празе і не выдаваць кнігі.

Так я быў напісаў у адной прадмове, што, канечне, праўда, як усё прыгожае, але не ўся праўда — бо можна і не выдаваць.

Беларуская служба — адзіная з трох дзясяткаў рэдакцыяў Радыё Свабода, што мае сваю бібліятэку, і прычына гэтаму перш за ўсё беларуская мова. Гнаная на радзіме, заціснутая ў кут у школе, забароненая ў войску, выкінутая з судовых пратаколаў, не дапушчаная на афіцыйныя трыбуны, яна прабіваецца, як трава праз асфальт, як вада праз бетон, як сонца праз хмары і застывае ў літарах словаў і гуках песень.

Нават не так: як касмічная энергія пасля вялікага выбуху сціскаецца гравітацыяй, якую сама і нараджае, каб у тэрмаядзерных рэакцыях ператварыцца ў пылавыя воблакі, планеты і зоркі, гэтак і мова сама нараджае тэксты, кнігі і бібліятэкі.

Выданні «Бібліятэкі Свабоды» можна знайсці ва ўсім свеце і ва ўсім сеціве, ад сховішчаў Бібліятэкі Кангрэса ЗША да некаторых незачыненых яшчэ раённых

бібліятэк у Беларусі, а іх электронныя душы, як Е-анёлы, заўсёды з намі.

Я звычайна пісаў прадмовы да ўсіх выданняў «Бібліятэкі», а аднойчы напісаў аўтапрадмоўку і да адной сваёй кніжкі, і рэдактарка прыслала свае заўвагі, нешта кшталту «ў вершы на пачатку кнігі...», я здзівіўся — якітакі верш, а яна піша: ваша прадмова — верш, я працавала загадчыкам аддзела паэзіі ў часопісе, а былых загадчыкаў аддзелаў паэзіі, як і былых чэкістаў, не бывае, ну, пасля такога не будзеш спрачацца, і хоць рыфмы ў тых прадмовах няма, магчыма, нешта ад паэзіі ў іх ёсць, напрыклад, іх неабавязкова чытаць, бо, далібог, не хацеў бы я быць аўтарам чаго-небудзь абавязковага, бо што такое тады свабода.

...А тым, хто пытаецца, навошта радыё выдае кнігі, мы адказваем словамі Францыска Скарыны, якімі 500 год таму тут, у Празе, ён адкрываў свой легендарны першадрук: «Бібліятэка Свабоды» выкладзеная Беларускай службай «са слаўнага места Пражскага Богу на славу і людзям паспалітым на добрае навучанне».

Лепей не скажаш.

І нават калі я ўжо не буду працаваць на радыё, буду падпісвацца, можа, вось так — АЛ, бібліятэкар свабоды.

Бо былых бібліятэкараў не бывае.

## Дайце пагартаць

Калі б можна было ўзяць са свайго жыцця толькі адну рэч у падарожжа, дзе слоў не бывае, але што возьмеш, тое й будзе?

Ідэальна было б: усіх, каго любіў, усё, што любіў, з кім смяяўся, над чым плакаў (гэта не адно і тое, але больш-менш адно).

Аднак хто ведае, на каго патрапіш на прахадной, таму, каб надзейна, варта ўзяць толькі адну кнігу — слоўнік. Хопіць, каб нічога не забыць і ўсё ўспомніць.

## Архіў*

Які юнак ці чалавек сталы, што любіць жыццё, змагаецца з сённяшнімі праблемамі ці марыць пра будучыню, не папярхнецца ад неядомага, сухога, шурпатага і мярцвячага слова «архіў»?

Сэрца якога чалавека, што цікавіцца загадкамі жыцця, думае пра ўчора і заўтра, не адгукнецца бурным стукам, чые вочы не загарацца, у чыіх жылах не ўскіпіць кроў паляўнічага продка пры ўрачыстым, падобным да храма слове «архіў»!

Салодка-салёны арахісавы смак, пах закансерваванага часу, доўгія паліцы, поўныя тайнаў, сховішча спрэсаваных гадоў, дзе спіць, як зачараваная царэўна, наша мінуўшчына.

Беларускія архівы раскіданыя па сталіцах суседніх дзяржаваў і недаступныя ў сваёй. Але нават спаленае і развеянае, пахаванае і перапахаванае мінулае ўсё ж хоць адным атамам, ды не знікае.

У архівах жыве прышласць. Напісанае застаецца. Вечная памяць.

Памяць вечная.

## Беларусізацыя

Беларусізацыяй у 1920-я называлі палітыку пабудовы нацыянальнага жыцця. Але, калі нацыянальная энергія пачала ўвасабляцца ў дзяржаўныя формы, сінонімы беларусізацыі пачало шукаць АГПУ: «нацдэмы», «змоўнікі», «ворагі народу».

Другая кароткая спроба ўздыхнуць вольна ў сваім доме адбылася ў 1940-х, пад нямецкай акупацыяй: у вайну прабіліся па-

---

* Выпадковыя эсэ з кнігі «Слоўнік свабоды» (2000, 2012).

расткі беларускага жыцця, якое потым было або знішчана, або працягнулася на эміграцыі.

У 1953, як памёр Сталін, пад час барацьбы за ўладу ў Маскве нацыянальнае пытанне выцягнуў з-за кратаў Лаўрэнці Берыя —і мясцовае начальства гаварыла й пісала па-беларуску аж два тыдні, пакуль Берыю не арыштавалі.

Спроба апошняй у XX стагоддзі беларусізацыі была зноўку задушаная ў сярэдзіне 1990-х, і цяпер гэтым словам палохаюць малых дзяцей: беларусізацыя якой-небудзь краіны азначае, што там будзе, як у Беларусі.

## Журналіст

Журналістыка журчыць, бярэ на сябе ролю журы, жартуе з агнём і не журыцца.

Элегантнае, вытанчанае, густоўнае слова — наўпрост з Парыжа. Французскі корань «jour» (дзень), які толькі на пачатку ды пры канцы XX стагоддзя даваў усходы, якія квітнелі ў Беларусі.

Улада й журналісты як казачныя ліса й журавель: што добра аднаму, не пасуе другому.

Журналістыка пад прымусам ідзе метастазамі, чарнее, курчыцца й гіне: урадавыя ордэны на газетах і журналістах — знакі прафесійнае знявагі. Белыя плямы, глушылкі, драконаўскія суды, штрафы й закрыцці — прафесійныя ўзнагароды незалежнае журналістыкі.

Журналістыкі не бывае без свабоды; свабода немагчымая без журналістаў.

Не журыся!

## Зайздрасць

Зайздрасць суправаджае чалавека на працягу ўсёй гісторыі, ад Эдэмскага саду да Гефсіманскага, ад Алены, на якую паквапіліся траянцы, да Марксавай дададзенай вартасці, якую трэба ўзяць і падзяліць.

«Пачуццё незадаволенасці і раздражнення, выклiканае перавагамі, поспехамі, дабрабытам іншых; жаданне мець тое, што маюць іншыя», — што можа быць трапнейшым за гэтае вызначэнне дзвюх самых страшных ізмаў XX стагоддзя, якое «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» памылкова дае зайздрасці?

Зайздрасць сканфіскавала зямлю і волю, шляхту і інтэлігенцыю, культуру і прыстойнасць.

— Прасі што хочаш, — сказаў Бог чалавеку. — Дам табе, але суседу дам удвая.

— Няхай я акрывею на адно вока, — адказаў чалавек.

Зайздрасць — эмоцыя несвабоды. Усе несвабодныя зайздросцяць свабодным, але ніколі — наадварот.

## Зацьменне

У дзень зацьмення ўсе позіркі скіраваныя на Сонца. Кароткі момант адвечнага суіснавання святла й ценю, калі той становіцца гаспадаром, перамагае і захоплівае тэрыторыю святла.

Звычайна астранамічнае зацьменне ў Беларусі цягнецца пару хвілінаў. Найдаўжэй Месяц можа засланіць Сонца толькі на сем з паловаю хвілінаў.

У беларускім жыцці XX стагоддзя, наадварот, гэтак коратка панавала святло — спачатку Беларускай Народнай Рэспублікі, потым новай незалежнасці пачатку 90-х. На беларусаў доўгі цень у XX стагоддзі падаў адразу з дзвюх суседніх сталіцаў — з Усходу й Захаду.

Сонца або цень — выбар, які ўвесь час стаіць перад Беларуссю. Уся краіна — як прыродны асяродак крата, з якім на пачатку стагоддзя параўнаў свой народ паэт. «Загляне сонцэ і ў наша ваконцэ» — яшчэ адзін голас з цемры, адтуль, дзе няма Сонца. «На прастор, на шырокі разлог выхадзі, мой народ, грамадою» — заклік нацыянальнага класіка, таксама звернуты ў царства змроку, падзем'е.

Толькі на вольнай арбіце нябеснае цела не залежыць ад чужога ценю.

> *«Калісь глядзеў на сонца я,*
> *Мне сонца асляпіла вочы.*
> *Ды што мне цемень вечнай ночы,*
> *Калісь глядзеў на сонца я».*

Да Сонца — нацыянальная задача стагоддзя.

## Краты

Краты — іерогліф свабоды, калі прачытаць наадварот.

Прасцейшы за краты толькі крыж. Ён зашыфраваны ў кратах, і наадварот — краты зашыфраваныя ў крыжы.

Жывая прырода не ведае кратаў, як і кола. Гэта чысты плён чалавечага розуму. Разумнае жыццё на іншых планетах, напэўна, таксама немагчымае без кратаў — лёгкай і эканомнай канструкцыі, якая надзейна перакрывае прастору, не дзелячы яе намёртва, як гэта робіць сцяна.

У кратах ёсць намёк на свабоду — так барханы пустыні нагадваюць марскія хвалі.

Краты ўражваюць лаканічнасцю і выразнасцю знаку: складзіце дзве пары пальцаў наўскрыж — і ў Беларусі вас зразумеюць прыстойныя людзі самага рознага года нараджэння, пахо-

джання, адукацыі: слуцкі селянін-паўстанец і акадэмік-нацдэм, верніца-баптыстка і студэнт універсітэта, паэты, бізнесмены, журналісты.

Краты — мова, на якой чалавек гаворыць з дзікімі звярамі і здзічэлымі homo sapiens. Праўда, зусім не краты вызначаюць, хто знаходзіцца на якім іх баку — хто закратаваны, хто не.

Апафеоз кратаў наступіў у XX стагоддзі, калі за кратамі пабывала людзей больш, чым за ўсе папярэднія, разам узятыя.

Краты — вось сымбаль твой, мінулае стагоддзе...

## Культ

Слова «культ» — з лаціны, і «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы» сцвярджае, што яно пазычанае праз расейскую мову. Той, хто ведае традыцыі лаціны ў Беларусі і беларускай лацінкі, з гэтай высновы не стане рабіць культу.

Культ у рэлігіі — абагаўленне. У такім значэнні гэтае слова часцей за ўсё гучала ў атэістычнай Беларусі ў сярэдзіне 50-х, калі за зачыненымі дзвярыма зачытвалі сакрэтны даклад Мікіты Хрушчова, які тлумачыў зверствы камунізму культам адной асобы. Удала прыдуманая формула затрымала адкрыццё праўды і вяртанне справядлівасці на дзесяцігоддзі — сам выраз «культ асобы» стаўся культам.

Корань «культ» напрасткі звязаны з культурай, уваходзіць у розныя складаныя словы, якія існавалі адно за савецкім часам — культпаход, культтавары, культмасавы, культармеец...

Апошняе ўтварэнне ўжо зусім блізкае да кулі — і хоць этымалагічна куля не мае ніякага дачынення да культу, гісторыя XX стагоддзя звязвае іх непарыўна.

## Купалле

Начное свята, калі ночы амаль няма. Сонца хаваецца на захадзе, каб праз некалькі гадзінаў выплысці на ўсходзе. Сонцастаянне. Празрысты, нібы раса, і таямнічы, нібы туман, запавет. Слова губляецца ў глыбіні тысячагоддзяў.

Прастадушны немец Макс Фасмэр піша, што ў гэты дзень дазвалялася купацца — адсюль і Купала. Больш асцярожныя даследчыкі выводзілі Купалу ад Яна Хрысціцеля як пераклад са старагрэцкай. Аднак яшчэ паганскае значэнне Купалы дагэтуль існуе на Палессі — вогнішча, агонь. Суфікс «л» ды канчатак «а» сведчаць пра анімізацыю — Купала не толькі агонь, але і дух агню.

А Паўла Урбан, беларускі гісторык з Нямеччыны, пісаў, што Купала прыйшоў са старажытнай Індыі. Бог Крышна меў яшчэ прозвішча Гопала: го — карова, пала — абаронца кароў. У летнюю ноч Крышна сустракаўся з пастушкамі, калі тыя, аздобленыя вянкамі, марылі знайсці жаніха, пасланага Богам.

У 30-я гады ХХ стагоддзя адна з віленскіх газетаў надрукавала абвестку:

«Паколькі на Купалле чакаецца дождж, просім паненак і паноў беларускіх ахвіцэраў апранацца цяплей». Надвор’е, хочацца верыць, не перашкодзіла паненкам і панам імгненна паскідаць з сябе апранахі той ноччу.

У сярэдзіне 80-х Купалле святкавала моладзь з бел-чырвона-белымі адзнакамі на вопратцы: тры тузіны чалавек былі затрыманыя. Улады спрабавалі арыштаваць Бога Крышну.

Багі не любяць, калі ім надзяваюць наручнікі. Агонь Купалы ўсюды, дзе Беларусь.

## Санкцыя

Слова, якое спатыкаецца пасярэдзіне, каб перакуліцца ў невыразны канчатак жаночага роду. Акцыя? Санацыя? Сантктц...

Пыл, які ўздымаецца, калі пляснуць старым томам Крымінальнага кодэксу па стале — санкцыя на арышт. Расцягнутыя непаслухмяныя губы міліцэйскага чына, якому выдалі даўкі сінонім будучага гумавага пагрому: «Грамадзяне, разыйдзіцеся, гэтае мерапрыемства несанкцыянаванае...»

І раптам — санкцыі ЗША. Санкцыі Еўразвязу. Санкцыі ААН. Палітычныя, эканамічныя, візавыя. За фальсіфікацыю выбараў, за расправу над іншадумцамі, за вайну. Супраць пракурораў, суддзяў, рэктараў, рэдактараў, алігархаў, міністраў і іх начальніка.

Санкцыі абароны, дапамогі і падтрымкі. Санкцыі салідарнасці. Санкцыі надзеі.

## Сексот

Гэтае слова не мае нічога супольнага з сексам.

А з чым мае, ведаюць усе без тлумачэння, хоць у слоўніках яго няма. Паводле некаторых падлікаў, да 3% савецкіх грамадзян былі тайнымі асведамляльнікамі карных органаў; колькасць добраахвотных памочнікаў не паддаецца падліку.

Часам сексотамі становяцца не з жадання выслужыцца, а пасля запалохвання і шантажу.

Сексоты — самі ахвяры. Але не забудземся пра іх ахвяр.

## Трактарабудаўнік

Traho па лацінску — «цягну». Савецкі трактар цягнуў за сабою калектывізацыю з раскулачваннем і голадам, меліярацыю са знішчэннем рэчак ды лугоў, выкарчоўваў з вёсак будучыню і на дзесяцігоддзі заганяў юнакоў і дзяўчат у катушкі п'яных інтэрнатаў трактарабудаўнікоў.

Хто бываў у цэхах трактарнага завода, той не забудзе тамтэйшай мёртвай зямлі й паветра, і твары старых рабочых — зямліста шэрыя, быццам працяг жалезных прыладаў. Трактарабудаўнік стаўся вяршыняй эвалюцыі пана сахі і касы.

Калі рабочыя выбіраліся ў цэнтр, яны казалі — едзем у горад. Трактарны пасёлак быў гетам. Тут матэрыял нацыі перамолваўся ў насельніцтва. Тут асобу прыраўноўвалі да функцыі. У такіх гетах нарадзіўся моўны кентаўр — трасянка.

Трактарабудаўнік — кентаўр XX стагоддзя, а кентаўраў, як вядома, не бывае.

## Euro

Еўра — слова ўрапейскае, але не беларускае, хоць магло быць іначай.

Якога роду еўра — жаночага, мужчынскага ці ніякага?

Папярэдні тэрмін, які прайграў еўра — экю — перакладаўся як «еўрапейская грашовая адзінка». Еўра — таксама грашовая адзінка, казалі прыхільнікі жаночага роду, еўра павінна быць яна: адна еўра.

Другі пункт гледжання — еўра больш, чымся проста грошы, і таму найлепшы тут ніякі род, нейтральнае паняцце, якое ўсім у Еўропе свеціць аднолькава, як сонца. Праўда, няясна, як быць тым мовам, дзе няма ніякага роду, як, напрыклад, латышскай.

Прыхільнікі мужчынскага роду спасылаліся на Нямеччыну, якая больш за ўсіх зрабіла для ўвядзення новых грошай. Немцы кажуць «Der Euro»— ён, мужчынскі род, як і ўва ўсялякай цвёрдай валюты кшталту амерыканскага долара, брытанскага фунта, швейцарскага франка. Патрыярхальную ідылію псуе хіба рубель.

Цяпер па-руску гавораць «один евро», па-польску, па-чэшску й па-славацку — «jedno euro». Стыхія беларускай мовы дапускала абодва варыянты.

Моўная практыка ужо вызначыла, якога роду еўра па-беларуску, і дзеці часам кажуць нават «адзін еўр».

Мова таксама вызначыць, ці стане еўра беларускай валютай — калі гэта будзе сапраўды беларуская краіна, дык еўра можа стаць і беларускай валютай, а Беларусь — еўрапейскай краінай.

Вырашыць мова.

## Ыя

Свабода — гэта мова,
На якой Бог гаворыць з чалавекам,
А чалавек з Богам.
І абодва глуханямыя.
Ыя.
Ыя.

## Дайце пачытаць

Кніжкі як марыхуана. Нават невялікая, правільнай якасці доза змяняе:

– зрок, які абвастарецца як у спалоханай арліцы,
– пах, калі нашы 5 мільёнаў рэцэптараў пачынаюць працаваць як 225 мільёнаў у нямецкай аўчаркі,
– слых, які ловіць ультра- і інфрагукі як кажан з кітом,
– лібіда, якое не спыніць як Ніагару,
– музыку, якая гучыць як у галаве Моцарта,
– гумар, які адкрывае свае абсурдныя вабноты,
– філасофію, якой дыхаюць як паветрам,
– час, які расцягваецца як эластычны бінт.

Чытанне самадастковае, і саматычныя абставіны, як лекары любяць называць заміранне сэрца, актывізацыю слёзных і іншых залозаў, толькі вонкавыя праявы псіхадэлічнай прыроды тэкста. Не дзіва, што легалізавалі чытанне зусім нядаўна — яшчэ ў 19-м стагоддзі неграм у Амерыцы адсякалі фалангу пальца, калі заставалі з кнігай, другую, калі лавілі паўторна, і гэтак далей. Ды што рабы — Дзеву Марыю першы раз асмеліліся намаляваць з кнігай у руках больш чым праз тысячу гадоў пасля смерці, у 1333-м. Беларускія мытнікі, якія канфіскуюць усё, што ім пад рукі, проста частка паважнай традыцыі барацьбы з забароненымі

рэчывамі, якія выклікаюць галюцынацыі, дэпрэсіі і эйфарыі.

Калі тэкст — наркотык, дык што тады тэкст пра тэксты? А тэкст пра тэксты пра тэксты?

Пратэкстытытыты — ломка.

Адзіны паратунак — дайце кнігу.

## Алесь Адамовіч: Неразборлівы шэпт смерці*

Проза Адамовіча страшна фізіялагічная. Калі ён пачынаў пісаць, моцна пацеў:

«Запісваць пачаў недзе ў 1948. І нагэтулькі гэта было ўсур'ёз (не паводле выніку, а паводле пачуцця), што нават арганізм неяк дзіўна адрэагаваў. Доўга не маглі лекары вызначыць: ці то сухоты, ці то «вегетацыйны неўроз» — чаго гэтак пацее гэты ружовашчокі студэнт, проста купаецца ў поце?»

Пазней, ужо вядомы як аўтар раманаў і аповесцяў, прызнаваўся:

«Мне трэба, каб да поўнай спустошанасці ўсё, што ў цябе ёсць, сцякала з рукі...» І ў канцы, у апошняй кнізе «Vixi», падзагаловак нібы дыягназ — «З-пад кропельніцы».

Сентэнцыя «жыццё — самы вялікі выдумляльнік» ёсць формулай прозы. І не толькі дакументальнай. Па вялікім рахунку, усё мастацтва існуе адно ў гэтых каардынатах. Калі тэкст «Іліяды» становіцца бізнес-планам археалагічнай экспедыцыі Шлімана і вядзе да адкрыцця гістарычнай Троі, калі сафоклава трагедыя пра цара Эдыпа вызначае накірунак медыцыны праз два тысячагоддзі пасля напісання, калі радок Багушэвіча вызначае стратэгію нацыянальнага выжывання цэлага еўрапейскага народа, — функцыянальна гэта не прыгожае пісьменства, а нешта іншае. Нешта, што знаходзіцца ў вельмі інтымных стасунках з прыродай і часам.

Самая вядомая дакументальная кніга ў свеце — Біблія. На працягу стагоддзяў з біблейскімі тэкстамі як з дакументам працуюць габрэйскія цадзікі і хрысціянскія тэолагі, гісторыкі, археолагі, а таксама прадстаўнікі так званых дакладных навук — фізікі, хімікі, матэматыкі.

---

* *Усе цытаты паводле зборніка* «Додумывать до конца. Литература и тревоги века» (М.: «Сов. писатель», 1988)

У ХХ стагоддзі дакументальны характар Бібліі мацней за іншых літаратараў адчуў Томас Ман, калі спакусіўся ідэяй Гётэ пераказаць падрабязна скупую, як рэпартаж, легенду пра сыноў Якава. І калі ён скончыў першую частку рамана «Язэп ды ягоныя браты» і аддаў рукапіс сваёй мюнхенскай машыністцы для передруку, тая адарыла будучага Нобелеўскага лаўрэата фразай-прысудам да бессмяротнасці: «Ну вось, цяпер нарэшце хоць ведаеш, як усё было насамрэч!»

Калі «як было» ў гэтым выказванні памяняць на «як магло быць», атрымаецца формула Адамовіча («Честное слово, больше не взорвется», «Апошняя пастараль», «Адваяваліся»).

Пытанне палягае толькі ў тым, што такое «насамрэч». Ці, больш вузка і звыкла, што ёсць праўдай?

Слова «праўда» ці не самае частотнае ў ідэалогіі Адамовіча. Безліч параўнанняў, эпітэтаў, удакладненняў — ён цытуе Талстога, Дастаеўскага, Маркса, Леніна, 27-ы партз'езд, здаецца, гатовы працытаваць чорта лысага — і працягвае хадзіць вакол паняцця, як журавель ля місы з кісялём, незадаволены і ненасытны.

У адрозненне ад Васіля Быкава, які даследуе праблему чалавека перад смерцю, Адамовіча заўсёды вабіў чалавек *пасля* смерці. Праўда ў Адамовіча часцей за ўсё звязаная са смерцю. Але сэнс застаецца надзвычай няўлоўным. І тады да традыцыйнага небыцця, цемры, вечнасці, бессмяротнасці, пекла, раю, банькі ў павучынні Адамовіч дадаваў свае сінонімы — Хатынь, Лідзіцэ, Хірасіму, Бомбу.

Яго зачароўвала не тайна жыцця, а тайна яго супрацьлегласці (Адамовіч піша, што на вайне, магчыма, пацэліў у аднаго ці двух уласаўцаў, але самы страшны ўспамін — як сваімі рукамі тапіў двух сляпых кацяняткаў). Ён шукаў адгадку смерці ў месцах яе найвышэйшай канцэнтрацыі — спаленых беларускіх вёсках, блакадным Ленінградзе, да якога не меў ніякага дачы-

нення, на раскопках у Курапатах, у ядзернай вайне, чыя татальная і канчатковая феерыя як вампір высмоктвала яго талент. Ён шукаў, слухаў, спрабаваў дадумаць людзей, праз якіх гаварыла смерць — абгарэлых вяскоўцаў, сведкаў людажэрства, карнікаў, камандзіра атамнай падлодкі.

Здаецца, Адамовіч калекцыянуе смерці. Ён не можа ўтрымацца, каб не выпісаць улюбёна і пасля працытаваць выпадковы, прачытаны ў газеце прыклад: пра харвацкага фашыста-эмігранта, які быццам возіць з сабою дваццацікілаграмовую скрынку з вырванымі ў партызанаў вачыма. Ці лірычна — і арыфметычна — напіша пра чалавечую скуру, якая згарыць у атамным агні: «Найтанчэйшая, эластычная, дыхаючая мембрана жыцця — чалавечая скура. Колькі яе на чалавеку? А на ста тысячах? Сотні, тысячы квадратных метраў, кіламетры невыноснага болю!»

У акадэміка Сахарава ён усё дапытваўся, што той адчуваў, калі зрабіў наймагутнейшую ў гісторыі канцэнтрацыю смерці — вадародную бомбу (у фільме пра Чарнобыль). Сахараў шчыра не разумеў такой апантанай цікавасці і гаварыў пра фактары ядзернага стрымлівання, палітычную рэальнасць 50-х… І тады Адамовіч раптам робіць скачок на той свет: бомба выбухнула, усё жывое знішчанае, і сённяшнія суразмоўцы, дзве душы, лятуць у вечнасці — што б Вы, Андрэй Дзмітравіч, сказалі тады? Бацька вадароднай бомбы сумеўся і няпэўна прызнаўся, што не надта верыць у такую магчымасць.

Цікава ўявіць, як бы Адамовіч зрэагаваў на кланаваную авечку Долі, якая фактычна пазбавіла эвалюцыйнай ролі моцную палову чалавецтва. Ці ўхваліў бы ён такую самадастатковасць як адэкватны адказ на пагрозу татальнага знішчэння чалавецтва, ці наадварот, пабачыў бы новую небяспеку?

Парадоксы адамовічавага «дадумвання да канца» нагадваюць часам шкляную мазаіку дзіцячага калейдаскопа — тэмпера-

ментныя «дастаеўскія» прарывы суседнічаюць з клішэ кшталту «адна Айчынная вайна на ўсіх», «бюракратычнае свавольства Сталіна», «ядзерны ідыёт Бжазінскі».

Удзел Адамовіча ў савецкім «антываенным руху» не можа не бянтэжыць: на Захадзе гэтым пад сурдынку дэйтанту займаліся прафесійныя «пісьменнікі» — камуністы, трацкісты, левыя прафсаюзы ды іншая публіка, якую шчодра карміла грашыма КПСС. І справа не толькі ў сённяшнім разуменні нядаўняга мінулага — бо і тады побач былі дысідэнты, выходзіў самвыдат, прарывалася скрозь глушылкі «Свабода» і без глушылак вяшчалі «Бі-Бі-Сі» і «Голас Амерыкі». Здавалася, для Адамовіча, які называе ХХ з’езд галоўнай пасля вайны падзеяй свайго жыцця, палітычная прырода новай агрэсіі і яе верагоднай прычыны не можа быць загадкай.

Магчыма, яна і не была для Адамовіча загадкай — выглядае, што гэты бок справы яго не надта цікавіў. Хірургу няважна, хто першы ўдарыў у бойцы, пасля якой на аперацыйным стале ляжыць пацыент з нажавым раненнем у сэрца — у яго іншы клопат. Пісьменніка, які заняты не столькі смерцю, колькі тым, што пасля яе, і не могуць асабліва цікавіць дробныя прычынныя сувязі па гэты бок жыцця. Фізіялогія смерці — ці, дакладней, пераходу з жыцця ў паслясмяротны стан — вось змест пісання паводле Адамовіча.

Адамовіч паводзіць сябе так, быццам ён першы чалавек, які памрэ — для яго вельмі дарагой была думка, што ў ХХ стагоддзі ўпершыню чалавецтва стала смяротным. (Адам — першы смяротны; яшчэ адзін беларускі літаратар, які падпісваецца гэтак жа глабальна — Адам Глёбус. Цікава, як крытык Сяргей Дубавец вызначае мэту пісання Адама Глёбуса ў пасляслоўі да ягонай кнігі «Койданава»: «Адам Глёбус хоча жыць вечна, нават пасля смерці». Іранічнае ўдакладненне «нават пасля смерці» толькі расшыфроўвае паняцце вечнага — гэта стан, звязаны не

з колькасцю часу, а з яго якасцю. Іншымі словамі, мы й так жывем вечна (не заўсёды, праўда). Дубавец вызначае жанр, у якім пад клавішамі аўтарскага кампутара ажываюць койданаўскія местачкоўцы, як «рэалістычную прозу»).

Аблічча смерці вабілі Адамовіча перш за ўсё інтымнымі асабістымі дэталямі («Сынок, навошта ж ты боцікі гумавыя надзеў, твае ж ножкі доўга гарэць будуць…»). Нават сацыялагічна афарбаваныя панарамы (жаночае бачанне смерці, дзіцячае, ці радыеактыўнае) пры бліжэйшым разглядзе аказваюцца калекцыяй індывідуальных выпадкаў.

Тут пачынаецца небяспека жанру — фільм, складзены толькі з буйных планаў, ператвараецца ў фотаальбом. У бласлаўёнай Адамовічам «магнітафоннай прозе» няясна нават, што браць у двукоссе — увесь тэрмін, назоўнік ці толькі прыметнік. (У 1985 годзе, у артыкуле «Як быць геніяльным» Адамовіч выводзіць тры перадумовы поспеху такой прозы: першая — звяртацца да тых, чый лёс і памяць — адна з болевых кропак часу. Другая ўмова — аўтар павінен мець дар суперажывання, трэцяя — моцнае пачуццё эстэтычнай ацэнкі, неабходнае для адбору і мантажу.)

Адамовіч прызнае, што любы літаратурны жанр патрабуе таленту, але лічыць, што выніковасць у дадзеным непрапарцыянальна вялікая. Розніцу тлумачыць геалагічна: раней вялікі пісьменнік сілай таленту прабіваўся праз слаі пустой пароды да ўнікальнага, глыбока схаванага матэрыялу. А зараз праўду можна здабываць адкрытым спосабам, дзе ролю ротаранага экскаватара адыгрывае магнітафон. Маючы такое багацце матэрыялу, нават звычайны літаратурны талент здольны ўзрушыць чытача так, як раней маглі толькі вялікія. У Дастаеўскага было 10 хвілінаў перад расстрэлам на Сямёнаўскім пляцы, каб зразумець бездань жыцця і смерці — а ў «магнітафоннага пісьменніка» кожны суразмоўца хоць адным фрагментам жыцця кангеніяльны Дастаеўскаму.

Шчыра кажучы, новы тут толькі магнітафон. Любы літаратар «дамікрафоннай» эры карыстаўся аповядамі людзей, іх успамінамі, лістамі, архіўнымі сведчаннямі, пратаколамі, фальклорам і іншымі сродкамі фіксаванай памяці. Класіка — «Архіпелаг Гулаг». Аўтарскае прысвячэнне «ўсім, каму не хапіла жыцця пра гэта расказаць» удакладняе трохмернасць жанру: «І няхай даруюць яны мне, што я не ўсё пабачыў, не ўсё ўзгадаў, не пра ўсё здагадаўся».

Аляксандар Салжаніцын у жанр «мастацкага даследавання» такім чынам закладае і абавязак «здагадвацца». Аднак «здагадкі» Салжаніцына ляжаць на гэтым баку смерці — і не толькі пра Леніна ў Цюрыху. У аднатомніку выбранага (серыя «Зеркало», 1999 г.) адзін дзень Івана Дзянісавіча суправаджаецца тлумачэннем — «узята з лагернага жыцця, сапраўдныя біяграфіі», апавяданне пра падворак цёткі Матроны падаецца як «цалкам аўтабіяграфічнае і праўдзівае», выпадак на станцыі Крэчатаўка характарызуецца як «сапраўдны выпадак».

Здагадкі Адамовіча пра тое, што магло б быць, знаходзяцца ў супрацьлеглай сферы. Характэрна, што ён не паразумеўся з Салжаніцыным пры першай асабістай сустрэчы — прывабіць яго аўтар «Аднаго дня...» прывабіў, а вось размовы не атрымалася. Салжаніцын потым з недаўменнем узгадваў вясёлага беларуса, які адразу запрасіў яго ў рэстаран.

Зусім іншыя стасункі ў Адамовіча з класікам савецкага андэграўнду Венядыктам Ерафеевым. Аўтар магічнай паэмы «Масква — Пятушкі» вывеў асабісты рэйтынг сучаснай літаратуры паводле таго, каму колькі наліў бы. Аднаго аўтарытэта абнёс зусім, другому пляснуў на донца, трэцяму пяцьдзясят грамаў, а вось беларусу Адамовічу — поўную шклянку да краёў (Быкаву Ерафееў «наліў бы з меніскам» — г. зн. з горкай, якую ўтварае паверхневае нацяжэнне вадкасці).

Адамовіч, як вядома, не піў. Але як і Ерафееў, ён заглядваў за той бок жыцця, толькі не праз магічную вадкасць, а праз іншыя прылады.

Напрыклад, магнітафон. Каб падслухаць і разабраць неразборлівы шэпт спаткання жыцця і смерці, Адамовіч рэкамендаваў ферамагнітную стужку.

Нібы падлетак, Адамовіч цешыўся з першых касмічных тэлемастоў, называў іх мастацтвам і захоплена апавядаў, як у Маскоўскім інстытуце мастацтвазнаўства ў траўні 1985 абмяркоўвалі «эстэтычныя перспектывы новага канала сувязі» — і адразу рабіў этычную выснову: «Якія ж павінны быць словы, якая літаратура! Якая сумленнасць і праўда! Хлусіць у вочы мільярду — якім жа трэба быць планетарным Хлестаковым».

Наіўнасць для аўтара «Хатынскай аповесці» проста фантастычная. Праз год, пасля выбуху Чарнобыля, першым планетарным ілгуном стане Міхаіл Гарбачоў, асабісты герой Адамовіча таго часу.

Але вызначэнне «наіўнасць» дарэчы толькі ў дачыненні да рэальнасці, якой яна стала — сам Адамовіч аддаваў перавагу варыянту «як магло стаць» і апераваў ва ўяўным ладзе як у сапраўдным. Нават магічны рэаліст Габрыэль Гарсія Маркес на пытанне Адамовіча, якім павінен быць фільм пра Чарнобыль, адразу адказаў — дакументальным. Адамовіча гэта не задаволіла — і ён тут жа прызнаўся: «Але фільм усё ж задуманы як мастацкі».

Адамовіч паводле навуковай спецыялізацыі — прафесійны літаратуразнаўца, і таму варта ўгледзецца ў ягоную фармулёўку жанру ўласных твораў. Самым паказальным уяўляецца вызначэнне «Карнікаў»: «дакументальна-фантастычная аповесць». Памры — лепш не скажаш.

Для дакументальнай прозы важна не толькі тое, пра што аўтар гаворыць, але і тое, пра што маўчыць. («Удзел аўтара міні-

мальны. Маўчанне яго адчуваецца, яго чуваць. Яго маўчанне — гэта словы, што захраслі ў горле…» — Данііл Гранін).

Пра што маўчаў Адамовіч? У розны час хіба пра рознае, але што зусім адсутнічае ў тэкстах — дык гэта смех, гумарыстычны колер і вясёлая іронія. Ён расказвае показкі, часам бывае саркастычны, але будучыня Адамовіча — сур'ёзная. Рэч у тым, што гумар і іронія, паводле класічнага вызначэння Шапенгаўэра, ёсць спосаб высвятлення рэчаіснасці праз змяшчэнне, часовую неадпаведнасць паняцця і рэальнасці. Для даследавання, напрыклад, анёлаў такі спосаб не пасуе.

Яшчэ адно красамоўнае змаўчанне — Бог. Дакладней, пра Бога Адамовіч не маўчаў у гранінскім сэнсе, а — не гаварыў. Нават калі на з'ездзе пісьменнікаў у 1986 годзе цытаваў Яна Багаслова пра зорку Палын, дык заяўляў: «Мы людзі няверуючыя і не станем усур'ёз спасылацца на руку прадвызначэння». Не прывабіла яго першая дакументальная кніга ў свеце. (Дарэчы, Біблія — надзвычай іранічная кніга, і калі тэксты нешта расказваюць пра свайго пра-аўтара, дык пан Бог, безумоўна, выдатны стваральнік анекдотаў.)

У менскае кола Адамовіча ў 60-я ўваходзіў даследнік беларускага Рэнесансу, аўтар папулярных лекцыяў «Космас і розум» Вячаслаў Зайцаў, які даводзіў, што Хрыстос быў прышэльцам з космасу, а чалавек — толькі вынікам эксперымента, збіральнікам інфармацыі для вышэйшай цывілізацыі. Зайцаў таксама заяўляў, што ў Брэжнева ўсяліўся дэман, які раней знаходзіўся ў Маа.

У манаграфічным даследаванні «Вайна і вёска ў сучаснай літаратуры» (1981) Адамовіч раптоўна, як ў гутарцы з акадэмікам Сахаравым, на паўслове абрывае аналіз прозы беларускіх і расейскіх аўтараў і пачынае захоплена цытаваць прыпавесць Рычарда Баха »Чайка па імені Джонатан Лівінгстон» — пра шлях па той бок смерці, які быццам адкрыў былы ваенны лётчык. На

той самай старонцы — і эйнштэйнаўскі пераход масы ў энергію, і Цыялкоўскі са сваёй тэорыяй «промневага ператварэння» матэрыі, якая некалі запоўніць Сусвет, і сур'ёзная перыядызацыя будучага, удакладненні, якая эра працягнецца сотні, а якая толькі дзясяткі мільярдаў гадоў.

«Хоць ты ўзвый на месяц, стаўшы ракам!», як некалі Уладзімір Караткевіч рэагаваў на тэорыі Зайцава (паводле А. Мальдзіса).

«Бомба заб'е ўсіх. У арыфметычным сэнсе слова. А значыць — назаўсёды!» Так Адамовіч прыстасоўвае колькасць для вымярэння вечнасці. Праблема не толькі ў тым, што ён не адчуваў неадпаведнасці інструментару — праблема ў тым, што іншага ў агнастычным свеце няма. І тады Адамовіч звяртаецца да збору хранікальных фактаў і да аўтарытэтаў: літкласікаў, Ганды, Швейцэра, цэлай галерэі фізікаў, напаўвядомых папулярызатараў навукі, празаікаў, нават комік Аркадзь Райкін гаворыць у яго нешта на патрэбную тэму.

У 80-я, адчуваючы тупік, Адамовіч дэклараваў «звышлітаратуру», чым збянтэжыў адначасна і сяброў, і ворагаў. Першыя не зразумелі, што гэта такое, другія зразумелі, што нешта не тое.

Верагодна, ён проста гаварыў пра самога сябе.

Задоўга да «звышлітаратуры», пад час працы над дылогіяй «Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой», Адамовіча ўжо не задавальняла традыцыйная тэрміналогія, і ён спрабаваў замяніць няўлоўнае вызначэнне хаця б апісаннем працэсу: «Усё дыктавалася ціскам уласнай памяці, якая прымушала «Запішы! Няхай гэта ніякая не літаратура, але запішы дабрасумленна як усё было насамрэч». І далей: «Аказваецца, чалавеку гэта важна, каб пражытае ім не пагасла бясследна і не было б падмененае тым, што здаецца табе няпраўдай ці напаўпраўдай. Бо інакш быццам губляе сэнс і жыццё тваё, і ўсё табой пражытае».

І прызнанне ў біблейскім стылі, не раўнуючы як у Кнізе Быцця: «Я сам прыйшоў да сябе і запісаў самога сябе».

Што Адамовіч запісваў у Адамовіча?

Пасля смерці, паводле Адамовіча, можа наступіць будучыня. Пісаць пра яе, сцвярджае аўтар, вялікая адказнасць, бо будучыня, што існуе ў чалавечай свядомасці, здольная ўздзейнічаць на рэальнасць.

І тады Адамовіч робіць неверагоднае — ён пачынае пісаць сабой будучым. «Я баюся машынкі: яна стварае фальшывае пачуццё «канчатковасці», «яснасці», калі гэтага яшчэ няма. Мне трэба, каб да самага апошняга варыянту, да поўнай спустошанасці ўсё, што ў цябе ёсць, сцякала з рукі … Рукапісы — пакінутыя коканы, высахлыя, мёртвыя».

Тэкст выцякае з цела, жыццё пераліваецца ў паперу, мяняе форму як вусень, што ператвараецца ў матылька і, танцуючы, выпырхвае ў свет.

Палёт матылька яшчэ нагадвае зігзагавыя перабежкі салдатаў пад мінамётным агнём. Вайна ў Чачні пакідае ад савецкай «антываеннай» прозы 80-х гадоў сажу на абгарэлых трупах няісных чытачоў публічных бібліятэк; пялёсткі попелу не ўзлятаюць, а распаўзаюцца ў брудную жыжу пад мокрым снегам зімовай кампаніі. Твор называецца «Я з вогненага аула — 1995».

Адамовіч не дажыў да першай чачэнскай вайны — ён увесь выцек на паперу на сваіх войнах, спачатку той, у 40-я, пасля — ў 60-я, 70-я, і асабліва — ў 80-я, калі будучыню вызначалі ядзерная бомба і Чарнобыль. Паводле Адамовіча-крытыка, вялікая літаратура не толькі «адкрывае» тэму, але і вырашае, «закрывае» яе.

Тое, што не адбылося, не менш, а часам куды больш важна, чым тое, што спраўдзілася. Магчыма, тым, што ўсё ж такі «не ўзарвалася», мы абавязаныя і Адамовічу. Дакументам, якія ён прыдумаў.

## Янка і Іван: Праз туман*

Калі дыскусія пра Янку Купалу і Івана Луцэвіча, пра паэзію і рыфмы рабоў, пра катаў, ахвяраў і таго, што паміж імі, разгарэлася, распалілася і выйшла за межы прыгожага пісьменства, адна мая калега сказала:

— У турмах сядзяць палітвязні, а тут такія жарсці вакол літаратурнага эсэ.

Яна мела на ўвазе, што нават лёсы палітзняволеных у коле дапісчыкаў на форумах не выклікаюць такой бурнай рэакцыі, такіх ацэнак, такой аргументацыі і такіх удзельнікаў.

Я сказаў — таму і сядзяць палітвязні, што такая дыскусія не адбылася своечасова, і высновы з яе не былі зробленыя і не ўсвядомленыя не толькі грамадствам, але нават элітай — нацыянальнай інтэлігенцыяй.

Своечасова — гэта значыць, у беларускім замежжы пачынаючы ад 1930-х, у савецкім самвыдаце ў 1960-я — сярэдзіна 80-х, у адкрытым друку — ад пачатку галоснасці.

Не ўсвядомлена элітай — гэта значыць, што, не засвоіўшы ўрокі таталітарызму, пасля атрымання незалежнасці Беларусі адукаваная частка грамадства, інтэлектуалы, пісьменнікі, журналісты, дзеячы мастацтва, універсітэцкая прафесура, акадэмічная супольнасць, урэшце настаўнікі, лекары, дэпутаты Вярхоўнага Савета і яго кіраўніцтва аказаліся не здольнымі своечасова распазнаць небяспеку новага аўтарытарызму, пабачыць глебу для яго ў саміх сабе, аб'яднацца насуперак асабістым густам і амбіцыям , каб эфектыўна супрацьстаяць яму. Як няздольныя і цяпер аб'яднацца дзеля адных каштоўнасцяў ці вакол аднаго

---

* У снежні 2011 — студзені 2012 на сайце Радыё Свабода адбылася дыскусія з нагоды эсэ Альгерда Бахарэвіча «Цёмнае мінулае Каяна Лупакі», якую распачала гутарка літаратара Міхася Скоблы з мастаком Рыгорам Сітніцам. У дыскусіі ўдзельнічалі Сяргей Дубавец, Ян Максімюк, Пётра Садоўскі, і іншыя, а таксама мноства чытачоў. http://www.svaboda.org/content/article/24460666.html

кандыдата на выбарах, зноў і зноў шакуючы сваіх дэмакратычных прыхільнікаў у Беларусі і за мяжой уменнем наступаць на адны і тыя ж граблі.

Вядома, гэта згушчэнне фарбаў — былі і ёсць сярод элітаў асобы, якія выразна ўяўлялі небяспекі і змагаліся супраць іх, але іх слова і прыклад аказаліся недастатковыя.

Літаратурная дыскусія на сайце Свабоды патрапіла ў незагойную рану нацыянальнай свядомасці, бо выйшла далёка за межы літаратуры. Аргументы пра слабасць нацыі і адказнасць мастакоў, пра сваё і чужое, пра нялюдскія ўмовы і паводзіны людзей, якімі ўдзельнікі спрабавалі адказаць на пытанні эстэтыкі і маральнасці, былі часам поўныя гневу і болю — бо ўсім удзельнікам гэта баліць.

Не ставячы пад сумнеў шчырасць пачуццяў, даўшы час і месца выказацца ўсім, хто хацеў, варта паспрабаваць зрабіць некалькі высноваў. Яны не заменяць саму дыскусію і багацце ўсіх яе пунктаў гледжання, не адкажуць на ўсе слушныя і спрэчныя думкі, якія прагучалі. «1984» Оруэла і «Сотнікаў» Быкава такія ж удзельнікі гэтай дыскусіі, як усе мы.

Абмяжуемся тут, наколькі магчыма, толькі пытаннем свабоды — свабоды творчасці і свабоды выбару.

Але перш — азірнемся без гневу.

## Бацькі і дзеці беллiту

Беларуская літаратура і яе творцы не горшыя і не лепшыя, чым літаратуры многіх іншых народаў, параўнальных з Беларуссю памерам і гісторыяй. Але для самой Беларусі яна, безумоўна, і найлепшая і найгоршая, бо яна родная. Так найбольшыя радасці і пакуты ў жыцці здольныя прынесці адно аднаму менавіта родныя людзі.

Нават калі дзеці выракаюцца і забываюцца на бацькоў, тыя іх працягваюць любіць, як, напрыклад, герой аповесці Васіля Быкава «Аблава». (Там сын удзельнічае ў аблаве НКВД на бацьку, які ўцёк з Гулагу і хаваецца паблізу роднай вёскі. Гэтая аповесць, кангеніяльная «Каралю Ліру» і калізіяй, і мастацкім вырашэннем, сканчаецца, аднак, больш трагічна — перамогай татальнага зла. Выйсця там не існуе ў прынцыпе, яго найбліжэйшы сінонім — самагубства.)

Жывая культура — гэта заўсёды рух, пастаяннае ўдакладненне каардынатаў і пашырэнне карціны свету, выхад на новыя вышыні. Не заўсёды больш высокія, але абавязкова — новыя, як, напрыклад, у гарах, калі з новага піку адкрываецца іншая перспектыва.

«Гамбурскі рахунак» — спроба паглядзець на літаратурны пейзаж Беларусі вачыма сённяшняга пісьменніка і стварыць новую перспектыву. Так, як, напрыклад, гэта зрабіў Уладзімір Набокаў у сваіх лекцыях па расейскай і замежнай літаратуры, Андрэй Сіняўскі ў «Прогулках с Пушкиным», ці, напрыклад, нашы калегі — журналісты «Свободы» Пётр Вайль і Аляксандар Геніс у калекцыі эсэ пра расейскіх класікаў «Родная речь».

Дакладней — амаль так. Кожны сапраўдны аўтар стварае свой свет. (У Васіля Быкава адна вайна, ва Уладзіміра Войнавіча — іншая, у маршальскіх мемуарах увогуле пятая.)

Усё астатняе — той дзядзька, што ў Кіеве. Хоць, калі рэдакцыя замаўляла гэты цыкл аўтару, дык думала і пра «дзядзьку ў Вільні» — паспрабаваць вярнуць цікавасць да незаслужана забытых аўтараў, сцерці пыл з іх тэкстаў, каб яны заблішчэлі, ажылі і зайгралі.

Альгерд Бахарэвіч выводзіць сваіх герояў на фантастычны, поўны музыкі і яркага святла баль-маскарад сусветнай літаратуры. Дзядзькі і цёткі белліту з’яўляюцца, як хто жыў і пісаў — нехта мае толькі адзін пярсцёнак, але з дыяментам, у некага на

галаве кардонная карона, некаторыя ледзь-ледзь маюць чым прыкрыць голае цела. Яны з'яўляюцца толькі на некалькі хвілінаў (столькі, колькі трэба часу, каб прачытаць абразок), і гэта іх шанец, каб уразіць, бліснуць, запомніцца.

Гэта адразу адчулі тыя наведнікі сайту, якія сталі пісаць пра сваё жаданне прачытаць і перачытаць творы, якіх не бралі ў рукі з часоў школьных урокаў белліту. Аказалася — гэта жывыя пісьменнікі, і ім ёсць што сказаць і сваімі творамі, і сваім лёсам чытачам у XXI стагоддзі.

Некаторыя чытачы, аднак, паставіліся да цыклу, які так некласічна абходзіўся з класікай, насцярожана, і сталі задаваць пытанні кшталту «а суддзя — хто», «чаму дазволілі», указваць аўтару на асабістыя хібы, адсутнасць ведаў, патрыятызму, замежны адрас і нават раіць яму не з'яўляцца ў Беларусі, бо могуць пабіць.

Насамрэч адказ на пытанне «хто і калі мае права выставіць беларускай літаратуры гамбурскі рахунак» такі самы, як пра ўкраінскую, японскую і ірландскую літаратуры — усе і заўсёды.

І ў такой форме, якой хочуць — гэта называецца свабода слова і свабода думкі, без якіх творчасць немагчымая («крадзенае паветра», як казаў Восіп Мандэльштам).

Пісьменнік Бахарэвіч не суддзя, а стваральнік свайго балю, цырымонімайстар, гэта ён грае, спявае і танчыць так, як умее і можа толькі ён сам у тым Гамбургу, дзе, як пісаў яшчэ Мікалай Гогаль, робяць Месяц.

## Вегетарыянскія гамбургеры

На думку некаторых удзельнікаў дыскусіі, аднак, у Гамбургу робяцца выключна гамбургеры. І робіць іх Бахарэвіч. І робіць з мяса і жылаў Алаізы Пашкевіч і Івана Луцэвіча ды іншых нябожчыкаў, якіх выкопвае з магіл і пускае на фарш.

Блытаюць боб з гарохам звычайна альбо недасведчаныя, альбо падслепаватыя людзі. Гэтаксама, як неразвітыя, далёкія ад культуры чытачы блытаюць аўтара і яго герояў, эстэтыку з этыкай, культуру з ідэалогіяй, прыгожае з карысным. З той розніцай, што часам гэта робіцца яшчэ й таму, што так выгадна — каб абараніць свой даробак, свой светапогляд, свой інтарэс.

Абвінавачанні, якія прагучалі ў дыскусіі — у хунвэйбінстве, блюзнерстве, патрабаванні не перастаўляць літары, не друкаваць тэксты, бо яны скажаюць, абураюць і крыўдзяць, парады пісаць іначай і пра іншае — не маюць ніякага дачынення да эстэтыкі, літаратуры і культуры ў цэлым.

Менавіта так рэагавалі некаторыя сучаснікі, напрыклад, на партрэты Пікаса. Вось намаляваў Пікаса сваю любімую жанчыну, Дору Маар, у выглядзе паралелепіпедаў, трохкутнікаў, а вока ўвогуле переставіў на патыліцу — не каханка, а Герніка. І хоць ёй падабалася, і карціну нядаўна прадалі за амаль сто мільёнаў долараў (другая па кошце ў свеце), з саюза мастакоў БССР яго б дакладна выключылі. Бо — блюзнерства.

Ці Салман Рушдзі — яго крытыка аяталу хоць зараз задняй датай прымай у СП БССР.

Фатва за «Сатанінскія вершы» ёсць не абаронай святыняў, а дзікасцю і фанатызмам, як дзікасцю было цкаванне Васіля Быкава за «Мёртвым не баліць» і антысеміцкае змаганне з Маркам Шагалам, звальненне Уладзімера Арлова за «гістарычную і іншую сумнеўную літаратуру», ці патрабаванне аднаго генералпісьменніка закрыць незалежнае выдавецтва «Логвінаў».

Крытыкі напэўна ж ведаюць гэтыя прыклады — але, як нагадаў адзін чытач, эрудыцыя не ёсць культура. Веды не паўплывалі на высновы. Парадыгма засталася незасвоенай. Граблі зноў і зноў лупяць па ілбе і да туману ў вачах дадаецца яшчэ й звон у вушах.

Але для мастацтва — гэта толькі кантэкст, а не тэкст, чыннік, які не мае сутнаснага зместу і застаецца ў гісторыі культуры як зноска, якая нудна і аднастайна паўтараецца ў выглядзе барацьбы з ерасямі, знаходзячы адны і тыя ж прычыны і ўжываючы адны і тыя ж метады, апісаныя на пачатку 14-га стагоддзя знакамітым інквізітарам Бернардам Гі ў фундаментальнай працы «Liber sententiarum». Арыгінал выдаюць у бібліятэцы Брытанскага музея, а тэкст можна знайсці ў інтэрнэце.

Таксама там можна знайсці рэцэпт катлеты з морквы.

## Сталін думае пра Беларусь

Самая цікавая і важная частка гэтай дыскусіі — не літаратура, а літаратары.

Галоўная і насамрэч адзіная сапраўдная чалавечая трагедыя — гэта трагедыя зламанага духу, трагедыя здрады самому сабе. Юда здрадзіў не Хрысту, а сваёй бессмяротнасці.

Такая трагедыя — не выключэнне, а правіла, яна экзістэнцыйна прысутнічае ў жыцці. Яна не абавязкова фатальная, як сведчыць прыклад яшчэ аднаго з удзельнікаў тайнай вячэры, Пятра — тройчы адрокся, але атрымаў дараванне і нават прызнаны слупом царквы. У свабодным грамадстве гэтая трагедыя выбару носіць пераважна асабісты характар, у таталітарным — татальны.

Трагедыя Івана Луцэвіча не ў яе выключнасці, а ў выключнасці Янкі Купалы — нацыянальнага генія і прарока, асноваў-

таральнай фігуры маладой літаратуры маладой нацыі. Здрада Юды — адна справа, здрада Хрыста — зусім іншая.

Дык вось, пісьменнік Альгерд Бахарэвіч сказаў наступнае: Янка Купала не здрадзіў беларускай літаратуры. Янка Купала памёр на пачатку 30-х. Пасля гэтага падобнымі літарамі карысталася фізічнае цела, якое выглядала як Іван Луцэвіч, але было насамрэч Каянам Лупакам.

Некаторыя ўдзельнікі дыскусіі з гэтым не пагаджаюцца, а, наадварот, даводзяць, што Купала заставаўся Купалам і ў другой палове 30-х.

Пасля допыту ў ГПУ і спробы самагубства.

Пасля калектывізацыі.

Пасля раскулачвання і адпраўкі на Поўнач сваёй маці, якую цудам выцягнуў з эшалона ссыльных.

Пасля арыштаў і ссылкі дзясяткаў сваіх сяброў-нацдэмаў.

Пасля цкавання і самагубства добрых знаёмых Чарвякова і Галадзеда.

Пасля адкрытых працэсаў.

Пасля 29 кастрычніка 1937 года, калі за адну ноч былі расстраляныя дзясяткі беларускіх пісьменнікаў, навукоўцаў, грамадскіх дзеячаў.

І тады, калі праз тыдзень пасля той ночы ён апублікаваў у «ЛіМе» такі верш:

*Не пра быўшае кайданнае*
*Гэту песню я складаю,*
*А пра з'яву нечаканую.*
*Што сягоння шчасна маем.*
*Не пра турмы, здзекі царскія,*
*Мукі люду і народаў,*
*А пра волю пралетарскую,*
*Залатыя нашы годы.*

*Не пра цемру бесправсветную,*
*Што людзям сляпіла вочы,*
*А пра яснасць зорнацветную,*
*Што развеяла нам ночы.*
*Не пра беднасць беспрытульную,*
*Гора вечнае, жабрацтва,*
*А пра наша ўсеагульнае*
*Неабсяжнае багацтва.*
*Не пра ненавісць, што годамі*
*Нас давіла цяжкім грузам,*
*А пра дружбу між народамі*
*Ўсяго нашага Саюза.*
*Не пра сны з цяжкімі зморамі,*
*Што цягнулі нас у нерат,*
*А пра сталінскі пад зорамі*
*Сонечны паход наперад.*
*Не пра быўшае кайданнае*
*Гэту песню я складаю,*
*А пра з'яву нечаканую.*
*Што сягоння шчасна маем.*

Такія вершы і такія паводзіны — не выключэнне ў таталітарнай сістэме. Выключэнне, паўтаруся, Купала, які заслугоўваў Нобелеўскую прэмію яшчэ ў 20-я гады.

Верылі ў праўдзівасць сталінскіх судовых працэсаў не толькі мільёны людзей у савецкім канцлагеры, але і на свабодным Захадзе — раманіст Ліён Фэйхтвангер напісаў панегірык «Москва 1937», будучы нобелеўскі лаўрэат Уінстан Чэрчыль выказваў захапленне прамовай Вышынскага на працэсе военачальнікаў нават пасля вайны.

Рэч у тым, што Купала — не верыў. З гэтым ніхто ў дыскусіі і не спрачаецца. Наадварот.

Адзін з вядомых беларускіх незалежных крытыкаў, энцыклапедычны знаўца біяграфічных дэталяў беларускіх літаратараў 1920-30-х гадоў, сцвярджае, што Купала пісаў у 30-я тое, што пісаў, не толькі з-за веры ў сацыялізм, не толькі з-за страху (не толькі за сябе), а таму, што яго, у адрозненне ад іншых, менш знакамітых — «прымушалі пісаць».

Крытык такім чынам паставіў паэта ніжэй за каня, якога, як вядома, можна падвесці да вады, але нельга прымусіць піць. Магчыма, ён меў на ўвазе, што гістарычна, сапраўды, раб каштаваў менш за каня.

Для раба не існуе свабоды, а існуе біялогія. Савецкі і гітлераўскі таталітарызм 20-га стагоддзя ламаў душы як запалкі — хто жыў тады і пакінуў успаміны, той сведчыць, наколькі насамрэч слабы чалавек перад машынай гвалту. Нават вязні Гулагу, якія вытрымалі катаванні і не падпісалі абвінавачанні, прызнаваліся, што калі б працягвалі, ці катавалі больш жорстка, ці паставілі на кон, напрыклад, дзяцей — падпісалі б. Проста ў катаў рукі не дайшлі.

Да грамадзяніна Івана Дамінікавіча Луцэвіча — дайшлі.

І тады пісьменнік Янка Купала скончыў самагубствам. А Іван Луцэвіч застаўся жыць.

Адзін мой калега напісаў:

«Купала ў тых страшных умовах зрабіў свой выбар. «Уяві сябе на ягоным месцы», — скажуць мне. А я не магу і не хачу. Я ўяўляю сябе на месцы нямой і скутай жахам Беларусі канца 30-х: родных і блізкіх забітых, ацалелых работнікаў культурнага фронту, тысячаў чытачоў, якія з надзеяй глядзелі на Песняра, які некалі абяцаў: «Выйду з сэрцам, як з паходняй...» Уяўляю, як у іх стыне кроў, як усё паглынае змрок і як знікае апошняя надзея.

Савецкая ўлада думала, што ўзяла ў палон Янку Купалу — насамрэч яна атрымала толькі Каяна Лупаку. Лепшай абароны

Янкі Купалы ад Сталіна, чым прапанаваная Бахарэвічам, не было і не будзе.

А Івану Луцэвічу, як і ўсім нам — Бог суддзя.

Але не толькі. Бо ёсць яшчэ суд ахвяраў.

## У тумане

Было б спакусліва напісаць, што лінія Сталіна дзеліць гэтую дыскусію на дзве часткі, ваўкоў і агнцаў, але гэта не так — бо яна заўсёды праходзіць па самім чалавеку.

Чвэрць стагоддзя таму мне ўдалося апублікаваць першы ў беларускім адкрытым друку круглы стол з вязнямі Гулагу — беларускімі пісьменнікамі. Сяргей Грахоўскі і Ян Скрыган расказвалі пра свае пакуты, пра здзекі, сваё разуменне таго, што з імі адбылося. І нават праз паўстагоддзя пасля арышту яны лічылі неабходным прызнавацца ў любові да савецкай улады і патрыятызме. Баяліся? Шчыра любілі? Пераканалі самі сябе, што з імі і іх сябрамі адбылася памылка? Лічылі, што так у той момант будзе лепш для беларускай літаратуры? Верагодна, усё разам.

Васіль Быкаў некалі напісаў апавяданне «Ружовы туман» — пра вясковага дзядзьку, які ўсё жыццё пражыў як у сне, думаючы, што разам з партызанамі змагаўся супраць акупантаў; насамрэч яго проста цынічна выкарысталі, як барана, пусціўшы атаварыць падробленыя прадуктовыя карткі, каб праверыць, прыстрэляць наіўнага дзядзьку ці не.

Ружовы туман даў назву знакамітаму артыкулу Сяргея Дубаўца ў «ЛіМе» у 1998 годзе. Нічога з таго дыягназу і той аргументацыі не састарэла — у гэтым можна пераканацца і паводле гэтай літаратурнай дыскусіі.

У тым маім самым першым круглым стале з пісьменнікамі-вязнямі Гулагу, у 1987 годзе, згадваўся акадэмік Васіль Бары-

сенка — як адзін з групы крытыкаў, якія разам з Лукашам Бэндэ нясуць асабістую адказнасць за арышты і знішчэнне беларускіх пісьменнікаў. Такая пастаноўка пытання тады выклікала абурэнне ў некаторых супрацоўнікаў акадэмічнага інстытута літаратуры (Барысенка быў дырэктарам ад 1937 да 1973 года), і ў 1988 пачалася палеміка ў друку, якая цягнулася амаль сем гадоў.

Абараняючы Барысенку, які пісаў рэцэнзіі на замову НКВД, адзін з супрацоўнікаў Акадэміі адрасаваў мне ў красавіку 1994-га ў «ЛіМе» такое папярэджанне:

«І калі б кіравацца крытэрыямі высокай сённяшняй прынцыповасці, то што трэба было б пісаць пра Ц.Гартнага, П.Глебку, П.Броўку, А.Александровіча, А.Куляшова, З.Бядулю, К.Крапіву, А.Астрэйку? І не толькі прыемнае давялося б гаварыць пра Купалу з Коласам (пра апошняга нават у пасляваенны пэрыяд)».

Працытую свой адказ, апублікаваны тады ж, у 1994-м, таксама ў «ЛіМе»:

«Не толькі прыемнае давялося б гаварыць пра Купалу з Коласам», — папярэджвае аб пагрозлівай небяспецы аўтар. Дык можа ўжо час нашым вучоным адмовіцца ад звычкі гаварыць толькі прыемнае? І паспрабаваць перайсці да праўдзівага? Тады, дарэчы, ніводнаму сумленнаму і кампетэнтнаму даследніку ў галаву не прыйдзе ставіць на адну дошку няштатнага супрацоўніка органаў, чые спецдопісы падшываліся ў следчую справу, і Купалу з Коласам, растаптаных з дапамогай «літаратуразнаўцаў ад НКВД».

Праз некалькі гадоў усю тую дыскусію пад загалоўкам «Дырэктар літаратуры» я рыхтаваў да друку ў кнізе «За кіпучай чэкісцкай работай» — і нечакана пабачыў, што ізноў публікуюцца ўхвальныя артыкулы пра Барысенку. Нагадаю — ужо былі збітыя дэпутаты-галадоўнікі за мову і сцяг, Пагоню скінулі з Дома ўрада, ужо была перакроеная канстытуцыя, а ў неабаро-

неных Курапатах па-ранейшаму выгульвалі сабак і раскладалі вогнішчы.

Я дадаў тады толькі адзін сказ, як пасляслоўе, да той дыскусіі:

«А мы яшчэ здзіўляемся, што з намі адбываецца».

У снежні 2011 года па беларускім дзяржаўным радыё гучала гутарка з адным супрацоўнікам інстытута літаратуры і мовы Акадэміі навук, вядомым даследчыкам старажытных рукапісаў. Сярод іншага юбіляр сказаў — «не магу не ўспомніць добрым словам колішняга дырэктара інстытута Васіля Барысенку».

А мы ўсё яшчэ здзіўляемся, калі бачым, як адна дэмакратычная партыя падае скаргу на другую ў міністэрства юстыцыі, якое абедзве лічаць часткай нелегітымнай улады, як адзін супрацоўнік літаратурнага часопіса піша на калегу скаргу ў пракуратуру, а незалежны літаратар шукае праўды ў афіцыёзе.

Туман ярам, і нічога не відна.

## За туманам

Усё ж пасля гэтай дыскусіі за туманам стала відна прынамсі «дуба зелянога» — праблему свабоды ў сённяшняй Беларусі.

Свабода творчасці і свабода слова — блізкія, але розныя рэчы. Першая мае справу з ілюзіяй, яе крытэрый — прыгажосць новастворанага свету. У другой матэрыял — існуючы свет, яе крытэрый — дакладнасць разумення рэальнасці.

Гэтымі катэгорыямі жыццё не вычэрпваецца, канечне. Але без іх не пабачыць, не зразумець, не адрозніць катаў і ахвяраў, літаратуру і макулатуру, шэрае і чырвонае, асабліва калі гэтыя архетыпы злучаюцца ў адным чалавеку, у адным жыцці, у адной гісторыі.

Расейскі пісьменнік Уладзімір Войнавіч, які на маю просьбу 19 студзеня 2011 года разам з іншымі літаратарамі з суседніх краінаў напісаў свой ліст беларускім палітвязням у турму КДБ, назваў іх «уважаемые пленники презренного диктатора».

У якім палоне знаходзіцца беларуская літаратура?..

Дыскусіі, падобныя да гэтай, прагрымелі яшчэ за часам Савецкага Саюза ў Маскве і Кіеве, Берліне і Варшаве. У 2002 годзе Уладзімір Войнавіч выдаў бязлітасную кнігу «Портрет на фоне мифа» пра несамавітыя рысы вялікага Аляксандра Салжаніцына, што каштавала яму сяброўства з многімі даўнімі аднадумцамі, мужнымі і маральна бездакорнымі людзьмі. Напісаў, верагодна, таму, што не мог не напісаць. Ён скончыў яе словамі, што казаць праўду, жыць без ілжы цяжка. І дадаў з абзаца:

«Но надо».

І дапісаў яшчэ адзін, апошні радок:

«Но бесполезно».

Тую самую першую ў БССР гутарку ў рэдакцыі за круглым сталом з беларускімі літаратарамі — вязнямі Гулагу, чвэрць стагоддзя таму завяршалі словы Яна Скрыгана:

«Мне здаецца, што без такой размовы мы ўвогуле не можам жыць».

Як аказалася — жывем. Толькі не адрозніваем Купалу ад Лупакі, літаратуру ад могілак, учора ад заўтра.

Але — і ў гэтым сэнс і надзея — менавіта ў такіх размовах вучымся адрозніваць, каб заўтра не было такім, як учора.

За гэта (нават калі «бесполезно») — дзякуй усім удзельнікам дыскусіі.

## Чэслаў Мілаш: Лісты пра love*

**Дарагі Чэслаў,**
ноч сёння без зорак, і я думаю пра тваю паездку да Эйнштэйна ў Прынстан па параду, эміграваць ці вяртацца на радзіму, і ён даў параду, але ты не прыняў яе, і я разумею вас абодвух, калі еду з хуткасцю 160 км у гадзіну і не парушаю правілы, і ты б, канечне, здагадаўся, што еду я па Нямеччыне, адзінай краіне ў Еўропе, дзе на трасе дазваляюць неабмежаваную хуткасць, і такім чынам адлегласць паміж Прагай, куды я еду, і Мюнхенам, адкуль я выехаў, сапраўды адносная, справа часу, куды, аднак, трэба дадаць магутнасць аўтамабільнага рухавіка, якасць дарожнага пакрыцця, інтэнсіўнасць спадарожнага руху, надвор'е, узаемаадносіны кіроўцы з педаллю газу і з самім сабой, і я не ўпэўнены, што нават Эйнштэйн здолеў бы ўключыць у гэтую формулу тое, што я еду з пахавання, дзе мы развіталіся з Паўлам У., які нарадзіўся на некалькі гадоў пазней і на адну гадзіну далей на ўсход за цябе, гадзіну — гэта калі ехаць так, як еду я гэтай ноччу, а калі паспрабаваць праплыць, як ты з сябрамі на каноэ ў вашым «Падарожжы на Захад», будзе, канечне, даўжэй, і не таму, што супраць цячэння, а таму, што супраць гісторыі, і падарожжа на Ўсход магло б зацягнуцца на дзесяцігоддзі, але вернемся да Паўла У.: яго эміграцкі лёс настолькі паўтарае твой, што нават няёмка пераказваць, скажу толькі пра кульмінацыю — напісанне яго «Радзіннай Еўропы», трылогіі пра Вялікае Княства Літоўскае, ВКЛ, яго мовы, этнічныя прыналежнасці, саюзнікаў і ворагаў у мінулым і ў сучаснасці, якая яшчэ нядаўна звалася афіцыйнай савецкай гістарычнай навукай, і рукапіс апошняй працы нябожчыка, дзе

* Да 100-годдзя польскага Нобелеўскага лаўрэата Чэслава Мілаша ў 2011 годзе еўрапейская культурніцкая ініцыятыва «Halma network» арганізавала акцыю «Ліст да Мілаша», у якой удзельнічалі пісьменнікі шэрагу краінаў Еўропы.

ён тлумачыць славянскія і ліцвінскія паганскія імёны, я вязу з сабой у Прагу, і там няма тлумачэння імені «Чэслаў», але калі б я папрасіў, ён напэўна дапісаў бы раздзел, прысвечаны твайму імені, і я спадзяюся, што пасля прачытання і ты прызнаў бы некалькі яго аргументаў, напрыклад, замяніў бы ў сваім тэксце «усходнееўрапейскі дыялект», на якім гаварылі ў Вялікім Княстве, на «старабеларускую мову», ну і яшчэ тое-сёе, магчыма, вы пра гэта ўжо і дамовіліся там, дзе вы абодва цяпер, хаця гэтая спрэчка працягваецца і тут, дзе вас ужо няма, напрыклад, пра мультыкультуралізм, які практыкаваўся ў Княстве і які цяпер, у твой стогадовы юбілей, палітыкі ў Еўропе абвясцілі правалам, і я не пагаджаюся, а толькі ўдакладню, што мультыкультуралізм праваліўся, як і марксізм, камунізм ці нацызм, але не як асабістыя паводзіны свабоднага чалавека, не як, напрыклад, каханне, бо каханне пачынаецца з падзення: *tomber amoureux-to fall in love*, і невядома, як скончыцца гэты палёт, ты сам кажаш, што *falling in love is not the same as being able to love.*

**Дарагі Чэслаў,**
на пахаванні было чалавек дваццаць, і злева ад мяне за памінальным сталом сядзела жанчына з балтыйскай эмігранцкай сям'і з тваёй, паваеннай хвалі эміграцыі, затым яе муж — праваслаўны святар з Палесся, за ім беларуска, жонка нябожчыка, яе дачка, якая не гаворыць на мове бацькі, яе муж-чыліец, чые бацькі ўцяклі ў Еўропу ад Піначэта, за сталом былі габрэі, якія эмігравалі з СССР за часам Брэжнева, і армянін быў, і ўкраінец, і татарын — мультыкультуралізм у дзеянні, ВКЛ за адным сталом, і гаварылі пра розныя рэчы, напрыклад, хто возме котку нябожчыка, белую і такую прыгожую, і я ведаю, што ты паўдзельнічаў бы ў дыскусіі і, можа, нават прачытаў бы пару радкоў са свайго верша «Спадарыні прафесарцы ў абарону гонару майго

ката і не толькі», і цябе горача падтрымала б жонка святара, у якой дома восем беларускіх катоў, яна іх прывозіць у Баварыю з вёскі мужа, і яна загарэлася была ўзяць нямецкую котку, але потым засумнявалася, бо мультыкультуралізм катоў абмяжоўваецца памечанай тэрыторыяй, а далей пачынаюцца баявыя дзеянні, а калі межаў няма, як няма іх цяпер у еўрапейскай Еўропе, дык няма як і ваяваць, бо няма чаго прарываць, абыходзіць, абараняць, адстрэльвацца да апошняга патрона, а можна проста ехаць з французскай *Autoroute* на нямецкі *Autobahn*, на чэшскую *Dálnice*, на польскую *Autostrada* і не зважаць на пустынныя памежныя пераходы, якім так і не прыдумалі ніякага новага прымянення, нават шампіньёны там не развядзеш, як на лініі Мажыно, і гэтыя канцэнтраваныя выявы гістарычнага працэсу папярэдніх стагоддзяў стаяць помнікамі дзяржаўнага гонару ці прыніжэння, падобныя да тых, якімі каты пазначаюць сваю тэрыторыю, але ты пішаш у вершы, што каты не адрозніваюць дабро ад зла і, па-мойму, ты памыляешся, народы часам менш за катоў здольныя правесці мяжу паміж тэрыторыяй дабра і зла, усё, што для гэтага трэба — пазбавіць іх гісторыі, чым заўсёды карыстаюцца розныя паскуды, бо чалавечая мяжа не ёсць праблемай прасторы і выгады, а, перш за ўсё, пытаннем каштоўнасцяў, і для гэтага недастаткова механізмаў дэмакратыі, мала нават тэорыі Эйнштэйна, хоць хопіць проста любові.

**Дарагі Чэслаў,**

цікава, як бы ты паставіўся да папулярнага слогану беларускай апазіцыі пачатку XXI стагодздзя: «Беларусь — у Еўропу!», не ў Еўразвяз, не ў Раду Еўропы, не ў шэнгенскую ці еўразоны, не ў НАТА, а менавіта так брутальна — брутальна не таму, што ў слогана ёсць яшчэ і другая частка, якая ўдакладняе, каго канкрэтна ў міжчасе трэба адправіць у дупу, і не геаграфічна брутальна, бо

ніхто не заклікае змяніць атласы і перанесці мяжу Азіі з Урала на бераг Дняпра, а неяк татальна брутальна, бо тут адразу гучыць адказ на пытанне, а дзе ж мы цяпер, і хто мы цяпер, і гэты адказ вельмі здзівіў бы, напрыклад, майго дзядзьку, які, калі захварэў, пайшоў у суседняе мястэчка Воўчын, дзе ў касцёле быў пахаваны народжаны тут апошні кароль Польшчы і вялікі князь літоўскі Аўгуст Панятоўскі, і купіў у аптэцы нейкі аўстрыйскі лек у прыгожай бляшанцы з малюнкам, а потым пабачыў, што на лузе, дзе ў нас дояць каровы, растуць кветачкі, як на бляшанцы, нарваў і паслаў у Вену, і былыя імперскія фармацэўты неўзабаве прыслалі яму ліст, у якім хвалілі за батанічную назіральнасць, тлумачылі, як правільна рыхтаваць, збіраць і сушыць кветкі і гатаваць лек, і прыклалі невялічкі падарунак за ініцыятыву, а паслаў бы ў Маскву, дык вядома, куды б паслалі яго самога, але гэта было ў Заходняй Беларусі, да вайны і да савецкай улады, і вось пасля савецкай улады ў Беларусі на тваё стагоддзе жыхары Вялікага Княства ізноў прамаўляюць слова «Еўропа» як мэту, як мару, як скрадзены вырай, як выбар, а не як тое, што належыць па праву нараджэння, батанікі, граматыкі ды іншых недакладных навук уключна з гісторыяй як lovestory.

**Дарагі Чэслаў,**

ты будзеш смяяцца, але, далібог, гэта праўдзівая гісторыя, якая здарылася са мной у баварскім курортным мястэчку, якое ляжыць пасярэдзіне паміж Пльзенем і Ліндаў, якраз на трасе твайго даўняга падарожжа праз Еўропу, я заблукаў і пытаўся дарогу ў некалькіх мінакоў, але яны не гаварылі па-ангельску, а я ніхт шпрэхэ дойч, пакуль, нарэшце, не сустрэлася англамоўная дама, нам аказалася па дарозе, і пакуль мы ішлі, яна спыталася адкуль я, і я сказаў «Weißrussland», бо гэты літаральны і недарэчны пераклад назову доўга заставаўся папулярным у Ня-

меччыне нават пасля незалежнасці, калі афіцыйна краіна стала называцца Рэспубліка Беларусь, і дама ажывілася і сказала — О, Чарнобыль! і таксама сказала, што даўно хацела ўведаць, у чым розніца паміж намі і рускімі, і я мог, канечне, пераказаць як мінімум тры раздзелы з тваёй «Радзіннай Еўропы» («Месца нараджэння», «Нацыянальнасці», «Расея»), але ў небе ззяла нямецкае сонца, навокал спявалі баварскія птушкі, на гарызонце бялелі аўстрыйскія Альпы, ну не будзеш выпадковай спадарожніцы пераказваць гісторыю Вялікага Княства, і на пытанне пра адрозненне беларусаў ад рускіх я адказаў, што гэта вельмі проста: мы — белыя, яны — не, і яна спынілася, як аслупянела, узяла мяне за руку і, гледзячы ў вочы, пранікнёна сказала: я вас вельмі разумею, я сама з Паўднёвай Афрыкі, і я сказаў, што заўсёды кажу, калі не ведаю, што сказаць: I love you too.

**Дарагі Чэслаў,**
я меўся напісаць табе ліст з падзякай роўна дзесяць год таму, калі мы папрасілі цябе прыслаць верш на свабоду для аднайменнай перадачы Радыё Свабода, якая гучала штодня ўвесь 2001 год — аўтары чыталі верш пра сваё разуменне свабоды на пачатку новага тысячагоддзя, і мы атрымалі больш за тысячу вершаў з Беларусі і трыццаці шасці краінаў, самай малой аўтарцы было 9 гадоў, самаму старому за 90, і свае вершы прыслалі два Нобелеўскія лаўрэаты з Вялікага Княства Літоўскага, Віслава Шымборска і ты, ты пісаў пра чалавечы розум, прыўкрасны і непераможны, якому не перашкодзяць ані краты, ані адданне кніг пад нож, ані выгнанне, ты назваў яго непрыхільнікам адчаю і прыхільнікам надзеі, але я не ведаю, ці здзівіўся б ты, калі мы б ізноў звярнуліся да цябе з такой самай просьбай, бо сёлета, у год твайго стагоддзя, мы ізноў запрасілі нашых слухачоў напісаць верш на свабоду, якая ў маёй краіне абмежавана

кратамі турмы КДБ, калючым дротам лагераў строгага рэжыму, выключэннямі з універсітэтаў, памыямі з дзяржаўных СМІ і здушэннем незалежных газет, паляваннем на ўдзельнікаў мірных пратэстаў пад двумя сцягамі, бел-чырвона-белым, які некалі лунаў на полі Грунвальдскай бітвы, і пад блакітным сцягам з дванаццаццю залатымі зоркамі, якія рэпрэзентуюць завершанасць і адзінасць і, як сцвярджаецца, прадстаўляюць усе народы Еўропы, нават тыя, якія апынуліся па-за інтэграцыяй, і што б ты, апостал надзеі, напісаў сёлета, калі рэвалюцыі на Блізкім Усходзе загараюцца, як саламяныя скірды, а ў геаграфічным цэнтры Еўропы за адзін месяц напісалі і прыслалі нам больш за сто вершаў на свабоду, і што гэта значыць, што тут, на абшарах ВКЛ, нацыя здэградавала ў дыктатуру і ўзнялася ў паэзію, бо і там, і там словы не звязаныя са справамі? ці толькі часова не звязаныя? ці мала яшчэ словаў і трэба больш? і што такое больш словаў? бо ты пісаў пра строгую іерархію, якая існуе ў паэзіі, а гэта значыць, словы не роўныя, і як бы ты цяпер расставіў па парадку веру, праўду, справядлівасць, мудрасць, надзею і любоў?

**Дарагі Чэслаў,**

у тым неадпраўленым лісце з падзякай было і пытанне: чаму ў тым тваім вершы ні разу не згадваецца слова «свабода» — верш прагучаў у эфіры, канечне, і мы ўключылі яго ў кнігу, але я стаў гартаць «Радзінную Еўропу», і неяк вока не чапляецца за слова «свабода», і я спытаўся свайго калегу Джона О., які аднойчы правёў з табой цэлы дзень у Сан-Францыска, вы гулялі па горадзе, заходзілі ў кавярні, потым абедалі разам, абмяркоўвалі новага прэзідэнта Картэра, які ўяўляўся крыху замяккім для пагрозы камунізму, якую Захад з розных прычынаў недаацэньваў, ты быў менш катэгарычны, чым толькі што высланы Салжаніцын, але падобны ў сваіх перасцярогах і песімізме,

і О., тады журналіст кансерватыўнай газеты, падумаў — вось яшчэ адзін незадаволены еўрапейскі інтэлектуал, які патрапіў у Эдэмскі сад і лічыць сваім абавязкам выяўляць недахопы раю, гэта было за пяць гадоў да тваёй Нобелеўскай лекцыі, і ты не быў яшчэ публічнай зоркай — celebrity — на Захадзе цябе ведалі і паважалі перш за ўсё як аўтара «Радзіннай Еўропы» і «Скутага розуму», як інтэлектуала і маральнага аўтарытэту, і я спытаўся О., ці гаварылі вы пра свабоду, і О. сказаў, што свабода цябе цікавіла больш як прадмет мастацтва і індывідуальнасці, чым прадмет палітычнага абмеркавання, а мультыкультуралізм, спытаўся я, ну, Мілаш адразу пабачыў бы, што гэта таталітарная хлусня, любое навязванне культуры дзяржавай — таталітарызм, культуры могуць існаваць толькі на сваіх тэрыторыях, трэба з павагай ставіцца да людзей іншых культураў, але культуры няроўныя, з рознымі каштоўнасцямі, і яны не могуць мець роўныя правы ўсюды і заўсёды, і я ўзгадаў твае словы пра немагчымасць патлумачыць невызначальнае зло татальнага рацыяналізму людзям, якія не перажылі яго, як немагчыма адчуць дыктатару, што такое свабода, і немагчыма патлумачыць чалавеку, які ніколі не быў закаханым, што такое love.

**Дарагі Чэслаў,**

прабач, я забыўся прадставіцца, не тое, што забыўся, проста гэта няпроста, вось табе спатрэбілася цэлая кніга, каб прадставіцца, паспрабую і я хоць бы пачаць, хоць бы вось так: мяне зрабілі мае бацькі, а іх — іхнія, і гэта трывіяльна, але праўдзіва, бо як ты сам прыгожа пішаш, веды пра сваё паходжанне ўсё роўна як якарны ланцуг, які трымае цябе на пэўным месцы, але гэта метафара марской нацыі, радзімы твайго нараджэння Літвы, ці радзімы тваёй мовы Польшчы, а ў акружанай з усіх бакоў лясным даляглядам Беларусі найчасцей гавораць пра

хатку — родную матку, і я пачну нават больш лакальна, з ложка з бліскучымі нікеляванымі шарыкамі і накрытымі карункавымі накідкамі падушкамі нечалавечай велічыні, такія багатырскія падушкі былі ў хатах абедзвюх бабуляў, ва ўсіх маіх цётак, ва ўсіх нашых суседак, імі ганарыліся, яны былі абавязковай часткай пасагу, але спаць на іх можна было толькі седзячы, — чаму яны былі такія вялікія? адказ я пачуў у адным з замкаў, якімі, як грыбамі пасля дажджу, засыпаная цэнтральная і заходняя Еўропа — каб не памерці ў сне, бо яшчэ Лукрэцый пісаў, што ў сне душа распадаецца на часткі і яны вылятаюць з цела, і лічылася, што калі чалавек сядзіць, душа не вылеціць, магчыма, гэтая засцярога і рабіла падушкі ў хатах маіх бабуляў і цётак выстарчана тугімі і гладкімі, як шчака немаўляці, і вялікімі, як для каня, на паўложка, потым не заставалася месца, каб выцягнуць ногі, і спалі так, і душа не вылятала, ніхто не паміраў у ложку ў сне, і ўвогуле ніхто не паміраў, і відаць, вось так, прадстаўленнем самога сябе я пачну некалі сваю новую кнігу, бо што яшчэ рабіць з хцівасцю вока і жаданнем укленчыць і ў лісці шукаць, як ты раіш, усё забытае, змярканні й ранкі, ружы, зоры й неба, але я паспрачаюся ў сваёй будучай кнізе з трыма тваімі высновамі, першая — ты казаў у Нобелеўскай лекцыі, што «абіраючы самотнасць і аддаючы сябе пісанню вершаў па-польску, занятку, дзіўнаму для жыхара Францыі або Амерыкі, я верыў у пэўны ідэальны вобраз паэта, які, калі і жадае славы, дык адно ў сваёй вёсцы ці сваім горадзе», але калі я думаю, што тут унікальнае для маёй радзімы, дык пэўна не самота, не жаданне славы, а тое, што пісанне на роднай мове — занятак дзіўны для жыхара самой маёй краіны, але ёсць тут і нечаканы плюс, пра які ты не ведаў, калі казаў у галоўнай лекцыі свайго жыцця, што «той, хто трымае ўладу, таксама можа кантраляваць і мову, і не толькі праз усталяванне цэнзуры, але яшчэ і праз змяненне сэнсу слоў» — не можа, дарагі Чэслаў, калі гэтай мовай не карыстаецца,

і так ствараецца свабода пустаты, хоць і няясна, праваліцца і знікне там назаўсёды такая рэальнасць ў цэнтры Еўропы ці не, і гэта другая спрэчная выснова, а трэцяя — ты кажаш, што сапраўднае пакліканне паэтаў ёсць сузіранне Быцця, яно быццам так, нават напэўна так, але ты сам сцвярджаў, што «свайго служэння знаць не трэба мэты», значыць, служэнне усё ж ёсць, і калі ад некага сапраўды залежыць будучая рэальнасць Еўропы, дык як абысціся без паэтаў, бо што такое Быццё без таго слова, якім ты назваў свой верш пра служэнне, такога падобнага да твайго прозвішча *Miłosz —Miłość — любоў.*

## Перамога слабых*

Нобелеўская прэмія для Беларусі — як Чарнобыль наадварот.

Ейнае выпраменьванне прасякнула б жыццё нацыі на пакаленні наперад і асвяціла б на пакаленні назад. У гэтым святле адкрылася б — і так стала існай — уся Беларусь, мінулая і будучая, для свету і для сябе самой. Спраўдзілася б Купалава метафара пра пачэсны пасад між народамі.

З Нобелеўскага п’едэстала загаварыла б уся нашая задушаная, закатаваная, расстраляная ў XX стагоддзі літаратура і мова. Яна б уваскросла, як Хрыстос пасля зняцця з крыжа.

Усё гэта — аргументы слабасці. Вонкавае прызнанне — пацверджанне істотнасці існавання, яго вартаснасці — патрэбнае тым, хто сумняецца ў сабе. Беларусы сумняюцца.

Толькі слабыя ведаюць, што такое перамога.

* Фрагмент для перадачы «Вострая Брама», 05.07.1998. Яшчэ быў жывы Быкаў.

*Усім, хто адрозна ад аўтара ведае,*
*што хоча і як трэба*

## Паміж

Так казаць — «паміж Кафкам і Швейкам» — нельга, бо адзін аўтар, а другі літаратурны герой. Адзін худы, другі любіў ліверныя каўбаскі. Адзін пісаў кнігі, другі краў сабак. Адзін вывучаў юрыспрудэнцыю, другі піў піва. У аднаго чалавек становіццам жуком, другога прайгралі ў карты. Аднаго пасля смерці прызналі геніем, другога пры жыцці ідыётам. І каму лепш? Не кажучы, што прынамсі ў адным выпадку дакладна памыліліся.

Тоё-сёе, канечне, змянілася за сто апошніх гадоў, і розніцу паміж абсурдам і проста хаосам цяпер адшукаць куды цяжэй — але спрабаваць трэба.

## А вы чыталі?..

Даўно-даўно, адразу пасля пераезду з Мюнхена ў Прагу, дзе ў мяне, канечне ж, адразу ўкралі аўтамабіль, я пайшоў у паліцыю, выклікалі перакладчыцу, афіцэр уціснуў у друкарскую машынку пяць аркушаў пад капірку, я адказаў на ўсе пытанні паліцэйскага пратакола, ён дастаў аркушы з карэткі і пачаў ставіць нейкія галачкі ў тэксце і патлумачыў, што зламаная літара «V», і ён мусіць яе ўпісваць ад рукі, і я, каб, відаць, развеяць смутныя сумненні ў эфектыўнасці будучых пошукаў, папрасіў перакладчыцу спытаць, чаму яны не адрамантуюць машынку.

— У нас такая бюракратыя, што, каб замовіць рамонт, мне трэба напісаць з тузін лістоў, — ахвотна патлумачыў паліцэйскі. — А як я іх напішу, калі няма літары «V»?

— Вы чыталі Кафку? — спытала мяне перакладчыца.

Тут паліцэйскі скончыў упісваць прапушчаную літару ў першым асобніку і пачаў у другім.

— Спытайце яго, — агаломшана папрасіў я перакладчыцу, — чаму ён адразу не паставіў усе «V»пад капірку?

— Вы чыталі Швейка? — спытала мяне перакладчыца.

Аўто шукаюць дагэтуль, але я лічу, што гэта справядлівая цана за вышэйпрыведзены дыялог.

## Адэса-Мінск: 3:2

Мой сябар-рэжысёр, які працаваў у Адэскім драматычным тэатры, запрасіў на прэм’еру. Самалёт з Мінска прылятаў якраз упрытык, селі хвілін за 20 да пачатку спектакля, я ўскочыў у таксі, даімчаўся да цэнтра, разлічыўся, пропуск чакаў у касе, я зайшоў у поўнае народу, залітае святлом фае, адразу накіраваўся да дамы, якая прадавала праграмкі, і задаў актуальнае пытанне: прабачце, дзе тут у вас туалет?

— А вам які, мужчынскі ці жаночы? — спыталася дама.

Я азірнуўся, сцяміў, што прыляцеў у Адэсу і ветліва спытаў, які лепш. Народ заўсміхаўся, дама пасур'ёзнела:

— Сорамна, малады чалавек, усё жыццё жыць у Адэсе і ўпершыню прыйсці ў тэатр!

Пачуццё нацыянальнай годнасці засціла мне вочы, і я з гонарам патлумачыў, што жыву ў Мінску, і ў нас у тэатр ходзяць не дзеля гэтага.

— Тады навошта пытацца?

## Экзамен для апазіцыі

Аднойчы я памыліўся на паўпрацэнта ў прадказанні вынікаў чарговых прэзідэнцкіх выбараў, але паколькі астатнія 99 % назваў правільна, дык мяне пачалі ўсюды запрашаць, ад жывога эфіру CNN да розных не менш навуковых канферэнцыяў. Якраз па такім запрашэнні я ляцеў у Амерыку з перасадкай у Амстэрдаме і, калі дайшла мая чарга, супрацоўніца службы бяспекі з сумненнем пакруціла мой заштэмпеляваны і заклеены візамі пашпарт і спыталася пра мэту падарожжа. Я патлумачыў, што запрошаны ў Гарвардскі ўніверсітэт, яна папрасіла паказаць запросіны і пайшла па начальства.

— І якая дакладна тэма вашага выступу? — з недаверам гледзячы на мяне і на запросіны, спытаў начальнік службы бяспекі.

— Дэмакратычная альтэрнатыва: ці ў стане апазіцыя змяніць аўтарытарны дыскурс, — сказаў я.

— Ну і? — спытаў начальнік.

— Што ну і?

— Ці ў стане?

— Вам поўны адказ ці можна кароткі? — з сарказмам пацікавіўся я.

— Можна кароткі, але лепш, каб ён быў добры, — параіў начальнік. І патлумачыў — ён вывучаў паліталогію ва ўніверсітэце. Я азірнуўся — вакол нас даўно ўтварылася трывожная пустата, чарга на пасадку агінала выспу небяспекі, ахова чакала толькі сігналу.

— І так, і не, — сказаў я.

— Прапусціце, — махнуў рукой начальнік. — Менавіта такія адказы яны й даюць на гэтых канферэнцыях.

## Прафесар рэстытуцыі

Я сядзеў у чытальні ўніверсітэта ў Фларэнцыі, куды прыехаў на нейкую канферэнцыю, калі пачуў, як бібліятэкарка гучна кліча некага:

— Прафесар! Прафесар!..

Я працягваў чытаць, а бібліятэкарка паўтарыць: прафесар! Агледзеўся — больш нікога няма, каму гэта яна?

— Прафесар, вас да тэлефона! — аказваецца, мне.

Ну не будзеш жа тлумачыць кожнаму, што ты толькі журналіст, бяру слухаўку, а там таксама прафесар — то ды сё — ці не пагаджуся я заўтра прачытаць лекцыю па сваёй спецыялізацыі, пра рэстытуцыю. Я мог бы зараз напісаць, што не дачуў, ці што яго ангельская была з італьянскім акцэнтам, але скажу як ёсць: я не ведаў тады значэння слова «рэстытуцыя» — вяртанне гвалтоўна нацыяналізаванай маёмасці яе ўласнікам, напрыклад, зямлі майму дзеду. Падумаўшы, што гаворка альбо пра прастытуцыю, альбо пра канстытуцыю, і прыкінуўшы, што хутчэй вядзецца пра другое (я надрукаваў у заходнім друку некалькі артыкулаў пра свой мясцовы канстытуцыйны працэс і 25 варыянтаў асноўнага закона, якія напяклі дэпутаты), я пагадзіўся.

Увечары ў гатэлі вырашыў усё ж падрыхтавацца — напісаць план-канспект — але батарэя ў кампутары разрадзілася. З са-

бой у мяне быў маленькі «Макінтош», падарунак з Амерыкі, з пляскатай вілкай, якая не падыходзіла да разеткі ў гэтым гатэлі, пабудаваным ці не ў адзін час з суседнім знакамітым мостам Векія. Я разагнуў дзве металічныя скрэпкі, прыкруціў іх да вілкі, уставіў у разетку. Потым сеў, зачапіў шнур, бліснула іскра, і стала цёмна. У калідоры пачуліся галасы, у дзверы пастукалі. Я адкрыў — аказваецца, электрашчыт усяго гатэля месціўся ў гэтым пакоі, высока пад столлю. Прынеслі лесвіцу, нешта там рамантавалі, потым доўга казалі: Scuzi, signor, праводка старая, ледзь не ад часоў Борджыя, разеткі мянялі апошні раз яшчэ за Мусаліні, тут усё — гістарычны помнік і дзяржава не дае перабудоўваць, чао, бона сэра, туці белле.

Я ўзяў шнур, разагнуў скрэпкі, асцярожна зноў уставіў у разетку, загарэўся экран, я задумаўся над першым тэзісам, павярнуўся, бліснула іскра і пайшоў дым, я засунуў кампутар пад падушку, выскачыў у цёмны калідор і, трымаючыся за сцены, хуценька пайшоў да лесвіцы і на выхад пад энергічныя выразы, дакладнага значэння якіх я не ведаў, але здагадваўся. Пабачыўшы на вуліцы, што святла няма не толькі ва ўсім гатэлі, але і ў суседніх дамах і на палове моста, я вырашыў за лепшае пайсці пагуляць па начной Фларэнцыі, балазе надвор'е спрыяла, стаяла дзіўная італьянская ноч, кавярні былі адчыненыя, жыццё ззяла там, дзе было святло...

Назаўтра я выступіў з імправізаванай лекцыяй пра кафкіянскую прыроду нацыянальнага канстытуцыйнага працэсу, па ходзе ўзгадваючы прыклады, якія гучалі, як анекдоты, аўдыторыя паапляскала ў далоні, перайшлі да пытанняў — і першае было пра рэстытуцыю. Я папрасіў удакладніць, сцяміў, пра што гаворка і аўтарытэтна патлумачыў, што ў нас ніякай рэстытуцыі няма, таму няма пра што гаварыць.

Усе былі задаволеныя, да мяне падыйшлі два швейцарцы, юрысты вядомага банка з Цюрыху, і з недаверам перапытвалі,

няўжо яшчэ не пачалася рэстытуцыя, і з агнём у вачах настойліва раілі мне гэтым заняцца, бо гэта такая прыбытковая рэч, гер прафесар, асабліва нерухомасць, вось нашыя візіткі.

Я ўзгадаў, як напярэдадні ледзь не спаліў цэлы квартал з мостам Векія, падумаў, што мне ад нерухомасці, асабліва старажытнай, лепш трымацца далей і візіткі выкінуў.

А «Макінтош» у мяне працуе дагэтуль.

## Белыя, нярускія

Я прыехаў на сустрэчу з сябрам у невялікі, але сусветна вядомы курорт Бад-Райгэнгаль, на поўдні Баварыі, пакінуў машыну на стаянцы і пайшоў шукаць парк, дзе мы дамовіліся сустрэцца. Спытаў аднаго, другога мінака — не гавораць па-ангельску, а я ніхт шпрэхэ дойч. Нарэшце сустрэлася дама, якая гаварыла па-ангельску і якраз сама ішла ў той бок. Дама пацікавілася, адкуль я.

— З Вайсруслянд, — адказаў я. Гэты калькаваны пераклад назвы Беларусі доўга заставаўся папулярным у Нямеччыне яшчэ з савецкіх часоў.

— О, Чарнобыль, — ажывілася яна. — Я даўно хацела ўведаць — якая розніца паміж вамі і рускімі?

Ну не станеш выпадковай спадарожніцы пераказваць кнігу Уладзімера Арлова «Адкуль наш род» — нямецкае сонца ззяе, баварскія птушкі пяюць, аўстрыйскія Альпы бялеюць на гарызонце...

— Гэта проста, — сказаў я. — Мы — белыя, яны — не.

Дама спынілася, узяла мяне за руку, зазірнула ў вочы і пранікнёна сказала:

— Я вас вельмі разумею. Я сама з Паўднёвай Афрыкі!

## Прафесійна. І танна.

Я працаваў тады ўжо ў Празе, але жыў яшчэ ў Мюнхене, і на выхадныя ездзіў туды-сюды, большасць дарогі праходзіла праз маленькія гарадкі і вёскі, кружляла па гарах, і толькі апошнія кіламетраў 150 быў аўтабан — хуткасная траса, падзеленая жалезным бар'ерам, які пагнуўся, але вытрымаў шматтонны ўдар майго «Опеля», які раптам крутанула на чорным нябачным лёдзе і метраў сто ваўчком кідала ад аднаго бар'ера да другога, але не перавярнула, і за мной блізка ніхто не ехаў. Багажнік адкрыўся, я выцягнуў сумку, заплаціў 70 марак дарожнай службе дапамогі, каб зацягнулі машыну на металалом, мяне падкінулі да маленькага прыпынку, мясцовая электрычка давезла да суседняга гарадка Ляндсгут, і там я сеў у таксі і назваў адрас: Мюнхен.

— О, калі б я жыў у Мюнхене!.. — уздыхнуў малады таксіст. І патлумачыў — там сорак шэсць тэатраў, а ў Ляндсгуце толькі два. Ён іграў на сцэне, але гарадок маленькі, толькі 30 тысяч жыхароў, заробкі сціплыя, мусіў кінуць, бо трэба ж неяк жыць, плаціць за кватэру.

— І пайшоў у таксісты? — дзеля ветлівасці спытаўся я — мне самому карцела расказаць, што толькі пераажыў.

— Не, пасля тэатра я пайшоў на атамную станцыю, там добра плацілі, — адказаў экс-актор і патлумачыў: гарадок маленькі, не надта каб хто хацеў поўзаць па радыеактыўных трубах, калі што здаралася, але ён прапрацаваў там некалькі гадоў.

— І потым на таксі?

— Не, пасля гэтага працаваў у секс-шопе, два гады. Перада мной, дарэчы, ніхто не вытрымліваў болей за месяц.

— Чаму? — зацікавіўся я, вырашыўшы, што мая гісторыя можа пачакаць,

— Ляндсгут — горад маленькі, — паведаміў былы рознарабочы ядзернай прамысловасці. — У нас толькі два секс-шопы, якія належаць аднаму ўладальніку, у адной працуе ён сам, у другой наймае прадаўцоў.

— І чаму яны звальняліся?

— Горад у нас хоць і маленькі, але мае 30 касцёлаў, і ўсе ходзяць да імшы, і для іх нашыя крамы — тэрыторыя граху, значыць, усё можна, — пачаў тлумачэнне былы працаўнік секс-індустрыі. — Вось яны прыйдуць, паходзяць паміж паліц, возьмуць часопіс ці відэакасету, засунуць пад куртку і на выхад. Усё кралі. А я паставіў сістэму люстэрак, кабназіраць. Яны толькі ў дзверы — я кнопку націсну і замкну, яны да мяне — а я кажу — 40 марак за часопіс пад курткай!

— І што, усе кралі?

— Не, былі прыстойныя кліенты, напрыклад, прастытуткі. Прэзерватывы куплялі.

Я ўжо жыў у Нямеччыне пару гадоў, але менш чым за паўгадзіны ўведаў пра нямецкае жыццё больш, чым за ўвесь папярэдні час. Я забыўся пра аварыю, у якой цудам не атрымаў ні драпіны, пра разбіты аўтамабіль, адпраўлены на металалом, і толькі задаваў пытанні — можа, перажыты стрэс так актывізаваў журналісцкія інстынкты.

— І якія? Якія менавіта вырабы з мноства прадстаўленых на рынку прадуктаў з розных краінаў Азіі і Еўропы самых разнастайных мадыфікацыяў выбіралі прафесіяналы?

— Як якія, — здзівіўся экс-актор, былы работнік мірнага атама і працаўнік гандлёвага сектара секс-індустрыі. — Канечне, самыя танныя!

Рахунак, які пазней мне прыслалі за пашкоджаны дарожны бар’ер, не паказаўся занадта высокай аплатай за атрыманыя веды.

## Із-за лубві

Глядзець на голых мужыкоў у лазні не прынята, так, край вока міжволі зачэпіцца, і ўсё, на што там глядзець, нават для параўнання, але ў перадлазенцы, дзе мы распраналіся, вісела люстэрка, і я не мог не пабачыць майго суседа, а ён — маю рэакцыю, бо люстэрка ў асобным нумары знакамітых тбіліскіх серных лазняў, апетых Пушкіным, было на паўсцяны.

Мой знаёмы быў сіні.

Знаёмы гэта моцна сказана — я ўпершыню пабачыў яго паўгадзіны перад тым, калі выйшаў з гатэля, спусціўся па заваленай снегам крутой дарожцы да моста праз Куру і перапытаў адзінага мінака дарогу да серных лазняў. Напярэдадні ў Грузіі адбыліся датэрміновыя прызідэнцкія выбары, на якія прыляцеў як журналіст, раніца была надзвычай ціхая, Тбілісі спаў пад снегам пасля выбарчых жарсцяў і, як высветлілася, адзіны чалавек на набярэжнай таксама ішоў у лазню, і мы пайшлі разам. Аказалася, што больш ніхто туды не йшоў — і выявілася, чаму: выхадны, агульнае аддзяленне закрытае.

Але побач з-за паўкруглых купалаў выходзіла пара, гэта былі асобныя нумары, з індывідуальным басейнам з гарачай сернай крыніцай, мармуравай падлогай, праасторнай шатняй і вялікімі люстэркамі. З такога люстэрка на мяне якраз і глядзеў увесь пакрыты сіняй татуіроўкай мой знаёмы Арчыл.

— Ты не бойся, я не бандыт, — супакоіў ён мяне. — Гэта із-за лубві.

Прызнацца, думка пра турэмны жанр жывапісу мільганула была — не столькі з-за карцінак, якімі была пакрытая яго скура, колькі з-за тэкставых украпленняў. Я чытаў недзе, быццам у злодзеяў існуюць свае правілы, што каму можна наколваць (вось табе і свабода слова), і чым большы ты аўтарытэт, тым больш

маеш права напісаць, а на маім суседзе было што пачытаць — толькі ў люстэрку ўсё адбівалася наадварот.

Але сапраўды, у кожным радку было жаночае імя.

«Тамара блят» было на левай груднай мышцы. На правай, пад сэрцам, прабітым стралой Амура, сінела расчараванае «І Оля тожи блят», над пупком змяілася аналагічная сентэнцыя, прысвечаная невядомай Ніне, і завяршала тэму агульная выснова пра ўсіх баб, якія, як выглядала, даволі рэгулярна разбівалі сэрца нястомнага шукальніка дзявочай цнатлівасці і прыхільніка чужой манагаміі аж да нанясення сабе нязмыўных эпітафіяў.

Арчыл аказаўся сапраўды даволі эмацыйным чалавекам з цвёрдымі поглядамі не толькі на жаночую вернасць.

Пасля райскага сядзення ў гарачай сернай вадзе, якая выцякала з крыніцы, а з круглай дзіркі ў купале павольна спускаліся сняжынкі, але раставалі, не далятаючы да нас, прыйшоў мэкісэ — лазеншчык, які паклаў мяне на мармуровую лаву і пачаў свае рытуалы, якім яго навучыў яшчэ дзед, які таксама працаваў тут, як і дзед дзеда. Пакуль я, распластаўшыся пад спрактыкаванымі хуткімі пальцамі, расслаблена спрабаваў палічыць, хто мыў Пушкіна, прадзед ці прапрадзед майго мэкісы, Арчыл спытаўся, за каго той галасаваў напярэдадні.

— Як за каго? За Гачэчыладзэ, канечне, — адказаў мэкісэ і, узляцеўшы над мармуровай лавай, дзвюма нагамі апусціўся мне на спіну — пачынаўся легендарны масаж пяткамі, калі мэкісэ лёгкім танцам праходзіць уздоўж хрыбетніка кліента, а той, каб застацца жывым, мусіць расслабіцца і ўпасці ў нірвану, цалкам адключыўшыся ад навакольнага свету.

— Ну ты дурак, — сказаў Арчыл. — За такога дурака галасаваў.

— Я дурак?! — перапытаў мэкісэ і ўрэзаў мне правай пяткай па нырках. — Гэта ты дурак няшчасны са сваім Саакашвілі!

Пасля чаго левай пяткай лупануў мне па печані.

— Ідыёт проста, — сказаў Арчыл. — Разве можэт нармальны чалавек галасаваць за гэтага ідыёта?

Удар пяткай у раён левага лёгкага, а затым правага быў нанесены пад каментар у адказ пра асаблівасці разумовага развіцця майго знаёмага. Перадвыбарчыя мітынгі на тбіліскіх вуліцах нагадвалі карыды пад час пажару, а я ў гэтай сітуацыі быў калі не быком, дык біфштэксам, з якога рабілі адбіўную.

Мяне ўратавала хіба толькі тое, што не было другога тура, і дыскусія абмежавалася падзеямі, якія адбыліся, а не якія яшчэ адбудуцца, бо тады важна было б пераканаць недарэчнага суразмоўцу, як правільна галасаваць другі раз, і не ведаю, ці я асабіста дачакаўся б другога тура.

Асабліва мяне цешыла падкрэсленая ветлівасць да госця, які не гаворыць па-грузінску, і таму дыскусія вялася на зразумелай яму мове.

Быццам бы я і так не зразумеў.

## «Энеіда» навыварат

Я ішоў па цэнтральным тбіліскім праспекце Руставелі ў пошуках кнігарні, — але іх месца занялі ўсяісныя буцікі і фірмовыя крамы, і кнігі, прыкрытыя ад снегу поліэтыленам, як гуркі ў парніку, прадавалі проста са стэндаў на вуліцы: букіністычныя і новыя, пераважна расейскае чытво, і калі я пытаўся раз за разам Вергілія, на мяне глядзелі без здзіўлення, але са спачуваннем. Якраз напярэдадні ў самалёце я натрапіў у газеце «Wall Street Journal» на выдатны артыкул пра «Энеіду», і захацелася адкрыць кнігу.

Пабачыўшы ў арцы паказнік — кніжная крама, я зайшоў у нейкі двор, дзе пад'езд быў пераабсталяваны пад маленькую

крамку, усю застаўленую спецыялізаванай кампутарнай і медычнай літаратурай.

Я не стаў нават пытацца і павярнуўся ўжо да дзвярэй, калі джэнтльмен у паліто і капелюшы, гаспадар гандлёвага месца, спытаўся, што мяне цікавіць. Я сказаў.

— У мяне няма, — джэнтльмен на хвіліну задумаўся, затым дастаў тэлефон. — Калі ў каго і ёсць, дык гэта ў Васі.

Ён набраў нумар, павітаўся і папрасіў Васю.

— Спіць? Будзьце ласкавыя, скажыце, вельмі пільна.

Было ўжо добра за поўдзень, але ці мала чаму чалавек спіць днём. Можа, ён уначы раман піша, новую «Энеіду». Ці дзень нараджэння адзначаў.

Некаторыя людзі вельмі настойлівыя — я даўно б ужо сышоў, але няёмка было перад джэнтльменам, які так і стаяў з тэлефонам ля вуха ў чаканні, пакуль недзе шукалі, будзілі, вырывалі з абдымкаў грузінскага Марфея загадкавага Васю, тлумачылі, хто звоніць. Калі той нарэшце ўзяў трубку, перагар адчуў нават я.

— Вася, у цябе ёсць «Энеіда»? — будзённым голасам, нават не павітаўшыся, спытаўся джэнтльмен.

Станіслаўскі заплакаў бы ад паўзы, якая наступіла, і трымалася, і не сканчалася, і працягвалася — гаворка, канечне, пра паўзу з нашага з джэнтльменам боку, бо ў трубцы, на тым баку нябачнай, паўсталай ад сну, далёкай, як старажытнагрэцкае Міжземнамор'е рэчаіснасці, адбывалася, фармулявалася і выказвалася нешта, што па сіле ўздзеяння, магчыма, не саступала Вергілію, хаця і не ўпэўнены, што гэта былі эклогі. Магчыма, георгікі. Яны больш дыдактычныя.

— Ну, дзякуй, — бясстрасна сказаў нарэшце джэнтльмен і закрыў мабільнік. — У Васі няма. Значыць, нідзе няма.

Ён меў рацыю. У Тбілісі «Энеіду» я не знайшоў, у суседнім Баку, куды прыляцеў праз дзень, таксама, затое ў самалёце

пазнаёміўся з мужыком, які на пытанне, адкуль ён родам, адказаў:

— Я нарадзіўся ў Агдаме.

Я не паверыў сваім вушам — на партвейне «Агдам» (1 руб. 62 кап.) была пабудавана ўся культура міжчалавечых адносінаў і эканамічных стасункаў эпохі позняга брэжневізму.

Звалі яго, канечне, Вася. Усё астатняе, што адбылося, — не для друку. Скажу толькі, што Вергілію такое не снілася.

## Антысавецкі зэдлік

Мой светлай памяці цесць, які працаваў у гаражы механікам, быў чалавек суровы, прамы, любіў парадак, дысцыпліну і выпіць, з партыі выйшаў, калі захацеў зэдлік.

Ягоны сябар, былы настаўнік, аднойчы, калі ў школе на сходзе ўзяліся асуджаць Салжаніцына, сказаў, пачакайце, яшчэ вуліцы яго імем называць будуць, і пасля гэтага стаў выключна рабіць зэдлікі ды іншую сталярку, бо ў школу ўжо прыходзіць не трэба было. Цесць папрасіў зэдлік, каб зручна было каля печы седзячы паліць, дровы варушыць, попел выграбаць, на што сябар сказаў: выйдзеш з партыі — зраблю.

Цесць і выйшаў. Тут што бянтэжыць: напрыклад, тое, што па вайне бальшавікі ў яго сям'і мельніцу рэквізавалі, зямлю забралі, потым бацьку арыштавалі, што ён Калініну пісаў і ўратаваў такі бацьку, не даўся ператварыць сябе ў калгаснага раба і ўцёк з вёскі, і стаў шафёрам, пра камуністаў і начальства выказваўся так, што ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць, і, нягледзячы на ўсё гэта, на сходы хадзіў і партузносы плаціў. А захацеў зэдлік — і ляснула ўся стройная сістэма марксісцка-ленінскай адукацыі, абавязковых палітінфармацыяў, стэндаў пра гістарычныя звяршэнні і за мір ва ўсім свеце.

Цесць зрабіў практычна. Я думаю, што ўвогуле гарбачоўскія рэформы трэба было называць не перабудовай, а практычнасцю.

— Слухай, — сказаў ён неяк мне. — Я тут ямку для слупа капаў на агародзе, і рыдлёўка аб нешта дзынкнула. Тут жа некалі мытня была, мо хто золата закапаў. Схадзі адкапай.

Я ўзяў рыдлёўку, пайшоў быў, але спыніўся:

— Дык а чаму Вы не выкапалі?

— А раптам бомба.

Даўно няма той партыі, ад сардэчнага прыступу пасля рэфэрэндума пра бел-чырвона-белы сцяг і Пагоню памёр цесцяў сябар-настаўнік, і сам ён ужо знайшоў спачын пад бярозамі на ўзгорку Радашкоўскіх могілак.

А зэдлік і цяпер служыць. І золата чакае археолагаў.

Ці бомба.

## Экстрэмальны адпачынак

Адпачынак у аграсядзібе пачаўся так: з раніцы з'явіліся з аховы прыроды правяраць прыроду, потым з энерганагляду правяраць лічыльнікі, потым пажарнікі, і ўсім чамусьці трэба было паглядзець на мяне. Да таго, што тэлефоны слухаюць і праяўляюць пільнасць, я прывык — ну такая баязлівая ўлада, страшна ёй, калі не запіша чужыя размовы. Адзіную суседку на хутары звалі Стася, было ёй, мабыць, тысячу гадоў, жыла адна, дакладней, з двума катамі, трыма сабакамі, сям'ю авечкамі, дзясяткам гусей, трымала куры, карову і цёлку.

Прычым дапрасіцца купіць у яе яек ці сыру было немагчыма. Апроч прыроднай скнарнасці, была яна адначасна антысаветчыцай, нацыяналісткай і лукашысткай.

Пачуўшы, што я гавару па-беларуску, вынесла прысуд, як у сук уляпіла:

— Ты, відаць, бэнээф.

Сама пры гэтым размаўляла толькі па-беларуску і лепш за мяне, усіх расейцаў крыху пагардліва называла выключна маскалямі і лічыла іх няздарамі, лянівымі і зладзеяватымі, савецкіх партызанаў — бандытамі, з суседніх літоўцаў кпіла, што, маўляў, усё распрадалі, нават Дом урада прыватызавалі, хадзіла да касцёла, глядзела штовечар беларускае тэлебачанне, верыла кожнаму слову, і прэзідэнт быў яе недатыкальны герой.

На слупе перад маім акном была буслянка, адкуль выглядалі двое птушанят, якім бацькі па чарзе прыносілі жабак. Аднойчы я пацікавіўся: хто гэта застаўся на варце пільнаваць коршака — бусел ці бусліха?

— Ты з Чэхіі прыехаў і не ведаеш? Ты ўвогуле бабу ад мужыка можаш адрозніць?..

Але потым патлумачыла, што ў бусла дзюба даўжэйшая і барада, а ў бусліхі няма, і доўга не давала веры, што я з яе не смяюся. А ці бачыла яна бброў, кажуць, вярнуліся?..

— Стаю на беразе, а ён кругамі ходзіць, плавае, рыжы, галава як у цяляці, сонца ўстала, не вытрывала і кажу: ой, які ж ты харошы, які ж ты прыгожы! А ён як дасць хвастом, уся вада ўгору і на мяне, стаю ўся мокрая, як абасцалася!

— А ці ёсць тут драпежнікі?

— Аднаго разу рысь прыйшоў. Сеў, шкура светлая, плямы па спіне і вось такія вушкі! — і скруціла дзве дулькі, дакладна як рысіны вушкі з кістачкамі.

У апошні дзень я чакаў гасцей і налавіў штук дваццаць карасікаў, вярнуўся з возера, пакінуў вуду і пакет на дровах, якімі быў абкладзены дом, і сам пайшоў пераапрануцца й памыцца. Выходжу на двор — пакет на зямлі, і цётчын кот, сабака, дадушвае мой улоў. Засталося чатыры карасі.

Я за катом, той ходу, тут Стася ідзе.

— Ну цётка, вы да касцёла ходзіце, а кот ваш бандыт! Злаўлю і засмажу для гасцей, ён жа адразу карасямі нафаршаваны!

— Хто ж рыбу на двары пакідае? Вось ты з Чэхіі прыехаў, а мой кот за цябе разумнейшы!

Спрачацца не стаў, я ж не чэх.

## Украінскае пытанне

У горадзе Львове мой сябар кніжны графік Гена пытаецца ў кнігарні: чаму кніга называецца «Архітэктура Львова», а не «Львіва». Мы ўжо трэці дзень у сталіцы Заходняй Украіны, гаворым усюды па-беларуску, нас разумеюць лепш, чым у Беларусі. Прадавачка глядзіць на яго падазрона: ці не падколка. Калі ўпэўніваецца, што не, задумваецца сама і ідзе па начальства. Начальства прыходзіць з квітанцыямі ў руках і звярае тэкст дазвольнай пячаткі на ліцэнзіі на гандаль з назвай кнігі — на гарадскім штампе «Львів». Хвілінаў пяць яны ўдвох займаюцца пошукам адказу, дзе праўда, хто вінаваты і што рабіць, на шчасце, не знаходзяць (разгадка ў родным склоне), і тады пытаюцца, што ўвогуле нам трэба?

— Кнігу, як рабіць варэнікі.

— Гэта ў аддзеле філасофскай літаратуры, — з палёгкай кажа дырэктар.

На гэты раз бянтэжымся мы — ці не падколка? Але паслухмяна ідзем у філасофскі аддзел, і паміж тамоў Вольфганга Гегеля і Грыгорыя Скаварады нам знаходзяць цяжкі том пад загалоўкам «Украінская смакота», дзе, сапраўды, апісаны містычныя працэдуры паходжання варэнікаў. Яшчэ больш нас уражвае, што ўсе кнігі сусветнай філасофіі на паліцах — па-ўкраінску, і ўсё гэта новыя выданні, мы з зайздрасцю абмяркоўваем гэты феномен, калі нацыя ведае цану сваёй мове, шануе

і падтрымлівае, і вучыць на ёй сэнсу жыцця і гатаванню варэнікаў, што, канечне, часам супадае, і тут прадавачка філасофіі пытаецца:

— Ой, ви так гарно розмовляєте по-українськи! Звідки ви, мабуть, з Києва?..

Хто стаў кіраўніком Украіны пасля аранжавага прэзідэнта, усе ведаюць.

Цяпер ведаю не толькі чаму, але й што з гэтага можа атрымацца.

## Дзяржынскі як прыметнік

Нялёгкая журналісцкая доля закінула была мяне на станцыю Койданава, таксама вядомую як горад Дзяржынск. Добрыя дзяржынцы паказалі шлях да адзінага ў горадзе рэстарана. Ён называўся «Дзяржынскі», што даволі зручна для запамінання. Я спытаўся ў афіцыянткі, ці праўда, што супрацоўнікі КДБ тут маюць зніжку.

— Вы што, у нас нават супрацоўнікі агракамбіната «Дзяржынскі» не маюць зніжкі! — абурылася дзяўчына. Рэстаран належыць агракамбінату.

Прынеслі меню. Першай у раздзеле «першыя стравы» красавалася «Салянка «Дзяржынская».

Нічога аказалася салянка, хоць цана для шараговых дзяржынцаў усё ж трохі контррэвалюцыйная. Маладая спецыялістка ў адной мясцовай установе, якую я наведаў, распавяла, што зарабляе каля 2,5 мільёнаў — якраз на сто салянак.

Я паспрабаваў задаць афіцыянтцы падступнае пытанне:

— Вы ведаеце, хто такі Гімлер?

— Не, — упэўнена адказала дзяўчына.

— А Яжоў?

Яжова яна таксама не ведала, а вось слова «Берыя» недзе чула. Я не вытрымаў падступнасці і спытаўся ў лоб — чаму рэстаран называецца «Дзяржынскі»?

— Дык жа наш агракамбінат называецца «Дзяржынскі»! — патлумачыла відавочнае юная дзяржынка.

Больш я нічога не пытаўся. Дзяржынскі тут даўно перастаў быць арганізатарам ЧК і іншых рэпрэсій, а ператварыўся ў прыметнік, якім можна называць калгас, суп, гарэлку, гару і нават пастараль — усё астатняе можна прачытаць на інфапартале з запамінальнай назвай dzr.by.

Невядома, каму за гэта дзякаваць — сістэме адукацыі, часу, заробкам, якіх хапае на тры міскі супу ў дзень. Дарэчы, менавіта так сціпла, калі верыць савецкім падручнікам, харчаваўся некалі і Фелікс.

Але яму што, ён быў жалезны.

## Lenan dumaje pra Belarus

Запрасілі выступіць з лекцыяй пра Беларусь перад выкладчыкамі і студэнтамі Стэнфардскага ўніверсітэта. Але папярэдзілі, што не для гуманітарыяў, прыйдуць розныя будучыя Стывы Джобсы, якія чуць не чулі, дзе там што якое апошняе ў Еўропах, дык трэба даступна.

Дранікі пячы я не ўмею, так што спыніўся на самай беларускай песні, якую ведаў: «Yesterday», тым больш што лекцыя называлася «Сёння як учора і чаму гэта спрацоўвае ў Беларусі».

*Yesterday, all my troubles seemed so far away*
*Now it looks as though they're here to stay*
*Oh, I believe in yesterday*

Для бацькоў прысутных Бітлз былі ўжо нечым учорашнім нават у іх школьныя гады, а для іх дзяцей проста туманнай і нерэлевантнай класікай. Так было да маёй лекцыі.

Характарыстыку бягучых падзеяў дала ва ўступным слове даследчыца з Гувераўскага інстытута, а я з дапамогай Пола Макартні адразу пачаў з тлумачэння, як да такога дакаціліся.

Літаральна: *Учора ўсе мае беды здаваліся так далёка*

Насамрэч: Герой робіць тры амбівалентныя сцвярджэнні адначасна. А) Прызнае наяўнасць і рэальнасць розных бедаў (напр., за савецкім часам гэта чэргі, дэфіцыт, цэнзура, блат, не выехаць за мяжу і да т.п.); Б) Прызнаецца дэ-факта, што беды нікуды ніколі не знікалі, а проста ўяўляліся далёкімі (напр., бо нельга было абмяркоўваць, ці не хацеў думаць, ці піў і да т.п.). В) Аб'ектывізуе сказанае, калі дадае каардынату «учора» (маўляў, я кажу гэта сёння пра сябе і завершаную сытуацыю — гэта канкрэтны досвед, як я яго памятаю, ацэньваю і падаю).

Літаральна: *Цяпер падаецца, быццам яны застаюцца тут*

Насамрэч: Герой робіць два амбівалентныя сцвярджэнні адначасна. А) Прызнае, што тыя далёкія беды не такія ўжо і далёкія, бо яны не прыходзяць ці звальваюцца аднекуль, а проста застаюцца тут, дзе і былі ўвесь час (напр. адсутнасць уласнасці на зямлю, адсутнасць розных свабод і правоў, адсутнасць пераменаў і да т.п.). В) Прызнаўшы і пацвердзіўшы, што ўсё гэта рэальнасць тут і цяпер, а не ўчора і далёка, тым не менш адначасна заяўляе, што не верыць сваім вачам: гэта яму «падаецца». І ў трэцім радку фармулюе філасофію свайго жыцця.

Літаральна: *О, я веру ва ўчорашні дзень*

Насамрэч: Няма слоў.

Тры водгукі ўрэзаліся ў памяць: першы — аказваецца, неблагія гурты бываюць і ў Еўропе. Другі — мой былы бойфрэнд дакладна такі. Трэці — хачу ў Беларусь.

Няма слоў. Сваіх няма, а ў Макартні ёсць.

# Інш.

«Іншае» — так, пасля паважных функцыяў «аўтар», «рэдактар», «карэктар», «мастак» у выходных дадзеных «Альбома сямейнага» Вінцэся Мудрова пазначана мая роля.

Іншае, г.зн. тое, што па-за тэкстам, пад ім, на ніжнім полі старонкі, перад абрэзам, яшчэ трохі — і ўжо ўпіраешся ў грудзі ці ў каленкі і г.д. і да т.п, асабліва т.п., канечне, пасля г.д., зразумела, не кажучы ўжо пра «інш.», як прынята скарачаць жыццё, але тут гаворка толькі пра тое, што пазначана вось такой шасціканцовай зорачкай *, іншымі словамі — пра зноскі.

## Аль-Бом-Бом

П’еса-зноска ў пяці дзеях

Дзеючыя асобы: слухачы на розныя літары алфавіта:

**А — ціпа філосаф**
**Б — купіла соннік**
**В — на пенсіі**
**Г — сусед з 9-й кватэры**
**Д — курсант**
**Е — не можа без фігурнага катання**
**Ё** -1 **— любіць спяваць**
**Ё** -2 **— любіць слухаць**
**Ж — нехта з домакіраўніцтва**
**З — член выбаркама**
**І — хадзіла ў кіно**
**Й — хадзіў у кіно**
**К — аматар порна**
**Л — аматарка І. Шамякіна**
**М — былы лектар**
**Н — былы хуліган**
**О — працавала ў рэдакцыі**
**П — за здаровы лад жыцця**
**Р — за праўду**
**С — апошні глядач**
**Т — першае каханне**
**У — усяму верыць**
**Ў — магчыма, садыстка**
**Ф — асоба з апазіцыі**
**Х — асоба з багемы**
**Ц — нізкапаклонніца перад Захадам**

**Ч — нізкапаклоннік перад Усходам**
**Ш — нярвовы таварыш**
**Ы — паўночнакарэйскі таварыш**
**Э — таварыш без прыкметаў**
**Ю — проста зануда**
**Я — не проста зануда**

真正的中国人 **— сапраўдны кітаец**

假中国人 **— несапраўдны кітаец**

**Дэкарацыі на сцэне** — паводле назвы з'яваў, напр., панцырны ложак, Фідэль Кастра, газіроўка, палітбюро, шклатара, хунвейбіны, чэргі, трусы сямейныя, Бітлз і г.д. Можна і ўсё разам.

## Пралог

Даўным-даўно, калі яшчэ не было Facebook, VKontakte і Odnoklassniki, людзі слухалі радыё і званілі са сваімі пытаннямі, просьбамі, пажаданнямі, прапановамі і пагрозамі. Перадача «Летні альбом» доктара настальгічных навук Вінцэся Мудрова з Новага Полацака, таксама вядомая як кніга «Альбом сямейны», выклікала жвавую рэакцыю слухачоў і слухачак, якіх тады яшчэ не залавілі сацыяльныя сеткі. Рэдакцыя адказвала як умела.

## Дзея першая. Любімыя картачкі

### Ложак з панцырнай сеткай

Слухачка Ж.: А ў якія яшчэ чужыя акенцы падглядаў аўтар?..

Рэдакцыя: Пра гэта будзе новая кніга. З фотаілюстрацыямі.

### Кастра Фідэль

Слухач Р.: Чаму не далі ўвесь тэкст?!

Рэдакцыя: Цэнзура не пусціла.

### Фоцікі

Слухач К.: Пасылаю калекцыю дзяўчатаў, якую збіраў 50 год.

Рэдакцыя: Гэта вам на тэлебачанне трэба, на Першы канал.

### «Чалавек-амфібія»

Слухач Й.: А «Фантамас» лепш!!!

Рэдакцыя: Добра-добра, толькі не забягайце наперад і не глядзіце, што Мудроў кажа пра «Фантамас».

### Стылягі

Слухачка В.: Наш унук наслухаўся вашай перадачы і ўжо тры дні спіць у штанох, бо зняць немагчыма!

Рэдакцыя: Звярніцеся ў ААН. Ці ў АМОН.

### Фільмаскоп

Слухачка Т.: А я так чакала цябе, Вінцэсь!

Рэдакцыя: Малы быў, дурны...

## Велік

Слухачка Т.: А я ездзіла на раме!

Рэдакцыя: А ён пад рамай. Размінуліся...

## Чэмпіянат 1963 года

Слухач Г.: Падводзіць цябе памяць, сусед — я жыў у 9-й!

Рэдакцыя: У 8-й. Непрыгожа выйшла — абяцалі, калі яшчэ гол заб'юць, скрынку піва, і што?..

## Прычоскі жаночыя

Слухачка Ц.: А ці праўда, што на Захадзе завіўку рабілі на шампанскім?

Рэдакцыя: Прапаганда.

## Футбольны Альбіён 1966 года

Слухач Г.: З 9-й кватэры! А півам мяне папікалі дарма — той гол быў яўны афсайд.

Рэдакцыя: Мы верым Мудрову — ён сядзеў да тэліка бліжэй.

## Марозіва

Слухачка О.: Кусаць ці лізаць — вечнае гамлетаўскае пытанне для мастака і ўлады, літаратуры і холдынга, кантралёра і зайца…

Рэдакцыя: Галоўнае — не падавіцца. І ногі, ногі!

## Кашулі фірмовыя

Слухачка Ў.: На вараныя джынсы трэба 150 грамаў хлёркі на 10 літраў вады.

Рэдакцыя: А потым пемзай, пемзай!

## Газвада з сіропам

Слухач Н.: Ну ўзялі вы шклянку з аўтамата, каб не з гарла, дык вярніце, падлы! Не вы адны такія.

Рэдакцыя: Раньше думай аб родзіне, а патом аб сабе!

## «Фантамас»

Слухачка І.: А «Чалавек-амфібія» лепшы!!!

Рэдакцыя: Чаму вы кнігу не з пачатку чытаеце? А ну, гартайце назад!

## Тэлік

Слухач М.: Гэта не факты, а факцікі.

Рэдакцыя: Не факт.

## Фільмы пра шпіёнаў

Слухач Р.: Прыкрая недакладнасць: гэта была не ээсэсаўская форма, як кажа Мудроў, а гестапа!

Рэдакцыя: Не, эсэсаўская.

## Байкеры 1970-х

Слухач У.: Бачыў рэкламу, што на матацыкле «Мінск» можна заехаць на Эйфелеву вежу.

Рэдакцыя: Лепш на Пізанскую. Калі даедзеце да Пізы, вядома.

## Фотагалерэя хатняя

Слухачка Ф.: Такі выпадак быў у адным раёне.

Рэдакцыя: Не намякайце.

## Дзея другая. Здымкі з раённай газеты

### Дэвіс Анджэла

Слухач Р.: Што канкрэтна азначае «кучарава-дрымучая кучма»?

Рэдакцыя: Тое, што й глокая куздра, толькі на бігудзях.

### Палітбюро

Слухачка Ф.: Жыве Мірон!

Рэдакцыя: Сапраўды жыве!

### Секунцы з Цэнтральнага камітэта

真正的中国人 : Се Кун Цы — дзяяч эпохі Цынь, пакараны за падслухоўванне імператара 20 рэзаннямі: яму адрэзалі левыя і правыя брові, грудзі, кісці, локці, плечы, стопы, калені, ягадзіцы, яйцы і вушы.

Рэдакцыя: Мама дарагая!

### Хунвэйбіны

Слухач Р.: «Полюбила хунвэйбина и повесила портрет, а наутро просыпаюсь…» А далей як? Што, спадар Мудроў, зноў цэнзура перашкаджае?

Рэдакцыя: Не, словы забыў.

### Цаліна

Слухач Ч.: Джавахарлал Нэру — першы прэм’ер-міністр Індыі, у народзе быў вядомы як Panditji — навукалюбны.

Рэдакцыя: А крэўнаму, які з цаліны вярнуўся ў адных кальсонах, не раўнуючы Нэру, таксама добрая навука была!

## Пражская вясна

Слухач Я.: А ці не савецкая школа навучыла стэнаграфіі містэра Мудрова?

Рэдакцыя: Каб навучыла, дык напэўна пасадзілі б.

## Даманскі

真正的中国人 : Ад часоў дынастыі Цынь, калі ўвялі пакаранне рэзаннем, гэтая спрадвечна кітайская зямля называлася Чжэньбаа — востраў скарбаў. Просім надалей не ўжываць няправільнай назвы.

Рэдакцыя: Больш не будзем.

## Трыбуна

Слухачка В.: Так, за трыбунай сапраўды можна было пачухаць пахвінне і ніхто не бачыў, сам бачыў.

Рэдакцыя: Галоўнае — чыстыя рукі. Гл. таксама «Нейлон» і «Дэмбель», і «Радыё «Швецыя», канечне.

## Белавусава й Пратапопаў

Слухачка Е.: І я плакала!

Рэдакцыя: Не плач, дзяўчонка, прайдуць дажджы! Жартуем. Не прайдуць, калі пасля допінг-кантролю з-за кожнага медаля плакаць.

## Маёўка

Слухачка Ё.: Ой, а выканайце песню «Называют меня некрасивою» на дзень нараджэння маёй свякрухі!

Рэдакцыя: Пасылаем тэлефон Мудрова. Ён спяе.

## Грамадзянская абарона

Слухач Ж.: Недаацэньвае паважаны аўтар грамадзянскай абароны!

Рэдакцыя: Неадаацэньвае.

## «Малая зямля»

Слухачка Л.: А Шамякін усё ж харошы пісацель, што б вы ні казалі!

Рэдакцыя: Не спорым.

## Хакей з чэхамі

Слухачка Ж.: Усё-ткі не ясна, што хацеў сказаць аўтар. Ён за ці супраць?

Рэдакцыя: Згодны.

## Агітацыя наглядная

Слухач М.: Заява Мудрова, быццам членаў палітбюро на партрэтах не бывае кучаравых, ёсць нічым іншым, як бытавым антыкамунізмам, апартунізмам і рэвізіянізмам.

Рэдакцыя: У Маркса нават барада кучаравая!

## Фільмы пра Леніна

Слухач У.: Скажыце, а ці праўда, што Ленін думаў пра Беларусь?

Рэдакцыя: Такая праўда, што вош кашляе.

## Лумумба Патрыс

Слухач Ю.: Цікава ведаць: тэлефонны код Конга +243.

Рэдакцыя: Гм-м, правільна...

# Дзея трэцяя. Музычныя паштоўкі

## Абадзінскі Валеры

Слухачка З.: Каб вы ведалі, як «Эці глаза напроців» спявае адзін чалавек!..

Рэдакцыя: Вы намякаяце. Ведаем.

## Магі

Слухачка В.: Я думала, гэта перадача пра магічныя сілы чалавека, а не магнітафоны!..

Рэдакцыя: Хто ж ведаў, што вы думаеце.

## Зоркі югаслаўскай эстрады

Слухачка Ё.: Прышліце мне словы гэтай песні, і не прысылайце зноў тэлефон Мудрова. Яму слон на вуха наступіў.

Рэдакцыя: Затое які голас!

## Бітлы

Слухач Р.: Правільна трэба гаварыць «The Beatles», што азначае «жукі».

Рэдакцыя: А газета «Правда» азначае «truth».

## Песні пра космас

Слухач М.: Нашы героі космас прайшлі, а Бога не знайшлі!

Рэдакцыя: Тады ракеты не асвячалі, як цяпер...

## Бугі-вугі

Слухач Я.: Затое мы будавалі БАМ!

Рэдакцыя: Зусім забыліся.

### «Радыё Швецыя»

Слухач Э.: Выносім падзяку. Нарэшце можна закрыць гэтую следчую справу, хто што слухаў — столькі гадоў усяму камітэту статыстыку псавала!

Рэдакцыя: Рады старацца!

### Зыкіна Людміла

Слухач Г: Колькі разоў паўтараць — я жыў у 9-й!

Рэдакцыя: Канечне, калі кружэлкай у лоб — галава кругам у каго заўгодна пойдзе.

### Песні піянерскія

Слухачка Б.: Калі ў сне пабачыць белага быка, які п’е ваду, гэта значыць, што дзяўчына нарэшце прыме прапанову свайго каханага.

Рэдакцыя: Горка!

### Танцпляцоўка

Слухач Н.: Навошта квіткі, можна было пераскочыць агароджу, і танцуй!

Рэдакцыя: Гм-м.. Так, рэкорд Віцебскай вобласці ў скачках ў вышыню складае 204 см. Плюс допінг…

### Гурт «Лявоны»

Слухач С.: Скончан баль — і скрыпкі ў торбу!

Рэдакцыя: Песня без канца — што кабыла без хваста!

### Канцэрты па заяўках

Слухачка Ё.: Мая заяўка прагучала, але вы паставілі іншую песню, якая мне зусім не падабаецца!

Рэдакцыя: Гэта былі не вы, а іншая слухачка Ё.

## Мулерман Вадзім

Слухач Ю.: Цікава ведаць: калі кастраты згубілі свае пазіцыі ў оперы, Моцарт даручыў арыю Дон Жуана барытону.
Рэдакцыя: На яго месцы так зрабіў бы кожны.

## Фэстываль Сопацкі

Слухач Г.: Будзе ў вас калі-небудзь праўда ці не — я з 9-й кватэры!
Рэдакцыя: А піва будзе?

## Магамаеў Муслім

Слухач М.: Чаму Мудроў нічога не сказаў пра міністра, пасла, члена ЦК Палада Бюль-Бюль Аглы, празванага ў народзе салавей, сын салаўя?!
Рэдакцыя: У Мудрова самога такое прозвішча, што як бы ён не сказаў, так і будзе.

## Транзістары

Слухачка П.: І чайны грыб! Дапамагае ад печані, танзіліту, энтэракаліту, дыфтэрыі, тыфу, грыпу, ангіны, гемарою, гіпатаніі, раку, эпілепсіі і запораў, а таксама цвярозіць! Званіце (495) 91-272-97.
Рэдакцыя: На працы не п’ем.

## Гаравец Эміль

Слухачка Ё.: Я дазванілася нарэшце да вашага Мудрова, ён заспяваў і зараз я іду ў міліцыю.
Рэдакцыя: Аўдыётэрарызм не пройдзе!

## Дзея чацвёртая. Страшныя фоткі

### Трусы сямейныя

Слухач Ж.: Мудрова дзівіць, што дагэтуль няма помніка чалавеку ў трусах сямейных?! Ну гэта ўвогуле — да такога даўмецца!

Рэдакцыя: Стараўся.

### Літмантаж

Слухач А.: Шпенглер лічыць, што кожнае прыватнае жыццё з неабходнасцю паўтарае ўсе эпохі цывілізацыі, да якой належыць.

Рэдакцыя: Вы звужаеце філагінез Геккеля да адзінкавай культуры.

### Шклатара

Слухач А.: Вы хоць самі разумееце, што кажаце?!

Рэдакцыя: Як казаў святы Аўгусцін: «Si nemo ex me quaerat, sico; si quaerenti explicare relim, nescio».

### Керагаз

Слухачка А.: Вы хоць разумееце, што сказаў святы Аўгусцін?!

Рэдакцыя: Калі не пытаюцца — разумеем, калі трэба патлумачыць — не ведаем. Не раўнуючы саюзная дзяржава.

### Спеўнік дзявочы

Слухачка Т.: На фільмаскоп не прыйшоў, на веліку не катаў, а спеўнік стырыў. Давайце адрас!

Рэдакцыя: Няма таго, што раньш было... Адрас: mudrou@tam.by

## Пыжык

Слухач Ч.: Ёлупень — на санскрыце BhautaprAya SaMskAra Dhakhola, што азначае « нехлямяжы, які яшчэ не ачысціўся, ужо без шапкі».

Рэдакцыя: А на дзяржаўнай мове: «Ідыёт самы настаяшчы».

## Каўбаса за 2.20

Слухач Ч.: AkSAramadyamAMsAda, як кажуць у Гімалаях: не пі алкаголю, не еш мяса, не лезь без чаргі. Іначай вашу перадачу чакае лёс каўбасы.

Рэдакцыя: Вашы словы ды Буду ў вушы.

## Пра Мікіту Х. і Лёньку Б.

Слухач Я.: Прыгожы быў малдаван!

Рэдакцыя: Гэта Сталін першы сказаў.

## Валасацікі

Слухач Ю.: Цікава ведаць: у заалогіі валасцік — гэта прэснаводны гідрабіёнт Gordius aquaficus, а ў геалогіі, наадварот, горны крышталь $SiO_2$ з руцілам $TiO_2$.

Рэдакцыя: Не, ужо нецікава.

## Торбы поліэтыленавыя

Слухачка В.: На дзень залатога вяселля прашу перадаць перадачу на памяць пра нашу сустрэчу, альбо буду скардзіцца.

Рэдакцыя: Перадаем на наступнай старонцы.

## Павільён «Сустрэча»

Слухач Г.: А гэта які павільён, каля аўтастанцыі ці за лазняй?

Рэдакцыя: На вакзале — у тых двух піва скончылася.

## Бібліятэкаркі вясковыя

Слухачка Ф.: А я здагадалася, на каго вы намякаеце!

Рэдакцыя: Колькі раз вам паўтараць — не намякайце! Людзі самі разбяруцца.

## Смеццявозка

Слухач Г.: Вось тут малец не зманіў. Сам бачыў з вакна нашай 9-й кватэры.

Рэдакцыя: Адчапіся, дзядзька!

## Коры

Слухач Ч.: Перадайце аўтару, каб хутчэй расказаў пра індыйскі чай са слонікамі!

Рэдакцыя: Каваман ён.

## Папера туалетная

Слухачка Х.: Калі аўтар каваман, дык няхай раскажа пра каву распушчальную!

Рэдакцыя: Спрабаваў быў, але ўвесь час выходзіла то патурэцку, то распуста.

## Выбары

Слухач З.: Галасаваць не пайшоў, бо ляжаў у ложку, і да яго дадому прынеслі ўрну? І гэтаму вы вучыце моладзь?! Прышліце адрас Мудрова.

Рэдакцыя: Зусім не гэта маецца на ўвазе. Але перш прышліце сваё фота.

## Кінабудка

Слухач К.: Жанчына ў кінабудцы — прадвесце бяды?!

Рэдакцыя: Як каму.

## Грошы новыя

Слухачка Ц.: А колькі тады давалі за даляр?
Рэдакцыя: 90 кап. Але маглі і расстрэл.

## Плаўкі з матузкамі

Слухачка Б.: Купляць мужчынскія трусы ў сне — прыкмета, што наўкол вас няма ніводнага прыстойнага і надзейнага чалавека.
Рэдакцыя: А прадаваць?..

## Гумка жавальная

Слухачка Б.: Калі вам прысніліся ўласныя мазгі, чакайце непрыемнасцяў, якія будуць дзейнічаць на нервы.
Рэдакцыя: Ужо дзейнічаеце.

## Часопіс «Карэя»

Слухач Ы.: Не ведаю, кім ён вам даводзіцца, але Му Дроў не сказаў, што зараз ідзе ўжо 95-ы год летазлічэння паводле Чучхэ.
Рэдакцыя: Кім Ён Нам — гэта старшыня Вярхоўнага народнага сходу КНДР. Нам ён не кім.

## Каралі

Слухач Д.: А чым жа ляжачага біць, як не нагамі?!
Рэдакцыя: Вы часам не з АМОНа?

## Таварыства аматараў кнігі

Слухач М.: Слова Леніна не забудзецца — што сказаў, тое збудзецца!
Рэдакцыя: Каб не ленінскія творы, мы б усе жылі ў горы! Маем мы гэты зборнік фальклору, чыталі.

### Чэргі

Слухач Ш.: «СССР скончыўся, бо потная і злая на ўвесь свет краіна стаяла ў чэргах»?!. ..! ....!! …!!!

Рэдакцыя: Каму як.

## Дзея пятая. Фатаграфіі з зубчыкамі па краях

### Чамадан фібравы

Слухач М.: Там Ільіч пакінуў бессмяротны запавет: «Вучыцца, вучыцца, вучыцца!»

Рэдакцыя: А працаваць хто будзе?

### Часопісы польскія

Слухачка Ё.: Недзе згубіла тэлефон Мудрова, не маглі б вы дапамагчы?

Рэдакцыя: Самі згубілі, самі адкупляйце.

### Дыпламат

Слухачка Ў.: Каб вывесці плямы ад піва, іх мыюць у цёплай вадзе з дадаткам спірту (1 ст. лыжка спірту на 0,5 л вады).

Рэдакцыя: Цынічна...

### Нейлон

Слухач Э.: Перадайце песню Я. Фрэнкеля на словы І. Шаферана «Нейлонавае сэрца» з фільма «Мужчынская размова».

Рэдакцыя: Сэрца павінна быць гарачае! Гл. таксама «Трыбуна», «Дэмбель» і «Радыё «Швецыя», канечне.

## Сіфон

Слухач Г.: Было такое, толькі не жонка, а суседка з 9-й кватэры, я крыху дзверы паблытаў, і не ў цемя, а па вуху.

Рэдакцыя: Ага — дык вы ўсё ж з 8-й! Дзіва што, калі ў цемечка.

## Дэмбель

Слухач Э.: 30 жніўня 2006 года ў Крамлі падпісаны ўказ «Аб ваеннай форме», і фуражка чэкістаў цяпер далучыць чорны верх да васільковага аколыша.

Рэдакцыя: А галава, галава ж павінна быць халодная! Гл. таксама «Трыбуна», «Нейлон» і «Радыё «Швецыя», канечне.

## Авоська

Слухачка Б.: Калі ў сне вы носіце дакументы і грошы ў авосьцы, дык напэўна неўзабаве ўведаеце, што ўсё на гэтым свеце адносна.

Рэдакцыя: $E=MC^2$.

## Храмачы

Слухачка О.: Я блукаю сярод слоў Мудрова як сярод кавалкаў караблекрушэння будучага...

Рэдакцыя: Also sprach Zarathustra.

## Сумкі школьныя

Слухач Д.: А ў нас тэчкамі білі па галаве!

Рэдакцыя: Верым адразу.

## Цікеткі

Слухачка Ф.: Пацвярджаю, на барысаўскіх запалках сапраўды была цікетка з тэкстам «Чытайце раман Піліпа Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах». А што, выдатная ідэя для апазіцыі!

Рэдакцыя: Не гуляйце з агнём.

## Боты-панчохі

Слухачка О.: Так, у Вільні фарцоўшчыкі сапраўды прадавалі боты на вуліцы Мантаса нягледзячы на надвор'е. А ці ведаеце вы, што ўзімку 1261 войска Геркуса Мантаса разбіла Тэўтонскі ордэн пад Калінінградам, увесну 1262 — пад Любавай, а павесілі яго ўлетку 1273 у Наркічаі.

Рэдакцыя: І дзе логіка?..

## Тэрмасы з чырвоным цмокам

假中国人 *:* Наш магазін фэн-шуй прапануе вашым слухачам ліхтарыкі, амулеты, талісманы, жаб, чарапах, драконаў і манеты шчасця.

Рэдакцыя: 他妈的 — у перакладзе — старажытнае пажаданне шукальнікам шчасця праз рэкламу: пайшоў бы ты!..

## «Беламор-канал»

Рэдакцыя: Папярэджваем — курэнне шкодзіць вашаму здароўю.

Слухач Н.: Ну, дасталі… Вы ж радыё, вам якая розніца?!

## Гальштукі

Слухачка П.: Тугі вузел можа выклікаць павышэнне ціску ў воку, прывесці да глаўкомы і страты зроку.

Рэдакцыя: Нам якая розніца — мы ж радыё!

## Клёшы

Слухачка Х.: Не ігнаруйце спадніцы-клёш: з імі добра глядзяцца топы, камізэлькі і скарочаны пiджак. Талія павінна лёгка ўгадвацца.

Рэдакцыя: Баімся, не ўгадаем. Мы ж не тэлебачанне.

## Балоння

Слухачка Ў.: Каб балоння не сыпалася, яе кроіць паяльнікам ці апаратам для выпальвання па дрэве, а каб край быў роўны, трэба прыціснуць металічнай лінейкай на шкле.

Рэд. Прыціснуць і паяльнікам, кажаце... Які ваш адрас?

## Трумо

Слухачка П.: Клуб «Анжэла» запрашае на сямідзённы семінар «Скажы прышчам «Не!»

Рэдакцыя: Так!

## Вадалазкі

Слухач К.: Супрацоўнікі вашага радыё П. Вайль і А. Геніс у кнізе «Згублены рай» пішуць, што асабіста ведалі дзяўчыну, якая развіталася з цнатлівасцю ў абмен на бітлоўку.

Рэдакцыя: І яе звалі Ева.

## «Шышачка» й «зорачка»

Слухач Н.: Пра асадкі і пёркі, можа, і правільна, але ў чарніле Мудроў не разбіраецца.

Рэдакцыя: Пасылаем адрас суседа з 8-й кватэры.

### Саквояж

Слухач Н.: Ад... Ду... Шыдзя... Куйзаад... Рассу... Седадушэў... Ныча… Лавек…

Рэдакцыя: Калі ласка.

### Парык

Слухачка Х.: Цяпер носяць парыкі са славянскіх валасоў, шоўкавая імітацыя скуры галавы са стразамі, ад 400 у.а. гл. http://your-style.ru

Рэдакцыя: Амінь.

### Падушачкі

Слухач А.: Ці раскрыў Мудроў нарэшце тайну, як павідла трапляе ў цукеркі-падушачкі?..

Рэдакцыя: Яны на дрэвах растуць. Астатнія 1 392 082 адказы гл. у інтэрнэце.

### Асадка шарыкавая

Слухач Ш.: ...! .....!! ......!!! ..........!!!! ......................!!!!!

Рэдакцыя: Менавіта так В. Мудроў і разваліў Савецкі С.

## Эпілог

Хочаце ведаць, па кім звоніць «Альбом», перачатыйце Мудром!

Бом! Бом! Бом!

*Усім, хто застаўся там,*
*адкуль аўтар вярнуўся*

## Па-за

Вось якія кнігі я хацеў бы напісаць: Гамера — пра багоў, Сведэнберга — пра анёлаў, Хэмінгуэя — пра людзей. Падзел насамрэч не такі істотны: для іншых формаў жыцця, якія сустракаюцца на Зямлі, усе мы часам багі, часам анёлы, часам людзі. І як кажа адна мая знаёмая багіня, невядома яшчэ, што горш.

Ну але.

Пераадоленне межаў, перашкодаў, часу і іншых законаў прыроды і яе насельнікаў з'яўляецца адзіна законным зместам мастацтва. Таму героі выпраўляюцца ў падарожжы, нават калі не выходзяць з абабітага коркам пакоя, таму вяртаюцца на радзіму, нават калі яе няма.

А ў прамежку, вядома, сняць сны.

## Імя А.

А.

Альфабэты ўсіх еўрапейскіх народаў пачынаюцца з А.

У Афрыцы іначай, але там увесь кантынент на гэтую літару. Як і Азія. Як і Аўстралія. Як і Амерыка з Антарктыдай.

Атлантыда таксама пачыналася з А.

Гэта самы нечалавечы гук. Ён існаваў да Адама, так лопалася, застываючы, магма, так берагавая скала сустракала мегатонны размах акіяна, так развітваліся адзін з адным мацерыкі, раздзёртыя тэктанічнымі сутаргамі.

Адкрыты, быццам глыбокі і паверхневы адначасна, пусты, які пачынаецца з насілля: трэба намаганне, каб размыкнуць губы. Трэба адкрыць рот. У целе ўтвараецца неабароненае месца, рана, доступ да ўварвання ўсярэдзіну, для ўдару ў сэрца, тупога і страшнага, як сам гэты гук, неакрэслены, неабмежаваны, невядомы. Сэрца замірае, а потым пачынае гнаць кроў няроўнымі штуршкамі, перасільваючы сябе: удар, яшчэ ўдар, паўза — што цяпер? — зноў штуршок.

А.

***

Імя было большае за яго самога. У розныя часы ён жыў рознымі кавалкамі: часам гэта быў гук «с» — пасіўнае, спакойнае, крыху соннае, раўнамернае існаванне. Уставаў раніцай, мыўся, ішоў некуды — на заняткі ці на службу, у чытальную залу, проста ў парк. Канечне, так было тады, калі яшчэ можна было прачнуцца ў сваім ложку, і дома была вада, і хадзіў гарадскі транспарт. Тады дні і ночы сплывалі, не пакідаючы слядоў.

Але ці не падманвае яго памяць, ці быў калі такі час? Неяк яму паказалі ліст ад агульнай знаёмай, якая пару гадоў перад тым з’ехала за мяжу. Тады эміграцыя азначала — назаўсёды, так

і праводзілі. Яны спрачаліся, што самае цяжкае будзе там, у новым жыцці, да чаго варта было б падрыхтавацца? Мова, грошы, адсутнасць сяброў, кніг, гэтых гутарак у сваім коле... Свабода, сказаў Ш., іх агульны сябар. Яны смяяліся тады — што ж цяжкага можа быць у свабодзе: чытаць кнігі, якія хочаш, глядзець фільмы без купюраў, ездзіць куды падабаецца, не хадзіць на дэманстрацыі, сходы і не галасаваць.

Ш. меў рацыю, пісала знаёмая. Свабода аказалася не выбарам, не рашэннем, не магчымасцю, а мовай. На гэтай мове размаўляла новае жыццё, і гэтую мову немагчыма было вывучыць на курсах ці прывезці з сабою. Найлепшыя слоўнікі валяліся неразгорнутыя.

Канструкцыя імя спалучала абарончую моц і хітрамудрую архітэктуру старажытнага замка з падвоенымі сценамі, гулкімі заламі, вежамі і падземнымі хадамі. Нацягваліся ў струну каваныя звёны ланцугоў, і пад'ёмны мост неахвотна спалучаў два бакі бяздоннага рова: каралеўскія госці ўцягваліся ў доўгі цёмны тунель з насечанымі байніцамі ў муры. Тых, хто прыязджаў упершыню, дзівіла, што байніцы глядзелі ўсярэдзіну, быццам нехта збіраўся абараняць навакольны свет ад насельнікаў замка, не выпускаць іх вонкі. Так і было.

Гаспадар замка занадта добра ведаў, якога кшталту госці перасякаюць абарончы роў.

***

Яму перадалі, што чакаюць у суседнім пакоі. А. ведаў, што гэта значыла. Іншыя ўжо хадзілі туды і пасля глядзелі ўбок і рабілі выгляд, што нічога не адбылося. Калі А. увайшоў, дзверы за ім замкнуліся, і ён адчуў дзіўную абыякавасць да таго, што зараз адбудзецца. У пакоі было чалавек пяць-шэсць. Яны акружылі А. Як у сне, А. нехаця паднёс рукі да твару, левая вышэй, на ўзроўні вачэй, правая закрывала падбародак і сонечнае

спляценне. Ногі напружыліся, разварочваючы і падаючы цела крыху назад. Не ўдар рукой, а перанос цэнтра цяжару адначасна з разваротам, калі рух усяго цела, ад пальцаў ног праз мускулы сцягна і торса хваляй узлятае ў перадплечча і выстрэльвае па найкарацейшай лініі ў кісць, складзеную і павернутую так, каб гэтая сіла вылецела з яе і перайшла ў іншае цела.

А. быў абыякавы да спорту, але ўсе нечым займаліся, даставалі разрады, ездзілі на зборы і спаборніцтвы, і ён таксама некалькі гадоў цягаўся на трэніроўкі. Вялікіх поспехаў не меў, бо не меў амбіцыі, больш любіў займацца з грушай, чым з партнёрам. Трэнер гэта бачыў і асабліва не настойваў.

А. збілі з ног, але было позна — нечая сківаца хруснула і лямант было чуваць за межамі турбазы. А. давялося з’ехаць, хоць усе дружна пацвердзілі, што бялявы ўпаў сам. Ён потым сустракаў тую кампанію ў горадзе, і яны ненатуральна дружалюбна віталіся. Нож з вузкім лязом ён з таго часу насіў з сабою.

***

Як яго звалі ў дзяцінстве? Ён не памятаў, дакладней, не быў упэўнены. Маці звала «Аля» — ці то дзяўчына, ці то хлапец? Хутчэй, дзяўчына. Ён мог бы быць дзяўчынай. Адкрываць сябе, утвараць пустату, у якую пускаць вонкавы свет, дазваляць яму аваладаць сабой з сярэдзіны, а на самай справе карыстаць з заваблёнага на сваю тэрыторыю чужынца. Там пустата аваладае і прысабечвае прастору, прыручае яе і ўпарадкоўвае. Там свабода ператвараецца ў сон і забывае на свае шырокія і лёгкія крылы, што неслі насустрач гарады, бібліятэкі, тэатры.

А. амаль стаў дзяўчынай, аднойчы. Як імя таго дырыжора, Раман? Еўрапейская зорка, паўзабароненая ў імперыі, аўтар бліскучых спектакляў, кожны з якіх выклікаў эстэтычны скандал. Акторы яго абагаўлялі, начальства не ведала, што рабіць, публіка млела. Ён пару разоў быў на ягоных рэпетыцыях у

сталічных тэатрах і кожны раз выходзіў з іх, як п'яны. Сцэна нагадвала карціны сюррэалістаў у руху, аднойчы яму падалося, што гераіня паднялася ў паветра і паплыла над залай.

— Вам спадабалася? — спытаў пасля рэпетыцыі дырыжор.

У тэатр А. прывёў ягоны сябар, музыкант і вучань дырыжора, які ставіў свае ўласныя спектаклі. Напярэдадні яны былі ў гасцях у драматурга. Ехаць давялося за горад на электрычках з перасадкамі. Скрозь запацелыя вокны нічога не было відаць, ды і хутка цямнела. Доўга блукалі па цёмных раскіданых вулічках пасёлка, пакуль не знайшлі хату, якую здымаў драматург. Ягоная апошняя п'еса называлася «Снег. Паблізу ад турмы». Снег каля хаты ніхто не разграбаў ад пачатку зімы, толькі дарожка цягнулася ад весніц да дзвярэй. Драматург якраз рабіў інсцэнізацыю Дастаеўскага на замову тэатра, дзе працаваў сябар. Ён толькі што скончыў першую частку. Прывезеная гарэлка не толькі не адцягнула ягонай увагі, а, наадварот, уся размова за сталом саслізнула ў свет пінскага шляхціца, хваравіта-выпуклы, з падвышанай тэмпературай, калі кожная інтанацыя раптам пачынала настойваць на сваёй першаснасці, выгінацца, напінацца, і раздроблены на дзясяткі самастойных цэнтраў запалены мозг дзёрзка і самаўпэўнена настойваў на мностве відавочных ісцін.

— Чуеш, А. меўся атрымаць дзяржаўную прэмію, але сам ведаеш, каму ў нас даюць, — гаварыў С.

Гэтыя словы прывялі драматурга ў шаленства. Ён блізка нахіліўся да А. і, гледзячы яму ў вочы ненавісным позіркам, сказаў:

— Нічога ў іх не прасі. І не шкадуй. Зразумеў?

Чаму тады драматург так пераняўся і з такой зласлівай трывогай, як бы сам таго не жадаючы, выгаворваў яму, нібы папярэджваў аб нечым? Магчыма, у ім гучалі галасы герояў рамана, які ён перакладаў для тэатра, і ён проста граў ролю аднаго

з персанажаў, які не дагаварыў сваё ў тэксце п'есы ці, наадварот, ужо існаваў паводле сваёй уласнай логікі і рэагаваў на прапанаваныя абставіны, як таго вымагала класічная тэатральная сістэма. Тады гэта была перасцярога ўжо не драматурга, а, хутчэй, самога аўтара вялікага рамана.

Страшэнны цяжар наваліўся на вочы А.; яны заплюшчыліся, але ён працягваў ведаць і бачыць, што адбываецца ў пакоі. Стол з недапітай гарэлкай пасунуўся да печы, лаўка пад ім паехала ў кут, лямпачка зморшчылася ў бляклы камяк і пачала разгойдвацца, быццам хату падхапіла акіянская хваля і яны паляцелі ў крутую кіпучую бездань.

Пры гэтым А. увесь час адчуваў бездапаможную крыўду ад таго, што ён няправільна зразуметы, што няважная яму была тая прэмія, што, вядома, ён нікога не прасіў, і парада, якую ён пачуў, не да яго адносіцца. Але выгаварыць гэта было немагчыма, тое, што здавалася ясным і зразумелым яму самому, губляла сэнс і выглядала зусім іначай, калі паспрабаваць пераканаць некага іншага.

— Ну, а калі б далі — адмовіўся б?

А. не ведаў, хто задаў гэтае пытанне, але адчуў яго мярцвячы ціск. Яно выціснула гутарку на самы край, за якім пералівалася і клубілася пустата, іншае вымярэнне, у якім можна існаваць, але гэта будзе ўжо не тут і не з гэтымі людзьмі. Ён не шукаў тае ўзнагароды, яго абралі. Але чаму абралі, чаму яго? Значыць, заслужыў, значыць, неяк змясціўся ў клетцы, склаў свае крылы — ці абрэзаў?

Спрабуючы ўтрымацца на краі, А. пасунуўся па шклянку, калі яго ўвагу прыцягнуў прыглушаны халодны бляск ляза. Драматург перахапіў позірк і засмяяўся.

А. здагадаўся, што ён смяецца, бо нічога не чуў: у вушах даўно стаяў мерны шум, які то нарастаў, то спадаў. Драматург тры-

маў у руках машынапісны тэкст і чытаў урывак з п’есы. А. напружыўся.

У гэты момант нехта моцна застукаў у дзверы. Прыехала драматургава жонка з гасцямі, яны запоўнілі ўсю маленькую кухню, драматург па чарзе знаёміў іх з А., там была вядомая паэтэса, якая сама спявала свае песні, муж з жонкай — акторы сталічнага тэатра, і мастак, з ім А. ужо сустракаўся раней.

Ён запомніў адну яго карціну: пустая тэатральная зала, шэрагі малінавых крэслаў, і на першым, раскінуўшы рукі, нібы крылы, адзінокі чалавек углядаецца ў пустую прастору над сцэнай ці за сцэнай. А. ўразіла тады надзвычайная канцэнтрацыя адзіноты на палатне. Пустата напаўцёмнай залы зыходзіла на фігуру чалавека ў фокуснай кропцы і ад яго пад вуглом выпраменьвалася на сцэну, дакладней, на таго, хто глядзеў на карціну. Так пры правільным сумяшчэнні лінзаў далёкая і быццам дробная дэталь раптам рэзка і выразна запаўняе прастору і выцясняе ўсё іншае, што ляжыць паміж. А. запомніў гэты скачок, бо менавіта яго шукаў сваімі вершамі.

Ён узгадаў тое палатно ў тэатры на рэпетыцыі і нечакана пазнаў у дырыжоры адзінокага чалавека з карціны.

***

— Вам спадабалася?

Гэта пытаўся дырыжор, яны ўсё яшчэ стаялі ў партэры, музыканты, асвятляльнікі, рабочыя сцэны тоўпіліся наўкол, нешта гаварылі, спрачаліся. Дырыжор глядзеў у вочы А.

— Можа, вы дапаможаце, каб нам дазволілі? — гэта гаварыла актрыса, тая самая, што лятала. А. не адразу, але здагадаўся, у чым справа: яго прынялі за члена сям’і высокага начальства, які можа паспрыяць. Ён чуў пра члена палітбюро, чый сын марыў пра тэатр; сябра казаў, што той меўся быць на рэпетыцыі.

— Я плакаў, — адказаў ён.

Актрыса адразу страціла цікавасць. Тут яго сябар нарэшце пазнаёміў А. з дырыжорам. Той і сам зразумеў памылку і з цікавасцю глядзеў на А.

— Дык гэта Вы? С. шмат расказваў пра Вас і паказваў Вашыя вершы. Цікавы гук, мне здаецца, Вы ідзяце па краі.

А. заўсёды здзіўляла банальнасць падобных размоваў. Выключэннем былі тыя, хто нічога не казаў. Але і маўчанне таксама магло нічога не хаваць у сабе. Ён сустрэў аднойчы ўспаміны, як два паэты, адзін з іх нобелеўскі лаўрэат, абмяркоўвалі знакаміты радок, знак мінулай эпохі, пра пальцы тырана, падобныя да чарвякоў.

«Паслухайце, якое «эР-р-р...», як Вам падабаецца гэтае «эР-р-р...!»

Гэта было відавочна, так па-базарнаму безгустоўна, што А. аж жахнуўся. Пазней ён падумаў, што справа была хутчэй у прозвішчы самога лаўрэата, ён чуў сябе і свой лёс, які трымцеў у тых пальцах, і ведаў сапраўднае значэнне сваіх першых гукаў: «Бр...» Верагодна, толькі гэтых гукаў. «Я імкнуўся развіць у сабе нешта, верагодна, вельмі маленькае, але надзвычай моцнае, прапарцыянальнае велізарнаму ціску звонку». Развіццё насуперак азначала выбух ва ўсе бакі, у тым ліку на тэрыторыі, чужыя музыцы.

***

А. запомніў іншыя пальцы. Мяккую, шырокую далонь на сваёй галаве, яе бездапаможнае цяпло. Гэта была, магчыма, самая геніяльная рука стагоддзя, але — дзеці не памыляюцца — гэта была слабая рука. Безабаронная, хісткая. Далонь палоннага. А што можа палонны, няхай і ўшанаваны самымі высокімі ўзнагародамі? Прылада, якая гаворыць, як у старажытнасці называлі нявольнікаў. Прылада, якая піша музыку. Якая спявае. Складае вершы. Расшчапляе атам. Прылада.

Няўжо праз такую руку і магла прыйсці і ажыць музыка ягонага часу, з вачыма, залітымі крывёю, слыхам, напоўненым выццём, узарванымі крамамі, калючым дротам, ваеннымі парадамі, рэкордамі, пералётамі і перамогамі, але, больш і перш за ўсё, — рукатворнай смерцю?

Яму было гадоў дзесяць, калі бацька ўзяў яго на сустрэчу з гэтым сусветна вядомым госцем, які прыехаў на адпачынак у іхні горад, дакладней, у блізкую пушчу. Яны сядзелі за вялікім абедзенным сталом, і дырэктар запаведніка, бацькаў знаёмец, даволі назойліва пераконваў госця напісаць музыку пра пушчу і ейных насельнікаў.

Падавалі стравы з мясцовай дзічыны: каўбасы з дзіка, аленіну, вэнджаную ласяціну. Абед не адрозніваўся ад таго, што елі тут калісьці каралі і ваяводы. Хіба посуд быў іншы. Але гутарка была тая самая — пана і прыгоннага, гаспадара і работніка, канваіра і зэка. Удзельнікі ведалі свае ролі.

Музыка пра пушчу з'явілася, але яе аўтарам быў не знакаміты госць, які тады, за сталом, пакорліва ківаў галавою. Магчыма, рэліктавы лес мог бы натхніць кампазітара раней, калі ягоную музыку абвяшчалі сумбурам. Альбо пазней, калі была перакладзеная лацінская паэма пра тутэйшае паляванне, і такім чынам гэтыя мясціны траплялі ў культурную традыцыю.

Але тады якраз была паўза, новы дырыжор толькі што ўзышоў на подый і яшчэ прымерваўся да ролі. Ці адчуваў кампазітар, што яго, як клоўна, зноў выпхнуць на сцэну і прымусяць крыўляцца ў пародыі на даўно, здаецца, мінулыя часы? Ён зноў будзе падпісваць звароты і адкрытыя лісты, сваімі мяккімі рукамі дапамагаць пераціскаць чужыя вены? А. думаў, што так — кампазітар адчуваў тонкасць і ненадзейнасць абалонкі, якая быццам зацягнула мінулае, і не мог кантраляваць гіпнатычны жах, які зыходзіў ад улады, што ўся вырастала з таго быццам

мінулага і была гатовая ў любое імгненне паласнуць лязом па вачах.

Але тады, у час сустрэчы, была паўза, рэмісія, амаль свабода. Кампазітар узяў з вазачкі некалькі цукерак і працягнуў іх А. Закручаныя ў залацістую фольгу і вошчаную паперу, шакаладныя конусы ледзь змясціліся ў дзвюх руках. А. нічога не сказаў, не падзякаваў нават, толькі глядзеў знізу ўверх, і тады кампазітар паклаў яму сваю руку на галаву і некалькі разоў пагладзіў. Далонь палоннага.

***

Дырыжор чакаў.

«Я піў атруту падрадкоўя. Радкі, як стрэлы, зазубрыны напяўшы, прабівалі скуру, засядалі ў целе і абрасталі плоццю. Іх вырваць азначала вырваць цела», — ён чытаў тады верш, які прывёз у сталіцу імперыі са свайго горада.

Верш быў прысвечаны апошняму класічнаму паэту эпохі, які перажыў тры вайны і трох тыранаў і працягваў пісаць у сваім дамку пад сталіцай. У яго пакоі стаяў партрэт з аўтографам вялікай паэтэсы — ягонай сучасніцы, пра другую вялікую паэтэсу казалі, што ён быў ейным апошнім каханнем перад тым, як тая павесілася ў далёкім азіяцкім горадзе над халоднай ракой.

Гэтым разам паэт зімаваў у Доме творчасці. Дарога ад чыгункі вілася вакол могілак на гары, і А. спачатку падняўся на круты схіл, расчысціў надпіс на шэрым камені і паклаў кветкі на магілу другога паэта, якога ён таксама без памяці любіў. Аднойчы ён падабраў шышку з сасны, што нахілілася над магілай, прывёз яе дахаты, дастаў карычневае сплюснутае семя, каб пасадзіць дрэва. За гады, якія мінулі пасля пахавання, паэт павінен быў стаць часткай дрэва: праз капіляры каранёвай сістэмы ягоныя гены ўжо напэўна падняліся па высокім ствале ў крону і, магчыма, смалістае семя ўтрымлівала яго апошняе прывітанне. Ці-

кава, колькі жывуць гены? Ці яны прападаюць, раскладаюцца, як клеткі, і знікаюць без следу? Ён ніколі гэтага не ведаў — сасновае семя не прынялося, а потым шышка некуды прапала.

А. дачытаў свой верш у тэатральнай зале. Акторы, яшчэ ўзбуджаныя пасля рэпетыцыі, загаманілі адразу, як ён скончыў, пачалі высвятляць, калі наступны прагон, узгадняць графікі сваіх канцэртаў.

— Мы з вамі яшчэ пагаворым, растлумачце, чаму ў вас радкі, якія толькі што былі атрутай, ператварыліся ў стрэлы, — сказаў дырыжор, якога некуды ўжо цягнулі.

А. узгадаў тую незавершаную размову праз некалькі гадоў.

Галоўная газета імперыі абвінаваціла дырыжора ў здзеку з класікі, сцэны сталічных тэатраў для яго чарговы раз закрыліся, і дырыжор прыехаў ставіць спектакль у правінцыю. Напачатку яму наладзілі творчую сустрэчу, зала была набітая акторамі, крытыкамі, мастакамі, музыкантамі, рэжысёрамі. Дырыжор умеў гаварыць, і зала як наэлектрызаваная лавіла ягоныя афарызмы, то натапырвалася ад небяспечных анекдотаў, то расслаблялася, то зноў у цішыні слухала пра энергаабмен паміж сцэнай і гледачамі, які дырыжор лічыў галоўным у тэатры. У сталіцы гэтае поле быццам здолелі нават замераць спецыялісты з сакрэтнага інстытута, яно прабівала абарончыя абалонкі душы, і ланцуговая рэакцыя падхоплівала залу ў катарсісе, прывітанне, А., і гэта было сэнсам і спосабам стварэння.

А. тады быццам ударыла токам. Зварот дырыжора, які пабачыў яго ў сярэдзіне залы і павітаўся, ледзь не выкінуў яго з крэсла. Як выглядала, тэорыя энергаабмену была не проста тэорыяй; А. нешта слаба адказаў, на яго з цікавасцю азіраліся. Ён ледзь даседзеў да перапынку, хутка апрануўся і выйшаў на вуліцу.

Дырыжор перадаў яму запросіны на рэпетыцыю, пытаўся, ці не зробіць А. колькі тэкстаў для песень, якія патрабаваліся

для спектакля. Аднойчы яны вячэралі ўтрох разам з вядомым крытыкам, які прыехаў са сталіцы спецыяльна на рэпетыцыі. Калі дырыжор іх знаёміў, крытык чамусьці глядзеў на А. з ледзь улоўнай усмешкай. Пасля рэстарана яны правялі крытыка ў гатэль, і ўдвох пайшлі па старым горадзе да кватэры, якую тэатр здымаў для дырыжора.

Чамусьці А. адчуваў сябе няёмка, размова не клеілася. Ля дома дырыжор запрасіў яго на кілішак каньяку. Седзячы на канапе, А. смакаваў залацістую вільгаць шматгадовай вытрымкі, калі дырыжор выбачыўся і выйшаў з пакоя. Калі ён вярнуўся праз колькі хвілінаў, на ім быў італьянскі шоўкавы халат. Ён сеў побач, узяў А. за руку і пачаў яе лёгка гладзіць. Неймаверная млявасць ахапіла А. Ён быццам расцякаўся, трацячы абалонкі цела; рукі, ногі, галава — усё існавала паасобку і незалежна, усё было невядома дзе, ён не мог сабраць іх і ўжо амаль нічога не адчуваў і не хацеў, плывучы ў тумане, які запаўняў пакой. А. не мог паварушыць пальцам, але ўсярэдзіне ўжо нарастаў жаль, і ён ведаў, што нічога не будзе, не атрымаецца, ён не здолее зрабіць тое, што ад яго чакаюць.

Дырыжор адчуў перамену. Праз смутак ён паспрабаваў яшчэ раз дакрануцца да шчакі, але А. ужо ўставаў.

Аляксандра — жаночае імя, ці не так? Наўрад, наўрад...

***

Кантрастам «А» было «эЛь»: быццам пасля жорсткага касмічнага выпраменьвання, ззяння чорных сонцаў, магнітных бураў, бязгучнага кружэння мёртвых астэроідных паясоў і бязлітаснай бязмежнасці сусвету раптам узнікала Зямля. Вільготнае «эЛь» сцякала з крышталёвых ледзяшоў і разбівалася на бліскучыя кроплі, лілося дажджом і струменіла ручаямі, набрыняла клейкімі лістамі і гулка ляцела долу спелым яблыкам, білася лянівым лінём у сетцы і трапятала лістападам, хваёвай іголкай пры-

ліпала да маслякоў і застывала ў шкляных лужынах, якія яны раскоўзвалі да люстэркавага бляску.

«эЛь» азначала любоў. У роднай мове А. гэтае паняцце перадавалася двума словамі. Адно прызначалася жанчыне ці мужчыну, другое — паэзіі ці віну. Розніца заставалася загадкавай і недаступнай для перакладчыкаў у сталіцы імперыі — за адным выключэннем. Неяк у сталічным літаратурным архіве А. наткнуўся на тоўсты пакет з прозвішчам маладога паэта, свайго земляка, які знік бясследна паўстагоддзя таму. У пакеце ляжалі спрасаваныя гранкі кнігі паэзіі, якая была падрыхтаваная да друку, але ніколі не пабачыла свет. Сярод выдавецкай перапіскі, рэцэнзіяў і пастановы рэдакцыйнай рады ляжалі пераклады — але не было арыгіналаў вершаў. А. праверыў пасмяротныя публікацыі — усё сыходзілася, апроч аднаго верша. Існаваў пераклад, але арыгінал адсутнічаў. А. перакапаў старыя часопісы і зборнікі, пагартаў газетныя падшыўкі, але нічога не знайшоў.

Аўтарам перакладаў быў Т. За сваё жыццё ён пераклаў тысячы радкоў усходняй паэзіі, адзін заваяваны эмір даў яму нават ордэн за пераклады. Свае ўласныя вершы паэт пісаў у стол, друкаваліся яны надзвычай рэдка, у альманахах, якія называлі брацкімі магіламі, дзе яны былі як алмазы сярод шклянога смецця. Ягоная першая кніжка павінна была выйсці адразу пасля вайны, але вялікая паэтэса, якая напісала прадмову да зборніка, трапіла ў царскую апалу, і набор рассыпалі.

Праз паўтара дзесяцігоддзя, пры новым цары, кніжка ўсё ж выйшла. Там быў радок: «Ах, усходнія пераклады, як баліць ад вас галава!» — акыны адчулі пагарду і паскардзіліся свайму эміру, які ўжо сядзеў у палітбюро, і наступную кніжку паэту ўдалося выдаць толькі пасля чарговай змены ўлады.

— Жывіце доўга, — гаварыў паэт, калі чуў скаргі на тое, што некага не друкуюць. Калі А. спытаўся, ці перакладаў паэт калі-небудзь з ягонай роднай мовы, той неяк уважліва паглядзеў на

яго і сказаў, што яго першай прафесійнай працай быў якраз такі пераклад, але хутка ён адмовіўся ад перакладу сучаснікаў і перайшоў на ўсходні эпас. Прычына была даволі відавочная — аўтараў рыфмаваных паданняў тысячагадовай даўніны не маглі дастаць нават доўгія рукі тагачаснай улады. Але справа была яшчэ ў мове.

— Хіба наша мова не самая блізкая да вашай? — здзівіўся тады А.

— Многія жылі тады з перакладаў. Але ў самых лепшых — у Барыса, у Ганны і Марыны — вы знойдзеце толькі па адным вершы з вашай мовы. Паспрабавалі і кінулі. Думаеце, выпадкова?

Нашмат пазней А. знайшоў стэнаграму выступу аднаго з трох згаданых паэтаў пад час ягонага прыезду ў яго родны горад у сярэдзіне 30-х. Вашая мова — гэта мова самой паэзіі, у захапленні спяшаўся са словамі паэт, гэта мова ветру і рэчкі, лесу і поля. Яна блізкая і паказвае, куды развівацца нашай паэзіі, дзе знаходзіцца блізкае памежжа, нейтральная тэрыторыя, куды мы з нашай паэзіяй можам зайсці і нешта ўзяць, рассунуць нашыя рамкі ў невядомае.

Мова не давалася перакладчыкам, магчыма, таму, што яны адчувалі яе блізкую, але іншую таямніцу. Яе нельга было перакласці, бо першым гінуў гук — яму не знаходзілася адпаведнікаў, бо сэнс усяго быў якраз у гэтай рознасці. Праз трацину стагоддзя госцю далі самую высокую ў свеце літаратурную прэмію і з гэтай прычыны наладзілі звычайны суд, у якім паўдзельнічалі і мясцовыя літаратары, тыя, перад кім паэт некалі выступаў. У архіве А. знайшоў іхнія выступы. Калі паспрабаваў апублікаваць, яму перадалі: не лезь.

Што ён сказаў на развітанне? «Страла, а не кубак з атрутай». Што значылі гэтыя словы? І тады ён успомніў свой верш. Але не будзеш чытаць верш следчаму, які хацеў ведаць дакладна, пра што яны гаварылі з дырыжорам. Бо гэта была апошняя размова. Назаўтра дырыжор не прыйшоў на рэпетыцыю, тэлефон не адказваў, калі ўзламалі дзверы, цела нябожчыка ляжала на падлозе ля канапы. Следства знайшло мноства адбіткаў пальцаў. Іх ідэнтыфікавалі. Адбіткі належалі А.

***

Усе каханні А. канчаліся без трагедыі: быццам упіраліся ў глухі і бязгучны фрыкатыўны «К» — лёгкі нячутны намёк на выбух, які не адбыўся, так і заглух, не прагучаўшы.

Драма была ў жорсткім, як скрыгат танкавых тракаў па бруку, канчатку: «НДР». Але «ЛЯ» ніколі не дабіралася так далёка, адгароджанае шматслойнай бранёй «К» і «С». Нават калі плазма прапальвала гэтыя два слаі, яна губляла моц і расцякалася ў мёртвым бязмежжы другога «А»; усёй тэмпературы ледзь хапала, каб лізнуць няяўнае «Н» і адхлынуць, не пакінуўшы слядоў.

«Н-н-н-Д-д-д-Р-р-р-р...» Так ярасна-натужна ўсімі рычагамі спрабаваў затармазіць на галоўнай плошчы роднага горада яго старэйшы брат, калі пад ягоны танк, які вырваўся з вузкай вулачкі на прастору, раптам пакацілася дзіцячая каляска. Але стрымаць сорак тон сталі не ўдалося, занадта хутка ляцела каляска, брат яшчэ паспеў здзівіцца, што паблізу нікога не было, адкуль жа каляска, як яна наляцела на браню і ўдарыла ўсёй брутальнай сілай закладзенага ў ёй тратылавага зараду. Танк стаў на дыбы, як перапалоханы помнік расійскаму імператару, — далей брат нічога не памятаў. Інваліднай пенсіі пасля шпіталя хапала толькі на таннае віно; але калі грамадзянская вайна перакінулася і на метраполію, пенсію перасталі плаціць і брат прапаў.

Яго звалі Сяргей.

## У фіялетавай ночы вугал крыла

*Извлечение из инструкции по розыску*

*... подлежит немедленному розыску и задержанию порядком, установленным настоящей Инструкцией, для привлечения к ответственности, предусмотренной законом.*

*Для проведения розыска и задержания наряжается необходимое количество групп розыска, задержания, патрулей, постов, секретов, нарядов, засад во главе с офицерами или прапорщиками, с включением в их состав лиц, хорошо знающих разыскиваемого в лицо.*

*Личный состав должен быть вооружен автоматами, при необходимости пистолетами, сигнальными средствами, одеты в пуленепробиваемые жилеты и стальные шлемы, иметь противогазы. Снайпер группы вооружается снайперской винтовкой. Группа задержания действует, как правило, на бронетранспортере или боевой машине пехоты.*

*При отказе сдать оружие руководитель розыска и задержания принимает меры психологического воздействия, предупреждает о применении оружия, дымовых и других специальных средств. При невыполнении этих требований дает приказание о выдвижении на огневой рубеж бронетранспортера (БМП) для ведения предупредительного огня. В случае отказа прекратить вооруженное сопротивление руководитель дает приказание группе задержания о применении дымовых и других специальных средств, а при продолжении оказания сопротивления дается команда открыть огонь на поражение.*

Утверджденa приказом
от 29 сентября 1990 г. №488

— Следующий!

Сакратарка ківае, і я ўваходжу ў кабінет. За доўгім сталом — трынаццаць крэслаў. Мяне запрашаюць сесці ў тарцы.

— Пожалуйста.

Я спрабую ўстаць і назвацца. Горла сціскае спазм, і на імгненне я забываюся на сваё ймя і аддаюся радасці прывіднага збавення, аб якім мараць у дзяцінстве: няхай бы землятрус разбурыў школу, добра б цяжка-цяжка захварэць, вось каб у будынак зараз урэзаўся самалёт... Грымучая цішыня наплывае з усіх бакоў, і толькі барвовыя блікі на паліраванай паверхні стала аддзяляюць ад поўнага правалу ў фіялетавую чарнату.

Варанёны метал калідора. Крутыя й гладкія, адпаліраваныя мільёнамі бакі бясконцай варонкі, дзе магчымы толькі адзін накірунак. Я спрабую спыніцца: неадчувальная дагэтуль плынь раптам кідае мяне бокам, разварочвае, малоціць па руках і нагах і валачэ за сабой. Я ўпіраюся як магу, спрабую зачапіцца. Марна. Амаль марна.

З шоргатам, трэскам паветра ўспорваюць велізарныя крылы, мяне кідае ўверх і ўбок. Вясёлым пункцірам успыхваюць трасеры. Ахова б'е з кароткаствольных АКМаў: міма, міма, міма. Крылатая істота не дакранаецца да мяне, але маё цела дакладна, быццам цень, паўтарае ўсе яе манеўры.

— Хто ты?

— Архангел!.. А ну давай, быстро, пока высоту не набрал, шевелись, твою мать! — нясецца рэзкі крык знізу.

— Арханёл? Я памёр? Ёсць анёлы?

— Дай руку, — істота прыцягвае мяне да сябе, і мы раптоўна зігзагам мяняем курс. Рэактыўная граната са свістам праносіцца міма.

— З РПГ-18, асколачна-кумуляцыйнай спрабавалі, — чуецца спакойны голас побач.

— Хто ты?

— Увага — ніжэй!

Мы быццам правальваемся ў яму і амаль чапляем тралейбусныя драты. Над намі пырскае воблачка газу. На другім баку праспекта лопаецца вaконная рама, шкло ляціць на тратуар.

— Зараз выйдзем з зоны. Праз метраў 800 гранатамёт не дастане. Было б лепш трымацца вышэй, але хто ведае, што ў іх на дахах. Мяняюць пазіцыі штодня, падцягваюць тэхніку.

— Вот они, падлы! Бей веером!

Мы ледзь пасяваем завярнуць за эркер на ўзроўні трэцяга наверха. Сталінская архітэктурная класіка крышыцца, але ад лёгкай стралковай зброі прыкрывае досыць надзейна.

— Сколько раз вам вдалбливали: прицел ставить на бесконечность! Не важно, что с виду до них пятьдесят метров: ставь на бесконечность, режим автоматический, патронов не жалеть. Все поняли?..

Сіпаты голас працягвае інструктаж недзе зусім побач. Я асцярожна выглядаю з-за паўкруглага вугла. За газетным шапікам трое ў камуфляжнай форме й нейкіх цёмных люстраных акулярах, побач армейскі джып. Старэйшы з бляклымі зоркамі на пагонах раптам нешта заўважае і рыўком разрывае гімнасцёрку на маладзенькім цыбатым хлопцы. У кулаку камандзіра заціснуты ланцужок, на ім гойдаецца алавяны крыжык. Вусны камандзіра перакошвае агіда, і ён без размаху, рэзка б'е дэсантным чаравікам бяляваму паміж ног. Са стогнучым усхліпам той пераломваецца й асядае на зямлю.

— Тут нельга заставацца. Напэўна папярэджаныя ўсе пасты й цябе пільнуюць.

— Хто ты?

— Не падабаецца мне тая машына...

Пасярод праспекта няспешна рухаецца крыты брызентам фургон. На вузкім карнізе няма дзе хавацца, але мы яшчэ шчыльней уціскаемся ў сцяну, амаль зліўшыся са сцёкавай тру-

бой. Машына ўжо мінула нас, і ззаду відаць сферычную антэну, якая ляніва паварочваецца вакол сваёй восі.

— Уніз па трубе! Ляцець нельга, давай сам, хутчэй!

Я чапляюся за халодную гладкую трубу й саслізгваю з карніза. Штыры, якія мацуюць яе да цаглянай муроўкі, выходзяць з пазоў, сыплецца пясок. Недзе паміж другім і першым паверхамі я адчуваю, што спіна пайшла наперад, разам з кавалкам трубы аддзяляюся ад сцяны й з грукатам лячу на асфальт. Рука дапамагае мне падняцца й падштурхоўвае — бяжым! Ускокваем у двор Палітэхнічнага інстытута. Машына працягвае рух — лакатар відавочна не зафіксаваў нічога падазронага. Нас выдаў грукат: ад Акадэміі навук праз праспект ужо бягуць двое ў акулярах і камуфляжнай форме, з кароткімі дэсантнымі аўтаматамі. Што ёсць сілаў кідаемся напрасткі праз клумбу, далей, у прысады, за вугал цэнтральнага корпуса і ўзмываем у паветра.

— Лакатар фіксуе толькі ў палёце, але будынак экрануе. Усё ж вышэй даху падымацца не варта. У іх ужо ёсць стынгеры. Ціха!..

З-за вугла выскокваюць тыя, у цёмных акулярах.

— Где они?..

Да зямлі метраў сем, але нас пакуль прыкрывае таўшчэзны ствол каштана. Пакуль, бо пагоня раптам спынілася й чуйна азіраецца навокал.

— Вот!..

Мы зрываемся з месца. Каляровыя трасеры ўспорваюць наваколле. Ляцяць трэскі, ссечанае галлё сыплецца на асфальт. Вугал, паварот, нырэц у арку, яшчэ раз паварот — і мы па-за дасягальнасцю АКМаў. Можна перавесці дых.

— Што адбываецца? Чаму — я нічога не разумею — хто ты?..

— Хочаш?..

Бурштынавая вадкасць з пляскатай фляжкі апякае язык і нёба, тонкі водар запаўняе ўсяго мяне. Робіцца цёпла.

— І я глыну.

Фляжка куляецца. Край вока фіксуе рух над суседнім домам.

— Ниже бери прицел, — не уйдет, сука, я их пачками сбиваю! Раньше уходили, а теперь нет. У их угол крыла не тот. Не могут сделать петлю, тут мы его и достанем!

Над дахам праз дарогу раптам успыхвае шаравая маланка: у растучым ва ўсе бакі полымі, як у негатыве, прарэзваецца контур жахлівай і безабароннай чалавечай птушкі, якая абвугліваецца і чарнее, толькі вочы выпраменьваюць неверагоднай сілы святло.

— Прастола збілі...

— Каго?

— Ну, гэта накшталт генерала ці палкоўніка па-вашаму... Супраць стынгераў яны амаль безабаронныя. У іх уласная тэмпература вышэй кропкі застывання золата. Інфрачырвоныя аналізатары на стынгерах бяруць іх намёртва.

Пераможныя крыкі й радасна-нервовая лаянка напаўняюць прастору. Уся група тых, у акулярах, бяжыць да месца ўспышкі. Мой спадарожнік цягне мяне за сабой да шахты ліфта. Мы прычыняем за сабой дзверкі і, напалову сагнутыя, перабіраемся на другі бок гарышча. Спыняемся каля вентыляцыйнага люка. Адсюль відаць амаль усю вуліцу і суседнія дахі.

— Трэба перачакаць. Тут зараз будзе зашмат народу, рухацца небяспечна.

— Паслухай, гэты, палкоўнік — ён хто?

— Усё войска падзелена на тры колы: малодшыя веснікі — анёлы, арханёлы і пачаткі, потым старэйшыя — сілы, годнасці і віргініі, а затым вышэйшае кола — прастолы, херувімы й серафімы.

— Войска? І анёл можа стаць серафімам?

— Там няма выслугі гадоў, бо няма часу. Там вечнасць.

— А гэты, якога збілі стынгерам, — што з ім будзе?

— Яго больш не будзе. Ён сам абраў цялесную форму, бо не хацеў заставацца толькі веснікам. Каб умяшацца, даводзіцца адмаўляцца ад астральнага цела: слова становіцца целам. З усімі наступствамі.

— Але... Навошта, чаму — у вас там так усё добра, вечная ласка?

— Вечнай ласкі няма, ёсць вечнае святло і вечная цемра, а паміж імі — вечная барацьба. Ніхто дакладна не ведае — ціха!..

З падвываннем ідзе ўверх ліфт. Спыняецца на апошнім паверсе. Ударам адкрываецца люк, і з яго выглядаюць двое патрульных. На гарышчы змрочна, і яны здымаюць цёмныя акуляры, каб лепш агледзецца.

— Пусто. Голуби засрали все, пусть кусок сам тут ползает. У тебя травки не осталось?

— Где ж ты был, когда пайку давали?

— Должок имелся...

Бліскае запальнічка. Лёгкі скразняк цягне да нашага акенца характерны пах марыхуаны.

—... Хорошо еще толченого стекла подсыпать. Бутылку трахнешь и горлышко туда. Особенно шушера мелкая не любит: ангелы, архангелы. Волчком идут, юзом их крутит: балет на льду!

— Ну, этих сбивать — как два пальца... Командир рассказывал, ракетчики раз серафима трахнули, так сами чуть не обосрались. У него энергии — как у атомного крейсера. Врежешь — полнеба горит. Но я больше люблю целок ихних, виргиний, зажигательными трахать: как бенгальские огни брызгают, суки!..

Два тонкія, як голкі, лазерныя промні з нашага кута пранізваюць гарышча. Вочы расказчыка выкіпаюць, і праз прапалены наскрозь чэрап відаць сценку. Ягоны сусед, аматар балета на лёдзе, затарможаны марыхуанай, некалькі імгненняў не рэагуе, затым спрабуе адначасна начапіць акуляры і схапіцца за АКМ, потым кідаецца да ліфта. Прамяні сыходзяцца на яго шыі, і ён

з дзікаватым усхліпам валіцца ў кабіну, але пры гэтым чапляе спускавы гачак, і аўтамат дае чаргу яму пад ногі. Ліфт трасецца, сыплецца колаты пластык, коцяцца гільзы. Ад нечаканасці ў мяне ў памяці паўстае «Фаўст».

— Я чытаў, вы змагаецеся ружамі.

— Некалі, сапраўды, ад калючак адступаў нават Князь. Прагрэс, як бачыш, не абмінуў і нас. Але трэба выбірацца: тут зараз будзе як у пекле.

Мы выбіраемся на дах. З акенца на гарышчы суседняга дома нешта бліскае. Мой спадарожнік штурхае мяне на дах, але сам ухіліцца ўжо не паспявае: моцным ударам яго падкідвае й адначасна ўкручвае ў паветра, неверагоднай шырыні крылы на секунду зліваюцца ў суцэльную плоскасць, як у верталёта. Ён бокам уразаецца ў тэлеантэну й коціцца па даху. Адно крыло на адлёце ляпае, як кавалак брызенту, ненатуральна свабодна й раскідана.

— Як ты?! Што з крылом?

— Адлятаў... Адыходзь. Мяне ўжо не выпусцяць. Сцеражыся засадаў — не падпускай іх блізка, пазбягай тунеляў, лепш ужо адкрытыя ўчасткі, і не вер ім, не бойся, не прасі й не вер, чуеш? Табе дапамогуць. Ты...

—... достойны, с чем и поздравляем!

Я ўсё яшчэ спрабую перавярнуць яго дагары тварам. Перабітае крыло не складваецца, і рэзкі боль праціна̂е ўсё цела. Як жа несці — цягнуць не дае крыло, на плечы таксама не ўзваліш. Каб удвох, і насілкі... Я пачынаю пераварочваць цела й раптам усведамляю, што дагэтуль не бачыў ягонага твару. Ён сутаргава, апошнім намаганнем адштурхоўваецца й перавальваецца праз невысокі бардзюр на даху.

— Поздравляем! Поздравляем! Поздравляем!..

Губляючы прытомнасць, я спрабую рвануцца за ім. Часу няма, толькі прастора, і яна мяняецца. Абрэзаць крыло, як у

амерыканскім Бэкфаеры, пазбавіцца размаху й выгінаў Бацічэлі... З імі трэба па-іхняму. Там у іх абсалютная перавага, але толькі там іх можна перамагчы так, як я хачу іх перамагчы — не святлом, не, зусім не святлом. Шанец — адзін з трох мільёнаў. Гэта выдатны шанец. Цудоўны fucking шанец — з пункту гледжання вечнасці.

Разбітае акно, слуп з вырваным дротам, перапоўненая сметніца.

Скруціўшы плечы, з напружаннем, ад якога лопаюцца сасуды ў вачах і з-пад пазногцяў выступае кроў, павярнуць крыло.

Акно, слуп, сметніца.

Дзе ж вы, Херувімы й Серафімы?! Каго ён меў на ўвазе, Прастолаў, Сілаў?! Нідзе. Нікога. Ніколі. Не прасі.

Выбіты патрэсканы асфальт.

Цнатлівасці! Віргініі, мае каханні! Ніводная з вас не знішчала папярэднюю, а заставалася як неверагодны, нічым не заслужаны падарунак, пасля якога кожны раз болем непапраўнага расстання сціскалася сэрца й свет расплываўся найгарчэйшай слязой апусцелага жыцця — назаўсёды, назаўжды, назусім, да новага цуду вашай лятучай і вечнай, невыразна салодкай песні, што ператварала нас у маладых багоў, і мы ўзляталі, узляталі, узляталі!..

Яго пачало ўкручваць у пятлю Мёбіюса, адкрытую толькі анёлам помсты. Насустрач, як у люстэрку, пікіраваў нехта, і ён зусім не здзівіўся, калі пабачыў твар.

## Крылаты вершнік

*...Крылаты вершнік ляцеў над сталіцай і мантыя вілася агнём, сляпіла птушак і асвятляла чарапіцу старых дахаў, успыхвала на крыжах касцёлаў і цэркваў, запальвала залаты арнамент сінагог і паўмесяцы над мячэцямі, драбілася ў прызмах хмарачосаў на мірыяды промняў, і Aurora Borealis — Паўночнае ззянне замкнула небасхіл над краінай у адзін дыямантавы выбух.*

*Пачаўся першы дзень 101-га года Беларускай Народнай Рэспублікі…*

### Дзень 1

— Заўтра —25 сакавіка, больш адкладаць няма куды, і таму, спадарства, апошняе галасаванне журы, якое вырашыць, хто атрымае Крылатую Пагоню, адбудзецца сёння апоўначы...

Прэзідэнт Нацыянальнай Акадэміі зрабіла паўзу і дадала:

— Дарэчы, гэта будзе не проста галасаванне, а феерверк, які, спадзяюся, пабачыць уся краіна!..

У фінал конкурсу да 100-х угодкаў БНР прайшлі два творы: мультымедыйная энцыклапедыя «Уся БНР», у якой была сабраная самая поўная гісторыя краіны, і энцыклапедычная антыўтопія з дзіўнай назвай «Уся БССР».

Адна энцыклапедыя была плёнам шматгадовай працы Нацыянальнай Акадэміі, аўтарства другой было зашыфравана лічбай «5».

Першыя два галасаванні далі нечаканы вынік — кожнае з выданняў атрымлівала па два галасы, і адзін сябра журы ўстрымліваўся. Гэта быў найстарэйшы ў краіне паэт, і цяпер астатнія з чаканнем глядзелі на яго — а ён глядзеў у акно, успамінаючы такую самую шарую гадзіну, калі ўсё гэта пачалося...

## Дзень 2

...Белы дзень замёр, быццам спыніўся гадзіннік, рэдкія сняжынкі паволі гойдаліся ў паветры, было рана запальваць святло, нават фары аўтамашын яшчэ не асвятлялі асфальт, а толькі пазначалі габарыты — горад за акном страціў усе прыкметы часу.

Ён сядзеў у кабінеце дырэктара самага знакамітага ў краіне выдавецтва імя Марціна Кухты, якое ўзначальваў праўнук заснавальніка, таксама Марцін. Шкляны офіс месціўся на апошнім, 100-м паверсе Медыя-вежы і, здавалася, ціха плыў над нямым мегаполісам, яго хмарачосамі, плошчамі й паркамі. Дырэктар прасіў дапамогі — да 100-годдзя БНР заставалася менш за сто дзён, а ніякай прымальнай ідэі не было.

— Усё, што на паверхні, разабралі! — скардзіўся дырэктар.

Кіраўнік нацбанка Багдан Станіслаўскі выпускаў манеты наміналам 100 талераў, якія яшчэ да чаканкі былі распрададзены на аўкцыёнах E-Bay па вар’яцкіх коштах.

Звяз музыкаў рыхтаваў канцэрт, і святочную сімфонію Гаруся Праменчука ўжо з рэпетыцыяў разабралі на сігналы да мабільных тэлефонаў. Казалі, прэзідэнт рэспублікі Ірэна Суліма пачула гэтую мелодыю нават на прыватным тэлефоне каляжанкі, прэзідэнткі ЗША, калі яны сустракаліся ў Авальным офісе.

Поспех быў гарантаваны й экспедыцыі моладзі на Эверэст, якую ўзначальваў ганаровы старшыня юнацкага звязу дзесяціпудовы асілак Фёдар Аляксюта — у кнізе рэкордаў Гінеса ён стане самым цяжкім альпіністам, які скарыў усе сямітысячнікі свету.

— Разумееце, на такім тле проста добры альбом ці факсімільныя выданні першых дзён рэспублікі ніхто не заўважыць, — з адчаем у голасе казаў дырэктар. — Апошняя надзея на Вас, пане Паэце, можа, прапануеце нешта. Вы ж даўно не друкаваліся?..

Быццам лазерны прамень ударыў у шыбу, халодным ззяннем успыхнуў рэдактарскі кабінет і ўся Медыя-вежа. У люстраных сценах офіса біўся пажар, які запалаў на Траецкай гары.

— 24 снежня, канечне, скончылі рэстаўрацыю! — было не зразумела, чаго больш у голасе дырэктара, захаплення ад яшчэ аднаго юбілейнага падарунка, ці адчаю. Якраз на Каляды міжнародная група рэстаўратараў, створаная ЮНЭСКА, абяцала завяршыць поўнае аднаўленне знакамітай Менскай Пагоні, адлітай па эскізах Шарка Магала да 5-й гадавіны БНР. Цяпер часовы купал і рыштаванні прыбралі і ўключылі лазернае святло.

...Крылаты вершнік ляцеў над сталіцай і мантыя вілася агнём, сляпіла птушак і асвятляла чарапіцу старых дахаў, успыхвала на крыжах касцёлаў і цэркваў, запальвала залаты арнамент сінагог і паўмесяцы над мячэцямі, драбілася ў прызмах хмарачосаў на мірыяды промняў, і Aurora Borealis — Паўночнае ззянне замкнула небасхіл над краінай у адзін дыямантавы выбух...

Менавіта з такім разлікам Магал выбіраў месца для бронзавага вершніка —Траецкую гару. Паэт чуў, што спачатку там меліся будаваць оперны тэатр, але пасля спыніліся на Пантэоне, які вянчала фігура лятучага рыцара.

— Дзе святло, там і цень, — сказаў паэт. — Некалі, шмат гадоў таму, я моцна захварэў на Каляды. Я жыў тады адзін у старой хаце над возерам, дарогі перамяло, электрычнасці, тэлефона не было, толькі механічная друкарка, за якой я праводзіў дні і ночы. Гэта быў самы шчаслівы час, калі нарадзіліся мае найлепшыя паэмы, я ніколі не працаваў так потым.

— Так, так, Ваш знакаміты азёрны цыкл, гэта бессмяротная паэзія, — сказаў дырэктар. — Праўда, ён ва ўсіх хрэстаматыях, перавыдаецца штогод... Канечне, можна зрабіць адмысловае юбілейнае выданне, напрыклад, сабраць пад адну вокладку ўсе пераклады — колькі іх ужо, здаецца, пад сотню моваў?

— Не лічыў, але я не пра гэта, — сказаў паэт. — Я ледзь не памёр тады, так раптоўна падскочыла тэмпература, я трызніў увесь калядны тыдзень і нічога не засталося ў памяці, а калі апрытомнеў, хата была закідана пакамечанымі аркушамі паперы з тэкстам, які не быў паэзіяй, які я не памятаю, каб пісаў і які з таго часу не перачытваў.

— Невядомы твор?!! — дырэктар выдавецтва не мог паверыць сваёй удачы. — Гэта сенсацыя, які падарунак да юбілею — мы неадкладна надрукуем!

— Баюся, гэта будзе няпроста, — развёў рукамі паэт. — Я пакінуў тыя аркушы ў доме над возерам. Гэта быў адзіны асобнік — не забывайце, тады яшчэ не прыдумалі персанальныя камputары. Я даўно не быў у тых мясцінах і нават не ведаю, ці ацалела сама хата.

## Дзень 3

Далей падзеі разгортваліся хутка і нечакана. Назаўтра дырэктар папрасіў зайсці да сябе маладога праграміста з дэпартамента электроннага рэдагавання — у выдавецтве эксперыменталі з новымі камputарнымі праграмамі, якія, як меркавалася, маглі істотна змяніць характар рэдактарскай і нават пісьменніцкай працы.

Той адкрыў у інтэрнэце карту Google і праз спадарожнік яны хутка знайшлі возера, павялічылі карцінку — дом стаяў на тым самым месцы, нават вокны былі цэлыя і ў іх адбівалася халоднае зімовае сонца. Але да яго не вяла ніводная дарога ці сцяжына — на дзясяткі кіламетраў навокал усё зарасло лесам, які патанаў у снезе. Цяпер гэта быў цэнтр запаведніка і рухацца там дазволена было толькі на конях.

— Часу няма — што рабіць, што рабіць? — у адчаі ўсклікнуў дырэктар. Ён набраў па відэасувязі паэта і паведаміў навіну. Той развёў рукамі — нічым нельга дапамагчы.

— Як называўся Ваш твор? — спытаўся праграміст, які дагэтуль моўчкі глядзеў на паэта, якога ведаў са школьных падручнікаў.

Паэт уздыхнуў.

— Я казаў, гэта было трызненне, — «Адзін дзень у БССР»... Па-мойму, гэта азначае «Белая Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка». Вы мусіце лепш памятаць з падручнікаў гісторыі, як меліся назваць тую байструкаватую краіну, калі спрабавалі аднавіць імперыю пасля распаду. Здаецца, у планах было стварэнне некалькіх дзясяткаў такіх аўтаноміяў, але хваля жоўтага сіфілісу зжэрла тады большасць цэнтральных правадыроў, рэшта перасстраляла адно аднаго ці ўцякла за акіян. Ну, а ўлада, якая прыйшла з Глыбокага Усходу і спынілася на нашай мяжы, як мы ведаем, больш цікавілася конегадоўляй і зборам спрадвечнай мыты з новых земляў, чым геаграфічнымі ўтопіямі...

— Калі Вы не супраць, мы маглі б паглядзець, што з тым загалоўкам можа зрабіць рэдактарская праграма рэканструкцыі, — сказаў праграміст. І патлумачыў: — Як у палеанталогіі можна аднавіць шкілет дыназаўра і нават ягоныя магчымыя паводзіны паводле адной косткі, гэтак і наша праграма паспрабуе рэканструяваць увесь тэкст паводле яго фрагмента. У вас толькі адно базавае слова, але гэта абрэвіятура, да таго ж семантычна нагружаная, і можа атрымацца нешта цікавае.

Паэт быў не супраць, а для дырэктара гэта быў апошні шанец.

## Дзень 4

Праграміст вярнуўся ў свой офіс і загрузіў назву ў працэсар. Першы запуск праграмы не даў выніку. Дакладней, вынік быў, але не той. Кампутар не аднавіў уяўны тэкст, а адразу зрабіў яго аналіз, рэдактарскія заўвагі, крытычны разбор твора, якога не было.

І гэтую рэцэнзію нельга было назваць спрыяльнай.

«Аўтар не ведае, як называецца краіна, якую ён апісвае, і ўжывае тэрміны «Паўн.-Зах. Край», «ССРБ», «Белліт», «БССР», «РБ», а таксама штучныя сінонімы «Усходняя», «Заходняя», «Крэсы», «Гебітскамісарыят» і «Саюзн. Дзярж».

Адсутнічае матывацыя паводзінаў дзеючых асобаў — напрыклад, першы прэзідэнт канчае жыццё самагубствам, пры гэтым не тлумачыцца, чаму гэта адбываецца ў вар'ятні, а тэрмін апошняга ніколі не сканчаецца, хаця яго паводзіны падпадаюць пад дыягназ «мазаічная псіхапатыя».

Аўтар стварае фантасмагарычны «Саюз Вызвалення», піша, што насамрэч яго не існавала, і тым не менш больш за сто чалавек арыштаваныя, прызнаюцца ў злачынстве і высылаюцца з краіны. Такім чынам аўтар спачатку прыдумляе арганізацыю, якой не было, затым карае герояў за сяброўства ў ёй, і пасля сцвярджае, што праз паўстагоддзя прыдуманая ім дзяржава раптам праводзіць рэабілітацыю і абвяшчае іх невінаватымі. Узровень сэнсавай энтропіі павялічваецца спасылкай, што частка асуджаных не падлягала рэабілітацыі.

Нематываваным з'яўляецца сцверджанне, што дзясяткі паэтаў, празаікаў, навукоўцаў былі расстраляныя за адзін дзень, чаго ніколі не было ў гісторыі сусветнай літаратуры. Ігнаруецца агульнавядомы факт, што менавіта ў той дзень нацыянальны паэт нумар 1 атрымаў Нобелеўскую прэмію. Паводле аўтара, ад-

нак, ён сканчае самагубствам, прычым двойчы — спачатку ад нажа, потым кідаецца ў пралёт лесвіцы ў замежным гатэлі.

У аўтара адсутнічае не толькі гістарычнае, але й прасторавае мысленне. Тэрыторыя краіны спачатку абразаецца да лапіка, потым павялічваецца на дзве вобласці, затым палова краіны аддаецца суседняй дзяржаве, і гэтая кройка працягваецца, аж пакуль гістарычная сталіца не становіцца сталіцай суседняй дзяржавы. Відавочна, што пасля такога падзелу ніякая краіна не змагла б існаваць на мапах свету.

Аўтар ужывае словы, значэння якіх не ведае. Так, тэрмін «меліярацыя («паляпшэнне») у тэксце азначае знішчэнне азёраў, выпростванне рэчак, капанне тупіковых каналаў і выветрыванне глебы ў месцы, якое ахоўваецца як «лёгкія Еўропы».

У апісанні штучна прыдуманай сусветнай вайны робіцца адвольны допуск, быццам нацыя падзялілася на дзве часткі і пачала грамадзянскую вайну. Такія нацыі не жывуць і не выжываюць.

Аўтар апісвае судовыя працэсы над дыякрытычным знакам (Ь) і змяшчае фота помніка адзінай літары (Ў), якая ацалела ад нацыянальнай мовы, што з'яўляецца пазасістэмнай неімавернасцю.

Назва зёлкі «чарнобыль» азначае ў аўтара не палын (artemisiaabsinthium), а апакаліпсіс, калі ўлады свядома саджаюць радыеактыўнае воблака на выбаршчыкаў, бацькі пояць дзяцей малаком са стронцыем, а падаткаплатнікі самі вяртаюцца на смяротныя тэрыторыі і жывуць там без электрычнасці, медычнай дапамогі й без інтэрнэту.

Найноўшы перыяд гісторыі характарызуецца ростам абсурду — краіна атрымлівае незалежнасць, але тыя, хто яе дамагаліся, абвяшчаюцца здраднікамі і з'язджаюць у эміграцыю, бясследна знікаюць вядомыя асобы, людзей арыштоўваюць, калі яны мірна ідуць па вуліцы. Цалкам неверагоднай выглядае

сцэна, у якой адзін з герояў, былы паплечнік кіраўніка дзяржавы і рэктар універсітэта, з якога выключаюць студэнтаў за любоў да радзімы, адмаўляецца выйсці з турмы, каб разам з хворай жонкай выехаць на свабоду».

Рэцэнзія канчалася жорсткай высновай:

«Аўтар дэманструе поўнае няведанне не толькі фактаў, але й законаў гісторыі, філасофіі, эканомікі, мовазнаўства, юрыспрудэнцыі, фізікі, экалогіі, земляробства, метэаралогіі, геаграфіі, батанікі і псіхалогіі. Адсутнічаюць элементарныя лагічныя сувязі, супярэчлівыя заявы суседнічаюць у межах аднаго сказа, прагнозны каэфіцыент тэксту роўны нулю. Агульны ўзровень імавернасці паводле рэдактарскай 100-бальнай шкалы знаходзіцца ніжэй нуля».

Апошні сказ кампутарнага рэцэнзента быў самы загадкавы:

«Структурна-семантычны аналіз твора не падпадае ні пад адну з кваліфікацыяў базавага рэцэнзійнага тэзаўруса і можа быць апісаны толькі ў экстралінгвістычнай кваліфікацыі як сада-мазахісцкія трызненні графамана альбо асіметрычныя нататкі на стужцы Мёбіюса».

## Дзень 5

Праграміст у адчаі глядзеў на вынік — яго нельга было паказваць ні аўтару, ні дырэктару. І тады ён зрабіў апошняе, што заставалася — загрузіў тэкст самой рэцэнзіі ў кампутар, вывеў на нуль індыкатар эмацыйнасці, да максімуму павялічыў кантэкстуальна-сістэмны дыяпазон і ўключыў праграму інтэлектуальнай рэканструкцыі зместу яшчэ раз.

Нелінейныя працэсары запрацавалі з поўнай нагрузкай, за мілісекунды перапрацоўваліся гігабайты інфармацыі, варыянты супастаўляліся, удакладняліся, трансфармаваліся, каб пасля выліцца ў чытэльны дыскрэтны тэкст.

Праграміст дасядзеў да канца працоўнага дня, але тэксту ўсё не было. Ён паставіў выдавецкі комплекс на аўтаматычны рэжым і сышоў.

Назаўтра была субота, затым нядзеля, ніхто ў выдавецтва не заходзіў, а ў панядзелак, калі прыйшлі на працу, на пераплётным стале выдавецкага аўтаматызаванага канвеера ляжала гатовая кніга. Зацягнуты ў барвова-зялёны каленкор том насіў дзіўны назоў «Уся БССР».

Праграміст запакаваў яго і адправіў бандэроль без зваротнага адрасу і подпісу, як патрабавалі ўмовы конкурсу, на адрас нацыянальнага журы.

## Дзень 6

Сябры журы перачыталі дзясяткі твораў, сярод якіх былі манаграфіі й паэмы, прысвечаныя розным старонкам 100-гадовай гісторыі рэспублікі, але ўніверсальнае энцыклапедычнае выданне «Уся БНР» ад пачатку было фаварытам.

Энцыклапедыя «Уся БССР«, якая прыйшла па пошце ў апошні дзень конкурсу, напачатку выклікала рогат. Кніга стракацела героямі, якія атрымлівалі гэтае званне «за датэрміновае ўкараненне перадавога вопыту», «за атрыманне высокіх ураджаеў кок-сагызу», але больш за ўсё чамусьці «за павелічэнне вытворчасці прадуктаў жывёлагадоўлі».

Другую папулярную катэгорыю складалі «ветэраны» — партыі, вайны, працы і нейкіх «органаў», «заслужаныя палярнікі» і «члены й кандыдаты ў члены Бюро» — апошняе слова заўжды пісалася з вялікай літары. Далей ішлі майстры спорту і машыннага даення, ганаровыя піянеры і народныя пісьменнікі.

Але менавіта пісьменнікі змянілі настрой журы. Назвы твораў гучалі ўхілiста-абстрактна: «У змаганні гартаваліся», «Калі зліваюцца рэкі», «Скрозь жывуць людзі» і належалі да загадка-

вага «метаду сацрэалізму». Што гэта такое, ясней не стала нават калі сябры журы адкрылі том на адпаведнай старонцы.

Энцыклапедыйны артыкул тлумачыў, быццам гэты мэтад «склаўся ў эпоху рэв. сацыяліст. пераўтварэнняў і стаў новым тыпам маст. свядомасці, у аснове якой ляжыць канцэпцыя рэв.-дзейснага, сацыяліст. гуманізму, цесная сувязь з жыццём народа, пафас барацьбы супраць сац. і нац. прыгнёту, палымяная мара аб шчаслівай будучыні, шчырасць, прастата, праўдзівасць».

Энцыклапедыя скрозь трымалася адной строгай сістэмы і аднаўляла альтэрнатыўную гісторыю са страхавітай пераканаўчасцю. Том рабіў настолькі моцнае ўражанне, што сябры журы, калі адкрывалі яго, адчувалі сябе ніякавата і трывожна.

## Дзень 7

«Уся БССР» выйшла ў фінал.

Два абмеркаванні і папярэднія закрытыя галасаванні далі нечаканы вынік — галасы дзяліліся напалам, і адзін удзельнік устрымліваўся. Нечаканасць палягала ў тым, што паміж галасаваннем сябры журы памянялі свае прыхільнасці — тыя, хто спачатку аддаў голас за «БНР», другі раз галасаваў за «БССР», і наадварот.

Толькі стары паэт не абвяшчаў свайго рашэння.

## Дзень 8

Апошняе, вырашальнае галасаванне было прызначана на поўнач 25 сакавіка. Яно было тайным і адначасна публічным. Месца было адмыслова абранае, каб ніхто не мог паўплываць на вынік — дах самага высокага будынка сталіцы, Медыя-вежы. Але ўся працэдура транслявалася праз інтэрнэт.

Ліхтары на сталічных вуліцах былі прыцемненыя, толькі адкрытая пляцоўка на вяршыні вежы была ярка асветлена промнямі пражэктараў. У небе кружылі некалькі гелікоптэраў з тэлевізійнымі апаратарамі; на даху, апроч сяброў журы, нікога не было.

Вежавы звон ударыў першы раз.

Сябры журы мусілі апусціць шар — белы за «Усю БНР» і чырвоны за «Усю БССР» — у адмысловую лейку вакуумнай спіралі, якая закручвалася як лічба дзевяць, даходзіла да зямлі і затым раструбам глядзела ў неба. Паводле разлікаў, шар пралятаў шлях да зямлі за 7 секунд і за гэты час разганяўся да хуткасці 11,2 км за секунду — дастаткова для пераадолення зямнога прыцяжэння. Шары павінны былі вылецець са спіралі і выбухнуць у небе над горадам агнём святочнага феерверку.

З кожным ударам звона сябар журы падыходзіў да лейкі і апускаў свой шар. Шосты ўдар адбыўся ў цішыні, сёмы таксама.

Восьмы ўдар толькі пачаў скаланаць паветра, калі на ноце найвышэйшага «сі» над Медыя-вежай выбухнуў бліскучым белым агнём першы шар — «БНР»!... Праз секунду неба загарэлася пунсовым полымем другога выбуху — «БССР»!..

Дзясятая секунда ізноў асляпіла сталіцу празрыстым снежным агнём, адзінаццаты ўдар заліў усё неба чырвонай фарбай — «БНР»!.. «БССР»!..

Дванаццаты ўдар, апошняя секунда 99-га года рэспублікі, ужо напаўняў паветра, калі раптам на экранах тэлевізараў, на маніторах кампутараў узніклі дзіўныя кадры.

...Салдаты ў цёмных шлемах, са шчытамі і дубінкамі атакавалі цывільных з бел-чырвона-белымі сцягамі. Цэнтральныя вуліцы былі перакрытыя машынамі з вадзянымі гарматамі, на дахах сядзелі снайперы, дэманстранты, стаўшы колам, абаранялі прамоўцу з мегафонам, ён аблізваў губы ў крыві, салдат біў нейкую дзяўчыну ў твар, у аўтобус закідвалі цэлы падлеткаў, дэ-

манстранты зрывалі са слупа велізарны партрэт вусатага чалавека...

Самым дзіўным было тое, што хаця ўся краіна бачыла гэтыя кадры, і яны цягнуліся амаль бясконца, з усё новымі ракурсамі і падрабязнасцямі, насамрэч дванаццаты ўдар вежавага звона яшчэ не адгучаў і апошні шар не вылецеў у неба.

Карцінка знікла гэтаксама раптоўна, як і з'явілася, і на экранах і маніторах узнік дах Медыя-вежы і разгубленыя твары сяброў журы.

Яны трывожна глядзелі адзін на аднаго і ў цёмнае неба — калі аператар з гелікоптэра даў панарамны план, стала відаць, што на агароджанай пляцоўцы знаходзяцца чатыры чалавекі.

Пятага не было.

## Дзень 9

Мільёны тэлегледачоў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы так і не зразумелі, што за дзіўныя кадры перабілі вяшчанне Адзінага канала, чаму раптам дыктар і рэпарцёры загаварылі на забытай мове, што за свята бурліла на вуліцах, чаму неба над горадам было заліта бел-чырвона-белым святлом.

Перадача «Супер-лата — наша ўсё!» аднавілася пасля карацейшага за маланку збою, і толькі дзіўнае ззянне, як срэбны след, долю секунды вісела ў паветры.

Наступнай раніцай у паліцэйскім рапарце было пазначана, што на цэнтральнай плошчы сталіцы быў знойдзены чалавек без дакументаў, з траўмай, характэрнай для падзення з высокага паверха, хаця ніякіх вышынных будынкаў побач не было, які на ўсе пытанні адказваў толькі, што ён — пяты, і ўсё магло быць інакш, пасля чаго невядомы сканаў.

Пры ім быў знойдзены аркуш паперы з тэкстам, які пачынаўся наступным чынам:

*«...Крылаты вершнік ляцеў над сталіцай і мантыя вілася агнём, сляпіла птушак і асвятляла чарапіцу старых дахаў, успыхвала на крыжах касцёлаў і цэркваў, запальвала залаты арнамент сінагог і паўмесяцы над мячэцямі, драбілася ў прызмах хмарачосаў на мірыяды промняў, і Aurora Borealis — Паўночнае ззянне замкнула небасхіл над краінай у адзін дыямантавы выбух.*

*Пачаўся першы дзень 101-га года Беларускай Народнай Рэспублікі...* »

## Татуіроўкі

Магія гуку і сэнсу стварае новую рэльнасць, якой не было, а магла быць і, можа, пасля напісання, стала.

У 1970-80 гады мінулага стагоддзя, яшчэ да таго, як збеларушчыўся, я захлынаўся паэзіяй, пераважна па-руску, нешта сам пісаў і, не маючы голасу, музычнага слыху, не ўмеючы грацць на гітары, часам рабіў з гэтага, як я думаў, песні і спяваў на сцэне, часам чытаў сябрам, нават публікаваў. Знаёмыя рэжысёры ўключалі ў свае спектаклі, куміры далікатна маўчалі, дзяўчатам падабалася, а што яшчэ трэба?

Першым быў Барыс Пастарнак. У сярэдзіне 1970-х адна знаёмая англічанка з Ліверпуля прыслала мне неверагодны падарунак — каляровы ілюстраваны альбом «The Beatles». У інстытуце замежных моваў, дзе я вучыўся, на яго хадзілі глядзець, як вернікі на цудатворную ікону. Аж пакуль адзін хлопец не паказаў мне зеленаваты том Пастарнака з малой серыі «Библиотеки поэта». Я разгарнуў самы першы верш, «Февраль. Достать чернил и плакать» — і заплакаў, і прамяняў Бітлоў на гэты цуд.

Другім стаў Арсені Таркоўскі — я пісаў ужо, як зачараваны яго вершамі краў з бібліятэк яго кнігі, і ягоная жонка мяне потым суцяшала — «ва ўсіх сяброў

Арсенія кнігі крадзеныя». А Ганна Ахматава ў рэцэнзіі дык наўпрост так і раіла, зважаючы на наклад — здабудзьце паэтаву кнігу ў які заўгодна спосаб (ясна як, ксераксаў не было). Ездзіў у Маскву, слаў лісты, памятаю, перадаў неяк яму, зацятаму філатэлісту, рэдкую серыю марак на евангельскія тэмы. Аднойчы Таркоўскі пацалаваў мяне на развітанне — ён быў апошнім каханнем Марыны Цвятаевай, вось як даходзяць дотыкі паэтаў.

Маці кажа, што назвала мяне і сястру ў гонар Пушкіна — Аляксандр і Тацяна, але «русская литература» была маім самым нелюбімым прадметам у школе, і ўпершыню Пушкіна я прачытаў на пачатку 1980-х — затое адразу поўны збор твораў, ад ліцэйскіх рыфмаў да апошніх лістоў, з усімі зноскамі, каментарамі да зносак і каментарамі да каментароў.

Час Максіма, Янкі, Якуба і расстралянага вялікага пакалення беларускай паэзіі быў яшчэ наперадзе.

Пушкін аднойчы перачытаў напісанае («И с отвращением читая жизнь мою»), жахнуўся («я трепещу и проклинаю»), але потым, пасля гамы непрадуктыўных эмоцый («и горько жалуюсь, и горько слезы лью») зрабіў нечакана практычнае назіранне: «но слов печальных не смываю».

Так зэк мог сказаць пра сваю татуіроўку.

Рэдактар дазволіў уключыць з тузін рускіх татуіровак у гэтую кніжку — ну й дзякуй, было ж, пакуль было.

## Коррида

(Эрнест Хемингуэй)

Коррида в узком коридоре,
Где, как наемные убийцы,
Белеют стены, будто лица
Холоднокровных пикадоров.
Сойдутся двое в разговоре
И ни один не возвратится.
Покажется лицо набором
Геометрических бессмыслиц,
Пустых парабол диким вздором
Все отрицающих ресниц.
Но в помраченьи матадорном
Кривой мулетой смех влача
Коснуться б этими губами
Её открытого плеча.

## Поэт

(Арсений Тарковский)

Я пил отраву терпких строк.
Они, как стрелы, зазубрины топорща,
Пробивали кожу и застревали в теле,
Обрастая плотью. Их вид,
Превосходящих птиц и опереньем,
И пением тетивы, мрачил рассудок,
Кровь дурманил. В безумьи гордом,
Я стал натягивать струну
На грозный инструмент,
Слепым глазам поверив, что Слепому равен.
Но лишь ладонь поранил.

Я мял горячие листы ладонью раненой
И больно, будто бритвы жал,
Сочилась кровь сквозь острые порезы
И ладонь, как роза, набухала, распрямляясь,
Все глубже узнавая смысел лезвий.
Из вен лился голубоватый сок
И запекался на листе горячем
То запятой, то точкой. А в места
Для слов не доставало. И выяснялось,
Что слишком мало вены взрезать.
Надо, чтобы их сердце разорвало?

## Побег

(Борис Пастернак)

Любимая, опомнись и беги!
Рвани гармошку этажей и лестниц!
Пощечины площадок на лице невестином
Так поцелуйно звонки и легки!
Ладони о перила обожги,
Чтоб в пальцах закипела кровь,
Чтоб дверь пружинно вывыла «Люб-бов-вь!»
И свадьбу перекосили судороги,
Чтоб гости роняли рюмки и ножи,
И на пиджак жених салат сложил!
Сбрось туфли и кольцо сорви,
Фатой ненужной слезы оботри.

Фатой ненужной слезы оботри
И брось. Внезапен дождь,
Прохладна и влажна лиловая трава,
Тиха сирень. В отекших кистях
Вода скользит, сползает, скапливает
Силы, виснет и, вздрогнув, вниз летит,
Сгибая листья, чтобы разбиться в луже.
Подробна рябь. В песке отчетливые шины.
Такси как псы послушны и стерегут твой шаг.
Дай знак! Стреляй дверями, ну же!
Брось под колеса белый стыд, и в путь!
Не плачь, вперед смотри, забудь.

Не плачь, вперед смотри, забудь
О пахнущих расправою гвоздиках,

Кроваво не расцветших перед дико
Протянутыми лицами гостей.
В стерильности несмятых простыней
Кольцуй неверность, плюй на долг и честь!
Сыграй со мной и в пешечном прорыве
Стань королевой и задуй болезнь!
Но жар в насмешку путает фигуры,
Игра больна и ввергнута в азарт,
Король незряч, как Лир, и также наказуем!
Прижми к губам ослепшие глаза.

Прижми к губам ослепшие глаза—
Пусть мирно жизнь, вступив в свои права
Вершит над нами тихую расправу —
Ты вся ему принадлежишь по праву.
Но что же я? В желтеющем саду,
В смятеньи листьев, в черно-синей тени,
У будущей могилы на коленях
Я назову тебя.
Как засмеется ветер! Как вскипит листва!
Окошко хлопнет, как от сквозняка,
И в комнатах уснувшего разбудит.
О, если б можно взять слова назад!

О, если б можно взять слова назад,
Из тени, из перчаток, из плаща,
Из следа у калитки, из пространства
Лжи, слабости, непостоянства,
Взять и отдать — живи!
Построй дворец пустой,
Введи туда желанную свободу,
Сплети венок и возложи его

На холодно струящуюся воду,
И ороси гортань, и смой позор.
Хрусталь расколется и выскользнет как ртуть.
Свободы горькой если б не глотнуть!

Свободы горькой если б не глотнуть,
На вентиль навалиться грудью
И завернуть. Не пить дурман
И не дышать обманом, и разгадать
Уродливую тайну ликующих гримас!
К виску приставить ствол и плавно
Курок спустить. Как брызнет молния зеркально!
Как вздрогнет маскарад и персонажи,
Вскричав презрительно и маски побросав,
На сцену выбегут и явят лица в язвах,
И в скрепки и картон рассыпят балаган.
О, дай мне шанс!

О, дай мне шанс!
Я выброшу запасы
Бумаги, ручек и карандашей.
Я вдохновенье прикажу взашей,
Я откажу от дома всем друзьям,
Поэтов сумасшедших чтить не буду
И музыку сломаю пополам. Повелевай!
Отныне патрицианка — Ты!
Реши мне участь, будто в Древнем Риме,
Движением руки! На поругание отдай
Истерзанную грудь, но не молчи.
Скажи хоть что-нибудь!

Скажи хоть что-нибудь!
Иль ненавистью налились слова
И слезы — мести вестник?
Свести с ума молчание грозит
И бесполезны уверенья в верности.
И взгляд не скажет, звук не долетит
Сквозь черное стекло и запертые двери.
Бушующему сердцу как поверить
В зловещий смысл и правду без прикрас?
И в бесконечность между глаз не умещается
Бунтующая ересь спасительного «сомневаюсь».
Убей меня. Я был жесток. Я каюсь!

Убей меня. Я был жесток. Я каюсь!
Расчетливо лил яд и пью сейчас
Горючую, как слезы, жалость,
И едкий, будто натр, сарказм.
На виснущей и блещущей тетиве,
Под куполом, над сотнями людей
Я надсмеялся над душой своей,
Под музыку ей обрезая крылья.
Но барабаны рокотали глухо,
И ты, привстав, терпела крик: «Скорей!»
Я полоснул по сердцу, как Ван Гог по уху.
Я недостоин был любви твоей.

Я недостоин был любви твоей.
Как закричать глухому, чтоб услышал?
Ты знала все, что сам я знал,
И потому униженней была — и выше.
Я не жалел. Молчал небрежно
В ответ на поцелуй. Не подымая глаз,

Из сил последних ты жила надеждой.
От лени, скуки, в неурочный час,
Мы в храм зашли. На клирос взгромоздясь,
Я надрывался, богохульно издеваясь,
С конца в начало говорил слова.
Ты кровь с губы слизнула и смеялась.

Ты кровь с губы слизнула и смеялась.
Бледность щек сменялась, сияли волосы,
Стекая в плечи, высоко плыл излом бровей.
Вдруг разом все погасли свечи. В темноте
Я потрясенно наблюдал тебя и в сердце
Смертельная влилась любовь. Так Бог
За святотатство мне открыл глаза и наказал.
Как Цезарь Брута, ты гордость звала и конец
Отчетливо и круто вонзала в буквы «эЛь, Ю, Бэ, Эль, Ю»,
И смотрела чем-то пустым из-под бровей.
Твоя любовь склонилась онемело,
Как я когда-то, над судьбой своей.

Как я когда-то, над судьбой своей
В порыве злой и мучающей силы
Ты занесла топор и опустила.
Петлю набросила и поволокла
На площадь по булыжной мостовой.
Сам воздух расступался пред тобой,
Свет убирал разбросанные тени
И в небе бледно звезды стыли.
С в бессильи сжатых губ сползли слова
«Всё. Разлюбила. Наконец». И в воздухе застыли.
И в тот же храм под терновый венец. С другим.
Любимая, опомнись и беги!

Любимая, опомнись и беги!
Фатой ненужной слезы оботри,
Не плачь, вперед смотри, забудь!
Прижми к губам ослепшие глаза!
О если б можно взять слова назад!
Свободы горькой если б не глотнуть!
О, дай мне шанс!
Скажи хоть что-нибудь!
Убей меня. Я был жесток. Я каюсь!
Я недостоин был любви твоей.
Ты кровь с губы слизнула и смеялась,
Как я когда-то, над судьбой своей.

## Бритвы рифмы

Я не буду писать про любовь.
Сколько можно в бреду без разбора
Рифмовать свою красную кровь
С хрупкой тайной зеркального вздора.

Вкривь скользнет острие под рукой,
Мы так мало друга любили,
Но уже мне мерещатся крылья
За ее обнаженной спиной.

Рвется марля сухих облаков,
Сквозь багровыя раны заката
Новый бог призывает жрецов.
Бритвой рифмы играет расплата.

## Мольба ладоней

И вот узнал я молодость мою,
В мольбе ладоней и безумстве боли,
Скрутившей в жгут остатки прежней воли,
Чтоб не сорвалось с губ еще одно «люблю»
На прежней сцене в безнадежной роли.

Но как в края ползущей к сердцу раны
Втереть стрекозью жизнь и смерть минут,
Когда к вокзалу все пути ведут,
А поезда перегоняют телеграммы,
Которые на почте не берут.

Во рту как труп, как руки без кистей
Слова немые мой язык ворочал,
И в памяти кровавый прочерк
Остался после встречи с ней.
Длиннее жизни. И любви короче.

## Предчувствие

Зреет трагедия. В косточке твердой
Вскоре начнет пробиваться росток.
Как же тогда быть с молчанием гордым,
Кто запасает отчаянье впрок?

Не понаслышке известна развязка,
До мелочей предсказуем конец.
Это не самая первая сказка,
Где в эпилоге терновый венец.

Кто же меня остановит на грани
Света и ночи? Какой фантазер
Веру хранит в исцеление раны,
Коль в позвоночник нацелен топор?

С плеч голова или праздник удалый
Нас ожидают — не все ли равно?
Вне расписаний глотают вокзалы
Встреч и потерь молодое вино.

Слезы дождя на окошке вагона
Не утереть, хоть умри, изнутри.
Все занавески в припадке агоний
Молят теперь об одном — не смотри,

Сколько секунд отделяют движенье
От возвращенья домой на века.
Я променял бы возможность спасенья
На один взгляд ее издалека.

Роль ассистента в кровавой затее
Не пожелаю любому врагу.
Даже палач свою жертву жалеет
Скорым ударом. Но я не могу

Ход представленья ни словом, ни жестом
Остановить или двинуь вперед.
Сдавлено время в тисках лицедейства.
Плавится сердце — ладони как лёд.

Ртом пересохшим за грозным суфлером
Мы повторяли любви имена.
Правда и ложь пропитались позором
До безразличья. Во все времена

Ересь такую клеймили публично.
Как же тебя уберечь от огня?
Веры размером хоть в семя горчичное,
Боже великий, пошли мне! И дня

Не проведу без молитвы горячей.
Ради любви на колени поставь,
Вырви язык мне и сделай незрячим,
Все забери. Только память оставь.

Мою память оставь.

## Давайте прощаться

Давайте прощаться, пока не настала пора!
Пока еще сердце дрожит от знакомого чуда,
И нашему счастью беда не грозит ниоткуда,
И каждое завтра прекрасней любого вчера.
Давайте прощаться, пока не настала пора!

Давайте опять обведем вокруг пальца судьбу!
Смешаем ей карты и выйдем из тесного круга,
Где жизнь и любовь обнимают вначале друг друга,
В конце превращают друг друга в раба и рабу.
Давайте опять обведем вокруг пальца судьбу!

Давайте менять неизвестность на полный рассчет
Грядущего с прошлым. И если обмен без обмана,
Бог даст, нанесенная сладкая рана
Не станет последней. А все остальное не в счет.
А все остальное не в счет.

## Кузнечик

Мне хочется окончить этот день
Перечисленьем всех его комедий.
В нем был обман и был обмен
Кольца златого на кольцо из меди.
И друг смеялся надо мной,
И я смеялся вместе с другом.
Круг солнца плыл над головой
И голова шла кругом.

В безумьи прятался азарт
Готовых к выстрелу педалей.
Но тот, кто выходил на старт,
Не получал медалей.
Мой царь корону слал назад
Не дожидаясь истеченья срока,
И шут влезал в его наряд
И заменял пророка.

Я в прейскурант своих надежд
Всегда включал победы и обиды.
И что нам мнения невежд,
Мы сами видывали виды.
Кузнечик плачет в тишине
Бульвара очень одиноко,
Ты, если вспомнишь обо мне,
То не казни жестоко.

## В ожиданьи удачи

Всю жизнь в ожиданьи удачи
Проматываем просто так.
Наверное, надо иначе,
Но кто знает в точности как?
Советчик смешной и убогой,
Возьми себе мой золотой...
Судьба меня учит дорогой,
Разлукой, изменой, хулой.

Кто горькую чашу не допил,
Тот сладкую чашу прольет.
В осадке на душах холопьих
Останутся слезы и пот.
Так лучше уж кровью умыться,
Всех примет сырая земля.
Была б хороша и синица,
Не будь в небесах журавля.

Колечко на руку надену,
Поярче глаза подведу.
И снова на прежнюю сцену
Смеяться и плакать в бреду!
И, может быть, мне улыбнется
Случайное счастье опять,
А, может, веревочка вьется,
Которую не миновать.

## Танго «Звезда»

Друзья нас в городе встречают
И провожают до утра,
И в дом зовут и угощают,
Хотя мы виделись вчера!
Покуда длятся эти встречи,
Любой судьбе гляжу в глаза.
И видит Бог, еще не вечер,
Хотя уже взошла звезда,
Уже взошла моя звезда!

Случайный взгляд и все сначала
Готово сердце повторить,
Оно нисколько не устало
Ни ненавидеть, ни любить!
В полете нежном и безумном
Душа сгорает без следа.
И видит Бог, еще мы юны
Хотя уже зажглась звезда,
Уже зажглась моя звезда!

Жизнь — незаслуженый подарок,
Но мы равны ему вполне.
Пусть не выходит без помарок
И на войне как на войне!
Пускай уже обходят с флангов
Меня потери и года,
Но видит Бог, еще есть танго,
Еще горит моя звезда,
Еще горит моя звезда!

## Стансы другу

Сердечный друг, купите валидолу—
Мое письмо вам почта принесет!
Были б вы юны — не пошли бы в школу,
Ах, жизнь умна, да мы — наоборот.

У нас субота, окончанье мая.
Я вам звонил и не жалел монет!
Мне отвечал какой-то гнусный фраер,
Что, мол, вас дома не было и нет.

Какая ложь! Я открывал газеты,
Там нету слов про ваш отъезд на юг,
И потому передаю приветы
От всей родни, знакомых и подруг.

У нас тепло. На каждом перекрестке
Цветут цветы и продается квас!
Заезжий Гамлет плачет на подмостках,
Есть колбаса. Но не хватает вас.

Шитью житья и счастья кройке
Необходим ваш верный глаз!
Мы заложили души перестройке,
Теперь она закладывает нас.

Как выйти из порочащего круга,
А после не ступить туда опять?
Давайте сядем друг напротив друга,
Нальем вина и будем вспоминать

Безумных лет угасшее веселье...
А, впрочем, наш огонь не гас!
Кто слишком опасается похмелья,
Того не любят музы и Пегас.

Но чу! На кухне подгорят котлеты.
Я вам пошлю, не тратя лишних слов,
Как говорили в старину поэты,
Дар весьма скудный — пук стихов.

Ну, вот и все — кончается страница,
И сердце усмиряет перестук.
Вы снились мне! Пусть вам теперь приснится
Приятель ваш, А. Лукашук.

## Шел и не поздоровался

Извини, язык отнялся. Здравствуй!
Если это снова невпопад,
Мне друзья подарят новый галстук
И в кафе на ужин пригласят.

Сяду я за столик у эстрады,
Закажу шампанского бокал.
Ах, какие пламенные взгляды
На меня бросает этот зал.

Закурить попросят меня дамы,
И друзья простятся и уйдут.
Я им так спою про эту драму,
Что глаза салфеткой промакнут.

Котлеты нет печальнее на свете,
Чем киевская в соусе грибном.
Я буду долго драться в туалете
Не зная с кем, но думая о том,

Который тоже где-то в ресторане
Сидит с тобой и пьет «Вдову Клико».
Вдовой ты станешь поздно или рано,
Меня сошлют куда-то далеко...

А потом я не допью и встану,
Все оставлю девочкам на чай,
А с тобой здороваться не стану,
Я не говорил еще: «Прощай!»

## Царская водка

Я вам пишу, чего же боле?
Но в содержании письма
Так мало слов, так много боли,
Что я готов сойти с ума.

Пред мрачной бездной расставанья
Мы все равны, но дело в том,
Кто первым скажет: «До свиданья!»,
Чтобы не свидеться потом.

Не торопи минуты горькой.
Дай мне хлебнуть из губ твоих,
Как из стакана з царской водкой
Любви последней жгучий стих.

## Черно-белый романс

Черный голубь летел между нами,
Белый ворон кружился и пел.
Ах, любовь — это белое знамя
Добровольно сдающихся в плен!

Но в плену том не будет пощады
Ни тебе, ни дружку твоему!
Чёрный голубь не дарит отрады,
Белый ворон пророчит тюрьму.

Мне кивнешь, а ему улыбнешься,
Сердце лопнет, как брюки по шву.
Черный голубь, чего же ты вьешься,
Белый ворон, зачем я живу?

Раз пошла в руки карта такая,
Все шестерки и нет козырей,
Это воронов белая стая
В чёрной стае летит голубей.

Я дождусь наступленья рассвета,
Нож блеснет в рукаве и на нем
Черный с белым смешается цветом,
Птица красным ударит крылом!

Черный голубь летел между нами,
Белый ворон кружился и пел.
Ах, любовь — это белое знамя
Добровольно сдающихся в плен!

## Чорна-белы раманс

*Пераклад Уладзіміра Някляева*

Чорны голуб — як сон звар'яцелы,
Белы воран — яму наўздагон,
Ах, каханне, ты сцяг бела-белы
Тых, хто сам аддаецца ў палон.

Ды ў палоне не будзе спагады
Ні табе і ні сябру твайму.
Чорны голуб каханню не рады,
Белы воран прарочыць турму.

Мне ківаеш, яго абдымаеш,
Я дарма сэрца рэўнасцю рву,
Чорны голуб, чаго ты кружляеш,
Белы воран, нашто я жыву?

Раз няма казыроў на свабоду
І шасцёркі адны на любоў —
Гэта воранаў белых чароды
Сярод чорных ляцяць галубоў.

Лопне ноч, нібы шкло на расколе,
Бліснe ранак сталёвым лязом,
Чорны з белым змяшаецца колер
І чырвоным ударыць крылом.

Чорны голуб — як сон звар'яцелы,
Белы воран — яму наўздагон,
Ах, каханне, ты сцяг бела-белы
Тых, хто сам аддаецца ў палон.

## Сем цудаў плюс два

Сядзелі мы раз кампаніяй у бары «У Гары» ў Венецыі і спрачаліся. («Harry’s Bar» — месца знакамітае на ўвесь пітны свет, трэба толькі перасекчы плошчу Сан-Марка па левым баку (галубоў не карміць!), прайсці ў арку, другі паварот налева будзе вуліца Валлярэса, па ёй да канца, амаль да Канала Грандэ, адчыніць апошнія дзверы злева і апынуцца за столікамі, дзе сядзелі Хэмінгуэй, Чаплін, Пікаса, уся арыстакратыя літаратуры і мастацтва XX стагоддзя, проста каралевы і каралі і да іх падобныя, і адразу замовіць сухі марціні — дзесяць частак джына і адна вермуту. Іншымі словамі, калі хочаш паказаць, што ты супер-пупер, дык гэта такое месца.)

Пілі і вялі інтэлектуальную гутарку — спрабавалі ўзгадаць сем цудаў свету. Піраміды — раз, сады Семіраміды — два, калос Радоскі — тры…

Замовілі па другім коле: Александрыйскі маяк ці бібліятэка — чатыры, храм, які спаліў гад Герастрат — пяць…

Паўтарылі замову, афіцыянт прынёс. Статуй Зеўса, не, Юпіцера, але як можа быць статуя планеты, яны блізняты, двуяйкавыя, як грэка-рымская барацьба…

Спрэчка прабуксоўвала, замовілі зноў. Пакуль бармен рабіў марціні, я ўзгадаў сваю паездку папярэдняй зімой у Оўк-Парк, мястэчка паблізу Чыкага, дзе нарадзіўся Хэмінгуэй. (Колькі разоў я моршчыўся, гледзячы на гэты перавод стрэлак, калі аўтару карціць нешта расказаць, і ён не ведае, як гэта зрабіць: «у памяці ўсплыло… раптам успомнілася… перад вачыма паўстала…» І абавязкова трэба пачаць абзац са шматкроп’я. Напрыклад, вось так:

«…На беразе возера Мічыган ззяла на сонцы і звінела на ветрыку абледзянелая вярба».

Але некаторыя рэчы робяць не таму, што прыгожа, а таму, што зручна. Аднаму герою ўсё тлумачыць прывід, другі падслухоўвае размову, трэцяя чытае чужы дзённік — Шэкспір, Дзюма, Набокаў... «Гэта быў звычайны чыгуначны пераезд (так пачынаецца першая быкаўская аповесць «Жураўліны крык»), якіх нямала параскідана на сталёвых шляхах зямлі». Не ехаць жа да канца рэек, калі трэба на другі бок.)

…На беразе возера Мічыган ззяла на сонцы і звінела на ветрыку абледзянелая вярба. Ноччу быў шторм, вецер жменямі шпурляў ірваныя хвалі на бераг і ранішні мароз ператварыў тонкія галінкі ў ледзяныя струны — быццам уздыблены раяль застыў у крыштальным выбуху. Побач два негры адкопвалі з-пад снегу чырвонае аўто.

На перон у Оўк-Парку з электрычкі я выйшаў адзін. Адраса дома Хэмінгуэя я не меў, але спадзяваўся, што першы ж мінак пакажа дарогу. Калі тры чалавекі ў адказ развялі рукамі, а чацвёрты пацікавіўся, хто гэта такі, я вырашыў, што час нешта выпіць, тым больш, што мароз не слабеў. Віскі аб 11-й раніцы паспрыяў кантакту з барменам. Ён і паказаў дарогу.

(Што я там пабачыў, не мае дачынення да сямі цудаў: у доме ішла рэканструкцыя, пасля апошніх жахароў яго толькі пачалі перабудоўваць, частка пакояў была гатовая, а побач тырчэлі бэлькі, ускрыты паркет, у сцяне ржавела чыгунная труба. Я быў адзіным наведнікам. Два валанцёры, муж і жонка, правялі па ўсім задворкам, дазволілі заглянуць ва ўсе куткі. У музеі яны апынуліся выпадкова, мала што чыталі, хаця да сваіх абавязкаў ставіліся стараннна і сур'ёзна. Такімі былі многія героі Хэмінгуэя — цяжка ўявіць іх за кнігамі свайго стваральніка.)

На беразе Канала Грандэ я ўзгадаў бармена, які вярнуў мне веру ў чалавецтва на беразе возера Мічыган, і вырашыў спытаць пра цуды ў мэтра, які змешваў нашы марціні. Ён задумаўся, назваў тры, паклікаў двух афіцыянтаў — яны перайшлі

на італьянскую і загаварылі з такой хуткасцю, што было цудам, як яны адзін аднаго чуюць і разумеюць. А можа, так дзейнічаў марціні.

Хвілін праз пяць бармен выйшаў з-за стойкі — амаль цуд, хто разумее: у бары «У Гары» яго галоўны бармен і ўласнік Джузепэ Чыпрыяні толькі аднойчы выйшаў з-за стойкі, каб выпіць з наведнікам (з Хэмінгуэем — той жыў у суседнім гатэлі Грыці, калі пісаў «За ракой, у зацені дрэваў», і штодня замаўляў тут марціні, толькі іншы — пятнаццаць частак джына на адну вермуту). Бармен падыйшоў да нашых ссунутых столікаў — і апошні цуд стаў на месца: нечы маўзалей, даўно разбураны землятрусам.

Мы адзначылі паспяховае завяршэнне пошукаў яшчэ адным раўндам марціні, расплаціліся, усталі, і калі я апошнім падыходзіў да дзвярэй, бармен дагнаў мяне і сказаў:

— Сіньёр, ёсць яшчэ адзін цуд, пра які забыліся.

— Які? — спытаў я.

— Жанчыны.

Я не прыдумаў у гэтай гісторыі ані слова. Дзевятым цудам была, як я цяпер разумею, адсутнасць інтэрнэту і мабільных тэлефонаў, якая тады, у першай палове 1990-х, дазваляла шукаць цуды дзе заўгодна. І знаходзіць.

## Перад прыступкамі

Лепш чыстасардэчна і адразу: люблю пачынаць знаёмства з самых інтымных месцаў кнігі — з выходных дадзеных, са зносак, з каментароў.

Так прырода захацела — за цэнзурным часам доступ да літаратуры абмяжоўваўся класікай альбо перакладамі. Ці то цэнзараў не хапала, ці то былі яны звычайныя савецкія людзі і халтуршчыкі і ў канец тома і ў дробныя-дробныя дадаткі не заглядвалі, але каментары былі настолькі іншыя, чым слоўная пустата крытыкі, прадмоваў і пасляслоўяў, настолькі інфарматыўныя, дакладныя, поўныя дэталяў, цытатаў, спасылак, што іх можна было чытаць з любога месца, яны вялі па невядомых адрасах, адкрывалі іншыя перспектывы, і часта там я атрымліваў большую карысць і асалоду, чым ад саміх тэкстаў.

Магчыма, справа была нават не ў змесце, а ў форме, мадэрнай і хуткай, якая стварае свабоду пасля кожнага абзаца: хочаш — чытай, хочаш — гуляй, горш не будзе, нічога не згубіш, нічога не страціш, толькі знойдзеш, бо знайсці можна толькі там, дзе думаеш, што нічога няма.

## Тры свечкі

Карыда адбывалася 28 красавіка 2012, удзельнічалі Рафаэль Сэра і браты Брэндан і Томас Кампасы. Некалькі цытатаў з рэцэнзіі ў мясцовай газеце, апублікаванай на наступны дзень, пад загалоўкам «Рафаэль Сэра, паранены трыумфатар»:

«…Вечар зімовай халаднечы. Як можна дражніць быка, калі ўраганны вецер ірве і ўздымае мулеты і плашчы матадораў? Героямі з'яўляюцца і нешматлікія гледачы, якія захутваюцца ў паліто, шалікі, шапкі і пледы. Сур'ёзныя быкі з Гуадайры нікому

не даюць расслабіцца. Дзея трывае занадта доўга, дзве з паловай гадзіны, і ў эпізодзе з кожным быком гучыць пагроза.

…Эстрэмадурац Рафаэль Сэра, вучань маэстра Артэга Кана, злучае эстэтыку і адвагу. З першым быком, раз'ятраным і бадлівым, Рафаэль дэманструе волю, але яму бракуе кантролю — даводзіцца паляцець дагары нагамі.

…Драма адбылася, калі канчаўся бой з чацвёртым быком. Рафаэль Сэра, рашучы і артыстычны, забівае імгненнна: бык вось-вось упадзе, Рафаэль пераможна выпроствaецца, і жывёліне застаецца толькі крыху матлянуць галавой, каб кончыкам рога прабіць машонку. Просьбу пра трафейнае вуха Прэзыдэнт карыды не задавальняе, але напрыканцы свята Рафаэль абвяшчаецца пераможцам фестывалю карыды маладых быкоў.

…А ўдар рогам ад амаль мёртвага быка — найлепшы напамін пра рызыку, ўвесь час прысутную на Свяце *novillada*».

***

Цытата Хэмінгуэя ўзятая з ліста да сябра, пісьменніка Фрэнсіса Скота Фіцджэральда. Год 1925, у аўтара за плячыма адна вайна, два зборнікі апавяданняў, у ліпені ён пачне пісаць свой знакаміты раман «згубленага пакалення» «І ўзыходзіць сонца» («Фіеста»), яго першы шлюб неўзабаве скончыцца, наперадзе яшчэ дзве вайны, тры жонкі, Нобелеўская прэмія і дзевяць паверхаў кніг.

У «Выбраныя лісты» Хэмінгуэя ягоны першы біёграф Карлас Бэйкер уключыў каля шасцісот допісаў за 1917-1961 гг. Я купіў ці выпрасіў, ужо не памятаю, гэты том на нейкай кніжнай выставе ў Маскве ў 1980-я гады — гэта была самая тоўстая кніга на ангельскай мове ў мяккай вокладцы, якую я бачыў, там каля тысячы старонак. Для параўнання — у поўных зборах твораў беларускіх сучаснікаў Хэмінгуэя, класікаў Купалы і Коласа, лісты займаюць у дзясяткі разоў меншае месца. Як шкада, што

мала пісалі, што больш маўчалі, што не маглі давяраць пошце і адрасатам, што сусветы іх прыватнага свету засталіся без эпісталярнай падсветкі.

Хэмінгуэй пазнаёміўся з Фіцджэральдам у красавіку ці траўні 1925 у бары Дынга, адным з нямногіх тады месцаў у Парыжы, дзе можна было замаўляць выпіўку ўсю ноч. Ліст з развагамі пра шчасце быў першым у іх перапісцы, ён датаваны 1 ліпеня 1925. Здаецца, ён ніколі перакладаўся на зразумелыя чытацкім масам у Беларусі мовы, і не магу адмовіць сабе ў маленькім асабістым шчасці перакласці і апублікаваць тут (з дазволу Бібліятэкі Прынстанскага ўніверсітэта ЗША).

«Бургетэ, Іспанія, 1 ліпеня 1925

Дарагі Скот:

Заўтра мы едзем у Памплону. Тут лавілі стронгу. Як ты? Як Зэльда?

Я адчуваю сябе лепш чым калі — не піў нічога, апроч віна, пасля ад’езду з Парыжа. Далібог, за горадам цудоўна. Але ты ненавідзіш вёску. Добра, прапушчу апісанне прыроды. Цікава, як ты ўяўляеш рай — цудоўная пустата, запоўненая заможнымі прыхільнікамі манагаміі, усе як адзін уплывовыя члены найлепшых сем’яў , усе п’юць да ўпаду. А пекла, верагодна, было б агіднай пустатой, запоўненай беднымі палігамістамі, якія не могуць здабыць выпіўкі, альбо церпяць ад хранічна сапсутага жывата, называючы гэта тайнай журбой.

Для мяне рай быў бы вялікай арэнай для бою быкоў, дзе ў мяне два месцы каля бар’ера, ручай са стронгай паблізу, і каб ніхто больш там не лавіў, і два прыгожыя дамы ў горадзе; у адным была б жонка і дзеці, і я б захоўваў ім вернасць і кахаў па-сапраўднаму і добра, а ў другім у мяне было б дзевяць прыгажунь-каханак на 9 розных паверхах, і ў адным доме былі б адмысловыя экземпляры часопіса The Dial, надрукаваныя

на мяккай паперы, якія захоўваліся б у туалетах на кожным паверсе, а ў другім доме мы б карысталіся часопісамі The American Mercury і The New Republic. Потым там яшчэ была б прыгожая царква, як у Памплоне, куды я б заходзіў на споведзь па дарозе з аднаго дома ў другі, і я б сядаў на каня, і разам з сынам адпраўляўся на бычынае ранча пад назвай Гасіенда Хэдлі, і кідаў бы манеты ўсім сваім незаконна народжаным дзецям, якія жывуць уздоўж дарогі. Я пісаў бы ў гасіендзе, і пасылаў бы свайго сына замыкаць паясы вернасці на маіх каханках, бо нехта толькі што прыскакаў з навіной, што заўзяты манагаміст па імені Фіцджэральд набліжаецца да горада на чале кампаніі валацужных п'яніц.

Ну, але заўтра мы з самай раніцы едзем у горад. Пішы мне на адрас: Гатэль Кінтана, Памплона, Гішпанія. Ці ты не любіш пісаць лісты. Я люблю, бо гэта такі класны спосаб не працаваць, і пры гэтым адчуваць, што нешта зрабіў.

Пакуль, і прывітанне Зэльдзе ад нас абоіх.

Твой Эрнест».

Некалькі неабавязковых каментароў:

**Бургетэ** — (Auritz/Burguete) — невялікая вёска ў Пірэнеях, помнік культуры, з рэчкай і ручаямі паблізу. Хэмінгуэй спыняўся ў аднайменным гатэлі, які працуе дагэтуль. Адтуль да Памплоны 45 км.

**Зэльда** — муза Фіцджэральда, які, дзеля таго, каб зарабіць грошы і ажаніцца з ёй, напісаў свой першы раман, «Па гэты бок раю». Іх бурны і скандальны шлюб служыў абодвум матэрыялам для іх раманаў і апавяданняў.

Ролю туалетнай паперы Хэмінгуэй адвёў тром перыядычным выданням. Часопіс **«The Dial»** у 1920-я быў адным з самых уплывовых выданняў літаратуры мадэрнізму. Там друкаваліся многія знакамітыя сучаснікі і знаёмыя Хэмінгуэя — Эзра

Паўнд, Томас Ман, Шэрвуд Андэрсан, Хасэ Артэга-і-Гасэт, Максім Горкі, Томас Эліат, Освальд Шпенглер, Гертруда Стайн, Бэртран Расэл, Поль Валеры, Уільям Ейтс, а таксама мастакі — Пікаса, Шагал, Мацiс. Ні Хэмінгуэй, ні Фіцджэральд у часопісе не друкаваліся.

Часопіс **«The American Mercury»** змяшчаў творы самых вядомых амерыканскіх пісьменнікаў 1920-х гадоў, Хэмінгуя тады там не друкавалі, але пазней адзін з нумароў выйшаў з каляровым шаржам на вокладцы — Папа Хэм чытае «Уліса» Джойса.

Часопіс палітычнага лібералізму і прагрэсу **«The New Republic»** выдаецца дагэтуль. У 1917 часопіс выступіў за ўдзел Амерыкі ў Першай сусветнай вайне, у міжваенны перыяд хваліў Савецкі Саюз і Сталіна, пасля заняў моцна крытычную антыкамуністычную пазіцыю .

**Царква ў Памплоне** — гатычны сабор Святой Марыі Каралевы, 15 ст.

**Гасіенда Хэдлі** — уяўны маёнтак, названы імем няўяўнай першай жонкі аўтара, Хэдлі Рычардсан.

**Гатэль Кінтана** належаў сябру Хэмінгуэя Хуаніта Кінтане. У «Фіесце» ён выведзены пад імем Хуана Мантоі; дзеянне кнігі адбываецца менавіта ў гэтым гатэлі, які называецца «Гатэль Мантоя» (разбураны пад час грамадзянскай вайны). Хэмінгуэй спыняўся ў гатэлі дзевяць разоў, кожны раз у іншым нумары.

**«…прывітанне… ад нас абоіх» —** Хэмінгуэй быў у Бургетэ разам з жонкай Хэдлі Рычардсан ужо трэці раз. Пасля гэтай паездкі ён піша «Фіесту» і прысвячае раман жонцы і сыну Джэку, хоць у яго жыцці ўжо з'явілася новае каханне, Палін Пфайфэр. Яны скасуюць шлюб у 1927-м.

## Кніга быцця

**Заслужаная крытыка**. Пачатак («Мяне зрабілі мае бацькі…), канечне, не вынік уплыву на аўтара распусты на расейскім тэлебачанні, як спрабавала давесці мне маці, бо ў Чэхіі я маскоўскія каналы не гляджу, тут сваіх хапае ўсялякіх і на ўсялякія густы. Але гэта і не проста англіцызм, пераклад дзеяслова залежнага стану: «made by…» — «зроблены кім-чым». Больш вядомая і папулярная форма «made in», якая увайшла ў кожны савецкі дом з лейбла на джынсах. Яшчэ ў мае студэнцкія часы яна ўжывалася, як прыметнік, і азначала, што тавар заходні, якасны, не савецкі ширспажыў. А сёння можна нават не заглядваць у працяг лейбла, бо ўсё адно там будзе PRC — Народная Рэспубліка Кітай. І гэта справядліва, бо ўсяго больш за ўсіх робяць там, у тым ліку і дзяцей.

Так што з такога пункту гледжання пачатак гэтай кнігі ніякі не расейскі, а, хутчэй, кітайскі. Хоць насамрэч ужо больш свойскі і прыдумаць немагчыма. Нават крыўдна.

***

Што да прапановы пісаць, як людзі, ці прыгожа, кшталту «мая маці нарадзіла мяне…» Ну, не паўтараць жа было Кнігу Быцця літаральна, хто там што стварыў ці каго нарадзіў, бо плагіят, хоць аўтар, магчыма, і не пакрыўдзіўся б, і напэўна нават пагадзіўся б, што гэта добра. Кажу напэўна, бо самакрытыкай у Кнізе Быцця і не пахне, усё, што там створана — усё адразу добра. Ды й калі ўдумацца, каму там было крытыкаваць.

***

Гісторыя з аднакурснікам маці Колем Федаруком, які загінуў у ГУЛАГу, мела працяг. Мой сябар і калега Сяргей Дубавец друкаваў на сайце »Свабоды» спіс сталінскіх ахвяраў з Бела-

русі, больш за 60 тысяч біяграмаў, і чарга дайшла да студэнцкага сябра маці. Маці пайшла ў пракуратуру, потым у КДБ, каб уведаць пра рэабілітацыю, дзе і калі дакладна яго пахавалі, потым знайшла адрас яго сястры, якая жыла ў вёсцы пад Кобрынем. Сястра расказала, як ездзіла на суд, бо ў бацькі схапіла сэрца і ён ўжо ніколі не акрыяў ад удару, пра турэмную перапіску, пра афіцыйнае паведамленне, што, маўляў, памер ад хваробы — звычайныя рэчы.

Але далей сястра расказала пра адну загадку: няўхвальныя словы пра калгасы Коля сказаў на першым курсе. Арыштавалі і судзілі яго на апошнім, праз тры гады. Чаго чакалі? Калі сваякам урэшце паказалі справу, дык высветлілася, што арыштавалі адразу, як паступіў данос. Напісала яго аднакурсніца, якая сябравала з Колем на першым курсе. На другім курсе ў яго з'явілася новая дзяўчына, з якой ён разам спяваў у хоры, рыхтаваўся да семінараў, сябраваў. На апошнім курсе, калі падалося, што справа ў іх ідзе да шлюбу, раўнівая аднакурсніца напісала данос. Усё гэта сястра Колі Федарука расказала маёй маці, паведаміла таксама, што даносчыца нядаўна памерла, а потым спытала:

Гэтая другая дзяўчына, з якой брат спяваў разам — гэта вы?

Гэта я, — адказала маці.

## Кніга зыходу

**Перад свабодай.** Калі верыць лічбе на вокладцы, «У фіялетавай ночы вугал крыла» была трэцяй кнігай серыі «Вострая брама», якую Сяргей Дубавец, тады рэдактар «Нашай нівы», распачаў у Вільні ў 1997. Насамрэч яна з'явілася першай. Сяргей адкінуў маю сціплую назву «Перад свабодай» (а я думаў пра трыпціх: перад свабодай, на свабодзе, пасля свабоды — але не

выйшла) і, нягледзячы на супрацiў, паставiў на тытул назву апавядання-дадатка «У фіялетавай ночы вугал крыла». Многія потым думалі, што гэта дзве розныя кнігі, адна пра колеры ночы, другая пра геаметрыю крылаў. Васіль Быкаў у лісце да мяне кнігу хваліў, але назву крытыкаваў, і нават вывеў закон: чым лепшая кніга, тым горшая назва.

Нягледзячы на факты, Дубавец працягвае заяўляць, што гэта найлепшая назва кнігі, якую ён ведае. Цікава, ці мае закон Быкава зваротную сілу, але…

***

Друкаваныя водгукі на кнігу месціліся паміж дзвюх ацэнак, «гэта поза» і «гэта проза», прычым аўтару падабаліся абедзве.

Адна ненадрукаваная рэцэнзія называлася «Шкодная кніга» і пачыналася так: «Чарговую шкодную кнігу напісаў гэтак званы Аляксандар Лукашук і надрукавала эміграцыйнае выдавецтва «Наша Ніва». Невыпадкова ў гэтым выданні адсутнічае індэкс. 13, 18, 19, 21, 25, 26, 27, 28, 33, 41, 47, 48, 49, 50, 51, 52, 53, 59, 75, 78, 79, 113, 120, 123, 124, 130, 132, 133, 137, 138, 140, 143 — вось няпоўны пералік старонак, на якіх аўтар адкрывае сваё сапраўднае аблічча маральна няўстойлівага чалавека, які не хавае, што п'е, за што п'е, калі п'е. А прысвячаецца Кніжка ўсім, з кім ён выпіваў у 1982–1990 гадах, а таксама перад і пасля. Правільна кажуць у народзе — без паўлітра неразбярэшся».

Давялося наліваць у абмен на літразнаўчыя аркушы.

***

Адна кулінарная рэцэнзія: маю дачку Кацю, якая любіць усё пячы, зацікавілі ў кнізе толькі піражкі, якія ў Беларусі робяць як на Кубе каву. Унучка Сафія чытаць пакуль не ўмее, і мая галоўная надзея, што піражкі па гэтым рэцэпце будуць гарачыя, але не моцныя, чорныя і мала.

***

Што яшчэ: мяне сапраўды вербавалі ў КГБ, і я сапраўды адмовіўся, за што сапраўды паплаціўся, але лёгка-лёгка — стаў невыязным, як абсалютная большасць суайчыннікаў. Потым, калі я ўжо быў сябрам камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі, якая займалася рэабілітацыяй сталінскіх ахвяраў, і на такіх правах хадзіў у архіў КГБ і гаварыў там з начальствам, якое пасля жніўня 1991 было з паўгода вельмі ветлівае, дык згадаў прынагодна сваю гісторыю. Мяне горача запэўнілі, што ніякіх негатыўных наступстваў для мяне быць не магло, яны так не працавалі, адмовіўся чалавек і адмовіўся, і канец справы.

Што тут скажаш — характарыстыкі за мяжу сапраўды падпісвалі і камсамол, і прафсаюзы, а ўзносы я плаціў неакуратна… І пытанні філалагічныя задаваў.

На нейкім агульным сходзе абмяркоўвалі нейкую чарговую пастанову ЦК КПСС пра сельскую гаспадарку, страшэнна нудны дакладчык так уганяў у сон, што калі я пачуў словы «вельмі своечасовая пастанова», дык падняў руку і папрасіў патлумачыць значэнне прыметніка. Што значыць «своечасовая пастанова»? А калі б яе прынялі раней, ці была б яна памылковая? А калі пазней, няправільная?

Прычым я пытаўся без задняй думкі, напалову каб не заснуць, а напалову з ветлівасці — трэба ж неяк падтрымаць гутарку.

Цішыню, якая наступіла, спалоханы погляд дакладчыка і яго палохаючы адказ я памятаю і цяпер. З яго вынікала, што ў некаторых адсутнічае не толькі задняя думка. Як я разумею, мяне ўратаваў начальнік нашай канторы (мы сімпатызавалі адзін аднаму на глебе агульнай любові да аднаго амерыканскага пісьменніка, які таксама не любіў прыметнікі, а любіў рыбалку, выпіўку і жанчын).

Але калі неўзабаве мой былы начальнік стаў надзвычайным і паўнамоцным паслом СССР і запрасіў мяне на працу перaклад-

чыкам да сябе ў амбасаду ў адну азіяцкую краіну, мне не дапамог ні яго дыпламатычны ранг, ні званне члена ЦК, ні партызанскія заслугі.

Але я не скарджуся — ну якая ў мусульманскай краіне магла быць выпіўка?

***

Наступную даведку можна прапусціць, яна прызначаецца толькі для аднаго чытача: мама, не трэба перажываць, насамрэч я амаль не п'ю. Амаль значыць амаль, што тут тлумачыць.

***

Праблема з напісаннем слова з трох літараў, КГБ-КДБ, вырашаецца ў кнізе так: калі гаворка пра савецкі час, дык «Г», калі пра незалежную Беларусь — «Д». Хоць яшчэ ў пачатковай школе настаўнікі ведаюць, што насамрэч літары замяняюць дзеці, у якіх несфармаваныя глядзельна-прасторавыя функцыі, слых і артыкуляцыя — чым не апісанне незалежнасці, залежнай ад мінулага.

## Кніга плачу

**Здох.** Газетныя цытаты ў негазетным тэксце выкарыстоўваў Аляксандр Салжаніцын у «Чырвоным коле» — для мастацкага эфэкту эканомнасці, даставернасці і пераканаўчасці. І спасылаўся пры гэтым на сябра Хэмінгуэя Дос Пасаса — ягоны «Manhattan Transfer» друкаваўся ў Савецкім Саюзе ў 1920-я гады ў вельмі неблагім перакладзе. Салжаніцын канцэнтраваў дакументальную панараму ў асобных раздзелах, у Дос Пасаса газетчына распускалася ў тэксце, як цукар у чаі.

***

У мяне выйшла даволі чырвона, але не надта соладка. Некалькі месяцаў я гартаў падшыўку за 1982 год, адбіраючы сказ за сказам. Калі яны ляглі разам, стала бачна, што гэта не цытаты. Гэта былі ілюстрацыі — у прамым сэнсе, толькі выкананыя не фарбамі ці штрыхамі, а знакамі кірылічнага алфавіта. Яны прызначаліся не для чытання, а для разглядвання. Па іх можна было склізнуць вокам, перагарнуць і забыць.

***

Але потым пачало адбывацца нешта дзіўнае. Чым больш на іх глядзець, тым больш літаратурнымі яны становяцца.

Радок «Мы, жыхары пятага паверха, асабліва чакалі рамонту даху» — як цытата з Зошчанкі, тут усё іх жыццё перад і пасля ліста ў газету... «Тазікі маюцца поўнасцю згодна з нормамі, нават у запасе» — гэта рапарт Гашкавага Швейка. «Хлеб — наша сённяшняя магутнасць і наша трывалая будучыня» — Джордж Оруэл, на выбар «Быдлячы двор» ці «1984»; «Бывае і так: едзе чалавек на сваіх «Жыгулях» прасёлкам, бачыць — поле капусты» — Ільф з Пятровым; «Я не хачу і больш не буду мецць спраў з такім Ізраілем» — вядома ж, Гогаль, «Нататкі вар'ята»; «Леанід Ільіч клаўся пасля адбою, як і ўсе, а калі казарма сціхала, уставаў, апранаўся і ішоў у канцылярыю рыхтавацца да палітзаняткаў» — набеліянт Шолахаў. «Мінскі цырк шэфствуе над хлебаробамі саўгаса «Гайна» — па-мойму, Маа Цзэдун… А ўсё разам — такі Кафка, што невядома, плакаць, смяяцца ці адразу наліць.

***

У «Фіялетавай ночы» гэтыя газетныя радкі займалі аркуш і служылі пракладкай паміж раздзеламі. Потым Сяргей Дубавец, які быў рэдактарам кнігі, нечакана склаў іх разам і аддаў у ча-

сопіс «ARCHE» пад яшчэ больш нечаканай назвай «Раман-цытата».

У мяне падазрэнне, што насамрэч ён прыдумаў жанр.

## Кніга песняў

**«Зкімбы-зымбы».** Пісьменнік Андрэй Федарэнка ў сваёй знакамітай «Сечцы» аднойчы ўголас задаў самае страшнае пытанне, якое пісьменнік можа задаць сабе самому: для каго ён піша. Дадайце сюды, што пытанне зададзена па-беларуску, у сучаснай Беларусі. Адказ, які даў сабе бязлітасны Андрэй, гучаў як рэвальверны стрэл у скроню — «для рэдактара».

На прэзентацыі маёй кніжкі «Зкімбы-зымбы» я пачаў выступ менавіта з гэтага пытання і Андрэевага адказу і мусіў публічна прызнацца, што ў мяне справы яшчэ горш — я пішу для карэктара.

Калі кніжка, якая выходзіла ў бібліятэцы часопіса «Дзеяслоў», была ўжо ў друкарні, на ўсялякі выпадак я перапытаў свайго калегу, бліскучага філолага Юрася Бушлякова, як, на яго думку, правільна пішацца аўтарскі наватвор «зкімбы-зымбы». Юрась ажывіўся і кажа — так, я бачыў, ведаеце, усё ж трэба пісаць «з’імбы», бо ….

— Але вокладка ўжо ў друкарні, — разгубіўся я.

— Спыніце друк, — параіў бескампрамісны Юрась.

Пабачыўшы жах на маім твары, другі калега, таксама бліскучы філолаг Сяргей Шупа, пацікавіўся, у чым справа. Потым спытаўся, якімі літарамі набраная назва на вокладцы, вялікімі ці малымі.

— Вялікімі.

— Тады не перажывай. Калі будуць пытацца, кажы, што пасля «з» не «Ы», а ««Ь»» — мяккі знак і «І» — тарашкевіца.

У Галівудзе ёсць цэлая плынь трылераў пра самотных супергерояў, якія называюцца адным словам: «Тэрмінатар», «Ліквідатар», «Экзекутар», «Снайпер», «Кастратар»... Па-мойму, у гэты шэраг проста просіцца «Карэктар».

Страшныя людзі, лепш не звязвацца. Прынамсі, у Беларусі.

***

На прэзентацыі кніжкі «Зкімбы-зымбы» выступаў мой любімы філосаф, Валянцін Акудовіч, адметны (апроч іншага) тым, што выклікае самыя розныя эпітэты ў свой бок. Я яго быў прадставіў як чалавека, больш разумнага за ката, і філосаф прызнаў, што так яго яшчэ ніколі не прадстаўлялі. Нешта больш не піша…

***

Героі «Зкімбы-зымбы» маюць толькі імя ды ініцыял — не таму, што напісанае пра іх няпраўда, ці, наадварот, такая праўда, што лепш застацца ананімам. Проста калі мы пішам поўнае імя і прозвішча, мы маем справу з усім наборам, з квадратнымі метрамі, даўгамі, венерычнымі хваробамі. А калі толькі ініцыял — тады на волю выпускаецца душа, вясёлая і несмяротная. Так, прынамсі, лічыць Аляксандар Л.

***

**«Люстрацыі, наадварот».** Каго яшчэ трэба дадаць у гэты раздзел з ліку людзей, якіх ужо няма , і якім я застаўся вінен за радасць знаёмства:

**Барыс Рагуля**, «чалавек волі», які ствараў вакол сябе тэрыторыю беларускай свабоды і перамагаў яе ворагаў пад час вайны, пасля вайны, у часы, калі ўзнікла пагроза новай дзяржаўнасці, прыязджаў, нягледзячы на ўзрост, з Канады ў Еўропу, каб падштурхнуць шыхтаванне сіл на месцы, і старыя байцы яго ба-

тальёна прыходзілі на сустрэчу, станавіліся на адно калена і цалавалі руку свайму былому камандзіру.

**Міхась Чарняўскі**, «чалавек arche», археалогіі, але не толькі, бо arche азначае яшчэ і пачатак, і ён быў на пачатку дысідэнцкага руху 1970-х, адраджэнскага руху 1980-х, на пачатку «Мартыралога Беларусі», на пачатку незалежнай ветэранскай арганізацыі, на пачатку вяртання памяці пра паваенны антыкамуністычны супраціў.

**Рыгор Барадулін**, «чалавек-ц-ц-цуду» — калі мы папрасілі яго напісаць эпіграмы на супрацоўнікаў рэдакцыі да 50-годдзя «Свабоды», ён, ніколі не бачыўшы бальшыню героеў, пасля кансультацыі са сваім рэдактарам Аляксандрам Уліцёнкам напісаў такія дакладныя і дасціпныя радкі, што некаторыя з іх ужо выбіты на граніце. Як гэта яму ўдалося, як і шмат-шмат іншага — загадка, як і ўсе ягоныя цуды.

**Генадзь Бураўкін**, «чалавек ...» І тут праблема. Калыханкі (самай вядомай сучаснай беларускай песні)? Тэлебачання (як стваральнік вяшчання, якое потым стварала Беларусь)? Дабравесця (менавіта ён, як амбасадар, перадаваў дакумент аб скасаванні СССР Генеральнаму сакратару ААН)? Вернасці (з ім сябравалі ўсе нечага вартыя асобы культуры і палітыкі, нават калі варагавалі паміж сабой)? Магчыма — «Чалавек Рэнесансу», так шчодра ён быў надзелены талентам і душой…

Увогуле, шмат людзей пакалення маіх бацькоў, з якімі я быў знаёмы, уражвалі шырынёй талентаў, уласцівай хіба эпосе Адраджэння. Напрыклад, Алесь Петрашкевіч быў чалавекам тэатра (дзясяткі п'ес і кінасцэнароў), кнігі (ствараў першую нацыянальную энцыклапедыю, потым унікальную серыю «Памяць»), асветы (адкрываў і ўзначаліў інстытут культуры), я ўдзячны яму і за асабістую дапамогу…

Калі ўзяць за крытэр дасягненні, адметнасць у трох ці болей галінах, дык сярод старэйшага пакалення, якое працягвае адыг-

рываць актыўную ролю ў беларушчыне, на званне людзей Рэнесанса ці Адраджэння прэтэндуе ладная група.

***

А далей ідуць астатнія стылі, прычым шмат хто працуе адначасна ў трох і болей: маньерызм, барока, рамантызм, мадэрнізм, дадаізм, сюррэалізм. Асабліва сюррэалізм. Усё нармальна. Нават чарнобылем не парасце, як кажа адзін мой знаёмы аграном.

***

**Людзі без ценю.** Мяне так настойліва пыталіся, хто ёсць хто ў гэтым спісе, што я стаў сам пытацца — а хто, па-вашаму? І, за выключэннем першых двух, атрымаў такія нечаканыя адказы, што застаўся цалкам задаволены — я ж і хацеў даць характар і тып, а не імя і асобу. Але і выключэнні, спадзяюся, толькі справа часу ці справа месца — мае знаёмыя ў Грузіі і Польшчы пабачылі ў гэтых героях сваіх мясцовых персанажаў. У якасці пакаяння скажу, што шмат у гэтым раздзеле і мяне самога.

***

**Аўтапартрэт на вадзе.** Пінскія краявіды беларускага жывапісца і марэмана Яўгена Шатохіна (1947–2012) выстаўляліся шмат дзе ў свеце, выходзілі альбомы, ён атрымліваў узнагароды, з паўтузіна ў адной толькі Францыі, дзевяць гадоў быў уплывовым дэпутатам Пінскага гарсавета, аж да 1999, пакуль мясцовыя улады не прыдумалі, як пазбавіцца ад зацятага бээнэфаўца і пазнякоўца, пасля чаго яго абралі ганаровым грамадзянінам французскага горада, і ўвесь час над яго яхтай, якая называлася «25 сакавік», развіваўся бел-чырвона-белы вымпел перакананага нацыяналіста.

Летам 2011 мы з сябрамі, Генадзем М., Уладзем А., і яшчэ адным Генадзем Д., плылі на яхце Яўгена апошнім маршрутам Уладзіміра Караткевіча. Праз паўгода Яўгена не стала.

Толькі нядаўна я ўведаў яго сапраўдную гісторыю, якую ён перад смерцю расказаў сябрам. Ён не быў беларусам, яго сапраўнае імя не Яўген, і прозвішча таксама іншае, і дата нараджэння не такая. Яго бацькі прыехалі з Расеі, бацька служыў у НКВД-МГБ і яго паслалі на пасляваеннае Палессе ўсталёўваць сталінскі парадак. Бацьку застрэлілі «зялёныя», якія ў тых мясцінах змагаліся з савецкай уладай да канца 1950-х. Маці, якая баялася, што адпомсцяць і сыну чэкіста, калі ізноў выйшла замуж, памяняла ўсе запісы ў метрыцы.

Яўгенава яхта плавае і дагэтуль, пад той самай назвай і тым самым сцягам.

***

**Аўтапартрэт на зямлі.** Адзін мой сябар раіў у пералік дзеясловаў, якія апісвалі жыццё ў машбюро, дадаць яшчэ слова «аддавацца», але, па-мойму, гэта перабор, усё ж дзяўчаты жылі не толькі працай.

***

**Аўтапартрэт у небе.** Землятрус ў Арменіі быў сілай 6,8 бала, першы штуршок доўжыўся 20 секунд, і гэтага хапіла, каб заплаціць дзясяткамі тысячаў жыццяў і больш чым ста тысячамі параненых за дзевяціпавярховікі там, дзе можна было будаваць толькі утрая ніжэйшыя дамы, за ўкрадзены цэмент, бо бетонныя пліты рассыпаліся ў пясок і не пакідалі прасторы для выжывання, за здачу дамоў да святочных дат, пленумаў, з'ездаў, але без сейсмастойкіх праектаў, канструкцый, фундаментаў.

Паляцеў я туды з першым гуманітарным грузам з Мінска, бо і хацеў, і трэба было знікнуць, бо начальства майго началь-

ства прымушала маё начальства прымаць супраць мяне нейкія меры за нешта — не памятаю, за што. І маё начальства ахвотна адправіла мяне ў камандзіроўку, а мабільных тэлефонаў тады не было ні ў кога, сувязі ніякай, і калі я вярнуўся, усё рассмакталася само сабой.

Я надрукаваў вялікі тэкст і запомніў адзін чытацкі званок — жаночы голас усхвалявана хваліў, каментаваў эпізод з французскай мовай, казаў, што беларуская «коўдра» падобная да французскай *couverture*, пра што я і сам ужо сцяміў, калі б вучылі ў інʼязе з роднай мовы, дык, можа, і не забыўся б у момант, ад якога залежала жыццё, а чытачка працягвала, што, калі яе перакладалі на французскую, дык Купала казаў… — прабачце, я не дачуў, вы хто, спытаўся я. Коган, адказала жанчына. Эдзі Коган. Эдзі Агняцвет.

Гэта быў яе другі званок да мяне. Першы — пасля публікацыі круглага стала з ахвярамі ГУЛАГа ў канцы 1987, калі адзін з удзельнікаў, паэт Станіслаў Пятровіч Шушкевіч, сказаў, што менавіта з-за даносу маладой паэткі Эдзі Агняцвет ён правёў 14 гадоў у лагеры — у час рэабілітацыі яму паказалі справу. Тады яна пазваніла і казала, што гэта няпраўда, так не было ці было не так, я выслухаў і прапанаваў ёй напісаць адказ і паабяцаў, што абавязкова надрукуем. Яна нічога не напісала і больш не званіла — аж пакуль не прачытала армянскі рэпартаж.

Не ведаю, ці атаясамлівала яна мяне з аўтарам таго круглага стала. Гэта быў першы раз, калі са мной гаварыў чалавек, які асабіста ведаў Купалу.

***

Фільм «Цавэд Танэм. Фрагменты трагедыі»» мы здымалі разам з рэжысёрам Міхаілам Ждановскім, аператарам Юрыем Гарулёвым і рэдактарам Ірынай Дзямʼянавай. У фільме ёсць і кадры з палаты, дзе ляжала Ніна. Потым яна лячылася ў Калі-

форніі, і мы страцілі кантакт, аж пакуль мне не пазванілі з Масквы, з нейкай папулярнай тэлеперадачы, дзе праз дваццаць гадоў ладзілі сустрэчу з ахвярамі землятрусу і ратавальнікамі, і пыталіся, ці змагу я прыехаць разам з папугаем. Я не змог.

## Кніга імя

**Гутаркі, лісты, усмешкі.** Васіль Быкаў адкрываў мой папярэдні том збору твораў, «Вяртанне нацыяналіста» — яго прадмова «Кроў і праклён» у 1988 годзе дапамагла публікацыі кніжкі маіх доследаў сталінскай гісторыі Беларусі. Ён уключыў яе у свой апошні прыжыццёвы збор твораў, чорны 6-ці томнік, які быў здадзены ў набор ва ўжо незалежнай Беларусі і падпісаны ў друк за месяц да першых прэзідэнцкіх выбараў. Яна месціцца там пасля артыкула «Мужнасць» пра Алеся Адамовіча і перад прадмовай да публікацыі ў «ЛіМе» артыкула З. Пазняка і Я. Шмыгалёва «Курапаты — дарога смерці».

Потым Васіль Быкаў уручаў мне прэмію імя Францішка Багушэвіча ад Беларускага Пэн-цэнтра за кнігі «Філістовіч. Вяртанне нацыяналіста» і «За кіпучай чэкісцкай работай», я маю сяброўскі білет Пэн-цэнтра за ягоным подпісам, на паліцах стаяць падпісаныя ім кнігі, захоўваюцца лісты, у рамцы на сцяне вісіць яго малюнак нашай кампаніі ў Празе.

Але словы, якія ён напісаў мне яшчэ да першай асабістай сустрэчы, займаюць у маім жыцці месца, якое не заняць ужо нікому і ніколі.

***

Першае сапраўднае, пад запіс, інтэрв'ю з Быкавым я зрабіў на пятым годзе нашага знаёмства, калі ўжо працаваў на «Свабодзе» і жыў у Мюнхене.

Сустракаліся і гаварылі і раней, канечне, і ён на мае просьбы пісаў, даваў некія матэрыялы, выступы для розных патрэбаў. Але гутарка пад аўдыёзапіс — іншы жанр. У такой размове ўзнікае магчымасць зафіксаваць адказы суразмоўцы на канкрэтныя пытанні літаратуры, палітыкі і бягучых падзеяў. Для гэтай публікацыі я адабраў тузін гутарак за дзесяць гадоў, з 1993 па 2002-і.

Вось некаторыя імёны, якія гучалі:

Салжаніцын — Гарбачоў — Адамовіч — Гарун — Ластоўскі — Геніюш — Кенэдзі — Освальд — Ельцын — Зюганаў — Эпімах-Шыпіла — Някрасаў — Купала — Гавэл — Рэмарк — Хэмінгуэй — Камю — Бакланаў — Парамонаў — Дастаеўскі — Твардоўскі — Лазараў — Дзядкоў — Тычына — Астаф'еў — Сталін — Талстой — Оруэл — Карпюк — Алексіевіч — Пазняк —Шмыгалёў — Мазай — Шаранговіч — Тарнаўскі — Грамыка — Стучэнка — Анікейчык — Ушчапоўскі — Кіт...

Тэмы, які закраналіся:

Нацыянальная ідэя — суверэнітэт — беларусізацыя — памылкі дэмакратаў — феномен імітацыі —дыктатура і фальсіфікацыі — ахвяра мовы — тарашкевіца і наркамаўка — КДБ — Расія — наменклатура — драма творцы — паразы і дасягненні — сучаснасць у літаратуры — моладзь — наклады і пераклады — экзістэнцыялізм — рэалізм — песімізм — Біблія — прыпавесці — жанры — рытм і сэнс — плён адмаўлення — духоўнасць зла — мноства праўдаў — вайна цывілізацый — жанр мемуараў...

***

Пра што не дагаварылі:

Пра некаторых людзей, якія пасля яго смерці выстаўляюць ацэнкі і робяць заявы ад яго імя, сведкамі якіх ніхто не быў, кантэкст невядомы. Скажу толькі, што Быкава гэта наўрад ці здзівіла б, мяркуючы па тым, што чуў ад яго пра іх я сам.

***

Пра галоўную, як мне падаецца, праблему яго публіцыстыкі і грамадзянскай дзейнасці: сутыкненне справядлівасці з праўдай. Як чалавек, ён усёй душой хацеў і спрыяў чым мог справядлівасці. Як пісьменнік, не мог не напісаць праўду, нават калі яна супярэчыла яго разуменню справядлівасці. У выніку часам ўзнікала дзве справядлівасці і дзве праўды. Не ведаю, гэта нявырашаная праблема ці невырашальная.

***

Пра быкаўскае «няма»:

«Цяпер ужо пэўна, што для таго, каб каб чагось дамагчыся, нам бракуе аўтарытэтнага дэмакратычнага лідара. Лідара нацыі, якому б народ мог даверыць свой лёс». Гэта — цытата з кароткага і, на маю думку, самага важнага эсэ «Прачнемся ж нарэшце». Там пастаўлены бязлітасна дакладны дыягназ грамадству і нацыі, і дадзены бязлітасна дакладны прагноз як вонкавых, гэтак і ўнутраных пагрозаў (хочацца напісаць «прароцтва», калі бачыш, як і што адбываецца, але Быкаў не любіў такіх слоў пра сябе).

Дык вось, палітычны прысуд — бракуе лідара — Быкаў выносіць не ў сярэдзіне 1980-х, калі гэта яшчэ не можа быць вядома, не пазней, калі пасаду старшыні Вярхоўнага Савета — кіраўніка дзяржавы — займаў нікому невядомы міліцэйскі генерал, не тады, калі новы народны правадыр закрыў усе магчымасці канкурэнцыі, а калі два тагачасныя, здавалася б, бясспрэчныя лідары з дэмакратычнымі і нацыянальнымі памкненнямі (С.Ш. і З.П.) былі на піку вядомасці і ўплыву — у 1992. Больш таго, у «Зборы твораў» гэты вырак ідзе адразу пасля артыкула «Лідар», напісанага ў падтрымку і прысвечанага якраз аднаму з іх.

Справядлівасць і праўда. І адказ — «няма...»

***

Асобна сярод нашых гутарак стаяць адказы Быкава на «анкету Дастаеўскага» — так называецца апытальнік, які, лічыцца, вялі ў сямейным альбоме Дастаеўскіх. Летам 1993 года я прыехаў з Мюнхена ў Мінск, быў у гасцях у Быкавых і, скарыстаўшыся момантам, папрасіў Васіля Уладзіміравіча адказаць на некаторыя пытанні. Звычайна на анкеты адказваюць пісьмова, дакладна фармулюючы думку. Але мне патрэбны быў запіс голасу для радыё, і гэтыя адказы цікавыя якраз тым, што яны непасрэдныя і непадрыхтаваныя, дзе важна і тое, што сказаў Быкаў, і тое, што не палічыў патрэбным каментаваць.

Праўду сказаць, пра каханне, анёлаў і цуды я б сам не дадумаўся пытацца — усё ж такі гэта быў Быкаў, і я разумеў, з кім маю справу. (Хоць пра піва пытаўся...)

***

А анёл раптоўна сам вернецца ў развітальную прамову, якую я буду гаварыць у апошнія хвіліны над труной у Доме літаратара, 25 чэрвеня 2003 года:

«Анёл з’явіўся ў Беларусі. Цяпер вялікая душа Васіля Быкава развітваецца з тымі, хто любіў яго ў Беларусі, Еўропе, Амерыцы...»

Быкава ведалі, помнілі і любілі шмат дзе ў свеце, але так, як ведаюць, помняць і любяць у Беларусі, больш нідзе помніць, ведаць і любіць не будуць.

***

У апошнія пяць гадоў нашага знаёмства, калі пачаўся вандроўны этап быкаўскага жыцця, да сустрэчаў і тэлефонных размоваў дадалося ліставанне. Быкаў называў лісты сяброў «маннай нябеснай», так ён напіша мне з Хельсінкі.

Цікава, што паводле падання, калі манну елі дзеці, дык адчувалі смак мацярынскага малака, калі юнакі — смак хлеба, а старыя — смак мёду. Хто што жадаў. Не ведаю, што адчуваў Быкаў, а я на яго лісты цяпер гляджу таксама як на манну, і калі слабы, адчуваю надзею, калі самаўпэўнены — сорам, калі кепска — цяпло.

***

Быкаў ніколі не адмаўляў у інтэрв'ю, гутарцы, каментары. Ані разу. Я не злоўжываў яго добрым стаўленнем, тым больш, што мае калегі таксама рэгулярна яму званілі і запісвалі. Цяпер скажу — на жаль.

***

Быкаў быў надзвычай цярплівым суразмоўцам. Нават на прынагодныя, павярхоўныя, банальныя пытанні ён імкнуўся даць грунтоўны і глыбокі адказ.

***

Усміхаўся Быкаў рэдка, але, як казаў яго любімы Грышка, паэт Рыгор Барадулін, «двухвасільна, двухвясёльна, двухвясёлкава».

На знакамітым здымку з Салжаніцыным, які рабіў Алесь Адамовіч у гатэлі «Масква», Быкаў аж свеціцца.

***

У зале купалаўскага музея Быкаў, тады прэзідэнт Пэн-цэнтра, уручаў мне прэмію імя Францішка Багушэвіча — яму было відавочна дрэнна, абвастрылася астма, у такім стане людзі нават ляжаць не могуць, сядзяць скурчыўшыся, але ён прыйшоў і выступаў. Хацеў пабачыцца з сябрамі, калегамі? Ведаў, наколькі важна лаўрэатам атрымаць дыплом і медаль з яго рук? Не ве-

даю. Думаю, што проста паводзіўся, як салдат, і проста выконваў свой абавязак.

***

Нават на шпітальным ложку ў Празе ён прасіў прынесці яму прымач, каб ведаць, што адбываецца ў Беларусі. Кароткія хвалі сярод электроннага начыння лавіліся дрэнна, і мы запісвалі эфір на магнітафон і прыносілі яму ў палату. Як жа трэба працаваць, калі маеш такіх слухачоў?

***

У час, калі яго душа выправілася ў апошняе падарожжа, я быў з гасцямі на Карлавым мосце ў Празе — зазвінеў тэлефон, прагучала навіна. Была нядзеля. Праз дзве гадзіны ўсе былі на працы і мы адкрывалі жывы эфір «Свабоды» гэтым паведамленнем. У той перадачы гучаў голас Быкава — адмыслова для нашай аўдыёкалекцыі ён адабраў і начытаў некалькі старонак з розных аповесцяў: «Альпійская балада», «Знак бяды», «Сотнікаў», «Мёртвым не баліць», «Сцяна». Даследчыкам яго творчасці варта будзе пацікавіцца, што ён сам выбраў у сябе.

***

Гуманістычны маштаб Быкава і трагізм яго бачання відаць і з апублікаваных тут гутарак і лістоў, але яны — толькі фрагмент яго філасофскай публіцыстычнай спадчыны. Сяргей Навумчык склаў, і мы выдалі збор яго інтэрв'ю, выступаў, каментароў у эфіры за два дзесяцігоддзі «Быкаў на Свабодзе». Праз год дапоўнілі і паўтарылі выданне.

Акадэмічны падыход і энцыклапедычная распрацоўка гэтай тэмы ў цяперашняй Беларусі немагчымыя, але гэтую працу годна выконваюць людзі, якія збіраюць і публікуюць матэры-

ялы яго жыцця і творчасці і аднаўляюць кантэкст. Адзін Сяргей Шапран робіць працу акадэмічнага інстытута.

***

У нашай кнізе ёсць і раздзел «Пасля Быкава» — рэпартажы з развітання і пахавання. Як абурана пісала тады афіцыйная прэса: «А нехта Аляксандр Лукашук нават прыкалоў нябожчыку бел-чырвона-белы значок на пінжак».

Значок я прывёз з Прагі. Пра пражскі перыяд пісьменніка першым з калег напісаў Сяргей Навумчык для зборніка «Наш Быкаў»; потым наш калега Віталь Тарас, які адкрываў жалобны эфір; затым апублікаваў свае ўспаміны Сяргей Абламейка, якому Быкаў напісаў апошнюю ў жыцці прадмову да кнігі. Некалі апублікуе поўны тэкст свайго быкаўскага дзённіка Сяргей Навумчык, адзіны, пра каго Быкаў у лісце да мяне пісаў «люблю»: «Я люблю Сярожу».

***

Я падымаўся па лесвіцы Дома літаратара ў пакой старшыні Саюза пісьменнікаў Алеся Пашкевіча, дзе абмяркоўвалі пахаванне, як пачуў, як нехта абураецца: прыехаў Лукашук з Прагі і будзе тут камандаваць?!

Мне патлумачылі, што гэта быў сябар Быкава і будучы начальнік афіцыйных пісьменнікаў, міліцэйскі генерал. Ірына Міхайлаўна Быкава званіла яму напярэдадні з нейкім пытаннем і згадвала мяне.

Калі сын Быкава Сяргей накрыў труну бел-чырвона-белым сцягам, усю афіцыйную камісію на чале з міністрам культуры вынесла з залы, як нячыстую сілу: «Мы не можам тут быць, мы не можам тут быць!»

***

Тое, што некаторыя дзеячы сёння пішуць і кажуць, што менавіты яны, іх партыйная купка арганізавала ўсенароднае пахаванне, ужо не дзівіць. Не дзівіць і кніжка афіцыйных успамінаў, дзе былыя сябры ўспамінаюць пра Быкава толькі тое, што дазволена. Дзівіць, што ўлада яшчэ не паставіла сабе ў заслугу гэтую народную любоў, павагу і жалобу, якую я наўрад ужо ў сваім жыцці дзе-небудзь калі-небудзь пабачу.

***

Прыродны песімізм Быкава што да яго спадчыны («наўрад ці застанецца») не спраўдзіўся. Застанецца не толькі напісанае, але і сказанае. Не толькі ім, але і пра яго. Хто мае вушы, пачуе.

А вочы — яшчэ й пабачыць, хоць тут публікуецца толькі адзін ягоны малюнак (з сотняў!).

***

Адзін з любімых пісьменнікаў Быкава, Альбер Камю, у «Міфе пра Сізіфа» пісаў, што Сізіф быў шчаслівы. Ён меў прызванне, вартых праціўнікаў, недасяжную мэту і кожны дзень рабіў усё, што мог, дзеля яе дасягнення. Так можна сказаць і пра Быкава.

***

У нас у рэдакцыі на сцяне — яго словы слухача:

«Надвячоркам кожнага дня я ўключаю прымач і шукаю «Свабоду». Тое сталася звычаем і патрэбай душы».

Наша нобелеўская прэмія.

***

«Вось такія вось справы, Саша», як Быкаў любіў казаць на завяршэнне нашых гутарак не для эфіру.

Не ведаю чаму, але гэта неабавязковая фраза ўвесь час паўстае ў памяці. З-за інтанацыі? З-за імя? З-за прастаты? З-за пустаты?

З-за студзеньскай цвёрдасці, лютаўскай безвыходнасці, сакавіцкай надзеі, красавіцкай бадзёрасці, травеньскай усмешкі, чэрвеньскага болю, ліпеньскай горычы, жнівеньскай роспачы, верасьнёўскага роздуму, кастрычніцкай памяці, лістападнага разуменьня, сьнежаньскага даравання?..

Хто мае вушы, хто мае вушы...

## Кніга царстваў

**«Вечнае-бібліятэчнае».** Кнігі ў гісторыі хавалі шмат разоў — але сярод розных тэхналагічных вынаходстваў і іншых імператываў прагрэсу, якія мусілі назаўсёды скончыць з такой традыцыйнай формай, ніколі не фігуравала адна, на маю думку, самая практычная прычына: што людзі хочуць жыць вечна.

Вось хто б і з якой нагоды ведаў, напрыклад, Эліцура ці яго бацьку Шэдэўра, альбо Ахіезэра і ягонага бацьку Амішадая, ці Эліясафа і яго бацьку Рэўэля — а такіх тысячы ў самай папулярнай кнізе ў свеце, Бібліі. Яна адкрылася на Кнізе Лічбаў, і там я пабачыў гэтыя імёны.

***

Наконт лічбаў: ужо некалькі гадоў я спрабую адказаць на пытанне, колькі кніг у «Бібліятэцы Свабоды». Праблемы пачаліся ўжо з трэцім папарадку выданнем — гэта быў пераклад першай кнігі, «Верша на Свабоду», на ангельскую. Гэта чамусьці трэба было ўдакладняць. Чацвёртая, «Быкаў на Свабодзе», была ў парадку, але за ёй пад рубрыкай «Бібліятэкі» мы выпусцілі дыск з запісам голасу пісьменніка. Затым выйшла другое выданне «Быкава», з такой самай назвай, але істотна дапоўненае, дадалося больш за сто старонак. Потым ізноў выходзілі не толькі кнігі, але і дыскі, не толькі аўдыё, але і відэа. Некаторыя кнігі дадрукоўваліся пазней іншымі выдаўцамі — у нашым афармленні, але дапоўненыя і папраўленыя.

Каля паўсотні, адказваю я, і адчуваю сябе як чалавек, якога пытаюцца, колькі пальцаў на руках у людзей, а ён адказвае — каля дзесяці. Што, са статыстычнага пункту гледжання, правільна, бо ці мала хто не туды руку засунуў. Пра гэта яшчэ Чэхаў пісаў у апавяданні «Хамелеон».

***

Прозвішчы аўтараў заўсёды стаяць навідавоку, а ў сярэдзіне схаваныя хросныя бацькі кніг і дыскаў, рэдактары, карэктары, укладальнікі, мастакі, гукарэжысёры: Уладзімер Арлоў, Валянціна Аксак, Андрэй Баброўка, Зміцер Бартосік, Анатоль Бублікаў, Зміцер Васількоў, Аляўціна Вячорка, Вінцук Вячорка, Кацярына Гарэлік, Алесь Гурыновіч, Сяргей Дубавец, Аляксей Знаткевіч, Аляксандр Кулажэнка, Алесь Ліпай, Ягор Маёрчык, Аляксандра Макавік, Кацярына Маціеўская, Настасся Мацяш, Вольга Навумовіч, Сяргей Навумчык, Галіна Рабянкова, Алена Радкевіч, Мікола Раманоўскі, Віталь Рачкоўскі, Уладзімір Сакульскі, Ганна Соўсь, Алена Струвэ, Віталь Тарас, Аляксандр Уліцёнак, Алена Ціхановіч, Міраслава Шавыркіна, Сяргей Шупа, De Lez. Англійскія анатацыі рабіў Багдан Андрусышын. Стваральнік коду і вобраза «Бібліятэкі» — Генадзь Мацур.

Алілуя!

***

Алесь Адамовіч. З гэтым фантастычным беларусам я зрабіў толькі адно інтэрв'ю. Яно аказалася апошнім ў яго жыцці, праз пару тыдняў яго не стала. Інтэрв'ю гэтае потым шмат разоў друкавалася, дачка Наталля ўключыла яго ў бацькаў том «Кнігазбора».

Вызначальнік «апошні» заўсёды ўражвае і надае словам і справам нябожчыкаў дадатковую вагу. Магчыма, таму, што траекторыя палёту душы пасля развітання з целам вызначаецца і вось такой апошняй кропкай каардынатаў.

***

**«Янка і Іван».** І дыскусія, і мае развагі не пра Купалу, канечне, а пра нас саміх.

Пра Купалу трэба пісаць асобную кнігу, дакладней — кнігі. Чым больш да яго набліжаешся, тым менш яго відаць. Я спытаўся ў музеі — якога колеру ў Купалы вочы? Шэрыя, карыя, блакітныя, адказалі мне. Так ва ўспамінах. Якога росту? Невядома. Чаму не меў сяброў? Хто ж ведае. Што піў, каго любіў? Ну-ну... Пра апошні палёт серыял здымаць трэба. А менш за ўсё яснасці з вершамі — чаму такія, незразумела нават, якое гэта стагоддзе, восьмае ці дваццаць восьмае.

***

З пісьменнікам і дысідэнтам Уладзімірам Войнавічам, на якога я ў гэтым раздзеле спасылаюся, мы пазнаёміліся на пачатку 1990-х у Мюнхене, дзе ён жыў у выгнанні. У яго кватэры я пабачыў на паліцы дзяржаўны сцяг СССР. Гаспадар расказаў, як аднойчы яго запрасіў на абед пасол Швейцарыі. У рэстаране падрыхтавалі асобную залу, каля пасла паставілі флаг швейцарскай канфедэрацыі, а каля госця — чырвоны з сярпом і молатам. Пікантнасць палягала ў тым, што Войнавіча якраз пазбавілі савецкага грамадзянства.

Я пытаўся пра магчымае развіццё сюжэта яго «Салдата Івана Чонкіна» пасля вайны, і аўтар казаў, што, верагодна, той застаўся б на Захадзе, жыў у Мюнхене, а пад час перабудовы паехаў бы ў адведкі да свайго кахання Нюркі.

— І што б ён павёз у падарунак?

— Як што? Канечне, камбінацыю! — заявіў Войнавіч.

Прайшло паўтара дзясяткі гадоў, і невядома, колькі людзей сёння нават ведаюць, пра што гаворка.

***

**«Чэслаў Мілаш».** Калі адна мая вельмі дасведчаная знаёмая, да якой я часта звяртаюся па літаратурныя кансультацыі, пабачыла мой «Ліст да Мілаша», яна жахнулася — як я мог так па-панібрацку звяртацца да адрасата, хай сабе й нябожчыка: «Дарагі Чэслаў»?! Толькі — «пане Мілаш»! Я апраўдваўся, што хоць Мілаш і польскі паэт, але нарадзіўся ў Літве, а памёр з амерыканскім пашпартам. Да аўтара наіўнай паэмы «Свет» хочацца звяртацца проста «Чэсь», нават «Чэсік», як да сябра дзяцінства.

***

100-годдзе Мілаша святкалі ў свеце не таму, што ён нобелеўскі лаўрэат — ужо больш за палову лаўрэатаў мелі два каляндарныя нулі, але мала дзе каго ўшаноўвалі так, як гэтага грамадзяніна Вялікага Княства Літоўскага, як ён сам сябе называў. Арганізатары акцыі «Ліст да Мілаша» запрасілі аўтараў з Літвы, Польшчы, Нямеччыны, Чэхіі, Швейцарыі, Славеніі, Францыі, Украіны; адзін удзельнік прадстаўляў адразу дзве краіны, Італію/Харватыю, а Беларусь нават два, Ігар Бабкоў і я. Нашы лісты потым выйшлі ў перакладах на паўтузіне моваў. Мілаш — нобелеўскі лаўрэат ад «іншай Еўропы», як была перакладзена на французскую назва яго знакамітай кнігі «Rodzinna Europa». Ён наш.

***

Томас Вайлер, бліскучы знаўца беларускай, які перакладаў маё эсэ на нямецкую, не зразумеў толькі адзін выраз і папрасіў патлумачыць, што ў інтэлектуальным тэксце робяць словы «чыя б карова мычала». (Тут «Ліст» друкуецца ў скарочаным выглядзе, каровы ў гэтым выданні ўсе пайшлі ў «Кнігу быцця»). Па-нямецку мая карова замаўчала (у літаральным зваротным перакладзе) «як у шкляным дамку». Не ведаю, як паводзілася б наша

чорна-белая непародзістая Зорка, калі б яе паставіць за нямецкае шкло. Але мая вясковая цётка, якая любіла чысціню, напэўна б узрадавалася — прыгожа, і ўздыхнула б — чым шыбы мыць? (У канцы жыцця цётка мела да савецкай улады толькі адну прэтэнзію — чаму запалкі не гараць. За Польшчай адну калолі на чатары часткі, а тут паўпачка счыркаеш, пакуль загарыцца.) А малако ў шкляным хляве Зорка давала б адразу нямецкае. І Томас Вайлер прыслаў бы мне пытанне: што такое нямецкае малако ў Беларусі. А я б расказаў пра найноўшае тлумачэнне беларусаў: гэта нямецкія славяне ці славянскія немцы. І мы б зноў вярнуліся да Мілаша.

***

У тэксце сустракаюцца радкі і словы з перакладаў Яўгена Бурага, Кацярыны Маціеўскай, Андрэя Хадановіча, Ганны Янкуты. А слушную заўвагу мне зрабіла Алена Сівакова.

## Кніга хаосу

**Паміж Кафкай і Швейкам.** Кафку відаць з майго акна. Дакладней, відаць яго магілу. Помнік, на якім напісана, што тут ляжыць Франц Кафка, 1883—1923. У пражскай піўной «У Швейка» я быў толькі аднойчы. Такі МакДоналдс наадварот для турыстаў, у якім наведнік адчувае сябе персанажам рамана Яраслава Гашка, калі прыносяць кнедлікі з капустай, а потым персанажам Кафкі, калі прыносяць рахунак.

Персанажам розных твораў час ад часу можа адчуць сябе кожны. Неяк у тэлефоннай размове Васіль Быкаў пахваліў мой артыкул, надрукаваны ў «ЛіМе». Я пахваліўся калегам.

— О, цяпер цябе могуць узяць на працу ў «ЛіМ»!

У Празе, дзе я жыву ўжо даўжэй, чым у Мінску, ёсць свой і «Л», і «М», свае лінгвісты і мадэрністы, лаўрэаты і мадэратары, лютэ-

ране і магаметане. Можа, калі-небудзь я напішу пра іх кніжку, а пакуль — некалькі цытат з ненапісанай:

***

Пытаю аднойчы калегу-журналіста, рускага пісьменніка Пятра Вайля: што вы рабілі ў 1968? Чаму не здзейснілі акт самаспалення на знак пратэсту супраць акупацыі Чэхаславаччыны?

— А вы?

— Мне было 13 год!

— У вашым узросце Паўлік Марозаў ужо бацькоў у турму саджаў!

***

Сядзім у бары з адным вядомым расійскім пісьменнікам, які неабыякавы да адной беларускай дзяўчыны. Пытаю мэтра: чым у рускіх адрозніваецца паэма ад непаэмы. Чаму «Мёртвые души» і «Москва-Петушки» — паэмы, а «Евгений Онегин» і «Война и мир» — раманы? Той цікавіцца, навошта мне.

— Ды вось, напісаў нешта, усе пытаюцца, які жанр, а я не ведаю.

— Па-беларуску напісалі?

— Так.

— Тады паэма. Па-беларуску ўсё — паэма!

***

Вядомы расійскі пісьменнік заявіў, што палітычны тэрарызм — адзінае выйсце ў выпадку, калі на пасаду на самым версе ўзлезла быдла.

— Забіць можна, — пагадзіўся памяркоўны калега, праваслаўны святар. — Але адказваць давядзецца як за чалавека.

***

Ён жа:

— Бацюшка, дазволь смірэнна прыхіліцца да тваіх стопаў! Нават Хрыстос дазваляў гэта блудніцы!

— Па-мойму, стопы размешчаны значна ніжэй.

***

На дарозе з Мюнхена ў Прагу праз Развадаў восем публічных дамоў. Усе яны называюцца даволі антычна: Афрадыта, Венера, Андрамеда. Але лепшая, на агульную думку, назва — Феліцыя. У перакладзе — вернасць.

***

Аднойчы адзін мой сябар-пісьменнік са сваім сябрам-мастаком вандравалі па Палессі і шукалі пераправы праз Прыпяць. Пабачылі маторку з рыбаком, які вычэрпваў ваду з днішча, але калі падыйшлі, дык пабачылі, што хлопец, як бы гэта далікатна сказаць, рабіў сам сабе прыемна ў адзіноце, якую яны парушылі. Усе зрабілі выгляд, што ніхто нічога не заўважыў, але калі выходзілі з лодкі на другі бераг, хлопец вырашыў праясніць сітуацыю:

— Вы не думайце, і ў нас тут ёсць інтэлігентныя людзі.

Што, па-мойму, пацвярджае, што інтэлігентнасць — паняцце не геаграфічнае. Як і Швейк з Кафкам.

***

Кафка пісаў, што сапраўдны шлях ідзе па канаце, нацягнутым не высока, а над самай зямлёй, і не дзеля таго, каб па ім ісці, а каб спатыкацца. Швейк гэты канат, напэўна, некалькі разоў прадаў бы ці абмяняў. Таксама можна заняцца перацягваннем...

**Аль-Бом-Бом.** Кніга настальгіі «Альбом сямейны» Вінцэся Мудрова ў «Бібліятэцы Свабоды» мне так падабалася, што я тут скінуў усе і ўсялякія маскі і нарэшце адказваю на пытанне выдатнага паэта і легендарнага рэдактара «ЛіМа» Анатоля Вярцінскага, якое ён, даўні сябар, пільны чытач і дасціпны крытык задаў пад час прэзентацыі «Альбома» ў мінскім Палацы мастацтва у 2007 годзе: а хто напісаў зноскі?

Калі рэдактар Аляксандра Макавік даводзіла кнігу да ладу (і склала фантастычны паказнік у канцы, класіка жанру!), адчулася, што там ёсць нейкія персанажы, нейкія душы, якія нешта хочуць сказаць, але аўтар іх трымае за крэйдавым колам.

Я набраўся духу, заплюшчыў вочы, адкрыў вушы і запісаў, што пачуў.

Калі можа быць «Раман-цытата», дык чаму не можа быць «П’еса-зноска»? Але драматург згодны і на «п’еска-зноска».

***

Усё ж такі папраўлюся: паказнік у канцы кнігі, які рабіла Аляксандра Макавік, не класіка жанру, а новы жанр. Гэтая частка «Альбома сямейнага» называецца «Memorabilia», займае пятнаццаць старонак і складаецца з пятнаццаці раздзелаў і дваццаці сямі падраздзелаў. Вось некалькі прыкладаў: як «Народныя забаўкі» класіфікуюцца бойкі раён на раён, называнне немаўлят па-моднаму, стаянне ў чэргах. У «Гарадскіх легендах» згадваецца злавеснае паходжанне парыкоў, страшны ўдар бразільскага футбаліста і полацкі сіфон-забойца. Да «Архаізмаў» бессардэчна залучаны «Бібліятэка ўсясветнай літаратуры», савецка-кітайская дружба і трусы сямейныя. Бедная Баба-яга патрапіла ў адну кампанію з Рычардам Ніксанам, а бедны Рычард — з Нестарам Махно ў раздзеле «Літаратура». Тамсама апынуўся Брэжнеў Леанід — побач аж з двума Хэмінгуэямі (другі — Хэміндуэй) і двума Лумумбамі (другі — Лулумба).

Раздзел «Выяўленчае мастацтва» былы генсек упрыгожвае разам з карцінай «Смерць перасяленца», а ў «Персанажах» цвёрда трымаецца поруч з Маўглі. Гэта — музей адной кнігі.

## Кніга сноў

**«У фіялетавай ночы вугал крыла».** Што азначае гэтая назва, я ведаю, але іншымі словамі пераказаць не магу.

***

Самы нечаканы водгук я атрымаў на «Крылатага вершніка», які, паводле ўмоваў конкурса да 90-годдзя БНР, друкаваўся пад псеўданімам. Калі потым выбіралі пераможцу, папрасілі чытачоў прыслаць свае водгукі. Ліст прыйшоў з Туніса — слухач ці чытач «Свабоды», які там жыў і меў свой турыстычны бізнес у невялікім партовым гарадку, называў невядомага яму аўтара новым Паўло Каэлью, запрашаў у госці, абяцаў стварыць умовы для творчасці. Я тады «Алхіміка» і іншых бестселераў бразільскага феномена не чытаў і спытаўся аднаго калегу, перакладчыка, хто гэта. Той скрывіўся, як жабу з'еў, і выказаўся, што ўжо ніжэй за Каэлью ніякі літаратар упасці не можа. Я так напалохаўся, што ў Туніс не паехаў, а потым там пачаліся рэвалюцыі, і так новым Каэлью я не стаў.

***

Пару слоў не пра напісанае, а пра ненапісанае: перад 500-годдзем бітвы пад Воршай я прыдумаў сюжэт сцэнара ці аповесці, які безвынікова спрабаваў угаварыць каго-небудзь напісаць. Ідэя адукацыйная, таму простая, як камп'ютарная гульня: каб запабегчы святкаванню перамогі беларускімі нацыяналістамі, напярэдадні юбілею ўлады пасылаюць на Крапівенскае поле ба-

тальён спецназу. Уначы пачынаецца бура, і раніцай байцы прачынаюцца ў свеце, дзе не працуюць мабільныя тэлефоны, няма асфальтавых дарог, але на баявых пазіцыях стаіць конніца маскавітаў, з-за Дняпра паказваюцца вершнікі ВКЛ з бел-чырвона-белымі штандарамі, і да ашалелага камбата падыходзіць нехлямяжы палітпрызыўнік, выключаны з гістфака пасля адсідкі на Акрэсціна, і пачынае нешта тлумачыць пра гетмана Астрожскага…

Далей адбываецца ўсё, што павінна адбыцца — поўнае бязладдзе, сутыкненне тактыкі і стратэгіі XVI і XXI стагоддзяў, подзвігі, здрады, перабежчыкі, нехта застаецца там назаўсёды і так тлумачацца потым некаторыя гістарычныя загадкі… А потым яны вяртаюцца ў свой час і бачаць сапраўдных нацыяналістаў, якія ідуць святкаваць — і камбат мусіць аддаць новы загад. Які ён будзе?..

## Кніга tattoo

**Татуіроўкі.** Ну што тут скажаш…

А вось што: усё ж такі я напісаў адзін верш ці, хутчэй, раманс па-беларуску. Чарговы раз ішла мытная вайна з Расеяй, эмбарга наклалі на малакапрадукты, і я быў пераняўся:

**Малочны раманс**

*Там, дзе певень пяець,*
*Будуць яйкі і шкваркі*
*Для заезджага госця*
*На патэльні скварчэць.*
*Ды не будзе цябе,*
*Маёй любай даяркі,*
*Бо тваё малако*
*Больш маскаль не бярэць.*

*Ты кароўку сваю*
*Берагла і халіла,*
*Крала ёй камбікорм*
*І вадзіла к быку.*
*І даярцы маёй,*
*Яна верна служыла,*
*І было малако,*
*І было к малаку.*

*Наш малочны завод*
*У раёне закрылі.*
*Прадседацель сказаў —*
*Гэта Крэмль вінават.*
*І даярка мая*
*У кроў губу закусіла,*
*І з кароўкай пайшла*
*На мясны камбінат.*

*Будзем мы з каўбасой*
*На Каляды. А потым,*
*Каб дажыць да вясны,*
*Усім дадуць парашок.*
*І даярка мая*
*Вып'е моўчкі і ўпотай*
*Той малочны напой,*
*Як цыкуты глыток.*

*Пахаваюць яе*
*Каля фермы забытай,*
*Дзе бялеюць бідоны*
*У сівым палыне.*

*Так даярка мая*
*З яе сэрцам разбітым*
*Пала смерцю героя*
*На малочнай вайне.*

Спяваць трэба жаласна і сурова, а прыпеў можна хорам.

## На лесвіцы

На лесвіцы, бо ліфта ў гэтых справах не бывае, але калі пашанцуе, дык ёсць парэнчы, без якіх любое падарожжа можа скончыцца раней, чым думаў, і тут якраз месца ўзгадаць тых, хто зноў дапамог аўтару дабрацца да завяршэння: Уладзімер Арлоў, Генадзь Мацур, Андрэй Федарэнка. І, канечне, усе астатнія жыхары дзевяці паверхаў, з прапіскай і без.

# Дамавая кніга

## Паверх, дзе заўсёды цяпло



## Паверх, дзе заўсёды свята



## Паверх, дзе заўсёды святло

## Паверх, дзе заўсёды перабудоўваюць

## Паверх, дзе заўсёды можна пераначаваць

## Паверх, дзе заўсёды цёмна

## Паверх, дзе заўсёды ёсць з кім пагаварыць



## Паверх, не заўсёды бачны

## Паверх, дзе заўсёды рады гасцям

# Змест

## Кніга плачу
## Раман-цытата



## Кніга песняў
## Люстрацыі

### Частка 1
### Зкімбы-зымбы

**Частка 2**
**Люстрацыі, наадварот**



**Частка 3**
**Людзі без ценю**

**Частка 4**
**Аўтапартрэт-трыпціх на вадзе, на зямлі і ў небе**



## Кніга імя Быкаў

**Частка 1**
**Гутаркі**



**Частка 2**
**Перапіска**



**Частка 3**
**Усмешкі**

## Кніга хаосу
## Паміж Кафкам і Швейкам

### Частка 1
### Ад абсурду да хаосу



### Частка 2
### Аль-Бом-Бом



## Кніга сноў
## У фіялетавай ночы вугал крыла

## Кнiга tattoo
## Черный голубь летел между нами



## Паслякнiжжа

*Літаратурна-мастацкае выданне*

*Лукашук Аляксандар*

**Дзясяты паверх**

Недакументальныя творы

Адказны за выпуск *Зміцер Вішнёў*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Андрэй Федарэнка*
Фота на супервокладцы *Аляксандра Лукашука*

Падпісана да друку 11.12.2014.
Фармат 70x100 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны.
Гарнітура Minion Pro. Ум. друк. арк. 56,76. Ул.-выд. арк. 33,2.
Наклад 400 ас. Заказ № 2468.

Прыватнае выдавецкае ўнітарнае
прадпрыемства «Галіяфы».
Запіс №1/148 у Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў
і распаўсюджвальнікаў друкаваных выданняў
вул. Брылеўская, 11-44, 220039, г. Мінск.
E-mail: vish@bk.ru.
www.galiafy.by

Друк ТДА «НоваПрынт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі,
выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ 25.02.2014 г. за № 2/54.
Вул. Геалагічная, д. 59/4, п. 10, 220138, г. Мінск.